# Андрэй Гуляшкі



# вандроўнік блукае па свеце

**РАМАН**

*Пераклад з балгарскай*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84.4Бл
Г 94

*Пераклад з балгарскай*
*Уладзіміра АНІСКОВІЧА*

Перакладзена з выдання:
Гуляшки А. Скитник броди по света. Роман. «Български писател». София. 1982. — 368 с.

Перипетии человеческих судеб ведут читателя этого остросюжетного романа современного болгарского писателя на передний край борьбы с фашизмом и реакцией в годы войны, переносят в далекие исторические события, раскрывают смысл идеологической и классовой борьбы в мире.

Г $\frac{4703000000-154}{М\ 302(03)-88}$ 159—88

ISBN 5-340-00165-2 (беларус.)

*ЭМЕ —*
*за дні, праведзеныя ў сонечнай Аксітаніі*
*на багамільска-катарскіх пуцявінах;*
*і з удзячнасцю за дружбу*

---

Упачатку было слова,
і слова стала святлом,
і святло разлілося над светам!

*(Багамільская трактоўка*
*першага верша*
*Іаанавага евангелля)*

Парыж, 7 красавіка 198...

*Пану прафесару*
*д-ру Луку Шайтанаву, Сафія*

*Паважаны пан прафесар,*
*пішa Вам гэты ліст Ваш французскі калега, чалавек 45 гадоў, як і Вы, як і Вы — нейрахірург, адно што не маю ні ганаровага Вашага тытула, ні заслужанай Вашай вядомасці. Нагода наступная:*

*З бюлетэня Інстытута нейрахірургіі я даведаўся, што Вы прыедзеце ў Парыж — у канцы гэтага месяца або ў пачатку мая, — каб у аддзяленні нейрапаталогіі прачытаць лекцыю і прадэманстраваць новыя метады ліквідацыі пухлінных утварэнняў у вобласці задняй чарапной упадзіны.*

*Наш інстытут часта запрашае вопытных і славутых хірургаў з розных краін, каб яны дэманстравалі ў нас сваё майстэрства, і як нейрахірург я заўсёды быў зацікаўлены падобнымі гастролямі. Я рады, што нарэшце буду мець задавальненне пабачыць Вас асабіста і выказаць сваё захапленне Вашым талентам.*

*Але паведамленне пра Ваш прыезд, пан прафесар, зацікавіла мяне асабліва. І зацікавіла* а с а б л і в а *па прычынах, якія знаходзяцца па-за прафесійнымі меркаваннямі. Справа ў тым, што прозвішча Ваша мне добра вядома, што яго часта, нават вельмі часта ўспамінаў мой нябожчык бацька. Вось адкуль ідзе мая асаблівая цікавасць. Лічыце, што Вы для мяне даўні знаёмы і блізкі чалавек, хоць нашы жыццёвыя шляхі не сыходзіліся і не перакрыжоўваліся нідзе і ніколі.*

*Мой бацька, Раймонд Бернар, ён у 1962 годзе памёр, не раз усчынаў гаворку пра Ва-*

*шага, і заўсёды з нязменным пачуццём адданага сяброўства, якое можа існаваць паміж моцнымі і чэснымі мужчынамі. Гэта праўда, пан прафесар, нашыя бацькі былі звязаны вялікім і шчырым сяброўствам. Гэтакае сяброўства не можа ўзнікнуць у мітуслівай будзёншчыне, нараджаецца яно звычайна толькі пры абставінах выключных. А ў нашых бацькоў дружба нарадзілася пад горадам Бургосам і на рацэ Эбра ў час грамадзянскай вайны ў Іспаніі, калі абодва яны ў складзе інтэрбрыгады ваявалі за рэспубліку. Ваш бацька, выключна смелы і высакародны чалавек, аднаго разу ў крытычнай сітуацыі на фронце пад Бургосам выратаваў майго ад амаль непазбежнай смерці. Пасля паражэння рэспублікі сябры пераходзяць пад Андорай граніцу і, пераадолеўшы Пірэнеі, стромы і абрывы Сент Барталемі, абышоўшы Мансегюр, дабіраюцца да Манфер'е, на радзіму майго бацькі. Ваш бацька гасцяваў у Манфер'е каля двух месяцаў (мне тады было 3 гады). Потым, у пачатку восені, яны ўдвух едуць у Парыж шукаць работу. Манфер'е ў гэтым сэнсе не магло ім нічога прапанаваць, гэта было закінутае, глухое і беднае горнае сяло. Цяпер яно крыху акрыяла дзякуючы таму, што турысты, якія едуць на Мансегюр, спыняюцца там адпачыць, часта застаюцца пераначаваць, набыць на ўспамін якую-небудзь «аксітанскую» дробязь (вядома, усё гэта там цяпер бутафорыя).*

*А цяпер прашу Вашае ўвагі.*

*Манфер'е месціцца ў паўднёва-заходнім кутку таго благаслаўлёнага сонечнага краю, які калісьці называўся Аксітаніяй, альбо зямлёю Лангдок — паводле старадаўняе правансальскае мовы, на якой гаварыла мясцовае насельніцтва. Аксітанія славілася багатымі гарадамі — Без'е, Альбі, Каркасон, Тулуза, сваімі міжземнаморскімі вінамі і садавінаю, а сама больш вольналюбствам сваіх людзей. Аксітанія была вольным царствам ерэтызму. З паўднёвага ўсходу гэты край абмываецца водамі Міжземнага мора, з усходу — ракою Эроль, на поўначы яго цячэ рака Тарн, на захадзе рэкі Гарона і Арыеж, а пасярэдзіне працякае рака Од, на якой стаіць Каркасон. На поўдні сінія горы Пірэнейскага хрыбта аддзяляюць яго ад Іспаніі.*

*Вы, пан прафесар, напэўна, ведаеце пра так званыя Альбігойскія войны, з 1209 да 1255 года. Гэтыя жорсткія, знішчальныя войны вялі з поўначы папа, кароль і*

*феадалы, каб знішчыць катарскі (бугрскі) рух і налажыць лапу на багатыя і квітнеючыя гарады — Тулузу, Альбі, Каркасон і Без'е. Гэтае тлумачэнне Альбігійскіх войнаў я вычытаў нядаўна ў даведніку для турыстаў, якія прыязджаюць цяпер у Мансегюр. А ў школе нас вучылі, што войны тыя вяліся з мэтаю, каб абараніць веру Хрыстову ад д'ябальскага вучэння катараў.*

*Наша сям'я, гэтак жа як многія сем'і ў Манфер'е, Мансегюры і Мірпуа, што непадалёк ад гэтых сёлаў, мае глыбокія карэнні ў мінулым і, як кажуць сямейныя паданні, у тыя часы не была ў баку ад катарызму. Пра гэта сведчыла каштоўная і выключная па сваім значэнні рэліквія, якая праз стагоддзі як талісман перадавалася ў родзе Бернараў з пакалення ў пакаленне. Наконт гэтай рэліквіі было перакананне, асабліва ў жанчын, што калі, не дай бог, яна знікне, дык і ўвесь род Бернараў у сяле Манфер'е прападзе. І як ні дзіўна, пан прафесар, у 1939 годзе рэліквія з нашае сям'і знікла, а ў 1961 годзе я, адзіны сын Эдмонда Бернара, ажаніўся з жанчынай, якая, як выявілася пазней, хварэе невылечным стэрылітэтам. І вось на мне Бернары з Манфер'е канчаюцца назаўсёды, бо я апошні парастак роду. Паведамляю Вам, пан прафесар, гэтую акалічнасць не з прымхлівым пачуццём, я, канечне, чалавек сучасны, а проста як дзіўнае супадзенне. Мяркую, пан прафесар, што падобныя супадзенні і спараджаюць, па сутнасці, паданні.*

*Цяпер пра саму рэліквію. Гэтая рэліквія, пан прафесар, уяўляла сабою старадаўні рукапіс, напісаны старапрамансальскаю, лангдокскаю моваю, цяжкаю для разумення сучаснага француза. Дакладней, было два рукапісы ў моцных вокладках з сандалавага дрэва, абшытых чырвонаю скураю. У адным з іх, больш ёмістым, расказвалася пра падзеі, якія адбываліся ў сярэдзіне XIII ст., а ў другім былі апісаны нейкія гісторыі канца XIV ці пачатку XV ст. Прынамсі, такая была версія, якую мой бацька чуў ад свайго бацькі. Першы рукапіс называўся «французскі», а другі — «італьянскі», — можа, таму, што ў гэтым, другім, рукапісе расказвалася пра здарэнні на землях Італіі.*

*Даўно ўжо ў Манфер'е не знайсці чалавека, які б ведаў хоць адно аксітанскае слова, тым болей каб мог свабодна перакладаць на сучасную мову аксітанскія тэксты з XIII стагоддзя. Аксітанская мова таго часу — філалагічная спецыяльнасць, ёю займаюцца медыяві-*

*сты — лінгвісты і літаратуразнаўцы. Вось чаму ні бацька мой, ні дзед, людзі малапісьменныя, самі нічога не маглі даведацца пра змест гэтых рукапісаў. Яны ведалі толькі тое, што гаварыла сямейнае паданне. Апрача таго, што ў рукапісах расказвалася пра падзеі, якія адбываліся ў XIII і XV стагоддзях, і што ў іх апісаны розныя здарэнні з жыцця Францыі і Італіі, паданне гаварыла яшчэ, што гэта ерэтычныя кнігі, напісаныя ў розны гістарычны час. Аўтарам часткі тэксту быў нехта з катараў-балгараў, гэта значыць буграў, якія прыйшлі ў Францыю з выпадку нейкага катарскага сабору ў 1209 годзе і засталіся жыць на аксітанскай зямлі. Іхнімі ж ці, можа, іх сыноў, народжаных ад аксітанак, былі і тэксты, у якіх апісвалася бітва за Без'е і Каркасон у 1209 г. і трагедыя пад Мансегюрам у 1244 г. Такі быў агульны змест вальнадумных сямейных паданняў, а што дакладна было ў тых старадаўніх тэкстах, ніхто не ведаў і не меў магчымасці даведацца. Бернары спакон веку былі людзі бедныя, малапісьменныя, пастухі і дрывасекі, дык у іх ні часу не было, ні сілы займацца старадаўнім рукапісам. Жанчыны хавалі яго на дне глыбокай дубовай скрыні, дзе захоўвалася святочнае ўбранне Бернаравых нявестак. Яго дакрананне да інтымных рэчаў нявестак «забяспечвала», як меркавалі яны, прадаўжэнне Бернаравага роду.*

*І ўсё ж калі, прачытаўшы рукапіс, магчыма, аўтарства можна было выявіць, то акалічнасці, пры якіх кніга трапіла ў дом Бернараў, назаўсёды застануцца загадкавымі. Нейкая цьмяная здагадка прыходзіць у галаву ў сувязі з тым, што Манфер'е знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці з катарскай крэпасцю Мансегюр: адсюль верагоднасць таго, што балгарскія катары (бугры) змяшаліся з катарамі Манфер'і і, такім чынам, нейкі бугр (балгарын) з пісьменніцкімі здольнасцямі трапіў у род Бернараў... І такое магчыма на гэтым свеце, пан прафесар!*

*А зараз хачу расказаць Вам, пан прафесар, як трапаў гэты неацэнны рукапіс і якое дачыненне да яго мае Ваш шаноўны бацька.*

*Як я прыгадваў ужо, нашы бацькі, байцы інтэрбрыгады і шчырыя сябры, два месяцы жылі ў доме майго дзеда. Старадаўні рукапіс, без ніякага сумнення, быў паказаны Вашаму бацьку, і ён, убачыўшы вялікую гістарычную каштоўнасць, да таго ж валодаючы добра*

французскаю моваю, адразу пачынае яго перапісваць. Вядома, перапісваў ён механічна, дзесьці толькі здагадваючыся пра сэнс, таму што калі ўжо тутэйшыя нашчадкі аксітанцаў стараправавансальскі лангдок не разумеюць, дык для іншаземца без спецыяльнай падрыхтоўкі па старафранцузскіх дыялектах ён амаль недаступны.

Калі перапіс быў закончаны, нашы прыяцелі вырашаюць прадаць старадаўні рукапіс французскай нацыянальнай бібліятэцы — па-першае, каб выручыць крыху грошай, пакуль кожны больш-менш уладкуе свае справы, і, па-другое, каб рукапіс стаў даступны свету і перш за ўсё спецыялістам-медыявістам.

Але ў Парыжы, пан прафесар, нашых бацькоў спасцігае няўдача. Ваш бацька доўгі час не можа звязацца з патрэбнымі людзьмі, мой не можа знайсці работы, а наконт рукапісу нейкі эксперт з Нацыянальнай бібліятэкі проста прыводзіць іх у адчай. Ён заяўляе, што рукапіс не аўтэнтычны, а копія, знятая ў сярэдзіне XVI ст. і што ў апісаных падзеях і здарэннях вельмі мала гістарычнай верагоднасці, больш выдумкі. І прапанаваў за гэтую кнігу, якой цаны няма, нейкую мізэрную суму. Бацька мой і праз шмат гадоў гаварыў, калі заходзіла размова пра рукапіс, што эксперт той, напэўна, быў членам якога-небудзь каталіцкага ордэна і, магчыма, яму было загадана даць адмоўную ацэнку кнізе, паколькі яна змяшчала ў сабе жахлівыя рэчы пра інквізіцыю і папу Інакенція III, які арганізаваў крыжацкі паход супраць Аксітаніі.

Нашы прыяцелі, хоць ужо расчараваныя і з меншаю надзеяй у сэрцах, пачалі прапаноўваць кнігу каму папала, тым больш што на гэты час засталіся зусім без грошай. Нарэшце знайшоўся нейкі кніжнік на Манмартры, які прапанаваў суму крыху большую, чым давалі букіністы ўскрай Сены. Паколькі ў кніжніка не было «гатоўкі», ён папрасіў прыяцеляў прынесці рукапіс на другі дзень. Але на другі дзень рукапіс знік. Ключ ад нумара быў толькі ў іх, пакой рамяшчаўся на трэцім паверсе, так што праз акно не маглі ўлезці, швейцар бажыўся, што ніхто да іх не прыходзіў, а прыбіральшчыца паверха ў той дзень адпачывала і наогул не паказвалася ў гатэлі. Але так альбо іначай кніга «выпарылася». Дзякаваць богу, што спіс Вашага бацькі застаўся некрануты ў яго чамадане сярод старых кашуль і некалькіх нумароў іспанскіх рэспубліканскіх газет...

*Па сённяшні дзень ніхто не бачыў старога рукапісу, ніхто нічога пра яго не чуў. Мой бацька ўпарта шукаў яго да канца свайго жыцця. Праўда, у іншым яму пашанцавала. У Парыжы ён уладкаваўся ў майстэрню па рамонце веласіпедаў, у гэтай справе ён быў мастак. Калі стары гаспадар майстэрні памёр, бацька выкупіў яе і паступова стаў на ногі.*

*Незадоўга да сваёй смерці мой бацька ўзяў з мяне слова, што я буду працягваць пошукі старадаўняга рукапісу. І ў маладыя гады я нямала пахадзіў па букіністычных лаўках, па ўскраінных старых кнігарнях, нават ездзіў шукаць у наш родны край, колішнюю непакорную і гордую Аксітанію, наведаў Альбі, Каркасон... Нарэшце вымушаны быў паставіць на гэтых пошуках крыж, бо і стаміўся і другія турботы навaліліся на мяне. Дый што казаць, праца хірурга ў дзяржаўнай бальніцы, прытым у Парыжы — гэта не лёгкая справа, паверце!*

*Даведаўшыся з бюлетэня пра Ваш прыезд у наш інстытут, пан прафесар, я перажыў хваляванне, якое не магу перадаць словамі. Дзіўна тое, што ведаю я Вас толькі па імю, адчуванне ж такое, што ўбачу блізкага сваяка ці сябра, з якім дружылі з малых гадоў. Я чакаю Вас як быццам даўно знаёмага і дарагога чалавека. Ну вось, калега па рэзанні мазгоў, тым больш — Вы прафесар у гэтай справе, — дык скажыце мне, у якой звіліны кары галаўнога мозгу і дзе дакладна ўзнікаюць падобныя пачуцці — калі ўсё гэта проста хімія і біятокі? Я вось ужо дваццаць гадоў рэжу мазгі і мяркую, што хімія — хіміяй, але гэта разам з тым і таямніца, у якую ніхто з нас, чалавекаў, не змог пранікнуць і наўрад ці пранікне калі-небудзь.*

*Я не сумняваюся, пан прафесар, што ўжо нехта з вашых спецыялістаў-філолагаў пераклаў перапісаныя Вашым бацькам аксітанскія тэксты і, пэўна ж, яшчэ пры яго жыцці. Я проста згараю ад нецярпення пачуць ад Вас — пра што гаворыцца ў рукапісе, якія таямніцы хавае ён пра наш край і якое дачыненне мае да нашае сям'і. Мой бацька іншы раз як бы жартам казаў, што аўтарам рукапісу мог быць які-небудзь багр ці аксітанец з багрскай крывёю ў жылах, які пранік у сям'ю Бернараў праз несакрушальную сілу кахання. А можа, там хоць што-небудзь сказана пра міфічныя скарбы катараў, вынесеныя тайна з Мансегюра, альбо пра яшчэ больш міфічную чашу Грааля? Свае школьныя канікулы*

я праводзіў у тых мясцінах і якіх толькі гісторый не чуў ад старых людзей пра «золата» з Мансегюра!.. Але і версію майго бацькі, хоць і заснаваную на меркаваннях эмацыянальнага характару, адкідаць нельга. «Чаму, — гаварыў ён, — з акружэння пад Бургосам мяне выцягнуў не хто-небудзь, а балгарын? У нашым батальёне, — гаварыў ён, — былі немцы, італьянцы, партугальцы, сербы, чэхі і колькі хочаш французаў, а жыццём рызыкаваць праз мяне рашыўся не хто-небудзь з гэтых, увогуле добрых і смелых хлопцаў, а менавіта балгарын?»

Так, пан прафесар, вельмі магчыма, як я ўжо казаў, што да знікнення рукапісу прыклала рукі нейкая арганізацыя ваяўнічых «у хрысце» фанатыкаў-католікаў, такая арганізацыя, якой не было б прыемным дакументальнае пацвярджэнне, напрыклад, разні ў горадзе Без'е.

Жывая гісторыя помніць Альбігойскі крыжацкі паход на катараў Аксітаніі, арганізаваны папам Інакенціем III. Легенда расказвае, што, калі папскае войска ўварвалася ў горад, камандуючы крыжакамі спытаўся ў папскага легата Арнольда Амары: «Ваша свяцейшаства, каго з жыхароў Без'е загадаеце забіваць?» І папскі легат адказаў: «Забівайце ўсіх падрад. Гасподзь сваіх разбярэ!» Калі гэтакая «хрысціянская міласэрнасць» была адлюстравана ў рукапісе, вельмі натуральна і зусім лагічна меркаваць, што сяму-таму няма ніякага інтэрасу, каб гэты дакумент з'явіўся на белым свеце, хоць вар'яцтва Сярэдневечча даўно мінулася і адышло ў нябыт. Некаторыя людзі выдатна разумеюць, што гістарычная памяць чаго-небудзь каштуе і ў нашы дні. Калі б словы Арнольда Амары, якія зрабіліся «крылатай» фразай, аказаліся гістарычна дакладнымі, гэта дало б нядрэнныя дэвідэнты сацыяльнаму прагрэсу і ў наш час.

На жаль, зроблены Вашым бацькам спіс рукапісу — усё ж толькі спіс зніклага дакумента; кожны можа абвінаваціць перапісчыка, што нешта дадаў ад сябе, нешта змяніў, і ён, каб нават быў жывы, не змог бы абараніцца.

Што датычыць Мансегюра, Вы, пан прафесар, павінны абавязкова пабачыць гэтую мясціну — і дзеля строгай яе чароўнай прыгажосці, а галоўнае таму, што там,

*паводле паданняў, жылі і прыкладалі намаганні, каб змяніць свет, людзі Вашага вартага павагі племені.*

*Мы сустрэнем Вас з маёю жонкаю, калі прыбудзеце ў Парыж, са шчырою радасцю!*

*Ваш д-р Анры Эдмонд Бернар».*

## 1

На ніжнім левым ражку аркуша д-р Анры Эдмонд Бернар пазначыў свой адрас — вул. Важырар, 17 — і нумар тэлефона. Праз гэтыя два дадатковыя радкі як быццам з прывітаннем падавалася рука шчырага і непрэтэнцыёзнага сябра.

Я паклаў яго ліст на стол — у стос іншых лістоў, розных паведамленняў і запрашэнняў. Напоўніў люльку тытунём і калі натоптваў яе, асабліва ж калі падносіў запалку з агнём, я раптам адчуў, што пальцы мае неспакойныя, няўпэўненыя, пачынаюць нават дрыжаць, і тады лоб у мяне пачаў укрывацца халодным потам. «Нішто сабе! — падумаў я. — І гэта цяпер, перад т а к о й аперацыяй!»

Аперацыя мелася быць складанаю і па многіх прычынах — з верагоднасцю цяжкіх вынікаў для мяне самога. Па-першае — увесь калегіум нашае клінікі вагаўся ў адносінах да хірургічнага ўмяшання, аддаючы перавагу іншым формам тэрапіі. Чаму? Таму што развіццё пухліны давала магчымасць пацыенту жыць — магчымасць тэарэтычную, вядома! — яшчэ каля двух гадоў. Аперацыя ж з-за блізкасці пухліны да жыццёва важных цэнтраў — яна была ў вобласці задняй чарапной упадзіны — магла выклікаць раптоўную смерць. Як бачым, праблемы чыста медыцынскія. Але адсюль пачыналіся іншыя — праблемы «чалавечага фактара», праблемы больш складаныя за саму хірургічную аперацыю. Пацыент быў мастак — вельмі вядомы мастак. Прырода не паскупілася, поўнымі прыгаршчамі надзяліла яго талентам. Цяпер ён распісваў новы Палац рэвалюцыі, маляваў манументальны трыпціх. Каб завяршыць работу, яму патрэбны былі яшчэ два гады — якраз столькі, колькі давала яму жыць т э а р э т ы ч н а я верагоднасць. Хірургічная аперацыя пры станоўчым выніку магла даць яму яшчэ ш м а т гадоў жыцця, але гэтак сама магла пагасіць яго жыццё, як гасне задзьмутая

свечка. Самому яму ўжо абрыдла жыць, бо ён не ведаў, што яго чакае, да таго ж з частымі нясцерпнымі болямі галавы, якія даводзілі яго да стану чалавека, катавана-га інквізіцыяй. Я настойваў на неадкладнай аперацыі (ні на ёту не скідаючы з рахунку фактар рызыкі), а калегіум на чале з галоўурачом бальніцы прафесарам Маркавым заняў у гэтым пытанні, мякка кажучы, няпэўную пазіцыю. Мастак быў знакамітасць, любімец і прыяцель самых першых людзей у краіне. Акрамя таго, электронна-вылічальныя машыны, у якія былі ўведзены заалгарытмаваныя медыцынскія і маральныя меркаванні «за» і «супраць» аперацыі, катэгарычна адказалі — «не». Яны былі супраць. Яны лічылі, што няхай лепш мастак жыве ў сферы тэарэтычнай «верагоднасці» і закончыць (эвентуальна) даручаны яму трыпціх, чым будзе пастаўлены перад рызыкай памерці адразу на аперацыйным стале, і тады трыпціх, над якім ён працуе, застанецца незавершаным. Электронна-вылічальныя машыны падмацавалі думку калегіума і галоўурача. Электронна-вылічальным машынам, вядома, пакуты хворага да лямпачкі, а калегіум разам з галоўным, як я разумеў, проста не жадалі браць на сябе адказнасці.

І калі б на шалі, што нібыта трымае ў руцэ сваёй сляпы лёс, не былі пакладзены мой аўтарытэт і жаданне самога няшчаснага быць апераваным, галоўурач нізавошта не дазволіў бы (хоць і з «асобаю думкаю») гэтае далікатнае аперацыі. Мая шаля вагі пераважыла, бо я ўсё ж такі хірург з імем, мяне часта запрашаюць за мяжу рабіць складаныя аперацыі і дэманстраваць сякія-такія новыя спосабы ў «рамястве», а яшчэ таму, што ў мяне, як у нямногіх хірургаў у свеце, за дваццаць гадоў практыкі не было смяротнага зыходу на аперацыйным стале... Вядома, не ўсе, каго я апераваў, выжылі, некаторыя паміралі потым, праз дзень, праз два, але не таму, што скальпель мой рэзаў кепска, а таму, што на белы свет з'яўляліся фатальныя прычыны і вынікі, за якія ў мяне не было (і не магло быць) прамое віны.

А чаму гэта я асабіста кінуў «на банк» свой прэстыж і браў на свае плечы адказнасць, якую не захацелі ўзяць на сябе дзесяць пар моцных прафесарскіх і дацэнцкіх плячэй? Мастака гэтага я ведаў — з таго часу, як ён аднаго разу вечарам зайшоў да мяне прасіць парады. Але знаёмства ў гэтым выпадку не мае ніякага

значэння, я ведаю нямала людзей, дзеля жыцця якіх я не пайшоў бы на такую рызыку! Што ж прымушала мяне іграць «ва-банк» за яго і ставіць на зусім няпэўную карту ўвесь свой прэстыж, здабыты не за год-два, а за цэлых дваццаць гадоў? Прымушала тая акалічнасць, што я яго любіў!

Я палюбіў яго гадоў дзесяць таму назад за дзве яго карціны. Палюбіць мастака — вось, аказваецца, на што я здольны, уявіце сабе! Справа ў тым, што карціны — маё «хобі», а жывапіс — любімае мастацтва. Адкуль такія схільнасці ў доктара-нейрахірурга, скажа хто-небудзь. Вельмі проста, яны перайшлі да мяне ад бацькі! У адрозненне ад большасці сённяшніх дактароў, многія ранейшыя, як мой бацька, падтрымлівалі пастаянныя і трывалыя сувязі з людзьмі мастацтва. Бацька, да прыкладу, таварышаваў з такім самабытным мастаком, як Пенча Георгіеў, нейкі час яны жылі нават у адной кватэры. Многія мастакі, якія цяпер ужо ў гадах, у свой час былі ў яго частымі гасцямі. Бацька і навучыў мяне любіць мастацтва, ч ы т а ц ь карціны. Таму што карціну, як і кніжку, трэба «чытаць», каб зразумець і ўспрыняць яе.

Гэтыя дзве карціны майго мастака, пра якія ідзе гаворка, зусім процілеглыя па духу, але напісаныя па-майстэрску характэрнымі для яго буйнымі і чыстымі мазкамі. Адна карціна адлюстроўвала куточак парку Свабоды — «Возера з чырвонымі рыбкамі», але такі занядбаны, які быў парк у першыя гады жыцця пасля Дзевятага верасня[1], у той паэтычнай закінутасці, у якой быў калісьці. Стаяла ціхая залатая восень, лагодны надвячорак, наўкола панавалі пустэльнасць і цішыня. Сям-там каля возера стаялі пажоўклыя бярозы. Дзенідзе паміж дрэў віднеюцца пустыя лаўкі. Толькі на адной з іх, павернутай спінкаю да гледача, сядзяць двое. Мужчына і жанчына. Яны гэтак намаляваны, сядзяць у такой прыгнечанай паставе, што ў гледача наўрад ці пакінуць яны аптымістычнае пачуццё. Відаць па ўсім, што ў іх каханне — яе і яго — уеўся ўжо чарвяк адчужэння. Але мастак відочна хацеў выйсці за межы свайго сюжэта, хацеў сказаць людзям нешта большае. Як мне здаецца, ён і кажа: «Гэты від кахан-

---

[1] 9 верасня 1944 года, Дзень сацыялістычнай рэвалюцыі ў Балгарыі. (*Тут і далей заўвагі перакладчыка.*)

ня — рамантычны, і, як ні сумна, ён, мілыя людзі, адыходзіць! Такое каханне — як прыгожая, але сумная восень. Яно пакідае наш свет». Думка гэтай карціны не надта хвалявала мяне, бо ў розныя гістарычныя часы нервовая сістэма людзей па-рознаму настройвала чалавечы інстынкт на прадаўжэнне роду, гэта даўно вядома. У свой час практыкаваліся вакханаліі, быў у каханні перыяд ідылічны, было каханне трубадурскае, потым — буржуазны гандаль каханнем. Сённяшняе маладое пакаленне схільна да рацыяналізму. Прыйдзе час, людзям абрыдне і рацыяналізм. Што можа спыніць кругаварот гісторыі і чалавечых нораваў? Так што падтэкст карціны мяне хваляваў не вельмі, аднак сюжэт нагадваў мне нешта «асабіста перажытае». Нагадваў каханне пары маіх самых маладых гадоў. Хіба можна калі-небудзь забыць першае моцнае каханне! Неяк пасля смерці бацькі я перабіраў яго рэчы, дык у адным яго бумажніку, у самым патаемным аддзяленні, знайшоў выцвілы здымак дзяўчыны, наўрад ці было ёй больш за семнаццаць. На зваротным баку картачкі хімічным алоўкам было пазначана: «1914 год». Бацька ўдзельнічаў у бунтах, паўстаннях, рэвалюцыях, жыў нелегальна, бадзяўся па свеце, але здымка той дзяўчыны не згубіў, успаміны пра першае каханне жылі ў яго сэрцы цэлага паўстагоддзя!

Тры дні запар хадзіў я на выстаўку, а на чацвёрты дзень купіў карціну і ўрачыста павесіў яе ў гасцінай над вялікаю канапаю. Жонцы карціна не спадабалася, яна інстынктыўна западозрыла нешта ў сюжэце і змененым голасам тут жа прапанавала павесіць карціну ў маім кабінеце. Гэта я і зрабіў, прычым не без задавальнення. Знайшоў ёй месца над акном насупраць пісьмовага стала, каб была заўсёды перад вачамі. Я і цяпер іншы раз падоўгу гляджу на яе, аддаўшыся ўспамінам тых незабыўных гадоў.

Другая карціна была чыстаю фантазіяй, але вельмі ўражлівай. Прынамсі, мяне яна вельмі хвалявала. На ёй было мора людзей, якое памкнулася да далёкае крутое вяршыні, аблітай злавеснымі водбліскамі блізкіх і далёкіх пажараў. У першай чалавечай хвалі, якая быццам вабіла за сабою ўсё астатняе мора, глядач мог бы вылучыць такія велічныя гістарычныя асобы, як Спартак, браты Гракхі, поп Багаміл, Дэляклюз, Ленін... Услед за гэтаю нястрымнаю, мяцежна-імклівую хвалю

каціліся другія бурныя хвалі людзей, скіраваных да асветленай зарывам вяршыні. Але на сярэдзіне мора супакойвалася, яго хвалі нагадвалі хвасты пакупнікоў, якія цярпліва чакаюць сваёй чаргі, каб набыць нейкі тавар, а ў самым канцы... А ў самым канцы свайго мора людзі ішлі да той вяршыні з гнятлівай абыякавасцю, як ідуць чыноўнікі, што сабраліся правесці свайго начальніка на вечны супакой. «Прагрэс» — гэтак ахрысціў мастак свой глыбакадумны твор.

Як было не палюбіць яго? Яшчэ тады падумалася — як, не дай бог, калі-небудзь спатрэбіцца яму мая дапамога, я абавязкова і ад усяго сэрца дапамагу. І як быццам сам д'ябал пачуў гэта.

І вось ужо хутка я павінен рабіць грамадска адказную і важную для майго прэстыжу аперацыю, якая звыш усяго яшчэ звязана і з маімі адносінамі да чалавека, а тут незадоўга да таго, як я вазьму ў рукі скальпель, аказваецца, што мае пальцы самым ганебным чынам трымцяць!

Я ўстаў, каб падысці да акна, падыхаць свежым паветрам і пацешыць вока прыгажосцю язміну і гронкамі расквітнелага бэзу — гэта павінна супакоіць мае нервы. У той момант, калі я ўставаў з крэсла, мой пагляд зноў затрымаўся на стосе лістоў і запрашэнняў. З-пад ліста д-ра Бернара выглядваў ражок тэлеграмы, якою жонка паведамляла, што сёння прыляціць з Талбухіна. Ужо другі раз гэты шматок шэрай паперы завалодваў маімі вачамі і ўвагай. Яна, значыць, прылятае сёння папаўдні другім самалётам, які ляціць з Варны.

Было яшчэ толькі сем, ранішняе сонца заглядвала праз ажурную жалезную агароджу ў сад і яшчэ халоднымі праменнямі асвятляла язмін і бела-ружовы бэз, што ўжо дзень ці два стаялі ў вясельным убранні. Учора, калі я зірнуў на расцвілы язмін, прыгадалася мне — шляхамі немаведама якіх асацыяцый і неўсвядомленых пачуццяў, — прыгадалася і тут жа з'явілася ва ўяўленні, нібы «ў калейдаскопе», як казалі ў часы майго бацькі, наша новая медсястра Юлія. Танклявая і разам з тым пышная, на выгляд хударлявая, але з развітым бюстам і па-дзявочы далікатным задком, з чорцікамі ў зрэнках, з зеленаватымі кацінымі вачамі, якія хутка ўцякаюць убок — вось якая была гэтая тыгрыца, што нядаўна з'явілася ў нас. Можа, з-за асляпляльна белых

халата і касынкі і халера ведае яшчэ з-за чаго яна выпраменьвала нейкае светлае ззянне, нейкае перламутравае, накшталт млечнага, святло, што атуляе квецень язміну. А бэз нагадаў мне — зноў-такі таемнымі і незразумелымі шляхамі асацыяцый, — нагадаў мелодыю песні, якая калісьці, у маладыя гады маёй маці, была вельмі папулярная, асабліва ў правінцыйным жаночым свеце. Загучала ў душы маёй песня пра белы бэз. Яшчэ ў маім юнацтве спявалі яе некаторыя жанчыны, у каго прайшла маладосць:

Ой ты, бэз,
белы цвет,
ты ў душы маёй адцвіў...

Сёння зноў язмінавая і бэзавая квецень былі ў мяне перад вачамі, язмін абліты перламутравым святлом, а бэз — пяшчотны, збянтэжана-ўсмешлівы, нібы дзяўчына, якую пацалавалі ўпершыню. Яны лашчылі вока гэтаксама як і ўчора, але ў адрозненне ад учарашняга яны радавалі толькі вочы, а душы не краналі, унутрана я не адчуваў іх красы. Я здагадваўся, што з каляіны выбіла мяне трымценне пальцаў. Калі рукі нейрахірурга перад складанай і цяжкай аперацыяй не будуць абсалютна спакойныя, ён будзе не ў сваёй талерцы; ён павінен неадкладна выявіць, дзе, у якім месцы яго нервовай сеткі стала «горача» і ад чаго, каб тут жа скіраваць туды выключальны апарат сваёй волі. Бо калі ў самы кароткі тэрмін воля ягоная не зможа выключыць раздражняльнік ці раздражняльнікі нервовай сістэмы — «прычыннік неспакою», — яго пацыент вельмі проста можа аддаць богу душу яшчэ на аперацыйным стале, з ускрытым чэрапам. Адзін ледзь прыкметны адвольны рух пальцаў можа аказацца для жыцця пацыента фатальным.

Вядома, я меў права адкласці аперацыю, але дзе тая гарантыя, што заўтра я буду адчуваць сябе спакайней, што пасля маючых адбыцца размоў з жонкаю нервы мае не стануць падобныя на выцягнуты з агню дрот? Ды і як гэта я буду адкладваць прызначаную аперацыю, чаго ніколі ў жыцці не рабіў? Адкласці аперацыю — азначала б публічна прызнацца ў маладушнасці, а маладушнасць — грэх, якім я заўсёды пагарджаў больш, чым усімі астатнімі грахамі.

І, што б там ні было, я павінен быў выявіць «прычыннік неспакою» і выдаліць яго з душы, як выдаляюць

з пальца стрэмку. Але што было тым «прычыннікам неспакою»? Староннi назiральнiк, асаблiва калi б ён быў знаёмы з папярэднiмi дэбатамi вакол аперацыi, напэўна, сказаў бы: «Вы, доктар, страшэнна хвалюецеся, вы адчуваеце неадольны страх перад магчымай няўдачай!» Такому я адказаў бы: «Што праўда, то праўда, шаноўны, — я хвалююся. Я — гэтакi. Хвалююся лiтаральна перад кожнаю аперацыяй, хвалююся заўсёды, нават калi аперацыя ў сто разоў меней складаная за гэтую, што павiнен зрабiць. Але разам з тым, i вы гэта павiнны добра ведаць, шаноўны, я заўсёды, на працягу ўжо дваццацi гадоў, адольваў хваляванне i нi ў якiм разе не дапускаў яго да сваiх пальцаў; я замыкаў яго ў свядомасцi, закрываў яму шлях нават да сэрца! «Страх», — кажаце вы. Ах, шаноўны, як вы памыляецеся! Я ж казаў, здаецца, што ў маёй дваццацiгадовай практыцы не было смяротнага выпадку? Гэта дае мне падставы думаць, што, як кажуць, нарадзiўся я пад шчаслiваю зоркаю, што ў мяне лёгкая рука, што мне заўсёды спадарожнiчае ўдача. Такiя людзi не баязлiўцы, упэўненасць у сабе засцерагае iх ад страху, як браня. Хутчэй за ўсё я чалавек самаўпэўнены, якi занадта верыць у сваю сiлу — i не здзiўляйцеся таму, бо, як бы там нi было, я сын чалавека, якi — i гэта шырока вядома — меў львiнае сэрца!»

Значыцца, не хваляванне i не страх прымушалi трымцець мае пальцы. Гэтыя дзве прычыны, калi б яны былi галоўныя, я мог бы вельмi проста паслаць да д'ябла. Заставалася перадапошняя нiтка яшчэ не развязанага да канца вузла — лiст д-ра Бернара. Няўжо мяне бянтэжыў яго лiст? Не без таго, вядома, ён прымусiў мяне збянтэжыцца не толькi ў душы, але i пачырванець: за дваццаць гадоў я не знайшоў вольнае часiны прачытаць бацькавы «Запiскi»! А незадоўга да сваёй смерцi ён наказаў мне зрабiць здабыткам навуковага свету спiс старадаўняга рукапiсу! Але, яшчэ трымаючы ў руках лiст доктара Бернара, я паставiў заслону нiякаватасцi, якая мяне ахоплiвала; я даў сабе слова ў блiжэйшыя днi заняцца чытаннем; пераканаў сябе, што час для гiстарычных даведак сёння больш спрыяльны, чым раней.

Так што адпадала i гэтая, перадапошняя прычына неспакою. Заставалася апошняя нiтачка вузла — жончына тэлеграма.

Я вінавата ўсміхаўся, а можа, і дурнавата, як карцёжнік, што неспадзявана раскрыў свае намеры. Мабыць, і я быў падобны да такога карцёжніка, пакуль стаяў каля акна. Каб выйграць або каб не бачыць сапраўднага «раздражняльніка», адвесці сваю ўвагу ад сапраўднае прычыны неспакою, я пачаў кружыць навокала.

Відаць, падсвядома адчуваў, што з галоўнаю прычынаю воля мая можа і не справіцца.

Шчыра кажучы, адразу, як толькі пальцы мае затрымцелі і агеньчык запалкі задрыжаў, я ў той жа момант усвядоміў сапраўдную прычыну гэтага. Аднак паспяшаўся схаваць яе ці, больш дакладна, сам ад яе схавацца, бо паводле разумення цвярозага і разумнага чалавека, які заўсёды сядзіць на другім балконе ў прыцемку, прычына маёй збянтэжанасці была не такога характару, каб меншым ці большым намаганнем волі адагнаць, хоць бы часова, далей ад сябе. Той чалавек, што сядзіць у цемры на другім балконе, гэтае маё другое «я», рэдка абзываецца, а калі ўжо адкрывае рот, дык дзеянне на сцэне спыняецца, усё замірае ў чаканні ягоных слоў.

Але гэтая гульня ў хованкі не прывяла і не магла прывесці ні да якага супакаення. У нейкае горкае імгненне я ўсвядоміў, што менавіта жончына тэлеграма ўнесла смуту ў маю душу і што гэтая смута можа вывесці мяне з раўнавагі ў самы неадпаведны момант, і тады, з такім самаадчуваннем, наўрад ці здолею я абмінуць скальпелем валасок, на якім вісіць жыццё майго мастака. Вастрэйшы за брытву скальпель у руках расстроенага нейрахірурга — гэта смертаносная зброя. Што значыць — нейрахірург сам не ў сабе ды са скальпелем у руцэ? Ён варты таго, прыкладна, што і раптоўна асляплы і аглухлы авіятар, які вядзе паветраным акіянам пасажырскі самалёт. І ў адным, і ў другім выпадку катастрофа непазбежная.

## 2

У мяне крынцыповае правіла — перад тым як надзець пальчаткі і ўзяць у рукі скальпель, мне трэба пабыць хоць з паўгадзіны ў кабінеце аднаму. На гэты час у мяне выключаецца тэлефон, а перад дзвярамі стаіць на

варце швейцар аддзялення, строгі і грозны на выгляд былы сяржант. Я ў гэты час засяроджваюся, паступова патанаючы ў імглу абсалютнага адчужэння ад свету. Ні пра кога не думаю, і нішто мяне не хвалюе, нават дзявочы задок Юліі, якая паходкаю маладой тыгрыцы звычайна пахаджвае каля канцылярыі аддзялення рэанімацыі. Калі яна бачыць мяне, у яе вачах успыхваюць залатыя іскрынкі — напэўна, па індукцыі ад току, што выпраменьваюць мае вочы. Але ў гэтую паўгадзіну адасаблення я нават і не думаю пра яе.

Нічога не хвалюе мяне. Не хвалюе нават магчымая здрада жонкі. Свет не існуе для мяне. У маіх вачах стаіць толькі адкрыты ўчастак чалавечага мозгу, куды я павінен абсалютна ўпэўненай рукой увесці блішчастае джала маёй брытвы. Вось я праразаю ахоўныя і сілкавальныя абалонкі, уваходжу ў мяккае, нібы спелае цеста, светла-шэрае рэчыва. Набліжаюся да крытычнага месца. Джала скальпеля праходзіць каля валаска, на якім вісіць жыццё хворага. Валасочак і навостраная брытва, што праходзіць каля самага яго. У дзве-тры секунды мабілізоўваю і засяроджваю ўсё сваё ўменне, увесь свой папярэдні вопыт. Мой лоб укрываецца потам, я не дыхаю ці амаль не дыхаю, калі кропля за кропляю вычышчаю ўскрытую пухліну... Усё гэта раблю за тыя паўгадзіны, вядома, уяўна, але халодны пот арашае мой лоб, адно што дыхаю раўнамерна і ў крытычны момант не спыняю дыхання.

На гэты раз я нават не паспрабаваў правесці падобную рэпетыцыю. Які сэнс? Толку з гэтага столькі ж, колькі з маіх наіўных спроб закрыць вочы на сапраўдную прычыну смуты ў маёй душы. Ці знойдзецца на свеце мужчына, які не расстроіцца, калі яму скажуць, што жонка ягоная гуляе з другім, здраджвае? Калі і ёсць такія мужчыны, дык гэта, безумоўна, альбо скапцы, альбо ідыёты.

Мая жонка аграбіёлаг і ўжо шэсць гадоў як працуе ў Талбухінскім інстытуце селекцыі. Ёй трыццаць пяць, на дзесяць гадоў маладзейшая за мяне, бяздзетная, і само сабой зразумела, што за гэткай, як яна, каштанавай красуняй заўсёды будуць хвастом цягнуцца плёткі. Але плёткі — гэта адно, а сур'ёзныя і адкрытыя намёкі, падмацаваныя фотаздымкамі — зусім іншае. Ужо з месяц розныя людзі ў пісьмах (без подпісаў, вядома) папярэджваюць мяне, што жонка мая завязала інтым-

ную сувязь з нейкім сваім калегам, аграномам. А тыдзень таму назад атрымаў і здымак: мая жонка і танклявы мужчына ў акулярах — пад руку на фоне нейкага дзікага кустоўя.

Я не філосаф, яшчэ меней сацыёлаг, каб рабіць прагнозы на блізкую ці аддаленую будучыню сям'і — гэта балючая тэма, да якое часта звяртаюцца часопісы, газеты і тэлебачанне. Але якая б там ні была будучыня, няхай нават у форме часовага шлюбу, не санкцыяніраванага ніякім інстытутам, апрача інстытута статыстыкі, скажам, каб не дапусціць шлюбаў паміж братамі і сёстрамі, — дык нават у такім выпадку, здаецца мне, партнёры ў ім не будуць абыякава махаць рукой і пацiскаць раўнадушна плячамі, калі адзін з іх здрадзіць другому. Ніколі адзін з партнёраў у шлюбе не застанецца абыякавым да здрады другога, калі ён не ідыёт (ідыётка). Жорсткія і ганебныя сямейныя звадкі, выклікаеныя рэўнасцю, вядома, знікнуць. Атэлы стануць рэдкасцю, як залатыя манеты антычнага часу, але горкія ўздыхі і слёзы — яўныя ці схаваныя, будуць заўсёды. У асартыменце так званых перажыткаў не будзе, напэўна, недахопу і ў «разбітых сэрцах», разбітых на час кароткі ці больш працяглы — у залежнасці ад таго, ці была ў любоўным сужыцці і якая духоўная аснова. Усё будзе залежаць ад канкрэтнай сітуацыі, таму што ў такіх справах па шаблону нельга — ні цяпер, ні тады. Сапраўды, шаноўны доктар Бернар, тут, брат, не проста «хімія і біятокі». Але і таямніца, што накладвае на гэтую простую біяфізічную рэакцыю «чалавецкую» пячаць. І таямніца гэтая, шаноўны калега, хаваецца ў цёмнашэрай кары галаўнога мозгу чалавека, які мы гэтак часта рэжам і праколваем бліщчастымі інструментамі.

І вось уся гэтая хімія разам з біятокамі, з клятай таямніцай у дадатак заварылі ў маёй душы такую кашу, што я не ўяўляю, як буду выконваць пасля абеду ролю ў традыцыйнай сцэне сустрэчы, якую да сённяшняга дня іграў гэтак спантанна і натхнёна! Цэлых шэсць гадоў. О, вартыя жалю Атэлы, з якім сэрцам будзеце вы сустракаць жонак сваіх (у аэрапорце), пасля таго як нейкія невядомыя вашы добразычліўцы шапнуць вам у адно вуха і ў другое, што вас абманваюць, здраджваюць вам, і як доказ прышлюць «рэчавы» дакумент — фотаздымак, дзе добра відаць, як ваша жонка даверліва

абапіраецца на руку «чужога» мужчыны, а непадалёк віднеюцца здрадлівыя зараснікі кустоў! Дык як жа ў такім выпадку вы будзеце трымацца, як сустрэнеце жонку, у вернасці якой вы глыбока ўсумніліся, як паглядзіце ў вочы, не на жарт думаючы, што ў глыбіні іх зрэнкаў моцна засеў вобраз другога мужчыны, як пацалуеце ў губы, загадзя ведаючы, што можаце менавіта на іх, на губах, адчуць дыханне другога, горкую соль здрады? Ну, як вы праробіце ўсе гэтыя простыя, традыцыйныя і непазбежныя пры кожнай сустрэчы штуковіны!

Як я ні стараўся надаць гэтай справе жартоўны сэнс альбо свядома нацягнуць на яе маску звычайнага, зламыснага паклёпу, нейкія вострыя, як быццам змяіныя, зубы ўпіліся ў маё сэрца і не адпускалі, а ўпіваліся глыбей і глыбей. Жонцы маёй было трыццаць пяць, і ў гэтым узросце — самым «матэрыялістычным» і «агрэсіўным» у жыцці жанчыны, што добра вядома неўрапатолагам і донжуанам, — яна, можа, сама таго не ведаючы, магла правакаваць магчымасць здрады. Тым больш што як самка яна была пазбаўлена нармальнага жыцця! Прыязджала толькі разы са два ў месяц, звычайна ў пятніцу пад вечар. А што такое адно-два спатканні для жанчыны, якая знаходзіцца ў жніВеньскай стадыі свайго жаночага лета!

На фотаздымку, што атрымаў я ад майго ананімнага добразычліўца, яна даверліва абапіралася на руку чалавека, у якім я пасля доўгага ўзірання пазнаў аднаго яе калегу, агранома. Мяне з ім пазнаёміла сама Ана гады тры таму назад. Я паехаў паглядзець, як яна ўладкавалася, уладанні яе пабачыць. Яны распасціраліся на дваццаць дэкараў[1], роўных, як даланя, і ўкрытых высокай каласістай пшаніцай, а той экземпляр, з якім яна пазнаёміла мяне, калега, з якім яна мудравала над сваімі гібрыдамі, быў зусім мізэрны чалавечак. Сам танклявы, лоб высокі, пакорлівыя галубіныя вочы і пажадлівыя вусны... Нейкае спалучэнне Ісуса і Казановы. Мужчына нікчэмны, але менавіта яго нікчэмнасць паражае без промаху, асабліва жанчын-інтэлектуалак. Яны, інтэлектуалкі, чамусьці аж «падаюць» за такімі, як выказваюцца на сваім жаргоне шалапуты. Я сам не раз

[1] Дэкар — мера зямельнай плошчы ў Балгарыі, роўная 1000 квадратных метраў.

чуў ад знаўцаў любоўных спраў, што спалучэнне «Ісус — Казанова», г. зн. гібрыд летуценніка з юрліўцам — гэта неадольная спакуса для інтэлектуалак.

Фотаздымак ад ананімнага добразычліўца я адразу парваў на дробныя шматкі, якія тут жа парваў на яшчэ драбнейшыя. З гэткім жа стараннем я паадрываў бы яму і вушы, калі б толькі ведаў, хто ён, бо трэба быць ідыётам, каб прымаць мяне за чалавека, якому жонка здраджвае заслужана — нібыта я безаблічны дурань, які-небудзь замухрышка, пудзель на паваодчку. Ды я ж, калі мець на ўвазе прыём, які аказваў мне жаночы свет, — «непераможны» герой колішніх вестэрнаў. Кажу гэта не ад ганарыстасці, а толькі каб задаць пытанне: хіба такому мужчыне здраджваюць? Хіба такому п а в і н н ы здраджваць? Хіба такое магчыма?

Перад тым як выйсці з кватэры, я крытычным позіркам паглядзеўся ў старое люстэрка маёй маці, якое ў сваю чаргу перайшло ёй у спадчыну ад яе маці. Яно было абсаджана ў пазалочаны гіпсавы вянец і займала дзве трэці паўднёвай сцяны нашага вестыбюля. Гэта было венскае люстэрка з самага чыстага крышталю, ручной работы, а таму прыгожае і даўгавечнае. Акрамя таго, што яно з абсалютнай яснасцю адлюстроўвала твар і фігуру чалавека, яно яшчэ як быццам нешта гаварыла і пра яго характар. Пра бацьку майго яно, напрыклад, казала: «Гэта цар!» — хоць бацька быў закляты антыманархіст і ў свой час ваяваў за рэспубліку ў Іспаніі. Мацеры быццам напявала вядомую оперную арыю «Ля донна е мабіле» — насуперак таму, што маці мая, несумненна, паважала і, наколькі магла, ахоўвала гонар і годнасць бацькі. Яна ў яго была другая, на пятнаццаць гадоў маладзейшая за яго. Першую ў гады падполля расстралялі фашысты. Я помню сваю маці сінявокаю красуняю з легкадумным кірпаценькім носікам, у целе, заўсёды з мяккаю ўсмешкаю і доўгім позіркам. Калі яна спынялася перад люстэркам, мне пачынала ўяўляцца, што яно напявае ёй тыя гуллівыя словы з папулярнае арыі «Ля донна е мабіле».

Адным словам, у гэтае сямейнае люстэрка той раніцай паглядзеўся і я, хоць звычайна праходзіў паўз яго транзітам. Люстэрка пацвердзіла, што я не з пароды замухрышак, наадварот! Я ўзвышаўся амаль на два метры, на спіне ў мяне магла змясціцца шафа, а рукі мае — заўважце, рукі нейрахірурга! — нагадвалі лапы

арангутана. Бачылі арангутана? Калі не бачылі, дык, зрэшты, уявіце сабе лапы даўно не маладога мядзведзя. Ну дык як можна, пытаюся яшчэ раз, ашукваць т а к о г а мужчыну?

А слава? Да славы мужчынскае ніводная жанчына не можа застацца абыякавай. А ў мяне яна была, неаднойчы запрашалі мяне аперыраваць за мяжу, мяне ведалі ў свеце! Дык ці можа, пытаюся трэці раз, жонка здраджваць такому мужу? А яно, люстэрка, старое венскае люстэрка, якое, мабыць, памятала яшчэ «Царыцу чардаша», адказвае мне паблажліва, прынамсі, так здалося: «Жанчына — загадка!» Прычым прамовіла яно гэтыя словы даволі двухсэнсоўным тонам, нягледзячы на тое, што былі яны архібанальныя.

Хоць я па натуры чалавек даволі самаўпэўнены, але не маю звычкі адварочвацца ад праўды і хаваць недахопы свае. Вядома, і ў мяне ёсць слабое месца, вяровачны масток, на якім вернасць маёй жонкі можа небяспечна пахіснуцца. Гэта мой твар, каб яго чорт узяў! Не сказаць, каб ён быў непрыгожы, наадварот, кажуць, ён робіць прыемнае ўражанне, але гэта не твар інтэлектуала. Нічога інтэлектуальнага ў ім няма ні кроплі. Вочы ў мяне прадаўгаватыя, скулы — шырокія. У нас у Балгарыі адзін толькі бог можа ведаць радаслоўную чалавека. Па бацькавай лініі род мой ідзе з славутага сяла Арбанасы, што на Тырнаўшчыне. Паводле некаторых гісторыкаў, калісьці яшчэ ў Сярэднявечча ў гэтым блізкім да сталіцы сяле кватаравала куманская гвардыя. Была такая гвардыя пры дварах Асена, Калаяна... Дык хіба цяжка было, скажам, якому-небудзь гвардзейцу спакусіць ці проста згвалціць якую прыгонную сялянку? Вядома, зусім не цяжка, і вось, калі ласка, стагоддзі назад закадзіраваны ў генах майго роду куманскі пачатак красамоўна выявіўся на маім твары. Чаго толькі не бывае на свеце! Вось чаму я тварам падобны на майстра нейкай вялікай бойні, які ў адной руцэ трымае швайку, а другою цяжкім молатам б'е між вушэй скаціну. Прычым робіць гэта так упэўнена і дакладна, што жывёла, высалапіўшы язык, імгненна выцягваецца на шырокай акрываўленай ленце канвеера. У мяне твар менавіта такога чалавека, так што на ім не можа быць нічога ні ісусаўскага, ні казановаўскага.

Я, вядома, не прыгажун, але ні жонка, ні іншыя жанчыны ніколі не казалі мне нічога дрэннага пра мой

твар. Неяк раз у Варшаве адна палячка заўважыла мне, што тварам я падобны на паласатага ўсурыйскага звера, якога ў іх паказвалі ў заалагічным садзе. Але злітуйцеся, людзі, які з мяне тыгр! Па сённяшні дзень нікога я не з'еў, хоць кроў мая часта закіпала і не раз тэмпература яе падскоквала да ста чортавых градусаў!

Так што таго гібрыда з інтэлектуальным «ісусаўскаказанаваўскім» тварам я вельмі проста мог бы ўціснуць у свой кашалёк для дробных грошай і яшчэ месца засталося б. Але ж жанчына — «загадка», ліха яго матары, і «мабільная» ў дадатак! То без памяці ўлюбляецца ў Геркулеса, то гатова галаву пакласці за нейкага недалужнага паскрэбка! Вось і паспрабуй зразумець яе густы.

Да таго моманту я ніколі не задумваўся пра адносіны маёй жонкі да розных прадстаўнікоў мужчынскага свету. Я быў упэўнены, што я для яе — адзіны мужчына ў свеце, таму мне і ў галаву не прыходзіла, што яна можа на другога экземпляра майго полу пaглядзець вачамі жанчыны. Хіба мог я думаць, што жанчына, якая прысвяціла сябе навуцы, можа пайсці на тое, каб траціць час (і прэстыж таксама) на нейкія любоўныя авантуры. Я ўяўляў яе ў лабараторыі сярод колбаў, рэтортаў, спіртовак і мікраскопаў. Ва ўяўленні сваім я бачыў яе ў полі, а вецер надзімае яе падол; альбо яна выступае і гарачыцца на сходзе; я ўяўляў яе ў кампаніі з вучонымі мужамі, яе калегамі — як яны разглядваюць яе плён на доследным участку, як мераюць і ўзважваюць зерне і каласы; але ніколі, і нават калі быў з заведзенай він‌ом галавою — ніколі не ўяўляў яе на каленях другога мужчыны.

Уявіць сабе такое было проста немагчыма.

Немагчыма, аднак тыя змяіныя зубы — ці то зубы сумнення, ці рэўнасці — не адпускалі маё сэрца, наадварот, упіваліся яшчэ глыбей. Мне балела. Нават — на вялікае маё здзіўленне! — у нейкі момант я адчуў, як зусім сапраўдны фізічны боль працяў сэрца між дзвюма верхнімі камерамі, нібы ў яго ўпілося шмат іголак. Ад такой неспадзяванкі мяне ахапіў жах і лоб мой змакрэў ад поту. «Нічога сабе! — сказаў я, чуючы голас свой як праз дзевяць дзвярэй. — Цяпер толькі сардэчнай неразбярыхі мне не хапала!» І тут жа думка пра аперацыю бліснула ў маёй галаве нібы раптоўна ўключанае электрычнае сонца. «А што, як гэты ўкол, — падумала-

ся, — паўторыцца ў той момант, калі мой скальпель будзе праходзіць паўз тое валаконца, на якім трымаецца жыццё небаракі? Што тады?»

Да таго дня і гадзіны маё сэрца працавала, як карбюратар у маторы новай машыны — камеры і клапаны дзейнічалі бездакорна, міякард абмываўся па-юнацку, рытму майго сэрца маглі пазайздросціць алімпійскія чэмпіёны па мнагабор'і. Ніякага сігналу небяспекі не паступала ні з якай часткі сістэмы, хоць падставы для такіх сігналаў былі, бо курыў я шмат і вёў увогуле даволі бязладнае жыццё. Я ж быў «халасцяк», а які халасцяк у двукоссі нават у маіх гадах жыве акуратна! Я парушаў прадпісанні і правільнага, і праведнага жыцця, але на сэрца не скардзіўся, ліха матары! Бо ў жылах маіх цячэ балгарска-куманская кроў, тая самая, што зжыла са свету каталіцкага імператара Балдуіна!

Пазваніў, выклікаў медыцынскую сястру — захацелася праверыць крывяны ціск, каб была больш ясная карціна. Увайшла Юля, яна дзяжурыла сёння з раніцы. Пакуль яна напампоўвала паветра ў павязку, якую накруціла на левую маю руку, мае вочы міжволі спаўзлі ў яе дэкальтэ — верхні гузік халата знарок быў расшпілены, і відаць было, што шэльма толькі ў камбінацыі пад халатам. Яе грудзі, авальныя і белыя, прыцягвалі мае вочы, як магніт.

Юля заўважыла:

— У вас, ведаеце, падскочыў ціск. Верхні — дзвесце, ніжні — сто дзесяць.

Зноў боль кальнуў у сэрца, але на гэты раз значна слабейшы.

— Зашпіляй, будзь ласкава, гузікі ў сваім халаце, — сказаў я, — бо тут бальніца, а не базар, дзе яблыкі прадаюць! Вось, каб ты ведала, чаму ў мяне ціск падскочыў!

А яна і вокам не міргнула. Абыякава паціснула плечукамі і спакойна разматала на руцэ павязку. А мне, каб хто сказаў чаму, адразу стала весела, хоць сам я не бачыў ніякіх прычын для весялосці. Наадварот!

— Хавай свае яблыкі, — параіў я, — бо калі яшчэ раз убачу, сарву іх абавязкова!

Яна зірнула на мяне і пакорліва ўсміхнулася. «Дык зрывайце! — смяяліся яе вочы, а каля зрэнкаў свяціліся залатыя іскрынкі. — Зрывайце, я не пярэчу!»

Шэльма, адным словам, але настрой у мяне палепшаў, і таму ў душы я быў ёй удзячны.

Выходзячы, каля самых дзвярэй яна раптам павярнула галаву, як быццам забылася сказаць штосьці або толькі што ўспомніла. Было б вельмі цікава паслухаць, што яна надумала, але ўсё сапсаваў тэлефон. Якраз у гэты момант ён зазваніў рэзка і неяк занадта ўжо бесцырымонна. Каб на яго ліха! Я ўжо заўважаў, што тэлефон кожны раз звоніць іначай і часцей за ўсё — не ў час.

— Прафесар Шайтанаў! — з прыкрасцю прагаварыў у трубку.

— Ці не маглі б вы спусціцца на некалькі хвілін да мяне? — пачуў я роўны голас галоўнага.

— Прафесар доктар Маркаў, — адказаў я па магчымасці афіцыйным тонам, на які быў толькі здатны, — праз паўгадзіны я пачынаю аперацыю, наконт якой гэтулькі было шуму. Ці не здаецца вам, што не вельмі дарэчы рассейвацца мне менавіта ў гэтыя паўгадзіны?

— Спусціцеся! — паўтарыў галоўурач. — Я вас доўга не затрымаю!

Кладучы назад трубку, я міжвольна вылаяўся, як у былыя часы лаяліся, кажуць, шаўцы, тут жа зніякавеў, але Юлі ўжо не было — выйшла.

Праглынуў таблетку «допегут», прызначаную для ўрэгулявання крывянога ціску, і «фаліум» — для заспакаення нерваў.

## 3

Калі я ўвайшоў у яго кабінет, ён не ўстаў падаць мне руку, затое і я не падаў яму рукі.

— Значыцца, зацвердзілі аперацыйную брыгаду, а мне не дакладваеце! — тонам пакрыўджанай вялікасці пачаў мой загадчык. — Хоць бы для формы падалі дакладную, як гэта належыць!

— Прабачце, мне не да фармальнасцяў, — прамармытаў я. — А пра брыгаду не турбуйцеся, я сам пастараюся, каб можна было ступіць на трывалы лёд, каб не адчуваць пад нагамі пустаты...

Прафесар схіліў галаву да левага пляча і тэатральна развёў рукамі, але вочы ягоныя пазбягалі сустрэчы з маімі.

— На які б лёд вы ні ступілі, гэта лёд! — прамовіў ён, і ў хрыплаватым голасе яго мне зноў пачуліся знаёмыя ноткі непрыязнасці і фанабэрыі. — Лёд можа скрышыцца, гэта ж лёд! — і вы праваліцеся! Прычым не толькі самі сябе загубіце, але і наклічаце непрыемнасці на бальніцу...

— Дык вы знайшлі час палохаць мяне зноў? — усклікнуў я. — За лічаныя хвіліны перад аперацыяй? — Мне гэтак абрыдлі звягі з гэтай аперацыяй, што я адчуў, як кроў мая закіпае і б'е ў галаву і твар мой наліваецца чырванню. Я засунуў свае рукі пад пояс халата, каб стрымацца і не ўрэзаць нягодніку ў яго пляшывае цемя. А колькі яму трэба была, недарэку, лядашчаму чалавечку, якога амаль не відаць было з-за пісьмовага стала, за якім сядзеў, жоўтага і кіслага, як дзеўка-пярэстарак. Ды я, падумалася, мог бы загнаць цябе ў шуфлядку твайго пісьмовага стала!.. — Ведаеце што, — сказаў я, — наогул подла вымушаць мяне на размовы на гэту тэму цяпер!

Ён сутаргава адкінуўся на спінку крэсла, вейкі ў яго задрыжалі, а ў вачах як быццам выскачылі на момант два злыя і заядлыя сабачкі: укусіць яны не ўкусяць, але шчэрацць зубы, гыркаюць і ажно захліпаюцца ад злосці.

— Вы не даслухалі мяне да канца і не зразумелі, а дазваляеце сабе такія паспешлівыя вывады! Калі-небудзь вы з-за гэтай сваёй паспешлівасці скруціце сабе галаву. — Ён нейкі час памаўчаў, але сабачкі ў яго вачах не прапалі, яны быццам саскочылі яму да ног і ўжо адтуль пазіралі на мяне пацямнелымі ад злосці зрэнкамі. — Я не кажу, каб вы адмовіліся ад аперацыі, позна ўжо гаварыць пра такі высакародны ўчынак. «Выбар зроблены», — як кажа народная прымаўка.

«Выбар зроблены», — гэтую фразу з гісторыі любіў паўтараць мой бацька, і не была яна ніякаю прымаўкаю.

— Гэта сказаў Юлій Цэзар перад тым, як перайсці раку Рубікон, — паправіў я яго не без задавальнення.

Па твары ягоным прабег цень, і ён махнуў рукой, як быццам праганяючы ад твару назойлівую муху.

— Я прапаную вам, — гнуў ён сваё, — справядлівае рашэнне, якое можа выратаваць вас самога ад ганьбы і пазбавіць нашу бальніцу ад некаторых непрыемнасцей. Павінен сказаць, што пятнаццаць хвілін назад мне па-

званілі з кабінета старшыні Савета міністраў: «Таварыш старшыня Савета міністраў просіць пазваніць яму адразу пасля аперацыі!» Што вы скажаце на гэта?

— Дык пазваніце! — сказаў я. — Гэта не патрабуе бог ведае якіх намаганняў.

— Вы не разумееце, пра што я вам кажу! — Яго тонкія, амаль бяскроўныя вусны задрыжалі, як крылцы матылька, прыколатага да дошкі. — Вы разумееце, што нават у самых высокіх колах урада ведаюць пра гэту аперацыю! Вось што я хацеў сказаць вам. А раз цікавяцца, то, пэўна ж, нездарма...

Я паціснуў плячамі.

— Дык вы хацелі мне нешта сказаць? — пацікавіўся я.

Ён устаў, абышоў вакол стала, наблізіўся да мяне і, прыўзняўшыся на дыбачкі, прашаптаў мне на вуха:

— Чаму б вам не пачаць і не скончыць гэтую справу павярхоўнай трэпанацыяй? Не будзе ніякае рызыкі ні хвораму, ні вам...

— Разумею, — кажу.

— Услухайцеся ў разумныя парады сваіх калег, якія самым шчырым чынам паважаюць ваша прафесійнае майстэрства і не жадаюць вам зла; услухайцеся ў розум машыны, у памяць якое была ўнесена ацэнка «выдатна» пра ваша ўменне спраўляцца з пухлінамі мозгу. Услухайцеся і не рызыкуйце!

— Але, і праўда! — усміхнуўся я. — Я мог бы ўслухацца ў вашы дабрачынныя парады і яшчэ больш разумныя засцярогі электронна-вылічальнай машыны, але толькі пры адной абавязковай умове...

— Пры якой умове?

— ...Пры той, што нарадзіўся я нягоднікам! — сказаў я. І гэтак паглядзеў на яго, як, напэўна, воўк глядзіць на ягнятка перад тым, як схапіць яго за карак. Ці бачылі! Не слухаць свайго сэрца і сваёй галавы, а «ўслухоўвацца» ў парады паўтузіна «разумнікаў» на чале з ім самім і ў мудрасць нейкай скрыні, напакаванай рознымі бабінамі і крышталікамі! Яно няхай бы, але каб быў я нейкім недавяркам, а не сынам двойчы асуджанага на смерць Шайтана! — І наогул, — кажу, — ці пакінеце вы мяне нарэшце ў спакоі, каб я мог займацца справаю?

Прафесар Маркаў вярнуўся на сваё месца з тварам ахаладалым і пасінелым, як у чалавека, які перанёс цяжкую аперацыю і толькі што выйшаў з-пад наркозу.

— Рабіце на сваю галаву! — махнуў ён рукой. — Рабіце, як лічыце за лепшае. Слава гэтак закружыла вам галаву, што з вамі немагчыма гаварыць сур'ёзна. Але ведайце, што слава здабываецца вялікаю працай і доўгімі гадамі, а згубіць яе можна ўмомант!

— Гэта мая асабістая справа! — паціснуў я плячамі.

— Я пагляджу на цябе, ганарліўца, тады, калі, не дай божа, аперацыя скончыцца дрэнна. — Ён змераў мяне з ног да галавы і працягваў: — Я не ўпэўнены, што хрыбетнік твой вытрымаў бы цяжар такога скандалу.

— Што б сабе ні здарылася, — адказаў я, — хрыбет мой не зламаецца!

— Ну, цудоўна! — у сваю чаргу ён сцепануў плячамі. — Аперацыю я дазволіў, але майце на ўвазе, у пратаколе адзначыў, што застаюся пры асобнай думцы. Зрэшты, вы гэта, напэўна, ведаеце. — Ён памаўчаў, потым вяла працягнуў руку: — Жадаю поспеху!

Рука яго была мяккая і вільготна-халодная, як быццам гэта яго чакала аперацыя і яму павінны ўскрываць чэрап!

Нікчэмны чалавек!

Я ўвайшоў у аперацыйную, калі анестэзіёлагі ўжо завяршалі сваю справу. Углядаючыся ў манітор, на экране якога скакалі рознакаляровыя ўсплёскі, ціха размаўлялі аб нечым кардыёлаг д-р Паліеў і галоўны анестэзіёлаг. Я ўвайшоў, насвістваючы сам сабе папулярны вальс з оперы «Яўгеній Анегін». Гэты вальс я запомніў з маладых гадоў. Не таму, што захапляўся гэтаю операй, проста ў маці маёй быў набор пласцінак з запісам усёй гэтай оперы, і яна часта круціла на нашым грамафоне пласцінку з вальсам. Адзін бог ведае, чаму яна гэтак любіла гэты вальс, што ён ёй нагадваў! Я зусім не музыкальны, але вось жа запомніў мелодыю вальса і з тае пары праз усё жыццё насвістваю — калі «маўкліва», сам сабе, калі ціхутка, услых. На гэты раз я ўвайшоў у аперацыйную, калі баль быў у самым разгары, а Анегін сумаваў і думаў, якую б штуку ўрэзаць ды пазабаўляцца.

Надзяваючы пальчаткі, я кіўнуў свайму галоўнаму асістэнту:

— Пачынайце, калі ласка! — сказаў. — Раскрывайце зону...

Сноп люмінесцэнтнага святла з засяроджанаю сілай разліўся на паголенай патыліцы майго хворага. Вакол

стала ўтварыўся халодны паўзмрок. Сястра падала асістэнту бормашыну. Я ўжо не чуў ні глухога шыпення свердзела, ні бесцырымоннага шморгання пілкі. Баль з маёй галавы зусім выветрыўся, на свеце не было ўжо ніякага Анегіна. Я схіліўся над адкрытаю зонай — двума квадратнымі сантыметрамі акрываўленага шэрага рэчыва з глыбокаю ямкаю пасярод. На гэтай мізэрна малой прасторы дзейнічаюць два «магічныя», жыццёва важныя цэнтры — дыхання і кіравання работаю сэрца. Пухліну трэба было шукаць паміж імі. Знайсці, ускрыць, выдаліць, ды так, каб не закрануць ні аднаго, ні другога.

— Электраскальпель! — загадаў я. І дужа ўзрадаваўся таму спакою, які быў у голасе маім.

Аперацыя доўжылася чатыры гадзіны. Я карыстаўся электрычным інструментам для рассякання крывяносных сасудаў і спынення крывацёку. Міліметр за міліметрам абмацваў пухліну. Вычышчаў па частачках, меншых за ледзь бачныя кропелькі расы. Сэрца хворага пасярод аперацыі небяспечна «прыціхла», давялося актывізаваць яго з дапамогай ін'екцый. Справа рухалася гэтак марудна, што ў нейкія імгненні здавалася — час спыніўся, а да апошняй часцінкі пухліны, якую трэба выдаліць, гэтак далёка, як, да прыкладу, адсюль да Індакітая, адлегласць гэтую трэба прайсці пеша, прычым ні на хвіліну не спыняючыся адпачыць...

Калі я думаў, што падыходжу толькі да граніцы Лаоса, аказалася, што дасягнуў цэнтра Ханоя, і своечасова, бо сілы ў мяне заставалася ўжо з напарстак. Пухліна была вычышчана да кроплі. Давяршыць астатняе пакінуў свайму асістэнту.

Крокам вайскоўца дайшоў я да дзвярэй аперацыйнай, а потым, апынуўшыся за дзвярыма, адразу стаў падобны на мех з мякінаю, адчуў слабасць ва ўсім целе і, ледзь трымаючыся на нагах, увайшоў у ліфт. У кабінеце абсунуўся ў крэсла і не ведаю, колькі сядзеў так, заплюшчыўшы вочы. Потым схамянуўся, што гэтак магу і заснуць. Устаў, адамкнуў шафку, дзе стаяла ў мяне бутэлечка каньяку, адпіў некалькі добрых глыткоў. Стала лепей, жыватворнае цяпло разлілося па маіх жылах. Я ўспомніў пра свайго хворага, усміхнуўся і сказаў: «За тваё здароўе! Каб ты жыў сто гадоў!» — і яшчэ раз добра пацягнуў з бутэлькі.

Калі я падняўся ў аддзяленне рэанімацыі, куды яго

памясцілі ўжо, мой чалавек быў падключаны да сістэмы кантролю, праваю рукою яго звязалі з маніторам і з электракардыёграфам. Доктар Паліеў узіраўся ў стужку кардыяграмы, а Юлія ватаю, намочанай у спірце, працірала шчокі і левую руку хворага, махаючы на ўвільготненыя мясціны бланкам для анамнезаў.

Не ведаю чаму, але гэтая камбінацыя «Паліеў — Юля» мне падабалася не вельмі. Паліеў быў наш прыгажун, 35-гадовы самец з крыху палыселым цемем і з пухнатымі чырвонымі губамі памаўзы. А Юля, як я казаў ужо, была львіца ў самай сіле, жанчыну з такою фігураю, з такім задком можна сустрэць толькі раз у жыцці, і то выпадкова. Сапраўды, у камбінацыі «Паліеў — Юля» было нешта непрыемнае, а чаму — чорт яго ведае, можа, гэта аднаму мне так здавалася.

— Што, яшчэ не выйшаў з-пад наркозу? — спытаўся я, не зусім далікатна справаджваючы Паліева з яго месца перад кардыёграфам.

Дык што ж, чэрці паласатыя! Я быў трыумфатарам, на мяне ў той дзень падала слава, і такія, як Паліеў, самі павінны саступаць мне месца. Я падцёр насы сваім «разважлівым» калегам, атрымаў сваё і гэны куфар з рэле і крышталікамі, што мусіў падаць у адстаўку! Сам прафесар Маркаў прыбег пацiснуць мне руку і паддобрыцца, але як жа вы, даражэнькія, змаглі скамбінавацца ў адну змену?

Ці то ад голасу майго, ці проста ад прысутнасці маёй палата напоўнілася жыватворнымі іонамі, вейкі ў майго хворага ўздрыгнулі, і ён расплюшчыў вочы. Ён паглядзеў, і паглядзеў на мяне, вядома, але так, як можа глядзець толькі той, каго дасталі з магілы. Забіце мяне, але не магу сказаць, чаму тыя, хто выходзіць з глыбокага наркозу альбо з непрытомнасці, у першыя імгненні глядзяць недаверліва і з глыбокім смуткам, як быццам шкадуюць аб свеце небыцця, у якім былі!

— Ну, брава, хлопчык мой! — сказаў я. — Ты трымаўся, як гвардзеец стралковага палка! — трэба было сказаць, напэўна, «стралок гвардзейскага палка», але ліха з ім! — Брава, малайцом!.. Усё прайшло на «яць», знаку не засталося ад таго д'ябла, што ўбіўся быў у тваю галаву. Цяпер ён ужо ў вядры для смецця!

У яго вачах з'явіліся святлінкі, а на пасінелых яшчэ вуснах узнікла нешта падобнае на ўсмешку.

— Дзякуй... — прашаптаў ледзь чутна ён.

— Гм, гм! — пракашляў я знарок грубавата, бо ў горле маім пачало казытаць, здрадлівая вільгасць выступіла на вачах. Хацелася сказаць яму: «Эх, даражэнькі, што мне дзякаваць! Мы абодва змагаліся адзін за аднаго: ты — за мой прэстыж, я — за тваё жыццё!» Але і блізка такога не сказаў, кіўнуў на Юлію: — Ты ёй павінен дзякаваць! — сказаў. — Бо яна гладзіць ваткаю твае шчокі. За такія ласкі я згодзен двойчы легчы на аперацыйны стол, ведаеш?

Ён павярнуў вочы да Юліі і напраўду ўсміхнуўся ёй прамяністаю ўсмешкаю. Але што я кажу!.. Гэта была ружа, пастаўленая ў несамавітую гліняную вазу, вынятую з нейкай тысячагадовай магілы! Што ж, няхай, але, заўважце, мой чалавек нават у гэтым сваім незайздросным становішчы аказаўся на мастакоўскай вышыні: адразу, усяго мімалётным позіркам, ацаніў ільвіцыну вартасць такой жанчыны, як Юлія! Брава, хлопчык мой! Я не закладваю галавы сваёй абы за каго!

— Цяпер табе трэба добра паспаць, — сказаў я, — а заўтра мы з табой будзем расказваць анекдоты. У мяне ёсць вельмі смешны анекдоцік.

Паліеў нешта заёрзаў на сваім крэсле, я пагляздеў кардыяграму. На белай стужцы сям-там значыліся непрыстойна раскірэчаныя «v» — парушэнні сардэчнага рытму, а ў частцы сектара абмывання міякарда большасць «v» апускаліся пад рысу мінімуму.

— Тэрмінова дайце яму што-небудзь на падмацаванне! — кажу. — Які ціск?

— Нізкі! — прыўзняў плечы Паліеў.

— Нічога, вам гэта не ўпершыню, справіцеся! — сказаў яму, а хвораму падміргнуў: — Да заўтра!

Але трыумфальнае пачуццё ўжо растала ў маім сэрцы. Замест яго там пасялілася нейкая шэрая і глухая пустата. Прычын для сур'ёзнай трывогі не было, нават для простай трывогі не было падстаў, а чаму выйшаў з рэанімацыі з пустатой у сэрцы — растлумачыць сабе не мог.

## 4

Я жыў у Лазянцы на вуліцы Журналістаў непадалёк ад старой піўнушкі «Пад ліпамі». Піўная гэтая стаяла на скрыжаванні вуліцы Журналістаў і шашы, якая вя-

дзе да колішняе семінарыі, цяпер Палаца піянераў. Помніла яна яшчэ даўнейшыя часы. Прынамсі, я помню гэтую забягалаўку з тае пары, калі хадзіў у першыя класы. Помню, рух па вуліцы быў тады ў параўнанні з цяперашнім вельмі слабы, аўтамабіль, бывала, пройдзе па ёй раз у дзень, а то і не. Як сродак перамяшчэння тады яшчэ былі ў модзе фаэтоны. Па той бок шашы пачынаўся густы хваёвы бор, дзе мы гулялі. Я быў завадатар і, паколькі ростам і здароўем мяне прырода не абдзяліла, здорава лупцаваў воінаў другіх плямён. Праўда, пасля бітваў я хутка адыходзіў і пацярпелым ад майго тамагаўка (ёмкага хваёвага сука) шчодра раздаваў шкляныя шарыкі, пачкі з-пад цыгарэт і пражаны боб. Пасляваенныя гады былі гадамі нястачы, і ўцехі нашы былі сціплыя.

Дом бацькі майго быў аднапавярховы, але вялікі, з дворыкам з боку Віташы. І цяпер мы з жонкаю жывём у гэтым доме. Бацька атрымаў яго ў спадчыну ад брата свайго, настаўніка гімназіі і халасцяка. Пакуль дзядзька збіраў грошы і будаваўся, жыццё мінулася, не пакінуўшы яму ні сілы, ні часу, каб абзавесціся сям'ёй.

У гэтым доме былі тры пакоі, размешчаныя кругам вакол вялікага салона. На якога чорта патрэбен быў дзядзьку гэтакі вялікі салон? Бацька так спрабаваў растлумачыць: пакой павінен быў служыць нечым накшталт камернай канцэртнай залы... У адказ на маё здзіўленне ён усміхнуўся ўсмешкаю, у якой спалучаліся разам і шкадаванне, і спагада. Чалавек разлічваў, што калі-небудзь ажэніцца, што жонка народзіць яму сына ці дачку, а гэты сын ці гэта дачка скончыць кансерваторыю, стане піяністам ці піяністкаю. Піяніна ў хаце было яго мараю. «У цябе слабасць да жывапісу, у яго — да музыкі! — смяяўся я. — Што вас цягнула на мастацтва, цікава?» — «Гэта ад дзеда твайго, — задумліва адказваў бацька. — Ён майстраваў маляваныя скрыні і куфры, адмыслова іграў на кавале і хвацка страляў з пiштова — як прыроджаны гайдук. У дваццаць восем гадоў паехаў у Адэсу, быццам нейкія інструменты купляць, а занесла яго ажно ў Петраград, дзе ён аказаўся замяшаным у паўстанні 1905 года. За гэта дзед твой трапляе ў Сібір, уцякае адтуль і вяртаецца ў Балгарыю. З таго часу я і помню яго, я тады толькі ў школу пайшоў. У Тырнаве на той час ужо была створана сацыял-дэмакратычная партыя, і, пэўна ж, дзед быў яе

гарачым прыхільнікам. Потым — як і чаму? — ідзе з ііндзенцамі біцца з туркамі. Узяты ў палон, сядзеў у Анатоліі, адкуль яму зноў удалося ўцячы — на гэты раз у Грэцыю. Адтуль параходам ён пераплывае акіян, апынаецца ў Цэнтральнай Амерыцы, ваюе супраць іспанцаў. Дзе асталіся косці яго, можа, на парагвайскай ці уругвайскай, венесуэльскай або яшчэ якой-небудзь зямлі — ніхто не ведае. Ён не быў славутым чалавекам, не камандаваў арміямі, каб імя яго было запісана ў гісторыі. Быў ён просты, звычайны арбанасец з цягай да вандровак і з бунтоўным неспакоем у душы.

Маці мая была з багатага заможнага роду. Нейкі час пачакаўшы мужа, яна развялася з ім «завочна» і выйшла за тырнаўскага акруговага інспектара асветы. Другі мой бацька неўзабаве быў пераведзены па службе ў Сафію, куды перавёз і маці. Ён быў ціхі чалавек, канцылярыст па прафесіі і па натуры. Але нас з братам прыняў, як сваіх. Мяне вывучыў на доктара, брат атрымаў прафесію філолага. Маці пераждыла яго, памерла за год перад тым, як я паехаў у Іспанію.

Мой брат, які праз доўгія гады збіраў грошы на гэты дом, больш узяў з мацерынага роду. Ён быў пакорлівы, ашчадны і працавіты. Толькі па тым, як фантазія заносіла яго ў мары пра «камерныя» музычныя салоны і канцэрты, можна было ўгадаць у ім сувязь з бунтоўнымі парывамі нашага неспакойнага бацькі».

Ад бальніцы да піўной «Пад ліпамі», таксама да хаты мне можна дабірацца трамваем № 2 альбо аўтобусам, які ідзе да Палаца піянераў. У мяне была машына, «фольксваген», які я купіў у Германіі, але звычайна я вяртаўся з бальніцы трамваем. Заўсёды быў гэтак стомлены, што проста не мог рызыкаваць пераехаць каго-небудзь. Пасля цяжкіх аперацый мае рэфлексы былі як быццам забінтаваныя. Таму і той раз паехаў трамваем, загадзя вырашыўшы сысці на прыпынку «Вішнева», каб прайсціся лесам і крыху размяцца.

Я так і зрабіў, але тое, што выйшаў там з трамвая і прайшоў лес, я ўсвядоміў толькі тады, калі апынуўся перад шашой і ў вочы мне кінулася піўная. Я зніякавеў, не могучы ўспомніць нават, пра што ж гэтак мог задумацца, што ад трамвая да шашы не помніў, як ішоў. Ну, абсалютна нічога не мог прыпомніць.

Як заўсёды ў гэты час, у піўной амаль нікога не

было, майго звыклага месца ніхто не займаў, аднак я прымасціўся за першым сталом, які аказаўся перада мною.

— Што гэта вы сам не свой, другару прафесар? — заклапочана пацікавіўся ў мяне загадчык бай Санда, які ўжо гадоў дваццаць сам падносіў мне піва. — Чаго добрага, непрыемнасці нейкія маеце?

Куфаль піва я выпіў адным дыхам, выцер губы і кіўнуў галавою.

— Нічога са мной не здарылася! — кажу. — Дзякуй.

Заплаціў за піва і выйшаў.

У тры гадзіны ўзяў таксі і праз дваццаць хвілін быў у аэрапорце. Самалёт прылятае ў чатыры трыццаць. Якога ліха я прыпёрся гэтак рана? Мяне ледзь не спакусіла думка зайсці ў буфет і выпіць чаго-небудзь моцнага, але ўжо на парозе стрымаўся; з бальніцы ж могуць паклікаць кожную хвіліну. На ўсякі выпадак паведаміў дыспетчару свой расклад.

Немаведама колькі люлек выкурыў я за гэты час і безліч разоў абышоў чакальню. Дагэтуль ніколі не зведваў я гэтай жахлівай уласцівасці часу — рухацца ў сваіх межах і адначасова расцягвацца да бясконцасці.

Нарэшце самалёт прыляцеў, і хвілін праз пяць яна з'явілася ў чакальні. Толькі сам д'ябал, мабыць, ведае чаму, але на гэты раз яна ўбачылася мне прыгажэйшай, як калі. У шэрым касцюме з белаю блузкаю, высокая і танклявая, як большасць бяздзетух, з разумным тварам, каштанавымі валасамі і вялікімі карымі вачамі, яна прыцягвала мяне, як магніт прыцягвае да сябе цвічок, і я ўжо гатоў быў пабегчы ёй насустрач, калі б нейкая ідыёцкая сіла не затрымала мае ногі і не прымусіла мяне ступаць ёй насустрач, як інвалід. На яе ўсмешлівым твары выпісалася здзіўленне, а калі мы падышлі адно да аднаго, яе здзіўленне змянілася трывогай.

Яна пацалавала мяне ў губы моцна, як заўсёды. Мне нават здалося, што свае губы на маіх яна затрымала больш, як калі, і як быццам з жаданнем адчуць глыбей мой дух, як гэта бывала ў першыя год-два нашага кахання. «Сімулюе! — падумаў я з горыччу. — Вось першая прыкмета, што сумленне нячыстае!»

— Хіба ты нездаровы? — спыталася яна, усё яшчэ прыціскаючыся да мяне. — Табе баляць ногі?

«Сэрца мне баліць!» — хацелася сказаць ёй, але я абыякава паціснуў плячамі.

— Табе проста здаецца! — сказаў. — Нічога мне не баліць. І чаму павінна балець? — запытаўся я ў сваю чаргу. Нагнуўся, узяў яе дарожную сумку і пайшоў да выхаду з як мага абыякавым выразам твару.

Яна ўзяла мяне пад руку, і я адчуваў, што ўзіраецца мне ў твар, шукае вочы — марна, вядома. Я рассеяна глядзеў перад сабой, па-над галовамі людзей, а ўсярэдзіне мяне ела нейкая атрута, я адчуваў, што трымаюся па-дурному. Замест таго каб разыгрываць гэтыя танныя нумары, я мог бы застацца ў хаце, і яна тут жа зразумела б, што я іду «па слядах ісціны». Навошта гэтае прытворства і з майго, і з яе боку! «Ля донна е мабіле-е!» — сам таго не жадаючы, пачаў насвістваць я.

— Лука, ды ці не п'яны ты? — спынілася яна, калі мы сышлі з лесвіцы, і на гэты раз настойліва глядзела мне ў вочы. — Чаго ты паводзіш сябе так дзіўна?

— Ах, так ужо дзіўна? — сказаў я тэатральна.

Яна пацiснула плячамі, і па твары яе прабег цень. Яе твар быў абветраны, злёгку загарэлы і, дайце рады, гэтакі разумны і гэтакі прыгожы! Перада мною была як быццам мая Ана дзесяць гадоў назад, а я дазваляў сабе крыўдзіць яе.

— Даруй! — сказаў я. Потым нахіліўся і пацалаваў яе ў галаву.

Гэты пацалунак здзівіў яе, відаць, яшчэ больш, яна аж уздрыгнула і адступіла крок назад.

Што гэта азначала?

Хто яго ведае, я ж усяго толькі нейраХІРУРГ і ў псіхалогіі не разбіраюся. Сваім скальпелем я капаўся там, дзе нараджаецца псіхалогія, але пытанні псіхалогіі не былі маёй спецыяльнасцю.

Няёмкасць, якая ўзнікла, была часова згладжана з'яўленнем майго шафёра. Бо я ж дамовіўся з вадзіцелем таксі, каб чакаў мяне.

— Шаноўны, — сказаў вадзіцель, — калі б я ведаў, што давядзецца тырчаць тут больш за дзве гадзіны, дык ты мяне толькі б тут і бачыў! Ужо даўно газануў бы адсюль, скажы дзякуй, што я добры! — Ён выхапіў дарожную сумку з маёй рукі, адкрыў багажнік і са злосцю кінуў яе туды.

Потым адчыніў справа дзверцы машыны і з перабольшанай пачцівасцю запрасіў маю жонку:

— Прашу, мадам!

Сеўшы ў машыну, жонка паклала сваю руку на маю і спыталася голасам, у якім было больш здзіўлення, чым пяшчоты:

— Ты за дзве гадзіны прыехаў? Чаму?

— Ведаеш, казалі, што ў павільёне замежных тавараў будзе люлечны тытунь «данхіл», а «данхіл» — мая слабасць, ты ж ведаеш! Вось і паспяшаўся, каб узяць хоць адзін пакет...

— Ну, дык ці купіў жа? — спыталася ў мяне жонка такім тонам, якім сучаснае дзіця пытаецца ў бабулі, калі яна расказвае казку: «Ну, дык ці ўзышоў добры малойца на шкляную гару?»

— Ведаеш, як ні спяшаўся, а не паспеў, — уздыхнуў я. — Распрадалі яшчэ да майго прыезду.

— Я так і думала! — прамовіла жонка і папляскала сваёю рукой па маёй руцэ.

— Сёння з раніцы апераваў мастака, аўтара карціны «Возера з чырвонымі рыбкамі»...

— Возера з чырвонымі рыбкамі? А, зразумела! — Яна адхапіла руку.

— Аперацыя была цяжкая, але прайшла ўдала, — расказваў я, хоць жонка аніяк не выявіла цікавасці да аперацыі. — Чатыры гадзіны яго жыццё вісела на валаску.

— Чыё жыццё?

— Мастакова, аўтара «Возера з чырвонымі рыбкамі»!

— Ах, вунь ты пра што. «Возера з чырвонымі рыбкамі» вісіць у цябе над сталом. Напамінае табе пра мінулае.

— Мінулае нам няма чаго ўспамінаць. Для нас важней с ё н н я ш н і я справы! Сённяшнія.

Яна памаўчала некалькі секунд, нарэшце пацікавілася:

— А якія іменна справы?

— Ну хоць бы што датычыць адносін паміж мужчынам і жанчынай.

Яна зноў памаўчала.

— Ты нейкі сёння надта загадкавы, дарагі. Што азначае «паміж мужчынам і жанчынай»? Мужам і жонкай? Палюбоўнікамі?

«Дапусцім, палюбоўнікамі», — хацеў быў ужо адказаць, але тым часам мы прыехалі.

Яна прыняла душ, пераадзелася, павязала белы фартушок з фасоністымі плечкамі, падперазалася паяском па таліі, што тут жа ператварыла інтэлектуалку ў «проста» жанчыну, ахоўніцу дамашняга ачага і партнёрку ў ложку. Калі б тая гадзюка не ўпілася мне ў сэрца, я прагна, да замарачэння прыціснуў бы яе да грудзей, умомант распаліў бы яе. І сам, узрушаны, падхапіў бы яе на рукі, як, напэўна, прапрадзед мой хапаў на рукі сваю жанчыну тысячу гадоў таму назад. Але гадзюка не аслабляла пашчэнкаў, наадварот, як быццам сціскала мацней, і сэрца маё — дальбог, праўда! — балела мне фізічна, я адчуваў тупы, гнятлівы і несціханы боль, не сказаць каб моцны, але адчувальны боль у сэрцы.

— Чаго ты апранулася па-дамашняму, — сказаў я, стоячы да яе спінаю і гледзячы ў акно. — Напэўна ж, пойдзем куды-небудзь, а ўжо хутка шэсць! Чаму ты не надзела што-небудзь вячэрняе.

— Ты хочаш ісці? — здзівілася яна. — Табе так хочацца?

— Трэба ж павячэраць, — адказаў я. — Дома табе будзе сумна.

Яна памаўчала.

— Калі табе са мною сумна, дык выйдзі, прайдзіся! — прапанавала яна нарэшце.

Я пацiснуў плячамі. «Мне ўсё роўна!» — паказваў я ўсім сваім выглядам.

— Ды я ж знудзілася па доме, хачу пабыць у хаце хоць вечарок, згатаваць табе вячэру, пабачыць цябе ў дамашнім халаце, пасядзець побач каля акна, няхай нават памаўчаць, але разам!

— Ці бачылі! — усміхнуўся я крыва, стоячы спінаю да яе. — І гэта кажа доктар аграбіялогіі, старшы навуковы супрацоўнік Ана Кондава-Шайтанава?

— Гэта кажа проста Ана, жонка твая.

— Ну добра, — уздыхнуў я і павярнуўся, — рабі як хочаш. А я прылягу ў кабінеце, стомлены я. — Паміж брывамі ў яе з'явілася складка, а вочы выдавалі змяшанае пачуццё неўразумення і трывогі. «Няўжо адчувае, што я н е ш т а ведаю?» — падумаў я, і да маіх пакут дадалося некалькі кропель зларадства. Хіба мог я ведаць, што зларадства дае столькі горычы! — Аперацыя далася ў знакі, — махнуў я рукою і падаўся ў кабінет, але перад дзвярамі спыніўся, павярнуў галаву і дадаў: — Але ён выратаваны!

— Аўтар «Возера з чырвонымі рыбкамі»?..

Плечы ў яе былі паніклыя, вочы глядзелі ўтаропле-на, а пагляд быў звернуты ўсярэдзіну, у сваю ўласную душу.

«Цяжкі крыж узяла на сябе! — падумаў я, і як быц-цам нехта сціснуў мяне за горла. І мне гэтак шкада стала яе, што ў куточках вачэй я адчуў гарачыя вугель-чыкі. Нібыта ўва мне хтосьці кленчыў і працягваў рукі ўгору. — Ён, гэты крыж, цяжкі для абаіх нас, ды што рабіць?» Я не меў сілы ні абвінавачваць, ні дараваць.

Вобмацкам знайшоў ручку на дзвярах, націснуў і, не распранаючыся, кінуўся на канапку.

Гэтак ляжаў з гадзіну, можа, больш з адчуваннем, што душа мая павісла ў бязважкай прасторы. Нарэшце не вытрымаў. Не ведаю, якое пачуццё падняло мяне на ногі, — ці то жаданне бачыць яе, адчуваць блізка яе прысутнасць, ці клятае маё нецярпенне даведацца праў-ду і не спазніцца ўзяць старт да фіналу? А ён можа быць толькі адзін — кожны з нас павінен узяць на сябе цяжкі крыж і пайсці з ім сваёю дарогай.

Надзеў халат, калі ўжо яна ўспаміпала пра яго. Ён у мяне ўжо шэсць гадоў, з таго часу, як мы яшчэ жылі разам, яна падаравала мне яго ў дзень, калі мяне ўда-стоілі прафесарскага тытулу. Халат ужо абтрапаўся, яго шэры колер стаў алавяным, манжэты выцерліся, але мне не хацелася з ім разлучацца. Узяў люльку і выйшаў у гасціную.

— Ну, чым пахне, як думаеш? — спыталася жонка, якая толькі што зачыніла за сабою дзверы ў стало-вую. — Ці ўгадаеш?

Я нават для выгляду не панюхаў паветра.

— Ды ты страціў адчуванне добрай стравы! — пра-мовіла расчаравана яна. — Я засмажыла табе сапраўд-нае кураня, — яна падкрэсліла, — не бройлернае, а сапраўднае, і не адчуць розніцы! З самага Талбу-хіна везла!..

— Няўжо? — усміхнуўся я без ніякага энтузіязму. — Вельмі міла! Можна падумаць, што ў Талбухіне ты ду-мала толькі пра мяне.

— Толькі пра цябе, вядома, я думаць не магла! Але, напэўна, я пра цябе думала больш, чым ты пра мяне!

— Прыгадваць некага ці нешта — справа аднос-ная, — сказаў я глыбакадумна. — Напрыклад, чалавек

можа ўспомніць добрае віно, прыемны адэкалон. Жанчына абавязкова будзе думаць пра мужа свайго, хоць з вінаватасцю, калі здраджвае яму. Чаго толькі не прыгадае чалавек!

— Калі ты сёння не піў, дык з учарашняга не працверазеў як след! — паспрабавала ўсміхнуцца Ана, але гэта ёй не ўдалося, наадварот, на нейкі момант каля вуснаў у яе з'явіліся дзве невясёлыя складкі.

Яна павярнулася і моўчкі пайшла да дзвярэй у сталовую. Хоць яна добра валодала сабою, па ўсім было відаць, што словы мае закранулі яе за жывое, — паходка яе была нервовая, яна ішла, як збянтэжаны чалавек. «Жанчына абавязкова будзе думаць пра мужа, калі здраджвае яму!» Здагадалася, небарака, на што намякаю, яе гульня ў сапраўднае кураня прапала марна, вось чаму з'явіліся горкія складачкі каля рота!

Я сеў на канапу каля акна, няспешна закурыў люльку; пальцы мае былі спакойныя, запалка ў іх не дрыжала. Да апошняе дзеі падрыхтаваўся я добра.

Вечарэла. Па хрыбце Віташы разлівалася зарыва захаду сонца, а па схілах гор ужо слаліся густыя сiняватыя цені. Кусты бэзу і язміну ў нашым садку ўвачавідкі ахутваліся цемрай. Іх белая квецень рабіла ўпоцемку дзіўнае ўражанне, як быццам трымалася яна на нябачных галінках. У строгую гаркавасць, якую насычаў паветра мой «данхіл», пракрадваліся саладжавыя струменьчыкі язміну. Упершыню ў маім жыцці я незалюбіў гэты водар, было такое адчуванне, што ён расслабляе нервы, нават размякчае думкі. І вось у той час, калі я сядзеў на старой абабітай скураю канапцы, што засталася мне яшчэ з бацькавага часу, старэнькай канапцы, якую я, аднак, ні за што на свеце не памяняў бы на сучасную! — сядзеў і ў думках кляў саладжавы пах язміну, прагна смокчучы з люлькі дым «данхіла», Віташа з усімі сваімі колерамі і ценямі непрыкметна знікла, як быццам патанула ў небыццё, і ў вачах маіх зноў паўстала Ана. Яна была стройная і вабная. З Юляй, вядома, яе не параўнаеш, Юля на дзесяць гадоў маладзейшая. Сёння Юля дэманстравала мне свой бюст, што па сутнасці азначала запрашэнне на любоў. Зрэшты, я мог бы і прыняць тое запрашэнне, але калі б я нават ведаў, што яна запрашае і іншых, дык і не падумаў бы раўнаваць, мне было б напляваць, што яе цалуе нехта яшчэ! А жонку раўнаваў, хоць яна ўжо набліжалася да канца жаночага

лета, і ніякага кампрамісу нават у думках не дапускаў, не прымаў нават намёку на штосьці падобнае. Можа, па той прычыне, што да Юлі я быў у душы абыякавы, а Ану кахаў? Але ці здольны мужчына маіх гадоў і з такім халасцяцкім ладам жыцця, як у мяне, яшчэ кахаць? Ці не самападман гэта, водгук пачуццяў, перажытых шмат гадоў таму назад?

Калі так, то адкуль бярэцца ў маёй душы гэты востры боль, дзе яго крыніца?

Разважаючы гэтак, утаропіўшыся ў сіняватыя струменьчыкі дыму з люлькі, я раптам адчуў на вачах сваіх яе рукі і казытанне яе валасоў на шчацэ — я не пачуў нават, як яна падышла і прытуліла мяне цераз спінку канапы. Здаўна любіла яна гэтак пагуляць са мной — падкрасціся і знянацку абняць, прыкрыць мне далонямі вочы. Не задумваючыся, я схапіў яе рукі і ад душы пацалаваў, як рабіў гэта калісьці. Але пакуль я кранаўся вуснамі іх, мяне праняла ўнутраная дрыготка; усё ж гэта былі рукі, што здрадзілі мне, якія абдымалі другога.

Яна абышла канапу, прысела побач і хацела прытуліцца, але я асцярожна адвёў яе руку.

— Апячэшся аб люльку, — папярэдзіў.

— Быў час, ты адкладваў люльку на стол, калі я сядала побач з табой! — папракнула яна мяне, і невясёлыя зморшчынкі зноў з'явіліся каля яе рота.

— Ёсць адна лацінская прыказка пра час, цікавы афарызм, не помніш?

— О, як жа! — прамовіла яна. — Афарызм гэты агульнавядомы. Тэмпара мунантур! Часы мяняюцца... Для цябе, славуты прафесар, нешта ўсё пачало мяняцца надта хутка!

— Гэта датычыць і тваёй міласці! — сказануў я груба.

— Памыляешся. Людзі нашай прафесіі, асабліва тыя, што займаюцца селекцыяй, стварэннем новых сартоў раслін, яны па неабходнасці вельмі цярплівыя людзі.

— Хочаш сказаць, што калі якая-небудзь селекцыянерка выйшла замуж, дык мужа свайго ўжо не пакіне?

— Гэта залежыць перш за ўсё ад мужа. Але што за прыклады прыходзяць табе ў галаву, я не разумею?

— Я проста так. Бо калі муж селекцыянеркі, скажам, дваццаць і больш дзён у месяц не бывае ў яе шлюбнай пасцелі, дык, напэўна, і селекцыянерка страціць

цярпенне. Калі-небудзь і яна скажа: «Тэмпара мунантур», хіба не?

Не ведаю, з якім выразам твару я сказаў усё гэта, але вельмі добра бачыў, якое ўражанне зрабілі мае словы. На яе твары ўмомант выпісалася пакутлівая сумесь абурэння, страху і здзіўлення. Яна адхіснулася ад мяне, быццам адкінутая нейкай нябачнай жорсткай рукой, і вочы яе акругліліся.

— На што ты намякаеш? — голас яе прагучаў ціха, амаль шэптам.

— Ну, ты не хвалюйся! — сказаў я. — Ты ж ведаеш, я ўсё адзін тут у хаце, дык, можа, адзічэў крыху. Прабач. Я толькі хацеў спытацца, як ідуць твае справы, і больш нічога. Дык як жа справы?

З гэтага моманту яна адказвала мне цераз сілу і амаль варожа.

— Ну што, як твае справы? — паўтарыў я.

— Добра.

— А як калегі? Ці памагаюць?

Яна пацiснула плячамі.

— Ну, ёсць жа ў цябе хоць адзін прыяцель?

— Ёсць.

— Танклявы такі, у акулярах?

— Угадаў.

— Добра, калі ў адзінокай жанчыны ёсць прыяцель!

— Добра, чаму ж не! — кіўнула яна галавой.

— Не быць жа адзінокай ваўчыцай! Віншую!

Яна зноў сцепанула плячамі. Пагляд яе патанаў недзе ў квецені язміну і бэзу, якая ў сваю чаргу амаль злівалася з густым вячэрнім змрокам.

— Значыць, танклявы. Наколькі мне вядома, вы з ім разам працавалі?

— Мы і цяпер з ім разам працуем, — падкрэсліла яна.

— А-га!

— Што — «а-га»? Хіба ў цябе няма таварышак? Напэўна ёсць, ды не адна і не дзве!

У грудзях у мяне як варам абдало, галава ўспыхнула агнём. Я ўскочыў на ногі, і, мабыць, выгляд у мяне быў не чалавека, а чалавека-гарылы, які гатоў быў некага задушыць. Я ўжо адкрыў рот, каб закрычаць: «Калі ў цябе такі добры прыяцель, дык чаму не засталася з ім, а лезеш да мяне!» — але ў гэты момант раптам зазваніў

тэлефон. Гэты званок здаўся мне крыкам чалавека, якому ампутуюць нагу.

Я падскочыў да століка і схапіў трубку.

— Прафесар Шайтанаў?

— Я слухаю!

— Гаворыць сястра Паўлава. Прафесар, пацыенту вашаму кепска, ён ці не памірае!

— Як гэта — «памірае»? — у нагах я адчуў слабасць.

— Пульс прападае, ён амаль не дыхае!

— Дзе доктар Палііеў?

— Няма Паліева, я адна тут!

Я кінуўся ў кабінет, на бягу скідваючы халат. Схапіў пінжак і выскачыў да машыны. На Ану я і не глянуў, і слова не сказаў на развітанне. Усё маё асабістае з трывогамі і болем знікла, ператварылася ў дробязнае нішто.

## 5

На гэты раз я не думаў, што магу каго-небудзь пераехаць, газаваў, сігналіў гудком і праскокваў скрыжаванні на «чырвонае», але паколькі шаленцам іншы раз сам гасподзь памагае, даехаў да бальніцы без прыгод.

У памяшканні рэанімацыі было поўна дактароў, пазбіраліся ўсе дзяжурныя аддзяленняў як на экстранны прафсход: будуць узнагароджваць па заслугах. Адно толькі ніхто не жартаваў і не глядзеў з цікаўнасцю, як часцей за ўсё бывае ў такіх выпадках, а наадварот, усе былі панурыя, а ў вачах як быццам таілася злараднасць: «Табе казалі? Мы папярэджвалі цябе? Вось вынік тваёй упартасці!» Некаторыя нават крадком пасміхаліся, толькі вочы выдавалі іх: «А яшчэ называецца хірург з еўрапейскім імем!» Але мне хутка давалі дарогу, кожны стараўся, каб нават выпадкова не дакрануцца да мяне, як быццам я быў зараджаны звышадчувальным выбуховым зарадам.

У палаце майго хворага я ўбачыў доктара Паліева, дацэнта Ванева, які быў сёння маім асістэнтам і памагаў раніцай; відаць, трывога таксама застала яго знянацку, бо прыбег у трыко з пінжаком паўзверх; былі тут і дзве сястры — Юля і Паўлава. Паўлава дзяжурыла ў суседнім пакоі. За майго хворага адказвала Юля.

Калі я ўвайшоў, усе шарахнуліся ўбок, і ў адзін момант мне ўсё стала ясна — перада мной ляжаў мёрт-

вы чалавек. Ён ужо быў адключаны ад сістэм, ад манітора. Хтосьці ўжо звёў яму і вочы.

Я падышоў да ложка, узяў яго правую руку, каб намацаць пульс — у гэтым не было патрэбы, сам не ведаю, на што я спадзяваўся. Рука яго была халодная і нерухомая, гэтак жахліва нерухомая, як можа быць толькі рука мёртвага. І адразу ў маю душу хлынулі, нібы прарваўшы кожнае сваю плаціну, два пачуцці — віны і безвыходнасці. Я быў вінаваты і бяссільны.

Потым паступова пачуццё віны пачало спадаць. Аперацыю я правёў беспамылкова, з аперацыйнай яго вывезлі жывым і ў параўнальна добрым стане — і ціск, і пульс былі на ўзроўні каля нармальнага, прынамсі, далёка ад пагражальнай мяжы. Які д'ябал давёў да катастрофы, чаму і калі?

— Доктар Палііеў, — звярнуўся я да кардыёлага, які выглядаў, як заўсёды карцінкаю з моднага часопіса, — растлумачце, калі ласка, як гэта здарылася? Калі хворы памёр?

— Каля дзевяці гадзін.

— Як гэта — «каля»? Гадзіннік у вас перад вачамі! — кіўнуў я на электрычны гадзіннік над дзвярамі. — Ці вы не зірнулі на яго?

Ён ніякавата ўзняў вочы на гадзіннік, памуляў губамі, але нічога не сказаў.

— Доктара Паліева і сястры Юліі ў пакоі не было, калі гэта пачалося! — азвалася медсястра Паўлава. Дробненькая, яна даганяла свае сорак і, мабыць, не вельмі прыязна ставілася да сваёй калежкі.

— Вас не было ў пакоі? — насцярожыўся я. — Можа, назіралі за хворым па тэлевізійнай сістэме?

— Дзе там! — паківала галавой Паўлава. — У канцылярыі была адна я, іх абаіх і почуту не было. Без пятнаццаці дзевяць я зірнула на манітор і ўбачыла, што з сэрцам хворага творыцца нешта нядобрае. Яно білася вельмі няроўна, з вялікімі паўзамі. Зайшла ў палату, ён стагнаў. Я адразу пазваніла вам, потым дацэнту Ваневу.

— Я прыбег за дзве-тры хвіліны да вас, прафесар, — сказаў Ванеў. — Усё было скончана!

— На вашу думку, што здарылася? — спытаўся я і аблізнуў сасмяглыя вусны.

— Інсульт або інфаркт! — пацікнуў плячамі Ванеў.

— Калі інсульт, дык гэта вынік аперацыі! — азваўся Паліеў.

Калі я пачуў голас гэтага прылізанага франта, які самым бессаромным чынам кідаў камень у мой агарод, усё нутро маё зноў нібы абдало варам, у вачах пацямнела. Я падышоў да нягодніка і спытаўся:

— Чаму вы як дзяжурны пакінулі свой пост? Дзе вас чорт насіў у той час, калі хвораму патрэбна была неадкладная дапамога?

Ён збялеў з твару. Цьфу, каб яго чорт, нягоднік ды яшчэ баязлівец да таго!

— Я выйшаў... у фае другога аддзялення пакурыць, — заікаючыся, прамармытаў паскуднік.

Мяне абурыла.

— Колькі ж ты курыў, нягоднік? Мо пятнаццаць мінут курыў?! — закрычаў я, не помнячы сябе, і гэтак пляснуў яму па мордзе, што ён закруціўся на месцы, як ваўчок, а ад другой аплявухі выскачыў за дзверы.

Настала чарга Юліі.

— А ты? — навіс я над ёю. — Ты чаму пакінула сваё месца, чаму пакінула хворага аднаго?

Яна нахабна глядзела мне проста ў вочы, на вуснах яе нават гуляла ўсмешачка. Напэўна, сучка хацела гэтым сказаць: «Я ж табе раніцай нештачка паказвала, дык давай не будзем сварыцца!»

Ёй я пляснуў па твары не вельмі моцна, але яна ўсё ж пахіснулася. Выходзячы з палаты, яна павярнула галаву і паглядзела на мяне вачамі, у якіх не было ні злосці, ні нянавісці, а толькі здзіўленне, з якім дзеці ўпершыню глядзяць, напрыклад, на кенгуру.

— Прафесар! — схапіў мяне за руку Ванеў. — Апомніцеся!

Апамятвацца было позна. Ды і не зрабіў я нічога такога, у чым трэба было каяцца. Толькі сорамна стала перад нябожчыкам. Я апусціўся на калена і з глыбокай пашанай пацалаваў яго ў астылую шчаку.

Праз дваццаць хвілін прыехаў галоўурач прафесар Маркаў. Мы ўдвух зачыніліся ў канцылярыі. Нейкі час мы моўчкі стаялі адзін перад адным. Не ведаю, які выгляд быў у мяне, а ён выглядаў як збянтэжаны і вельмі засмучаны чалавек.

— Я і ведаў, што гэтая аперацыя скончыцца дрэнна, але такога, што вы будзеце паводзіць сябе як хуліган, — такога я не чакаў.

— Я правёў аперацыю ўдала і за смерць небаракі прамой адказнасці не нясу! — сказаў я.

— Дэ юрэ, можа, і не, а дэ факта, — ён развёў рукамі, — вы, безумоўна, вінаваты!

— Вінаватыя дзяжурныя, якія не былі на месцы! — апраўдваўся я. — Калі б няшчаснаму была аказана дапамога, ён быў бы жывы!

— І гэта праблематычна, калега. Аўтопсія пакажа, якая маральная віна ляжыць на вас. Калі смерць настала ад інсульту, дык гэта на вашым сумленні.

— Я вывеў яго з аперацыі жывым і ў добрым стане! — пацiснуў я плячамі. — За астатняе нясуць адказнасць іншыя. Акрамя таго, я ўпэўнены, ён памёр ад інфаркту.

Ён развёў рукамі і нічога не сказаў. Нейкі час мы памаўчалі.

— Ва ўсякім выпадку, вы паводзілі сябе амаральна, як хуліган. Як вы маглі?

Як я мог? Я не знаходзіў слоў адказаць яму. «Яны тое заслужылі!» — хацелася сказаць, але я прамаўчаў.

— Заўтра склічам калегію, абмяркуем вашы паводзіны і звернемся ў міністэрства з прапановай аб адпаведным пакаранні вас. А пакуль атрымаем адказ з міністэрства, я часова здымаю вас з пасады загадчыка нейрахірургічнага аддзялення. Спадзяюся, у вас няма падстаў злавацца на мяне? А дзяжурныя, якія не былі на сваім месцы, таксама атрымаюць сваё!

— Кожнаму па заслугах! — паспрабаваў я ўсміхнуцца, але з гэтага нічога не атрымалася.

Я кіўнуў галавой і выйшаў.

Я завярнуў у піўную «Пад ліпамі», і з прычыны таго, што там было поўна народу, месца вольнага за сталом не аказалася, я прымасціўся каля стойкі і выпіў запар два кухлі нямецкага піва. Што-небудзь іншае піў рэдка, а піва было маёй слабасцю.

— Ну, як, прафесар, жыццё? Усё добра? — пацікавіўся прыязна загадчык і па-сяброўску ўсміхнуўся.

— Усё добра! — кіўнуў я яму.

Дома нікога не застаў. Аны не было. У сталовай на стале быў пастаўлены прыбор на аднаго чалавека. Пасярод — засмажанае кураня. Збоку — бутэлька шампанскага і адзін бакал. Каля бутэлькі ляжала запіска: «Прабач, Лука, але мне крыўдна быць побач з мужам, які падазрае мяне!»

«Ну вось, яшчэ адна нявінна абражаная!» — усміхнуўся я сам сабе і скамячыў запіску. Потым узяў кураня і кінуў у вядро для смецця. Адчыніў буфет, дзе на ўсякі выпадак трымаў некалькі бутэлек віскі і каньяку. Рука сама пацягнулася да бутэлькі з каньяком; выпіў пяць ці шэсць добрых глыткоў.

У кабінет зайшоў з шумком у галаве. Апусціўся ў крэсла перад сталом і ўзняў вочы на «Возера з чырвонымі рыбкамі». У залацістую восень сядзелі на самотнай лаўцы мужчына і жанчына, бязмежна адчужаныя адно ад аднаго.

Пакуль сядзеў і разглядаў возера і самотную лаўку, адчуў у перадсэрдзі ўжо знаёмае паколванне іголак, лоб мой укрыўся халодным потам. Дацягнуўся да салдацкага ложка бацькі і кінуўся на яго як быў апрануты. У галаве як быццам шумеў вецер, у вачах роем успыхвалі і плылі залаціста-жоўтыя іскры.

6

Прачнуўся на досвітку саслабелы, з цяжарам пад сэрцам і ў галаве. Курыць не хацелася, але закурыў люльку, і ад тытунёвага дыму галава закружылася яшчэ больш. Накінуў халат і зноў прылёг. У вушах маіх шумеў марскі прыбой, хвалі як быццам разбіваліся аб каменны хвалялом, які быў ува мне самім.

Сцепануўся ад тэлефоннага званка. Я здзівіўся, убачыўшы, што ўжо дзевяць гадзін. Званіў прафесар Маркаў.

— Калегія сабралася, а вас няма! — папракнуў мяне шэф строга.

— Засядайце! — сказаў я. — Я адчуваю сябе кепска і прыйсці не магу.

Ён не пацікавіўся, што са мной, а нейкі час памаўчаў.

— Не па правілах судзіць вас у вашу адсутнасць, — загаварыў ён зноў, — але вы можаце сказаць мне зараз па тэлефоне тое, што сказалі б тут, калі б маглі прысутнічаць. Я ўсё запішу і давяду да ведама таварышаў.

— Мне няма чаго сказаць, — прамовіў я.

— Ну хоць слова прабачэння перад людзьмі, якіх вы гэтак груба зняважылі...

— Зрэшты... Доктару Паліеву скажыце, што я яму

мала даў, а медсястры Юліі перадайце, што шкадую...

— ...што ўдарылі яе?

— ... што не ўдарыў і па другой шчочцы!

— Вы жартуеце, калега! Але не забывайцеся, што яны могуць падаць на вас у суд!

— Каб стаць пасмешышчам перад усім светам? Не смяшыце мяне, калега!

— Я вас папярэдзіў пра пакаранне, якое чакае вас, а праз гадзіну мы будзем ведаць і вынік аўтопсіі. Дай бог, каб ён быў у вашу карысць!

— Ніякі вынік не можа мяне сагрэць, калі чалавек мёртвы! — сказаў я на гэта. — А што датычыць пакарання — пляваў я на яго. А ты яшчэ будзеш насіць ганьбу, што трымаеш у клініцы такіх нягоднікаў, як доктар Паліеў, і паскудніц, як гэная медсястра! — і кінуў трубку. «Ты», якое я сказануў яму, і тое, што як бы перад носам яго кінуў трубку, нібыта выпраменілі жыватворнае цяпло, якое разлілося ў мяне па ўсім целе.

Пасля гэтага я ўкусіў крыху хлеба, дастаў з бібліятэкі пераплецены том бацькавага дзённіка, прылёг і пачаў чытаць.

Манфер'е, 1. VI. 1939 г.

Той раніцай уся сям'я Бернараў пайшла ў горы на касавіцу — Эдмонд, яго сястра з мужам і сынам Луі. Эдмондавых дзяцей — дачку Стэфані і сына Анры — забрала да сябе grande mére Pauline. У хаце засталіся толькі мы ўдваіх — Эдмондава жонка Луіза і я.

Разлягаюся на свежым сене на вышках у адрыне, дзе паслала мне Луіза. Яна такая добрая і ўважлівая, што іншы раз робіцца нават няёмка. «Калі б вы, доктар, не выратавалі майго мужа, я была б цяпер удавой, и Анры — сіроткаю!» — казала яна тым вечарам, пасцілаючы мне на свежым сене. Гаворачы гэта, Луіза стаяла перада мной з рукамі на высокіх клубах, у кофтачцы, якая ў прыцемку выступала белай плямай; спадніцу скрадвала цемра, але я ведаў, што яна сіняя і ўсыпана чырвонымі кветачкамі. Убор мне добра запомніўся таму, што постаць яе міжвольна прыцягвала мае вочы, асабліва калі паблізу не было Эдмонда. «Луіза, — сказаў я ў адказ на яе словы ўдзячнасці, калі яна ладавала на вышках сена, — каму б ні выпала быць побач з тваім мужам у той небяспечны момант, кожны прыйшоў бы яму на дапамогу. Таму не думай, што ты мне нешта

вінна. Не трэба, каб ты адчувала сябе камусьці нечым абавязанай!» — «Можа, яно і так, — як бы пагаджалася і не пагаджалася яна, — але без вас, доктар, мы з Анры былі б цяпер самыя гаротныя і няшчасныя людзі не свеце!» На гэтым размова закончылася, бо на двор выйшаў яе дзевер кінуць сабаку хлеба. Яна моўчкі скончыла рабіць пасцель, ціха сказала «дабранач» і бясшумна спусцілася па хісткіх драбінах.

Праз шчыліны даху бачу, што сонца паднялося ўжо над садамі, але вылежваюся, уставаць не хочацца. Чую, як па двары ходзіць, снуе Луіза. К вечару вернуцца касцы, трэба будзе ўсіх накарміць. А цяпер трэба даць корму каню, замяшаць свінням, падаіць карову і спарыць малако. Але яна жанчына спраўная, усё паспее зрабіць, няма чаго за яе перажываць. Луіза — жонка майго таварыша Эдмонда, з якім звязвае мяне баявое сяброўства і агульны боль за прайграную бітву, таму я ніколі не дараваў бы сабе, калі б мае думкі знарок круціліся каля яе.

Надыходзіць час пакінуць Манфер'е. Старадаўні рукапіс перапісаў, адпачыў ад вайны, ужо нішто не затрымлівае мяне тут. Ужо думаю пра тое, як на дзень-два паскорыць ад'езд, каб хутчэй вызваліць Эдмонда ад клопатаў пра мяне. Ён тэхнік па рамонце веласіпедаў, да Іспаніі працаваў у недалёкім гарадку Фуа, а цяпер з-за мяне марнуе час у Манфер'е. У яго хапіла цярпення чакаць, пакуль я перапішу рукапіс, а цяпер можа падумаць, што мне проста прыемна палежваць на сене з пірэнейскіх лугоў. А як цудоўна пахне гэта сена, колькі пачуццяў абуджае ў душы, якія нараджае думкі... Але, трэба хутчэй выбірацца...

Мяне ўжо прыгнятае бяздзейнасць, а цяга дадому напірае ў грудзі. Нядаўна атрымаў ліст ад Соні. Калі я адпраўляўся ў Іспанію, яна рыхтавалася да экзаменаў. Цяпер піша, што яе прынялі ўрачом-стажорам у Аляксандраўскую бальніцу. Цікава, як яна выглядае ў белым халаце са сваім кірпаценькім носікам і тварыкам дзяўчынкі? На чыстым баку ліста яна абвяла ручку малога Лукі. Цяпер яму тры годзікі, а калі я пакідаў іх, ён толькі-толькі пачынаў усміхацца. Мне нават крыху сорамна, што ў памяці маёй сцерліся рысы яго тварыку.

Але больш за ўсё, бадай, мяне грызе і трывожыць тое, што страціў сувязь з арганізацыяй, што, нікому не паведамiўшы, даў сабе «вакацыю». Мае таварышы з ба-

тальёна, хто выйшаў жывы з акружэння, напэўна, ужо вярнуліся ў Сафію і зноў узяліся за справу. А я ляжу сабе на сене, пацягваюся, як лайдак, і часам думаю пра такія рэчы, ад якіх скаланаюся і чырванею.

Эдмондавы — беднякі, на стале ў іх няма лішняга кавалка, але мяне яны прынялі як свайго, і я ведаю, што развітвацца са мной ім будзе цяжка. Нават Эрве, Эдмондаў швагер, гэты маўклівы і грубаваты дрывасек з тварам чалавека Поўначы, але з душой правансальца, нядаўна падараваў мне цудоўную люльку, якую сам выразаў з чарэшні. Правансальцы — людзі сардэчныя і гасцінныя; пабудзеш у іх дзень-другі — і ты ўжо і х н і чалавек, калі толькі ты не які-небудзь стаўленік «улады»: інспектар, ляснічы, зборшчык падаткаў. Калі ты з гэтых — яны будуць трымацца з табой пачціва, але стрымана, з закрытымі сэрцамі. Нават іх жанчыны — шчодрыя на ўсмешкі — будуць праходзіць паўз цябе ганарліва, са сцятымі вуснамі. Як тая непрыступная Dame Giralda з сярэдневяковай нескаронай Тулузы, якую заваёўнікі-крыжаносцы ўтапілі ў калодзежы.

Але трэба збірацца ў дарогу. Цёплыя ўсмешкі і добрасардэчнасць размякчаюць душу, а я — баец і калі думаю, што мяне чакае, адчуваю, што месца пяшчотам няма. Нашаму пакаленню наканавана жыць сурова — у імя сардэчнасці, царства якой настане пасля рэвалюцыі. Пасля рэвалюцыі на тварах усіх сумленных людзей будуць свяціцца ўсмешкі, як усмешка Луізы, і людзі будуць спаборнічаць у высакародстве і справядлівасці, душэўнай шчодрасці ў адносінах да іншых. Калі думаю пра гэта будучае царства, гатоў біцца не ў адной, а ў ста грамадзянскіх войнах.

— Луко! — чую голас Луізы знізу, і сэрца маё падскоквае. — Калі не спіш, выглянí сюды!

Замест Лука я для яе «Луко».

Я заміраю каля лаза і ўнізе, пад сабою бачу адкрытыя Луізіны плечы. Яны бялеюць, нібы вылепленыя з паліраванага алебастру, хоць сонца яшчэ не ўзнялося над адрынай і Луіза стаіць у цяні. «Гэта таму, што гляджу зверху», — мільгае ў галаве здагадка, і мне робіцца няёмка.

— Луко, нагніся, вазьмі збанок з малаком! — гукае Луіза з асляпляльнай усмешкай.

— Але я ўжо злажу, дарагая Луіза, не трэба! — кажу я і ступаю на лесвіцу.

— О, не! — загадвае мне Луіза ўладарна і працягвае ўгору збанок з малаком. — Будзьце там, я іду да вас у госці!

Гасціннасць тут — закон, і я падпарадкоўваюся, нават падаю ёй руку, каб падстрахаваць і памагчы пераступіць парог.

Цяпер я ўжо разгледзеў, што яна ў святочнай кофтачцы са зборкамі на плячах, стан яе сцягнуты чырвонаю камізэлькай, ад чаго падкрэслена адкрываўся высокі бюст.

— Ты сёння такая прыгожая! — кажу я, бо ў Правансе прынята гаварыць жанчынам прыемныя рэчы.

— О, дзякую! — усміхаецца яна мне, і румянец залівае яе шчокі, — Вы не ведаеце, што сёння нікога няма дома і што мы засталіся зусім адны? Ну, сядайце ж ды выпіце малака, чаго марудзіце? — і яна першая апускаецца на сена, паказвае і мне рукой, каб сеў побач.

Я сеў каля яе, як яна паказала, п'ю малако. А пакуль п'ю, нейкая хваля замяшання пачынае залiваць мяне так моцна, што я ледзь не захлынаюся. Наогул, мы, дактары, людзі не з сарамлівых, і на тое ёсць свае прычыны. Акрамя таго, я пажыў у Парыжы, калі спецыялізаваўся па хваробах вачэй, і зусім не лічыў, што трэба трымацца святым. Плюс да ўсяго, у мяне была жонка, маладзейшая за мяне на пятнаццаць гадоў, так што я меў дастатковы мужчынскі стаж, каб не бянтэжыцца, нібы хлопчык, ад блізкасці жанчыны. Але вось, бач. ты, бянтэжуся і калі не выпускаю з рук збанка і не папярхаюся малаком, дык гэта толькі дзякуючы моцным мускулам, якія ў некаторых выпадках могуць служыць мне аўтаномна. Так або іначай, хваля збянтэжанасці залівае мяне з галавы да пят, і я яшчэ больш чырванею, калі адчуваю, што яе плячо прыціскаецца да майго. Я быццам апынуўся ў становішчы Эдмонда, калі пры нашым адступленні пад Бургосам яго зацiснулі франкісты, і давялося кароткімі перабежкамі дабірацца да іх і параю гранат расчышчаць яму шлях. А тут мне ніхто не прыйдзе на дапамогу. Вароты, напэўна, як заўсёды, закладзены, акрамя таго, дом наш стаіць на самай ускраіне сяла.

Яна бярэ маю руку, кладзе на сваю маленькую далоньку і здзіўлена ківае галавою:

— І гэта каб такая рука была ў доктара! Як толькі вы лечыце імі вочы людзей? Ім больш падыходзіла б

трымаць сякеру, а не далікатны інструмент! Ваша рука напраўду мацнейшая за Эдмондаву. Колькі франкістаў вы забілі?

— Пяць ці шэсць, — кажу. Іх было больш, але я памяншаю лік, каб не падумала, што выхваляюся.

— А як вы іх забілі? З вінтоўкі?

— Не! — удакладняю. — Штыком.

Яна нейкі час маўчыць, а кроў мая пульсуе. Потым яна зноў пытаецца:

— Напэўна, ваша жонка вельмі прыгожая?

— Чаму вы так думаеце?

— Бо самі вы прыгажун! Ці можа ў такога мужчыны быць непрыгожая жонка?

— Ах, Луіза, — спрабую я запярэчыць, — я ўжо стары, і такія рэчы для мяне ўжо не маюць значэння. Мне ўжо за сорак.

— Вы ў самым моцным узросце! Мужчына ў такім узросце — сапраўдны мужчына. — Яна нейкі час маўчыць, адымае сваю далонь, і мая рука падае ёй на калена. — Ці праўда, што вы гаварылі з Эдмондам пра ад'езд?

— Днямі намякаў яму пра гэта. Трэба збірацца. Бадай што заўтра або паслязаўтра скажу вам «бывайце».

Яна ўздыхае і маўчыць, але нават і не думае адымаць сваё плячо ад майго, скідваць маю руку з калена. А рука мая ляжыць на ім, нібы паралізаваная. Што мне было рабіць? Можа, палічыць мяне дурнем, але ж яна Эдмондава жонка!

— Мы людзі бедныя, — уздыхае яна. — У нас няма нічога такога, каб падараваць вам на ўспамін. Каб вы помнілі нас заўсёды. Я перад вамі ў даўгу і хачу, каб вы помнілі мяне дабром. Каб у вас пра мяне застаўся добры ўспамін! Паглядзіце ж на мяне, ну!

Яна прыціскаецца да мяне яшчэ мацней, кладзе сваю руку на маю, і, здаецца, вусны яе ўжо цягнуцца да маіх. Яе вочы прыплюшчаныя, а дыханне апякае мяне агнём.

Я ўжо не вытрымліваю. Калі яшчэ прамаруджу секунду-дзве, з Эдмондам скончана. Ці змагу я тады паглядзець яму ў вочы?

Я ўскокваю на ногі, нібы ўджалены асой, яна падае на сена, сіняя спадніца ў чырвоныя кветкі сама сабой агаляе яе калені.

— Як я мог забыць! — не прамаўляю, а крычу я. —

Ужо ж хутка дзевяць, я не заспею паштовага кур'ера ў Фуа! — Хапаю паліто, якое вісіць на цвіку, і ўсё крычу тым жа вар'яцкім голасам: — Я павінен перадаць ім вельмі важнае, вельмі важнае пісьмо! — І гэтак злятаю па лесвіцы ўніз, што па чыстай выпадковасці не скручваю сабе галавы.

Увесь дзень сноўдаюся па навакольных узгорках і лагчынах. Ляжу на траве, засынаю, потым да ачмурэння гляджу ў неба, якое тут, на поўдні, сапраўды ізумруднае і бяздоннае. Галодны, як воўк. Але вяртаюся дадому толькі пад вечар, калі ўпэўнены, што касцы ўжо дома.

Луіза не глядзіць на мяне. Толькі раз перахапіў яе пагляд — у вачах яе не было ні крыўды, ні злосці, быў проста сум.

## 7

Я прачытаў першы раздзел бацькавых «Запісак», і, хоць з-за тых ідыётаў з бальніцы быў не ў бог ведае якім добрым настроі, мяне разабраў смех, змяшаны з асаблівым пачуццём паблажлівасці, якое звычайна ўласціва чалавеку, калі ён бачыць недахопы вялікіх людзей. Дык вунь які спартанец быў мой бацька!.. Адмовіцца ад кахання правансалкі, ды яшчэ з высокімі клубамі і грудзямі, што выпіралі з камізэлькі, — гэтага я не разумею, альбо тое самае — не прымаю, бо гэта лічу правінцыялізмам вышэйшай маркі, правінцыялізмам часоў Балканскай вайны. Адмовіцца ад такой жанчыны — ну, гэта сапраўды ні на што не падобна. Усё роўна як я, калі Юля выстаўляла мне свае грудзі, адварочваўся б альбо, наадварот, глядзеў бы, як кот на смятану.

Ну, вядомая справа, цяпер Юля адвернецца ад мяне... І няхай ідзе да д'ябла! Калі ўсе жанчыны на свеце будуць рабіць гэтак, як Юля, і пакінуць чалавека, які трапіў у небяспечнае становішча, я ўсіх узнагароджу па заслугах. І няхай яны ўсе адварочваюцца ад мяне! **Чалавек у небяспецы** — вось лакмус, які паказвае, чаго ты варты. Калі пакінуў такога чалавека — ты «чрэў», як называлі чарвяка нашы продкі. А раз няма ў нас закона, які б караў за тое, што чалавек ператварыўся ў «чрэва», я сам буду чыніць суд, як умею. Ва ўсякім разе, у сваім асяроддзі і пакуль маю сілу, а там

няхай мяне караюць. Такія пакаранні, як я казаў шэфу на жаргоне сучасных хлопчыкаў, мне да лямпачкі.

Значыць, дзівіўся я з свайго бацькі і ў душы смяяўся з цнатлівасці яго паводзін, адначасна даруючы яму гэтую слабасць, бо кожны, нават вялікі чалавек, мае тыя ці іншыя недахопы. Аляксандр Вялікі, напрыклад, любіў выпіць. А Напалеон, як сцвярджаюць некаторыя яго біёграфы, дараваў сваёй Жазефіне тое, што яна здраджвала яму на кожным кроку. Думаючы пра гэта, я пайшоў у сталовую выпіць некалькі кропель каньяку, бо тым часам мне стала неяк млосна, пульс пачаў даваць перабоі, як дае перабоі матор майго «фольксвагена», калі засмечваецца паліўная помпа. Дастаў бутэльку і прысеў да стала, звечара так і не прыбіранага. Не хапала на ім толькі смажанага кураняці, якое я выкінуў у памыйнае вядро, а то малюнак быў бы той самы, што вечарам: адзін прыбор, адзін бакал пад шампанскае і адна паніклая гронка бэзу ў шкляной вазе. Цяжкая адзінота панавала за гэтым сталом. Як быццам стол накрыты быў на бязлюднай планеце, якую некалькі гадзін назад пакінуў перадапошні жыхар. Апошнім быў я. Вось чаму на стале быў адзін прыбор для яды і адзін бакал для шампанскага на развітанне. Вось чаму панікла ў вазе гронка бэзу — і яна была адна.

Карацей, я адчуў сябе так, як той Эдмонд з Манфер'е адчуваў бы сябе, калі б даведаўся, які «падарунак» яго жонка прапаноўвала майму бацьку, і асабліва калі бацька не адмовіўся б ад таго падарунка.

О, наіўныя рыцары трыццатых гадоў, калі б вы яшчэ не зваліся, дык «эдмондаў» менш было б на свеце і сам я не адчуваў бы сябе ў сваёй хаце як на пакінутай планеце. Вядома, пасмяяцца можна — хто адмаўляецца, калі красуня прапаноўвае сваю любоў! Тым больш што смех, як кажуць, — гэта здароўе. Але ставіцца да вас паблажліва — даруйце! Я сказаў бы так, што з вашае наіўнасці не грэх і пасмяяцца; але ў той жа час мы павінны з пашанаю скінуць шапкі перад вамі! Таму прапаноўваю тост за пашану!

Замест некалькіх кропель выпіў добры глыток. Сказаў жа тост. Дабрыў да кабінета і толькі хацеў быў зноў узяцца за бацькаў рукапіс, як зазваніў тэлефон. На гэты раз званіла шэфава сакратарка. Шэф даручыў ёй паведаміць мне, што паводле вынікаў аўтопсіі мой мастак памёр ад інфаркту міякарда.

— Калі жадаеце, магу зачытаць тую частку пратакола, якая датычыць рашэння калегіі, — прапанавала ветліва сакратарка.

— Мне будзе больш прыемна, калі вы раскажаце гэта сваімі словамі! — адказаў я. Небарака, напэўна, бянтэжылася, і я падахвоціў яе: — У вас вельмі прыемны голас, гаварыце ж!

— А дык... — Яна запнулася, кашлянула для смеласці і загаварыла: — Вы здымаецеся тэрмінам на год з пасады загадчыка аддзялення нейрахірургіі і будзеце атрымліваць зарплату ў адпаведнасці з штатным раскладам як пачынаючы ўрач.

— Цудоўна! — засмяяўся я.

— Што «цудоўна», таварыш прафесар? — спыталася яна холадна, быццам я пакрыўдзіў яе асабіста.

— Тое, што цудоўна расказваеце, дзіцятка маё!

— Дзякуй! — супакоілася яна.

— А пра пакаранне «пацярпеўшых» не маглі б сказаць некалькі слоў?

— Доктару Паліеву вынесена строгае папярэджанне, а медсястру Юлію Стаянаву на тры месяцы перавялі ў санітаркі. Яшчэ пытанні ёсць у вас, таварыш прафесар?

— Няма! — адказаў я. — Жадаю вам прыемнага дня!

Я прысеў да рабочага стала і загледзеўся на «Возера з чырвонымі рыбкамі». Там панавала залацістая восень, у паветры роем насілася залацістае лісце, і быццам аднекуль здалёку чуўся гук шарманкі, якая круціла старую песню:

Ой ты, бэз,
белы цвет,
ты ў душы маёй адцвіў...

Пульс у мяне скакаў і падскокваў, я нават падумаў быў: «Ін'екцыя лідакаіну, бадай, была б вельмі дарэчы!» Памалу дайшоў да ложка, лёг і зноў узяўся за бацькаў рукапіс.

Манфер'е, 2. VI. 1939 г.

Педантычна парадкую невялікі свой скарб у дарожным чамаданіку, які падараваў мне мясцовы «мануфактурыст» у падзяку за тое, што вылечыў у яго дачкі вочы ад запалення. Побач стаіць з непрыемным здзіўленнем на твары Эдмонд.

— Пара вяртацца на радзіму, — тлумачу яму. — Ніхто мне бестэрміновага адпачынку не даваў!

— Але ж ты займаешся вольнай практыкай? — заўважае Эдмонд, і я адчуваю ў голасе яго маленькую надзею. — Застанься хоць да канца месяца, пакуль збяром чарэшні. Паходзім у горы ў ягады, Луіза зварыць мармеладу, і ты зможаш узяць нейкі слоік на дарогу.

— Ты забываешся, што дома мяне чакае сям'я, — кажу я. — І справа, у якой адпачынку не даюць.

— Ну, — уздыхае Эдмонд і паціскае плячамі, — калі ты ўжо вырашыў і думаеш, што гэта трэба, то едзь!

— І потым, — працягваю я, — пара і табе, Эдмонд, брацца за справу. Табе ж трэба ў Фуа, там ты як велатэхнік заробіш больш, чым на зборы ягад!

Эдмонд скептычна ўсміхаецца і ківае галавой.

— Удзельнікам інтэрбрыгады, такім, як я, у Фуа, прыяцелю, работы няма! Ты думаеш, я не спрабаваў? Хадзіў у майстэрню, дзе да гэтага 15 гадоў рамантаваў вела розных марак, за што людзі з удзячнасцю паціскалі мне руку. І, ведаеш, як сустрэў мяне шэф? «Калі ты яшчэ раз пераступіш мой парог, я пазваню ў прэфектуру, што напаў разбойнік! Інтэрнацыяналісты мне не трэба. Пайшоў вон!» У Фуа такім, як я, работы няма!

— Паспрабуй уладкавацца ў Тулузе! — раю. — Анры лепш было б вучыцца ў гарадскім ліцэі, ды і Луізе, як мне здаецца, сельскае жыццё не надта па душы.

Эдмонд глядзіць сабе пад ногі і маўчыць, я ж канчаю важдацца з рэчамі і ў старую скураную сумку кладу спіс старадаўняга рукапісу. Сумку я буду насіць на плячы, так што рукапіс не забудуся дзе-небудзь і не згублю. У дарозе гэта будзе маім самым галоўным клопатам. Эдмонд пакашлівае, і на яго дабрадушным правансальскім твары, на якім выпісвалася здольнасць хутка загарацца і гэтак жа хутка астываць, з'яўляецца хітраватая ўсмешка:

— Тады і я еду з табою! — гаворыць ён і глядзіць на мяне так, быццам я хацеў яго абдурыць, а ён своечасова дапяў, і тое, што ён «дапяў», узняло яго на тры галавы ва ўласных вачах. — Паеду з табою ў Парыж, а там, як кажуць, — акіян. Ніхто пытацца не будзе, ці быў ты на рацэ Эбра і што там рабіў. Чалавеку патрэбен добры работнік — і ён цябе наймае, ты старaешся — табе добра плацяць. Да астатняга нікому справы няма! Ве-

ласіпед цяпер у Парыжы ў модзе, кажуць, што па алеях Шан-з-элізэ педалі круцяць тысячы людзей.

— Спадзяешся ўладкавацца на працу? — дзіўлюся я.

— Дзе тысячы круцяць педалі, там дзесяткі майстэрань па рамонту веласіпедаў. Хоць у якой-небудзь ды знойдзецца работа і Эдмонду!

— Гм! — сумняваюся я.

— Абавязкова паеду! — гаворыць рашуча Эдмонд.

Ужо калі правансалец у нечым пераканаццы, дык няхай пераканане яго ілюзорнае, але спрачацца з ім няма сэнсу: ён будзе адстойваць сваё, колькі змога.

— А як жа Луіза? — кажу я.

Ледзь заўважны цень прабягае па Эдмондавым твары, але толькі нейкае імгненне.

— Яна будзе чакаць мяне тут, — адказвае Эдмонд, схіляе галаву да левага пляча і нейкі час маўчыць. — Тут маці мая, сястра, адна не будзе!

«Яны будуць наглядаць за ёю, і ёй не будзе як круціць хвастом!» — сам сабе даводжу яго думку да канца.

— А ўладкуюся ў Парыжы — забяру да сябе і яе, і Анры! — гаворыць Эдмонд. — Даўно мару, каб Анры мой вучыўся ў каледжы!

«Чалавек, які турбуецца найперш пра ўладкаванне ў жыцці, — гэта ж будучы сацыял-дэмакрат!» — думаю я, і мне становіцца сумна. Але напэўна не ведаю, па якой прычыне сумна: з-за яго, з-за Луізы ці прычына тая ўва мне самім?

— А на якія сродкі будзеш жыць у Парыжы, пакуль знойдзеш работу, калі знойдзеш яшчэ? У цябе ёсць якія-небудзь зберажэнні?

— Адкуль? — паціскае плячамі Эдмонд, дзівячыся маёй наіўнасці: як я мог падумаць, што ў яго засталіся нейкія грошы! — Амаль два гады мяне дома не было, — удакладняе ён, — усё, што было адкладзена, за гэтыя два гады выпарылася да кроплі.

— Дык як ты будзеш жыць?

— А ты як?

— У мяне ў Парыжы ёсць таварышы, якія адразу пераправяць мяне ў Балгарыю.

— Вось што: я вазьму з сабой старую кнігу і прадам яе якому-небудзь антыквару. Не можа быць, каб не выручыў некалькіх франкаў пражыць хоць тыдзень. А за тыдзень шчасце, можа, і ўсміхнецца мне.

— Але ж кніга гэтая — рэліквія, талісман сям'і Бернараў!

— Я ўмацаваў сям'ю Бернараў нараджэннем Анры!

— Няхай, але кнігу ты павінен прадаць толькі Нацыянальнай бібліятэцы! — сказаў я цвёрда. — Толькі Нацыянальнай бібліятэцы! Яна аўтэнтычны дакумент сярэдневякоўя і мае вялікую гістарычную каштоўнасць!

— Галоўнае, каб мела вялікі кошт у франках! — летуценна заўсміхаўся Эдмонд.

Не ведаю чаму, я адчуў раздражненне і машынальна пачаў перакладваць рэчы ў чамадане, хоць усё там было спарадкавана з аптэкарскай дакладнасцю.

— Ну, як хочаш, — кажу. — Заўтра з раніцы я еду, не магу марнаваць часу!

— Да заўтра Луіза і маці збяруць нам што-небудзь на дарогу.

— Але ж ты, напэўна, яшчэ не гаварыў з Луізай, не параіўся з ёй!

— Ат! — махнуў рукою Эдмонд. — Луіза марыць пра Парыж ад нараджэння! Яна ўхваліць маё рашэнне хутчэй за каго іншага!

Манфер'е, 3.VI.1939 г.

Развітваюся з сям'ёй Бернараў. Звераваты з выгляду Эрве падараваў мне скураны капшук з духмяным паўднёвым тытунём. Grande mére Pauline благаслаўляе мяне і надзявае на шыю нейкі нікеляваны медальёнчык на тонкім ланцужку. Луіза нясмела, ледзь-ледзь дакранаецца да маіх вуснаў, але нашы вочы адкрадваюць секунду-дзве ад агульнапрынятага часу на развітанне замужняе жанчыны з чужым мужчынам — вочы яе вільготныя, і ў іх прыхавана ўчарашняя туга.

У Эдмондаў ранец і цыратавы яго чамадан сямейнікі паклалі нам тры кілаграмы казінага сыру, пасыпанага перцам, з тузін падковак дамашняе каўбасы і пляшку свежае інжырнае ракіі. Грошай, што сабралі мы разам, павінна было хапіць на дарогу, на хлеб і на тыдзень пастою ў дзяшовай гасцініцы.

Манфер'е і Бернараў пакідаю з цяжкім сэрцам.

У аўтобусе здымаю з шыі медальён grande mére Pauline. З аднаго боку яго выгравіраваны нейкі сярэдневяковы герб, з другога — рыцар на кані і надпіс на лангдокскай мове, які амаль немагчыма разабраць. Пытаюся ў Эдмонда, хто гэты рыцар.

— Ды гэта сувенірная штуковіна, такія ў нас скрозь прадаюцца, турысты купляюць іх ахвотна. А рыцар — гэта Раймонд-Ражэ Транкавел, і герб яго роду, Транкавелаў. Гэты Раймонд-Ражэ Транкавел быў калісьці сеньёрам большай часткі аксітанскае зямлі, заступаўся за ерэтыкоў. Гэта толькі і ведаю пра яго.

Хаваю сувенір у бумажнік і думаю: «Ці не дзівак-чалавек быў гэны Транкавел! Валодаць багатаю, сонечнаю Аксітаніяй і ў той жа час заступацца, быць апекуном ерэтыкоў!..» І яшчэ падумаў: «Што ж, няхай гэта будзе маім талісманам!»

Гэтыя радкі пішу на вакзале ў Тулузе, пакуль чакаем цягніка.

Парыж, 20.VI.1939 г.

Коратка апішу нашы прыгоды з дня прыезду да пярэдадня вялікай дэманстрацыі Народнага фронту:

Пасяліліся мы ў Evry, прыгарадзе Парыжа, кіламетраў за трыццаць ад яго на захад. Нанялі пакой у новым гатэлі, пад рамантычнаю назваю «Марго». Спачатку я падумаў, што гатэль ахрышчаны гэтак у гонар Маргарыты Наварскай, жонкі караля Генрыха IV, якую ў народзе называлі проста «каралева Марго». Тая, што ў крывавую Варфаламееўскую ноч схавала ў сваёй спальні аднаго раненага пратэстанта, якому ўдалося ўцячы, і што праз тры стагоддзі натхніла А. Дзюма напісаць «аднайменны» раман. Потым даведаўся, што назва гатэля не звязана наўпрост з імем Маргарыты Наварскай. «Марго» азначала толькі, што гатэль належыць акцыянернаму таварыству «Марго» — гандаль рэчамі дамскага туалету і ўпрыгожанняў.

Узялі пакой на трэцім паверсе, бо вышэй паверхаў не было. Хоць і народжаны ў прыгарадзе, «Марго» быў чысты і ўтульны, на кожным паверсе ў кожным нумары меўся душ, дзе можна было памыцца і, паводле практычнага розуму Эдмонда, памыць бялізну. На наша шчасце, вокны глядзелі якраз на аўтобусны прыпынак. Да Issy аўтобусам А-6 ехаць хвілін сорак. Адтуль адлегласць да Трыумфальнай аркі аўтобусы пераадольвалі за 40—50 хвілін. Так што ад Evry да сэрца Парыжа можна было даехаць гадзіны за паўтары — пра лепшае ў нашым становішчы і марыць не даводзілася!

Пасля таго як мы ўладкаваліся і прывялі сябе ў парадак — магчымасці, вядома, былі не бог ведае

якія — пагаліліся і пераадзеліся ў чыстае, — кінуліся ў Нацыянальную бібліятэку на вуліцу Рышэлье, у той раён, дзе знакамітыя Рывалі і Ру дэ ля Пэ са сваімі славутымі вітрынамі. Нас прыняў нейкі загадчык аддзела з гладкім тварам і круглым жыватом. Ён уталопіўся з вялікай цікавасцю ў нашу старадаўнюю кнігу, пагартаў, сям-там прабег вачамі; нарэшце папрасіў пачакаць, каб ён мог параіцца са спецыялістамі-медыявістамі. Чакаць давялося доўга, больш за гадзіну. Мы ўжо цешылі сябе; пасля такога доўгага чакання, меркавалі мы, выйдзем адсюль багатымі. Але калі наш начальнік з'явіўся зноў, надзеі нашы адразу звялі. Са словамі: «Прыходзьце праз дзень-два, панове!» — ён развітаўся з намі і выправіў за дзверы.

Два дні мы сядзелі на дамашніх прыпасах з некалькімі глыткамі інжырнае ракіі. Кожны раз, беручы ў рукі пляшку з ракіяй, я казаў у думках: «Будзь здарова, Луіза!» — але на Эдмонда глядзеў адкрыта, маё сумленне было спакойнае.

Я схадзіў у гарадскі камітэт Фронту даведацца пра каго-небудзь з знаёмых балгарскіх антыфашыстаў. Там пацікавіліся, ці не змог бы я на нейкі час падмяніць інструктара Фелікса з Першай секцыі, якога паліцыя арыштавала на нядаўняй дэманстрацыі і яшчэ трымае. Я ахвотна згадзіўся, нават узрадаваўся. У Першую секцыю ўваходзілі заводы «Рэно» і «Сітраэн», таварышы адтуль павінны былі забяспечваць ахову дэманстрацый, якія праводзіліся ў цэнтры горада.

У другой палове кожнага дня я быў вольны. Пабываў у музеі імпрэсіяністаў і ў Галерэі новага мастацтва, што каля Тракадэро. Было такое адчуванне, што з вытанчанай цывілізацыі, увасобленай імпрэсіяністамі, я трапіў у свет людаедаў, у джунглі вострава Самоа.

На трэці дзень зноў пайшлі з Эдмондам у Нацыянальную бібліятэку да нашага начальніка з круглым жывоцікам. На гэты раз у яго быў выгляд чалавека, якому дакучаюць.

— Панове, ваш рукапіс зусім не аўтэнтычны, як вы сцвярджаеце, — загаварыў без ніякіх прадмоў. — Ваш рукапіс — копія, спіс, зроблены ў XVI стагоддзі. Магчыма, і ён спісаны з нейкага спісу. Наогул, ніхто не ведае і ведаць не можа, у якой ступені спісы адпавядаюць арыгіналу з XIII стагоддзя. Вось чаму тое, што вы мне прапануеце, амаль не мае гістарычнай вартасці.

— І колькі вы збіраецеся даць нам за кнігу, шаноўны васпан? — паспяшаўся з запытаннем нецярплівы Эдмонд.

— Не больш як сто франкаў, пане мой!

У Эдмонда пачырванелі шчокі, загарэліся вочы.

— Вы не жартуеце, шаноўны васпан?

Паўднёвец, дый толькі! Чаго добрага, ён зараз возьме яго за каўнер або ўздыме такі гвалт, што расхістае падмурак гэтага вялікага будынка!

— Пакінь, Эдмонд! — сказаў я, сціскаючы яго за локаць. — Ці ты не бачыш, ім не патрэбна наша кніга! Пайшлі адсюль!

Не ведаю, як адчувалі сябе выстраеныя жанчыны і мужчыны на Ру дэ ля Пэ, слухаючы яго лаянку, якую ён з аксітанскаю нястрымнасцю сыпаў налева і направа, але я разумеў яго — зачапілі сямейны гонар Бернараў! Гэтулькі стагоддзяў Бернаравы нявесткі перахоўвалі і бераглі рукапіс, з ім род Бернараў пераступіў у XX стагоддзе, і вось нейкі чыноўнік ацэньвае яго ў сто франкаў, быццам гэта чаравікі шаўцоў-саматужнікаў!

Я сам не разумеў: нават калі кніга не арыгінал, а спіс XVI стагоддзя, яна ўсё роўна мае вялікую гістарычную вартасць — і ўласна гістарычную, і як літаратурны помнік! Азадачвалі непрыязныя адносіны, якія выявіў да яе такі аўтарытэтны інстытут, як французская Нацыянальная бібліятэка. Няўжо ў асобе гэтага закругленага чыноўніка рукапіс сустрэў свайго спаконвечнага ворага? Не дзіва, калі Раймонд-Ражэ Транкавел і сёння мае супрацоўнікаў.

Так або інакш, мы атрымалі нечаканы ўдар.

У наступныя два дні мы прапаноўвалі рукапіс у многіх кнігарнях букіністам, але ўсюды ў адказ холадна пацiскалі плячамі. Нарэшце нейкі гандляр-кніжнік на Ру дэ Батыньёл угаварыў нас прадаць рукапіс за 250 франкаў. Не ведаю, можа, шчодрасць гэтая выходзіла ад ценю, які рамантычны Манмартр кідаў зверху... Кніжнік гэты, аднак, не меў на той час «гатоўкі» і прапанаваў прынесці рукапіс на другі дзень.

Занеслі «дадому» кнігу, перакусілі дамашняю каўбасой, пацягнулі інжыравай і разышліся — кожны ў свой бок.

А калі вечарам сышліся ў гатэлі, аказалася, што рукапіс прапаў.

Ніхто да нас не прыходзіў, ніхто намі не цікавіўся,

пакаёўка наша пасля абеду не паказвалася — у яе быў выхадны.

Парцье абыякава паціскаў плячамі. Гэта быў ветлівы чалавек у традыцыйнай форменнай шапцы, з традыцыйнымі вусамі і традыцыйнай усмешкай.

— Вельмі шкадую, панове!.. А вы ўпэўнены, што дзе-небудзь не забыліся кнігу?

Дзякуй богу, да майго спісу ніхто не дакранаўся: ён ляжаў цалюткі на дне майго чамаданіка.

Эдмонд гэтую сумную падзею перажываў страшэнна. Біў кулакамі падушку, сцягнуў з ложка на падлогу пакрывала, абшнарыў усе куткі пад ложкамі, пад столікам і нарэшце, прыбіты, прыведзены ў роспач, абсунуўся ў крэсла і доўга сядзеў, уталопіўшыся ў адну кропку.

Нарэшце, калі самая бура мінулася, ён ударыў кулаком па стале і ўскінуў галаву:

— І ўсё ж я не здамся!

— Што ты маеш на ўвазе, Эдмонд?

— Назад у сяло не паеду!

— Ну, не паедзеш. А далей што?

— Калі трэба будзе, паўзком прапаўзу ўвесь Парыж, з усходу на захад і з поўначы на поўдзень, але работу сабе знайду!

— Толькі не «калі трэба». Трэба!

— Няхай гэтак! Манфер'е і Луізе абрыдла. Ведаеш, у тую ноч, перад нашым ад'ездам, плакала да раніцы. Пакутуе, небарака!

Я нічога на гэта яму не сказаў.

Ён устаў:

— Бывай!

— Шчаслівa! — усміхнуўся я на развітанне.

Наша становішча рабілася паграгжальным. Праз тыдзень нам ужо не будзе чым плаціць за пастой.

Да 5 гадзін сноўдаўся па Луўры.

Потым падаўся наўздагад па Ру дэ ля Пэ, бяздумна разглядваючы шыкоўныя вітрыны і старыя пачарнелыя фасады дамоў. На дзвярах нейкага рэспектабельнага пад'езда ўбачыў мармуровую плітку з надпісам залатымі літарамі: «Прыватная клініка па хваробах вачэй. Д-р Марыс Бруйя». Пайшоў далей, але, як гаворыцца, раптам шчаслівая думка прыйшла ў галаву, і я хутка вярнуўся назад.

Швейцару, які мне адчыніў, падаў патрапаную візіт-

ную картачку, якая захавалася ў мяне яшчэ з таго часу, калі праходзіў стажыроўку ў доктара Жака Марто.

У летні сезон многія клінікі Парыжа задыхаюцца ад недахопу медыцынскага персаналу — дактары бяруць адпачынак і ўцякаюць з горада. Адны едуць у Альпы, другія — на сонечныя міжземнаморскія пляжы. Гэтак было ў свой час і ў клініцы доктара Жака Марто. Я хоць і быў практыкантам, але колькі складаных аперацый давялося мне тады зрабіць, каб не ўпусціць багатых кліентаў!

Доктар Марыс Бруйя, чалавек у гадах са стомленым тварам і журботнымі вачамі, якія, напэўна, калісьці мелі чысты блакітны колер, перш-наперш пацікавіўся, ці магу я пацвердзіць якім-небудзь дакументам, што спецыялізаваўся пры клініцы яго калегі Жака Марто. Я паказаў яму атэстацыйнае пасведчанне.

— А што вас занесла ў Парыж у такі час?

— Сантыментальныя прычыны, доктар! — уздыхнуў я. — Сувязь, якая засталася яшчэ з тых часоў.

Калі размова заходзіць пра «сувязь», кожны сталы і паважаны француз успомніць «галантныя» прыгоды сваёй маладосці.

— Тэ-эк... Тэ-эк! — падміргнуў па-змоўніцку доктар Бруйя. — Я вас разумею! — І з наіўнаю ўсмешкаю, якой ён марна стараўся надаць выраз гэтакай хітранькай, дадаў: — Гады два-тры таму назад я сам на калядах адскокваў у адзін горад sur le côte d'Azure!

За час, што мы вялі гэтую мужчынскую размову, некалькі разоў званіў тэлефон, але доктар Бруйя не пажадаў падняць трубку. Увайшла медсястра, маладая і прыгожая, перапыніла нас:

— Званіў пан Клод Арбен, аптовы гандляр мануфактурай, з сваёй версальскай вілы — аса ці пчала ўджаліла яго дачку Бету ў левае вока. Просіць неадкладнай дапамогі, прывязе дачку на машыне.

Доктар Бруйя нейкі час маўчаў, потым развёў рукамі, сказаў, што сёння ён змораны і на сёння з яго хопіць, а доктар Венсан адзіны, апрача яго, у клініцы, пасля абеду пайшоў, бо жонка збіраецца раджаць.

— У самы непрыдатны момант! — паківаў галавой пан Бруйя.

Потым неяк раптам як быццам успомніў пра мяне:

— Вось вам выпадак, пане мой, паказаць, на што вы здольны... Возьмецеся? Калі праявіце ўмельства, будзеце

ў мяне да канца месяца. Сёння ж можаце атрымаць аванс у 500 франкаў!

Купіў сабе прыстойны спартыўны касцюм, рубашку ў сінюю палоску і гальштук-бабачку, расквечаны ў чырвонае. І яшчэ засталося сто франкаў.

Вось калі мне нарэшце пашанцавала. І дзе — на Ру дэ ля Пэ, былой вуліцы Напалеона.

«Заўтра трэба купіць і паднесці прыгожанькай сястры ружы, — думаў я, едучы ў аўтобусе. — Па сутнасці, гэта яна прывяла мне першага кліента».

Парыж, 21.VI.1939 г.

Парцье падаў мне пісьмо, атрыманае ўчора пасля абеду з «хуткай поштай». На бланку «Прыватнай клінікі па хваробах вачэй д-ра Марыса Бруйя».

«Паважаны васпане,

За зробленыя Вамі аперацыі ў нашай клініцы Вам належыць атрымаць ганарар. Каса выплачвае ганарары кожны месяц 21-га і 7-га чысла, ад 11 да 13 гадзін.

З павагай Галоўны рахункавод...»

...імярэк. Кланяюся вам, шаноўны Імярэк! Ніякае пісьмо ніколі не прыходзіла мне больш своечасова, як Ваша!

Паціраю шчасліва рукі.

Парцье пытаецца:

— Напэўна, добрая навіна, пан доктар?

— О, шаноўны! — смяюся я. — Сёння вы атрымаеце ад мяне прэзент — сто грамаў першасортнага тытуню «данхіл»! Здаецца ж, мы з вамі калегі па люльках?

— Але, пан доктар, я часта бачыў вас з люлькай!

— Правільна! Таму, шаноўны, сёння вечарам вы атрымаеце ад мяне сціплы падарунак — сто грамаў адменнага тытуню для люлькі ў бляшанцы!

Раніца адразу для мяне пасвятлела, а свет пачаў здавацца прыгажэйшым. Як своечасова прыйшло гэтае пісьмо! Я застаўся з некалькімі франкамі ў кішэні. У Эдмонда прасіць я не мог, бо ён сам яшчэ не атрымліваў за сваю работу авансу. Еў ён у крэдыт у сталоўцы па суседству з майстэрняй, куды яго ўзялі механікам.

Як успомніў пра Эдмонда, адразу мне зрабілася прыкра.

Учора кажу яму:

— Эдмонд, заўтра вечарам будзе вялікая дэманстрацыя супраць мюнхенцаў, фашызму і Гітлера. Ты прыйдзеш?

Ён глядзіць на мяне насуплена, нарэшце паціскае плячамі:

— Калі ты скажаш: «Эдмонд, заўтра вечарам будзе бітва не на жыццё, а на смерць з капіталам, вось табе вінтоўка і патроны, ці прыйдзеш?» — я скажу адразу: «Прыйду!» А хадзіць на дэманстрацыі, якія нічога не даюць, і каб мяне лупілі жандары, гналі з работы ды інтэрніравалі ў сяло — мерсі! Не пайду!

— Як хочаш! — толькі і сказаў я. І больш не заводзіў з ім размовы пра гэта.

Цяпер я больш чым упэўнены, што гэты чалавек калі-небудзь стане ўласнікам майстэрні па рамонту веласіпедаў.

Прыходжу ў секцыю супрацiўлення фашызму Народнага фронту, перад тым паснедаўшы па дарозе сэндвічам з кавай у бістро. Грошай засталося на пачак тытуню, газеты і чарку каньяку.

У секцыі мяне ўжо чакаюць сакратары трох новых антыфашысцкіх камітэтаў. Пачынаем работу.

Адразу пасля абеду заходжу ў касу і крыху нядбайна скідаю капялюш.

— Мне сёе-тое належыць атрымаць! — звяртаюся да касіра. І з той жа нядбайнасцю падаю яму пісьмо галоўнага рахункавода.

Ён з засяроджаным тварам чытае запіску, кладзе яе ў папку, а з другое папкі дастае і падае мне распіску.

— Вось што вам атрымаць, — кажа ён. — Распішыцеся, калі ласка!

У вачах маіх заскакалі лічбы. Прыгледзеўся — што там пазначана ўнізе — і дых мне заняло: 500 франкаў! Акурат столькі, колькі атрымаў авансу. Цяпер застаецца толькі распісацца, і не атрымаю ні сантыма... Ах, ліха на яго!.. Дзе ж узяць грошай хоць на бляшанку «данхілу», што паспяшаўся паабяцаць парцье?

Касір паглядзеў на подпіс, які я вывеў на чэку, дастае з касы кіпу банкнотаў, пералічвае іх і кладзе перада мной на стойку.

— А што гэта вы мне даяце? — гляджу я на яго здзіўлена.

— Даю вам столькі, за колькі вы распісаліся, шаноўны!

Касір вельмі старанна, што, здаецца, зараз вылузаецца са скуры, водзіць пальцам па чэку і тлумачыць,

што тры аперацыі, па 2500 франкаў кожная, каштуюць 7500 франкаў.

— Ага, ага! — ківаю галавою. — Правільна. Прабачце!

— Хвіліначку! — затрымлівае мяне касір, калі я ўжо збіраюся ісці. — Для вас маецца яшчэ нешта. — Ён падае мне канверт. — Прашу!

Адкрываю канверт. У ім тры банкноты па тысячы франкаў і візітная картка Клода Альбена, аптовага гандляра: «Выпіце за здароўе маёй дачкі Беты, якой вы так цудоўна прааперыравалі вока!»

— Ці варта браць гэта? — кажу я, пагардліва пстрыкаючы па банкнотах пальцам.

— Бярыце, бярыце! — падахвочвае мяне касір. — Ён паслаў вам гэта з удзячнасцю і ад сэрца. Ды яму такія грошы — дробязь!

Выходжу на вуліцу, і хоць надвор'е цудоўнае, чамусьці ў мяне круціцца галава. Дзесяць тысяч пяцьсот — ды я ж амаль што мільянер! Мільянер, асабліва калі мець на ўвазе, што сярэдні заробак тут не перавышае 700 франкаў!

Прыкідваю: 5000 франкаў унясу ў фонд Народнага фронту супраціўлення фашызму. За рэшту куплю падарунак жонцы, карціну з якой-небудзь выстаўкі і паеду праз Італію, па дарозе наведаю музей Uffici ў Firenze.

За турботамі вакол новых камітэтаў мне часу не хапіла пакласці грошы ў якую-небудзь ашчадкасу на захаванне.

Набліжаецца сем гадзін, і я накіроўваюся да Плас Канкорд, дзе мае адбыцца мітынг. Мяркуецца пасля мітынгу правесці дэманстрацыю па Шан-з-элізэ. Падыходжу да шырокае плошчы, яна ўжо кішыць усхваляваным людам. Працярэбліваюся праз натоўп да парку Цюэльры — пры ўваходзе там будуць выступаць прамоўцы. Нарэшце дабіраюся да прыступак цэнтральных варот — перад вачамі ў мяне бязмежнае мора людзей, аж да самай Трыумфальнай аркі. Раптоўна выбухае шквал воплескаў, як быццам хвалі сапраўднага мора разбіваюцца аб гіганцкі хвалялом. Прамоўца, старшыня Фронту, пачынае гаварыць, стоячы на плячах крэпкіх мужчын. Скрозь выбухі частых воплескаў улаўліваю:

— Грамадзяне! Айчыне пагражае небяспека!.. Пад пагрозай дэмакратыя!.. Над нашай радзімай навіслі чорныя хмары фашызму... Прэч Гітлера!.. Прэч!..

Недзе непадалёк бабахаюць стрэлы — пачалі страляць паліцэйскія ў цывільным. Апошнім часам такое здараецца нярэдка — толькі пачынаецца мітынг, і загадзя расстаўленая паліцыя шалёнай зграяй накідваецца на дэманстрантаў. Гэта бачу і цяпер.

— Далоў фашыстаў!.. Далоў!.. — чуецца тысячагалосы крык каля падножжа статуі Згоды. Мора кулакоў уздымаецца разам:

— Далоў!..

Ужо ляцяць паліцэйскія машыны ад Шан-з-элізэ, равуць матацыклы ад Арк Карусель, цокаюць падковы коннай паліцыі — цэлы эскадрон яе ўрэзаўся ў натоўп з вуліцы Рывалі.

Мы абкладзены з усіх бакоў. Ускіпае звычайны бой: кулакі супраць дубінак, людзі супраць ашалелых коней, аголеныя шаблі бліскаюць у святле толькі што запаленых ліхтароў. Неймаверная каша з гневу, удараў, лаянкі, крыку. У чалавечае мора ўліліся атрутныя рэкі мундзіраў, а яно іх не прымае, але не мае сілы супрацьстаяць, удары гумавых дубінак і шабель плазам перамагаюць.

Я подбегам паспяшаю да Рывалі — у той меры, у якой можна паспяшаць у масе людзей, бітых і гнаных з усіх бакоў. Каля агароджы Цюэльры два паліцэйскія трымаюць за рукі маладую жанчыну ў летнім касцюме фіялетавага колеру, яна тузаецца, круціць галавой, бездапаможна азіраецца наўкола. Убачыўшы непадалёк мяне, крычыць голасам тапельца:

— Таварыш, дапамажыце!

Якая роспач і надзея ў гэтым крыку!

Я ні пра шло не думаю, ды і няма калі раздумваць. Нібыта нейкая сляпая сіла паварочвае мяне і кідае на паліцыянтаў. Б'ю ў сківіцу аднаму, другі хапаецца за кабуру, але я дастаю яго нагою ў жывот, і ён падае на дол і расцягваецца поруч з сваім напарнікам. Хапаю за руку жанчыну, і мы бегма кідаемся праз натоўп, на той бок вуліцы Рывалі, і вось мы ўжо на другім тратуары. Перад намі зіхатнула вітрына ювелірнага магазіна, я штурхаю дзверы і прапускаю жанчыну перад сабой. Шлях нам заступае бамбіза, які трымае правую руку ў кішэні. Мабыць, выкідала.

— Што робіцца! — крычу я на ўвесь голас. — Немагчыма купіць жонцы аздобу. Дакуль улады будуць глядзець на гэтае бязладдзе!

— Вы прыйшлі купіць што-небудзь, шаноўны? — пытаецца выкідала, аглядаючы мяне з галавы да ног.

— Няўжо вы думаеце, што гаманіць пра надвор'е і пра Гітлера, шаноўны?

— Не, прабачце... А што канкрэтна цікавіць вас?

— Як сказаць... Сёння ў маёй жонкі дзень нараджэння, разумееце?

— Калі ласка, праходзьце ў суседняе аддзяленне. Упрыгожанні там, а тут гадзіннікі і канцылярскія прылады.

На момант азіраюся і неўпрыкмет далікатна сціскаю жанчыне пальцы. Мы апынуліся перад дзвярамі храма Ваала, дзе ўбачым бляск высакароднага металу. І мы ўбачылі сапраўдны храм. Праходзім, аднак, з выглядам людзей, якіх не здзіўляюць ніякае золата і ніякія дыяменты.

А сэрца маё тахкае, як у спуджанай птушкі: за дзвярамі той здаравяка, што сустрэў нас, папярэджвае некага пры ўваходзе:

— Зачыніце, калі ласка! Прашу вас!.. Не палохайце нам кліентаў!

Хто яго ведае — чаму, але абое мы ўздыхнулі з палёгкай. І разам заўсміхаліся. Дзве прадаўшчыцы ў асляпляльна белых фартушках думаюць, што мы ўсміхаемся ім, і адказваюць нам асляпляльнымі, як фартушкі, усмешкамі.

— Калі ласка, мадам, мсье!

— Мадам і іх міласць цікавяцца ўпрыгожаннямі! — чуем ад дзвярэй голас здаравякі.

Ветлівае «калі ласка» ашаламляльна зліваецца з бляскам каштоўных камянёў, пра якія толькі чытаў у кніжках. Але сёе-тое распазнаю. Паказваю «мадам» калье, каралі. Святло лямпаў са столі скіравана так, што калье і каралі зіхцяць, пераліваюцца выпраменьваюць рознакаляровае ззянне, як у казках «Тысячы і адной ночы».

— У мадам сінія вочы, і гэтае калье ёй будзе вельмі да твару! — міла шчабеча адна з прадаўшчыц. — Вам падабаецца, мадам? Чырвонае з сінім.

У калье тры рады малочна-сінявата апалаў, падсвечаных уманціраванымі ў іх маленькімі, нібы кропелькі расы, рубінамі.

— Вам падабаецца, мадам?

— О! — Твар у «мадам» адразу стаў тужлівы. Яна

разглядвае апалы і рубіны і з тугою ўсміхаецца. Гэтак чалавек усміхнуўся б, калі б яму сказалі: «Ці хочаш купіць і мець назаўсёды гэту цудоўную месячную ноч?» Такая была ўсмешка ў «мадам». І я неяк адразу ўбачыў, што яна прыгожая і што нечым падобная на маю жонку. — О-о! — паўтарае «мадам».

Маё сэрца заходзіцца ад гэтага тужліва-летуценнага «о-о!».

— Цудоўна! — кажу я. — Калі яно табе падабаецца, я куплю з задавальненнем. Пані, колькі каштуе гэтае калье? — пытаюся я ў прадаўшчыцы.

— Дзесяць тысяч пяцьсот франкаў, мсье!

На момант я патанаю ў нейкае небыццё, дзе няма ні гукаў, ні святла. Як у непрытомнасці. Але непрытомнасць мая, дзякаваць богу, доўжылася толькі імгненне. Зрэшты, не каштуе яно, колькі месячная ноч ці хоць бы ўсмешка «мадам»!

— Дзесяць тысяч я мог бы даць! — кажу я.

— Будзьце ласкавы, мсье, пачакайце хвіліначку! — ківае галавой прадаўшчыца. — Я спытаюся ў загадчыка, ці згодзіцца ён зрабіць вам такую ўступку.

Пакуль яна бавіцца, мая «жонка» паварочваецца да мяне са збялелым тварам і шэпча ціха, зусім ціхутка:

— Ці ў сваім вы розуме? Апамятайцеся!

Я паціскаю плячамі і працягваю рассеяна разглядваць зіхатлівыя рэчы пад тоўстым крышталёвым шклом вітрыны.

Прадаўшчыца прыходзіць і паведамляе, што шэф згодны зрабіць уступку толькі таму, што ў мадам сёння дзень нараджэння. Яна запрашае нас прысесці — пакуль наша пакупка будзе ўпакавана і бухгалтэрыя выпіша рахунак. Нейкае танюткае дзяўчо прынесла нам у крышталёвых чарках залацістага каньяку і ад імя ўпраўляючага пажадала мадам шчасця. Калі мы застаёмся адны, «мадам» зноў паўтарае: «Вы не ў сваім розуме!» — але бледнасць з яе твару ўжо сышла. Нават цудоўны румянец прабіўся на яе шчоках, і мне пачало здавацца, што яна зусім падобная на маю жонку.

— Ну, давай! — кажу я. —Як цябе зваць?

— Мары.

— Ну, давай, Мары, вып'ем, каб ты шчаслівa насіла гэтыя каралі!

Залпам выпіваю каньяк. Яго там кропля, але чартоўскі моцны, я адразу адчуў, як ударыла ў галаву.

Мары ледзь-ледзь дакранаецца да каньяку вуснамі.

— Дзе працуеш, Мары?

— Прадаўшчыцай у «Лафайе». Калі б вы не выратавалі мяне ад тых, дык адразу звольнілі б! Але навошта вы робіце гэтае глупства? Хіба расходуеце не свае грошы?

— Мары, вам не здаецца, што вы крыўдзіце мяне?

— Божа мой, але багацеі не ходзяць на такія дэманстрацыі, багацеі не б'юцца з жандарамі з-за нейкае дзяўчыны!

— Вы прыгожая, Мары, не прыбядняйцеся!

Яна спалохана зірнула на мяне, але ў гэты час увайшла прадаўшчыца. Запрашае мяне да касіра. Плачу. Аддаю Мары скрыначку з каралямі і дзякую прадаўшчыцы.

На выхадзе чалавек папярэджвае:

— Глядзіце, мсье! Не трэба, каб мадам несла адкрыта гэткую дарагую рэч! Усякае бывае!

Зварочваем хутка ў першую ж вуліцу з Рывалі, каб быць далей ад небяспечнага Плас Канкорд. На шчасце, насустрач едзе вольнае таксі, і я спыняю яго.

— Мары, дзе ты жывеш?

— Чаму? — з трывогай у голасе адказвае Мары, і як быццам цень прабягае па яе твары.

Я адчыняю дзверцы, і яна садзіцца ў машыну.

— Таму што хачу павячэраць з табой дзе-небудзь у тым баку, дзе ты жывеш! — кажу я.

— Да станцыі Сен Лазар! — ківае яна шафёру.

— Над станцыяй Трынітэ, пад Пігалем ёсць цудоўны рэстаран-бар, — падказвае паслужліва шафёр.

— Добра, вязіце нас да таго рэстаран-бара! — згаджаюся я і думаю тым часам пра цень, які прабег па твары Мары, калі я спытаўся, дзе яна жыве. «Напэўна, думае, што разлічваю паспаць з ёй!» — мільганула здагадка. Усміхаюся ў душы, што першая падумала пра гэта яна. Я наогул ні пра якое спаннё не думаў, калі спытаўся, дзе яна жыве.

Рэстаран-бар першакласны, і парцье сумняваецца — пускаць мяне ў маім спартыўным касцюме ці не пускаць, але я суну яму ў руку дзесяціфранкавую банкноту, і ён перастае вагацца.

— Сказаць шчыра, у мяне няма ніякага жадання вячэраць, — уздыхае Мары. Яна бянтэжыцца і гаворыць тонам вінаватага дзіцяці.

— Што ж, тады спусцімся адразу ў бар і што-небудзь возьмем перакусіць, — кажу я. — Гэта, бадай, нават больш прыемна!

Сядаем за столік непадалёк ад аркестра. Гэта струнны аркестр, іграе танга і класічныя вальсы. Заказваю Мары крыху віскі, сабе інжырнай ракіі, бутэльку шампанскага. І чым больш закускі. Нейкі час сядзім моўчкі. Аркестр выконвае «Les patineurs» Эміля Вальдтофеля, як напісана ў праграмцы. Гэты сецэсіён я чуў упершыню зімою 1932 года, калі з першай маёй жонкай Юліяй прагульваўся ў Барысавым парку. Ішоў снег, на возеры Арыяна пад гукі «Les patineurs» слізгалі сотні канькабежцаў.

Кельнер прынёс закуску, потым яшчэ казіны сыр, пасыпаны чорным перцам, што нагадала мне Манфер'е. Манфер'е, адрыну і Луізу ў белай блузцы і чырвонай спадніцы ў сінія кветачкі.

Наліваю сабе інжырнае ракіі, кладу лёд у віскі Мары і ўсміхаюся сам сабе — напэўна, ад успаміну пра Юлію, пра якую нагадаў аркестр музыкай «Les patineurs».

— На здароўе, Мары! — дакранаюся чаркай да чаркі Мары.

— Я не вып'ю і кроплі, не вазьму ў рот ні кавалачка, пакуль вы не раскажаце пра сябе і адкуль у вас такія грошы!

Выпіваю сваю чарку і коратка расказваю, што я доктар, што вяртаюся з Іспаніі і што «такія грошы» лёгка зарабіў за некалькі аперацый у прыватнай клініцы доктара Марыса Бруйя. І дадаў, што спадзяюся за наступныя тыдзень-два зарабіць яшчэ, так што не трэба засмучацца з-за «нейкіх там» дзесяці тысяч.

— Галоўнае, Мары, — заканчваю я, — ты страшэнна падобная на маю жонку. Як быццам ты яе сястра.

— Няўжо? — кажа Мары і ўсміхаецца нейкай няпэўнай усмешкай.

Аркестр іграе аргенцінскае танга.

— Давай патанцуем! — устаю я, не спытаўшыся нават, ці хоча яна.

Але яна, здаецца, не супраць. Выходзім на памост, пачынаем танцаваць, я далікатна стараюся не трымаць яе надта блізка каля сябе. Але яна, адчуўшы маё стаpанне, нібы ў падзяку, даверліва прытуляецца сама.

Перад тым як выйсці з бара, я ўспамінаю пра сваё

абяцанне парцье і прашу кельнера прынесці бляшанку «данхілу». Цяпер, думаю, усё ў парадку, а выйшаўшы на вуліцу пытаюся ў Мары, дзе яна жыве. Яна называе вуліцу Сен Лазар, і я зноў адчуваю ў яе голасе трывогу.

— Гэта недалёка, я правяду цябе! — кажу я і бяру яе пад руку. — Нельга табе адной вяртацца дадому. Ні ў якім разе!

Яна маўчыць. Вядома, няёмка вяртацца адной у такі позні час! Каля дома яна пытаецца ў мяне — дзе я жыву. А калі чуе слова Еvгу, ускрыквае ад здзіўлення.

— Гэта ж на краі свету!

Я тлумачу, што не гэтак ужо на краі свету і што спадзяюся злавіць таксі, але яна круціць галавой.

— Набліжаецца поўнач, калі ж вы будзеце спаць. Уявіце сабе, што заўтра вас паклічуць на аперацыю — як вы будзеце недаспаўшы апераваць?

— Нічога, як-небудзь спраўлюся! — бадзёруся я. — У Іспаніі прывык недасыпаць.

— Паслухайце, — кажа яна сарамліва, — у мяне на куханьцы стаіць цвёрды тапчан. Калі абяцаеце, што будзеце паводзіць сябе прыстойна, хадземце, як-небудзь перамучыцеся да раніцы.

— Ты дапускаеш, што я магу паводзіць сябе непрыстойна? — смяюся я ад душы на ўвесь голас.

Гэтак я апынуўся на яе тапчане. Пачціва пажадаў ёй добрай ночы, а яна зачыніла дзверы. Ляжу і адчуваю, як стома цісне на вочы. У дрымоце чую ў вушах мелодыю «Les patineurs», яна далятае аднекуль здалёку, вельмі далёка.

Яшчэ добра не развіднела, але я чую яе крокі, яна ціхенька, каб не разбудзіць мяне, ходзіць па куханьцы босая. Паглядаю крадком — у халаце, налівае спірт у нізкую трохногую спіртоўку. Я пацягваюся і лаўлю яе за руку:

— Добрай раніцы, Мары! Як спалася?

Яна бянтэжыцца, моцна чырванее, міжвольна выдаючы тое, што спала кепска. І каб прыхаваць сваю сарамлівасць, пачала мне даводзіць, што хацела прыгатаваць мне сняданак, пакуль я сплю. І раптам, ні з таго ні з сяго, спыталася, ці напраўду яна падобная на маю жонку.

— Як дзве кроплі вады! — запэўніваю яе. Вядома, перабольшваю, але словы неяк самі сабой злятаюць з языка.

— А вы яе моцна любіце?

— Вядома! — Ведаю, што надта хутка і лёгка пагаджаюся, у той жа час вымучваю словы, якімі адказваю ёй. Адчуванне такое, нібыта слізгаю ўніз па нейкім схіле, які вядзе проста ў пекла.

Пачуўшы маё прызнанне, што кахаю сваю жонку, з якой яна падобная як дзве кроплі вады, яна сядае на тапчан, нахіляецца і цалуе мяне. Мяне залівае вогненная хваля, воля мая нібы растае. Я адказваю на пацалунак і лёгка развязваю шнурок, якім падвязаны яе халат.

Збіраемся ісці. Падаю ёй скрыначку з каралямі:

— Надзень на хвіліну, дай паглядзець, як яны табе пасуюць!

Яна чырванее, мацней нават, як да гэтага.

— Нізавошта! — адштурхоўвае яна скрыначку ўбок, нібы ў ёй не каралі, а таракан сядзіць. — Нізавошта! — паўтарае. — Я і так не ўзяла б гэтага, але цяпер... Цяпер — нізавошта.

«Хоць бы не разыгрывала сцэны празмернай далікатнасці», — штосьці накшталт ценю праходзіць у маёй душы.

— Не! — настойваю я. — Ты вазьмі гэтае калье, а потым рабі з ім што хочаш! Напрыклад, можаш вярнуць яго ювеліру. Прадай, вазьмі дзесяць тысяч, але хоць дзень-другі панасі, парадуйся!

— Забірай яго, дый пойдзем! — пачынае злаваць Мары.

— Не, — стаю я на сваім, хоць цьмяна адчуваю, што пераступаю нейкую мяжу. — Прадай ювеліру за дзесяць тысяч. Унясеш у фонд Супрацiўлення пяць тысяч... Чаму ты не хочаш?

— Богам прашу, не крыўдзіце мяне, хопіць! — усхліпвае Мары.

У яе вачах сапраўды блішчаць слёзы.

Хаваю скрыначку. У мяне дзве скрынкі цяпер — адна бляшанка з «данхілам» майму парцье. Той не адмовіцца, у гэтым я больш чым упэўнены, але ад гэтага на сэрцы не цяплей.

Сэрца маё прабраў жорсткі холад, калі прайгралі ў

Іспаніі Франка, мяне абдало холадам, калі развітваўся ў Манфер'е з сям'ёй Бернараў; зноў сэрца стыне ад таго, што Мары глядзіць на мяне пакрыўджаная, са слязамі на вачах. Нібыта пад маім сэрцам веюць сцюдзёныя зімовыя вятры.

## 8

А няблага сказана, хоць крыху і рамантычна — «пад сэрцам маім веюць...»! Ах, рыцары трыццатых гадоў!.. Жорсткі холад прабраў сэрца майго бацькі, калі іспанскія рэспубліканцы прайгралі бітву супраць Франка, — гэта я разумею, як-ніяк ён быў інтэрбрыгаднік. Але каб яго прабірала сцюжа з-за нейкай там Луізы, а потым яшчэ раз па той прычыне, што нейкая Мары адмовілася прыняць падарунак, — ну, гэта ўжо занадта. Але, бач, якія яны былі, рыцары трыццатых гадоў! Як ільвы, змагаюцца пад Таледа, Сарагосай, Бургосам, Вальядалідам і як апошнія баязліўцы ўцякаюць ад нейкай Луізы, а слёзы (дайце веры) нейкай там Мары кідаюць іх у абдымкі сусветнага смутку... О рыцары мінулай эпохі, час, што раздзяляе нас, аддаліўся ад нашага, відаць па ўсім, на астранамічную адлегласць, а яна вымяраецца, як помніцца, нейкімі парсекамі, якія і ўявіць немагчыма.

Пакінуў рукапіс на ложку і надумаў прайсціся. Раз абышоў салон, другі, але ў кватэры было няўтульна, яна здавалася мне пустэчай, таму выйшаў на двор, хоць у нагах не адчуваў упэўненасці. Прысеў на лаўку, акурат перад кустамі бэзу. У свой час любілі мы пасядзець тут з Анай — перад тым як ехаць ёй у Талбухін, звычайна пад вечар, прыйшоўшы з работы. Яна расказвала пра свае службовыя справы, пра розныя здарэнні ў яе Інстытуце селекцыі, пра планы і распрацоўкі, а я курыў люльку і слухаў. Часам і сам што-небудзь расказваў, а болей любіў слухаць яе. Бывала, мяне заносіла ў сваё, а яна гаварыла, гаварыла, пакуль не заўважала, што душою я не з ёй. Тады яна дэманстратыўна змаўкала, і я спахопліваўся, вінавацячыся, цалаваў яе, а яна не адказвала на мае пацалункі. Крыўдзілася. Ну, пакрыўдуй сабе. Калі жанчыне 29, а мужу яе — 39, ёй можна і папесціцца. У мужчыны пад 39 заўсёды ёсць свае праблемы, не цікавыя жонцы; самапаглыбленне

яго апраўданае. Дык няхай яна, калі не разумее гэтага, застаецца пры сваіх капрызах!

Я сядзеў гэтак у той надвячорак і думаў — як бы трымаў сябе мой бацька, калі б маці, седзячы побач з ім на гэтай самай лаўцы, шчабятала яму ўсякую ўсячыну. Мабыць, баючыся прапусціць хоць адно-адзінюткае слова, ён час ад часу цалаваў бы яе ў руку або ў плячук, калі б яна была з кароткімі рукавамі. Ах, гэта нагадвае мне ілюстраваную паштоўку часоў першай сусветнай вайны: у малюнку сэрца — закаханыя, прытуліўшы галовы адно да аднаго, усмешлівыя і шчаслівыя!

Успамінаецца, што тады кусты бэзу былі яшчэ маладыя, у самай сваёй сіле. Жонка час ад часу ўставала з лаўкі, падыходзіла да бэзу і акуналася галавою ў гронкі кветак, нават туліла іх да сябе, рабілася як бы ахмялелай ад іх салодкага паху. Я ніколі не спрабаваў усоўваць галаву ў бэзавую квецень, мне гэта нават няўцям было, а цяпер падумаў — як жа пахне бэзавы цвет, калі панюхаць вось так, зблізку? Я ўстаў і асцярожна, нібы залез у чужы сад і збіраюся ламаць галіны, пайшоў да куста. Асцярожна падышоў, нырнуў галавою ў бэз і глыбока ўдыхнуў салодкі водар. Густы канцэнтрат бэзавага паху тут жа ўдарыў у галаву. У мяне ўзнікла жаданне адкусіць і з'есці гронку бэзу, усім целам убіцца ў куст. Чаго не прыйдзе ў галаву ачмурэламу чалавеку!

Вядома, я не зрабіў ні таго, ні другога. Цяжкім крокам вярнуўся на лаўку і яшчэ нейкі час пасядзеў у згусцелым змроку. У мяне было адчуванне, што зрабіў штосьці ганебнае для сталага чалавека, і суцяшаў я сябе толькі тым, што гэтага ніхто не бачыў. А водар бэзу, ліха на яго, засеў у мяне ў душы, і я вырашыў прагнаць яго, выкурыўшы люльку добрага тытуню.

Я вярнуўся ў хату і паўключаў усе лямпачкі — каб было святлей і каб не гэтак пуста выглядала хата. Ужо не першы дзень я жыў адзін, але такое ідыёцкае пачуццё адзіноты авалодала мною ўпершыню. Хутчэй за ўсё яно было ад непарадку з маім сэрцам, ад няроўнага пульсу, які то паскараўся, то запавольваўся, як дрэнна адрэгуляваны матор.

Некалькі разоў абышоў салон, увесь час азіраючыся на тэлефон. Як быццам чакаў, што вось-вось хтосьці павінен пазваніць. Але ж ніхто не званіў. Тэлефон маў-

чаў, як мёртвы. Я падняў і апусціў некалькі разоў трубку — не, тэлефон быў жывы, праз роўныя інтэрвалы ён выдаваў свой бясстрасны сігнал. Ту-ту-у! Ту-ту-у!

А столькі прыяцеляў было ў мяне ў клініцы. Калі б хоць адзін з іх ведаў, думаў я, што мяне прыціснула ідыёцкае пачуццё адзіноты, напэўна б, азваўся. Ці з адным даводзілася сядзець у карчме «Пад ліпамі»? Але ж усе яны дактары, і калі я хворы, дык яны проста лічаць, што мне неабходны спакой і цішыня.

Адшчыкнуў і ўкусіў некалькі разоў хлеба, есці не хацелася, і я паспяшаўся пакінуць сталовую. Непрыбраны стол рабіў уражанне, быццам я апошні жыхар пакінутай планеты.

Павыключаў святло, зачыніўся ў кабінеце і зноў заняўся рукапісам. Якім значным у параўнанні з маім выглядала жыццё бацькі!

Сафія, восень, 1939 г.

Рэгулярных запісаў я не раблю. Занатоўваць ёсць што, але ў жыцці нічога вясёлага няма і няма жадання яшчэ раз перажываць перажытае. І калі час ад часу бяруся за аловак, дык хіба што для загартоўкі нерваў або каб застацца сам-насам і спакойна ўсё абдумаць. Сапраўды, няма нічога вясёлага. Ні дома, ні па-за домам. Па-за домам фашызм лютуе — адкрыта, груба, прытым наш, тутэйшы. З асаблівай зацятасцю, вядома, праследуе камуністаў. За некалькі месяцаў, што я тут, ваенныя суды адправілі на расстрэл дзесяткі вайскоўцаў і цывільных; грамадзянскія суды падвялі пад шыбеніцу яшчэ дзесяткі маладых людзей, тысячы зняволеных сядзяць у турмах і пад следствам. Жыццё даражэе з кожным днём, на стажорскую зарплату жонкі мы ледзь зводзім канцы з канцамі. Я ж не магу пасобіць ёй зарабіць ні капейкі, бо за самавольную «адлучку» за мяжу асуджаны ўмоўна на год турмы з пазбаўленнем прафесійных правоў. Ды і ў нашых адносінах з Соняй штосьць рыпіць, не клеіцца.

Але каб не парушаць прынцыпу паслядоўнасці і каб апавяданне маё не ішло ўжо зусім галопам і схематычна, я на кароткі час вярнуся да парыжскіх падзей.

Пасля таго як мы з Мары далі адно аднаму слова больш не сустракацца і рассталіся назаўсёды, я паехаў у ювелірны магазін. Кальe там узялі назад, але з вылікам дзвюх тысяч франкаў. Прасіў задаволіцца тысячай,

аднак распадарчык не пагадзіўся: маўляў, з-за таго, што я вяртаю «тавар», фірма панесла страты нават большыя за дзве тысячы!.. Хоцькі-няхоцькі, давялося аддаць. Так я прадаў калье былым яго ўладальнікам за восем тысяч.

Перш чым паехаць аўтобусам у Evry, зайшоў у Цэнтральны камітэт Фронту барацьбы з фашызмам і ўнёс на яго рахунак 5000 франкаў. Сямідзесяцігадовы Поль Рабэн, адзін з сакратароў, са слязамі на вачах пацалаваў мяне, сказаўшы, што мой гэты жэст варты імя майго суайчынніка, вялікага антыфашыста Георгія Дзімітрава.

Грошай у мяне заставалася не многа, калі пры гэтым мець на ўвазе шлях да Балгарыі, які я выбраў. Але вярнуцца з далёкай вандроўкі і не прывезці жонцы хоць бы сціплы «сувенір» — не, калі б я так зрабіў, дык упаў бы ва ўласных вачах і як чалавек, і як муж. Таму зноў завітаў у «мой» ювелірны магазін на вуліцы Рывалі. Чаму выбраў менавіта гэты магазін — не мог бы даць яснага адказу нікому, нават самому сабе. Можа, што ўчора выратаваўся там ад жандараў, можа, вёў мяне туды ўспамін пра Мары. Знаёмствы бываюць розныя, выпадковыя і кароткачасовыя, але чалавек можа насіць іх у душы ўсё жыццё.

Калі я ўвайшоў, вахцёр утаропіўся на мяне з непаразуменнем і адначасна з трывогай, а дзве прадаўшчыцы, прыгожанькія, нібы рэкламныя карцінкі, у адзін голас ускрыкнулі: «О-о, мсье! Вы зноў да нас!»

Я быў у гуморы і весела прамовіў:

— На гэты раз хачу купіць упрыгожанне сапраўднай сваёй жонцы, але не даражэйшае, як за 700—800 франкаў!

— Цікава! — пляснула рукамі «мая» прадаўшчыца. — Сапраўднай жонцы выбіраеце падарунак за 700—800 франкаў, а малышцы, прыяцельцы, не задумваючыся, купляеце за 10 000!

— Учарашняя паненка не была мне нават прыяцелькай, — махнуў я рукою. — Проста выпадкова сустрэў на вуліцы!

— Няўжо? Тады, можа, я выйду на вуліцу, а вы сустрэньце мяне выпадкова? Ці купілі б мне калье за 10 000?

— О, панначка! — я шчыра засмяяўся. — З задавальненнем купіў бы вам калье за 10 000, але выйшлі грошы. Цяпер у мяне ў кішэні толькі 700—800 франкаў,

і, мяркую, будзе справядліва, калі за іх куплю нешта сапраўднай жонцы!

Гэта зусім развесяліла прадаўшчыц, тым часам з'явіліся яшчэ кліенты: нейкая маладая парачка і ў гадах ужо, элегантна апрануты чалавек з сівымі мапасанаўскімі вусамі. Усе разам засмяяліся маладым, шчырым і бесклапотным парыжскім смехам канца шчаслівых перадваенных гадоў. У той трывожны час падобны смех яшчэ можна было пачуць у пацяшальных прадпрыемствах тыпу Moulin rouge і, вядома, у багатых магазінах на Шан-з-элізэ і вуліцы Рывалі, у старых кавярнях Лацінскага квартала.

— О, дык гэта ж звычайная рэч! — усклікнуў пан з мапасанаўскімі вусамі, па-свойску паглядзеўшы на мяне. — Правільна, жонцы дастаткова акта ўвагі на 700—800 франкаў, а прыяцельцы — божа мой! У мой час дзеля іх не шкадавалі кідаць і па 50 000! То быў час сапраўдных кавалераў! Ну што вы, калі дама з камеліяй, мсье!..

— А я магу ісці ў заклад, што і вы цяпер купіце не больш як за 700—800 франкаў! — падкінуў я жартам.

— Не трэба, шаноўны, прайграеце! — адказаў з годнасцю стары пан.

Паказалі мне брошку: нешта падобнае на перл, аздоблены аквамарынам. Пакруціў у руках з выглядам вялікага знаўцы каштоўных камянёў, узяў. Соня ў мяне светлая, у яе сінія вочы.

Калі нарэшце я вярнуўся ў Evry, парцье з заўсёднай ветлівасцю прыняў мой падарунак і ўручыў мне канверт са штэмпелем «Раённая прэфектура». Я павінен быў сёння ж, да 4 гадзін дня, з'явіцца да начальніка прэфектуры.

Пайшоў да начальніка на гадзіну раней, каб не марнаваць другой паловы дня. Ён адразу назваў маё сапраўднае прозвішча, і я не здзівіўся — у паліцыі трэба быць гатовым да ўсяго. Далей ён паведаміў, што я нелегальна перайшоў іспанска-французскую граніцу і ўжо даволі доўгі час жыву ў Парыжы з фальшывым пашпартам; што ў такім вось раёне я працаваў у Фронце супраціўлення фашызму, а гэта азначае, што ўмешваўся ў французскія ўнутраныя справы, што чужынцам не дазволена. Нарэшце запатрабаваў у мяне пашпарт і там, дзе трэба, паставіў штамп: «Знаходжанне ў краіне

перапыняецца. Крайні тэрмін выезду... Пагранічны пункт...»

На развітанне я пачціва сказаў: «Да пабачэння, мсье» — і ў калідоры прачытаў: «...тэрмін выезду — 23 чэрвеня 1939 г.».

Мне заставалася паўтара дня — узяць білет на італьянскі экспрэс, здаць справы ў камітэце, астатні раз наведаць музей імпрэсіяністаў і вечарам з Манмартра кінуць развітальны позірк на Эйфелеву вежу і на Нотр-Дам...

Да пабачэння, Парыж! Вядома, сумна, што сённяшнія гаспадары паказваюць мне на дзверы, але нічога! Твае вуліцы і бульвары, плошчы і масты сустракалі і перажывалі як кепскія, так і добрыя дні; я ўпэўнены, што ў блізкім часе ты дачакаешся сваёй цудоўнай пары! А я буду помніць цябе па Плас Канкорд, па тваім «долу фашызм» і, вядома, па тваёй Мары!

## 9

Выдатна, татка, шасцёрка (6)!

Хачу толькі зрабіць адну заўвагу. Цяпер у нашым друку вельмі модны дзеяслоў «замацоўваць». Замацоўваць у сэнсе «сцвярджаць», «умацоўваць» — у станоўчым сэнсе слова. Напрыклад: «Замацуем атрыманыя добрыя вынікі новымі, яшчэ больш высокімі паказчыкамі». Я маю на ўвазе наступнае. Быўшы на тваім месцы, дарагі татка, я пастараўся б замацаваць першапачатковы поспех у цудоўнай Мары, яшчэ хоць разок паспаўшы на яе тапчане. Толькі так трэба было замацаваць дасягнуты поспех. Бач, не дурны быў той пан з вусамі а ля Мапасан! Гэты стары чорт купляе сваёй «даме з камеліямі» дарагія падарункі, а ты спяшаешся ўнікнуць далейшых сустрэч са сваёй «каменіяй», бо, бачыце, яна ад цябе нічога не патрабавала, нават адмовілася ад падарунка за 10 000! Ну як можна было сказаць «бывай назаўсёды» такой цудоўнай жанчыне!

Такія мае заўвагі. (Усё астатняе на выдатна (6).

Адклаў рукапіс і задумаўся. Гэта Мары не выходзіла ў мяне з галавы. Мабыць, яна не была такая зеленавокая прыгажуння, як Юля, з бюста жанчына і з дзявочым задком. Аднак жа Юля наўрад ці пайшла б на

дэманстрацыю, якая скасавала б ёй службу, ды і ад падарунка нават за леўчык не адмовіцца яна, не тое што за 10 000! Ды што там казаць, Юля — «камелія» наша, у кожнай краіне «камеліі» сваёй афарбоўкі...

Даўно ўжо настала ноч. Было такое адчуванне, што цемра навальваецца на дом з усіх бакоў, са страшэннаю сілаю ціснe на сцены, на дах, напірае ў вокны. Здавалася, што вось-вось пад яе напорам ці то рухне сцяна, ці са звонам пасыплюцца шыбы і праз прабоіны хлынуць у дом густыя хвалі, чорныя, нібы дзёгаць.

Потым я схамянуўся, падумаў, што мне вярзецца featureрознае глупства, што ніякія шыбы не могуць рассыпацца хоць бы таму, што вокны адчыненыя і праз іх нічога не можа ліцца ў дом, акрамя змяшанага тонкага паху бэзу і язміну.

А на грудзі мне як быццам стаў нейкі вялікі і цяжкі капыт і час ад часу пачынае ціснуць. Як толькі націсне мацней, з маіх лёгкіх са свістам выходзіць астатняе паветра і пачынае рэзаць у вачах. Праз увесь час, як капытом ціснула мне на грудзі, я думаў — чый жа ён, гэты капыт? У цямноцці я не мог разгледзець тую жывёліну, што гарою ўзвышалася нада мной.

Я зноў і зноў пераконваў сябе, што ўсё гэта дурныя ўяўленні. Які капыт? Проста баліць у грудзях, мне блага.Ператамляў я сэрца апошнім часам. Замест таго каб пахадзіць па лесе, засядаў у карчомцы «Пад ліпамі». Добра яшчэ, калі быў з якім-небудзь прыяцелем, дык менш пілі, больш гаварылі. А калі сядзеў адзін, то думаў пра рознае, маўчаў і — наліваўся. А нямецкае піва моцнае.

Так находзілі на мяне розныя мроі, магчыма, гэта былі кадры з хваравітых сноў, але час ад часу я ўсведамляў, што гэта проста боль, які ўвасабляецца то ў цемру, то ў нейкі капыт.

Аж пакуль па нейкім часе не пачуў знадворку зусім ясна Аніны крокі. Каб гэта была слыхавая галюцынацыя, дык не — я мог з абсалютнай упэўненасцю пазнаць яе крокі сярод тысяч другіх. Хада яе была нешырокая, але жвавая, напружаная, і абцасікі яе на тратуары стукалі, нібы малаточкі. Не, гэта зусім не тое, што цемра або капыт, гэта, вядома, яе крокі. На гэты час яна магла прыехаць толькі поездам. Хуткі поезд, відаць, намнога спазніўся.

Вось і ключ павярнуўся ў замку, яна зайшла ў залу,

уключыла святло. Са сваёй пасцелі я выразна ўбачыў жоўтую палосу, якая засвяцілася пад дзвярамі майго кабінета. Тут панаваў змрок, таму жоўтая палоса над парожкам здавалася залатой.

Яна кінула на падлогу сваю дарожную сумку, у якой, мабыць, зноў прывезла якое-небудзь «сапраўднае кураня» («я так думала пра цябе!»), імкліва ўляцела ў кабінет, быццам фінішавала ў запушчанай з Талбухіна ракеце. Яна прынесла з сабой дзіўныя пахі — перапоўненага цягніка, бруднага таксі (смурод выпарэнняў бензіну плюс танныя цыгарэты) і толькі што расцвілага бэзу. (З якога часу яна пачала душыцца «бэзам»?)

Як заўсёды бывае, калі жонка экспрэсна прыязджае да хворага мужа (з якім яшчэ не развялася і яшчэ канчаткова не вырашыла — будзе разводзіцца ці не), яна ўкленчыла перад ложкам і з адчаем прытулілася да мяне. (Тая фатальная ростань, да якой яна дайшла, вядома, выклікала адчай. Не кожная жанчына можа лёгка несці крыж здрады. Юля, мабыць, насіла б яго, як пёрка!).

— Чаго маўчыш, чаму не пазваніў, што хворы? І што ты за чалавек?

— Чалавек, як і кожны, якога пакаралі паніжэннем на пасадзе на год; у якога да таго ж памёр пацыент, што быў для яго больш чым сябра; плюс жонка, якая цяжка нясе крыж здрады і не можа прызнацца ў сваёй слабасці. Чалавек з вялікім багажом.

— І ты ўсё яшчэ не кінеш сваіх намёкаў? Нават у ложку, лежачы хворы?

— Калі б ложак ратаваў ад пачуццяў, я не ўставаў бы з яго, дарагая! Я ляжаў бы, шчаслівы, не ўстаючы дзень і ноч!

— Божа мой, а табе не здаецца, што ты крыўдзіш мяне?

— А табе не здаецца, што гэтае «божа мой» ужо зусім недарэчы?

— Ужо?

— Ужо азначае: скончана! Consummatum est! Мы так гаворым, калі ў пацыента няма будучыні.

Яна глыбока ўздыхнула, і яе ўздых, падобна на тое, быў выкліканы хутчэй абурэннем, чым крыўдай.

Мы сядзелі, ахопленыя жахлівым маўчаннем ва ўсім доме, мёртвай яго цішынёй.

Потым яна паклала мне на сэрца руку, і халаднава-

тая далонь яе ўліла ў мяне мацерыну ласку, якая прайшла па ўсім маім целе. І мне стала гэтак добра, ліха яго матары! Хоць злашчаснае ўжо глыбокай прорвай ляжала між намі.

Ласка яе далані закалыхала мяне, і я заснуў.

Прачнуўся, акружаны цемрай і цішынёй. Цемра і цішыня змешваліся з адзінотаю, і ў гэтай кашы я патануў, нібы ў моры.

Я ляжаў на марскім дне і з гаркотай думаў, што далонь яе была несапраўдная, што ўсё гэта было толькі хваравітая ілюзія і марны крык сэрца.

Сафія, восень 1939 г.

І так я пакінуў Парыж з успамінам аб вялікай чэрвеньскай дэманстрацыі супраць Гітлера і фашызму, з успамінам аб французскіх таварышах з раённага камітэта Фронту і, вядома, аб Мары, якая светлым промнем імгнення прайшла скрозь маё жыццё. Пакінуў Францыю з незабыўнымі ўспамінамі аб блакітнай Аксітаніі, аб Эдмондзе і яго чэснай сям'і, аб Луізе... Ці шукае яшчэ Эдмонд рукапіс, які прапаў? Ад усяе душы жадаю яму поспеху! Магчыма, з яго не атрымаецца паслядоўнага барацьбіта супраць фашызму, але я ўпэўнены, што ў крытычны момант ён не будзе стаяць убаку са складзенымі рукамі. Назаўсёды застанецца ў маім сэрцы Парыж і ўвесь у кіпенні, як бурнае мора, Плас Канкорд!

А тут, у Сафіі, жыццё ідзе — па сваіх суровых законах. Знаёмыя і сябры сустрэлі мяне з вялікай радасцю, як уваскрэслага з мёртвых, але некаторыя з кіруючых таварышаў ставяцца да мяне даволі-такі суха — па прычыне майго спазнення, папракаюць, што «самавольна» заставаўся за мяжой. «Мы тут варымся на двух агнях, — казалі мне, — нас расстрэльваюць, вешаюць, катуюць токам, а ты ў гэты час грэешся ў Манфер'е і забаўляешся ў Парыжы». На маё апраўданне, што ў Парыжы я не забаўляўся, а як крот працаваў у раённым камітэце Фронту, мне адказалі: «А хто табе дазволіў? Ты ў каго-небудзь спытаўся?» — «У каго я мог спытацца, калі нашага чалавека на месцы не аказалася?» — апраўдваўся я. «Хопіць, не выкручвайся! — пацiснулі плячамі таварышы. — Дысцыпліна ёсць дысцыпліна! Каб ты і на Марсе быў, павінен дысцыпліну захоўваць! Нават на дзень болей не павінен быў заставацца там, калі б з Зямлі не было дазволу!»

Я таксама паціснуў плячамі і змоўк. Калі ўжо гаворка заходзіць аб дысцыпліне — маўчы і не разважай. Калі кожны пачне разважаць і спрачацца, што застанецца ад адзінаначалля? А без адзінаначалля рэвалюцыя пераможа на «святыя ніколі»!

Чакаючы, пакуль вырашыцца маё «пытанне» — якое спагнанне накласці на мяне і якую даручыць справу, я бязмэтна бадзяўся па горадзе альбо хадзіў па алеях Барысавага парку, іншы раз збочваў на вул. Ракоўскага ў карчму «Дзікія пеўнікі». Там пад вечар збіраліся вядомыя антыфашысты — урачы, мастакі, іншы раз падыходзілі адвакаты, якія безнадзейна абаранялі падсудных паводле страшнага ЗЗД[1]. Ціха размаўлялі за чаркай віна або ракіі. Вядома, трэба было асцерагацца паліцэйскіх шпікоў, якія маглі віжаваць і падслухоўваць адусюль.

Аднаго разу дажджлівым вечарам зайшоў у карчму і падсеў да нас малады таленавіты мастак Н, які за апошнія два-тры гады заваяваў сімпатыі і любоў сафійскай прагрэсіўнай публікі. Незадоўга да гэтага ён наладзіў сваю першую самастойную выстаўку, гледачы адразу нахлынулі і цэлы дзень тоўпіліся ў зале, таму паліцыя на другі дзень закрыла яе. Ён падсеў, але гаварыць у яго настрою зусім не было — моўчкі курыў і ўтароплена глядзеў кудысьці.

— Ну, чаго нос апусціў? — загаварыў я да яго. — У твае гады — і такая папулярнасць! Чаго яшчэ хацець ад лёсу?

— Грошай! — сказаў Н. — Грошай, каб заплаціць за кватэру. Ужо тры месяцы не плаціў, гаспадар прад'явіў рахунак і заўтра выкіне мяне вон. Так што прадаю папулярнасць за грошы!

— І гэта гаворыць мастак! — развёў рукамі мой таварыш, адвакат Ізмірлieў. — Цяпер жа сама што мастакі ў модзе! — Ён заказаў мне і Н па мерцы ракіі, бо мы былі з ім банкруты, і загаварыў далей: — Ведаеце, сёння з раніцы сустрэўся мне былы латочнік, які на каламажцы развозіў па нашай вуліцы гародніну. Разадзеты, нацягнуў на сябе гарнітур з англійскага бастону. Гарнітур той сядзіць на ім — я вам скажу! — нібы на рамізніку, калі той жэніцца. «Ну, Наска! —

---

[1] Закон на защита на държавата *(балг.)* — Закон аховы дзяржавы, які дзейнічаў у Балгарыі ў час манарха-фашысцкага рэжыму.

кажу. — Што з табой зрабілася, цябе проста не пазнаць!» — «А я ўжо не Наска, а пан Атанас! — адказвае былы латочнік з прасцяцкай пыхлівасцю. — Цяпер я гандляр, скупляю ў дзвюх аколіях садавіну-гародніну і праз аднаго аптавіка экспартую ў Германію. Таго Наскі, што быў, ужо няма, пан адвакат!»

«Бач ты!» — дзіўлюся я. Дзіўлюся і з яго і з самога сябе. Ды такіх, як Наска, апошнім часам хоць гаць гаці. Аптавікі даюць ім пазыку, яны гойсаюць па аколіях і за бясцэнак скупляюць ураджай. Аптавікі грабуць мільёны, а гэтыя — тысячы. А можа, і сотні тысяч. Цяпер такіх новабагацькаў — як сабак... Стаіць, значыцца, перада мной Наска і гэтак паблажліва кажа: «Можа, грошы трэба, дык скажы — пазычу! Я табе давяраю, хе, хе!»

«Дзякуй, — кажу, — Наска, прабач, пан Атанас. Пакуль што трохі ёсць, не маю патрэбы».

«Тады, — гаворыць Наска, — дай мне параду. Я заплачу. Людзі баяцца, што грошы раптам могуць страціць сваю сілу — скажам, сто леваў стануць роўныя аднаму. Таму многія пераводзяць грошы ў маёмасць, якая не траціць кошту».

«Ведаю, ёсць такое!» — зазначаю.

«Раяць купляць карціны і скураныя манто. Я ўжо накупляў жонцы паўтузіна скуранак. Цяпер хачу карцін. Але такіх, каб і праз сто гадоў іх кошт не ўпаў. Дык парай мне такога мастака, скажы, дзе мне яго знайсці, я куплю. Толькі каб, хе, хе... каб не з тваіх, не крыўдзіся, бо добра ведаю тваю палітычную афарбоўку. Каб быў сапраўдны мастак, вось што хачу сказаць! Сапраўдны!»

Вось такая размова была ў мяне сёння з раніцы з Наскам, то бок, з панам Атанасам.

— Хіба ты не ведаеш, прыяцелю, — звярнуўся ён да Н, — што на сённяшні дзень у некаторых мастакоў грошай — хоць лапатай грабі? Ці ж ты павінен саступаць розным рамеснікам і кан'юнктуршчыкам?

— Не хачу мець нічога агульнага з людзьмі такога сорту, — уздыхнуў Н.

— Во-во! — пахітаў галавой Ізмірліеў. — Таму і будзеш выкінуты з майстэрні. Ну, але пабачым, можа, што-небудзь удасца зрабіць...

Імжыць дождж, над горадам нізка навісла алавянае

неба. Праводжу Соню да бальніцы, вяртаюся пеша. Колькімі словамі перакінуліся мы па дарозе? Балай, сказалі пяць-шэсць слоў, можа, дзесяць — ужо не помню. Маўчым, кожнае пры сваіх думках, хоць нічога я ў н а г а паміж намі не здарылася. Каб там сварыліся або спрачаліся ды кожны, не здолеўшы даказаць сваё, застаўся пры тым незадаволены. Дык не. Адзінае, што здарылася апошнім часам, — гэта тое, што я вярнуўся. Факт, што застаўся жывы. З маім вяртаннем яна стала жонкай палітычна ненадзейнага чалавека, доктара, звольненага па палітычных матывах. На такую жанчыну абачлівыя людзі глядзяць падазрона, абыходзяць бокам. Начальства ж шукае хоць мізэрную зачэпку, каб паказаць ёй на дзверы.

Можа, з гэтае прычыны Соня прыгнечаная і маўклівая. Нялёгка быць жонкай інтэрбрыгадніка. А магчыма, ёсць іншая прычына, пра якую я н е в е д а ю. Амаль два гады я не быў дома.

А дождж усё імжыць, імжыць. Добра, што ў мяне на плячах непрамакальны плашч, купіў яшчэ ў Парыжы, калі стажыраваўся ў клініцы доктара Жака Марто. Ён засцерагае мяне ад вільгаці і захоўвае цяпло. Не таму трымае цяпло, што парыжскі, а таму, што купіў яго за мацерыны грошы, якія яна выручыла за родную арбанаскую зямлю, зямлю бацькі, бадзягі Танаса.

На вуліцы Марыі Луізы грымяць гучнагаварыцелі, прадаўцы грамафонаў рэкламуюць свой тавар.

Вось і бульвар Дандукова, прыцягальны зіхаткімі вітрынамі кнігарняў, малочнымі магазінчыкамі, дзе ў любы час можна купіць паранага малака, смятанкі, варанае куранё і бюрэкаў[1] — было б у кішэні крыху грошай. Каб было ў мяне хоць крыху грошай, дык абавязкова купіў бы бюрэк м а л о м у Луку.

Выходжу на бульвар Цара Вызваліцеля[2] — прывабны бязлюддзем, каштанамі, будынкам Вайсковага клуба і старымі асабнякамі багацеяў у стылі позняга барока і сецэсіёна пачатку стагоддзя. У мае студэнцкія гады па яго жоўтым бруку прагульваліся вярхом пані і паны з пасольстваў, кіруючыся ў Парк паляўнічых. А

---

[1] Б ю р э к — слоены пірог.

[2] Расійскі імператар Аляксандр II, з імем якога звязана вызваленне Балгарыі ад асманскага прыгнёту.

ў Прошакавым парку ў полудзень старыя халасцякі «са становішчам», наогул салідныя паны пацягвалі піва. Вечарамі там іграў струнны аркестр. Колькі разоў я стаяў там, каля яго ўзорыстай жалезнай агароджы, слухаў чароўныя венскія вальсы!

А дождж імжыць. З рукамі ў кішэнях плашча іду сцішаным бульварам і, як не быў тут ужо два гады, радуюся, нібы сустрэўшы старога добрага сябра. Ды як не радавацца, калі з ім звязана мая маладосць — ад бесклапотнай абітурыенцкай пары да абароны дыпломнай работы на годнасць доктара!

Асенняя раніца халодная і пахмурная, дажджыць; над каштанамі мокрым брызентам навісла неба, а поруч са мной ідзе ў белай вязанай сукенцы дзяўчына, ружовы паясок сцягвае талію — такую танюсенькую, што нават дзіву даешся, як яна можа трымаць бюст з ужо даволі поўнымі грудзьмі. Светлыя валасы выбіваюцца з-пад яе шыракаполага капелюша, і, каб паглядзець ёй у ясныя сінія вочы, мне трэба ўвесь час на паўкрока абганяць яе. Мы пра штосьці размаўляем, а пра што — бог ведае. Ды і ці мае гэта значэнне? Я — выпускнік, ужо «вольны» грамадзянін, а яна заканчвае вучобу налета. Нас раздзяляе адзін год. Год — якое ён мае значэнне? Сама вечнасць не мела б значэння, а што гаварыць пра год!

Дык пра што мы гаворым? Пра рэчы безнадзейныя. Каханне наша без будучыні, а таму бязмежна прыгожае. Хрызантэма — кветка тужлівая, але хіба ёсць прыгажэйшая кветка за хрызантэму? Прыгожыя гваздзікі, прыгожыя і ружы, але іх прыгажосць — нібы вальсы Штрауса, а хрызантэмы — іх прыгажосць нагадвае музыку Моцарта альбо Шапэна. Не ведаю, ці рабіў я ў той час такія напышлівыя параўнанні, але цяпер, калі думаю пра дзяўчыну ў белай сукенцы і пра нашы з ёй узаемаадносіны, прыгадваецца прыгажосць хрызантэм.

Вось і Арлоў мост, свецяць ліхтары. Але якая д'ябальская перамена! Не стала асляпляльнага чэрвеньскага сонца, ідзе снег, чысты, мяккі снег аплёў сваёй сеткай увесь свет. Ад замерзлага возера праз велізарную трубу грамафона ліецца мелодыя вальса:

...Любы мой, ціха стой!
Слухай, што я гавару, —
Пацалунак падару!

Па лёдзе коўзаецца мноства людзей, мужчыны ў ка-

цялках, і гэта смешна, але жанчыны ў белых світэрах і доўгіх квяцістых спадніцах — нібы ў танцы кветкі. Калі каторая дзяўчына, развёўшы рукі, пачынае кружыцца, робячы нешта накшталт піруэта, яе спадніца надзімаецца, нібы парасон, і адкрывае ногі да каленяў, што прыводзіць у захапленне разявак, якіх поўна каля катка.

Мне не трэба доўга ўзірацца, каб заўважыць яе, — бачу яшчэ здаля, яна таксама нейкім магічным чынам тут жа заўважае мяне. Робячы павароты і васьмёркі, яна весела махае мне рукой.

Потым мы ідзём белаю алеяй, якая вядзе да Возера з чырвонымі рыбкамі. У парку бязлюдна, ціха, сняжынкі падаюць нам на плечы, трапляюць на павекі. Мы спыняемся, расшпільваем паліто, каб не заміналі, і тулімся адно да аднаго — у тужлівых, без будучыні, абдымках. Снег, якім абсыпаны яе валасы, растае ў мяне на твары, яе блізкасць ачмурае мяне; няхай бы час спыніўся хоць на хвіліну, на дзве!.. Вядома, гісторыя гэта сентыментальная, але хто пад дзевятнаццаць гадоў не быў хоць крыху сентыментальны?

Можа, таму і каханне ў тыя часы было прыгожае. Бо прыгажосць, якая не патрабуе пераадолення бар'ераў і глыбокага роздуму аб шчасці, гэта ўжо не прыгажосць. Вясёлае каханне падобна на аперэтачную музыку. Пакуль слухаеш — забаўна, а потым выкідваеш з галавы. Столькі мінула гадоў, а рысы дзяўчыны ў белай сукенцы так глыбока заселі ў маёй памяці, што, напэўна, буду насіць іх у душы, пакуль буду жыць. Здараліся ў маім жыцці і іншыя «ў белых сукенках», з імі мне было весела, але яны мяне ўжо даўно не хвалююць, і, мабыць, гэта таму, што мне было з імі весела, і толькі.

Цяпер алеі ў парку мокрыя ад дажджу, наўкола чорна ад голых дрэў. Праходжу каля помніка Явараву. Тут непадалёк мы апошні раз сустрэліся з маёй першай жонкай, якая ў той час перайшла на нелегальнае становішча. А гадзінаю пазней каля будынка патрыярхіі паліцаі застрэлілі яе. Мы пабылі мужам і жонкай каля дзевяці месяцаў. Каб я адчуваў да яе нейкія асаблівыя пачуцці, дык наўрад, — відаць, проста нас зблізіла агульная справа.

Іду і думаю — як бы мы жылі з т о ю дзяўчынай, калі б каханне наша мела будучыню? Наўрад ці доўга былі б мы разам, здаецца мне. Мы былі з двух розных

светаў. Ды і жыццё паказвае, што рэалізаванае каханне памірае хутчэй, чым нерэалізаванае. Мне ў галаву прыходзіць такая ерэтычная думка: калі ў чалавека мара становіцца рэальнасцю, ён бяднее. І самы бедны той, у каго ўсе мары, да адной, ажыццявіліся. Чалавек без мары — апошні жабрак.

Калі ў гэтым цяжкім і суровым жыцці чалавек не можа задаволіць свае элементарныя патрэбы, мара для яго — як тое сонца, што свеціць здалёку, але не грэе. Я ведаю, што настане час, можа, нават хутка, калі кожны будзе жыць без страху за свой заўтрашні дзень і чалавек чалавеку будзе таварыш і брат; гэтая вера ў будучыню — нібы сонца, якое свеціць здалёку. Мы можам на яго любавацца, радавацца, браць у яго светлае натхненне, але ж яно не можа замяніць сабою ні вугалю, каб абагрэцца ў сцюжу, якi табе недаступны, бо кашалёк твой пусты, ні цёплых адзежак, у якіх мае такую патрэбу маленькі Лука.

А ўсё-такі добра, што ёсць гэта сонца ўдалечыні! Хоць будзем мерзнуць у халоднай кватэры, але і ўсміхнёмся яму. І, напэўна, будзем адчуваць сябе шчаслівейшымі за тых, хто не мерзне, але і не мае каму і чаму ўсміхацца. Прыйдзе час, і ніхто не будзе мерзнуць у кватэры, а ва ўсіх малых Лукоў будзе цёплае адзенне, у гэтым я больш чым упэўнены. Што да другога — няхай гісторыя скажа сваё слова, не варта прарочыць, якую салату будуць есці людзі на Марсе.

А вось і Возера з чырвонымі рыбкамі. Большую частку вады закрылі гарлачыкі, толькі ў чыстых прагалах між імі глядзелася шэрае, набрынялае вадой неба. Пуста, голыя бярозы і мокрыя лаўкі наводзяць маркоту і сум. Я недзе чытаў, што для Манэ гарлачыкі былі невычарпальнай крыніцай для сузірання і сюжэтаў. Мяне ж яны прыгнятаюць, вярэдзяць душу, мне лепш чыстая вада, у якой бачацца воблакі і нябесны блакіт.

Вяртаюся другой дарогай, трэба зайсці ва універсітэт да Сонінага брата, дацэнта раманскай філалогіі Аўгуста Уладзіміравага. Учора ён пазваніў мне і сказаў, што пераклаў першую частку старажытнага рукапісу. Вазьму хоць тое, што пераклаў, бо паміраю ад цікаўнасці, і папрашу парэкамендаваць студэнтаў, якім патрэбен рэпетытар па французскай мове, я мог бы пад-

рыхтаваць іх да іспытаў. Усё ж такі зарабіў бы нейкі леў[1].

Думаючы пра Уладзімірава, успомніў пра Соню, і нібыта кавалачак прамоклага неба пранік мне ў душу.

З таго часу, як я вярнуўся, яна паводзіць сябе са мной і н а ч а й — калі з падкрэсленай адчужанасцю, а калі з нейкай роспачнай сардэчнасцю, якая прымушае мяне ўнутрана насцярожвацца. І пачалося гэта яшчэ ў наш першы вечар. Калі я прапанаваў ёй брошку з Парыжа, яна адразу пабляднела і нават адхіснулася, як быццам брошка тая магла яе ўкусіць. Потым, адзін бог ведае чаму, пачырванела. Нарэшце брошку ўзяла-такі, але калі прышпільвала да блузкі, рукі ў яе дрыжалі. Я адчуў штосьці дзіўнае ў яе паводзінах і пазней, калі надышоў час класціся спаць. Яна то чырванела, то бляднела, потым заплакала, асунулася на кілім і абхапіла мае ногі. Гэта было і кранаюча і адначасова — цяжка. Відаць, жыццё яе праз гэтыя два «ўдовіныя» гады было нялёгкае! Адзінокая жанчына з дзіцем у гэтым ваўчыным свеце... Я не ўспомніў бы пра гэтую сцэну, калі б у наступныя дні ч а г о с ь ц і падобнага не адчуў я зноў. Мая Соня нібыта была тая самая, якую я ведаў, але і нейкая інакшая. У яе адчужанасць чаргавалася з хваравітымі прыступамі блізкасці; наогул «штосьці» ў нашых адносінах пачало «скрыпець»...

З Соніным братам, дацэнтам, мы гаворым на «вы».

— Калі б быў арыгінал, — гаворыць ён, — ваш спіс меў бы велізарнае гістарычнае значэнне. Ён выклікаў бы проста фурор у гістарычнай навуцы. Гэта быў бы доказ, што балгарская ерэтычная думка ляжыць у аснове так званых Альбігойскіх войнаў; што ерэтычная Балгарыя амаль цэлае стагоддзе натхняла Заходнюю Еўропу ў барацьбе супраць каталіцызму і феадалізму... Але цяпер за вашым спісам, на жаль, няма ніякага дакумента, разумееце — д а к у м е н т а. Таму яго можна ўспрымаць як чыстую фантазію, сфабрыкаваную ў наш час.

— Я ўпэўнены, што арыгінал знік не выпадкова! — даказваю я.

— Гэта можа быць толькі містэрыя, — паціскае плячамі ён.

Гэта прыгожы, гладкі мужчына, у яго светла-сінія вочы, як у Соні, але глядзяць яны сцюдзёна; вусны тон-

---

[1] Леў *(балг.)* — асноўная грашовая адзінка ў Балгарыі.

кія, і ў спалучэнні з вачамі робяць твар яго замкнутым, халодным — па ім можна адразу пазнаць чалавека, які размаўляе з усімі на «вы», недаступнага для сяброўскіх адносін.

— Але ваш рукапіс мае філалагічную вартасць, дарагі доктар. На абароне сваёй доктарскай я абавязкова буду спасылацца на яго.

Карыстаючыся момантам, прашу, каб ён прыслаў мне студэнтаў, якія маюць патрэбу ў прыватных уроках па французскай мове.

— Добра, прышлю, — ківае ён дакорліва. — Хоць гэта і не пасуе вам — даваць прыватныя ўрокі па французскай мове. Я маладзейшы за вас, здаецца, на год ці два, але дазвольце выказаць вам і сваё засмучэнне, і здзіўленне, што вы — вядомы ўрач-акуліст, а займаецеся палітыкай! Калі б вы напісалі, напрыклад, хоць бы працу па гігіене вачэй, то прынеслі б людзям нашмат большую карысць, чым кінуўшы ў франкістаў некалькі гранат! Гэтыя справы — кідаць бомбы і займацца палітыкай — пакіньце звычайным, радавым людзям, а самі лячыце хворых і рабіце навуку! Палітыка — справа часовая, яна прыходзіць і адыходзіць, а навука вечная!

Бяру перакладзеныя старонкі і выходжу. У роце гарчыць. Я заўсёды выходжу з кабінета свайго швагруся прыгнечаны і адчуваю вялікае жаданне прыняць дозу чаго-небудзь алкагольнага.

Дажджыць, дажджыць... Малога Луку ўдзень глядзіць адна мая стрыечная сястра, дык няхай паглядзіць, а я зазірну ў «Дзікіх пеўнікаў». Акуратна згортваю перакладзеную частку рукапісу; дома далучу яе да сваіх запісаў. І надалей часткі рукапісу, якія перакладае мой швагер, буду падключаць да дзённіка. Гэта будзе не складана рабіць, таму што мой дзённік уяўляе сабою запісы, зробленыя на асобных лістках.

А цяпер... Напаткаць бы мне цяпер у «Дзікіх пеўніках» сярод ранніх наведвальнікаў прыяцеля, які пачаставаў бы мяне чаркаю ракіі!

## 10

Чорт ведае што! Нялёгка, аказваецца, было і бацьку, а мне здавалася, што ягонае жыццё было намнога весялейшае за маё. Ды і мамачка... Вечная ёй памяць, я

любіў яе такую, якой яна была. Вядома, бацькам захапляўся больш, чым ёю. Але бацька мой быў рамантык, а я — рэаліст, у мяне такія штучкі — «слёзкі, а потым пацалункі» — не пройдуць!

Аднак жа ўночы, калі я не валодаў сваёю воляю, я часта ўпадаў у розныя рамантычныя мроі. То цемра пачынала цяжарам навальвацца на дом, то нечакана прыходзіла Ана і прыкладвала мне да сэрца руку... Яе рука сапраўды валодала магічнай сілай супакойваць, прымiраць і ўсыпляць. Раней, калі мы яшчэ жылі разам, на мяне часам нападала ўпартае бяссонне, і я марна глытаў рознае снатворнае. Але варта было ёй пакласці мне руку на лоб, як я адразу забываўся, патанаў у нейкі зеленаваты туман, у якім там-сям свяціліся нібыта кропелькі блішчастай ртуці. Я плаваў у зеленавата-срэбраным свеце, нібы ў бязважкасці, і непрыкметна мною авалодваў сон.

Я адчыніў пакаёвы барык, адпіў некалькі добрых глыткоў віскі, потым кінуўся на ложак і зноў разгарнуў бацькавы нататкі — у тым месцы, дзе ён падкалоў перакладзеныя старонкі старадаўняга рукапісу.

Набліжалася паўдня.

Разгуляўся вецер, напаўняючы пакой саладкаватымі пахамі.

Каб іх чорт узяў, гэтыя пахі! Яны толькі расслабляюць.

Ой ты, бэ-эз,
бе-елы цве-ет...

Лета 1258-е, месяц VI, Манфер'е, у доме Бернараў. Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

Літасцівыя людзі, хто будзе чытаць гэты жыццяпіс, калі ён па волі бога ацалее і не прападзе па зламыснасці д'ябла — уладара (ці злога духу?) зямнога свету, благаславіце!

Благаславіце і злітуйцеся над грэшным Луканам Буграм, інакш Балгарынам, сынам Рэльё. І даруйце, што забыўся ўжо назву таго сяла, адкуль быў яго бацька і ў якім сам ён нарадзіўся. Калі мяне ўзялі ў палон лацінцы, я ўжо выходзіў з юнацкага ўзросту, і год быў 1204. Пасля таго 40 гадоў жыў на аксітанскай зямлі, квітнеючай, як райскі сад, і 14 гадоў на роўнай і шчодрай зямлі Ламбардыі. Вось чаму, а менавіта па віне

доўгага часу, які сцірае ўспаміны са слабай чалавечай памяці, я, грэшны, забыўся назву таго сяла, дзе нарадзіўся. Гэтаксама як амаль забыўся родную балгарскую мову, на якой гаварылі мае бацька і маці. Словы гэтае мовы ўзнікаюць у маёй памяці ледзь улоўныя, як бачацца постаці людзей і жывёл у густым, вельмі густым тумане. Або як вуха ўспрымае гукі, якія далятаюць з неагляднай далечыні. Калі не можаш разабраць, ці то дзіця плача, ці крычыць птушка, ці ваўкі выюць, ці скуголіць зімовы вецер. Даўно ўжо я пачаў думаць на лангдокскай мове, нават у Ламбардыі думаў гэтаю мовай. Толькі ў снах, і то ў ранейшыя часы, да мяне прыходзілі прывіды, якія гаварылі са мной па-балгарску. Прачынаючыся пасля гэтага, я не мог успомніць ні слова, толькі ведаў, што ў сне размаўляў на мове, якая гучала ў маіх вушах нібы ўпершыню. Такое можа быць толькі ў тым выпадку, калі чалавек надоўга адрываецца ад сваёй роднай зямлі, ад свайго племя, ад блізкіх. У яго жылах пачынаюць цячы другія сокі, яны бруяць з зямлі, на якую ён перасяліўся. Аднак яны змешваюцца з сокамі яго прашчураў, таму ён ужо і не той, што быў, але і не можа стаць зусім такі, як людзі, з якімі змяшаўся. Вось як д'ябал павяртае лёс, калі чалавек перастае, хоць на кароткі час, спадзявацца на бога. Хай на імгненне, якое ў пясчанай пустыні будзе адной пясчынкаю, але д'яблу і гэтага дастаткова, каб павярнуць лёс чалавека іншым бокам.

Але калі я, акаянны, ужо не помню назвы роднага сяла, дык добра помню, што месцілася яно непадалёк ад вялікага і ўмацаванага горада Філіпопаліса, славутага як багаццем і шматлюддзем, так і распустаю і міжусобіцамі сваіх жыхароў — балгарамі і слугамі д'ябла візантыйцамі. Бацька некалькі разоў вадзіў мяне ў гэты горад, і з таго, што бачыў там і чуў, хоць быў малы, у мяне засталося пра яго нейкае ўяўленне. Аднаго разу д'ябал спакусіў мяне, і я пайшоў паглядзець гарадское пазорышча[1], якое знаходзілася ў візантыйскай частцы горада. За гэты вялікі грэх атрымаў я ад бацькі справядлівае пакаранне — на два дні ён пакінуў мяне на адной вадзе і праз кожныя тры гадзіны напамінаў або, калі я засынаў, штурхаў пад рэбры, каб я чытаў святую

[1] Позорище *(старaслав.)* — відовішча; паказ, прадстаўленне (тэатральнае, цыркавое і пад.).

малітву «Ойча наш». Мабыць, ужо ў той час святло і цемрадзь пачалі між сабой бітву за маю душу, бо, чытаючы малітву «Ойча наш», я шчыра каяўся за дапушчаны грэх, але як толькі заплюшчваў вочы, скурчыўшыся на саломе, якая служыла мне за пасцель, усё тое, што бачыў на пазорышчы, зноў нібы ажывала перад маімі вачамі, і я радаваўся таму — вядома, радуючы і д'ябла, таго не разумеючы.

Цяпер пра гэта ў Ламбардыі думаюць інача́й і не аддаюць анафеме кожную зямную ўцеху як грэх, не схільны лічыць усе людскія справы і законы спараджэннем толькі Сатанаіла. У некаторых зямных радасцях, якая ёсць, напрыклад, у любові паміж мужчынам і жанчынай, цяпер бачаць не грэхападзенне, а дарунак божы. Таму што, кажуць, калі не будзе любові, дык і скончыцца і род людскі, і тады на зямлі запануе Нішто. І не прыйдзе Апакаліпсіс, і Слова-Ісус не сыдзе на зямлю, каб учыніць святы суд і акаваць Сатанаіла, які ўводзіў у зман людзей, і адправіць яго ў чэрава пекла, каб гарэў на вечным агні. Бо да Нішто аднолькава абыякавыя і Дабро, і Зло, і Слова-Ісус, і д'ябал-Сатанаіл. У гэтым духу ламбардцы ставяцца да вайны, калі прыходзіцца абараняць свой горад або сяло ад нашэсця іншаверцаў або заваёўнікаў, якія нахлынулі з чужых зямель.

О, божа справядлівы! Злітуйцеся і благаславіце, людзі міласцівыя!

Злітуйцеся і благаславіце!

У мяне выходзіць, як у таго чалавека, што збіраўся ў поле па рэпу ці гарбузы, а воз упрагаў паперадзе каня і кожны раз заставаўся галодны. Наша сям'я была багамільская, багамiламі былі большасць з нашых сяльчан. Тых, што трымаліся за праваслаўную хрысціянскую царкву, было меней. Іх было мала, але яны ставіліся да нас непрыязна, нават варожа, — д'ябал затлуміў ім галовы ганарлівасцю, хоць і яны былі беднякі, голыя і босыя, як і мы. Бацька мой быў чалавек суровы, еў толькі поснае, нам з маці загадваў казаць «Ойча наш» па чатыры разы ў дзень і два разы ўночы, сам казаў малітву ўдвая больш за нас і ўдзень і ўночы. Я чуў, што ён збіраецца пакінуць нас з маці і прыняць хрышчэнне на «дасканалага». З-за гэтага свайго намеру ён дома амаль нічога не рабіў, толькі маліўся богу і гаварыў з сялянамі, якія не былі багамiламі, спрачаўся з імі, пера-

конваючы ў нашых ісцінах. Аб харчах для сям'і клапацілася маці, і калі з бацькам у яе турбот было мала, бо хлеба ён амаль не еў, хапала яму крошак, дык са мною было цяжэй, таму што я быў рослы, больш за шэсць локцяў ростам, вышэйшага за мяне нікога не было ў сяле, ды і ў плячах быў шырокі. Маці часта ўпотай падсоўвала мне хлеба і брынзы, яйкі, нават сёе-тое выпрошвала мне ў праваслаўных, каб я мог наталіць свой воўчы апетыт, а яна, каб загладзіць грэх, што падкормлівала мяне, абыходзілася вадою з хлебам. Дзе яна брала той лішні кавалак для майго жывата, я так ніколі і не даведаўся. Але рос я і мацнеў, нібы малады змей.

Калі я бываў у горадзе, людзі азіраліся на мяне і дзівіліся. Аднаго разу чалавек, які назваўся начальнікам пазорышча, сказаў бацьку: «Аддай нам свайго хлопца! Мы будзем яго добра карміць і яшчэ плаціць па два перперы на дзень». Бацька стаў, асцерагаючыся, каб той не даткнуўся да яго, і закрычаў: «Сыдзі з дарогі, Сатана!» — «А, дык ты, пэўна, багаміл!» — зморшчыўся начальнік пазорышча. «Богу мілы, а д'яблу — нямілы!» — адказаў бацька. «Ну, чакай жа! — пагразіў той. — Зараз ты ўбачыш не аднаго, а сто д'яблаў адразу. Блюзнер ты!» — І пайшоў да двух стражнікаў, якія швэндаліся непадалёк. Тыя адразу накіраваліся да нас. Адзін з іх папытаўся ў бацькі: «Чалавеча, ці праўда, што ты багаміл?» Бацька адказаў пакорліва: «Добрыя людзі, я ўсяго толькі хачу, каб Дух святы перамог Сатану!» — «Ты сказаў нам «добрыя людзі», — хітра ўсміхнуўся стражнік, пачынаючы расшпільваць сваю шырокую вайсковую дзягу. — Адкуль жа табе ведаць, што мы добрыя?» — «Усе людзі, што не служаць д'яблу, добрыя людзі!» — адказаў спакойна бацька. «А севастакрат[1] і яго служыцелі якія людзі, па-твойму?» — «Севаст і яго служыцелі — слугі д'ябла!» — цвёрда сказаў бацька.

Вакол нас сабраўся натоўп. Некаторыя пасмейваліся, хто падбадзёрваў бацьку, але былі і такія, што падбухторвалі стражнікаў. Нейкі поп з рэдзенькай кучаравай бародкай крычаў: «Гэта антыхрыст, ён бунтуе праваслаўных хрысціян супраць царквы і дзяржавы!» —

---

[1] Севастакратар — тытул асобы валадарскага роду ў Візантыі і Балгарыі ў XII—XIII ст.ст.

«Я адразу ўнюхаў гэтага зламысніка, попе, як толькі ўбачыў!» — супакоіў яго стражнік, што расшпільваў дзягу.

Другі стражнік не ўмешваўся ў спрэчку, як быццам быў да ўсяго зусім абыякавы.

— Няхай гэты антыхрыст атрымае тое, што заслужыў! — крычаў поп, тузаючы сябе за бараду. — А потым пад варту яго і аддаць пад суд!

На твары таго, што распеderазаў дзягу, з'явіўся раптам выраз злога сабакі, якому наступілі на хвост. Мне здалося нават, што ён гыркнуў, потым пачаў з усяе сілы біць бацьку па чым папала — па галаве, па твары, па руках, якімі ён марна стараўся засланіцца. У яго з носа хлынула кроў.

І тады ў вачах маіх пацямнела ці, хутчэй, — пачырванела, усярэдзіне ў мяне ажно запякло. Я скочыў да стражніка і вырваў у яго дзягу. Ды як пачаў ёю хвастаць — то яго, то папа, дзяга ў маіх руках свістала, як разлютаваная гадзюка. Ужо даў ім, дык даў. З натоўпу чуліся воклічы: «От так, хлопча, от маладзец!» Некаторыя гукалі стражніку, які стаяў безуважна: «Чаго ты стаіш, гэй, вазьмі гэта ваўчанё за каршэнь!» Але стражнік рабіў выгляд, што не чуе.

Чым можа скончыцца тая бойка, што я распачаў, я нават не думаў, бо д'ябал зусім памутніў мой розум. Цяпер жа, калі разважаю па-ламбардску, разумею, што не д'ябал, а сам бог навучыў мяне пакараць д'ябла, які прыняў аблічча стражніка і папа.

У той час, калі я лупцаваў іх, з крапасных сцен, якія акружалі горад на трох пагорках, раптам пачуліся гукі баявых труб, ахова падавала сігнал трывогі. Натоўп імгненна рассыпаўся, усе кінуліся хто куды. Ніхто ўжо не звяртаў увагі ні на мяне, ні на бацьку, ні на папа і стражніка, якіх я лупцаваў. Ды і я нарэшце кінуў гэта, схапіў бацьку за руку і, не выпускаючы з другой сваёй рукі дзягі, гукнуў: «Бяжым, тата, пакуль брамы не пазачынялі!»

Сяляне, якія прыходзілі на базар, уцякалі праз паўднёвую браму. Да іх далучыліся і мы. Ужо калі адбегліся ад горада і перадыхнулі, нейкі чалавек растлумачыў: «Стражнікі з вежаў заўважылі, што да горада скачуць лацінскія коннікі. Іх было не многа, але хто мог ведаць, што за імі не ідзе вялікае лацінскае войска!»

А калі прыйшлі дадому, бацька насупіўся, нейкі час маўчаў, потым кажа мне:

— Ты, сынку, лёгка паддаешся д'ябальскім спакусам! Не хто іншы, а д'ябал падбухторыў цябе кінуцца на таго стражніка, выхапіць у яго папругу і падняць разлютаваную руку на яго і на папа. А Ісус, паводле Іаанавага евангелля, казаў: «Калі нехта цябе ўдарыў па адной шчацэ, павярніся — няхай ударыць і па другой!» Ты зрабіў сёння, як сляпы слуга д'ябла, і даў больш карысці д'яблу, чым прыносіць яму які-небудзь аблудны праваслаўны хрысціянін. Твой дух лёгка ўзгараецца, і таму баюся я, што не зможа ён прайсці праз райскія вароты, калі вызваліцца ад грэшнае плоці! І за тое, што ты падняў руку на тых аблудных людзей, табе такая кара: будзеш сядзець зачынены ў прыбудове толькі на вадзе, без крошкі хлеба. І каб казаў «Ойча наш» праз кожныя тры гадзіны, удзень і ўночы!

Я зайшоў у прыбудову, упаў на салому і адчуў, што вочы наліваюцца слязамі. Тады стаў на калені, пачаў маліцца: «Ойча наш, які на небе...», але далей не мог. Разам са слязамі з галавы маёй выйшлі словы святой малітвы. Я зноў прылёг на салому і падумаў: «Вось які чалавек бацька! Я выратаваў яго ад тых звяроў, а ён сварыцца і карае! Ды калі б я не абараніў, яго прывязалі б на пляцы і білі б палкамі, пакуль скура не злезе і агаляцца косці! Аднойчы ж разам з ім бачылі, як гэта робіцца, і праз увесь час шапталі «Ойча наш». Але чалавек не ўстаў, сканаў пад палкамі, і яго на вяроўках зацягнулі да Хебраса і там, як падлу, кінулі ў ваду. Людзі расказваюць, што ў Бероі і іншых гарадах, нават і ў Царградзе-Тырнаве не гоняць багамілаў, нават цар Калаян, які ні ўдзень, ні ўночы не выпускае з рук мяча, быў літасцівы да іх. А ў Філіпапалісе іх гоняць. Ідучы ў Філіпапаліс, мы заўсёды здымаем манаскія расы, і калі ўсё ж праваслаўныя папы і стражнікі пазнавалі нас пад палатнянымі рызамі і кажухамі, дык гэта з-за размоў, у якія ўлазілі нашы пры кожным выпадку. Вось і бацька не ўтрымаўся, увязаўся ў гаворку, і мог нашкодзіць сам сабе, калі б у мяне ў вачах не пачырванела. Я выбавіў яго, а ён сварыцца і карае!»

У мяне зноў набеглі слёзы, але прыйшла маці, прынесла кавалак жытняга хлеба і палову рэпы. Яна хавала гэта пад фартухом і падала мне, як заўсёды, з вінаватай, баязлівай усмешкай.

— Можа, к вечару і сырочку крыху расстараюся! — уздыхнула яна. — Глядзі ж, каб толькі бацька не бачыў!

— За што бацька пакараў мяне? — скардзіўся я матцы, прагна кусаючы хлеб і рэпу. — Калі б я не заступіўся, яны адбілі б яму скуру! Ён жа сам бачыў, як забілі да смерці нашага!

Яна глядзела скрушліва і маўчала.

— Няпраўда, мамачка, няпраўда яго!

— Яго праўда заўсёды, сынку. — Яна ласкава паглядзела на мяне і ўздыхнула. — Памаліся, сынку, ды ляж паспі. Як сцямнее, прынясу табе яшчэ што, як расстараюся. На сяле неспакойна, як у патрывожаным вуллі. На Філіпопаліс лацінцы напалі.

У мяне вочы на лоб палезлі, хлеб перасеў у маім горле.

— А што, як і на нас нападуць, мамка?

Яна пацiснула плячамі і нічога не сказала. Потым устала і ціхутка выйшла.

Надвячоркам падышоў бацька:

— Ці молішся ты, сынок?

— Малюся, татка.

— Добра. Маліся ад сэрца, бо грэх твой вялікі.

— Татка, а што, як лацінцы нападуць на нас?

Бацька склаў рукі для малітвы:

— Благаславі і злітуйся над намі! Ойча наш...

Я таксама пачаў маліцца. Памаліўшыся, зноў папытаўся:

— Што рабіць, калі нападуць лацінцы?

— Ты сядзі тут, кажы «Ойча наш» і думаць не думай пра лацінцаў. Увечары вернецца Вучыцель, ён скажа, што нам рабіць. Ён заўсёды вучыў нас не падымаць рукі ні на кога.

Вучыцель быў наш «дасканалы», святы чалавек.

Бацька пайшоў, а я ўсё думаў і думаў пра лацінцаў, у мяне нават узнікла жаданне навастрыць на ўсякі выпадак сякеру.

Усё тое здарылася ў год 1204, а месяц быў пяты ад пачатку. Усё чыста помню, што тады было, адно што расказваю пра гэта лангдоцкаю мовай. На гэтай мове цяпер размаўляю ў памяці і з бацькам, і з маці, з усімі тагачаснымі людзьмі, а гэта ж ні мае бацька і маці, ні хто б там ні быў з тагачасных людзей ведаць не ведалі, што існуе на свеце такая мова. Вось якая дзіўная існасць часу. Падзеі ўваскрашаюцца ў маёй памяці, і

людзі, і людская гаворка, толькі з тою розніцай, што гаворка гэта цяпер лангдоцкая і размаўляю я з людзьмі на гэтай мове.

І вось настала ноч. Бацька спаў на двары, а мы з маці ў каморы, як раптам каля двара пачуліся галасы, сярод іх выдзяляўся крык: «Гэй, людзі, уставайце, Філіпапаліс гарыць!»

Я выскачыў на двор, і, як было цёмна, а людзей — цэлы натоўп, я згубіў з вачэй бацькоў сваіх, ды і пачуць іх не мог, бо гамана стаяла вялікая. У канцы сяла, з заходняга боку, узвышаўся пагорак, парослы травой і кустамі, дзе мы пасвілі коз. Туды і кінуліся людзі. У падножжы пагорка многія заблыталіся ў кустах, але я ведаў тут кожны кусцік і хутка ўзабраўся на вяршыню. Некалькі чалавек мяне апярэдзілі, у цямноцці я не разабраў, ці то былі нашы, ці хто з праваслаўных. Ды і не да гэтага было, бо відовішча, што адкрылася вачам ад Філіпапаліса, перахапіла дыханне. Паміж трыма пагоркамі біла ў неба суцэльнае вогненнае зарыва. Час ад часу з таго зарыва вырываліся языкі полымя, выгінастыя, нібы цмокі, калі яны рыхтуюцца да скачка. Па зарыве не цяжка было здагадацца, што ўвесь Філіпапаліс ахоплены агнём.

— Заўтра і мы будзем гэтак гарэць! — азваўся нейкі мужчына, і я пазнаў голас Нікадыма, старэйшыны нашага сяла.

— Д'яблавы жарты, — адказаў яму нехта з нашых. — Што яшчэ прыгажэйшае можна ўбачыць на гэтым д'ябальскім свеце?

— А калі д'ябальскі, то хай ідзе да д'ябла, хай паляць і наша сяло, няхай гарыць усё!

— А да таго, як згарыць, што будзе? — папытаўся старэйшына. — Табе ў галаў не прыходзіць?

—А што там такое можа здарыцца? Пераб'юць нас, ды ўсё!

— Але перад тым як перарэжуць табе гарляк, вош паўзучая, — ускіпеў старэйшына, — у цябе на вачах зганьбяць тваю жонку і абедзвюх тваіх дачок! Будзеш глядзець і не наглядзішся. Ты пра гэта падумаў?

Той не адказаў. Настала глыбокая цішыня. Усе глядзелі, як гарыць Філіпапаліс, і маўчалі.

— Ну вы, чаго замоўклі? — рэзка загаварыў ста-

рэйшына. Ён яшчэ нядаўна служыў у Калаянавым войску, быў мацак, лёгка мог ускінуць на плечы цяля, а вусы якія насіў! Даўжынёю на пядзю, і не закручаныя — канцы ў іх распрастаныя, нібы ястрабіныя крылы. Я не мог нагледзецца на іх, калі толькі ўбачыў, а бацька ж усё казаў, што галава старэйшыны — дупло, у якім сядзяць д'яблы.

— Што там гаварыць! — пачуў я бацькаў голас. — Вучыцеля нашага няма, і мы не ведаем, як тут быць. Мы супраць праліцця крыві, хоць многія нашы памагалі Асену супраць візантыйцаў.

— Табе-то што! — здзекліва засмяяўся старэйшына. — Твая жонка — толькі скура ды косці, яе не зачэпяць, але вашым Васілам і яго маладзіцай, і дачушкамі іх зацікавяцца. Іх-то не прамінуць. Будуць гвалціць перад ім, пакуль у яго вочы не павылазяць. А потым і самога, і жонку ягоную заколюць, дачушак жа забяруць з сабою, каб і другія рыцары маглі паспытаць!

— Авой, людцы! — загаласіла нейкая жанчына. — Каб табе язык адняло!

Гэта была Васіліца, Васілава жонка.

— Гаварыць вы ўмееце, недалугі няшчасныя! — не сунімаўся старэйшына. — Але як прыходзіць час гонар жонак і дачок бараніць, хаты і набытак свой адстаяць, дык вас і няма!

— Мы супраць забойства і вайны! — зноў азваўся бацька. — Мы за тое, каб усе людзі жылі ў міры, як браты. І мы кажам, што нож вымае той, хто слухае д'ябла. «Хто вымае нож, ад нажа і памрэ!» — сказана ў евангеллі. Забойства нараджае забойства, помста нараджае помсту. Але калі франкі больш заядлыя паслугачы д'ябла, чымся візантыйцы, і калі яны прыйшлі з далёкіх зямель, толькі каб вяршыць пякельную справу, я кажу — няхай кожны паводзіць сябе з лацінцамі, як палічыць за лепшае, хай робіць так, як скіруе яго душа. У адсутнасць Вучыцеля я толькі гэта магу сказаць. Няхай кожны робіць так, як рабіў у часы Асена — ён нас не гнаў, а гнаў візантыйцаў, і мы яму памагалі. Але хто дастане нож, каб ведаў, — потым яго чакае вялікае пакаянне!

— Цяпер каб толькі ацалець, — сказаў старэйшына. — А потым, потым будзем думаць!

— Я буду біцца разам з мужчынамі, плячо ў плячо! — гукнула Васіліца.

— Розуму ў цябе няма, — буркнуў на яе мужык.

— Ты са сваім розумам можаш сядзець у хаце, — абсадзіла яго жонка.

Потым усе мужчыны сабраліся на раду каля старэйшыны і вырашылі так.

Праваслаўныя ўмацуюцца на вале, які з даўніх часоў загароджвае сяло з паўночнага захаду. А багамілы, якіх лікам болей, будуць абараняць подступы да яго з паўднёвага і паўднёва-ўсходняга боку. Я адразу кінуўся дадому ўзяць сякеру і люта дакараў сябе, што за дзень не навастрыў яе, хоць гэта мяне турбавала. Калі я прыбег дадому, каб узяць сякеру, мяне здзівіла, што маці паспела ўжо вярнуцца. Мабыць, ведала нейкую старую сцяжыну, якая прасцей вяла да нашага двара. Яна паклікала мяне ў хату і адразу абвязала цераз плячо дзвюма казінымі скурамі: адна каб засцерагала ад стрэлаў грудзі, а другая — спіну. Адкуль маці ведала гэтыя ахоўныя меры? Святло, якое сеялася наўкола ад васковай свечкі, было слабое, і я не мог добра разгледзець яе твар у тую хвіліну, калі яна адпраўляла мяне на вайну. Каб хоць крыху мець падабенства з сапраўдным воінам, я падперазаўся вайсковым поясам, што адабраў у стражніка.

Я пайшоў, і яна падалася за мной, і я спытаўся ў яе:

— А ты куды ж гэта, мамачка?

— Няўжо ж ты думаеш, што, як вы абодва там, я буду сядзець у хаце? — адказала нязлосна яна.

На двары нават васковая свечка не свяціла, а святла ад зорак і зусім было мала, каб разгледзець яе твар, калі яна вымаўляла гэтыя словы.

Мне як наканавана было запомніць яе такой, якою бачыў у той дзень, калі яна апошні раз прынесла мне цішком кавалак хлеба і палову рэпы. Гэты святы ўспамін і цяпер нашу ў душы сваёй.

Благаславіце і злітуйцеся!

На супрацьлеглым ад насыпу баку за сялом абаронай камандаваў мой бацька — ён замяшчаў Вучыцеля, а самога Вучыцеля не было.

Яшчэ не займалася зара, стаяла глыбокая ноч, у цёмным небе мігцелі зоркі, і толькі адна якая-небудзь раптам зрывалася, а мы стаялі і маўчалі — чалавек пяцьдзесят мужчын і бадай яшчэ столькі жанчын.

— Выдзірайце колле з платоў у дварах і агародах, —

распараджаўся бацька, — і разам з тычкамі нясіце яго сюды. Ад Варошавага долу і аж да пагорка, дзе ўсе былі, калі глядзелі, як гарыць Філіпопаліс, паставім пляцень. Хто мае калёсы, вазы, хутка запрагайце, і кожны, у каго воз ці калёсы, каб паставіў за дваццаць крокаў ад месца, дзе будзе пляцень. Вунь там, — бацька адмераў дваццаць крокаў ад месца, дзе стаяў. — Тут іх расставіце так: дышлем да Варошавага долу, а ярмом — да пагорка, дзе былі. Калі лацінцы адкінуць нас ад плятня, мы станем за вазамі і калёсамі. І будзем адбівацца хто чым можа — матыкамі, сякерамі, косамі, коллем, — пакуль трымаць будуць ногі. Як развіднее троху, жанчыны няхай збіраюць каменне і складваюць у кучы за плятнём і вазамі. — Ён памаўчаў і нарэшце сказаў: — І няхай ніхто не баіцца смерці, таму што смерць, як вы ведаеце, вызваляе душу чалавека ад таго праклятага цела, якое д'ябал зрабіў з гразі і па свайму падабенству. Бог прыме праведныя душы і суцешыць іх, а тым, якія саграшылі, пакажа шлях да збавення.

Не ведаю чаму, але гэтае месца мне не падабалася. Плятні, вазы — усё гэта блыталася ў галаве, у гэтай неразбярысе я не мог знайсці сабе пэўнага месца. Дзе мне тут размахнуцца сваёй сякеркаю? Як ні павернешся, дык можна або ў плот уляпіць, або ў які-небудзь воз!

Я выбраўся цішком, падумаўшы — хто мяне ўпоцемку ўбачыць! Нейкі час яшчэ заўважаў маці, якая трымалася паблізу, але, калі бацька нагадаў пра каменне, яна адышлася да жанчын, і яе не стала відаць сярод іх. Я крадком адыходзіўся да насыпу, спачатку нібыта без ніякай мэты, а потым, калі зразумеў, што нікому няма ніякай справы, куды я пайшоў, паскорыў крокі. Узабраўся на вал і адразу наляцеў на старэйшыну.

— Ты што, багамільскае семя, шукаеш тут? — здзіўленню старэйшыны не было мяжы. Вядома, пазнаў ён мяне ў цемры не ў твар, а па росце — я ўзвышаўся над ім на цэлую галаву, а ён жа ў нашым сяле самы рослы чалавек — пасля мяне.

— Хачу біцца тут, пры вас, каля вазоў і плятнёў мне не падабаецца!

— Якія вазы і плятні табе ўбіліся ў галаву?

Я растлумачыў.

— Бач ты! — пакруціў галавой старэйшына. —

Аказваецца, апрача таго, што «Ойча наш» свой мармыча бесперастанку ды меле розную лухту пра д'ябла, ён разбіраецца і ў ваенных справах!

Цяпер, калі акунаюся ў тыя даўно мінулыя гады і ўспамінаю тыя падзеі, думаю, што д'ябал знарок штурхнуў мяне на вал, каб потым вывесці на Мансегюрскае вогнішча, а адтуль — да ламбардскіх крушэнняў веры маёй, якія да гэтага часу смаляць душу маю мацней за полымя ў Мансегюры. Ён, акаянны, чакае майго раскаяння, горкага раскаяння, і тады ўжо заграбе душу маю пад сваю ўладу назаўсёды!

Благаславіце і злітуйцеся!

— Дык ты прыйшоў сюды, каб біцца разам з намі, га? — засмяяўся старэйшына смехам, у якім было столькі пагарды, што разануў мяне, нібы нажом. — Ды ты ж яшчэ дзіця зусім, ану, марш да матчынай спадніцы! Пакінь сваю сякеру, і каб духу твайго тут не было!

— Сякеру сваю не аддам нікому! — натапырыўся я, нібы сабака, які сустрэў на шляху сваім падобнага сабе. — Няхай толькі хто паспрабуе ўзяць!

Я ж сціснуў дзяржальна так, што ажно ў плячы нешта хруснула.

— Бач ты яго, шчанюк бясхвосты! — зноў ашчэрыўся старэйшына, але на гэты раз у яго смеху не было абразы, з якою ён мяне сустрэў.

— Дайце мне месца, дзядзька Нікадым, — паддобрыўся я, — і я буду абараняць яго ад лацінцаў зубамі і кіпцямі!

Не ведаю, ці ўзрадаваў яго зваротам «дзядзька», бо ён доўга соп і пераступаў з нагі на нагу. Праваслаўныя нас не любілі, ад старэйшыны таксама слова добрага не чулі. Праўда, ён не біў нас і нікога з нашых не адправіў на суд у Філіпопаліс, але лаяў моцна і як толькі багамілаў не называў.

— Калі ты такі ўпарты і вырашыў добраахвотна памерці, месца я табе дам. Месца тут колькі хочаш, воінікаў няма!

Ён улавіў мяне за руку і павёў па грэбені насыпу. Так мы дайшлі да нейкай упадзіны, дзе грэбень праправальваўся, утвараючы як бы прадаўгаватую яму.

— Як крыкну «лажысь», лажыся і ляжы. Не варушыся, пакуль не пачуеш, што нехта лезе ўгору. — Старэйшына націснуў мне на плячо, і я адчуў, што рука яго цяжкая, як жалеза. — Тады прыўзніміся на локці, па-

глядзі, адкуль набліжаецца разбойнік. Прычакай, пакуль падлезе блізка, тады ўжо чахні яго сякерай. Толькі ж глядзі, не цаляй па галаве, бо мазгаўні ў іх схаваныя пад жалезнымі шлемамі. Цаляй паміж шыяй і плячом! Скончыш справу — зноў лажыся. Зразумеў?

— Зразумеў, — кіўнуў я галавой, адчуваючы, як кроў стукае ў вушы.

— А пакуль ляж паспі, давідна тыя свінні не палезуць.

Я апусціўся на траву, але сон мяне не браў. Павярнуўся на спіну, угары мігцяць зоркі, адна раптам сарвалася і знікла ў цемры. А цыкады стракочуць, стракочуць, і як быццам на свеце няма ніякіх лацінцаў. І раптам мне стукнула ў галаву: а хто ж заўтра выганіць коз? У нас дзве казы — уся наша жыўнасць.

Прачнуўся на світанні, паглядзеў на раўніну — усё спакойна, як заўсёды. Толькі над Філіпапалісам сцелецца дым, падобны на туман. Нейкі стары разносіў хлеб, адломваў кожнаму па кавалку.

З'еўшы хлеб, я агледзеўся і ўбачыў, што мае суседзі з абодвух бакоў — кожны крокаў за дзесяць. І кожны выглядаў неяк вельмі самотна. Тут было месца яшчэ на сто душ, а нас набралася ўсяго каля трыццаці. Унізе пад насыпам стаялі каля дзесяці чалавек дарослых, сярод іх і старэйшына. Яны пра нешта размаўлялі. Не ведаю чаму, сэрца маё зашчымела. «Нічога ў нас не выйдзе, — падумаў я. — Колькі нас? А іх жа, напэўна, цэлае войска!»

Сонца паднялося ўжо высока, калі мы ўбачылі іх. Як быццам на нас рынуўся Хебрас, ды яшчэ разліты, разліты, якім ён бывае ўвосень, і гэтак зіхцеў на сонцы, ажно балелі вочы.

— У жалеза адзетыя і самі, і коні іхнія, таму і бліскаюць так, не бойцеся! — закрычаў старэйшына і, на вялікае маё здзіўленне, зарагатаў, што мяне ажно прабралі дрыжыкі.

— А мы іх — калом па галаве! — азваўся мой сусед злева. — Да жалеза кол вельмі добра прыстае!

— Дык папамалоцім іх як след, пакуль яны нас змелюць! — зноў засмяяўся старэйшына, і на гэты раз ад яго смеху стала лягчэй на душы. Затым твар яго выцягнуўся, і ён уладна закрычаў: — Лажысь! І каб ніхто не варухнуўся, як было сказана!

Я кінуўся на траву і прыўзняўся на локці — так, каб раўніна не знікла з поля зроку. Лацінскае войска рухалася роўна і стройна, быццам пад шнур. Над шэрагамі развяваліся сінія, жоўтыя, зялёныя сцягі. Кідаліся ў вочы іконы, узнятыя на высокіх дрэўках. Коннікаў было не меней за пяцьсот. Дасягнуўшы сярэдзіны поля, частка войска аддзялілася і гэтак жа стройна, як пад шнур, рушыла ў абход сяла, нам у тыл, дзе чакалі іх нашы.

Астатняе войска, што ішло на нас, ужо было блізка. Ужо можна было добра бачыць, што ўсе былі ў шлемах, у латах, а ў коней ад шыяў спускаліся нейкія кароткія фартухі.

Нарэшце яны падышлі да насыпу як дакінуць каменем. Хтосьці з іх, пэўна, нейкі начальнік, нешта брахнуў, і ўсе як адзін саскочылі на зямлю. Той зноў брахнуў, і войска, пастроіўшыся ў тры ланцугі, рушыла на нас у пешым страі. Ад пярэдняга ланцуга аддзялілася некалькі рыцараў і хуткім крокам, пакідаючы за сабой астатніх, з аголенымі мячамі палезлі на насып.

— Цяпер бы самы раз гвазdroppedануць па іх з прашчаў, але ж няма, — уздыхнуў старэйшына, які залёг за некалькі крокаў за мною. — Гэтых, першых, паслалі разведаць, колькі нас і якія мы.

Сэрца ў мяне забілася так моцна, што ажно перахапіла дыханне: акурат насупраць сябе я дачуў аднаго з «гэтых першых». Спачатку да маіх вучэй даляцела шамаценне травы сухой і шоргат дробных каменьчыкаў пад яго ботамі, потым у вушы рэзнула яго зморанае дыханне. Ох, божа, яшчэ крыху, і ён скочыць на мяне!

Але я счакаў яшчэ момант, два, пакуль адчуў, што галава яго вось-вось пакажацца над краем адхону. Тады я ўскочыў і, пакуль уздымаў сякеру, кінуў вокам якраз на тое месца — паміж плячом і шыяй. І гэтак моцна секануў, што сякера, распаласаваўшы яго, да палавіны ўбілася ў зямлю. Я мусіў патузаць дзяржальнам туды і сюды, каб дастаць яе. На бліскучым лязе сякеры змяшалася кроў з пяском, мяне ажно званітавала.

— Выдатна, хлопча! Хутка лажыся! — крыкнуў мне старэйшына, але голас яго даляцеў да мяне як быццам з другога канца сяла. Я кінуўся на траву і глыбока ўдыхнуў паветра. У вушах у мяне моцна стукала.

— Ну вось бачыш, Луканчык, не так гэта і страшна!

Гэтае «Луканчык» так падзейнічала на мяне, нібыта

я глынуў сцюдзёнай вады. Нібыта мяне пагладзіла мацерына рука. Адразу ў вачах пасвятлела і сэрца пачало біцца раўней.

— А зараз, Луканчык, працягні руку, — зноў азваўся старэйшына, — і вымі з рукі гэнага меч. Падай мне яго!

Я прапоўз крыху наперад, скалануўся ад мерцвяка, але працягнуў руку і намацаў ягоную. Яна была вільготная, пальцы яшчэ сціскалі ручку мяча; як забраў меч, не магу ўспомніць, помню толькі, што абліўся потам. Вярнуўся паўзком назад.

— Вось гэта іншая рэч! — ці то праскавытаў, ці то прагыркаў старэйшына ад задавальнення, прымаючы меч да сябе вастрыём, — не ведаю. Над грэбенем насыпу запанавала такая цішыня, што мяне ажно скаланула.

З тых, што кінуліся першымі да нас, не варушыўся ніводзін. Напэўна, усе былі перабіты адразу.

Але гэтая страшная цішыня не цягнулася бог ведае колькі. Раптам пачуўся суцэльны тупат, быццам вялікая-вялікая чарада валоў хутка ішла на вадапой. Я ўзняўся на локці, і тое, што ўбачылі вочы мае, не спалохала, а здзівіла мяне. На нас наступалі тры доўгія ланцугі зіхатлівага ад сонца жалеза! Развяваліся сцягі, калыхаліся іконы, чулася песнапенне, як на могілках, калі хаваюць якога-небудзь праваслаўнага папа.

— Напеяце на свае галовы! — працадзіў праз зубы за мною старэйшына.

Нехта падпоўз да яго, пачулася, як той кажа:

— Дзядзька Нікадым, такую сілу нашымі кіямі не зможам адолець, трэба прасіць літасці, пакуль не позна!

— Замоўч, сабака! — прасіпеў старэйшына, і па тым, як той войкнуў і грымнуўся вобзем, я здагадаўся, што адбылося.

А ўнізе першы ланцуг ужо рушыў на насып, за ім на адлегласці дзесяць крокаў — другі, а яшчэ і трэці ланцуг — на такой жа адлегласці за другім. Кожны рыцар трымаў у правай руцэ меч, а ў левай — шчыт.

— Устанеце, калі скажу! — гукнуў старэйшына. — І тады лупіце, пакуль жывыя! Хто адступіць, таму сам растаўку мазгаўню, так і ведайце!

Неўзабаве на грэбені закіпела такая каша, якая, мабыць, можа варыцца толькі ў д'ябальскім казане. Тыя лезлі на гару, а я іх біў, не даўшы ступіць на роўнае, лупіў абухом сякеры так, што з іх шлемаў ляцелі

іскры. Пад нашымі ўдарамі іх жалязякі грымелі, быццам увесь вал ператварыўся ў агромністую кузню, у якой трыццаць кавалёў разам старанна і часта-часта кавалі жалеза вялікімі малаткамі.

Першыя лацінцы, што надта спяшаліся, пападалі ў знямозе каля маіх ног, іх целы грудзіліся адно на адным. Каму ўдавалася праскочыць, таго тут жа даставаў старэйшына, які працаваў за мною — яго меч толькі свістаў — «ж-жых, ж-жых!», быццам шыпела разам сто змей альбо чуўся гром, калі лацінец паспяваў падставіць пад удар свой шчыт.

Але тыя паступова пачалі адольваць нас, яны ўклінь-валіся паміж намі, бо мы стаялі рэдка, а іх жа было многа. Я біў сякераю налева і направа, махаў, сек, не прыглядаючыся, хто трапляўся, і лілася кроў, як на калядны, калі праваслаўныя калолі япрукоў. У моманты, калі паблізу не аказвалася ворагаў, я выціраў пот, што заліваў мне твар, і азіраўся. Толькі там-сям некаторыя з нашых яшчэ трымаліся, адбіваючыся калом або сякерай, а вакол іх ваўкадавамі скакалі тыя, прыкрываліся шчытамі ды стараліся злаўчыцца, каб ударыць мячом або пракалоць. Раптам, калі я зноў павярнуўся да раўніны, у вочы кінулася другая шарэнга лацінцаў — яна стаяла на сярэдзіне насыпу, не кратаючыся з месца, чакала каманды ўступіць у бой. «Божа!» — заныла нешта ўва мне, і я адчуў у нагах слабасць. І пачуў тады голас старэйшыны, які крычаў:

— Луканчык, ты барані мяне са спіны, а я буду цябе! І не бойся! Нічога страшнага, адзін раз паміраць!

Ён падхапіў нейчы шчыт і цяпер прыкрываўся ім. Твар яго быў запырсканы крывёй, толькі зубы і вочы блішчалі.

Вакол нас варожы абруч сціскаўся, падобна, мы заставаліся адны. Ды, напэўна, так яно і было. На нейкі момант бой прыпыніўся, і з натоўпу лацінцаў выскачыў наперад нейкі здаравяка, проста велікан! Ён пралапатаў штосьці старэйшыне, а наш крутнуўся і кінуўся яму насустрач. Я глядзеў, як са звонам сустрэліся іх мячы, і як меч старэйшыны, выбіты з рукі, адляцеў убок, і як той замахнуўся сваім і сekануў яго па галаве.

Мне пачарнела ўваччу, я голасна заплакаў. І з плачам, сціскаючы сякеру, я рушыў на велікана. А той смяецца і адмахваецца ад мяне рукой — маўляў, не трэба! Ці так я яго зразумеў, ці не зразумеў зусім, ці мой ро-

зум памутнеў — я плакаў і ішоў яму насустрач. Нарэшце ён крыкнуў нешта людзям сваім, і яны наваліліся на мяне з усіх бакоў, наставіўшы перад сабою шчыты. Я ўзняў сякеру, каб замахнуцца, але ззаду стукнулі мяне плазам мячом па галаве, і святло ў вачах маіх пагасла.

## 11

Ужо згушчаўся змрок — здавалася, цямнейшы, чым звычайна. Нейкі час увушшу ў мяне стаяла страшэнная калатнеча, звінелі мячы, мужчыны ў кажухах і калматых шапках з адчайнай лютасцю размахвалі сякерамі і калкамі, адбіваючыся ад рыцараў, закаваных у жалеза, якія налятала на іх з коп'ямі і мячамі, у шлемах з грывамі і пер'ем...

Выглянуў у акно — на дварэ хутка цямнела. І адразу падумалася, што настае трэці вечар, як я расхварэўся, і праз увесь гэты час я нікому не пазваніў, ніхто і мне не абазваўся, і ні з кім я не размаўляў, акрамя сакратаркі шэфавай. Калі ўспомніў сакратарку, стала смешна. Уявіў сабе, як яна, танюсенькая і далікатная, зачытвае загад наконт майго пакарання, і ручкі яе дрыжаць, але яна трымаецца харобра і з годнасцю, нібы дробны фокстэр'ерчык перад аўчарскім ваўкадавам. Я мог бы ўзяць яе пад паху і, трымаючы гэтак, гуляць у більярд. Як толькі акрыяю, падумалася, паднясу ёй букецік кветак. Яна спачатку спалохаецца, як, зрэшты, усе ў нашай бальніцы палохаюцца, неспадзявана сустрэўшы мяне на шляху, а потым шчочкі яе паружавеюць. Якая сцэнка! Ваўкадаў падносіць кветкі фокстэр'ерчыку ў сукеначцы.

Я міжволі засмяяўся, хоць было не да смеху. Фокстэр'ерчык у сукеначцы, ха-ха!

Гэта ж столькі ў мяне знаёмых і прыяцеляў, а вось жа ніхто з іх не здагадаўся пазваніць! Не менш за тузін набярэцца такіх, што па адным або па двое падсаджваліся да майго століка ў піўной «Пад ліпамі». І не менш за тузін набярэцца дактароў, якія асісціравалі мне пры аперацыях і якіх я вучыў, як хадзіць скальпелем каля валасінкі жыцця так, каб не перарэзаць яе. Што праўда, то праўда — усе яны былі драбнейшыя рыбкі ў параўнанні са мной — і ў літаральным, і ў пераносным сэнсе, дык, пэўна, цяпер яны адчувалі сябе ўзвышана, як

роўныя з роўным — няхай не задзірае нос! Пакуль я быў у сіле, пакуль я быў начальнікам у клініцы, перада мной скідалі шапкі, мне гаварылі прыемныя рэчы. Адзін з такіх, доктар Манеў, здольны такі хірург, аднаго разу браў яго з сабой у Прагу, асісціраваць, дык некалькі разоў прапаноўваў прыслаць мне сваю жонку — нависці «парадак» у маёй халасцяцкай гаспадарцы! А жоначка яго маладая і пухленькая, дабрадушная, з тых, што вельмі хутка паддаюцца. Чаму ж цяпер, ідыёт бязглузды, не папытае па тэлефоне, ці не прыслаць мне сваю жонку? Маўчыць, нягоднік, як рыба, таму што думае, што калі ўжо я ўпаў, дык не скора падымуся.

Нават дыспетчар бальніцы не знайшоў патрэбным паведаміць мне дні дзяжурства — цяпер жа я не загадчык, значыцца, павінен несці дзяжурства нароўні з усімі звычайнымі ўрачамі! Ці там яшчэ не маглі ўспрымаць мяне як «звычайнага»? Калі ў льва зрываюць генеральскія пагоны, розныя гіены і шакалы тут жа пачынаюць паляпваць яго па спіне, падміргваючы: «Ну што, прыяцель, пагуляем у жмуркі?»

Ды, зрэшты, ім лепей без мяне. Хто яшчэ паставіць пад сумненне прагнозы такіх ужо нібыта беспамылковых машын? Хто кіне выклік лёсу прапановай «вар'яцкай» аперацыі? Хто насмяецца з так званага «цвярозага розуму»? Хто яшчэ будзе падбухторваць калектыў на рызыку, тым самым рызыкуючы прэміяльнымі для ўсяго калектыву? Рызыка — гэта азарт, а хто можа гарантаваць поспех пры азарце?

Што да мяне, дык я люблю азарт. Супраць бязносай у чорным плашчы я гуляю ва-банк і выйграю. Пры любой іншай гульні выйграе яна.

Вось гэта дык гульня!

Але нават дыспетчар не звоніць і ўвесь свет маўчыць, нібы закляты. Ці, можа, людзі засталіся без галоў, або, можа, у іх галовах не засталося месца для памылак? Навошта тады я сам? Тады трэба або асвойваць новае рамяство, або ехаць у якую-небудзь краіну, дзе розныя хунты ў генеральскіх ботах топчуць душы людскія, як, напрыклад, у Лацінскай Амерыцы. Вопытныя ігракі, як я, там патрэбныя. Ану, бязносая, сядай за стол! Я стаўлю на карту душу клятага «венсэрэмаса», цяжка кантужанага выбухам генеральскага снарада. Калі выйграю, уваткну табе ў задніцу свінячы хвост, а прайграю — шпульну ў акно генерала-людаеда бутэльку з

запальнай сумессю. Альбо, як мой цёзка Лукан з гэтага жыццяпісу, схаплю сякеру і буду секчы, секчы мундзіры з эпалетамі, пакуль уся зямля наўкола не стане падобнай на чырвоны генеральскі мундзір.

Я зірнуў на гадзіннік, не было яшчэ сямі гадзін, а ўжо добра пацямнела, ішоў дождж. У паветры варочаліся водгаласы далёкіх грымотаў, ажыўшы вецер нагнаў у пакой прахалоду і водар мокрай зеляніны. Праяснела крыху і ў галаве, зніклі прывіды чырвоных генеральскіх мундзіраў, разышлося і раздражненне ад крыўднага маўчання тэлефона. Ды пайшлі яны да д'ябла, прыяцелі! Значыцца, такі сапраўдны кошт гэтага прыяцельства! Калі ўжо Ана, родная жонка, магла паехаць, не дачакаўшыся мяне, дык чаго мне чакаць ад другіх...

Я сядзеў на ложку, слухаў буркатанне навальніцы, і думкі мае зноў закруціліся вакол Аны. Калі ў яе жыцці ўвайшоў другі мужчына, ну што ж, няхай спіць з тым ідыётам, калі падабаецца, можа хоць выйсці за яго замуж, калі той дурань зловіцца на кручок. Але чаму пры гэтым трэба выкідаць, нібы брудную насоўку, 15-гадовае прыяцельства са мною? Вядома, калі гэтае прыяцельства азначала для яе не болей, чым каляровае шкельца з танных маністаў, што можна купіць у любым латку.

Адзін д'ябал, бадай што, мог разабрацца з яе пачуццямі, я ж ведаю адно, што сапраўднае прыяцельства ніколі не можа проста так ператварыцца ў бітае шкло. «Напішу ёй, няхай не зважае на нашы сямейныя сувязі! — вырашыў я. — Напомню ёй, што ў той вечар яна знішчыла іх de facto, і я не маю нічога супраць, каб завяршыць гэту справу de jure, калі яна таго жадае!»

Наогул справы трэба прывесці ў парадак. Няхай яна хаця не думае, што мяне гэтак ужо кранула яе гісторыя, што я ажно расхварэўся. Альбо тыя ж мяккацелыя ў бальніцы яшчэ ўявяць сабе, што наступілі мне на хвост. Няхай коцяцца ўсе яны да чортавай мацеры! Насуперак іх «цвярозаму розуму» я правёў ім такую аперацыйку, што ніхто з іх не пасмее глянуць мне ў вочы, прынамсі, год! У інфаркце, які загубіў чалавека, я вінаваты гэтак жа, як султан Занзібара. Так што хай не лічаць, што я такі ўжо духам паніклы, ажно да сардэчнага прыступу!

Я ўстаў і памкнуўся да тэлефона. Успомніў аднаго кардыёлага, доктара Панчава, сына бацькавага прыя-

целя, калісьці заходзіў, бывала, да нас. Захацелася яго паклікаць.

Але як толькі ўстаў, у вушах маіх разанула сто лакаматыўных гудкоў, кроў адліла ад галавы і свет закрыўся. Панесла мяне па крутой спіралі кудысьці, і адзінае адчуванне, якое зведаў, гэта былі абдымкі нейкай неймавернай лёгкасці. Жалезныя кайданы раптам апалі з маіх ног, я ляцеў, нібы пярынка, і патанаў, патанаў і ляцеў...

Нада мною нахілілася Юля. Яе зелянкавыя кашачыя вочы на гэты раз не паблісквалі хітравата. Сучка прытушыла іх, і яны ледзь свяціліся, як далёкія, амаль нябачныя зоркі. Яе пагляд быў устрывожаны і задумлівы, ласкава-тужлівы, угодлівая какотка раптам ператварылася ў пакаянную Магдалену. Як і іншым разам, мае вочы, не хочучы таго, спыніліся на яе дэкальтэ, але засталіся ні з чым, яго закрываў бліскучы гузічак, зашпілены зверху.

— З якога часу ты хаваеш пад прылавак свой тавар? — паспрабаваў я пажартаваць, але не быў упэўнены, што сказаў гэтыя словы ўголас.

Яна не адказала, мабыць, усё-такі я не прамовіў іх, а можа, прыкідвалася, што не чула. Вядома ж, злавала на мяне за тую аплявуху.

— Ты ўяўляеш, які чалавек адышоў з-за тваіх любошчаў? — напомніў я ёй. Ці ўсяго падумаў, што сказаў штосьці падобнае?

Яна моўчкі глядзела на мяне задумлівымі вачамі, немаведама што думаючы сама сабе, мае словы, мабыць, не даходзілі да яе свядомасці. Мяне гэта засмуціла, але я суцешыў сябе: «Ды якая там у яе свядомасць!»

У гэты момант на мяне нахлынула галавакружэнне, я адчуў сябе нібы ў лодцы, якую разгойдвае мёртвы зыб. Потым галава кружыцца раптам перастала, перада мной як бы рассунулася заслона, я быццам выйшаў з туману. Над галавою ў мяне ўжо свяціла не сонца, а мякка свяціўся плафон электрычнай люстры. На краі майго ложка сядзела Юля, і калі нашы вочы сустрэліся, па яе твары прабег палахлівы цень, шчокі яе паружавелі. На ёй была белая блузка, акуратна зашпіленая зверху брошкаю са штучнага перламутру.

— Калі ты прыйшла? — спытаўся я, а ў галаве —

тлум, нічога не разумею і нічога не магу ўспомніць.

— Цішэй, прашу вас! — Юля прыклала да вуснаў палец, як гэта паказваюць у крымінальных фільмах. — Не хвалюйцеся і не размаўляйце!

Я адчуваў, што лоб у мяне мокры, мокрыя валасы, падушка вакол галавы таксама была мокрая. «Вадой пырскала на галаву», — падумаў я. І раптам нейкі неспакой ахапіў мяне.

— Як ты магла ўвайсці? — папытаўся я. — Адкуль з'явілася? Праз акно ўлезла, дык наўрад... Калі, вядома, які-небудзь нягоднік не падставіў спіну...

Яе авантурны ўчынак вельмі натуральна звязваўся з якім-небудзь нягоднікам.

— Ды замаўчыце ж! — звяла раптам броўкі Юля, твар яе на момант завастрыўся і стаў злосны. — Як вам не сорамна так гаварыць!.. І наогул навошта размаўляеце? Я ж вам казала маўчаць і не хваляваццa!.. Зараз прыйдзе доктар, пацярпіце трошку!

— Які доктар? — натапырыўся я. Не хапала яшчэ, каб яна выклікала каго-небудзь з тых, з бальніцы!

— Я выклікала «хуткую дапамогу», — пацiснула яна плечукамі. Злосць з твару яе сышла, яе змяніла строгасць, што не надта пасавала ёй.

— Я ведаю, у цябе няма падстаў быць надта далікатнай да мяне, — сказаў я, — але і ты добра ведаеш, што я таксама не з далікатных. Таму хачу, каб ты адразу растлумачыла, як апынулася ў маёй хаце і хто табе дазволіў выклікаць доктара!

Я хацеў сказаць яшчэ нешта, але раптам лёгкія ў мяне засталіся без паветра, я адчуў, як сэрца сціскаецца і пульсуе як бы нехаця, ледзь не са скрыпам, а на лбе імгненна выступіў халодны пот. Перад вачыма пачаў скакаць нейкі чорцік.

— Божа мой, я ж вам казала! — пачуў толькі, як завойкала Юля. У маіх вачах яна ператварылася ў белую пляму, а голас яе далятаў як быццам з салона. — Што вы за чалавек, які неўтаймоўны!

Замест таго каб зларадніча з прычыны ганебнай слабасці, якая апанавала мною, яна войкала, і гэта здавалася мне адначасна і смешным, і дзіўным. Добрая самаранка, пакаянная Магдалена — ці ж не яна гэта? А такія здольныя на ўсё, яны могуць лёгка мяняць маскі.

Мне хацелася паслаць яе да чортавай мацеры, адно толькі словы заселі ў горле, сядзелі нерухомыя ў свядо-

масці, нібы іх хто спутаў. Тады я адчуў яе руку ў сябе на сэрцы, халаднаватая і пяшчотная далонь растапілася і разлілася ў маёй душы, як ласка маці. І ў душы маёй зрабіўся цуд: зніклі ўсе падазрэнні, як іх і не было, і жанчына, рука якой разлілася ў маёй крыві цеплынёй і ласкаю, нібы сышла з іконы — як боская матка, што ўкленчыла перад паміраючым сынам. Бязмежны жаль напоўніў маё сэрца, я адчуў неадольнае жаданне пакласці руку ёй на валасы, акружаныя німбам святой. Але рука мая страціла сілу, яна не магла нават паварушыцца — гэта была рука паміраючага сына.

Якое толькі глупства не лезе ў галаву чалавеку, сэрца якога марнее ад недахопу кіслароду!

З'яўленне доктара і сястры з «хуткай дапамогі» разбіла гэта трызненне на друз, ператварыла ў нейкую вар'яцкую мазаіку. Юлін твар разляцеўся, як ад выбуху, потым яго кавалачкі сабраліся разам, але гэта ўжо нагадвала нейкую карціну мастака-кубіста, на якога паўплываў сучасны абстракцыянізм. У цэнтры яе было вока, Юліна вока, зразумела, толькі задзірлівае і бессаромнае, якімі я помніў яе вочы з бальніцы. Вакол яго ў страшэнным беспарадку бачыліся вушы, вусны, нос, кудзеркі валасоў, і ў гэтым неймаверным хаосе прасвечваўся Млечны Шлях — яе німб святой дзевы.

Гэтая ідыёцкая мазаіка пачала паволі бляднець і знікаць з вачэй адразу пасля таго, як мне зрабілі першы ўкол. Тады я выразна ўбачыў твар сястры, якая выцірала мне лоб вільготнай ватай. Яе твар быў круглы, як поўня, і бяздушны.

— Як вы маглі дайсці да такога стану, калега? — разабраў я голас доктара, які трымаў мяне за левую руку і сачыў за пульсам. Гэта быў невысокі, таўсматы чалавек і быццам брат сястры, гэтак падобны быў да яе тварам. — Такая славутасць у медыцынскім свеце, як вы, а не разумееце, гм... — Ён пакруціў галавой і строга паглядзеў на Юлю: — Хіба прафесар жыве адзін?

Юля кіўнула.

— А калі гэта пачалося? — павярнуўся ён да мяне.

Я паглядам папрасіў Юлю адказаць яму. І такая прыкрасць ахапіла мяне, што я адчуў нястрымнае жаданне павярнуцца за сцяны, сказаўшы ўсім: «Ідзіце вы прэч!» — і заснуць тут жа непрабудным сном, няхай нават апошнім.

Але яны не пакінулі мяне ў спакоі. Зрабілі яшчэ

адну ін'екцыю, на гэты раз у вену. Як ні смешна і парадаксальна гэта ў адносінах да мяне, хірурга, я і псіхічна, і фізічна не мог трываць гэтыя агідныя ўколы. І калі б не Юля, якая, заўважыўшы, што ў мяне расшыраюцца вочы, сціснула мне руку, я, напэўна, самлеў і стаў бы пасмешышчам. Яе пальцы нібы ўвабралі ўвесь боль ад праколу вены, а вочы ўсміхаліся, як некалі падбадзёрвала мяне маці, калі надышоў час зрабіць прышчэпку супраць дыфтэрыту. Гэтая ўсмешка адцягнула ўвагу ад болю і ў той жа час выклікала ў душы нейкае няяснае замяшанне. Было такое пачуццё, што яе ўсмешка адрасавана мне памылкова, што і падбадзёрвае яна мяне па нейкім непаразуменні і што меней за ўсё менавіта ад яе я магу чакаць спачування і сардэчнасці. Я адчуў згрызоты сумлення як чалавек, якому незаслужана ўручаюць узнагароду.

Нарэшце доктар заклапочана сказаў, што стан майго здароўя патрабуе «шпіталізаванага» лячэння, і прапанаваў сёння ж пад вечар на сваёй санітарнай машыне завезці мяне ва ўрадавую бальніцу, на што я яму адказаў, каб займаўся сваімі справамі, і што калі я вырашу легчы ў бальніцу, дык знайду спосаб заехаць туды без яго «санітаркі». Ён збянтэжана паціснуў плячыма і адказаў, што не будзе са мною спрачацца, бо я старэйшы яго калега, але павінен быў выказаць сваю думку. У такім стане заставацца аднаму было б больш чым рызыкоўна, на яго думку, пры мне павінна дзяжурыць медыцынская сястра, хоць бы дзён чатыры-пяць, каб рабіць адпаведныя ін'екцыі і даваць адпаведныя лякарствы. Я папрасіў яго напісаць «адпаведны» рэцэпт, а што да сястры, сказаў, дык бог паслаў мне ўжо адну.

Сястра з «хуткай» змерала Юлю непрыязным паглядам, і ўпершыню на яе твары выпісалася нейкае пачуццё. Што да Юлі, яна смела вытрымала асуджальны пагляд і нават усміхнулася.

Пасля таго як «хуткая дапамога» паехала, паміж намі з Юляй узнікла такая няёмкасць, што нават паветра нібы загусцела, хоць праз адчыненыя вокны ліліся паэтычныя пахі. Але як няёмкасць мне не пад густ, я сказаў Юлі:

— Дык раскажы мне нарэшце, як і чаго ты з'явілася тут. А пасля таго, будзь ласкавая, знікні!

Яна кінула на мяне пагляд, у якім змяшаліся выклік і шкадаванне, і насмешліва паціснула плячамі.

Я не цярпеў, каб мяне шкадавалі, а выклік жанчыны будзіў ува мне неандэртальскія пачуцці.

— Паслухай, — сказаў я, — табе не прыходзіць у галаву, што з жанчынай, якая застаецца нанач адна з мужчынам, могуць здарацца розныя прыгоды?

— Я схаджу ў дзяжурную аптэку, — сказала яна, беручы са стала рэцэпт і робячы выгляд, што не чула маіх слоў. — А вы паводзьце сябе ціха і не ўставайце з ложка. Ведаеце, што сказаў доктар на развітанне?

— Ведаю! — адказаў я. — Здагадваюся.

— Доктар папярэдзіў, каб не ўставалі з пасцелі, а то можна атрымаць цяжкі інфаркт!

— Цудоўная парада! — кажу на гэта. — Што не ўставаць мне — ясна, але каб ён параіў яшчэ легчы і табе!..

Юля скрывіла вусны ці то для ўсмешкі, ці то для насмешкі — я не зразумеў. Яна ж пагардлівай паходкай накіравалася да дзвярэй, і я каторы раз захоплена паглядзеў на яе дзявочы задок і талію, якую мог бы лёгка ахапіць сваімі дзвюма пядзямі.

Потым я непрыкметна заснуў. Напэўна, калегі з «хуткай» зарадзілі мяне добрай порцыяй снатворнага. І вось мне ўжо здаецца, што сястра з загіпсаваным тварам дастае іголкай шпрыца мне да самага сэрца, я лаўлю Юліну руку, шукаючы ратунку, але на месцы Юлі аказваецца старэйшына з апавядання майго аднайменніка Лукана — вялізны, страшны, у пяньковай кашулі і з мячом у акрываўленай руцэ. «Ну вось бачыш, Луканчык, гэта не так страшна!» — гаворыць ён па-бацькоўску пахвальна. Ягоны твар, закручаныя вусы і барада — усё ў крыві.

Я ўзгарэўся ці то ад яго ўсмешкі, ці то ад ласкавага звароту «Луканчык», але раблюся раптам безразважна смелы, хапаю сякеру і стрымгалоў кідаюся з насыпу ўніз. Насустрач мне зіхцяць на сонцы бліскучыя шлемы і латы рыцарскага войска. «Зараз дабягу да першых радоў, і яны ў мяне будуць ведаць!» — гражуся ў думках і махаю сякерай. Я бягу, а рыцарскае войска застаецца ад мяне на той жа адлегласці. Бягу насустрач, і яно ўсё гэтак жа воддаль, зусім не набліжаецца. «Што за д'ябальскае насланнё?» — дзіўлюся я, пачынаючы ўжо задыхацца. У маіх грудзях няма паветра, а перад вачамі скача безліч сонцаў.

Расплюшчыўшы вочы, я нейкі час няўцямна ўглядаў-

ся ў столь, дзе ззяў электрычны шар. Было такое адчуванне, што недзе там убачыў рыцарскае войска. Потым апамятаўся і ўбачыў Юлю. Прысеўшы на крэсле ў галавах, яна лёгенька праводзіла мне па лбе даланёй, змочанай у халоднай вадзе.

— Вам кепска? — прамовіла яна.

Яе голас чуўся здалёк, напэўна, адтуль, дзе стаяла, пастроенае ў калоны, рыцарскае войска.

— Вам вельмі кепска? — паўтарыла яна.

Яе голас быў заклапочаны і ўстрывожаны, і нейкая здрадлівая іскрынка жалю праскочыла ў маёй душы. Ды, зрэшты, хіба можа хто-небудзь выскачыць са сваёй скуры? Вось і яна да майго мастака паставілася бессардэчна, а пры мне, хто набіў яе па мардасах, сядзіць, як асуджаная, і перажывае — адзін бог ведае чаго. Дык паспрабуй, калега Анры з Парыжа, здагадайся, як такое адбываецца!

— Колькі часу? — пацікавіўся я.

— Дзевяць.

— Дык раскажы, як ты з'явілася тут і што цябе прымусіла прыйсці, — напомніў я. — Ды і каціся адсюль. — Успомніўшы, што яна хадзіла па лякарства ў аптэку, дадаў: — Грошы за лякарства вазьмі ў пінжаку, вунь ён, валяецца на канапе!

Яна хвіліну памаўчала, напэўна, каб адолець уражанне ад не надта ветлівага майго тону, потым сказала:

— У дом увайшла я проста... Уваходныя дзверы былі, дзякуй богу, не замкнёныя. Мабыць, вы забыліся замкнуць. Або, можа, вам стала блага і таму не змаглі замкнуць... А чаму прыйшла... Ды па просьбе вашай жонкі! Яна пазваніла ў бальніцу, гэта было недзе каля дзвюх гадзін. Званіла дадому — ніхто не падняў трубку. Дык яна вельмі прасіла знайсці вас, перадаць ад яе прывітанне і сказаць, што яе доследы ўступілі ў самы рашаючы...

— ...этап.

— Яна збіралася пазваніць тым вечарам яшчэ, каля дзесяці... А я ўспомніла, што ў той дзень перад аперацыяй у вас крывяны ціск быў зусім кепскі. Мяне ахапіла трывога. Ці то страх. Бо мы ўсе ведаем, што вы жывяце адзін. Або нешта прадчувала, не ведаю... Калі прыбегла і пачала званіць, а вы не адчынялі, я падумала,

што вы не чуеце званка. Тады я націснула на ручку ў дзвярах... Вы ляжалі на ложку, як...

— ...памерлы.

— Як я спужалася, каб вы ведалі... і што перажыла, пакуль намацала ў вас пульс... Потым выклікала «хуткую». Вось і ўсё.

Цяпер я замоўк, у сваю чаргу. Тое, што Ана званіла і што зноў збіраецца званіць, падзейнічала на мяне гнятліва. Што я мог ёй сказаць? Што ў мяне ўсё ў парадку? Не выйдзе! Пазвоніць заўтра ці праз дзень у бальніцу і ўсё даведаецца. Калі скажу, што хворы, заўтра ж з'явіцца і адным стрэлам заб'е двух зайцаў — пастараецца развеяць мае сумненні і даказаць, што з нас дваіх яна лепшая, больш высакародная частка... А як мы будзем глядзець адно аднаму ў вочы, як будзем гаварыць, калі паміж намі стаіць цень другога чалавека!

— Прашу прабачыць, што застала мяне ў негліжэ! — кажу Юлі. — Калі б ведаў, што ты прыйдзеш, прыняў бы меры, каб хоць крыху быць у форме... Але як не шанцуе чалавеку, дык ужо не шанцуе!.. Але дзякуй табе! — падзякаваў і заплюшчыў вочы. Пакой пачаў павольі паварочвацца, нахіляцца, і той жа капыт, што ўчора вечарам, зноў пачаў ціснуць мне на грудзі.

Пасля таблеткі нітрагліцэрыны, якую яна мне паднесла, усё вярнулася на сваё месца, пакой перастаў варочацца, кудысьці знік і капыт.

— Ну, можаш ісці, — сказаў я. — Пара ўжо. І мне будзе лепш, і табе пара ўжо ісці!

— Ну добра! — адказала Юля. — Я пайду, калі вы ўжо так не можаце мяне цярпець. Але хто вам зробіць ін'екцыю ў дзесяць? Хто дасць лякарства ў дванаццаць?

— Абыдуся і без тваёй клятай ін'екцыі, а лякарства прыму сам!

Яна глядзела мне ў твар і ўсміхалася дабрадушна-паблажліва. Гэтак усміхалася, гледзячы на мяне, маці, калі я даводзіў, што пабудую паветраны шар і палячу на ім на востраў Самоа.

— Калі ў вас ёсць блізкі чалавек, які заменіць мяне, я пайду, — сказала Юля.

Я адказаў на гэта, што, калі б я быў здаровы, нізашто не памяняў бы яе ні на якага блізкага чалавека.

— Нават на сваю жонку? — здзівілася яна.

Я нейкі час памаўчаў, потым махнуў рукой:

— Гэта розныя рэчы! Пры ўсім пры тым на адну ночку затрымаў бы!

Яна скрывіла вусны і зморшчыла носік, як робяць дзеці перад тым, як зараўці. Потым паківала галавой і з годнасцю сказала:

— Калі б вы былі здаровы, мяне вы тут толькі і бачылі б!

— Ну добра! — прамовіў я. — Не будзем сварыцца. Ідзі шчаслівай!

Нейкі час яна стаяла маўклівая і задумлівая, нібы ўслухоўваючыся ў самую сябе, потым бесцырымонна спыталася, дзе ёй узяць піжаму, каб пераапрануцца.

Так пачалася наша першая ноч.

Большую частку ночы я прабыў у паўзабыцці. Не чуў і размовы Юлі з Анай. Калі ачуньваў і расплюшчваў вочы, бачыў Юлю — яна сядзела ў крэсле напаўлежачы, прыкрыўшы калені Аніным шалікам. І ноч тая была для мяне як бы да каленяў!

На світанні, калі пачало днець, мне стала лягчэй. Той капыт нарэшце пакінуў мяне ў спакоі, дыхалася вальней. Толькі тады Юля змружыла вочы, яе агарнуў лёгкі сон.

Калі ж яна прыняла душ і прывяла сябе ў парадак, яна неяк папрыгажэла, хоць, вядома, заставалася тою, якою ведаў па бальніцы. Да яе прыгажосці дадалося штосьці новае, і яно выпраменьвалася з яе вачэй — нейкае мяккае святло замяніла ў іх задзірлівы бляск, цяпер яны былі больш падобны на вочы мадонны, чым куртызанкі. Мне карцела пажартаваць наконт таго, што правялі разам ноч, але жарт застаўся на вуснах, не выказаны. Я адчуў, што грубыя намёкі былі б не да месца перад чыстым святлом, якое праменілася з яе твару.

Яна схадзіла ў кафэ, прынесла булачак і малака, мы паснедалі, потым яна надзела Анін фартух і пачала прыбіраць у доме, выціраць пыл. Скончыўшы прыбіраць, паставіла ў вазу з вадой некалькі гронак бэзу, скінула фартух і села на звыклае месца каля мяне.

З таго моманту, калі я прачнуўся і апамятаўся, два пытанні заселі ў маёй галаве, і я чакаў прыдатнай хвіліны задаць іх.

— Паслухай, шаноўная, — пачаў я нарэшце, — хіба ў цябе няма ніякіх службовых спраў, табе не трэба дзяжурыць? Ці ты вырашыла сыграць ролю «добрай сама-

ранкі»[1]? Роля гэтая, даражэнькая мая, высакародная, але каб сыграць яе, не рызыкуючы згубіць галаву, трэба мець за сабою альбо маёнтак, альбо пяцілічбавы ўклад на банкавым рахунку. Як мяркуеш, чым скончыцца ўсё гэта?

— Ох, чаго вы хвалюецеся з-за маіх спраў! — уздыхнула Юля. А памаўчаўшы, прызналася: — Я ўзяла водпуск і магу рабіць, што пажадаю!

— Чэснае слова?

— Няўжо вы так мне не верыце, хіба я не заслугоўваю давер'я, што павінна даваць чэснае слова?

— Добра, — сказаў я. — Няхай будзе так! Я хацеў бы табе верыць, хоць у прынцыпе верыць жанчынам надта не варта!

Яна зардзелася, але не абмовілася ні словам.

— Цяпер другое пытанне, якое датычыць толькі мяне: пра што вы гаварылі вечарам з маёй жонкай? Ці сказала ты ёй, што я хворы?

— Вядома!

— І што іменна?

— Праўду: што ў вас сардэчны крызіс. І што ёсць небяспека інфаркту.

— Гм... Ну і што яна?

— Яна перадавала, каб трымаліся, цярпелі. Абяцала прыехаць праз некалькі дзён, абавязкова. Цяпер яна павінна апрацоўваць эксперыментальную пшаніцу нейкім новым прэпаратам і не можа адарвацца ад сваёй дзялянкі ні на гадзіну. Перадае вам вялікае прывітанне.

— Дзякуй! — прамовіў я.

Веяў лёгкі ветрык, напаўняючы пакой водарам бэзу і язміну.

— Што з вамі? — нахілілася нада мною Юля. — Вам зноў баліць?

— Не, — я стараўся ўсміхнуцца. — Толькі той капыт... Зноў хоча наступіць на грудзі!

Ад нітрагліцэрыны капыт скапыціўся і адскочыў прэч. Тады я спытаўся ў Юлі, ці ведае яна тую даўнюю песню пра бэз. «Белы бэз...»

— А, успомніла! — засмяялася паблажліва Юля. — Мая маці яе любіла спяваць. Старая песня, сентымен-

---

[1] **Самаранін, самаранка** — міласэрны чалавек (паводле евангельскай прытчы пра міласэрнага самараніна, жыхара горада Самарыя ў Палесціне). Адсюль самаранка — міласэрная сястра.

тальная! — І, адкінуўшыся ў крэсле, клапатліва абцягваючы на каленях падол, яна заспявала:

Бе-елы бэ-эз...

Калі песня скончылася, мы нейкі час маўчалі.

Потым я кажу ёй:

— Юля, вунь на стале ляжыць тоўсты рукапіс. У ім апісваюцца мае прыгоды і прыгоды майго бацькі шмат гадоў таму назад. Можа б, ты пачытала крыху, пачынаючы ад старонкі, якую я там пазначыў?

— О! — з гатоўнасцю ўзняла Юля рукі.

І пачала чытаць уголас.

Лета 1258-е, месяц VI, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

І вось нехта даў мне плазам мяча па галаве, і мяне праглынула цемра. Прачнуўся я на возе, запрэжанымваламі. Нада мною сінела глыбокае блакітнае неба, і як воз калываўся, і быў я яшчэ аглушаны, мне здалося, што мяне гайдае недзе ў вышыні. Але гэта памылковае адчуванне было нядоўга. Як толькі апамятаўся, я тут жа зразумеў, што ляжу са звязанымі рукамі на ахапку сена паміж драбінамі валовай запрэжкі, якая здалася мне нават знаёмай. Калёсы з такімі высокімі застаўкамі з прутоў былі ў нашага суседа. Калі б у мяне не былі звязаныя рукі, можна было падумаць, што сусед дазволіў мне пакатацца на яго калёсах, а цяпер мы вяртаемся ў сяло.

Да маіх вушэй далятаў ляскат многіх вазоў і гаворка мужчын, якія лапаталі на незразумелай мове. Час ад часу ў гамане чуліся грэчаскія словы, і я здагадаўся, што сярод возчыкаў-франкаў ёсць і грэкі. Не трэба мець вялікага розуму, каб здагадацца, што праклятыя франкі звязалі мяне адразу там жа, на насыпе, і потым, расправіўшыся з сялом, кінулі мяне, звязанага, у адны з нарабаваных калёс, што аказаліся суседскімі, і цяпер вязуць мяне ў абозе бог ведае куды. Я стаў рабом ненавісных чужынцаў, і ў тую хвіліну, калі падумаў пра гэта, мне стала вельмі шкада, што застаўся жывы, а не быў пасечаны разам з нашымі там, на вале. Пра аднасельцаў, якія маліліся на крыж, і варагавалі з намі, і часта кідалі ў нас каменнем, і называлі «паганцамі»,

цяпер я думаў як пра «нашых», вось як перайначыўся свет!

Мне стала вельмі цяжка на душы за маці, за бацьку і блізкіх, за сяло, адчай сціснуў мне сэрца, калі падумаў пра цяжкі лёс, які чакае мяне, і з вачэй маіх пацяклі слёзы. Ах, каб я мог узяць за горла таго д'ябла, які падстроіў мне гэта!

І ў маім хлапечым розуме нарадзілася дзёрзкая думка: «Які ты, божа! Навошта даў д'яблу загубіць мяне? Ці я табе не дарагі, ці ты з д'яблам не захацеў сварыцца?» Розум мой быў яшчэ хлапечы, таму я асмеліўся задаваць пытанні богу. Але, мабыць, мае пытанні не дасягалі да яго ці, можа, ён не хацеў адказваць, таму я застаўся без уцехі, і слёзы залівалі мне твар. І як было мне горка на душы, так раптоўна ахапіла мяне злосць: «Хай толькі развяжуць мне рукі, — я да болю сціснуў анямелыя пальцы, — зубамі перагрызу горла таму лацінскаму севасту, які забіў старэйшыну, а мяне ўзяў у рабства!» Я нават уявіў, як яго паганая кроў напаўняе мне рот, і сэрца маё замерла ад задавальнення. «Пачвара ненавісная, — закляўся я ў думках. — Рана ці позна я гэта зраблю!»

Ад згрызот і стомы я заснуў зноў, а калі прачнуўся, неба над галавой пацямнела, і ўжо там і сям блішчалі на ім раннія зоркі. Усе яны здаваліся мне знаёмымі, як быццам я бачыў іх з пагорка каля нашага сяла, гонячы пад вечар дадому нашых коз. Але хто ведае, як далёка ззаду застаўся наш пагорак!.. Абоз спыніўся на адпачынак, веяў ветрык, даносячы пах лугоў і дыму ад галля, відаць, возчыкі недзе непадалёк развялі вогнішча.

Хоць я ляжаў на сене, спіна і галава ў мяне балелі, мяне ўсяго звяло, час ад часу маё ўсё цела прабіралі дрыжыкі. Я зрабіў намаганне, каб павярнуцца на бок, але ў патыліцу стрэліў боль, і я міжволі глуха застагнаў. Тады да воза падышлі два мужчыны, так, што я іх добра бачыў, і ўталопіліся на мяне, як глядзяць на прывязанага мядзведзя. Нейкі час яны разглядвалі мяне, а я ўсім выглядам паказваў, што мяне мала цікавіць, хто яны і чаго прыйшлі. Няхай гэтыя разбойнікі не думаюць, што маюць справу з баязліўцам! На адным з іх была чырвоная кашуля, а паўзверх яшчэ сіняя камізэлька, другі ж быў апрануты, як грэчаскія купцы, якія прыязджалі ў Філіпапаліс, — у каптан да каленяў, пад якім былі відаць некалькі блузаў з мудрагелістымі каў-

нярамі. У яго быў важны і ганарлівы выгляд, а на галаве футраная шапка з ільснянай поўсцю і нізкім верхам.

Калі ўжо добра нагледзеліся на мяне, той, у каптане, гукнуў на балгарскай мове:

— Гэй, варвар, дык табе было наканавана зывым дацакацца канца дня!

«Рамеец![1] — падумаў я. — Самыя верныя слугі д'ябла — рамейцы», — успомніў я бацькавы словы.

— Чаго маўцыш?

Я не адказваў, але другі, у чырвонай кашулі пралапатаў яму нешта на франкскай мове, і грэк кажа:

— Ведай, сабацы варвар, сто ты цяпер раб барона Людовіка, памоцніка маркграфа Баніфацыя, нацальніка і гаспадара Салуна[2], і сто калі табе прыйдзе ў голаў уцяцы, ён цябе зывым спяцэ! І каб ведаў ясцэ, сабацы сын, сто я слуга ягоны і сто ён мне даруцыў зрабіць з цябе цалавека!

«Барон Людовік! — паўтарыў я сам сабе. — Я яго прыб'ю, хай толькі трапіцца, потым няхай мяне смажаць жыўцом!»

Той, у чырвонай кашулі, зноў штосьці пралапатаў, і кляты візантыец кажа:

— А гэта рыцар Альберт, нацальнік абозу. Ён літасцівы да цябе і дазваляе табе злезці з калёс і крыху пахадзіць, размяцца. Кажы яму: «Дзякую, васа светласць!» — і злазь.

Я сцяў яшчэ мацней вусны — буду яшчэ дзякаваць гэтаму разбойніку! Але падняўся, хоць надта балела галава і ў вачах усё плыло. Сяк-так выпрастаўся на возе і калі паглядзеў уніз, тыя здаліся мне дробнымі, як мышы. «Каб выцягнуць папярэчыну ды па галовах!» — мільганула ў мяне ў галаве. Але гэтая спакуса як уляцела ў голаў, так і праляцела: як сягала вока, расцягнуліся падводы, наўкола снаўдаліся сотні людзей, вогнішчы дымілі куды ні паглядзі. Куды тут уцячэш!

Я злез пакорліва, абапёршыся на валовы крыж, што быў бліжэй да мяне. Вол махнуў хвастом, быццам па маёй руцэ прызнаў, што я свой. Мяне агарнуў жаль, і я абняў яго за шыю. Як жа я спакутаваўся за гэты час! Я прыціснуў галаву да яго шырокага цвёрдага лба, туляючыся, як да роднага брата, ды як заплачу! А ён сапе

[1] Тое, што і візантыец; грэк.
[2] Салун — балгарская назва горада Саланікі.

мне ў твар, цісне сваю галаву мне ў рукі, быццам хоча, ды не можа сказаць: «Ну што, братка, вядзі мяне дадому, пара ўжо вяртацца!»

Але плакаў я толькі слязьмі, а голас стрымліваў. Ні кляты візантыец, ні гэны разбойнік франк не павінны чуць, што я плачу!

Раптам адчуваю, што нехта тузае мяне за валасы. Вол крутнуў галавою, фыркнуў і вызваліў сваю галаву з маіх рук. Гляджу — рамеец, чэпіцца да мяне:

— Цаго нюні распусціў, сабацы сын?

Як гэта мяне ўгнявіла! Я памкнуўся згрэбці яго, але ён прадбачліва ўгнуўся, і мае рукі счапіліся ў паветры.

— Паспрабуй яшчэ дакрануцца да мяне, косці твае струшчу! — закрычаў я. — Галаву звярну, змяя рамейская!

Як быў угнуўшыся, ён кульнуўся на зямлю, трымаючы рукі над галавой, каб абараніцца.

— Ратуйце, ваша міласць! — умольна заламантаваў ён да рыцара Альберта. — Абараніце ад гэтага звера! Ён мяне заб'е!

Рыцар Альберт узяў рукі ў бокі і пачаў гучна смяяцца. Я падумаў быў, ці не ўзяць яго за горла, але ён быў добра складзены, як наш старэйшына, і быў, відаць, вельмі дужы. Акрамя таго, да нас пачалі збірацца другія мужчыны, і кожны трымаў у руцэ ёмкі астэн[1].

Рамеец, які збіраўся зрабіць з мяне «цалавека», устаў, абтрос з каптана пыл і прыгразіў мне кулаком:

— Я цябе, сабацы сын, навуцу! Ты ў мяне пазнаес, як падымаць руку на сеньёрскага слузыцеля!

Да таго часу я не ведаў, што азначае «сеньёрскі служыцель», але тут давялося спасцігнуць: прынеслі аднекуль жалезны ланцуг і па загаду рыцара Альберта ў адно з яго звенняў закавалі маю правую нагу. Яшчэ раней, калі рамеі гаспадарылі на нашай зямлі, аднаго дня прыйшлі воіны і закавалі ў ланцугі нашага Даскаалага. Тады я ўпершыню ўбачыў гэта жалеза і спалохаўся. Папярэдні наш Дасканалы чалавек быў слабы, таму што еў толькі раз на дзень што-небудзь з гароднiны або садавіны. Хадзіў ён, закінуўшы свабодны канец ланцуга на плячо, сагнуўшыся пад яго цяжарам, а на твары ў яго была такая пакута, нібы ў пахвіну яму ўвагналі кол. А цяпер вось і мне, яшчэ не пасвячонаму ў нашу

[1] Астэн — палка паганятага валоў.

веру, выпала такая горкая доля. Але я не сагнуўся і выглядам сваім не паказаў, што мяне гэта абцяжарвае, і не таму, што ланцуг сапраўды быў цяжкі, а каб бачылі разбойнікі франкі і кляты рамеец, што хоць я і раб, а ўсё-такі той жа Лукан, сын Рэлё, які там, на вале, сек рыцараў, як гарбузы.

Я пахадзіў крыху вакол калёс ды зноў падышоў да сваіх пабрацімаў — валоў. Ім падкінулі па ахапку сена, але я ўзяў са сваёй посцілкі і даў ім яшчэ. Цяпер яны былі мне на гэтым свеце самыя блізкія. Мне прынеслі вялікую лусту хлеба з паловай авечай лапаткі, толькі што засмажанай. Калі я ўсё гэта з'еў, а я выгаладаўся, як воўк у лютую зіму, прыйшоў рамеец і кажа:

— Вось бацыс, ты сабака, а мы кормім цябе як цалавека!

— Ідзі прэч, гад печаны, пакуль не агрэў ланцугом! — адказаў я, загрымеўшы жалезам.

— Не гыркай і не асцэрвай зубы, варвар сабацы! Ці ты не бацыс, сто ты цяпер зусім адзін пад небам і сто няма каму заступіцца за цябе! Твае бацька і маці і ўсё тваё вашывае сяло — усё пайсло пад нож. А потым франкі спалілі іх косці і ніцога не засталося. Скаціну забралі, гоняць з сабой — навоста каб прападала! Цяпера там пустка, дзе да ўцарасняга было тваё сяло. Таму будзь пакорлівы. Калі ўзо барон хоца зрабіць з цябе цалавека, значыць, у яго неста добрае ў галаве!

— А я не жадаю яму дабра, — працадзіў я праз зубы.

— Тады ён пасле цябе на галеры, і будзес веславаць, пакуль не вылезуць воцы. Або пасле пад зямлю, у руднікі, будзес капаць руду. І будуць цябе паганяць плёткамі, і будзес хадзіць у ланцугах заўсёды, да магілы!

Я маўчаў. У той час я яшчэ не ведаў ні што такое «галера», ні што такое «руда». Але ўсё астатняе жыццё быць закутым у жалезны ланцуг здавалася мне горшым за смерць.

— Ох, чаму мяне смерць не напаткала ў бойцы, чаму я застаўся жыць! — заплакаў я наўзрыд, абнімаючы за шыю вала.

— Паплац, хлопца, паплац! — паспачуваў рамеец. — Паплац, будзе лягцэй. І толькі адно помні, варварскі хлопца: трэба забыцца раз і назаўсёды словы «багамільства» і «багаміл»! Каб нідзе і ніколі не вымавіў ты іх!

Прызнаешся, што багаміл, спаляць жыўцом. І тады нікога не вінаваць. Рамейцы яшчэ, можа, пашкадуюць цябе, але франкі — ніколі!

Застаўшыся адзін, я з акамянелым сэрцам прытуліўся да вала, які ціхмяна ляжаў на баку. Валы і залатыя зоркі, што мігцелі ў мяне над галавою, — гэта ўсё, што было мне блізкае і знаёмае на гэтым свеце.

Праз два дні мы былі пад Салунам. Я дзівіўся на яго высокія белыя сцены і круглыя вежы, якіх не было нават у крэпасці Філіпопалісе. Перад тым як увайсці ў горад, караван раздзяліўся на некалькі частак. Наша і яшчэ пяць-шэсць падвод праехалі гарадскія вароты, і мне было вялікай нечаканасцю, калі ўбачыў мора. У яго не было канца-краю. Дзівам для мяне былі і марскія караблі, якія адпачывалі на шырокай воднай прасторы, адгароджанай ад сушы сцяною. Потым я даведаўся, што гэтае месца называецца «прыстань». Нарэшце дабраліся да высокага месца, дзе сярод прасторных садоў узвышаўся вялікі палац. Ён быў таксама акружаны высокімі сценамі і вежамі. Рамеец, якога звалі Ісак — гэта я даведаўся па дарозе, — паказаўшы на палац, сказаў:

— Там жыве твой гаспадар, барон Людовік, памочнік маркграфа Баніфацыя. Сцеразыся яго, дзёрзкі хлопца! Які велікадушны барон Людовік, калі спакойны, такі і страшны ён у гневе сваім! Кланяйся яму да зямлі і не ўздумай прамовіць тыя два словы. Калі дзе-небудзь зойдзе гаворка пра багамільства, прыкінься, сто ніцога не ведаес. Ты ніцога не цуў пра гэту ерась, і ніякага ерэтыка не бацыў!

Мы ўехалі на двор палаца па вельмі дзіўным мосце. Палова гэтага моста на ланцугах падымаецца ўгору і закрывае ўваход у крэпасць. Тады адкрываецца прорва ў глыбокі роў, напоўнены вадой. Потым я даведаўся, што вада набягае ў роў ажно з самага мора. Вось чаму ніхто не можа ні ўвайсці ў палац, ні выйсці з яго, калі мост не апушчаны. Я глядзеў на ўсё гэта і запамінаў, таму што ў душы я зусім не зміраўся з рабствам, у якое трапіў, спадзяваўся, што ў які-небудзь дзень змагу ўцячы. «Калі не заб'ю барона Людовіка, то ўцяку, — думаў я. — Калі ж не ўдасца ўцячы, абавязкова заб'ю яго!»

З такімі думкамі я трапіў у крэпасць. За яе сценамі

былі два двары — адзін вонкавы, а другі — унутраны. У вонкавым двары былі баронскія стайні, сабакарня, розныя майстэрні, свірны і клеці. Гэты двор ад унутранага, дзе размяшчаўся палац і раслі пышныя сады, аддзяляўся даволі высокай сцяной.

Мяне пакінулі на вонкавым двары, замкнуўшы ў каменнай келлі, побач з сабакарняй. У гэтай келлі толькі і было, што адтуліна ў сцяне, каб крыху праходзіла святло, ды кучка пацёртай саломы на падлозе. «Бывайце, мае пабрацімы-валы, бывайце, шырокае поле і сіняе неба, ці ўбачу я вас калі-небудзь зноў!» — падумаў я, калі за мною замкнулі дзверы. Я апусціўся на салому, ад якой патыхала гніллём, і нейкі час услухоўваўся ў гырканне і грызню ў сабакарні. Потым душэўныя згрызоты і стома ўзялі сваё, і я заснуў.

Прачнуўся я ад скрыгату цяжкіх жалезных дзвярэй. Праз адтуліну ў сцяне струменілася яркае святло, дзвярны праём закрывалі сабою дзве мажныя постаці мужчын — такіх укормленых, што яны нагадвалі атлусцелых парсюкоў. Яны былі ў жаночым адзенні, адно што падпяразаны раменнымі паясамі. За поясам у кожнага была заткнута скураная плётка. Я са страхам глядзеў на іх і не ўставаў. Напэўна, прыйшлі біць мяне плёткамі, падумаў я. Што я мог зрабіць, закаваны ў ланцугі?

Гэтыя два парсюкі ўхмыляліся і паказвалі рукамі, каб я ўставаў, але я як ляжаў на саломе, дык і не паварушыўся. Бо не з тых, што добраахвотна кладуцца, каб іх лупцавалі. Тады яны расступіліся, і паміж імі заўсміхаўся мой рамеец. І на ягоную глотку не раз свярбелі мае рукі, але цяпер, калі ўбачыў яго, я міжволі ўсміхнуўся і пачаў уставаць. Усё-такі ў маёй адзіноце ён стаў як бы сваім.

— Ай, Лукан, варварскі хлопец, цаму не ўстаес? Цасу вунь узо колькі, скаляры ў сколу зараз пойдуць, а ты спіс, гультай такі!

Я пайшоў за імі, а ногі не ідуць, ланцуг пры кожным кроку бразгае. Франкі, воіны і цывільныя, глядзелі на мяне са здзіўленнем, але ніхто з іх не паказаў мне кулак і не пагражаў забіць. І я на іх не ашчэрваўся. Тут было не поле бою, а замкавы двор, панаваў спакой, і кожны займаўся сваёй справай.

Мяне прывялі ў вялікае памяшканне мураванае, дзе было горача і поўна пары. Святло сюды пранікала звер-

ху, са столі. Наўкола стаялі тут вялікія, змураваныя з камення, ночвы, парылі гарачай вадой. «Ці яны маю скуру дубіць збіраюцца, ці тапіць мяне?» — мільганула ў маёй галаве. А рамеец ад дзвярэй кажа:

— Зараз цябе пакупаюць, хлопца, каб на цалавека стаў падобны. Ты не бойся гэтых людзей, гэта еўнухі, скапцы. Яны пакупаюць цябе, аж засвецішся, потым дадуць другую вопратку, а гэтае рыззё выкінеш.

Ён пайшоў, а парсюкі накінуліся на мяне, сарвалі з мяне адзенне, што я не паспеў перавесці дых. А як перавёў і хацеў быў ужо дубасіць іх, яны паспелі выліць на мяне дзве ражкі гарачай вады. Я ніколі не мыўся гарачай вадой. Як і ўсе нашы, я купаўся ў рацэ, а ў рацэ вада нават летам не гарачая.

Потым мяне акрылі прасцірадлам і завялі ў другую будыніну, прасторную і светлую, дзе з тузін жанчын шылі адзенне — з такіх тканін і такіх колераў, гэтакіх яркіх і стракатых, што я ажно вочы вырачыў, разглядаючы іх. Тут з'явіўся і мой рамейскі апякун. Па ягоным загадзе тыя двое сарвалі з мяне прасцірадла, і я, застаўшыся голы, як маці нарадзіла, перад столькімі жанчынамі, згарэў ад сораму, скурчыўся і заплюшчыў вочы. Мне стала страшней, як перад баронам, калі ішоў насустрач яму з сякерай, а ён смяяўся. Калі ўбачылі мяне такога скурчанага, усе жанчыны пачалі хіхікаць і штосьці весела выкрыкваць, некаторыя ажно павісквалі — проста не разумею чаго. Тады ўжо я не вытрываў, таму што калі б мяне білі — яшчэ мог бы цярпець, але смяяцца з мяне — горш, чым кінуць ваўкам у зубы. Лупцаваць іх не выпадала — жанчыны ўсё-такі. Дык я высалапіў язык, падскочыў і зароў мядзведзем — і яны як залямантуюць, як кінуцца куды каторая — пад сталы, пад лаўкі! Настала чарга смяяцца мне, але я не засмяяўся, бо ў сэрцы маім засеў кавалак лёду.

Ім цяжка было мяне апрануць, бо ўсё, што прымяралі на мяне, было або кароткае, або цеснае. Дашывалі, перашывалі і нарэшце прымусілі паглядзецца ў начышчанае да бляску люстэрка з серабра. Я ледзь не абамлеў! З глыбіні люстэрка на мяне глядзеў нейкі чужы чалавек! У манернай блузе, у зялёных да каленяў штанах, жоўтых панчохах і чырвоных чаравіках. А на плячах — чырвоны каптан да пояса.

З таго моманту я праз усё далейшае жыццё як быц-

цам гляджуся ў нейкае люстэрка, і мне ўсё здаецца, што я не той, якога ведаю. У мяне такое пачуццё, як у чалавека, што ідзе дарогаю, а яму ўяўляецца, што гэта не тая дарога, якою яму трэба ісці. Гэтак і я — нашу адзенне, а ведаю, што гэта не тое, што мне належыць і трэба насіць...

Але не буду ставіць калёсы паперадзе валоў, як у мяне часта атрымліваецца, а выкладу падзеі, як яны адбываліся ў часе, а ўжо няхай тыя, хто будзе чытаць, мяркуюць і просяць бога злітавацца над беднай маёй душой.

Пасля таго як мяне падстрыглі і прычасалі валасы, што не ведалі нажніц ужо невядома колькі часу, я ўбачыў у люстэрку, што яны ў мяне закручваюцца і хвалістыя пасмы дастаюць да плячэй. Мая прычоска здалася мне як быццам жаночая, але ж ніхто не пытаўся ў мяне — што мне па душы і як бы я сам хацеў, каб было.

Памытага, апранутага, прычасанага мяне тыя ж два скапцы завялі да майго рамейца. Убачыўшы мяне, той ажно пляснуў рукамі і кажа:

— Ну, узо ніхто не моза сказаць, сто ты, хлопца, варвар!

Прыйшоў нейкі насуплены чалавек, апрануты ўвесь у чырвонае, выбраў ключ з мноства, што былі ў яго звязаны аборкаю, і адамкнуў мае кайданы. Я паруха́ў нагамі назад-наперад, сагнуў у каленях і зноў адчуў у сабе сілу.

— Цяпер, хлопца, набярыся розуму, таму сто павяду цябе да сеньёра. Як прывядзем цябе да яго, кідайся на калені — і ні гуку. Цуеш? А калі ён у цябе нешта спытаецца, ты адказвай: «Так, васа благароддзе!» Заўсёды кажы яму «васа благароддзе!». Калі забудзеш гэта, потым будзе табе лупцоўка палкамі! Цуеш?

— Ды чую! — адказаў я, адчуваючы, як галава наліваецца крывёю. Эх, каб было дзе ўзяць нож, ды я схаваў бы яго за пазуху!

Праз нейкія жалезныя дзверы прайшлі на ўнутраны двор. Уваход ахоўвалі два рыцары ў жалезных латах. Калі я ўбачыў іх шлемы і латы, сэрца маё зайшлося — з такімі я біўся на гары, на насыпе, сек іх, а потым яны выразалі ўсё наша сяло.

Нянавісць і гнеў кіпелі ў маім сэрцы, таму я не заўважаў раскошы, якая паўставала перад маімі вачамі.

Усё там было як у казцы. Лужкі, стракатыя ад кветак, якіх я ніколі не бачыў; маленькія азярцы — адны сінія, другія залацістыя, у адпаведнасці з колерам плітак, якімі было выкладзена дно. Гайкі чаргаваліся з палянамі, а на палянах — дзівосныя дамкі! Дамочкі тыя — адзін дах, а дах трымаецца на калонках, абвітых зелянінай. Паўсюль прасторна, светла, а ўдалечыні, унізе віднеецца мора, зіхціць на сонцы і разліваецца ажно датуль, дзе неба накрывае зямлю.

Нас акружылі рыцары без даспехаў, а толькі з мячамі, і гэтак увялі нас у нейкае вялікае памяшканне з прадаўгаватымі вокнамі, з мармуровай падлогай і мармуровымі калонамі. На ўзвышаным месцы там стаяў барон, якога я ледзь пазнаў, і хутчэй па яго волатаўскім росце, чым па твары; тады, у час бою, твар ягоны быў напалову закрыты грывастым шлемам. Столькі гадоў мінула з таго часу, але і цяпер я помню твар гэтага чалавека: шырокі лоб, скуласты, з завостранай барodкай, з вялікімі цёмнымі непранікальнымі вачамі. Гэта быў твар суровага ўладыкі, надзеленага жалезнаю воляй і розумам. Але ў тыя гады з-за сваёй маладосці я не ўмеў разгадваць рысы характару па выразу вачэй, абрысах вуснаў і форме лба. Для мяне барон быў увасабленнем д'ябла, забойцам бацькі і маткі, спусташальнікам майго роднага сяла, ненавісным чужынцам, які забраў маю свабоду і зрабіў рабом.

Вось чаму я, наблізіўшыся да яго на некалькі крокаў, не ўпаў на калені, як зрабіў гэта мой рамеец. Я нават вокам не міргнуў, пачуўшы, як ён знізу шыпіць мне: «Падай на калені, сабака!» Я стаяў, выпраставўшыся, і раптам заўважыў, што каля барона стаіць мілавідная жанчына, русявая і сінявокая, у белай пышнай сукенцы, падол якой, нібы снег, рассцілаўся на чырвоным кіліме. Яна была вельмі прыгожая, і калі я сустрэў яе позірк, мне здалося, што яна ўсміхнулася мне. «Сапраўдная царыца!» — падумаў я, хоць ніколі не бачыў царыц.

— Падай на калені, сабака! — з адчаем крычаў мне знізу рамеец.

Я пацiснуў плячамі. Хоць каменныя жорны павесьце мне на шыю, усё роўна я не стану на калені перад гэтымі разбойнікамі. Тады адзін з рыцараў не сцярпеў. Ён і іншыя рыцары ўкленчылі на адно калена ў адрозненне ад рамейца, які стаяў на двух каленях. Дык той

рыцар не сцярпеў, устаў і, падскочыўшы да мяне, схапіў за валасы і пачаў гнуць маю галаву данізу. Пазней я даведаўся, што ў франкаў быў звычай прыкленчваць на адно калена, калі толькі яны з'яўляліся перад вачамі ці то «дамы» сеньёра, ці то якой-небудзь іншай «дамы». Значыцца, я, не жадаючы ўкленчыць перад дамай сеньёра, зневажаў яе гонар! І той рыцар, абараняючы гонар сеньёрскай дамы, ухапіў мяне за валасы, каб прымусіць стаць на калені.

Ох, як ускіпела мая кроў! Мне здаецца, што ажно іскры пасыпаліся з маіх вачэй! І я, крутнуўшыся, схапіў таго разбойніка пад пахі, узняў, як тое ягня, угору і колькі ў мяне было сілы грымнуў яго на мармуровую падлогу. Потым кінуўся на яго, каб выхапіць ягоны меч — зрэшты, я здолеў гэта зрабіць, хоць на мяне навалілася не ведаю колькі чалавек. Напэўна, яны мяне задушылі б ці разарвалі на кавалкі — толькі д'ябал тое ведае, а можа, я ацерабіўся б ад іх і пачаў бы секчы іх мячом — і такое магло здарыцца.

Паводле старога багамільскага падання, д'ябал нібыта казаў богу: «Душа ягоная мая, і я вазьму яе, таму што ён выняў нож!» А па новай багамільскай веры, бог нібыта адказаў: «Гэта праўда, ён выняў нож. Але ж ён выняў нож дзеля дабра, каб пакараць зло, таму яго душа мая і я забараняю табе чапаць яе!»

Магчыма, сапраўды так спрачаліся на небе сатана і бог, а ўнізе, на зямлі, у палацы барона Людовіка, рыцары таўкліся між сабой, каб дабрацца да маёй глоткі, я ж варочаў плячамі, адбіваўся локцямі, каб расчысціць прастору для мяча. Гэта працягвалася датуль, пакуль у зале не грымнуў баронаў голас: ён прагучаў, як баявая труба. Пачуўшы яго, рыцары ўмомант пакінулі мяне, пасталі і ніхто з іх не смеў паварухнуцца. Тады барон пралапатаў яшчэ раз нейкую каманду, і нягоднікі тут жа занялі свае ранейшыя месцы. Паміж мною і баронам утварылася пустая прастора. Барон кіўнуў рыцару, які быў бліжэй да яго, каб той даў яму свой меч, і той паднёс яго на дзвюх руках, пакланіўшыся з самым пачцівым выглядам. Рамеец, што згінаўся да самае падлогі, прыўзняў галаву. Барон штосьці сказаў, і той пераклаў мне:

— Яго благароддзе пытае, сто ты хоцас, сабачы сын, рабіць з гэтым мячом?

— Хачу забіць яго!

Ён пракашляўся і, відаць, пераклаў мае словы, як я і казаў іх, таму што барон усміхнуўся і паглядзеў на жанчыну, што стаяла каля яго (як я потым даведаўся, яго жонка), але гэтая жанчына не ўсміхнулася, толькі вусны яе тарганулся. Барон кіўнуў і зноў штосьці сказаў рамейцу, а той нягоднік пераклаў:

— Яго благароддзе кажа, што не мае нічога супраць таго, каб ты яго забіў, адно толькі каб змог! — І прашаптаў цішэй: — Падай на калені і прасі літасці!

Барон сышоў з узвышанага месца, і мы з ім апынуліся на роўным, адзін супраць аднаго.

— Ты сабака! — крыкнуў я. — Забойца! Ты забіў маіх бацьку і маці, падпаліў і знішчыў сяло наша!

Але рамеец маўчаў, не захацеў перакладаць маіх слоў.

Тады я падняў меч, скочыў да барона і замахнуўся — у паветры свістанула. Барон нібы жартам падставіў свой меч, і мой удар прыйшоўся нібы ў скалу. Толькі ўспыхнулі іскры. Я паўтарыў тое самае. Я трэці раз — мой меч зноў наткнуўся на ягоны, толькі ляцелі іскры. Тады я адступіў, каб сабрацца з сілаю, і зноў атакаваў. Я заўважыў, што і ён зрабіў крок наперад і першы раз замахнуўся. Нашы мячы сустрэліся ў паветры, і тады нейкая страшэнная і знішчальная сіла вырвала мой меч з рукі і адкінула яго ажно ў канец залы, дзе ён бразнуўся і зазвінеў так, што ажно паветра скаланулася.

Абяззброены, я стаяў перад гэтым чалавекам, схіліўшы галаву так, каб можна было яе спраўней адсекчы.

Барон вярнуўся на сваё месца і нешта спытаўся ў жанчыны. Яна паглядзела на мяне, і другі раз на яе падчырвоненых вуснах, нібы святлінка, прабегла лёгкая ўсмешка. Ён кіўнуў і таксама ўсміхнуўся — так, як усміхаўся ў той дзень на гары, пасля бою. Потым штосьці прамовіў, і мой рамеец пераклаў голасам, які дрыжаў і перапыняўся ад страху:

— Яго благароддзе кажа, што шаноўная і літасцівая сеньёра заступілася за тваё жыццё, ды і сам яго благароддзе кажа, што мала задавальнення забіваць у паядынку дзіця. Цуес? Цяпер ідзі, стань на калені перад сеньёрай і цалуй у яе руку, падзякуй, сто падаравала табе зыццё!

Я стаяў з апушчанай галавой, і сэрца ў мяне балела, таму што д'ябал не дазволіў мне адпомсціць.

Тады кляты рамеец устаў, узяў мяне за руку і пацягнуў да месца, дзе стаяла сеньёра. Дайшоўшы туды, ненавісны рамеец павіснуў у мяне на руцэ, каб я кленчыў, але я стаяў і калі б не паглядзеў той жанчыне ў вочы, ніякая зямная сіла не прымусіла б схіліцца перад ёй. Але ў яе чыстых вачах я быццам адчуў матчыны вочы, столькі спагады і дабрыні было ў іх! Што са мною зрабілася, не ведаю, але я ўсхліпнуў, прыкленчыў, і па маім твары пацяклі слёзы. Яна сама падала руку, і я з глыбокай пашанай пацалаваў кончыкі яе пальцаў. Быццам сам д'ябал мяне прымусіў гэта зрабіць. Ісціну кажу, што я ўпершыню на сваім жыцці пацалаваў руку жанчыне...

## 12

Юля адклала рукапіс, нейкі час глядзела на мяне задуменна, потым засмяялася.

— Выходзіць, — сказала яна, — і ў маладосці вы былі такі ж дзёрзкі і нястрымны, як і цяпер!

— Што рабіць, — адказаў я. — Ніхто не можа скочыць вышэй сваёй галавы!

— Але Лукан не гэтакі грубы, як вы! — заўважыла Юля. — І потым... ён нейкі больш чуллівы. Нават крыху сентыментальны. Наогул... больш мілы, чым вы!

— Я ніколі не быў чуллівым, а каб яшчэ сентыментальны — хай бог крые!

— Шкада, — уздыхнула Юля. — Шкада, — паўтарыла яна, — што вы не чуллівы, як Лукан, і не сентыментальны хоць крыху, як ён.

— А твае любоўнікі ўсе былі такія — чуллівыя і сентыментальныя?

— Божа мой! Хіба я пытаюся, ці вашы каханкі былі ўсе такія дзёрзкія і нястрымныя?

Мае каханкі... Калі я скажу, што, акрамя адной дзяўчыны і жонкі, іншых каханак — каханак у поўным сэнсе слова — я не меў, напэўна, палічыць, што я жартую. Жанчыны «на дзень-два» ў мяне былі, не адна і не дзве, але гэта простая патрэба і ніякае не каханне. Да Аны я па-сапраўднаму кахаў толькі адну. Мая каханая спецыялізавалася ў педыятрыі і, акрамя мяне, кахала яшчэ і аднаго майго калегу, камсамольскага дзея-

ча. Каго з нас яна кахала больш — не ведаю, кожны з нас думаў, што ён «першы нумар» у яе сэрцы і што яна выйдзе замуж іменна за яго. Гэта было вялікае каханне. Я вадзіў яе на выстаўкі, а мой супернік, камсамольскі дзеяч — на канферэнцыі і розныя пленумы. Зрэдку мы хадзілі з ёй на Возера з чырвонымі рыбкамі і там аддаваліся марам. Я запэўніваў яе, што стану сусветна вядомым хірургам, дакляраваў ёй далёкія падарожжы за мяжу. Мой супернік бажыўся, што будзе прызначаны міністрам аховы здароўя і што ўвядзе яе ў «вышэйшы свет». Аднаго разу я вадзіў яе да знаёмага гінеколага на аборт, а ці вадзіў яе мой супернік да свайго знаёмага — не ведаю. Наконт гэтага жанчыны маўчаць.

Неяк асеннім надвячоркам, калі мы сядзелі каля Возера з чырвонымі рыбкамі і я разглагольстваў, як мы будзем шпацыраваць па Шан-з-элізэ (да таго ў Парыжы маёй і нагі не было), яна раптам адчайна прыгарнула мяне, абняла, яшчэ з большым адчаем, амаль роспачна пацалавала і праз слёзы і ўсхліпы прызналася, што праз тыдзень выходзіць замуж за другога.

— За таго, прылізанага? За будучага міністра?

— Не ўгадаў! — адказала яна, выцерла слёзы і паблажліва ўсміхнулася.

Больш я яе не распытваў. Была позняя восень, у прамежках паміж лілеямі ў возеры адбівалася пахмурнае, шэрае неба. Збіралася на дождж.

І здарылася так, што гэты сэрцараздзіральны фінал нашага кахання мой мастак адлюстраваў на карціне, якая цяпер вісела насупраць мяне, на сцяне між двума вокнамі. Я паглядзеў на яе і засмяяўся. Карціна была маркотная, але я засмяяўся. Мая каханая сапраўды ў той жа тыдзень выйшла замуж за аднаго журналіста з тэлебачання. І абое мелі поспехі ў жыцці. Ён цяпер вядзе перадачы на замяжу, а яна — намеснік міністра аховы здароўя.

Каханкі, акрамя сваёй жонкі, у мяне не было. Але калі я скажу ёй праўду, яна не паверыць!

— Я сваіх каханак не выбіраў, — кажу. — Былі ўсялякія — і дзёрзкія, і нястрымныя, і мяккацелыя, і рамантычныя. Запісаў я не вёў і пазабываўся!

— Цудоўна! — азвалася змрочна Юля.

— Але цябе абавязкова запомню! — паабяцаў.

— Хопіць, не размаўляйце больш, — строга сказала

Юля. — Вось вам ужо не стае паветра, у вас задышка.

— Як яно будзе ставаць паветра! — звёў я вусны, каб усміхнуцца. — Калі ты сама прыйшла да мяне!

Потым на мяне наваліўся змрок, і Возера з чырвонымі рыбкамі знікла. Знік і сам я, засталіся толькі нейкія адчуванні, што мяне раскрываюць, што мне робяць укол, што мяне закалыхваюць у калысцы, падвешанай пад самымі аблокамі. А там паветра разрэджанае, і я дзіўлюся, чаму мяне закалыхваюць гэтак высока, я ж толькі ўзляцеў пад воблакі і там ператварыўся ў паветраную сінечу. Мне баляць вочы, і я думаю, што гэта ад сінечы. «Чэрці б вас пабралі! — крычу я. — Няўжо не знойдзецца нікога, хто б апусціў мяне на зямлю?» — «Не! — адказвае знаёмы голас. — Калі ты ўзо такі дзёрзкі цалавек, дык і заставайся там!»

З пасляабедзеннаю поштаю атрымаў два лісты. І на канвертах абодвух стаяў штэмпель «Тэрміновае!». Адзін ліст быў з бальніцы, другі — з Міністэрства аховы здароўя. З бальніцы мне напаміналі, што я чатыры дні адсутнічаў на рабоце, не маючы дазволу на водпуск. Папярэджвалі, што ў адпаведнасці з параграфам такім і такім Кодэкса аб працы будзе лічыцца, што я пакінуў працу «па ўласным жаданні» ў выпадку, калі на працягу наступных некалькіх дзён не з'яўлюся на працу або не папрашу дазволу не з'яўляцца на яе. Папярэджанне было падпісана галоўурачом бальніцы прафесарам Маркавым. «Пайшоў ты к чорту!» — паслаў я яго ад душы і шпурнуў ліст. Юля падняла і паклала яго на стол, а я заўважыў, што яна збянтэжаная і ў вачах яе трывога. Дурненькая, ёй, бачыце, няёмка за мяне. Не саромейся за мяне, даражэнькая, усе яны там ідыёты, і бюракраты, і паршывыя зайздроснікі! Я ім, бездарам, стварыў славу, а яны мне напамінаюць пра Кодэкс аб працы! Плюнь!..

Раскрыў другі канверт, з міністэрства. Там была выпіска з пратакола, паводле якога мяне ў пакаранне здымалі з пасады. На левым верхнім ражку стаяла рэзалюцыя, выведзеная зялёным чарнілам: «Ухваляю!» Пад гэтым катэгарычным і безумоўным «ухваляю» з клічнікам значыўся подпіс: «Міністэрства народнай аховы здароўя. Нам. міністра: Людміла Цвяткова». Пячатка.

Я скалануўся, а потым мяне заліла гарачая хваля. Слова «ўхваляю» было напісана той самай рукой, якая

калісьці мяне мілавала... і «кахала» паводле сучаснага лексікону. Напісана жанчынай, пра якую я толькі што ўспамінаў. Возера з чырвонымі рыбкамі...

— Юля, — паклікаў я, — куранятка маё! Дапамажы мне ўстаць і даклыпаць да тэлефона. Вельмі прашу. Як толькі папраўлюся, пакалышу цябе на каленях і паспяваю «Нані на!».

— Не трэба! — пакруціла галавою Юля. — Не трэба вам уставаць і ісці гэтак далёка! А яшчэ і хвалявацца! Не трэба!

— Трэба, трэба! — запэўніў я. Адкінуў коўдру і прыўзняўся на локаць. — І без пеўня развіднее, куранятка маё!

— Божа мой! — прастагнала Юля, але я не зразумеў — ці ад злосці, ці ад страху. — Які нястрымны чалавек, божа мой! — Яна кінулася да ложка і падхапіла мяне пад пахі. Потым перакінула маю правую руку сабе за шыю і памагла ўстаць.

— А ты крэпенькая! — засмяяўся я, хоць было не да смеху. — Каб цябе падужаць, мне трэба нямала сілы сабраць!

Мне было не да яе, і, наогул, у тую хвіліну я думаў зусім пра іншае.

Сяк-так, абапіраючыся на яе руку, ледзьве перастаўляючы ногі, я дабраўся да тэлефона, апусціўся на крэсла і набраў нумар міністэрства. Папрасіў злучыць мяне з сакратаркай намесніка міністра Цвятковай.

— Хто пытае другарку Цвяткову? — адказала суха сакратарка. Мабыць, камень быў бы цяплейшы за гэты голас.

— Яе пытае прафесар доктар Лука Шайтанаў! — адказаў як толькі мог цвёрда.

Мінула дзве-тры секунды ў ваганнях, потым я пачуў густы, альтовы голас маёй былой каханай:

— Слухаю!

Падобна было, што сакратарка не паведаміла ёй маё імя.

— Звоніць Лука Шайтанаў, галубка мая!

— О! — У гэтым выклічніку сабралася разам не меней, чым тузін пачуццяў: здзіўленне, радасць, абурэнне, страх і немаведама яшчэ колькі падобнага.

— Лука звоніць... — паўтарыў я мякчэй.

— Што ты хочаш... хочаце? — палахліва ўздрыгнуў яе голас.

— Ды вось прачытаў тваю рэзалюцыйку, даражэнькая. І ўспомніў раптам, каб яго чорт, што калісьці мы спалі з табой разам. Можа, ты забылася, я быў у цябе не адзін, дык, думаю, напомню. І на аборт цябе ўладкоўваў, ці помніш?

Яе голас прасіпеў нейкае слова, але я не разабраў, якое дакладна.

А я засмяяўся, і смяяўся так, што ў сэрца мне зноў упіліся іголкі. Я ажно не змог перавесці дых.

Як мяне завяла Юля да ложка — не ведаю. Прачнуўся ўночы альбо, можа, апрытомнеў толькі пасярод ночы. Яна сядзела насупраць ложка ў крэсле і не зводзіла вачэй з майго твару. Убачыўшы, што я ўжо ў форме, яна гэтак усміхнулася, што я адразу прыгадаў жонку барона Людовіка — напэўна, яна такою ўсмешкаю ўсміхалася Лукану...

Сафія, 31 снежня 1939 г.

Сёння ўвечары Новы год. Маю ў кішэні 20 леваў і іду з імі купляць гасцінцы. Я пазычыў іх у адваката Ізмірліева. Праўда, я і не прасіў — ён сам сунуў іх мне ў паліто.

— Як пачнеш працаваць і не будзе адбою ад кліентаў, аддасі з працэнтамі! — пажартаваў ён тады ў «Дзікіх пеўніках», заўважаючы, што я не ў гуморы і наогул упаў духам.

Не ведаю, як бы пражыў тыя два-тры месяцы пасля вяртання, калі б не кампанія ў «Дзікіх пеўніках». Адлучаны ад партыйнай работы з-за расследавання, якое вялося вакол майго «спазнення», пазбаўлены права працаваць па спецыяльнасці, прыгнечаны сямейнымі звадкамі, засмучаны рознымі падзеямі — унутранымі і знешнімі, — я быў перад небяспекай стаць іпахондрыкам або кандыдатам у шызафрэнікі. Цяпер, дзякуючы Ізмірліеву, які меў сувязі з некаторымі ўдзельнікамі левага крыла ў «Звяне», становішча ў нейкай ступені выправілася — улада датэрмінова зняла «забарону», з новага года мне дазваляецца прымаць хворых і лячыць. Праўда, паступіць мне на дзяржаўную службу — гэта выключана. Хто возьме на працу былога інтэрбрыгадніка! Вядома, знайсці кабінет і абсталяваць яго — праблема не простая, але я спадзяюся на пазыку ў якім-небудзь папулярным банку, наша таварыства ў «Дзікіх пеўніках» заўсёды гатова даць мне паручыцельства!

Але магчымасць працаваць — гэта, па сутнасці, адзіная святлінка ў змроку. Нічога вясёлага не бачыцца мне ні для душы, ні для ідэалаў маіх. У нас — вісельні, тэрор, клас новых гандляроў, невукаў і людзей без ніякага сумлення, кінуўся ў здабычу проста па-байганеўску[1]. Дарагоўля, беспрацоўе, чорны рынак, карацей — тупы і дзікі фашызм. За мяжой: Польшча і Чэхаславакія акупіраваны, Албанія раздушана, надыходзіць чарга Югаславіі, Бельгіі, лавалеўцы з дарагой душой пусцяць Гітлера ў Парыж. Мюнхенскі святлафор паказвае на СССР. Надыходзіць грозная бура, толькі глухія не чуюць яе грымотаў...

Што мае дамашнія звадкі ў параўнанні з гэтымі падзеямі, якія закранаюць лёс усяго свету і будучыню чалавецтва! Можна сказаць вобразна, што гэта кропелька смутку сярод мора тугі або як агеньчык запалкі перад пажарам вялікага будынка. Вось што такое мае інтымныя нелады. І калі я прыгадваю іх тут, дык проста каб не выглядаць занадта «грамадскім» нават ва ўласных вачах. Таму што я ведаю людзей, якія ўверылі сябе, што яны нешта накшталт «экстракту» грамадскага жыцця, і з-за гэтага ці то забыліся, ці то стараюцца забыцца, што прырода надзяліла іх, акрамя розуму, яшчэ і сэрцам.

Ужо ў сваіх першых нататках пасля вяртання я намякнуў, што ў паводзінах Соні кідаецца ў вочы сёе-тое, што мяне бянтэжыць. Моманты адчужэння чаргуюцца з момантамі адчайнай блізкасці. Пасля холаду прыходзіць спёка, а пасля спёкі — зноў холад. Калі б холад і спёка выяўляліся толькі фізічна, я махнуў бы на гэта рукой — такая ўжо фізіялогія! Але ж калі яна адхіляецца ад мяне фізічна, дык адхіляецца і душэўна, пры гэтым сама пакутуе. Пры вяртанні яна робіцца наўздзіў пяшчотная, але раптам пачынае плакаць без дай прычыны. Апошнім часам кладзёмся спаць, як асуджаныя, і маўчым, яна баіцца дакрануцца да мяне, нібыта яе ўдарыць токам. Некалькі начэй таму назад прачынаюся — чую, яна ціха плача, закусіўшы рог падушкі, каб заглушыць усхліпы.

Я пагладзіў яе валасы, потым устаў, перанёс на сваё месца малога Луку, які спаў на сваім ложачку, а сам

[1] Ад «бай Ганю» — персанажа сатырычнай аповесці Алека Канстанцінава.

перайшоў у свой кабінет. Там у мяне стаіць салдацкі ложак з часу, калі дэмабілізаваўся, у 18-м годзе. Лёг, накрыўся салдацкаю коўдрай і да раніцы спадзяваўся, што Соня прыйдзе да мяне, але яна і носа не паказала. Раніцай снедалі і як быццам нічога не здарылася — гаварылі пра рознае, толькі не пра тое, што ў гэтую ноч мы маўкліва пагадзіліся жыць асобна адно ад аднаго. Праўда, у нашых размовах з'явілася новая тэма — пра тое, што яна вырашыла любой цаной перайсці ў другую бальніцу. На маё пытанне, чаму яна хоча перайсці ў другое месца, калі тут яна прывыкла ўжо, яна бесклапотна адказала: «Ды так!» Адно што гэтае бесклапотнае «ды так!» выклікала ў яе нейкую хваравітую ўсмешку, потым і шчокі яе пачырванелі без ніякай прычыны. Не ведаю чаму, а толькі кавалак мне перасеў у горле і чай мой застаўся недапіты.

Ужо некалькі дзён мы спім асобна, як брат і сястра, а раніцай гаворым пра надвор'е і пра яе шанцы перайсці на работу ў другую бальніцу. Наконт нашых адносін мне лезе ў галаву рознае, але я стараюся вельмі ўжо не думаць пра гэта. Час пакажа — дзе мы, куды накіроўваемся і да чаго дойдзем. Не ляжыць у мяне душа, каб намякаць ёй тое ці гэта альбо каб ударыць цяжкім сваім кулаком па стале і непрыгожа зараўці: гавары! Нічым я не палегчыў яе жыццё, каб мець нейкія прэтэнзіі, наадварот, ускладніў, абцяжарыў да немагчымага, і яна ніколі не адкрыла рота, каб паскардзіцца на сваю долю. Тут іншае, тут чалавечае, інтымнае, і калі ў такой справе ўзніклі канфлікты, яны вырашацца, рана ці позна, самі сабою.

Цяпер я крочу ў па-святочнаму настроеным натоўпе людзей і думаю, што ж купіць за свае 20 леваў. Ад плошчы «Святая Нядзеля» да Львовага моста выцягнуліся два рады прылаўкаў, заваленыя латочнымі таварамі: каляровымі паштоўкамі, ёлачнымі ўпрыгожаннямі, пакуначкамі бенгальскіх агнёў, дзіцячымі цацкамі, аздобаю рознай для жанчын; тут і арэшкі, халва, мятныя цукеркі, нават цукровыя пеўнікі... Над натоўпам аглушальна грымяць гучнагаварыцелі, гандлёвыя фірмы рэкламуюць радыёпрыёмнікі «Арыён» і «Філіпс», грамафоны і новыя пласцінкі з аргенцінскімі танга і новы мадэрновы танец «Харсей».

Пахаладала, пайшоў густы снег. Купляю для Лукі

цягнічок з двума вагончыкамі. Астатнія грошы пускаю на бутэльку віна, пакуначак арэхаў і пачак тытуню для люлькі. Заношу «тавар» дадому, а як яшчэ рана, выходжу, каб зрабіць традыцыйную навагоднюю прагулку.

Яшчэ з маладых гадоў хаджу я адным і тым жа маршрутам — па бульв. Цара-вызваліцеля да павільёнчыка-кафэ насупраць Барысавага парку. Там выпіваю кавы, закурваю люльку і шпацырую па галоўнай алеі. Даходжу да сярэдзіны, паміж Арыянай і Возерам з чырвонымі рыбкамі, збочваю да помніка Явараву, там закурваю люльку зноў, нейкі час стаю, затым вяртаюся назад тым жа шляхам. Маршрут невыпадковы: я паўтараю — спачатку свядома, потым па звычцы ўжо — апошнюю прагулку з маёй першай каханай, дзяўчынай, з якой мяне звязвала памянёнае ўжо бесперспектыўнае каханне. Сняжана. Вельмі даўно ўжо згубіў я сляды той дзяўчыны, яна выйшла замуж за нейкага дыплама-та і паехала з ім у Берлін. Яе рысы ў маёй свядомасці згладзіліся, але пачуцці тыя помню, як быццам тое было ўчора.

І напярэдадні кожнага Новага года я прагульваюся гэтым маршрутам.

Да нас прыйшлі ў госці Ізмірліеў з жонкаю, дабрадушнай і сімпатычнай жанчынай сярэдняга ўзросту. Прысыпаем Луку, Ізмірліеў раздае ўсім па пяць леваў дробнымі, гуляем у «31». Я прайграю ўсё да апошняе стацінкі, Соня выйграе. Потым ціхутка спяваем старыя рамансы і рэвалюцыйныя песні. Напаўняем чаркі віном, у дванаццаць гадзін устаём і цалуемся. Мы з Соняю цалуемся ледзь-ледзь, але рукі нашы злучаюцца і як быццам не хочуць разлучацца...

Лета 1258-е, месяц VII, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

У тую раніцу Бернаравы адправіліся на сенакос: два яго сыны з жонкамі і дачка з мужам. Дома засталіся ўнукі, баба Софі, дзед Жэральд і я. Баба Софі занялася ўнукамі, а дзед Жэральд вывеў мула і пачаў запрагаць яго ў вазок з высокімі коламі. Я быў на пяць гадоў старэйшы за дзеда Жэральда. А ён яшчэ цягавіты і крэпкі, у жніво вунь яшчэ як вязаў снапы за жнеямі, калі жалі

ячмень. А пятнаццаць гадоў назад, падчас Мансегюрскай вайны, ён уночы з мяшком сухароў за спіной прабіраўся ажно да крэпасці. Як ён карабкаўся па таемных і непрыступных сцежках, адзін толькі ён і ведае, мабыць, яму спрыяў божы анёлак. Бо на вяршыню крэпасці, угору было больш за паўтары тысячы мужчынскіх крокаў. Дык гэты дзед Жэральд і кажа мне:

— Браце Лукан, хочаш, я зваджу цябе праведаць Мансегюр?

Сэрца маё ўздрыгнула. Быццам халоднае дыханне вяршыні Сен Барталемі, вечна ахутанай туманам, закранула яго. Гэты павеў імгненна развярэдзіў старую рану, якая ніколі не загойваецца. З ёю ж я і схаваўся ў Ламбардыі, спадзеючыся, што з часам зацягнецца. Ды дзе там! Хіба можа зажыць жывая рана? Як толькі пачую слова «Мансегюр», з маёй раны пачынаюць вырывацца языкі полымя, шыпець і трашчаць, а ў іх бачу я вобразы дарагіх людзей, якія курчацца і звіваюцца ў страшэнных пакутах. Самы дарагі майму сэрцу вобраз выходзіць наперад і то намагаецца выбрацца з агню і дацягнуцца да мяне, то зноў безнадзейна вяртаецца назад...

Дзед Жэральд і кажа:

— Я там адлучуся ў сяльцо, пазычу ў людзей солі, бо ў нас ужо канчаецца, а цябе пакіну аднаго, каб пабыў н а  т ы м  м е с ц ы  ды памаліўся. Ты ж ужо чатырнаццаць гадоў не быў там, браце Лукан?

— Чатырнаццаць. — Ці мог я што іншае сказаць дзеду Жэральду, ды каб ён зразумеў мяне? Хіба ён дасць веры, што ўсе гэтыя чатырнаццаць гадоў у мяне ў сэрцы праз дзень, праз два бушуюць языкі полымя?

— Ты сядзі ў вазку, а я буду весці за повад мула, бо дарога месцамі разбітая зусім.

Я толькі кіўнуў у знак згоды галавою, бо горла ў мяне перахапіла, і я не мог сказаць: «Дзякуй табе, братка Жэральд! Вялікі табе дзякуй!»

Ад Манфер'е да Мансегюра хады сама болей гадзіна. Дарога ўзнімаецца ўсё вышэй, вышэй, пакуль не выводзіць на вяршыню пагорка, адкуль адразу вачам адкрываецца вялікая гара. Гэтая гара ўзнікае перад табою, як прывід. Ён як быццам перад табою, здаецца, яго можна пакратаць рукамі. Але які там прывід, госпадзі! Высокая сіне-зялёная гара з неабсяжнай круглай асновай строма ўзнімаецца ў вышыню, пад аблокі, і там, высока, ледзь праглядваецца на стромай скале казачны

замак, які час ад часу высвечваецца сонечнымі праменнямі. Па схілах гары там і там праплываюць такія ж, як і яна, сіне-зелянковыя пасмы туману. І толькі сама вяршыня, калі яе ахутае воблак, робіцца перламутрава-белай.

Дарога затым пачынае сходзіць уніз і агінае гару.

Мы спусціліся з пагорка і неўзабаве прыехалі да шырокай паляны. Ад абрыву паляна была адгароджана густымі кустамі і ляшчыннікам, а з другога боку ўзвышаўся лес.

Дзед Жэральд спыніў мула і дапамог мне злезці з вазка. А вазок быў высокі, ён і зроблены быў такі, каб ездзіць па няроўных і разбітых дарогах.

Я застаўся адзін.

Калі вазок знік у мяне з вачэй, я падаўся на ўзвышаную частку паляны і праз дваццаць крокаў замёр. Далей ісці перашкаджалі рэдкія нізкія кусты, між якімі прабівалася шорсткая, сухая трава і калючы ажыннік. У траве і карэнішчы ажынніку там і тут віднеліся чалавечыя чарапы і косці. Яны былі цёмнага, жаўтавата-шэрага колеру.

Некаторы час мне здавалася, што зямля то падымаецца, то апускаецца пад маімі нагамі. Потым я склаў накрыж для малітвы рукі і дрыготкім голасам заспяваў: «Veni creator spiritus»[1]. Скончыўшы гэтую малітву, я прамовіў абрадавае слова:

Благаславіце нас, пашкадуйце нас!
Амін!
Няхай будзе ўсё па Слове тваім.
Айцец, сын і Дух святы
усе грахі няхай вам даруе!

І, не маючы больш сілы трымацца на нагах, я сеў і закрыў твар далонямі. Плечы ў мяне затрэсліся, але вочы заставаліся сухія. Калі і гэта прайшло, я міжвольна ўгледзеўся на адзін з многіх чарапоў, што бялеліся перада мной, і падумаў: «Можа, гэта Эсклармонд?» І на мяне так навалілася адчуванне страшнай віны, нібы ўвесь Мансегюр лёг мне на плечы. Дзе ісціна і ў чым праўда, і адкуль пачынаецца грэх? Бедная мая Эсклармонд, ці праведна мы жылі? Альбо жыццё завяло нас у зман?

---

[1] «Veni creator spiritus» (*лац.*) — Прыйдзі, стваральнік Дух! (Багамільска-катарская малітва.)

Па нейкім часе я пачуў голас Жэральда. Ён клікаў мяне ад дарогі.

Маё пытанне — ці праведна мы жылі і ці не завяло нас жыццё ў зман? — засталося без адказу, як голас роспачы ў пустыні. Ні бог не адгукнуўся, ні Сатанаіл. Толькі вятрык, які спускаўся па стромых схілах Мансегюра, штосьці нашэптваў кучам касцей, што бялелі сярод кустоўя. Магчыма, у гэтым шэпце і быў адказ на маё пытанне, але які смертны разумее мову прыроды? Ці зразумелі яе грэшнікі з Садома і Гаморы, каб пакаяцца за імгненне да сваёй смерці; альбо незлічоныя ахвяры патопу, якія мелі магчымасць доўга разважаць да таго, як іх паглыне неміласэрная вада? А хіба я, грэшны, разумею, маючы за плячамі семдзесят гадоў? Здаецца ж, было дастаткова часу, каб навучыцца адрозніваць ісціну ад хлусні! Ці чалавеку наканавана пакінуць гэты свет, так і не зразумеўшы, дзе канчаецца ісціна і з чаго пачынаецца зман? Вось я на парозе небыцця зусім не перакана    ны ў ісціннасці некаторых рэчаў, як гэта было чатырнаццаць гадоў назад, калі стаяў вось тут на кастры, чакаючы смерці ў агні, і спяваў «Ойча наш».

Ці праведна мы жылі, мая бедная Эсклармонд, ці жыццё завяло нас у зман? Але як ні бог не адгукаецца, ні Сатанаіл нічога не гаворыць, я буду апісваць усё так, як было, каб тыя, хто будзе чытаць, маглі самі прыйсці да высновы — дзе канчаецца ісціна і з чаго пачынаецца зман. І няхай літасцівыя памоляцца за маю грэшную душу. Благаславіце нас і злітуйцеся над намі! Амін.

Я падрабязна апісаў сваё падарожжа да Салуна і сустрэчу з баронам не ад цікавасці да падрабязнасцей, а каб паказаць, што не адным махам і зусім не без пакут я перайшоў ад аднаго спосабу жыцця да другога спосабу, які адрозніваўся ад папярэдняга, як адрозніваюцца між сабою дзень і ноч.

Да таго часу я жыў у хаце, сплеценай з прутоў і абмазанай граззю, з саламянай страхой. Спаў на гліняным доле на ахапку саломы, накрываўся пяньковай дзяружкай. Святло праходзіла ў хату праз адтуліну ў сцяне, якую ў халодную пару затыкалі пакуллем. Агонь палілі на ачагу і, як паблізу сяла вялікіх лясоў не было, дзе можна секчы дровы, на паліва сушылі валовыя лепяхі, змешваючы іх з саломай, травою, і трэскамі. Я хадзіў

у пяньковай кашулі, суконных штанах, а зімою адзяваў аўчынны кажух і нацягваў штаны з ягнячых аўчынак. Мы, багамільскія сем'і, жылі больш на малацэ і брынзе, зрэдку ласаваліся рыбай, калі надаралася выбрацца да ракі. Некаторыя, праўда, трымалі курэй і калі-нікалі скароміліся курацінай, але іншыя, у каго не было курэй, глядзелі на гэта коса. Мая маці дзеля мяне аддала сваю душу д'яблу — падкормлівала мяне зрэдчас кавалкам мяса або акрайцам белага хлеба. Старалася, каб я рос угору, як бук, і сэрца яе не дазваляла, каб я харчаваўся жытнім хлебам з цыбуляю.

Так я жыў і быў задаволены, пасвіў коз, гойсаў на волі, рабіў свістулькі, пачаў быў вучыцца іграць на дудцы. Зімою кідаўся снежкамі з равеснікамі, летам шукалі ў ручаях глыбейшых мясцін, каб пакупацца. Так пачыналася маё жыццё. Надыходзіў час, калі я павінен быў прыняць багамільскае хрышчэнне, і тады жыццё стала б у нечым больш суровае, затое ніколі ўжо я не служыў бы д'яблу і рыхтаваў бы душу да вечнага шчасця пры богу.

Потым бог насыціў маё жыццё вялікімі пераменамі, а д'ябал чым толькі мяне не спакушаў! Я жыў у багатых палацах, насіў адзенне з аксаміту і шоўку, насычаў жывот і цешыў глотку якімі толькі стравамі і ласункамі! Я навучыўся па-майстэрску махаць мячом, зведаў ні з чым не параўнальную асалоду перамог, цалаваў з грахоўнай страсцю прыгожых жанчын. Але калі б бог спытаўся ў мяне цяпер, да якога жыцця я хацеў бы вярнуцца, я, не вагаючыся ні імгнення, папрасіў бы: «Хачу, божа, каб ты вярнуў мяне да таго праведнага і простага жыцця, калі я не ведаў, што ёсць на свеце аксаміты і шаўкі, і багатыя палацы, і прыгожыя жанчыны, ад якіх патыхае духмянымі алеямі; калі я не ведаў мяча і адзінай маёй зброяй была аўчарская гега; калі я не ведаў асалоды перамогі і самымі прыгожымі рэчамі для маёй душы былі сонца і зоркі. Да таго жыцця, о божа, прашу цябе мяне вярнуць!»

Але як я спазнаў ужо ўсе гэтыя спакусы, д'ябал не пашкадаваў сваіх намаганняў, каб адкрыць мне сутнасць грахоў і давесці, што маё вяртанне да аўчарскай гегі і саламянай пасцелі прынесла б толькі марныя пакуты пры жыцці, а пасля смерці ўсё гэта не мела б ніякага значэння для грэшнай маёй душы.

Паспытаўшы яблыка граху і спазнаўшы асалоду,

акаянны чалавек ужо ніколі не верне для сябе раю простага жыцця!

Благаславіце і злітуйцеся!

Але, акрамя згубленага раю простага жыцця, мне здаецца, што ёсць яшчэ другі рай, якога чалавек яшчэ не страціў, — гэта рай кахання. О божа! Хоць бы тут шчасце не аказалася ашуканствам! Хоць бы ў каханні чалавек знайшоў сваю запаветную зямлю! Хто ведае...

Што да мяне, то я прыняў бы сто гадоў пакут у пекле, каб толькі, о божа, ты вярнуў мне той адзіны дзень — першы дзень, калі я ўбачыў Эсклармонд.

Благаславіце і злітуйцеся!

І вось, пасля таго як жонка Людовіка падаравала мне жыццё і я, падбухтораны д'яблам, пацалаваў яе тонкія пальцы, рамеец Ісак адразу завёў мяне на месца, дзе мне было адведзена жыць. Мяне пасялілі ў вежы насупраць сеньёрскага замка, аддзеленай ад яго некалькімі шырокімі палянамі і пальмавым гаёчкам, праз які бег срэбнаводны ручай. Пакой у мяне быў прасторны і светлы, высокае акно амаль ад падлогі выходзіла на мора. У пакоі стаялі ложак, стол і шафа для адзення — рэчы, якія бачыў я ўпершыню ў сваім жыцці. На стале свяціліся абкладамі дзве тоўстыя кнігі, падобныя да тых, што былі ў хаце нашага Дасканалага. І ягоныя кнігі такія ж тоўстыя, адно што абклады ў іх бяднейшыя. Я асцярожна разгарнуў адну з іх, і адразу ў вочы кінуліся прыгожа выпісаныя, але незнаёмыя літары. Наш Дасканалы ў зімовую пару вучыў мяне чытаць, калі не трэба было пасвіць коз, і я адрозніваў літары, але такіх дагэтуль не бачыў. Напэўна, імі карысталіся франкі, але чаму кнігі паклалі мне на стол? — здзівіўся я, і не ведаю чаму, мяне ахапіў нават нейкі страх...

Пазней я даведаўся, што гэта былі евангелле і біблія, перакладзеныя на лацінскую мову. Евангелле, што было ў нашага Дасканалага, напісана нашай мовай, па тым евангеллі я навучыўся складаць словы, а вось евангелле франкаў чамусьці пісана не франкскаю мовай, а лацінскаю, а што гэта за мова, калі рамеец Ісак казаў, што на ёй не гаворыць ніводзін народ.

Так вось, у гэтым пакоі, пачалося маё жыццё сярод чужых людзей.

Не буду апісваць падрабязнасці з майго новага жыцця, прыгадаю толькі асноўнае: як мяне вучылі і як зда-

рылася, што пазней лёс наканаваў мне бадзяцца па невядомых краінах і далучацца да жыцця іншых народаў. Таму, што хоць думаю і размаўляю на франкскай мове і з ламбардцамі я як ламбардзец, я ніколі не забываў, што паходжу з балгарскага племені і што ў жылах маіх цячэ балгарская кроў.

З наступнага дня рамеец Ісак пачаў вучыць мяне гаварыць і пісаць на франкскай мове. Але кожны раз, перад тым як пачыналіся ўрокі, прыходзілі тыя двое гігантаў-еўнухаў, зганялі з пасцелі і гналі да невялікага азярца, за сто крокаў ад вежы. Там яны прымушалі мяне скакаць у ваду, плаваць, даваць нырца, не даючы спакою ні на хвіліну: сцёбалі мяне сваімі доўгімі плёткамі па чым папала. Чаму я цярпеў здзек і не вырваў у іх з рук праклятых плётак? У той самы дзень, калі завёў мяне ў вежу і паказаў пакой, ненавісны рамеец перад адыходам папярэдзіў: «Калі ты, сабацы сын, варварскі хлопец, будзес паслухмяны, высакародны сеньёр Людовік не будзе прапякаць табе пляцо гарацым залезам, каб бацылася, сто ты раб. Высакародны сеньёр Людовік моза пакінуць цябе вольным, калі будзес паслухмяны, будзес выконваць усё, цаго ён пазадае! Ён хоца зрабіць з цябе цывілізаванага цалавека!»

І вось, каб мне не ставілі на плячо рабскага знака, я скрыпеў зубамі, але падпарадкоўваўся. «Нічога, надыдзе дзень, — думаў я, — і толькі вы мяне тут і бачылі!» Так я думаў напачатку, у першыя месяцы. А потым перастаў думаць пра ўцёкі наогул. Не толькі таму, што ўцячы было вельмі цяжка. Як ні ганебна, але я павінен прызнацца: упадабаў я жыццё ў замку. Д'ябал спакусіў мяне і зрабіў сваім чалавекам.

Потым, калі я выходзіў з вады, яны, тыя валы, прымушалі мяне, голага, бегаць вакол возера. І пад іх плёткамі я мусіў бегаць, пакуль не валіўся з ног. Затым яны памагалі мне апрануцца і вялі есці. На сняданак давалі добры кус толькі што засмажанай бараніны з цыбуляй і вялікі кавалак свежага пшанічнага хлеба. Ох, з якім смакам я ўпісваў ежу, здаецца, ажно іскры ляцелі з маіх вачэй!

Узыходзіла сонца. Яно ўсплывала з мора, нібы напалены да чырвані шар. Тады з'яўляўся абрыдлы рамеец і вёў мяне ў вузкі дворык, акурат пад акном майго пакоя. Там пад наглядам двух узброеных мячамі і коп'ямі франкаў ён пачынаў свой урок. Спачатку прымушаў

паўтарaць за ім словы, потым вучыў пісаць іх на васковых дошчачках. Я пачаў чытаць евангелле і пісаць пяром на тонкіх пергаментных лістах. Калі ўжо стамляўся, рамеец спыняў чытанне і пісанне і браўся мяне выхоўваць. Па сутнасці, вучыў аднаму — як згінаць спіну перад асобамі мужчынскага і жаночага роду з сеньёрскага свету, якімі словамі вітаць уладароў і ўладарак і як ім адказваць, якія словы казаць, калі хто-небудзь з іх зробіць ласку і звернецца з якім-небудзь пытаннем.

Чаго тырчалі пры нас двое ўзброеных франкаў? Паганы рамеец, пэўна, не давяраў мне: баяўся, каб, чаго добрага, не ўзяў я яго за горла — дзіва што, я ж быў «варвар»!

Пасля абрыдлага ўрока выхавання наставалі самыя прыемныя гадзіны ў маёй вучобе: урокі верхавой язды, практыкаванні з мячом і стральба з лука. Вось гэта было сапраўднае жыццё! Мяне вучылі, як трымацца ў сядле на прагулянцы і ў баі, як дзейнічаць кап'ём і фехтаваць мячом. У практыкаваннях з мячом спачатку я быў дасведчаны прыкладна гэтак, як і ў лацінскай мове, аднак жа самаўпэўненасці і веры ў свае магчымасці ў мяне хапала. Аказалася, што ў гэтай справе самае галоўнае не сіла, а ўмельства валодаць мячом і ў баі займаць становішча, зручнае і для абароны, і для нападу. У стральбе з лука і кіданні кап'я ўжо з самага пачатку я паказаў поспехі, якія здзівілі маіх настаўнікаў. Кап'ём я трапляў чучалу ў шыю на адлегласці трыццаць крокаў, а з лука — у гэтае самае месца — з адлегласці намнога большай.

У абед кармілі мяне яшчэ сытней, а пасля абеду паўтаралася ранішняя праграма. У нядзелю павінен быў прыйсці нейкі кюрэ вучыць мяне веравучэнню і выкладаць катэхізіс. Паганы рамеец папярэдзіў: «Не дай бог, успомніс, сто бацькі твае былі багамілы і сто ты неста ведаес пра гэту праклятую ерась, дык кюрэ нагаворыць на цябе епіскапу, а епіскап загадае барону спаліць цябе зыўцом!»

— Барон добры чалавек, ён не аддасць мяне! — адказаў я.

— Не будзь дурнем, хлопца! — пакруціў галавой рамеец. — У франкаў епіскап вазнейсы за барона, зарубі сабе на носе!

Так, яшчэ не бачыўшы таго кюрэ, я ўжо яго зненавідзеў.

Але калі ў другую нядзелю пасля майго сюды прыбыцця — ды якое там прыбыццё, жывасілам забралі ў рабства! — з'явіўся той кюрэ, ён не здаўся мне надта страшным. Невысокі, гладкі, чырванашчокі, ён, толькі ўбачыўшы мяне, пачаў лісліва ўсміхацца. Я ўнутрана сцяўся, нібы пры выглядзе змяі, якая раскручваецца ў цябе на вачах. Неяк стала агідна, але страху я не адчуваў. Кюрэ нешта сказаў, і рамеец пераклаў яго запытанне:

— Якой ты веры, хлопча?

— Я — добры хрысціянін! — адказваю.

— Добры хрысціянін — значыць, «багаміл».

— Гэта кажаш ты! — запярэчыў я.

— Твае бацька і маці былі багамілам?

Калі пачуў я пра бацьку і маці, якіх забілі франкі, у маіх грудзях нібы ўспыхнуў агонь, ажно твар мой загарэўся. Я выхапіў з-пад сябе крэсла, на якім сядзеў, скрыгатнуў зубамі і пагрозліва навіс над гэтым гадам.

— Паслухай! — кажу. — Ты прыйшоў мяне вучыць ці дапытваць? Калі дапытваць, я растаўку табе галаву, рассаджу, нібы яйка! Так і ведай!

Калі рамеец пераклаў мае словы, кюрэ запытаўся:

— Ты не вар'ят?

Я ашчэрыўся на рамейца, замахваючыся цяжкім крэслам:

— Скажы, што вар'ят, звар'яцеў во!

Румяныя шчокі ў кюрэ адразу пабялелі. Нягоднік задам пачаў адступаць да дзвярэй і, перад тым як выйсці, сказаў рамейцу:

— Я накажу, каб гэтага дзікуна пасадзілі ў вар'яцкую! Гэта ж д'ябал у чалавечым абліччы!

— А-га! — скончыў я за ім услед і паспеў схапіць за крысо яго расы. — Значыцца, так, га? Палохаеш мяне д'яблам? Добра, я гэта скажу барону Людовіку, абавязкова скажу! — У Філіпапалісе мне давялося бачыць, як чалавека білі за тое, што некага палохаў д'яблам, таму гэтыя словы мне і прыйшлі ў галаву.

Рамеец не засмяяўся, а пераклаў, відаць, з яшчэ большай пагрозай, і кюрэ зусім збялеў, нават пасінеў.

Калі ён выбраўся, мы з маім настаўнікам пераглянуліся і нейкі час не ведалі, што рабіць — ці то смяяцца, ці маліцца богу аб літасці. Мы працягвалі ўрок па лацінскай мове: «Fero, tuli, latum, ferre» — і ўсё пазіралі на дзверы — ці не ідуць воіны.

У наступную нядзелю прыйшоў другі настаўнік веравучэння — белавалосы манах, які не спытаў ні якой я веры, ні якімі былі мае бацькі. Ён адразу пачаў урок са «Стварэння свету».

У замку барона Людовіка я жыў чатыры гады. Пад канец чацвёртага года я мог ужо свабодна гаварыць на франкскай мове і добра перакладаць на лацінскую. Ужо ведаў, што на гэтым свеце жылі паэт Гамер і філосаф Арыстоцель. Мала хто не паддаваўся мне ў практыкаваннях на мячах, а ў стральбе з лука і кіданні кап'я я быў бясспрэчна першы. Навучыўся бездакорна цалаваць рукі знатным дамам, дапамагаць ім садзіцца на каня і злазіць долу ў час прагулак, хваліць нямногімі, але старанна падабранымі словамі іх прыгажосць і стрымана захапляцца іх святочнымі строямі.

Я навучыўся співаць дзве «канцоны», падыгрываючы сабе на гітары. Адна канцона называлася «Песня аб зменлівасці ў каханні», а другая — «Песня пра тое, як у каханні настае зіма». Першая песня мне больш падабалася, другая была сумная і наводзіла мяне на маркотны роздум.

Першы год я ўсё чакаў зручнага моманту вырвацца з замка, але шчасце не ўсміхнулася мне ні разу. Мне дазвалялася хадзіць толькі да пальмавага ляска, а перасякаць яго, тым больш ісці далей, туды, дзе былі крапасныя вароты — унутраныя і знадворныя, — мне не дазвалялі, нават папярэдзілі, што, калі паспрабую выйсці за межы крэпасці, мяне кінуць сабакам. Вартавыя з коп'ямі, мячамі і сігнальнымі ражкамі на плячах дзень і ноч снавалі з аднаго канца крэпасці да другога. Для ўцёкаў не было і шчылінкі. Калі б нават знайшлася такая шчылінка, і здарылася гэта ноччу або ў густы туман, сабакі ўсё роўна высачылі б мяне і дагналі. Кожны з тых сабак быў велічынёй з цялё, псы былі лютыя, гатовыя разарваць чалавека ўмомант.

На другі год я ўсё радзей успамінаў пра свой намер уцячы, а калі думка пра гэта ўзнікала ў галаве, унутрана я зусім не быў упэўнены, што наважуся на такі ўчынак. Верхавая язда, баявыя практыкаванні, сытае і бесклапотнае жыццё — усё гэта штосьці забрала ў маёй душы, і яна асабліва не пакутавала аб свеце, які я страціў. Пад канец трэцяга года мне дазволілі наведваць святочныя забавы ў сеньёрскім палацы. Там я

пазнаёміўся з баронавай дачкою — Інэсай. Барон абвясціў мяне пажам Інэсы, я закахаўся ў яе і ўжо нават у сне не думаў пра ўцёкі; страчаны свет пацьмянеў у душы маёй. Калі знатныя юнакі з замка адпраўляліся на «каханне» ў некаторыя спецыяльныя кватэры, то цяпер і мяне прымалі ў кампанію. І я заўсёды вяртаўся з імі назад.

Тым часам справы ў крэпасці ішлі не сказаць каб гладка і без падзей. Чацвёртым месяцам на 1205 год, на другі год майго палону, сеньёр вярнуўся з вайны з цяжкімі ранамі і душэўна прыгнечаны — наш цар Калаян перамог франкаў пад Одрынам і нават паланіў самога імператара Балдуіна. Хоць мой душэўны боль па страчаным свеце і ацiх, я гэтак узрадаваўся той перамозе, што, даведаўшыся пра яе, ускінуў на плечы паганага рамейца, якога перастаў ужо ненавідзець, і так, з гэтым грузам, як вар'ят, бегаў вакол возера, пакуль не выдыхся. Наступным 1206 годам наш цар Калаян перамог франкаў пад сценамі іх крэпасці і ў бітве забіў маркграфа Баніфацыя. Тады мой сеньёр Людовік заняў яго месца і стаў галоўным начальнікам горада. Але гэта перамога мяне ўжо так не радавала, бо стала вядома, што ўночы святы Дзімітр кап'ём пракалоў нашага цара. Пракалоў, калі той ціха спаў у сваёй палатцы. Каб мне на той час трапіўся той святы, я задушыў бы яго сваімі рукамі. І потым доўгі час, як толькі пачую імя таго святога, мне штосьці як убіваецца пад сэрца.

Дык вось, барон Людовік стаў гаспадаром горада Салуна, а я — пажам яго дачкі Інэсы.

Інэсе на той час споўнілася васемнаццаць гадоў. У яе былі цёмныя, з бляскам, вочы, чорныя, як ачахлы вугаль, валасы і постаць такая тонкая, што калі я на прагулцы памагаў ёй злезці з сядла, дык баяўся, каб яна не пераламалася, таму не падаваў рукі, а падстаўляў ёй плячо. Размаўляла яна, нібы дрозд шчабятаў сваю ранішнюю песню, а як пачынала, забаўляючыся, бегаць па палянках — я ажно нямеў, нейкая прага пачынала мяне паліць ад галавы да ног. Пазней, узважваючы мае тыя адчуванні, я сам з сябе паблажліва пасміхаўся — што ў мяне магло быць, акрамя першага юначага захаплення: штосьці падобнае на грэшную патрэбу плоці. Вядома, не як тая любоў, якую мелі мы ў выбраных салунскіх кватэрах за срэбраныя драхмы або

нумізмы, але нешта блізкае да таго. І прычынай гэтага дзіўнага, на першы погляд, падабенства была сама Інэса, таму што яна як быццам свядома распальвала ў маіх грудзях любоўны пажар. Варта было ёй кінуць пагляд на мяне, і ў вачах яе ўспыхвалі агеньчыкі; злазячы з каня, яна прыўзнімала падол сукенкі куды вышэй шчыкалатак і як быццам незнарок дакраналася грудзямі да майго пляча. А грудзі ж у яе былі! Напэўна, усе д'яблы ў апраметнай шчыравалі дзень і ноч, каб выштукаваць іх такімі спакуслівымі! Такімі спакуслівымі, што ў мяне ад іх ажно галава кругам ішла!

Карацей, яна сама распальвала агонь у душы маёй, а калі адчувала, што агонь гэты вось-вось пазбавіць мяне розуму, яна паварочвалася да мяне спіной або рабілася халоднай, як камень. Больш таго, у замак прыходзіў адзін прылізаны графскі сынок, і яна ў мяне на вачах мілавалася з ім, заляцалася і цягнула на прагулку ў пальмавы гаёк. А мяне адсылала з якім-небудзь даручэннем, якое выпадкова прыходзіла ёй у галаву.

Апрача гэтага захаплення, маёй душы не давала спакою і іншае. Рэлігія, догмы якой зубрыў я на памяць, ужо не здавалася мне дрэннай, асабліва кранала мяне Ісусава самаахвярнасць. Я дзівіўся, чаму мае бацькі ганілі гэту рэлігію, як ганілі ўсе, хто называў сябе «добрымі хрысціянамі», багамілы. Што грэшнага знаходзілі яны ў гэтай рэлігіі і чаму, змагаючыся супраць яе, гатовы былі нават пайсці ў агонь?

Аднаго разу, накіроўваючыся разам з маладымі людзьмі з замка ў тыя кватэры, заказаныя спецыяльна для «знатных» наведвальнікаў, я праходзіў вулачкай паўз прыстань, і раптам да слыху майго даляцела балгарская гаворка. Уражаны, я спыніўся, і нібы сонечны прамень сагрэў маё сэрца, а брыз, што цягнуў з мора, запах не соллю і водарасцямі, а быццам чаборам і расцвілым бэзам. Размаўлялі трое ў канапляных кашулях, босыя, адзін старэйшы, два другія мужчыны былі ва ўзросце каля трыццаці. Старэйшы збянтэжана паглядзеў мне ў твар, змераў мяне паглядам, зацокаў языком:

— Т-ц, т-ц, т-ц, бач ты! — хітаў ён галавой, дзівячыся. — Калі б сваімі вачамі не бачыў, як храснулі яму па галаве, дык падумаў бы, што ён уваскрэс з мёртвых, хоць такога яшчэ не было на гэтым свеце! Як дзве кроплі вады падобны на Рэлёвага сына!

— Дык я і ёсць Рэлёў сын! — сказаў я, са скрухай

у душы адчуваючы, як цяжка варочаць языку балгарскія словы. Божа мілы, гэта ж я адвык ужо ад матчынай мовы!

— Рэлёў сын быў бедны хлопец, а ты вяльможа! — запярэчыў старэйшы. — Такія паны, як ты, не размаўляюць з такімі беднымі людзьмі, як мы!

— Што ты вярзеш! — узяла мяне злосць. — Мяне ўзялі ў палон, я палонны пры двары барона!

— Што гэта за палонны, калі ты вольна ходзіш па горадзе! — адказаў з вялікай пагардай чалавек. Адвярнуўшыся ад мяне, ён загаварыў да сваіх: — Калі Рэлё даведаецца, што яго сын служыць д'яблу ў франкаў, ён тры разы паравернецца ў магіле і ў дзень Страшнага суда не ўстане, бо яму будзе сорам глядзець людзям у вочы!

— Вярзеш усялякую лухту! — сказаў я. — Ты скажы лепш, дзе мне цябе знайсці, калі выйду другі раз у горад?

Стары чалавек хітравата ўсміхнуўся і адказаў:

— Спытаеш на прыстані, дзе жыве марак Танас. Ён балгарын і можа паказаць, дзе жывуць у Салуне такія, як сам!

Гэтая сустрэча з маімі пабрацімамі супляменнікамі развярэдзіла душу, і нібы кавалак лёду засеў у мяне ў грудзях.

А на прыстані панавала вялікае ажыўленне, караблі прыбывалі, хутка грузіліся і адплывалі. Франкі пакідалі горад: сям'я за сям'ёй, рыцар за рыцарам... Рамеі бралі верх у вайне, займалі горад за горадам. А куды мяне занясе вецер, думаў я, калі я не маю сілы вырваць з сэрца Інэсу? У якую краіну? І навошта? Інэса ніколі не будзе належаць мне, яна баранеса, а я сын аўчара. Яна і пачувае сябе як дачка гордай імперыі, а на мяне глядзіць як на сына пастухоўскага народа...

Праз дзень барон і ўся яго сям'я са світай паехалі на іпадром, дзе мелася адбыцца ўрачыстае спаленне пяцярых багамілаў — трох грэкаў і двух армян. У цэнтры іпадрома ўжо ўзвышаўся касцёр. Калі мы размяшчаліся ў ложы, спецыяльна падрыхтаванай барону, пяцёра няшчасных былі ўжо прывязаны да калкоў. Сам барон, яго жонка і баронаў брат, які камандаваў рыцарскай гвардыяй, селі ў першым радзе крэслаў, а мы з Інэсай, яе дваюрадная сястра Разалія і прылізаны графскі сы-

нок селі за імі. Графскага сынка я знарок адціснуў, каб ён сеў каля Разаліі, Інэса зморшчылася, але прамаўчала. І добра зрабіла, бо ў маёй душы ўжо варочаліся д'яблы. Каб мог, кулакамі да крыві біў бы гэты расфуфыраны натоўп, што сабраўся на відовішча — глядзець, як пяць чалавек будуць паміраць самай жорсткай смерцю.

Перад тым як падпалілі касцёр, нейкі манах з начэпленай на шыю іконай святой Багародзіцы пачаў караскацца на яго, пры гэтым ён два разы саслізгваў з палення і ляцеў долу, а я рагатаў так моцна, што Інэса два разы мяне штурхала локцем пад бок. Манах падносіў кожнаму з асуджаных пацалаваць ікону.

— Каторы пацалуе ікону, таго памілуюць, — шапнуў мне на вуха мой апякун.

Ніводзін з асуджаных не пажадаў цалаваць ікону.

— О, гэтыя людзі...

Я не паспеў закончыць, бо паганы рамеец як уджалены ўскочыў з месца і закрыў мне даланёю рот.

— Маўчы! — прахрыпеў ён. — Хочаш, каб цябе засмажылі?!

І вось падпалілі галлё, закурыўся дым, а ветрам пацягнула яго на нас. Потым дым развеяўся, агонь ахапіў касцёр і прагна падбіраўся да пакутнікаў.

— Будзьце вы праклятыя навекі, дамініканскія д'яблы! — закрычаў па-франкску багаміл, які стаяў з левага краю.

— Каб вашы душы ніколі не выйшлі з пекла! — падхапіў той, што быў побач з ім.

— Барон Людовік! — чыстым і мужным голасам закрычаў крайні справа. — Хай згарыць у агні тваё семя, а ты каб ніколі не ўбачыў роднай зямлі!

— Гэта грэх! — зноў прашаптаў мне на вуха Ісак.

Спачатку ўспыхнулі на іх бароды і валасы, потым загарэлася адзенне, яны пачалі курчыцца і выгінацца, але ні ў кога з іх не вырваўся стогн.

Інэса ўстала і з утрапеннем у вачах, шырока раздзімаючы ноздры, пачала прагна ўдыхаць паветра, у якім ужо агідна патыхала паленым мясам.

— Чаго прынюхваешся, сучка ашалелая? — не вытрымаў я і тузануў яе, каб села.

Яна заверашчала, нібы сеўшы на гарачае вугалле, потым кінула мне ў твар:

— Як ты смееш?! Варвар!

— Што там у вас? — павярнуўся да нас барон. Твар у яго быў цёмны, нібы абсмалены на агні.

— Ён сказаў на мяне «сучка ашалелая»! — паскардзілася Інэса.

Барон павярнуў галаву да брата:

— Дваццаць палак па голым, а потым прывядзіце да мяне, каб сам растлумачыў, чаму сказаў гэтыя крыўдныя словы!

— Да таго як яму ўсыплюць палак, гэты варвар павінен выйсці са мной на паядынак! — азваўся дрыготкім голасам прылізаны графскі сынок.

— Дрэнь, — сказаў я. — Аб такіх паўмужчын я не пэцкаю рукі!

— Яшчэ дзесяць палак, — змрочна сказаў барон.

Вогнішча гуло і трашчала, яно ператварылася ў невялікае вогненнае возера, у якім шалёна скакалі харо ўсе д'яблы, што павылазілі з пекла.

Сафія, чэрвень 1940 г.

Прымушаю сябе ўзяць пяро, але не ведаю, пра што пісаць — як былі справы дрэнь, так яно і застаецца... Нейкі змрок агарнуў маю душу, і ён згушчаецца з кожным днём і з кожнаю гадзінай. Ніякай радасці, ніякай прычыны нават для ўсмешкі!

Учора гітлераўцы ўвайшлі ў Парыж. Як падумаю, што шэра-зялёныя нацысцкія мундзіры з тупой фанабэрыяй маршыруюць па бульвары Манпарнас, мне ажно млосна робіцца. Ну, вядома, сапраўдны Парыж не будзе сустракаць заваёўнікаў ветлівым «Soyez les bien venus!». Прыйдзе час, і сапраўдны Парыж разлічыцца з імі, як разлічыцца з мюнхенаўцамі, што прадалі яго без бою.

Але што цяпер робіць мая бедная Мары?

Ужо тры месяцы ў маім распараджэнні ўрачэбны кабінет — знаходзіцца ён на вуліцы Гладстанскай, непадалёк ад Віташскай. Я абсталяваў яго за грошы, якія ўзяў у пазыку ў адным даступным банку. Як я і спадзяваўся, за мяне паручыліся прыяцелі з «Дзікіх певнікаў». Спачатку я не надта верыў у поспех, баяўся, што не зараблю на выплату найму — вуліца не была «перспектыўная», ды і хто помніць мяне як спецыяліста! Але я памыліўся — былі і такія, што помнілі, ды наведваліся і іншыя, асабліва калі пра мяне як доктара людзі чулі

добрае слова ад каго-небудзь з нашых у «Дзікіх пеўніках».

Таварышы з раённага камітэта недалюблівалі гэту вуліцу, квартал здаваўся ім занадта буржуазным, як яно і было на самай справе: гэты раён Сафіі быў прыстанішчам «крывавага» прафесара і многіх з яго людзей. Але з больш «высокага» ўзроўню месца хвалілі — мой кабінет быў непадалёк ад казармаў шостага пяхотнага палка, ён мог служыць базай для антываеннай работы ў палку, мог быць явачнай кватэрай і часовым прыстанкам вайскоўцам, якім належыць хавацца. А дзякуючы чорнаму ходу ў яго былі і стратэгічныя перавагі — ён выходзіў на суседні двор, куды праз другія двары можна было прайсці з вуліц Ангела Кынчава і Салунскай.

Каб пакласці канец няпэўнасці, вырашылі нарэшце маю «справу»: мне далі «строгую вымову», перакінулі ў Ваенны аддзел і даручылі адказную задачу — арганізаваць антываенную групу ў адным з батальёнаў палка. Меўся на ўвазе трэці батальён, які да гэтага часу быў недаступны для антываеннай прапаганды. Ну, а я меў вопыт з першай сусветнай і з грамадзянскай вайны ў Іспаніі — дзейнічай, другару, гэта твая дзялянка!

Мяркую, што рашэнне ўключыць мяне ў аператыўную работу Ваеннага аддзела было памылковым. Гэта, што называецца, несці пад пахай дзве дыні — трымаць явачную кватэру і ў той жа час быць аператыўным работнікам. Акрамя таго, я не зваліўся з неба — як былы інтэрбрыгаднік і эмігрант я, пэўна ж, меў за сабою «хвост». Чаго добрага... Я выказаў сваю думку, але мне заўважылі, што на сённяшні дзень разлічваць толькі на «чыстых» было б вялікай раскошай.

Я падпарадкоўваюся, але на душы неспакойна.

Аднак, аднак!

Калі б я быў набожны, то памаліўся б: «Дзякуй табе, божа! Дзякуй табе, што зноў вярнуў мяне ў строй, у шэрагі тых, што цаною жыцця гатовы скінуць «царства нябеснае» на зямлю. На які чорт мне жыццё, калі не дабівацца такой мэты? Калі ў мяне не будзе такой мэты, яно ператворыцца ў штосьці падобнае на «піва, смажаніну і тытунь у розніцу».

Вартыя жалю тыя, для каго жыццё замыкаецца ў коле «піва, смажаніна і тытунь у розніцу!» Нават калі мы пашырым гэтае кола і ўвядзём сюды штосьці

накшталт «жанчыны, карты і тытунь оптам» — людзі, якіх задавальняе такое жыццё, таксама духоўныя старцы. Па сутнасці, такія людзі не жывуць, а існуюць: ядуць, п'юць, плодзяцца і, не маючы іншых ідэалаў, робяцца падобнымі да сваіх чатырохногіх братоў.

Думаючы пра сваё жыццё, прыходжу да высновы, што быў шчаслівы ў тыя нямногія дні, калі мая мара скінуць «царства нябеснае» на зямлю святкавала перамогу ці то ў маёй душы, ці то дзе-небудзь на свеце. Такія імгненні зведаў я, напрыклад, калі рушылі з фронту скідаць манарха і ўсталёўваць рэспубліку; калі ў 23-м, толькі што атрымаўшы дыплом урача, ехаў на ровары ў Врацу перадаць распараджэнне Ваеннага савета, потым у Іспаніі — у першыя дні вайны, калі мы білі франкістаў.

Гэта былі сапраўды імгненні Вялікага шчасця. Сабраныя разам, яны не складуць нават месяца. А што значыць месяц у доўгай чарадзе гадоў!

Нічога не значыць. Але яны як самыя светлыя зоркі на небе. Падчас першай сусветнай, а потым у Іспаніі мне часта надаралася праводзіць ночы пад адкрытым небам. Мне добра знаёмы выгляд неба ў начны час, таму магу сцвярджаць без перабольшвання: калі б на яго купале не блішчала з трыццаць вялікіх зорак, яно нагадвала б сумную пустыню з дробных пясчынак, якія раўнадушна мігцяць у бяздоннай яго глыбіні. А то вось некалькі планет і вялікіх зорак у нейкіх дзесяці сузор'ях сумную пустыню ператвараюць у казачны сад. Якім было б неба начное без Венеры, Юпітэра і Марса, без Вегі, Сірыуса і залатых сонейкаў Арыёна, без Арктура і Алголя? Іх нямнога, гэтых свяцілаў, але яны ствараюць непаўторную прыгажосць неба.

Гэтак і ў жыцці. Іх мала, дзён Вялікага шчасця, але без іх чалавечае быццё выглядала б, як пустыня з ледзь прыкметных, амаль не бачных воку зорачак.

Але думаю пра гэта і адчуваю, як азываецца ў мяне сумленне: я недзе памыляўся, калі шукаў шчасця толькі ў тых падзеях, што звязаны з грамадскім жыццём. «А чаму ты адварочваешся ад імгненняў інтымнага шчасця? — злуецца маё сумленне. — Хіба ў тваім жыцці не было такіх дзён?»

Ну, вядома, былі. Такія дні ў маім жыцці былі, і я не такі ўжо шчыры святы, што хацеў бы закрэсліць іх. Чаму я павінен закрэсліваць іх? Мы кахаліся калісьці з

дзяўчынай, я назаву яе Сняжанкай, у нашага кахання не было будучыні, але мы цалаваліся з тугою і болем, і гэта было цудоўна. Было хораша таксама, калі Соня ўпершыню засталася ў маіх абдымках. А хіба не была прыгожаю ноч, якую правёў я ў Парыжы з Мары?

Хіба гэтыя імгненні шчасця неззяюць у маім жыцці, як залатыя сонейкі ў сузор'і Арыён?

Яны гараць, але ж не так, як тыя. Яны інакшыя. Яны з другога паўшар'я. З другога неба.

Пасля намаганняў, якія з поўным правам можна назваць «гераічнымі», Соня нарэшце змагла перайсці на працу ў Сафійскую гарадскую бальніцу. Каб ездзіць туды, ёй прыйдзецца перасякаць амаль усю Сафію з поўначы на поўдзень, робячы некалькі перасадак на трамваях і аўтобусах. Ёй будзе нялёгка, асабліва ў халады, але яна не скардзіцца. Здаецца, да яе вярнуўся добры настрой. Аднаго разу ўвечары, калі мінуў тыдзень пасля майго перасялення, яна ціхутка ўвайшла ў мой пакой і шмыгнула да мяне. Дыхала яна спалохана, не ведаю, якога прыёму яна чакала, але я пагладзіў яе валасы і пацалаваў па-сяброўску.

Яна, мабыць, чакала, што назаўтра я перабяруся ў нашу агульную спальню, але я заставаўся ў кабінеце. І быў вельмі крануты, калі недзе пад поўнач пачуў, што яна зноў заходзіць у мой пакой і, як вінаватае дзіця, горнецца да мяне.

Ці меў я права адаслаць яе і ці было б гэта справядліва?

Так мы і засталіся жыць.

Штосьці зламалася ў нашых душах, але ў жыцці, бывае, ламаюцца і з трэскам рушацца, здавалася б, такія надзейныя і непарушныя рэчы!

## 13

Пяты дзень пайшоў, як я расхварэўся, быў аўторак, час набліжаўся да абеду. Ужо другую ноч Юля аддзяжурыла каля майго ложка, а з дзевяці гадзін, пасля таго як пайшоў прафесар з урадавай клінікі, яна мне чытала.

Раніцай Юля пазваніла з нейкага тэлефона-аўтамата ва ўрадавую клініку, і ў палове дзевятай раптам з'явіўляецца прафесар Н. — спецыяліст у кардыялогіі ў су-

праваджэнні прыгожанькай сястры і нябрыдкай санітаркі, якая несла пакоўную сумку з лекамі і пераносны кардыёграф. Як можна было чакаць, прафесар, паглядзеўшы кардыяграму, пачаў настойваць, каб я тут жа, на іх машыне, ехаў у бальніцу, але я адказаў, што мне і дома няблага і машына яго мне не трэба, а хоча, дык няхай сам едзе ў бальніцу. Прафесар, напэўна, чуў пра мой нораў, таму не стаў спрачацца, загадаў пакінуць мне лякарствы і ўколы, а на другім баку рэцэптурнага бланка распісаў, калі якое лякарства прымаць і ў які час мне павінны рабіць уколы. Калі за імі зачыніліся дзверы, я прыгразіў Юлі, што адарву ёй вушы за тое, што выклікала прафесара без майго ведама, а потым папрасіў, каб пачытала яшчэ.

У адчыненыя вокны набягаў ласкавы вецер, напаўняючы пакой пахам бэзу. Яркае сонца стракаціла сцены, я ляжаў з заплюшчанымі вачамі, а голас Юлін то заносіў мяне ў далёкія часы, на іпадром, дзе Людовік спальваў жыўцом пяцярых багамілаў, а Лукан крычаў на Інэсу, што яна сучка, то перакідаў у бліжэйшы час, і адна і тая карціна паўставала некалькі разоў перад маімі вачамі. Згушчаецца вячэрні змрок, заснежаная алея; ідзе ціхі снег, прыкрываючы сваёй заслонай два цені. Я ведаю, што гэта мой бацька і ягоная Сняжана, а немаведама чаму ў мяне такое адчуванне, што гэта я сам, а жанчына, што ідзе побач, — мая Ана.

Калі Юля прачытала апошні раздзел, пра ўцёкі бацькі ў кабінет, у пакой, дзе ляжаў цяпер я, пра ўніжэнне маці, якая няпрошаная прыходзіла да яго, скруха, што пасялілася ў маёй душы, перайшла ў боль, я нават адчуў, што сэрца на самай справе фізічна забалела.

Юля загарнула рукапіс.

— Ну вось гэта *чалавек*! — усклікнула яна ў адрас майго бацькі. Потым асцярожна, нібы што шкляное, паклала рукапіс на бюро. — Высакародства, выхаванасць, а якое далікатнае сэрца! — узнёсла гаварыла яна, летуценна гледзячы за акно, на белыя гронкі бэзу.

— Гм, пэўне ж, — уздыхнуў я. І раптоўна нічым не выкліканая злосць ускіпела ў маёй крыві. — Але такія высакародныя і далікатныя мужчыны, — крыкнуў я, — вельмі часта носяць рогі ажно да столі!

— Пасаромейся! — Юля ўспыхнула чырванню. — Як ты можаш так казаць пра бацьку?

Яна да мяне звярнулася на «ты»! Але ж за дзве

ночы, праведзеныя разам, нічога не здарылася такога, каб гэтае «ты» ўзнікла натуральным шляхам!

— Чаго мне саромецца? — адказаў я. — Усе сучкі на свеце падобныя паміж сабой тым, што ў адносінах да мужчын маюць аднолькавы густ: каб яны былі высакародныя, далікатныя і каб пакорліва насілі рогі!

— Божа мой! — усклікнула Юля, і ці гэта была скарга, ці нараканне, я так і не зразумеў.

Яна сцягнула з плячэй жончын фартух і рэзкім жэстам кінула яго на крэсла.

— Лякарствы твае во дзе! — паказала яна, не гледзячы на мяне. — Калі якое прымаць, вось тут распісана.

Голас яе быў халодна-трагічны, пастава — тэатральная. Гэта ёй не пасавала, і я засмяяўся.

— Не рабіся смешнай, — кажу. — Ты можаш пакінуць мяне і не разыгрываючы сцэн. Ну чаго табе злавацца наогул? Калі ты ў адпачынку, дык баў час, як трэба, як табе падыходзіць, — хадзі ў кіно, любіся! Чаго ты прыліпла да мяне? Я хворы чалавек, і ад мяне ты нічога не дачакаешся. Як кажуць французы, я, — на жаль, — фізічная колькасць, што не мае вартасці. Quantité négligeablé![1] Таму змотвай вуды, а за два дні і за дзве ночы, якія ты прабыла са мной як медыцынская сястра, я табе заплачу па самым высокім тарыфе. І ў знак удзячнасці яшчэ пацалую ручку. Гэта ўсё, на што я здольны. «Мадам, цалую ручку!» — была калісь такая джазавая песенька. Мая маці любіла яе спяваць, калі я быў яшчэ малы.

— Твой аднайменнік Лукан з даўняга рукапісу проста анёл у параўнанні з табой! — нервова сказала яна, спешна адзяваючы жакецік ад свайго касцюма.

— У маладыя гады і я быў, як ён, — адказаў я. — Я быў бязвінным анёлкам з залатымі крылцамі.

Яна ўсміхнулася сумнаю ўсмешкаю з недаверам і пахітала галавой.

— Бывай! — прамовіла, не паднімаючы вачэй.

Рашучае пастукванне яе вострых абцасікаў заглухла ў двары.

І ў маім сонечным пакоі, напоўненым водарам бэзу і язміну, адразу ўсталявалася жахлівая цішыня. Такую цішыню некаторыя людзі называюць «магільнаю», хоць

---

[1] Колькасць без вартасці! (*фр.*)

ніводзін чалавек не ўставаў з магілы, каб ведаць, што гэта такое. Пры нармальных умовах для здароўя і настрою цішыня ў пакоі суправаджалася шумамі, да якіх я прывык: з бульвара данасілася рыпенне трамваяў, якія паварочваліся на «крузе»; з кавярні, што насупраць трамвайнага прыпынку, магнітафон аглушаў квартал дыскамузыкай, фізіялагічныя канвульсіі якой далятаді і да майго акна; па шашы да Палаца піянераў дзень і ноч газавала безліч машын, і шыпенне іх шын лезла ў вушы так, быццам непадалёку раскручваўся клубок змей. Гэта была звычайная цішыня ў маім пакоі, я да яе прывык і не мог уявіць яе «чыстай» або «цнатлівай», як выказваюцца некаторыя літаратары.

Пасля таго як Юля пайшла, у маім пакоі настала пякельная цішыня, быццам я трапіў у батыскафе на неймаверную марскую глыбіню. І ці яна мяне ўвабрала ў сябе, ці я ўвабраў яе сваёй скурай, ці, можа, адбылося ўзаемнае пранікненне, хто яго ведае.

Пастулова ў маю душу пачаў залазіць нейкі ліпкі страх, змяшаны немаведама чаму з адчуваннем віны. А ў чым я вінаваты? Проста апошнім часам мне не шанцуе! Я выратаваў жыццё майму мастаку, а ён узяў ды памёр; набіў мардаху Юлі, а яна мне адказала міласэрнасцю; Ана хацела сцепліць маю душу «сапраўдным» куранём, а я зрабіў глупства, узяў ды выказаў свае сумненні наконт яе шлюбнай вернасці, і яна ўсердавала. Вось і з Юляй атрымалася штосьці падобнае. Я параіў ёй не марнаваць часу са мной, а яна фыркнула, як нейкая абражаная нявіннасць, і знікла. А галоўнае, тыя нягоднікі ў бальніцы, замест таго каб пахваліць мяне за праведзеную па-майстэрску аперацыю, згаварыліся падставіць мне ножку. Вяршыняй усяго стала гэтае «ўхваляю» намесніцы міністра, з якой калісьці разам спалі не адну і не дзве ночы. Ці то яна пераўвасобілася ў нейкае начальніцкае бяздушша і яе сэрца замест крыві пачало пампаваць бузу, ці то я сам узяў у спадчыну ад бацькі заганы запозненай рамантыкі і занадта вялікае значэнне надаваў «ранейшым» сваім любоўным сувязям?

У якой звіліне, у якім мазгавым цэнтры нараджаецца такая брыда? Я ўжо столькі гадоў калупаюся ў чалавечых мазгах, а наконт гэтага магу сказаць толькі адно — што тут я абсалютны невук. Няўжо сапраўды ўся справа ў хіміі і біятоках? Дык адкуль жа тады бяруцца дабро і зло? Ці яны, дабро і зло, спрадвеку наканаваны

кожнаму? I ў канчатковым выніку, якое ж параджэнне сам я — добрае ці благое?

Цішыня была незвычайная, і, мабыць, таму такія непатрэбныя думкі ўзнікалі ў маёй свядомасці. Якое толькі глупства не лезе ў галаву чалавеку хвораму, якому пагражае інфаркт міякарда, калі ён застаецца адзін, а вясновы вецер падкідае і падкідае ў пакой розныя саладкавата-сентыментальныя пахі!

Нарэшце, мае вялікія думкі вылецелі праз адчыненае акно, і для маіх вушэй настала звычайная, звыклая цішыня. Змераў пульс — ён біўся ціхутка ў самым ніжнім рэгістры нотнага стану. Варта было падмацаваць яго таблеткаю isoket, але не хацелася нават працягнуць руку да крэсла, на якім Юля пакінула лякарствы. Ці мне абрыдлі лекі, ці мозг страціў уладу над мускуламі — не ведаю. Мяне пачало агортваць нешта падобнае на сон, я ўсміхнуўся ці толькі падумаў, што ўсміхаюся, што, вядома, было не адно і тое, але ў мяне ўжо не было жадання займацца разборам свайго душэўнага стану, і я заплюшчыў вочы. Паступова пачаў апускацца ў нейкі сівы туман, які ўсё больш і больш гусцеў, рабіўся шэры, змрочны, якімі бываюць туманы ў лістападзе. Напэўна, сон перанёс мяне ў другое царства, таму што ў красавіку ў нас свеціць прамяністае сонца, а туман калі ёсць, дык толькі ў галаве намесніцы міністра. Такі густы туман, што ён закрыў ад яе сумлення Возера з чырвонымі рыбкамі, каля якога мы калісьці так цалаваліся і гаварылі пра ўзвышаныя рэчы!

Вывеў мяне з царства туману злосны тэлефонны званок. «Правінцыя!» — мільганула ў маёй свядомасці. Адкінуў коўдру, споўз з ложка і тут жа апынуўся на падлозе. На чатырох дабраўся да стала, ухапіўся за яго і сяк-так устаў на ногі.

— Алё! Алё! — чуўся з далёкай далечыні мяккі голас Аны. — Лука, гэта ты?

— Напэўна ж я! — кажу ў трубку. — Чаму?

— Ты доўга не адказваў. Дзе ты быў?

— На сонейку, на двары.

— На сонейку? — здзівілася Ана. — Лука, ты зноў жартуеш!

Сапраўды, у пакоі ўжо было цёмна.

— Якое гэта мае значэнне? — адказаў я.

— Як тваё сэрца? Чаму не ляжыш?

— Не хочацца сядзець у хаце, дарагая. Я ўжо здаровы!

— Здаровы, а ледзь гаворыш!

— Гэта ад хвалявання, мілая!

— Лука, май розум! Я прашу цябе! Праз некалькі дзён убачымся. Цяпер мы праводзім апошнюю прафілактыку пасевам. Яна не задоўжыцца.

— Займайся прафілактыкай, — кажу. — Гэта ж вельмі важна!

— Нават звышважна, Лука! Потым я табе ўсё растлумачу. Тут каля мяне мой сааўтар эксперыменту. Ён перадае табе прывітанне і жадае хуткага выздараўлення!

— Які сааўтар?

— Калега, з якім мы разам працуем. Дацэнт Ангелаў. Ты яго ведаеш!

— Гэны, у акулярах?

— Ага.

— Ну... Дзякуй. Пацалуй яго ад майго імя!

— Што ты кажаш?

— Кажу: пацалуй яго, калі ён у цябе пад рукой. Не цалавацца ж вам толькі ў кустах!

Узнікла паўза, у якой мне чулася яе сканфужанае дыханне. Потым яна рэзка кінула трубку, і наша размова перапынілася.

Неяк даплёўся да ложка, зачапіўшы па дарозе крэсла, на якім Юля расклала лякарствы. Крэсла перакулілася, і лякарствы рассыпаліся па падлозе.

Мне рабілася млосна, я не лёг, а проста паваліўся на ложак. Зноў мне на грудзі наступіў той капыт, і на гэты раз яго цяжар як быццам удзесяцярыўся. Я не мог нават дыхнуць.

Нарэшце ў мяне ў вачах жыхнула бліскавіца, зрабілася светла, і я нібыта паплыў у нейкім вясёлым ззянні. Мне стала весела, бо над галавою чуў Юлін голас:

— Што з табою? Божа мой, што ты нарабіў?

Яе голас далятаў здалёку, я чуў яго нібы з трубкі майго клятага тэлефона.

Лета 1258-е, месяц VIII, Манфер'е. У доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

Хоць у 1244 годзе я быў памілаваны, аб чым ёсць адпаведны запіс у Каркасонскіх паперах Інквізіцыі,

6. Зак. 446.

я заўважыў, што дамініканцы няласкава глядзяць на маю прысутнасць у доме Бернараў, ды і наогул у Манфер'е. Нейкі манах з Фуа нагаварыў рознага старому Жэральду, і з таго часу чалавек ходзіць задуменны і паніклы. Распытаўшы яго, я даведаўся, што той манах гаварыў яму: «Гэты бугр Люкан быў памілаваны-то памілаваны, але як ён многа награшыў і супраць веры Хрыстовай, і супраць законаў краіны, яму было загадана пакінуць Аксіspанію, і каб нагі яго больш не было на ландокскай зямлі». Добры Жэральд спрабаваў улагодзіць манаха: «Дык у яго ж ужо гады, — казаў ён, — якое зло можа прынесці краіне стары чалавек?» Манах на гэта пахітаў галавой: «Сам ён, можа, і стары, але д'ябал, які сядзіць у ім, не старэе! Д'ябал, калі захоча, падштурхне яго на новыя злачынствы, і тады твайму дому будзе пагражаць вялікая бяда. Мы ўсе ведаем, што Бернары з даўніх часоў былі прыяцелямі буграў!»

Дык вось чаму стары Жэральд хадзіў такі задуменны.

Я сказаў яму:

— Браце, не бойся! Скажы дамініканцу, што я пабуду ў Манфер'е нядоўга, а потым, калі ў мяне яшчэ застануцца дні, вярнуся ў Мілан да сына. І яшчэ скажы яму, што мой сын — вялікі прыяцель міланскага герцага і што, калі Інквізіцыя надумае зрабіць якое-небудзь паскудства ці то мне, ці то сям'і тваёй, міланскі герцаг не ўхваліць гэтага і паставіць пытанне перад самім французскім каралём!

Ад гэтых маіх слоў добры Жэральд акрыяў душой і ў той жа дзень адправіўся ў Фуа, каб адшукаць дамініканца і папярэдзіць яго, што я блізкі чалавек у міланскага герцага. Як прынялі гэта паведамленне інквізітары, не ведаю, але кепскі яго настрой палепшаў толькі напалову. Таму, бачачы яго заклапочаным, я сказаў яму, каб не палохаўся, бо я хутка сыду ў Лавенале — гэта сяло, якое знаходзіцца за паўтары гадзіны хады ад Манфер'е. Калісьці ў мяне там былі прыяцелі, якія неаднойчы хавалі мяне ад інквізітараў. Я сапраўды збіраўся ў Лавенале або ў якое-небудзь іншае паселішча, бо не хацеў, каб Бернараў дом меў непрыемнасці з-за мяне, і калі яшчэ затрымліваўся ў Манфер'е, дык прычына была ў яго блізкасці ад Мансегюра. Мне здавалася, што толькі пад строгім ценем Мансегюра я магу

зноў прайсці шляхамі, якімі блукаў, шукаючы свой цень, усё жыццё.

Дык вось, пасля таго як ад пяцярых багамілаў засталося пяць прывязаных да калкоў шкілетаў, на якіх месцамі тлела абгарэлае мяса, на салунскім стадыёне пачалася другая частка відовішча — баявы турнір паміж праслаўленых сілаю і ўмельствам рыцараў. Рыцары ў тым турніры ўступалі ў спрэчку за дыяментавую брошку Аталы Людовік — баронавай жонкі, самай прыгожай з прыгожых салунскіх дам. Яна здыме з грудзей сваіх тую брошку, каб упрыгожыць ёю шчаслівага пераможцу. Тры пары рыцараў бралі ўдзел у турніры, і толькі адзін з іх, хто застанецца ў сядле, завалодае каштоўным упрыгожаннем. Сярод удзельнікаў турніру быў Гіём дэ Борн, граф з Нармандыі, калос, з твару — анёл, а душою — звер. Яго любімым заняткам было страляць з лука на пяцьдзесят крокаў па дзецях асуджаных багамілаў. Хто-небудзь з воінаў падкідаў дзіця ў паветра, і ён пускаў стралу. І рэдка здаралася, каб страла не трапляла ў цэль. Пра гэтага галантнага рыцара і арыстакрата хадзілі чуткі, што ён абходжвае Даму, Людовікаву жонку, але ніхто не мог сказаць пэўна, наколькі гэта адпавядала праўдзе.

Затрубілі трубы, загрымелі барабаны, і шэсць кандыдатаў на Аталіну брошку (напэўна, і на яе сэрца) пусцілі коней наўскач наўкруг стадыёна — у латах і шлемах, з мячамі і доўгімі коп'ямі, трымаючы іх старчма, так, што вострыя іх наканечнікі зіхцелі ў праменнях сонца, якое хілілася на захад, нібы пазалочаныя. Пад'ехаўшы да трыбуны, дзе сядзелі Людовік і ягоная жонка, яны выраўняліся, нахілілі коп'і да зямлі і зрабілі глыбокі паклон. На іх паклон адказала Атала: яна паднялася з месца, з усмешкаю кіўнула ім і кінула ружу, якая немаведама якім чынам упала акурат перад Гіёмавым канём. Гіём падхапіў ружу кап'ём, здзеў рукавіцу і ўпрыгожыў шыкоўнаю кветкаю свой шлем, прымацаваўшы яе да чорнай грывы, дзе яна злучалася з надлобным выступам. Трыбуны грымнулі ўзнёслымі крыкамі, толькі Людовік і яго дачка Інэса засталіся бязмоўнымі.

Сталася так, як і можна было чакаць, — Гіём расправіўся са сваімі праціўнікамі на хуткую руку, без асаблівых намаганняў. Бой праходзіў так: два супернікі

кружылі па іпадроме, нарэшце адзін з іх прышпорваў каня насустрач другому, наставіўшы кап'ё і нізка прыгнуўшыся да грывы каня. Калі той не паспяваў адхінуцца або адвесці ўдар шчытом, то валіўся як падкошаны на дол. Мне кінулася ў вочы, што Гіём выкарыстоўвае адну і тую хітрасць. Ён круціўся па іпадроме, паварочваў каня туды і сюды, пакуль не выводзіў праціўніка супраць сонца. Тады імгненна нападаў і звальваў яго. Такім спосабам ён зваліў ужо чатырох супернікаў, а апошні адкінуў кап'ё і прапанаваў біцца на мячах. Гэты паядынак на турніры праходзіў даўжэй, таму што абодва бесперастанку мянялі месца, круціліся і калі сыходзіліся, дык сонца сляпіла вочы то аднаму, то другому. Нарэшце спрэчку за брошку вырашыла страшэнная Гіёмава сіла — ягоны меч гэтак храснуў па шлеме яго праціўніка, што той імгненна зляцеў з каня, быццам у сядле сядзеў не жывы чалавек а быў прымацаваны труп.

Іпадром ускалыхнуўся і ў дзікім захапленні грымнуў воклічамі. Тысячы людзей раўлі, крычалі да знямогі, пляскалі і грукалі нагамі.

Гіём дэ Борн скінуў шлем і, прымушаючы каня скакаць пад ім, павольна і ўрачыста пачаў набліжацца да трыбуны, дзе сядзелі Атала і Людовік. Атала паднялася.

Тады мяне ахапіла шаленства. Я падхапіўся з месца і колькі было сілы закрычаў:

— Не! Гэты нягоднік махляваў! Я хачу біцца з ім!

Усе, хто сядзеў паблізу, павярнуліся да мяне, а Інэса пачала нецярпліва тузаць мяне за крысо маёй аксамітнай блузы.

— Ты з глузду з'ехаў! — крычала яна, не помнячы сябе, і тузала, каб я сеў.

— Гэты нягоднік махляваў, і я хачу біцца з ім! — стаяў на сваім я. — Дайце мне каня і меч, і вы пабачыце, як я яго апрастаю!

Паступова пачала ўсталёўвацца цішыня.

Тады ўстаў Людовік і загаварыў:

— Рыцару Гіём, гэты хлопец называе цябе нягоднікам і сцвярджае, што ты ў баі махляваў. Ён у маёй свіце, і я ўшанаваў яго рангам, які дазваляе яму выйсці на паядынак з любым рыцарам з майго войска!

Гіём дэ Борн паглядзеў на мяне з пагардай і паблажліва ўсміхнуўся:

— Калі гэты блазнюк хоча памерці, — пыхліва сказаў ён, — дык я не маю нічога супраць таго, каб выняць яму душу!

— Б'юся на заклад, што выму тваю душу! — адказаў я. — Прычым без вялікіх цяжкасцей.

— А што ты можаш паставіць на заклад, дурніца? Аксамітную апранаху, ці што? — нахабна засмяяўся Гіём.

Людовік узняў правую руку, здзеў з пальца цяжкі пярсцёнак і абвясціў:

— Аддаю яго таму з вас, хто пераможа!

— Я згодзен! — кіўнуў галавой Гіём.

— У такім разе, — павярнуўся Людовік да свайго ад'ютанта, — дай яму майго каня і мой меч. — І да Гіёма: — Мяркую, ты скінеш з сябе браню, каб вы маглі біцца ў роўных умовах?

Наш паядынак далей разгортваўся так. Мы з Гіёмам раз'ехаліся на супрацьлеглыя бакі іпадрома, аб'ехалі яго кожны па сваім баку. Нарэшце спыніліся адзін насупраць аднаго за пяцьдзесят крокаў, выхапілі мячы і прышпорылі коней. За момант да таго часу, як нам сустрэцца і ўступіць у бой, я тузануў повад і адхіліўся ўбок. Праскакаў паўкруга, памчаўся на яго і зноў за імгненне да бою адхіліўся.

На трыбунах пачалі свістаць і ўлюлюкаць, але мне было напляваць на гэта галёканне, я працягваў гуляць з ім, а ён пачаў губляць цярпенне, памчаў мне наўздагон, каб ударыць ззаду. Нейкі час я нібыта ўцякаў, а на трыбунах працягвалі свістаць і галёкаць. Улучыўшы момант, калі душа ў мяне ўсклікнула: «Вось зараз!» — я рэзка павярнуў каня і замахнуўся так, што засвістала ў паветры. Мой меч упіўся яму ў плячо і як не распалавініў яго. Нейкі час ён яшчэ трымаўся роўна ў сядле, глядзеў на мяне невідушча, таму што апошнія промні сонца сляпілі яму вочы, потым выпусціў меч і зваліўся на зямлю. Ягоны конь узвіўся дыбам, потым як шалёны памчаў кудысьці і знік.

Так я атрымаў Аталаву брошку і Людовікаў пярсцёнак.

Калі выходзілі з іпадрома, я непрыкметна збочыў у бліжэйшую вулачку і кінуўся бегчы да прыстані. У адной з хацін каля прычала я спадзяваўся адшукаць марака Танаса.

Але не паспеў я прабегчы і сотні крокаў, як вуліца за мною напоўнілася тупатам мноства коней. Хутка мяне акружыла конная стража барона Людовіка. Іх было чалавек дзесяць. Я выхапіў меч, але начальнік групы, якога я ведаў, гэтак жа, як і ён мяне, папярэдзіў:

— Няма сэнсу, Люкан! Нас многа і мы на конях, а ты адзін! Акрамя таго, мы гонімся за табой не дзеля таго, каб прычыніць зло. Мы проста даганяем цябе, каб перадаць загад барона Людовіка. Ягоная светласць чакае цябе ў замку.

— А калі я не хачу з'яўляцца да барона? — спытаўся я.

— Я шкадую, Люкан. У такім выпадку мы павінны прывесці цябе сілаю!

Біцца з дзесяццю ўзброенымі коннікамі, ды яшчэ ў шлемах і латах, было сапраўды бессэнсоўна.

— Я пажартаваў, — кажу. — Хіба можа быць такое, каб мой сеньёр нешта пажадаў, а я не выканаў? На тое я нашу на руцэ сваёй ягоны пярсцёнак!

Стражнікі шчыльна акружылі мяне, і мы рушылі, і хоць коні ішлі ступою, я мусіў ісці подбегам, каб яны не тыцкалі пысамі ў каўнер. Шкада было каўняра маёй аксамітнай блузы, які быў з белых карункаў, не хацелася з'яўляцца на вочы Інэсе выпацканым, як конюх.

Вяртаўся я ў замак з цяжкім сэрцам. З таго часу, як тыя грузчыкі загаварылі са мной на роднай мове і як на маіх вачах жыўцом спалілі пяцярых багамілаў, я быў нейкі сам не свой, у маю душу закралася вялікае сумненне, і я лёгка ўпадаў у шаленства, а то раптам рабіўся як п'яны. Нешта падобнае сталася са мной, калі я нечакана для сябе самога выклікаў на паядынак рыцара Гіёма, а потым, нібы ў п'яным ачмурэнні, уцёк з сеньёравага картэжа і кінуўся да грузавога прычала шукаць марака Танаса. Я не змог бы сказаць пэўна, навошта спатрэбіўся мне гэты чалавек, але ў мяне было такое адчуванне, нібы тузін коней нястрымна цягне мяне туды.

Прыспешваючы крок сярод конных стражнікаў да замка, я некалькі разоў вяртаўся да думкі — нашто мяне запатрабаваў барон, на дабро ці на зло? Здаралася, я і раней адлучаўся з замка, напрыклад, калі разам з іншымі юнакамі хадзіў да платных каханак, і сеньёр ніводнага разу не зрабіў мне за гэта заўвагі. Дык чаго

яму злаваць на мяне цяпер, калі я пазбавіў яго небяспечнага суперніка?

Аднак ледзь толькі я апынуўся на двары, на мяне накінулася зграя стражнікаў, і пакуль я апамятаўся і падумаў пра меч, адчуў, што рукі ў мяне закручаны назад і звязаны тоўстаю вяроўкаю. Праўда, я паспеў некалькіх добра-такі пхануць, а аднаму ледзь не перагрыз горла.

Завялі мяне да сеньёра, які чакаў у вартоўні левай вежы. Ужо звечарэла, гэта вялікае і пустое каменнае памяшканне слаба асвятлялася смаляной дымнай паходняй. Яе чаднае полымя адкідала ад усяго цёмныя цені, і, можа, таму твар сеньёра здаваўся змрочным і халодным, нібы пацямнелы камень сцен.

Сеньёр махнуў рукой, стражнікі выйшлі за дзверы, і мы засталіся ўдвух з вока на вока. Тое, што пасля выдатнай перамогі над непераможным Гіёмам дэ Борнам я стаяў перад гэтым чалавекам са звязанымі рукамі, напаўняла душу мне невыносным болем. Пры двары пагаворвалі, што граф — любімец папы Інакенцін III і што ён баронаў супернік не толькі ў сардэчных справах, але і за яго тытул Салунскага ўладара. Я вызваліў барона ад яго двайнога суперніка, а ён цяпер, замест таго каб дзякаваць мне, загадаў звязаць мяне, як разбойніка!

Вядома, супраць Гіёма я выступіў не дзеля барона Людовіка. Хоць ён быў да мяне добразычлівы і я змірыўся са сваім становішчам — мне прыйшліся даспадобы перавагі жыцця арыстакратаў, — у глыбіні душы я не забыўся, што гэты самы чалавек — забойца маіх бацькі і маці, што ён зруйнаваў маё сяло і што ён наогул вораг майго народа.

Але якія б ні былі ў мяне матывы, Гіёма ўжо не было сярод жывых, і барон ад гэтага выйграваў, таму было несправядліва трымаць мяне са звязанымі рукамі. І ранейшы Лукан зноў заўпарціўся ў маёй крыві:

— Дык вы гэтак вырашылі аддзячыць мне за тое, што я рызыкаваў галавой сваёй за вас? — загаварыў я голасам, якім не мог валодаць ад крыўды і гневу.

— Не вярзі лухты! — паглядзеў на мяне сурова і непрыязна барон. — Ты выступіў супраць Гіёма зусім не дзеля мяне, а каб паказаць сябе вялікім героем перад Інэсай!

— Як там ні было, а графа ўжо няма на гэтым свеце.

— За стараннасць сваю ты атрымаў залаты пярсцёнак і каштоўную брошку. Так што наконт Гіёма мы квіты!

— Калі мы квіты, дык якога чорта мяне звязалі?

— Каб ты прыняў пакаранне, якое заслужыў, свінтус! Я загадаў пакараць цябе дваццаццю пяццю палкамі па голым, а ты кінуўся ўцякаць, не паслухаўся майго загаду!

— Вы згараеце ад жадання абняславіць мяне ў знак удзячнасці за тое, што я заступіўся за ваш гонар, так?

— Калі ты яшчэ раз скажаш хоць слова пра мой гонар, я загадаю абмазаць цябе смалой і падпаліць жывога! — сціснуў перада мной кулакі Людовік.

Мне стала смешна. Выходзіць, я ўкалоў яго там, дзе яму сапраўды баліць.

Ён крутнуўся на абцасах і хутка-хутка захадзіў па пакоі, мабыць, каб супакоіцца. Потым спыніўся ў самым далёкім кутку, куды святло ад факела амаль не даходзіла, і адтуль загаварыў да мяне:

— Адзін бог ведае, чаму я ў свой час быў да цябе літасцівы... Ты быўваўчанё, а я, дурань, спадзяваўся перавыхаваць цябе!.. Я зрабіў цябе пажам Інэсы, а ты, паганец, пачаў яе раўнаваць! Заўтра ты заб'еш яе мужа, у гэтым няма ніякага сумнення... У тваіх грудзях няма душы, там вые воўк! І вы ўсе такія, што вылупіліся з ерэтычнага семя!

— Чаго вы круціце! — кажу я. — Вам проста хочацца падмазацца да папы Інакенція III, паведаміўшы яму, што жорстка пакаралі забойцу ягонага любімца!

— Яшчэ пяць палак за твае зняважлівыя словы! — сурова сказаў барон.

— Я хачу лепш памерці ад мяча, чым быць абняслаўленым катаваннем...

— Ад трыццаці ўдараў палкамі, можа, памрэш, а можа, і не памрэш, бо ты моцны, як вол. А меч выме з цябе душу адразу, няхай быў бы ты Галіяфам!

Ён памаўчаў, потым загаварыў зноў:

— Трымаць цябе далей у замку — значыць трымаць за пазухаю змяю. Выбачай! Гэтага не будзе. Ідзі куды вочы глядзяць, хоць туды, дзе быў, толькі каб я цябе не бачыў!.. Каб ты зразумеў, што я не хачу табе зла, хоць ты, шаленец, не варты таго, я напісаў сведчанне, у якім пацвярджаю, што ты былы служыцель майго два-

ра і што я сам па добрай волі падараваў табе свой пярсцёнак.

Ён падышоў да мяне, расшпіліў мне блузу і засунуў за пазуху пергаментны ліст. Тады зноў зашпіліў.

— Гэта пісьмо будзе ахоўваць цябе, прынамсі, пакуль ты тут, у Салуне, — удакладніў ён. — Калі, канечне, ты выжывеш пасля пакарання!

Я засмяяўся.

— Жыццё ўсіх нас у Ягоных руках, — уздыхнуў барон. Ён паглядзеў угору, у цемру, і невядома чаму развёў рукамі.

— У мяне адна-адзіная просьба, — звярнуўся я да яго. — Што ўжо застанецца ад мяне, жывое цела ці нежывое, каб занеслі на прыстань і пакінулі на грузавым прычале.

Барон кіўнуў галавой і пляснуў рукамі.

Увайшоў начальнік варты ў суправаджэнні двух воінаў.

— Даць яму трыццаць палак. Да гэтага я загадваў дваццаць пяць, а цяпер павялічваю да трыццаці. Калі будзе пакараны, жывога ці мёртвага аднесці на прыстань да грузавога прычала і пакінуць там! Вядзіце яго!

Мяне вывелі. Над светам апусцілася бязмесячная, чорная ноч.

Лета 1258-е месяц IX, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся!

Учора наведаў мяне дамініканскі манах з Фуа. Ён член Каркасонскае інквізіцыі, мае высокі іерархічны сан і адказвае за раён, прылеглы да горада Фуа, куды ўваходзяць Манфер'е і Мансегюр. Выглядае ён гадоў на пяцьдзесят, твар у яго прадаўгаваты і кашчавы, шэра-блакітныя вочы глядзяць холадна і цвёрда — пагражальна цвёрда: яны выдаюць інквізітара, гатовага адправіць у агонь кожнага, хто не падзяляе яго перакананняў, няхай гэта будзе яго родны брат.

Мы селі на двары, у цяні Бернаравай лазніцы[1]. Ён прымасціўся ажно на самым канцы лаўкі, як баючыся цераНуцца аб мяне, запэцкацца ад маёй валасяніцы,

---

[1] Лозница *(балг.)* — вінаградная лаза, якая віецца.

хоць яна белая як снег. Старая Бернарыха мыла мне яе праз дзень.

Не паднімаючы вачэй, гэты жахлівы чалавек паморшчыўся і сказаў:

— У запаведзі[1] аб памілаванні цябе, ерэтыка, ад 1244 года сказана, што табе належыць у трохдзённы тэрмін пакінуць Лангдокскі край. Чаму ты зноў тут?

— А ці ўпамінаецца ў той запаведзі слова «назаўсёды»? — папытаўся я.

— Не ўпамінаецца, але падразумяваецца!

— Запаведзі не маюць патрэбы ў тлумачэнні, — сказаў я на гэта.

— Маюць, маюць! — захітаў галавой дамініканец і ўпершыню, як мы сабраліся, падняў на мяне вочы. У іх зрэнках шчэрылі зубы два аўчарскія псы, гатовыя кожнае імгненне накінуцца на мяне.

— Значыць, ты сцвярджаеш, што запаведзі можна тлумачыць і так, і гэтак?

Ён пацінуў плячамі.

—І дзесяць запаведзяў Майсея? Ты можаш і іх растлумачыць па-свойму?

— Я не казаў нічога такога, параджэнне д'ябла! — Ад промаху ён пачырванеў і паспяшаўся перахрысціцца. — Акрамя таго, дзесяць запаведзяў Майсей не сам прыдумаў, ерэтык ты, яму іх даў бог! А ўсё, што ідзе ад бога, не мае патрэбы ў тлумачэнні. Яго трэба толькі выконваць!

Паганы дамініканец зноў пачырванеў ад злосці, злыя сабакі ў яго вачах як быццам выгнулі спіны і скочылі на мяне:

— Таго, хто не выконвае божых запаведзяў, мы адпраўляем у агонь! Ты сам меў магчымасць пераканацца, адчуць гэта на сваёй скуры, што мы не цырымонімся, ці не так?

— У дзень Апакаліпсіса кожны атрымае заслужанае! — адказаў я. — У евангеллі сказана, што той, хто дастае нож, ад нажа і памірае. Той, хто адпраўляе ў агонь сабе падобных, на вечны агонь асуджае і сваю душу. Па евангеллі, усе вы, інквізітары, у дзень Апакаліпсіса будзеце адпраўлены ў агонь пекла навечна!

---

[1] **За́повед** *(балг.)* — загад, распараджэнне; рэлігійна-маральнае прадпісанне.

На месцы сабак выскачылі ваўкі, яны ўеліся вачамі ў мяне, з іх пашчаў пацякла сліна.

— Мы адпраўляем у агонь ворагаў Хрыстовых, ерэтыкоў, таму ў дзень Апакаліпсіса мы будзем ухвалены богам, і самыя лепшыя месцы ў раі будуць вызначаны нам!

— Дарэмна спадзеяцеся! — адказаў я. — Ніводзін з евангелістаў не сказаў, што ёсць забойства грэшнае і ёсць праведнае. Хрыстос асуджаў насілле, нідзе і ніколі не ўхваляў яго. Хто вам даў права забіваць людзей за іх погляды?

— За погляды мы не забіваем, блюзнер гэтакі! Ты май сабе погляды, але трымай язык за зубамі! Не бунтуй людзей! А вы іх бунтуеце: каб не працавалі на царкву і князёў, каб не плацілі даніны дзяржаве і не ішлі на вайну!

— А чаму людзі павінны працаваць на царкву? У Хрыста ж прыгонных сялян не было? Бач, якія ў цябе дужыя рукі — закасай рукавы і працуй, а не чакай гатовенькага! Калі ўсе людзі на свеце будуць працаваць і кожны будзе здабываць сабе хлеб сумленнай працай і ніхто не пакваніцца на хлеб блізкага свайго, не патрэбны будуць і князі; а як не будуць валадарыць князі, не будзе і войнаў. Таму што войны пачынаюць не аратыя і сейбіты, а князі і епіскапы!

— Дарэмна, дарэмна Юг дэ з'Арсі памілаваў цябе, ерэтыка, у свой час! З тваіх слоў відаць, што праз усе гэтыя 14 гадоў, што ты не быў на лангдокскай зямлі, д'ябал не пакідаў тваёй душы ні на імгненне! Але я папярэджваю: калі хоць адно слова з тых, што ты сказаў тут, выскачыць з гэтага двара, дык з кастром табе ўжо не размінуцца! А агню, яму ўсё роўна, з кім мець справу — з маладым ерэтыком ці са старым богазневажальнікам і бунтаром... А на Міланскага герцага не спадзявайся! Наш найсвяцейшы бацька і пастыр, папа, і кароль Францыі хутка, вельмі хутка прад'явяць яму рахунак за заступніцтва і дапамогу ерэтыкам. Так што... — ён устаў, і ваўкі ў яго вачах незадаволена схаваліся, — ... да таго, як пачне ападаць лісце, каб цябе на аксітанскай зямлі не было! Калі ж не паслухаешся, цябе забяром у інквізіцыю, а твайго прыяцеля Жэральда і яго сям'ю выселім на край свету.

Як пачуў я пра Бернаравых — дамініканцы толькі шукалі зачэпкі, каб расправіцца з гэтай сям'ёй, — сму-

так агарнуў мяне. Не хацелася мне пад канец жыцця быць прычынай зла, асабліва ў адносінах да добрых людзей. Хопіць ужо таго, што натварыў за пражытыя гады.

«Пакуль пачне ападаць лісце, — падумаў я, — я буду ў Мілане. Толькі каб паспець закончыць гэты рукапіс!»

— Я прыйшоў пакланіцца Мансегюру, — сказаў я дамініканцу. — І сыду да таго, як агалее лес.

— А ў Кверыбус не думаеш схадзіць пакланіцца? Там жа мы вашым прышчамілі хвасты!

— Гэта таксама на вашым сумленні! — адказаў я. — У дзень Апакаліпсіса і за гэта адкажаце!

— Кверыбус быў вашай апошняй крэпасцю. Цяпер над Аксітаніяй пануе мір, і мы не дазволім такім нягоднікам, як ты, зноў распальваць бунты і варожасць!

— Такія, як я, ужо не патрэбныя нікому. Усё, што мог, я зрабіў у гады, калі быў у сіле, — пасеяў семя, якое будзе расці і даваць плады і тады, калі над табой, дамініканец, парасце трава. Хоць штогод утварайце па Мансегюру і па Кверыбусу, усё роўна не задушыце тое семя. А слова сваё я стрымаю. Як толькі пачне ападаць лістота, я пакіну Аксітанію, гэтую цудоўную зямлю, якую палюбіў, як сваю другую радзіму.

— Калі ты яе не пакінеш, як ужо гэтак палюбіў, мы можам закапаць цябе ў ёй жыўцом! — паабяцаў дамініканец са злавеснай усмешкай і хуткім, паспешным крокам сышоў з двара Бернара.

Да лістапада засталося не так многа часу, і я павінен спяшацца са сваім жыццём. Але якое ў мяне жыццё? Я не хрысціянскі царкоўнік і не магу быць кандыдатам у хрысціянскія святыя, каб пісаць «жыццё» ў тым сэнсе, як падаюць гэта хрысціянскія кніжнікі. Я просты грэшны чалавек. Па паходжанні я балгарын, па перакананні — бугр, катар, што на балгарскай мове азначае «багаміл». Багамілаў у Аксітаніі называюць «катары», а ў Ламбардыі — «патарэны». Багаміл, гэта значыць, катар я проста па перакананні, але не пахрышчаны ў багамільскую веру. Але прапаведую дзесяцігоддзі ўжо гэтую веру з не меншаю сілаю, чым любы багамільскі «дасканалы». І тое, што я не хрышчоны і што мне, можа, не будзе, як іншым багамілам, суцяшэння, дык не таму, што я не хацеў ці не хачу, хай бог будзе сведкам! А та-

му, што яшчэ да таго, як я ступіў на аксітанскую зямлю, балгарскі багамільскі епіскап усклаў на мяне задачы, якія, па сутнасці, былі несумяшчальныя з багамільскай верай. Пазней у Аксітаніі катарскі епіскап загадаў мне ў меру магчымасцей ахоўваць катарскіх першынцаў, як іх называлі, «дасканалых», ад катаў хрысціянскай інквізіцыі, акрамя таго, даручыў дапамагаць і быць на паслугах у сеньёраў, якія падтрымлівалі буграў і заступаліся за іх, давалі прытулак. Грахі мае цяжкія, і многа іх, і, напэўна, позна ўжо мне цяпер быць хрышчаным. Але епіскапы і «дасканалыя», якіх я ахоўваў і аберагаў, усе яны абяцалі сваё заступніцтва перад богам у дзень маёй смерці альбо ў дзень Страшнага суда. Яны засведчаць перад богам, што ў жыцці я быў чалавекам добрай душы, праведнікам, сапраўдным багамілам, гатовым з дарагой душою пайсці за веру сваю ў агонь, і што не па сваёй волі, а для абароны катарскіх духоўных першынцаў і іх сеньёраў-заступнікаў я выконваў воінскія задачы і праліваў кроў...

Благаславіце і злітуйцеся!

Я не ведаю, ці возьме бог пад увагу заступніцтва праведнікаў, дзеля якіх я праліваў кроў; наўрад ці пачуе ён іх словы. І не ўпэўнены, ці будуць мае настаўнікі каля бога, калі мая душа з'явіцца перад ім: рай жа такі вялікі, што, калі на адным яго краі апускаецца ноч, на другім разгараецца дзень! А ў час Страшнага суда, напэўна, пачнецца вялікая неразбярыха, і дзе мне тады шукаць маіх заступнікаў? Наогул, ці ўбачаць яны мяне, а калі ўбачаць — ці ўспомняць, ці да мяне ім будзе?

Благаславіце і злітуйцеся!

Уся мая надзея толькі на Эсклармонд. Я ведаю, што яна адзіная не забылася пра мяне, адна-адзінюткая будзе шукаць мяне, каб з маіх вуснаў пачуць тое запаветнае слова, якое там, на мансегюрскім кастры, я не паспеў сказаць ёй на вуха!

Гэта маё «жыццё» — апошняе маё падарожжа па свеце. Калі прайду зноў тымі шляхамі, якімі давялося прайсці, і дайду да канца, я сам зразумею, дзе буду пасля смерці — у пекле ці ў раі. І калі месца маё будзе ў раі, як толькі памру, птушкаю палячу над хаосам — шукаць Эсклармонд...

А цяпер зноў вернемся ў год 1209, калі барон Людовік спаліў на Салунскім стадыёне пяцярых багамілаў, а я ў турнірным паядынку забіў рыцара Гіёма дэ Борна. Вернемся ў той злашчасны дзень, калі Людовік загадаў пакараць мяне дваццаццю пяццю палкамі — за тое, што пакрыўдзіў яго дачку Інэсу і будучага яго зяця, а потым яшчэ павялічыў пакаранне на пяць удараў палкамі, таму што я асмеліўся намякнуць яму нешта пра сямейную годнасць у сувязі з памянёным рыцарам Гіёмам.

Я помню, што са мною было, толькі да дваццатага ўдару. Потым страціў прытомнасць. Паміж пятнаццатым і дваццатым ударамі я пачуў, як той кат, што біў з правага боку, ды кажа другому, які біў злева:

— Гэй, Пейра, чаго ты так налягаеш, пераб'еш яму косці!

—Так яму і трэба, нягодніку!

— Чаму гэта, Пейра?

— Ён забіў Гіёма, а Гіём кожны раз на каляды частаваў нашу дружыну — на кожнага збан правансальскага віна!

— Эх ты!..

Пасля дваццатага ўдару, атрыманага ад Пейры, якому я, таго не ведаючы, нанёс страты, я знепрытомнеў.

Калі я расплюшчыў вочы, быў дзень, я ляжаў жыватом на нейкай саломе. Агледзеўшыся наколькі мог, зразумеў, што знаходжуся ў халупіне з сырой цэглы, якая нагадала мне ўбогі бацькоўскі дом. Нават нейкі час, пакуль у маёй галаве ўпарадкоўваліся навакольныя рэчы, было адчуванне, што я дома і зараз вось адчыняцца дзверы і на парозе пакажацца мама. Гады са два ўжо я не думаў ні пра родны дом, ні пра бацькоў, і вось раптам усё разам прыйшло мне ў галаву.

Але гэтая мроя, што ледзь не давяла да слёз, хутка знікла. Пакойчык быў не той, дый сам я быў зусім іншы. Чамусьці страшэнна патыхала цыбуляй, а самому варта было павярушыцца, і нясцерпны боль працінаў плечы, усю спіну і сцёгны ажно да падкаленных згібаў. Адчувалася, што Пейра той папрацаваў як мае быць.

Хутка я зразумеў, адкуль ідзе агідны смурод. Уся мая спіна да паясніцы была абкладзена тоўстым слоем нацёртай цыбулі. А кашу гэту ўкрывала калматая аўчына, краі якой былі сцягнуты і звязаны ў мяне на грудзях. Мяне ажно згадзіла, адвык я ад такога. Дзе ў замку Людовіка мог я бачыць сырыя аўчыны і чуць,

каб гэтак смярдзела цыбуляю! Усё гэта было і там недзе, але дзесьці ў глыбіні двара вонкавага, у людской і на кухнях. За чатыры гады, што прабыў у замку, нага мая не ступала туды.

Пераадолеўшы агіду, я пачаў паварочваць галаву ў бакі, каб лепш агледзець месца, куды трапіў. Збоку, каля супрацьлеглай сцяны, ляжала таксама куча саломы, накрытая грубай канаплянай посцілкай, як і ў мяне. У кутку былі звалены скруткі тоўстай вяроўкі і некалькі козлаў з раменнымі шлейкамі для пераноскі грузаў. Значыць, мяне прыбралі ў нейкую хаціну партовых грузчыкаў. Ад выгляду такой беднасці, пра якую я ўжо забыўся, мне стала ажно нядобра; я апусціў галаву і тады каля самага ўзгалоўя на чыстай белай хусцінцы ўбачыў лусту чорнага хлеба і некалькі сушаных смокваў.

Якіх толькі ласункаў не падавалі мне ў замку на снеданне, але ніколі душа мая не была ўсцешана так, як пры выглядзе гэтай бядняцкай ежы! У мяне перахапіла горла і на вочы пачалі набягаць слёзы. О, няхай будзе благаслаўлёная рука, якая паклала мне гэты кавалак хлеба! Хай будзе благаслаўлёнае сэрца, якое захацела ўзрадаваць мяне прыгаршчамі смокваў! Я прыціснуўся тварам да саламянай падушкі і заплакаў.

Не плакаў я ад дзяцінства. Але ж во ёсць-такі на свеце, акрамя вылюдкаў, як Пейра, і сапраўдныя людзі! Я плакаў і дзякаваў богу, што не адабраў у мяне веры ў дабро. Потым, калі слёзы мае высахлі, у душы маёй як быццам павеяла холадам, і я падумаў — адкуль пайшло зло ў маім жыцці? У чым я награшыў, якімі ўчынкамі парушыў святую праўду, чым угнявіў бога? Якія святыя законы парушыў, каб ён сарваў мяне з роднага месца, без пары пазбавіў жыцця маіх бацькоў і блізкіх, а цяпер падвергнуў мяне такой ганьбе, якой вартыя толькі самыя нізкія людзі — зладзеі і гвалтаўнікі. Калі божае вока ўсё бачыць, калі божае вуха ўлоўлівае кожны гук, кожнае слова — дык як тады мог усявышні памыліцца і прыняць мяне за акаяннага грэшніка?

Такога не магло быць, каб бог памыліўся.

Тады мне прыйшло ў голаў: дык, можа, я грашыў неўсвядомлена?

Я ўспомніў дзесяць божых запаведзяў. Я ніколі не хлусіў, нікога не ашукваў. Нават гузіка не ўкраў. Імя

божае марна не ўспамінаў. Праўда, было — забіваў, калі на нас нападалі лацінцы, але ж я не пачынаў, яны пачыналі. Яны навальваліся на нас, а я толькі абараняўся. Абараняць ад разбойнікаў сябе, блізкіх і зямлю, на якой нарадзіўся, — гэта не грэх. Хіба Давід саграшыў, уходаўшы Галіяфа? Я і не пралюбадзейнічаў. Хадзіў да дзевак, але я нежанаты быў, і яны не замужам. Я ніводнай божай запаведзі не парушыў. Чаму ж тады мяне карае гасподзь? Чаму пасылае мне зло?

Раптам успомніўся мне граф Гіём дэ Борн. Прыкончыў я яго, гэта праўда, але ж гэта сталася ў турнірным паядынку, чэсна, па правілах; сам лацінскі епіскам Салуна благаславіў той турнір!

## 14

Юля чытала мне Луканава жыціе, і з кожнай наступнай фразай голас яе ад стомы цішэў і павекі яе вачэй яўна зліпаліся ад неадольнай патрэбы ў сне. Якія толькі пярэваратні не перавярнуліся за ноч у мяне ў сэрцы, і калі мой міякард вытрымаў насуперак усяму, заслуга ў тым была не маёй валовай сілы, а яе маленькай і добразычлівай, ласкавай і пяшчотнай ручкі. Магчыма, гаварыць такое мне, чалавеку ад медыцынскай навукі, і не вельмі пасуе, але за гэту ідыёцкую ноч я засвоіў для сябе нешта вельмі павучальнае: ручка маёй сядзелкі, пакладзеная мне на сэрца, дзейнічала на яго парушаны рытм і недастатковы крывацёк больш «эфектыўна», чым усе гэтыя ланітопы, ізакеты і абзіданы, якія глытаў я па прадпісанні майго шаноўнага прафесара-кардыёлага.

Кажу ёй:

— Адкладзі чытанне, дзяўчынка мая, хачу крыху падрамаць, — і я прытворна заплюшчыў вочы.

Калі праз хвіліну ці дзве паглядзеў, яна ўжо спала. На яе паўадкрытых вуснах, нібы шыкоўны матылёк, сеўшы на кветку, спачывала мяккая ўсмешка.

Лета 1258-е, месяц IX, у доме Бернаравых.
Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

...Паколькі я не мог даўмецца, у чым я саграшыў і адкуль ідзе зло ў маім жыцці, я адчуў сябе, як чалавек,

кінуты ў непраглядную цемру — ён не ведае, дзе ўзыходзіць сонца і ў якім баку яно заходзіць; ці ён набліжаецца да дому, ці аддаляецца ад яго. Чалавекам у цемры, без дому і без блізкіх — вось якою акаяннаю істотаю быў я на той час. Шкада мне стала самога сябе, і страх пачаў пранікаць у душу маю; я траціў зрок у тым, што адбываецца са мной цяпер, а ў тым, што ідзе мне насустрач, я быў зусім сляпы.

Я з цяжкасцю падняўся і, хістаючыся, быццам моцна перапіўшы віна, выйшаў на двор. Перад хаткай была драўляная лаўка, я даплёўся да яе. За пяцьдзесят крокаў перада мной зелянела і свяцілася безліччу сярэбраных водбліскаў мора, а з аднаго і другога боку ад мяне нібы паселі на пясчаным беразе хацінкі з галля і гліны. Удалечыні, нібы паветраны міраж, у светлым сонечным марыве відneліся рыбацкія лодкі, а глыбей у заліве вецер надзімаў ветразі вялікіх і меншых караблёў; між імі снавалі дробныя лодачкі, ледзь бачныя воку, нібы рысачкі. Весляроў на іх немагчыма было разгледзець, толькі зрэдку ўспыхвалі на сонцы пырскі пад вёсламі быццам стракатыя каралі, раптоўна выкінутыя морам.

Прыстань і грузавы прычал былі воддаль, шум адтуль не далятаў да маіх вушэй, наўкола панавалі цішыня і спакой, толькі ласкавы брыз, які павяваў з мора, шамацеў паціху ў саламяных стрэхах будынін.

Я ўслухоўваўся ў цішыню і думаў пра ліхія прыгоды, якімі было напоўнена ўсё маё жыццё дагэтуль. На руцэ ў мяне блішчаў вялізны залаты пярсцёнак Людовіка, за пазухай я адчуваў каштоўную Аталаву брошку і цвёрды пергамент Людовікавага сведчання, і ў той жа час быў я збіты, спляжаны ганебным пакараннем палкамі. Колішні басаногі пастушок, я потым жыў у княжацкім палацы, у дастатку, які нават у сне сасніцца не мог; вывучыў дасканала франкскую мову, бездакорна мог пісаць і перакладаць на лацінскую. Цяпер гэты самы чалавек аддае богу душу ў мазанцы, вартай апошняга жабрака. Бог спачатку ўзняў мяне на вялікую вышыню, а потым кінуў тварам у гразь. Нібы ў сэрцы ўсявышняга аднойчы ўзбуяла бязмежная дабрыня, а другім разам — лютасць, якая не ведае літасці. Але ж бог заўсёды быў увасабленнем міласці і дабра, праўды, якая не дапускае памылак; гэта я вучыў у законе божым і катэхізісе, у гэта верыў; дык як жа тады той самы

бог можа ўпадаць у люты гнеў і караць чалавека, які ні ў чым не саграшыў?

Гэта былі цяжкія пытанні, яны намнога пераўзыходзілі мае веды і падвялі пад выпрабаванне ўсё, што я засвоіў пры Людовікавым двары. Яны ўносілі смуту ў маю душу і як быццам падводзілі на самы край нейкай страшнай бездані. Я заплюшчыў вочы і разам з усімі згрызотамі душы патануў у бязмоўі, якое панавала наўкола. І здалося мне, што мора ўздымаецца, паволі наплывае, залівае ўсяго мяне. Але нібыта не тое мора, што ласкава плюскоча каля ног, а іншае — мора з блакітнай сінечы; і я здагадаўся: гэта неба апусцілася на зямлю, я нырнуў, плаваў, правальваўся ў яго празрыстыя глыбіні.

Пад полудзень да мяне прыйшлі мужчына і жанчына. На мужчыне была канапляная кашуля да каленяў і палатняныя штаны, ён быў падпяразаны шырокай, але вельмі падрапанай скураной дзягай. На выгляд яму было гадоў сорак, мажны, крэпкі. Жанчына была гарбаценькая, кульгала, на твары ледзь праглядваліся амаль сцёртыя часам сляды былой прыгажосці. Вочы ў яе былі светлыя, з іх выпраменьвалася мяккае святло. Апранута яна была ў сінюю паношаную сукню, перахопленую па скрыўленай яе сярэдзіне тонкай вяроўчынай. Мужчыну я адразу пазнаў — гэта быў той самы мой супляменнік, якога я напаткаў на прыстані. Ён тады размаўляў з двума другімі супляменнікамі, і калі я пачуў іх гаворку, у мяне ў душы нібыта штосьці перавярнулася. Мне тады раптам здалося, што наўкола пахне не салёнай рыбай і не прасмоленымі карабельнымі канатамі, а водарам чабору і бэзу. Гэты чалавек не быў са мною надта абыходлівы, яго атрутныя словы засталіся ў мяне ў памяці: «Калі Рэлё даведаецца, што сын яго служыць д'яблу ў франкаў, ён тры разы перавернецца ў магіле і ў дзень Страшнага суда не ўстане, таму што яму будзе сорамна глядзець людзям у вочы!» У гэтых атрутных словах я адчуў бязлітасную праўду пра сябе, я ж сапраўды стаў добраахвотным палонным Людовіка — у іншым выпадку, бог таму сведка, за такія словы, хоць ён мне быў супляменнік, я абавязкова адправіў бы яго на той свет! Вось і цяпер, калі я ўбачыў гэтага чалавека, у маёй душы з'явілася горыч, і не таму, што я меў нешта супраць яго — не, ягоныя тыя словы выклі-

калі ў мяне пякучы ўнутраны сорам. Ці так, ці гэтак, а я сапраўды быў нявартым сынам свайго бацькі: сам зміры́ўся з неабходнасцю жыць пад адным дахам з яго забойцам, служыць ягонаму кату, калі добраахвотна згадзіўся стаць пажам ягонай дачкі.

Таму я толькі кіўнуў гэтаму чалавеку галавой і нічога не сказаў. Ад хвалявання, ці што, а можа, ад ран у вачах у мяне раптам пацямнела, і я пачаў хапаць ротам паветра, як рыба, выкінутая на бераг. Тады гарбаценькая жанчына пачыкільгала ў хаціну, вынесла гліняны гарлач і пачала змочваць вадой мне лоб і твар. І ці то ад вады, ці ад дабрыні, якая праменілася з яе вачэй, мне хутка палепшала.

— Ты б, Лукане, не ўставаў, а паляжаў бы ў халадку ў каморы! — параіў мне чалавек. — Табе лепей паляжаць, пакуль палягчэе, — гаварыў ён далей. — І раны твае хутчэй зажывуць, і небяспекі меней, бо д'ябал, ён не спіць!

— А якая небяспека мне можа пагражаць? — здзівіўся я. — На гэтым беразе, сярод бядняцкіх хацін і ў баку ад прыстані?

— Франкі ведаюць, а кюрэ іхнія найперш, што сярод нас ёсць багамілы, і часта падсылаюць сваіх людзей, апранутых, як мы, па-простаму, нібы рыбакі або багамольцы. Яны заводзяць размовы, каб выведаць усё. Вось такі чалавек можа цябе ўбачыць, а як ты апрануты па-сеньёрску, ён адразу здагадаецца, хто ты, і данясе Людовікавым людзям.

— Не бойся! — уздыхнуў я ціха, і зноў той сорам запёк у сэрца. — Я не ўцякач.

— Не ўцякач? — уталопіў на мяне вочы мой субяседнік, у голасе ягоным добра адчулася шкадаванне. — Дык хіба якія рамейцы ўпрыгожылі цябе гэтак?

Рамейцы былі ворагамі франкаў, і было ў парадку рэчаў, каб яны «ўпрыгожылі» мяне як чалавека ненавіснага ім барона.

— Ніякія рамейцы мяне не чапалі, — пахітаў я галавой. — Гэта барон загадаў біць мяне палкамі, затым кінуць дзе-небудзь каля грузавога прычала. Я сам прасіў яго, каб пасля пабою пакінулі мяне дзе-небудзь паблізу грузавога прычала на прыстані. Ты ж казаў мне тады, як гаварылі з табой, што недзе каля таго прычала жыве балгарын, марак Танас? Вось мне і падумалася, што калі сканаю пад кіямі, дык хоць пахаваюць свае,

а калі застануся жывы... ці я ведаю! — пацісную я плячамі.

Пакуль мы размаўлялі, гарбаценькая распаліла з сухіх водарасцей агонь, зварыла ў невялікім кубку нейкі зелянкавы адвар і з зычлівай усмешкай пачала паказваць мне, што трэба хутчэй выпіць яго. Я выкаўтаў яе піццё, яно было агіднае на смак, але яшчэ калі я піў, адчуў, што кроў мая саграецца і цела маё наліваецца сілай. А як мой супляменнік усё глядзеў на мяне здзіўлена і недаверліва, я ўзяў ды пачаў расказваць усю маю салунскую гісторыю і расказаў да канца, да таго моманту, калі пакрыўджаны Пейра ўдарыў мяне кіем дваццаты раз.

Калі я скончыў апавядаць, мой гаспадар доўга маўчаў, а потым і сам пачаў расказваць свае нягоды. Звалі яго Нікола, ён з майго сяла, але жыў не ў самім сяле, а ў хаціне свайго дзеда, што стаяла па той бок таго пагорка, дзе я пасвіў коз, таму я і не ведаў яго добра. З бацькам маім ён аднае багамільскае веры, якой трымалася большасць жыхароў сяла. У той дзень, калі лацінцы знішчылі наша сяло, яго і трох яшчэ мужчын пакінулі ў жывых, каб слугавалі ім у абозе. «Мы здаліся ім самымі здаровымі з усіх, мабыць, таму і не забілі», — неяк вінавата ўсміхнуўся Нікола. Прыбыўшы ў Салун, прадалі іх партовому адкупшчыку ў грузчыкі. Той дае ім на ўтрыманне на дзень па хлебу і вэнджанай рыбіне, а ў дадатак на месяц па сярэбранай нумізме. Жыццё, вядома, сабачае, але праведнае, бо не даводзіцца распешчваць цела, гэтае спараджэнне д'ябла. Калі дагаджаць целу, дык гэта тое самае, што радаваць д'ябла і засмучаць свой дух. Гэтая гарбаценькая і кульгавая жанчына, што аціраецца тут, была раней распусніцай. Аднае раніцы п'яныя матросы скінулі яе з другога паверха публічнага дома, і ён прыбраў бядачку з вуліцы ледзь жывую. Ён і яго прыяцелі, што жывуць непадалёк у такіх самых халупках, доўгі час лячылі яе, яна ажыла, але назаўсёды засталася гарбатай і кульгавай. Занялася тым, што пачала хадзіць за горад, па блізкім і далейшым наваколлі, збіраць зёлкі і прадаваць іх за кавалак хлеба ці які грош. Але і яна не скардзіцца богу, бо і яна ўжо спазнала ісціну аб праведным і грахоўным жыцці.

— Што да цябе, — сцепануў плячамі Нікола, — да твайго паратунку, дык я тут ні пры чым. Цябе знайшоў

марак Танас, калі ўчора позна ўночы выйшаў з некалькімі сваімі таварышамі з карчмы. Ён цябе адразу пазнаў, таму што быў на іпадроме, калі ты засек таго звера Гіёма. Пазнаць-то пазнаў, але хацеў быў прайсці міма, бо якая яму справа да звадак паміж франкамі і рамейцамі. І збіраўся прайсці ўжо, як ты прастагнаў, мабыць, у непрытомнасці: «Мама, мамачка, дзе ты, памажы мне!» Тады Танас пляснуў сам сябе па лбе і ўсклікнуў: «Дык гэты малойца, аказваецца, наш, балгарын!» Яны паднялі цябе і пад поўнач на руках прынеслі сюды. Варвара, гарбаценькая, кажа: «Я гэтага хлопца выхаджу, толькі прынясіце мне свежую ягнячую аўчынку і кашолку цыбулі!» Танас тут жа распарадзіўся, і хутка Варвара абклала тваю садраную скуру цыбульнаю кашай з нейкімі яшчэ зёлкамі, што памагаюць ад ран. Танас і яго другары — бадзягі, людзі з усяго свету, у іх няма нічога святога, але як пазналі цябе, дык не зачапілі ні персценя твайго, ні брошкі і пергаменту, што за пазухаю ў цябе. Танас наказаў глядзець і берагчы цябе як роднага сына, сказаў, што ты разлічышся з намі за клопаты, гэтым ён пакрыўдзіў нас, і мы адказалі, што кожны чалавек, які пакутуе — наш брат, тым болей што гэты нашай, балгарскай крыві.

Дык вось як развіваліся падзеі пасля таго, як Пейра ўляпіў мне дваццаты раз.

Пакуль Нікола расказваў — у думках я адразу назваў яго «чыча Нікола»[1], як гэта прынята ў нашым краі, — некалькі разоў мне рабілася млосна, нягледзячы на асвяжальнае піццё «стрыны Варвары»[2]. У мяне ўсё плыло перад вачамі, я кляваў носам, нарэшце яны ўзялі мяне пад рукі і павялі ў камору — праўдзівей, вёў чыча Нікола, які сапраўды быў здаравяка; гарбаценькая жанчынка ледзь даставала мне да пояса. Завялі мяне ў камору і памаглі легчы на канапляную посцілку. Перад тым як заплюшчыць вочы, я паглядам сустрэўся з Варварыным; мне здалося, што яе пагляд аддаўся ў маім сэрцы, як пяшчотная і літасцівая матчына ласка.

Калі я прачнуўся, ужо вечарэла. Сіняваты прыцемак у каморы паступова саступаў месца вечароваму змроку.

---

[1] Чичо (*балг.*) — дзядзька (бацькаў брат); зваротак да старэйшага мужчыны.

[2] Стрина (*балг.*) — цётка (жонка бацькавага брата); старэйшая жанчына.

Праз адчыненыя дзверы ў камору цягнула дымам ад вогнішча, распаленага з сухіх водарасцей. Да паху дыму прымешваліся пахі стравы, у якой варыліся невядомыя мне карэньчыкі і зёлкі. Есці зусім не хацелася, а ад гэтага паху мяне згадзіла. Я ўстаў і выйшаў. Бай[1] Нікола сядзеў на лаўцы і аглядваў вочкі рыбацкай сеткі. Убачыўшы мяне, ён кіўнуў, каб я сеў побач, потым сказаў:

— Заўтра ранічкай выйду ў мора і, калі рагаты не перашкодзіць, злаўлю табе рыбкі. Самі мы ямо рыбу рэдка калі, бо і яна — спакуса для душы. Мы перабіваемся больш гароднінай, хлебам з цыбулькай, кусаем калі-ні-калі брынзы, а то і маслінкі ўжываем, бывае. Масліны, яны моц у жылы ўліваюць, а работа ў мяне цяжкая, патрэбна сіла. А табе я налаўлю рыбкі. Рыба, калі есці яе сыраватай, хутка падымае хворага на ногі. Варвара вельмі добрую юшку гатуе са скумбрыі і на камені можа насмажыць.

— Не клапаціся! — кажу я. — Дзякуй, але мне не хочацца есці нічога. Нічога не хачу.

— Як гэта не хочаш? Не хочаш хутчэй стаць на ногі?

— А навошта гэта мне? — паціснуў я плячамі.

Я глядзеў, як цемра ціха апускаецца на мора, ізумруднай стужкай акаймоўваючы гарызонт, што аддзяляе нябесны купал ад вады. Навошта мне выздараўліваць? Каб служыць якому-небудзь другому сеньёру альбо наняцца грузчыкам на прыстань? Каб потым зноў было каго біць палкамі? Няхай лепш раны мае не зажываюць, каб потым, калі паўстану перад богам, мог паказаць сваю садраную скуру і сказаць яму: «Дык гэта такая, божа, твая праўда?» І ў гэтае імгненне, калі ў мяне ў галаве прамільгнула гэтая думка, я скалануўся. «Вось, — падумаў я, — ты засумняваўся ў боскай праўдзе і тым самым саграшыў самым вялікім грэхам! Цяпер-то ты канчаткова асуджаны!»

— Чыча Нікола, — загаварыў я, — ты добры чалавек, і я вельмі табе ўдзячны за ласку. Але мне здаецца, што я і так заседзеўся ў тваёй хаце, таму я вырашыў заўтра табе і Варвары сказаць «бывайце». А за дабро, якім вы мяне ўшанавалі, я пакіну вам каштоўную брошку, якая ляжыць у мяне за пазухай. Гэта Аталава брошка, я выйграў яе чэсна, у турнірным паядынку.

— Ды што ты гаворыш? — непрыемна здзівіўся

[1] **Бай** — пачцівы зваротак да старэйшага мужчыны.

чыча Нікола. — Куды ты пойдзеш такі збіты? Дакуль ты дойдзеш, не маючы сілы?

— Не турбуйся, — кажу яму. — Як-небудзь здолею дабрысці да мора.

— Хіба там цябе хто чакае?

— А чаму мяне павінен нехта чакаць?

Добрасардэчны чыча Нікола глядзеў на мяне са здзіўленнем і нейк недаверліва, не могучы зразумець, што я гавару сур'ёзна. Варвара прынесла ў глыбокай місе поліўку, паставіла на сярэдзіну лаўкі, падала кожнаму па драўлянай лыжцы і запрасіла есці. Бай Нікола ўстаў і, як некалі рабіў мой бацька, сказаў тры разы «Ойча наш». Варвара, якая не ведала балгарскай мовы, шаптала словы малітвы на сваёй мове.

Каб не пакрыўдзіць добрых людзей, я ўзяў лыжку і сербануў некалькі разоў поліўкі, якая здалася мне гаркавата-кіслай і страшэнна пякучай ад перцу. Яна была прыгатавана са стручкоў горкага перцу, крапівы і немаведама якіх яшчэ карэньчыкаў і траў. Я прымусіў сябе з'есці некалькі лыжак, выцер спацелы лоб і падзякаваў.

— Дык гэта і ўся твая яда? — у здзіўленні паглядзеў на мяне чыча Нікола.

Я моўчкі кіўнуў галавой.

— Але ж і ядун — дзіця не пад'ела б, а ты ростам большы за цмока! Ці ж гэта можна?

Яго добразычлівыя папрокі пачалі мяне даймаць, але я маўчаў. Сядзеў, утаропіўшыся на мора, якое ўжо знікала ў непрагляднай цемры.

«Толькі б застацца заўтра аднаму, толькі б пражыць ноч!» — наважыўся я на нешта ў думках. Што я збіраўся зрабіць назаўтра, я і сам не мог сказаць, але ж, пэўна, нейкі намер у мяне быў. Нейкая перасыць ад усяго гэтак раз'ядала мяне з сярэдзіны, што мне хацелася зараз жа кінуцца бегма да мора, зайсці ў ваду, ісці, ісці, пакуль не апынуся гэтак глыбока, каб да мяне не даходзіла ніякае святло, ніякая думка і ніякае чалавечае слова. Навошта мне было святло? Каб глядзець на свет, поўны няпраўды? Навошта мне думкі? Каб сумнявацца ў праўдзе боскай? А слова чалавечае? Каб слухаць здзеклівыя жарты Інэсы, павучанні Людовіка і прэтэнзіі Пейры? Лепей ніколі каб не дасягала маіх вушэй гэткае слова!

— Нешта з табой нядобрае творыцца, хлопча! —

уздыхнуў бай Нікола. — Калі ты шкадуеш, што цябе прагналі з замка, дык ведай, што гэтае шкадаванне ад д'ябла, не паддавайся яму!

— Мне не шкада нічога! — адказаў я.

І на самай справе, я не вярнуўся б у замак, нават калі б сам Людовік прасіў і даваў другі залаты персцень. Але каб мне было зусім нічога не шкада, дык гэта няпраўда, я тут пакрывіў душой. Мне шкада было і светлага пакоя, з якога віднелася мора, і мяккай пасцелі, засланай белымі прасцірадламі, дый Інэсы, якая калі-нікалі заляцалася і спальвала мяне сваім дыханнем; я шкадаваў кніжку з трубадурскімі песнямі, з якіх некаторыя ўжо развучыў і спяваў, і гітару, на якой акампанаваў сабе. Усяго гэтага мне было шкада. Але самы вялікі жаль я адчуваў па зброі, па сваім мячы, з якім расставаўся толькі нанач і калі пакідаў горад. Мне яшчэ не было прысвоена званне «кавалер», і таму я не меў права ўзброеным выходзіць з замка. Як мне было цяжка без вернага і надзейнага мяча! Калі мне было наканавана сысці ў глыбіні мора, каб схавацца ад святла, ад слоў, ад пахіснутай веры ў справядлівасць і боскую міласць, я хацеў бы абавязкова падперазацца ім, каб ён і ў цемры быў мне другарам.

— Хлопча, ты пасядзі тут альбо ідзі прыляж, — прамовіў бай Нікола і рашуча падняўся, як чалавек, якога азарыла раптам вялікая думка. — А я схаджу і прывяду самага вялікага праведніка ў гэтым горадзе. Ён балгарын, і з ім ты можаш падзяліцца скрухай сваёй, бо, бачу я, цябе нешта круціць і грызе душу тваю!

Сказаў ён гэта і падаўся некуды ў цемру. Перад цяпельцам, якое ўжо датлявала, сядзела гарбаценькая, нерухомая і нямая. Над светам панавала цішыня. Толькі мора штосьці нашэптвала. Напэўна, яно, размаўляла з рыбамі; і з тапельцамі, якіх яно прыняло ў сваё ўлонне і назаўсёды супакоіла ў сваім шырокім і бяздонным царстве.

Лета 1258-е, канец месяца IX, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

...Адзінае, што свяціла мне ў той начны час, было святло зорак на небе. Але святло гэта было зусім слабое, каб разгледзець чалавека, які падышоў да мяне. Ён

быў падобны на цень, як, мабыць, у ягоных вачах і я выглядаў ценем.

Я пачуў, як бай Нікола прамовіў у мяне за спіною:

— Гэта ён, той чалавек, Вучыцелю!

Я ўстаў, але Вучыцель паклаў мне руку на плячо — рука ягоная была лёгкая, як птушка, — і ціхім, але мяккім і ласкавым голасам сказаў:

— Сядзі, дзіцятка. Я не варты таго, нічым не заслужыў, каб ты стаяў перада мною.

Я адчуў, што перада мной стаіць чалавек кволы целам, на галаву ніжэйшы за мяне ростам, але з такой унутранай сілай, што сам сабе я здаваўся малым, кволым у параўнанні з ім і бездапаможным, як дзіця.

Гэты чалавек нейкі час памаўчаў, потым, счакаўшы, пакуль я ўсядуся, скрыжаваў рукі і пакорліва схіліў галаву.

— Благаславіце і злітуйцеся над намі! Амін, — малітоўна прашаптаў ён. Памаўчаў яшчэ крыху і лагодным ціхім голасам працягваў: — Хай будзе па слову твайму. Хай Айцец, Сын і дух Святы даруе ўсе вашы грахі. Памолімся Айцу, Сыну і Святому духу. Тройчы!

І ён тройчы апускаўся на калені і ўставаў, потым сказаў малітву «Ойча наш», але мне здалося, што не зусім так, як ведаў яе я:

— «Ойча наш, які на небе, хай свяціцца імя тваё, хай прыйдзе царства тваё і будзе воля твая як на небе, так і на зямлі. Хлеб наш надзённы дай нам сёння. І пакінь нашы даўгі, як мы пакідаем даўжнікам нашым. І не ўводзь нас у спакусы, але збаў нас ад зла. Таму бо, што царства тваё, і сіла, і слава навечна. Амін».

Пасля гэтага памаўчаў і працягваў:

— Ласка боская нашага госпада Ісуса Хрыста няхай будзе ва ўсіх нас! Благаславіце нас і злітуйцеся! Айцец, Сын і Святы дух няхай даруюць усе вашы грахі!

Ён зноў тры разы пакланіўся і разагнуўся і толькі тады падсеў да мяне. І я зніякавеў, таму што было такое пачуццё, што сеў да мяне чалавек не звычайны, а хутчэй нейкі дух у чалавечым абліччы. Было цёмна, і толькі далёкае, слабое святло зорак сеялася на нас.

— Я ведаю, хто ты, дзіця, — загаварыў лагодна Вучыцель, і яго ласкавы ціхі голас адразу нагадаў мне раскацістыя, пявучыя хвалі, якія прыходзілі з мора і ласкава абмывалі прыбярэжны пясок. — Я ведаю і прычыну, якая прывяла цябе сюды, — працягваў ён. — А я,

няварты, завуся Іосіфам, і твой супляменнік — з Балгарыі я. Я балгарын і добры хрысціянін, як добрымі хрысціянамі былі тваё бацька і маці і большасць жыхароў твайго колішняга сяла. Я твой прыяцель і брат. Скажы мне, што вярэдзіць душу тваю, дзіця, і я падам табе руку, каб ты мог выйсці на святло.

Слухаючы яго, я думаў пра сваё сяло і як там жылі людзі — адны трымаліся царквы, з пашанай ставіліся да папоў, да баярына і ягоных прыбліжаных, а другія, сярод іх мае бацька і маці, называлі сябе «багаміламі» і «добрымі хрысціянамі», ненавідзелі царкву, а папоў і баярскіх людзей называлі «слугамі д'ябла». Сярод нашых багамілаў быў першы чалавек, якога мае бацька і маці і ўсе лічылі «чыстым», «дасканалым», слухаліся яго і называлі «Вучыцель». І вось бай Нікола прывёў да мяне такога «чыстага». Нядаўна бачыў, як пяцярых такіх «чыстых» палілі жыўцом па волі Людовіка і яго епіскапа. Калі я глядзеў, як яны гараць, у маёй крыві, напэўна, загаварылі мае бацька і маці і ўсе аднасельцы, з якімі яны сустракаліся і дружылі, багамілы, якім, напэўна, стаў бы і я, калі б мяне не ўзялі ў палон лацінцы. Полымя, у якім гарэлі людзі, напомніла мне ўсё гэта, і тады ўзгарэўся ў маёй душы той шал на Інэсу і рыцара Гіёма. Я нарадзіўся багамілам, багамільства перайшло ў маю душу па спадчыне. Хоць не ведаў законаў веры, а калі надышла пара засвойваць іх, мае выкрадальнікі, лацінцы, пачалі ўбіваць мне ў галаву законы сваёй веры. Хоць догмы іхнія, цяпер я магу сказаць гэта адкрыта, ніколі не былі мне па сэрцы і ніколі не былі зразумелыя.

Выцерабіўшыся з думак сваіх, як калісьці працярэбліваўся праз кусты, шукаючы коз, я сказаў:

— Я на раздарожжы, Вучыцелю, гэта і гняце мяне. Я ведаю, што бог справядлівы і літасцівы, а па жыцці сваім адчуваю, скураю сваёй зведаў, што да мяне ён несправядлівы і жорсткі. І думаю: чым заслужыў я недавер ягоны? Чым выклікаў ягоны гнеў? Я паўтараю і паўтараю дзесяць запаведзяў, якія бог даў людзям праз Майсея, і не бачу, каб хоць адну з іх не выконваў або парушаў. І таму я пытаюся ў сябе, дзе ж ісціна: калі бог справядлівы, чаму карае мяне без прычыны? Калі ён літасцівы, чаму аддаў мяне на бесчалавечнае катаванне?.. Перабіраю ў думках жыццё маіх бацькі і маці, супастаўляю іх учынкі з божымі запаведзямі і бачу, што

ні бацька, ні маці не парушалі іх. Бацька мой саступаў дарогу кузурцы, кепскага слова ад яго ніхто не чуў, ён мяса адмаўляўся есці. Жыў як святы. І маці была такая ж, у яе быў толькі адзін грэх: падманвала яго! Падманвала, калі цішком давала мне ці то акраец белага хлеба, ці то кавалак мяса, а бацька строга забараняў мне гэта есці. Значыць, мая маці парушала адну з божых запаведзяў, тую, што не дазваляе людзям хлусіць. Яна хлусіла мужу свайму. Але ж яна рабіла гэта не дзеля сябе самой, а дзеля мяне, ад літасці. Дык ці вялікая гэта хлусня? Калі я сваім чалавечым сэрцам разумею яе, дык няўжо бог, сэрца якога — сама літасць, не можа гэтага зразумець? А калі так, калі мае бацька і маці жылі праведна, у адпаведнасці з божымі запаведзямі, якія бог даў людзям праз Майсея, чаму бог дапусціў, каб яны загінулі пад нажамі лацінцаў?

— Твае сумненні ў божай літасці і ў божай справядлівасці маюць падставы, дзіця! — сказаў Вучыцель з такой упэўненасцю, што мяне ажно скаланула. — У цябе ёсць падставы сумнявацца ў богу, але толькі пры адной умове.

— Якая гэта ўмова? — спытаўся я, нібы той бядак, што падае з стромы і з апошніх сіл стараецца ўхапіцца за якую-небудзь галіну.

— Я табе скажу, дзіцятка, каб супакоіўся твой розум і ўціхамірылася сэрца. Скажу. Але спачатку памолімся.

Ён тры разы пакланіўся, як той раз, сказаў малітву «Ойча наш», зноў паўтарыў паклоны. Потым сеў на лаўку і, нейкі час памаўчаўшы, загаварыў:

— Твае сумненні, дзіця, у божай праўдзе і ў божай літасці маюць падставы, але толькі пры адной умове — калі яны датычаць бога **несапраўднага,** бога фальшывага, бога Зла. Ён не мае нічога агульнага з **сапраўдным,** справядлівым і ўсялітасцівым богам Дабра. Таго бога, якога датычаць сумненні твае, выдумаў д'ябал, і гэтую зламысную выдумку ўбіў людзям у галаву Майсей, першы слуга д'яблаў. Дзесяць запаведзяў — гэта справа не праўдзівага бога, а пякельная справа д'ябла.

— Чаму ж д'яблава справа, што ў іх кепскага?

— Гэта воўчыя ямы для людзей, дзіця, і я табе растлумачу — чаму. Таму што ўвесь бачны свет і ўсе бачныя прадметы, у тым ліку чалавечае цела, — спа-

раджэнне д'ябла. Спараджэнне д'ябла і ўвесь парадак на свеце — царкоўны, баярскі і царскі. Як жа, напрыклад, чалавек не будзе пралюбадзейнічаць, калі д'ябал уклаў у чалавечае цела нястрымныя плоцевыя страсці? Як яму не быць абжорам, калі д'ябал зрабіў яго страўнік ненаедным для смачных страў і віна? Як яму не красці, не ашукваць, не хлусіць, а то і не забіваць, калі парадак на свеце трымаецца на хлусні, здрадзе і гвалце? З беднага селяніна царква здзірае па дзесяць скур на царкоўныя падаткі і павіннасці. З таго ж селяніна або гарадскога бедняка баяры і цар здзіраюць яшчэ па дзесяць скур на баярскія і царскія падаткі і павіннасці. Каб не памерці з голаду, бедныя людзі, нічога не маючы, вымушаны, дзе толькі могуць, красці і ашукваць. Каб прывучыць народ да пакорлівасці, царква ўводзіць яго ў зман, што беднасць, як і багацце, дадзены богам, гэта значыць, убіваюць у галовы запаведзі, якія калісьці сказаў д'ябал вуснамі Майсея. Царква ашуквае народ, што цар ад бога, а тых, хто дазваляе сабе ўсумніцца ў гэтай хлусні, цар карае смерцю або гноіць у турме. Вось так самім ладам жыцця д'ябал падштурхоўвае людзей не выконваць гэтых нібыта «божых» запаведзяў, якія выдумаў сам. Д'ябальская плоць чалавека вядзе яго да грэхападзення, а д'ябальскі лад жыцця прымушае бедных грашыць з-за нявол, у якой яны знаходзяцца, а багатых — епіскапаў, баяраў і цароў — грашыць з-за прагнасці і распусты, якой яны аддаюцца. Гэтак у рэшце рэшт, ведучы няправеднае жыццё, у грахах, душы людскія беззваротна трапляюць пад уладу д'ябла. Вось чаму Майсееў бог, у якога вераць многія людзі, — гэта выдумка д'ябла, падман. Ён не мае нічога агульнага з сапраўдным богам. З богам Дабра, з богам-Ісусам. Майсеевы запаведзі, а папраўдзе, д'яблавы выдумкі, выпісаны ў Старым запавеце. У Старым запавеце бог, якога выдумаў д'ябал, усхваляе багацце і жыццёвы парадак, усталяваны багатымі, ён карае смерцю кожнага, хто ўсумніцца ў тым парадку і паўстане супраць яго. Ён несправядлівы і да народаў; адзін народ, як егіпцян, ён вынішчае, а другім народам, як ізраільцяне, напрыклад, ён апякуецца. А на гэтым свеце няма добрых і кепскіх народаў. Бог Старога запавету жорсткі да бедных і гаротных. Ён хваліць лайдака, які ў суботні дзень бадзяецца без занятку, а гаротніцу, якая збірае галлё, каб раскласці цяпельца і абагрэць дзетак, загадвае біць ка-

меннем. Ён каварны і прагны да крыві: падстройвае варожасць між народамі, падбухторвае, каб адны народы мячом і агнём знішчалі другія народы. А здабытае на вайне, бач, не аддае бедным, аддае багатым, каб павялічыць іх багацце. Ён робіць так, каб былі на свеце ўдовы, сіроты і галодныя дзеткі. Вось такі бог Старога запавету — бог, якога выдумаў д'ябал і сцвярджалі прарокі, што былі таксама людзьмі, навучанымі д'яблам ашуканству і хітрасцям.

Па сутнасці, гэты бог ёсць сам д'ябал. Усё ягонае — тленнае, усё бачнае, усе пякельныя жаданні плоці, увесь жыццёвы лад на зямлі — гэта Зло, грэх.

І ты, і многія іншыя людзі прымаеце і бога Дабра, і бога Зла за аднаго, і таму здзіўляецеся, таму не можаце знайсці адказу, чаму бог Дабра нібыта несправядлівы, жорсткі і творыць розныя каверзы. А ісціна вось у чым:

Ад пачатку часоў быў адзіны бог — тварэц Духа — і анёл, які аддзяліўся ад яго, — тварэц усяго бачнага, д'ябал. Тварэц бачнага свету і парадку ў свеце, таксама плоці чалавечай — д'ябал. А змешчаны ў чалавечым целе Дух ёсць справа Добрага бога.

Парадкі, якія пануюць у свеце, і чалавечая плоць прымушаюць Дух чалавечы грашыць. Каб збавіць яго ад граху, бог пасылае на зямлю Слова сваё — Ісуса. Ісус, які ёсць Слова божае, сыходзіць на зямлю, прымае чалавечае аблічча і вучыць людзей жыць па законах Духа. Тыя з людзей, якія будуць жыць па законах Духа, законах, якія найпраўдзіва выкладзены ў Іаанавым евангеллі, праведныя. Душы самых праведных, пасля таго, як памрэ іх цела, адразу прыйдуць да бога, а іншыя праведныя, якія таксама жылі па законах Духа, але саграшылі ў нейкіх дробязях, павінны будуць чакаць дня Апакаліпсіса, калі бог прыме іх да сябе. Гэта адбудзецца ў дзень Страшнага суда. Грэшнікі, тыя, што жылі па зямных законах д'ябла і шанавалі або абаранялі яго парадкі: царкву, баяр, цароў; або вельмі дагаджалі жаданням плоці, дасыта і перасытна елі, пілі, шыкоўна апраналіся і дагаджалі д'яблу — у дзень Страшнага суда Слова-Ісус пашле іх на вечныя пакуты. Туды адправіць бог праз слова сваё — Ісуса — і самога д'ябла. І тады над светам узыдзе, як кажа евангеліст Іаан, Святло Дабра. І гэтае святло запануе навек...

Усё, што адбывалася ў тваім жыцці, дзіця, было

справай д'яблавай. А ты, не ведаючы, як адрозніць бога Дабра, бога нябачнага Духа, ад бога Зла і ўсяго бачнага, усё зло, якое было ў тваім жыцці, прыпісваў богу Духа. Вось дзе твая памылка. Ад гэтай памылкі бяруць пачатак усе твае сумненні і душэўныя пакуты. Я табе прынёс Святло. Адкрыў тваю душу для яго тварца — Слова-Ісуса. З гэтага часу і надалей толькі ад цябе залежыць, па чыіх законах ты будзеш жыць — па законах Духа, выказаных Ісусам, або па законам бачнага свету, створаных Злом. Калі будзеш жыць па законах Духа, дар божы нашага Госпада Ісуса Хрыста ад гэтага часу застанецца давеку з табой.

Ён устаў:

— Благаслáвіце і злітуйцеся над намі! Амін.

## 15

Юля пайшла наведацца дадому. Я пажадаў ёй прыемнай прагулянкі, а каб навярстаць гадзіны, поўныя дабрачыннасці, якія яна правяла пры мне, параіў закруціць на хуткую руку любоў. Яна прыкінулася, што не пачула гэтага. Я ж зусім упэўнены, што чула і што ўнутрана не засталася абыякавай да маёй парады. У рэшце рэшт яна была львіца, самка; і было б не ў парадку рэчаў, калі б дзеля хворага льва, як я, яна асуджала сябе на пост. Завязваючы на галаву касынку, яна вельмі павучальна напомніла мне, каб паводзіў сябе добра, каб быў разумнікам і не забываўся глытаць лякарствы, якія яна для маёй зручнасці склала ў сподачак.

Ах, дзякуй, вялікі дзякуй! Лёгка львіцы, якая сабралася шукаць прыгоды ў грахоўным бачным свеце (паводле тэрміналогіі багамілаў), раіць льву, які стаў бездапаможны, каб паводзіў сябе ціха і мірна.

— Калі надарыцца выпадак, каб ты магла сябе пацешыць, то не думай вяртацца! — наказаў я. — Выкарыстоўвай ноч як трэба, па ўсіх правілах гульні.

На момант, калі яна папраўляла бант на сваёй аранжавай блузцы, твар яе скамянеў. Не адводзячы вачэй ад люстэрка, яна спыталася:

— Такія карысныя парады ці даў бы ты сваёй жонцы, калі б яна была тут?

І хоць убор яе застаўся недавершаны, яна паспяшалася ўсміхнуцца, нібыта нічога такога мы не гаварылі, і выскачыла за дзверы.

Я сам прымусіў яе павярнуць мае думкі да Аны. Ці даў бы я падобныя «парады» жонцы? З вялікім спазненнем падколваеш мяне, міленькая! Ды яшчэ ўчора вечарам я зрабіў гэтую карысную справу. Параіў жонцы пацалаваць свайго любоўніка, а не дурыць мне галаву! Я хворы чалавек.

А ты, нашчадніца Фрыны[1], не строй мне фасонаў! Я цябе не зваў і не прасіў, каб даглядала мяне. Ды, калі папытацца, якога д'ябла ты прыцягнулася сюды? Бо вось я прывык ужо бачыць цябе, чуць, звыкся, што мне добра з табой. А цяпер, калі пакідаеш мяне, мне робіцца няўтульна, я адчуваю вакол сябе пустату і прыслухоўваюся — ці не чуваць тваіх крокаў?

Усё гэта ад таго, што я хворы. Хворы чалавек адчувае патрэбу, каб хто-небудзь хадзіў каля яго. І калі ўжо нехта пабудзе з ім, ён прывыкае да гэтай асобы, яму робіцца крыўдна і горка, калі яна пакідае яго і паказвае спіну. (У гэтым выпадку — дзявочы Юлін задок.) Але пра крыўду не можа быць ніякай гаворкі. Хоць Юля і шыкоўная львіца, яна ўсё-такі львіца і ёсць, а я на такіх крыўды не нашу. Але ў такім разе, калі папытацца, адкуль у мяне ўзнікае гэтае адчуванне няўтульнасці без яе? Эх, ды вельмі проста! Прывык за гэтыя дні, каб яна круцілася каля мяне. Нездарма кажуць, што прывычка — другая натура...

Ана ж няхай ідзе да д'ябла!

Вядома, ніводнаму мужчыну, калі ён сапраўдны мужчына, не ўсё роўна, калі яго жонка ідзе да д'ябла. У такім выпадку сапраўдныя мужчыны абавязкова задумаюцца над многімі рэчамі. Як у яе там атрымалася з д'яблам — гэта сапраўднаму мужчыну будзе ясна, але чаму? — вось пытанне, над якім ён будзе ламаць галаву.

Не скажу, што нашае з Анай жыццё было перагрэта ад высокіх тэмператур. Было б нават смешна гаварыць пра нейкі там перагрэў. Большая частка энергіі ішла ў мяне на маніпуляцыі са скальпелямі і на калупанне ў мазгах, а на сямейныя адносіны (за выключэннем самых інтымных) я выдзяляў толькі «кішэнныя грошы». На

[1] **Ф р ы н а** — гетэра часоў Старажытнай Грэцыі, якая паслужыла мадэллю для статуі Афрадыты; вяла разгульнае жыццё, што даравалася ёй за незвычайную прыгажосць. У пераносным сэнсе — небяспечная прыгажуня.

Аніны інтарэсы і заняткі я звяртаў увагу en passant[1], але, чэснае слова, — не таму, што Ана была мне абыякавая, проста мяне паглыналі свае заняткі — я тады вучыўся віртуозна хадзіць з брытвай каля валаска жыцця.

Няма падстаў бажыцца, што на мае «кішэнныя» Ана кідала «залатыя». Праўда, у першыя год-два, калі на яе находзіла пяшчотнасць, здаралася, выкіне якога-небудзь «залатога напалеона». Потым пачала выдаткоўваць пераважна «срэбранікі». На тры чвэрці яе ўвага была занята селекцыянерствам і рознымі сартамі пшаніцы. І ўсё ж, калі быць шчырым, яна была шчадрэйшая за мяне. Калі ж паехала ў Талбухін, «сярэбраныя» пачала разбаўляць «разменнай манетай». У разменных была невялікая вартасць, але я радаваўся і гэтаму — усё-такі грошы. А з таго часу, як на гарызонце паявіўся «гэты», я вельмі пэўна адчуў, што яна падкідвае мне дробную медзь. Напрыклад, не далей як учора яна падкінула па тэлефоне медную стацінку, нічому не вартую стацінку, пераконваючы мяне, што ў яе эксперыменце з пшаніцай цяпер такая адказная фаза, што, ці бачыш, яна не мае ніякай магчымасці прыехаць, але каб я трымаўся, бог добры, праз дзень ці колькі яна абавязкова прыедзе.

Я не ведаю, што за каханне было ў мяне да Аны, іх жа столькі відаў! Але я кахаў яе. Не ведаю таксама, якая ў яе была любоў да мяне, але ж неяк любіла. І вось у нашы інтымныя адносіны ўвайшлі ў зваротак «кішэнныя грошы», «разменная манета» і нарэшце — «дробная медзь». Хто з нас вінаваты, як здарылася такое?

Ды якое гэта мае значэнне! Значэнне мае толькі тое, што ў караблі з'явіліся прабоіны, у яго пранікла вада, і ён хутка пойдзе на дно, як кажуць маракі. (Я таксама неабыякавы да марской тэрміналогіі, таму што мой дзед з Арбанаса за сваё жыццё збаразніў не адно мора.)

Карабель пойдзе-такі на дно. Нават пачаў ужо свой шлях да пагібелі. Нейкі змрочны боль вярэдзіць маю душу, і па гэтым я мяркую, што карабель тоне. Рэўматыкі, калі ў іх пачынае ламаць суставы і косці, з упэўненасцю ведаюць, што надыходзіць дрэннае надвор'е. Дрэннае надвор'е, каб яго чорт, урываецца і ў маё жыццё.

---

[1] En passant (*фр.*) — мімаходзь.

Я ведаю аднаго знакамітага філосафа. Як устану, наведаюся да яго і спытаюся, хто падкідвае ў жыццё чалавеку дрэннае надвор'е; і чаму?

Пабачым жа, што адкажа мне гэты знакаміты філосаф!

Пэўна ж, знайсці адказ яму будзе не лёгка.

Я абудзіўся ад дрымоты недзе гадзіны ў дзве і першае, што адчуў, — гэта адсутнасць Юлі. Нішто сабе! Падумалася, што раблюся чуллівы, як мой пабрацім і аднайменнік з рукапісу Лукан. Нездарма Юля ягонай чуллівасцю калола мне ў вочы!

На абед мне Юля пакінула каля сподка з таблеткамі вазачку з малочным крэмам. Пры іншых абставінах я гэтаму толькі парадаваўся б, але на гэты раз — ці то што Юля зматала вуды і недзе круціць хвастом? — я паглядзеў на крэм насуплена, і ў галаве ў мяне праскочыла злосная думка. «Зараз як зашпурну я гэты крэм! — падумалася. — Як у той вечар выкінуў у вядро са смеццем Аніна «сапраўднае» кураня». Схапіў вазу з крэмам і тады пачаў раздумваць, куды яго выкінуць. Аніна кураня паляцела ў вядро, аднак з крэмам гэта не выйдзе — Юля заўважыць. Якая жанчына не зазірне ў смеццевае вядро! «У туалет!» — вырашыў я, але адразу мяне ўкалоў востры дакор сумлення. Мне стала няёмка, што мог нават падумаць так. Ана прывезла сваё «сапраўднае» кураня, каб замазаць мне вочы, прадэманстраваць: «Бач, як я пра цябе клапачуся!» І яе крывадушнаму падарунку быў толькі адзін шлях — у вядро са смеццем. Але як можна крэм, які Юля прыгатавала з сапраўдным клопатам і ад душы, выкінуць і не абыкуды, а ў туалет, і тузануць за ручку... Гэта было падобна на святатацтва, і я ў думках сказануў у свой адрас некалькі нецэнзурных слоў.

Пакінуў крэм у спакоі, а таблеткі добрасумленна праглынуў, таму што хацелася ўжо як мага хутчэй выздаравець, абрыдла хварэць, засумаваў я па скальпелях, па аперацыйным стале, па сваёй белай шапачцы, што ўсяляе ў слабадушных страх і пашану, і па стэрыльным белым халаце, які кожнае раніцы спрытна зашпільвалі на маёйваловай шыі далікатныя сястрынскія ручкі. Засумаваў, адным словам, па рабоце, ужо шэсць дзён я жыў у забыцці, нібы па-за светам.

Але больш за ўсё мне не ставала ўсмешак людзей,

7. Зак. 446.

якія пайшлі на папраўку, таго святла ўваскрэсення, якое пранікла мне ў душу і ўздзейнічала так, што там усё неяк перайначвалася. Усмешка ачунялых, вырата-ваных ад смерці... Мне здаецца, што ніводзін мастак, няхай сабе геніяльны, не здолеў бы перанесці яе на па-латно. У гэтай усмешцы заключаны пачуцці, якія можа зведаць толькі той, хто выйшаў з магілы, што раскры-лася цудам. Я быў факірам, які выцягваў на белы свет асуджаных, і першыя ўсмешкі, калі яны ачомваліся, былі адрасаваны мне. Гэтыя ўсмешкі былі маім багац-цем, маёю славай. І я быў горды ёю і зусім не лічыў сябе нікчэмным індыком.

Ад усяго гэтага я быў цяпер аддзелены, нібы сцяною. Я стаяў перад сцяной, глядзеў на свае пальцы, сціскаў і разводзіў іх і думаў, ці здольны яшчэ яны трымаць скальпель і вадзіць яго каля валаска жыцця, не па-шкодзіўшы яму.

Праз адчыненыя вокны павейваў цёплы і вільготны ветрык. Я раптам падумаў пра квецень язміну і бэзу і здзівіўся — я не ўчуў іх саладкаватага і сентыменталь-нага водару. «Адцвілі ўжо! — здагадаўся я. — Ну і дзя-куй богу!»

Не ведаю, чаму вырвалася гэтае «дзякуй богу». Ад таго, што язмін і бэз адцвілі, я нічога не выйграваў. По-тым неспадзявана прыйшла здагадка: «Ага! — паду-маў я. — Цяпер не будуць ні ў плот ні ў азярод на-гадваць мне тую слязлівую песню пра «белы бэз». Цяпер я магу спяваць «Ой, ткала Донка фартушок».

Ой, ткала Донка фартушок,
Ой, Доню, Доню, гэй...

## 16

У гэтую хвіліну душэўнага прасвятлення хтосьці знадворку пазваніў. Званок быў не надта каб рашучы, мне здалося нават, што нейкі нясмелы. «Пайшлі вы к чорту!» — падумаў я. У Аны ёсць ключ ад уваходных дзвярэй. І Юлі я даў ключ. Калі б была каторая з іх, увайшла б не званячы.

Нарэшце чую, хтосьці зайшоў, — Юля, мабыць, забы-лася замкнуць. Крокі, ні моцныя, ні слабыя, прагучалі ў холе, і ў дзверы да мяне пастукаліся зноў гэтак — ні моц-на, ні слаба. Наведаць мяне прыйшоў мой шэф прафе-

сар Маркаў. Каб ён спрах! Аказваецца, яму пазваніў галоўурач урадавай бальніцы, што званіў вельмі адказны другàр і цікавіўся, што са мною здарылася — сардэчны прыступ ці інфаркт? Адказнаму таварышу казалі — нібыта інфаркт.

— Глупства! — кажу я.

— Ніякае не глупства, — паківаў галавою госць.

Аналіз крыві паказваў, што я перанёс лёгкі інфаркт.

— Добра яшчэ, што інфаркт быў лёгкі, ваша шчасце! — Ён добразычліва пахітаў галавой, нібы задаволены лёгкай формай майго інфаркту. — Але чаму вы адмовіліся легчы ў бальніцу? Як можна? Чалавек з вашай медыцынскай культурай!..

І крывадушнік ледзь не заламаў рукі. Але ж і прыстасаванец, якіх свет не бачыў!

— Не назаляйце мне! — кажу яму. — Ці то быў прыступ, ці інфаркт — гэта мой клопат. Вы лепш паклапаціцеся, каб нехта часова прыняў на сябе мае абавязкі! На тое вас прызначылі галоўурачом.

— О, мы знойдзем, хто заменіць вас, не турбуйцеся!

— Вы знойдзеце, хто з а м е н і ц ь мяне, калі ўбачыце свае вушы без люстэрка!

— Ну, такія славутыя, як вы, сустракаюцца не часта. Аднак здольныя людзі не перавяліся.

— Каго вы маеце на ўвазе, напрыклад?

— Маю на ўвазе дацэнта доктара Манева, скажам.

— Ха! — засмяяўся я. Той самы, што прапаноўваў мне сваю жонку на паслугі, каб яна зрэдку наведвалася ў мой халасцяцкі дом наводзіць парадак у гаспадарцы — толькі каб я ўзяў яго асістэнтам, калі паеду за мяжу. Паганец сам падкладваў сваю пухнаценькую жоначку мне ў ложак. — Ха! — засмяяўся я зноўку.

— Але вы самі хвалілі яго перада мной! Бралі яго з сабой за мяжу. А цяпер смеяцеся. Як вас разумець?

— У мяне да вас просьба! — кажу на гэта.

— Я слухаю вас, калі ласка! — Ноткі ліслівасці і добразычлівасць у голасе ягоным ужо зніклі. Ён узяў сябе ў рукі. Усё-такі ён таксама быў прафесар і чалавек, якога падтрымліваюць не адзін і не два адказныя таварышы. — Якая просьба? — паўтарыў ён, і твар у яго выцягнуўся.

— Перадайце дацэнту доктару Маневу, што я згодзен, каб ён калі-небудзь прыслаў мне сваю жонку. Няхай бы навяла парадак у маёй халасцяцкай кватэры!

Ён сам раней прапаноўваў. Чалавек паслужлівы, разумее маё становішча. А жонка ягоная нічога сабе, магла б пагаспадарыць...

— Калега Шайтанаў! — загаварыў з выцягнутым тварам нягоднік, скрывіўшы тонкія вусны, нібы іх звяла сутарга. — Гэта ваша жаданне самі паведаміце дацэнту доктару Маневу. Ён быў вашым супрацоўнікам, вы з ім блізкія людзі.

— Значыць, не жадаеце? Глядзіце самі! — сказаў я.

— А наколькі мне вядома, вас ёсць каму даглядаць! — падкінуў паганец з'едліва. — Ёсць чалавек, які дапамагае вам.

— Ну і дзякуй богу, — сказаў я, адчуваючы, што сцінаюся, нібы перад драпежнай жывёлінай.

— Я толькі дзіўлюся, калега, як вы маглі наладзіць адносіны з тым чалавекам. Дакладней, як ён мог вам даравацъ.

— Вы, напэўна, маеце на ўвазе медыцынскую сястру Юлю Стаянаву?

Ён кіўнуў моўчкі і важна.

— І вы здзіўляецеся, што ў яе няма злой памяці? Здзіўляйцеся сабе! — І як быў унутрана зацяты, кажу яму: — Яна ў адпачынку і можа распараджацца сваім часам, як ёй падабаецца.

— О, вядома, вядома! — Ён паглядзеў на мяне знішчальным позіркам. У шчыліне паміж яго мярцвяцкімі вуснамі як бы паказалася змяя. — Але медыцынская сястра Юлія Стаянава зусім не ў адпачынку, калега. Яна пакінула бальніцу па сваім жаданні і цяпер на вольнай практыцы. А кожны, хто знаходзіцца на вольнай практыцы, можа распараджацца сваім часам, як пажадае. Вы, безумоўна, маеце рацыю!

Ах, нягоднік!.. Ах, дурніца!..

— Я не ведаў, што яна пакінула бальніцу, — прамовіў я. — Меркаваў, што яна ў адпачынку.

— Яна падала заяву на другі ж дзень, як вы захварэлі!

— Цікава! — пацiснуў я плячамі. — А чаму?

— Яна хацела скарыстаць свой чарговы адпачынак, але я не дазволіў, не было кім замяніць. І яна ўзлавалася і падала заяву. Але не хвалюйцеся, калега! Медсёстры на вольнай практыцы не сядзяць без работы, зарабляюць.

Я памаўчаў, потым кажу:

— Вам не здаецца, што мяне стамілі размовы?

— Сапраўды, вам шкодна многа размаўляць! Я зайшоў на хвіліну-дзве як прыяцель і калега проста пабачыць вас. Можа, у чым маеце патрэбу?

— Ідзіце з богам! — сказаў я. — І вярніце на работу дзяўчыну!

— Ад душы жадаю вам хутчэй паправіцца, калега. Жыццё нясе страты, калі вас няма ў аперацыйнай. А сястру Юлію вярнуць на работу не магу. Яна пакінула бальніцу самавольна, у самы непрыдатны час. Акрамя таго, як вы добра ведаеце, у пакаранне яна часова пераведзена ў санітаркі. Пакуль што вакантнага месца санітаркі няма. Вельмі шкадую, калега!

Ён выходзіў пераможцам, нягоднік!

— Вы яе вернеце! — кажу. — Папраўце гнюснасць, якую ўчынілі!

— Гэтак не будзе, калега, — паблажліва ўсміхнуўся нягоднік.

— У такім разе, — кажу, — каціцеся да д'ябла і сёння ж выкрасліце маё імя са штатнага вашага спісу!

Ён і на гэта ўсміхнуўся гэтаксама паблажліва і выйшаў.

— Чрэў! — крыкнуў я наўздагон яму.

Не ведаю, чаму сказаў «чрэў», а не «чарвяк».

Грудзі мне ціснула, пульс упаў ніжэй самага нізкага ўзроўню, але ўсярэдзіне ў мяне бушавала злая воля, і я не працягнуў рукі да нітрагліцэрыны. Пульс катастрафічна падаў, а ў душы кіпелі буры. Згадзіцца, што «чрэў» перамог мяне, што ён выйшаў ад мяне пераможцам — гэта было невыносна, ажно перахоплівала мне дых.

Па сутнасці, перамога яму была забяспечана загадзя, таму што Юля звязала мне рукі, я ўступіў у бой са звязанымі рукамі.

Навошта ёй, дурніцы, было падаваць заяву?

Вось яшчэ адно клятае пытанне, ліха на яго! Гэтыя «навошта» і «чаму» сціскаюць мне душу, нібы пятлёю. Душаць мяне. Калі б я меў сілу разарваць гэтыя петлі, выбавіць з іх шыю, хто ведае, якія магістралі адкрыліся б маім вачам! Адны шляхі павялі б да сонца, да зорак, другія, магчыма, стрымгалоў апускалі ў пекла. Хоць бы раз выйсці на гэты магістральны шлях, разгарнуць плечы ды ўздыхнуць на ўсе грудзі. Каб ап'янець ад паветра!

Калі гэтая дурніца звольнілася, каб адстаяць свой гонар, таму што і сучкі свой гонар маюць, я пацалую ёй руку як святой. Але калі яна кінула работу дзеля мяне, то клянуся ўсімі скальпелямі, што адарву ёй вушы! А потым выкіну яе праз акно, няхай ідзе да бэзу і язміну, а я заспяваю «Ой, ткала Донка фартушок»!

І ў гэты час, калі я думаў пра Донку, што ткала фартушок, у вушах у мяне раптам пачалі бухаць барабаны, запішчала гайда, ды так, што ў вачах успыхнула і ўзвілося полымя аранжавага колеру. Гэты колер адразу нагадаў мне пра нешта, і я доўга думаў — што гэта?.. Нарэшце здагадаўся — колер Юлінай блузкі. А барабаны бумкалі, гайда цягнула пранізлівую ноту, Юліна блузка скакала шалёнае харо.

Ужо вечарэла, калі прыйшла Юля. Яна пабыла ў цырульні, памяняла сукенку на другую, святлейшую. Прынесла мне букецік фіялак.

— Ведаеш, хто прыходзіў да мяне ў госці? — папытаўся я. — Прафесар Маркаў, твой былы шэф!

— Напэўна, змучыў ён цябе, — уздыхнула Юля. Але я заўважыў, што ў яе па твары прабег цень. — А ты не з'еў крэм? Чаму? — паспрабавала яна выкруціцца.

Бедная дурніца! Няўжо яна спадзяецца, што гэты нумар у яе пройдзе?

— Ты лепш скажы, навошта схлусіла, што ты ў адпачынку?

— Божа мой, хіба гэта так важна?

— Па дурасці ці па міласці да мяне ты пакінула бальніцу?

Крэсла, на якім яна адпачывала і спала ў першыя дзве ночы, было на колцах. Яна перасунула яго бліжэй да майго ўзгалоўя і нясмела апусцілася ў яго.

Яна маўчала, і ці то з-за гэтага яе маўчання, якое нагадвала маўчанне вінаватага дзіцяці, ці з-за няёмкасці, у якую яна трапіла, нібыта нейкая магічная рука ўтаймавала буру, якая ўсхадзілася ва мне, і я выразна адчуў, як у мяне на душы святлее, а разам з тым пад горла падкочвае нейкая журба, у якой адначасна быў прысмак і горычы, і асалоды.

— Чаму я павінна даваць табе справаздачу тым, што датычыць толькі мяне? — прамовіла яна. — І якое права маеш ты мяне дапытваць? Хто я табе і хто ты мне, каб нам весці размовы на інтымныя тэмы? Ты —

хворы, — медыцынская сястра. Ці ж гэтага мала?

Я не адказаў. Яна сядзела, паклаўшы руку на падлакотнік, я апусціў сваю руку на яе, і так мы заставаліся нейкі час, не гаворачы ні слова.

— А пачытай мне хоць колькі старонак рукапісу, — папрасіў я нарэшце. — Не хочаш?

— Калі з'ясі крэм! — паставіла яна ўмову.

— А няхай яго ліха! — мусіў згадзіцца я. — З'ем!

Сафія, зіма 1946 г., у сваім доктарскім кабінеце.

Учора мяне выключылі з партыі.

Сёння, 13 снежня, у мяне дзень нараджэння, спаўняецца мне пяцьдзесят.

Дастаю з самай ніжняй шуфлядкі бюро апошнюю папку са сваімі нататкамі. Яна стала шэраю, выглядае змарнелай і састарэлай, я не выцягваў яе на белы свет больш як шэсць гадоў.

Праглядаю напісанае. Апошні запіс у маім дзённіку мае дату: «Чэрвень 1940 г.». Пачынаецца ён сказам: «Прымушаю сябе ўзяць пяро, але не ведаю, пра што пісаць — як былі справы дрэнь, так яно і застаецца...» І заканчваецца сумным суцяшэннем: «Штосьці зламалася ў нашых душах, але ў жыцці, бывае, ламаюцца і з трэскам рушацца такія, здавалася б, надзейныя і непарушныя рэчы!» Я намякаў на ўскладненні ў нашых адносінах з Соняй на той час і на пагоршанне спраў, якія адбываліся ў свеце.

З таго дня, як я зрабіў апошні запіс, мінула амаль шэсць з паловаю гадоў. Да Дзевятага верасня маё жыццё было неспакойнае, нават бурнае, не па сваім жаданні я мусіў правесці каля года і дзевяці месяцаў у Францыі. Рабіць нейкія запісы было адначасна і цяжка, і небяспечна. Пасля Дзевятага быў на вайне; калі ж вярнуўся, нейкі час не мог працверазіцца ад ап'янення рэвалюцыяй, якім тады былі ахоплены ўсе. А потым — потым я павінен быў даказваць, што жыў чэсна.

Так я і не напісаў за тыя гады ні радка.

Мой швагер, дацэнт Аўгуст Уладзіміраў, перакладае старажытны рукапіс з Манфер'е з хуткасцю чарапахі. І пасля Дзевятага ён працягвае даваць мне часткі, што пераклаў, праз надта доўгія інтэрвалы, альбо, як кажуць, «у гадзіну па чайнай лыжачцы». Тыдзень таму назад ён перадаў новы раздзел з жыццяпісу Лукана, які

ляжыць у мяне на стале, і я далучу яго да сваіх нататкаў.

Даволі доўгі час зямля хадзіла ў мяне пад нагамі. Нарэшце супакоілася. Цяпер я нібыта знаходжуся ў глыбокай і змрочнай упадзіне. Але і з такога сумнага месца відаць сонца, і зоркі, і цудоўнае бураноснае неба, якое свеціць над новым жыццём. Водбліскі гэтага неба радуюць маю душу. І паколькі вакол мяне настала цішыня, я магу спакойна ўглядацца ў самога сябе і разбіраць сляды, якія засталіся з мінулых часоў.

Дык вось, у канцы 1940 года раённы камітэт перакінуў мяне ў Ваенную арганізацыю, а ў Ваеннай арганізацыі даручылі мне стварыць у трэцяй роце шостага палка антываенны камітэт, з дапамогай якога пазней можна будзе вербаваць актывістаў антыфашысцкай дзейнасці ў войсках.

Я адразу пачаў шукаць сувязей, якія маглі б адкрыць мне шлях да гэтай непрыступнай роты, але справа рухалася марудна, таму што была звязана з велізарнай рызыкай, правалы ў розных вайсковых часцях ужо адправілі дзесяткі людзей на вісельню і на расстрэл. Паліцыя не спала, яна працягвала драпежныя шчупальцы спрута і да Цэнтра, і да нізавых арганізацый, дзейнічаючы з дапамогай правакатараў — метадам, выпрабаваным спрадвеку.

Аднаго разу ў пачатку восені (гітлераўскія войскі ўжо даўно былі ў краіне) да мяне ў кабінет на вуліцы Гладстанскай завітаў мой добры прыяцель, адвакат Мінка Ізмірліеў і, на маё вялікае здзіўленне, папрасіў, каб я неадкладна закапаў яму ў вочы «якія-небудзь» кроплі, што паказвала б, нібыта ён прыходзіў да мяне як сапраўдны пацыент. Я выканаў яго просьбу, і тады ён, міргаючы і выціраючы слёзы, што пацяклі ад кропель, сказаў:

— Заўтра пасля абеду роўна ў шэсць гадзін ты павінен быць каля кінатэатра «Глорыя палас». У гэты час публіка выходзіць з другога дзённага сеанса. Капялюш ты павінен трымаць у руках, а ў зубах у цябе павінна дыміцца люлька. Да цябе падыдзе адзін чалавек і спытаецца: «Вы паглядзелі ўжо гэты фільм?» Ты павінен яму адказаць: «Толькі адзін раз». Пасля гэтага ён цябе некуды павядзе і сёе-тое пакажа, што цябе цікавіць. Я не ведаю таго чалавека, і ён мяне не ведае,

і я не хачу ведаць, пра што вы будзеце гаварыць. Але ты яго павінен слухацца і давяраць яму, як давяраеш мне... Ты зразумеў правілы гульні?

— Зразумеў.

— І запомні: я прыходзіў да цябе, каб ты мне закапаў у вочы, і мы гаварылі пра надвор'е — калі выпадзе першы снег.

Ён кіўнуў мне і ўсміхнуўся.

— «Çela va sans dire!»[1] — як кажуць французы.

— «Oui, çela va sans dire!»[2] — я падаў яму руку.

Чалавек, з якім мы сустрэліся каля «Глоры палас», быў высокі худы юнак, апрануты з густам і даволі элегантна. Пасля таго як мы з ім «пазнаёміліся», ён пасвойску падхапіў мяне пад руку і павёў вуліцаю Экзарха Іосіфа. Нарэшце падышлі да масіўнага будынка, які стаіць насупраць паўночнага ўвахода ў парк адпачынку, і ён мне паказаў эмаліраваную белую шыльдачку на дзвярах у пад'ездзе. Я прачытаў на ёй імя славутага сталічнага адваката, згодніка, колішняга блізкага супрацоўніка крывавага прафесара[3].

— У канторы гэтага тыпа, — сказаў юнак, — машыністкай працуе адна паненачка па імені Марына. Калі я вам вельмі спатрэблюся, пры крайняй неабходнасці, падыдзіце да гэтай Марыны і спытайцеся, дзе можна знайсці Сашу. Яна скажа. А як вас знайсці, я ведаю.

— Цудоўна! — кажу я. — Гэта імя я не забуду.

— Імя лёгкае. Англійская марына, германская марына і гэтак далей.

— Марына — сінонім паняцця «флот» і паходзіць ад «мора» па-лацінску. Але імя не мае нічога агульнага з флатамі. Гэта чыста раманскае імя.

— Галоўнае, што гучыць хораша і лёгка запамінаецца. — І Саша раптам і неяк зусім без прычыны засмяяўся.

«Хто ведае, якая яна там прыгажуня, гэтая яго Марына!» — падумаў я сам сабе.

— А цяпер слухайце! — прамовіў юнак. Ён азірнуўся і, пераканаўшыся, што нікога паблізу няма, працягваў: — Заўтра пасля шасці да вас у кабінет зойдзе фельдфебель-курсант, прыкладна маіх гадоў. Ён скажа:

---

[1] Çela va sans dire — гэта бясспрэчна.

[2] Oui, çela va sans dire — але, гэта бясспрэчна.

[3] Тагачасны прэм'ер манарха-фашысцкага ўрада Багдан Філаў.

«Прывітанне вам ад Сашы!» І ўсё. Давярайце яму цалкам. — Ён засмяяўся зноў, і на гэты раз без дай прычыны. — Праз яго вы даберацеся да той «трэцяй» роты.

— Добра! — адказаў я. — Але чаго вы ўсё смеяцеся, хацелася б папытацца?

— Не крыўдуйце, прашу вас! У вас, і гэта добра, выгляд ротмістра гвардзейскага палка, толькі ў цывільным. Крэпкі, строгі і ў той жа час — шыкоўны!

З курсантам-фельдфебелем, умоўна якога звалі Асен, я працаваў да пачатку снежня 1942 года. Мы арганізавалі антываенны камітэт з 12 чалавек. Траіх з 12-ці прыцягнулі да актыўнай падпольнай дзейнасці — распаўсюджваць адозвы і іншыя нелегальныя выданні, здабываць зброю і каб гатовы былі ў выпадку паўстання абяззброіць афіцэраў, якія будуць аказваць супраціўленне, і павесці роту. Камандзірам гэтай баявой тройкі быў Асен. Мы зрабілі дублікаты ключоў ад арыштанцкай і склада зброі. Занеслі ў роту цывільнае паліто і капялюш. Хлопцы прыхавалі малярную лесвіцу — на выпадак, калі трэба будзе пераскочыць агароджу. Да пачатку снежня вынеслі з казармы два 9-міліметровыя маўзеры, чатыры гранаты, карабін і тузін абоймаў да маўзераў і карабіна. Гэту зброю Саша акуратна забіраў. А пакуль ён прыйдзе забраць, я хаваў яе ў пограбе — туды вядзе вузенькая лесвіца проста з кладоўкі. У пограбе мы пісалі адозвы, у вугалі і дрывах хавалі матэрыялы, якія перадавалі нам, — грыфелі пісаць лозунгі, экземпляры газеты «Работническо дело», лістоўкі.

Так было да снежня 1942 г.

У пачатку снежня з Ваеннага аддзела мне загадалі неадкладна спыніць усе зносіны з казармай і пазбавіцца кампраметуючых матэрыялаў. Мой доктарскі кабінет ператвараўся ў яўку.

Такія былі справы да вялікай студзеньскай бамбардзіроўкі Сафіі.

У гэтую ноч, неўзабаве пасля таго, як быў дадзены адбой, у дзверы да мяне пастукалі (званок не дзейнічаў, не было току, і ў мяне гарэла свечка), — і сэрца ў мяне ўздрыгнула не столькі ад самога стуку, як ад таго, што стук гэты быў знаёмы. Я ўзяў у рукі свечку, выйшаў у пярэднюю і адчыніў. Пры дрыготкім святле свечкі з цемры, нібы Лазар з магілы, выплыў Асен. Я гатовы быў да сустрэчы з Асенам, бо ведаў яго ўмоўны стук,

таму, убачыўшы ягоную постаць у дзвярах, я не падумаў, што вочы мяне падводзяць, — гэта быў сапраўды ён, хоць усім сваім выглядам вельмі мала быў падобны на таго чалавека, з якім працаваў да апошняга месяца. Перш за ўсё кінулася ў вочы яго адзенне — зімовая шапка, доўгае зімовае паліто, апранутае проста на ніжнюю бялізну. Пад шапкаю — распухлы, пасінелы твар з запухлым правым вокам, разбітымі губамі, на якіх выступала засохлая кроў.

Я моўчкі адступіў убок, даючы яму прайсці. Замкнуў дзверы і замок паставіў на засцерагальнік.

Калі зайшлі ў кабінет, ён прашапялявіў як чалавек з разбітымі вуснамі:

— Патушы свечку...

Я дзьмухнуў на свечку, узяў яго за руку і асцярожна пасадзіў на канапку.

Я памаўчаў, пакуль супакоіцца сэрца, потым спытаўся:

— Цябе раскрылі?

— Сёння раніцай.

(Я перадаю яго словы нармальна, але не так, як ён іх вымаўляў.)

— Каго яшчэ арыштавалі?

— Пакуль нікога.

— А як табе ўдалося ўцячы?

— На пасту каля арыштанцкай стаяў наш Мілан. Шчасце яшчэ!

Мілан быў адзін з баявой групы.

— Ну?

— Ён адамкнуў мяне і гаворыць: «Збярыся, братка, з сілай і бі мяне па мордзе, пакуль свету не ўбачу. Пастарайся паболей пусціць крыві. А потым бяжы да вуліцы Фрыцэфа Нансена, там, як мы ўмовіліся, на сярэдзіне агароджы, каля мура, ляжыць лесвіца, а пад ёй — паліто і шапка. І хай паможа табе бог! — Бачачы, што я гляджу няўцямна, ён прыспешыў: — Давай, братка, пачынай, няма часу!»

Узялі мяне рана, яшчэ да таго, як строіць роту. Адразу адабралі пояс, пістоль, штаны, боты. Былі два унтэры з камендатуры і паручнік. Унтэры паздымалі рамяні і пачалі хвастаць мяне. «Гэта, — крычыць паручнік, — табе на пачатак. Ці тое яшчэ будзе!» Білі мяне дзягамі, пакуль ім рукі не забалелі. Потым схапілі мае боты ды іх ступакамі — па галаве, па грудзях, па чым

папала. Перасталі толькі тады, як я асунуўся на зямлю. Вось чаму я такі.

Але я сабраўся з сілай і, як стаяў перад Міланам, замахнуўся і ўдарыў. Па зубах. Потым у нос. Хлынула кроў, ён захістаўся. Замахваюся яшчэ, яшчэ і яшчэ. Пакуль ён не ўпаў і не знерухомеў... Гэтага я ні сабе ніколі не дарую, ні блізкім сваім да дзевятага калена. Мне здавалася, што б'ю свайго бацьку, нават яшчэ горш — маці родную. Такое паскудства!..

Я апусціў шторы, зацягнуў паўзверх іх яшчэ адны — шчытныя, аксамітныя, каб з сярэдзіны не магло прабіцца святло. Зноў запаліў свечку, паставіў яе на падлогу і пачаў апрацоўваць небараку раны. Даў глынуць каньяку, прыкурыў цыгарэту і ўставіў яму ў напухлыя разбітыя вусны.

Пакінуў яго спаць на канапцы, а сам размясціўся ў крэсле, ахінуўшыся палітом. Быў люты холад. Дровы былі, але баяўся распальваць агонь — каб хто не заўважыў па дыме з коміна, што тут нехта жыве. А кватаранты з другога паверха эвакуіраваліся ў правінцыю.

Рэштку ночы правёў я ў паўдрымоце. Сэрца маё разрывалася надвое — нібы яго раздзіралі мясніцкімі крукамі. З аднаго боку, я не меў права прымаць у кабінеце таварышаў, якім пагражаў арышт, таму што кабінет служыў яўкай — сюды маглі наведвацца кіраўнікі на нелегальным становішчы, некаторыя з іх жылі са смяротным прысудам. Прымаючы ўцекачоў, як Асен, я сам прывабліваў «ваўка ў аўчарню» — сочачы за ім, паліцыя можа злавіць людзей, за якімі даўно палюе. З другога боку, маё сумленне паўставала нават ад думкі, што я мог зачыніць дзверы перад носам гэтага збітага чалавека. Пападзіся ён паліцыі, і расстрэл яму забяспечаны. Не даць прытулку чалавеку ў небяспецы — большае ганьбы я не мог сабе ўявіць! Але хто даў мне права парушаць канспіратыўную дысцыпліну? Я выдатна ведаў, што парушэнне дысцыпліны непазбежна прыводзіць да цяжкіх правалаў.

Вось якія мясніцкія крукі раздзіралі маё сэрца, і я не мог даўмецца, які выбраць сярэдні шлях!

Але разам з гэтымі нярадаснымі думкамі ў маю свядомасць пачала закрадвацца трывога: калі група ў трэцяй роце раскрыта, то над маёю галавой навісла страшэнная небяспека, таму што я быў яе арганізатарам і яе сувязь з Ваенным аддзелам трымалася на мне. Дастат-

кова аднаму з групы не ўстояць перад катаваннямі і загаварыць, не выключаючы і Асена (калі паліцыі ўдасца схапіць яго зноў!), і я тут жа апынуся ў апраметнай або ў падстрэшшы таго злавеснага будынка каля Львовага моста.

Калі пад восем гадзін раніцы развіднела і Асен расплюшчыў вочы, я сказаў яму:

— Я рады цябе бачыць жывым і здаровым, і ты будзеш тут колькі спатрэбіцца, але справа ўскладняецца, паколькі мой кабінет служыць яўкай кіруючым таварышам, а некаторыя з іх на нелегальным становішчы.

Асен падняўся, сеў на канапе і паглядзеў на мяне суровымі вачамі:

— Чаму ты мне гэтага адразу не сказаў? Ці ты думаеш, што я такі несвядомы, што мог пакрыўдзіцца?

Я маўчаў, унутрана адчуваючы сябе як паміж молатам і кавадлам.

— Я зрабіў *вялікую* памылку! — уздыхнуў ён. — Дай мне якую-небудзь сваю старую вопратку і што на ногі, і я адразу пайду. Калі агенты, якія кінуліся мяне шукаць, вынюхаюць, што я тут, а ў гэты самы час тут акажацца хто-небудзь з таварышаў з акруговага камітэта. альбо з... не дай бог. Ты ўяўляеш, што можа здарыцца? Уяўляеш? Атрымаецца, што я, каб выратаваць сваю шкуру, а ты па сваёй гасціннасці — мы ўдвух з табой вінаватыя ў страшэнным правале!

— Ну, не спяшайся! — махнуў я рукой. — Не драматызуй ужо гэтак справу. (Па тым часе дзеяслоў «драматызаваць» быў у частым ужытку ў нашым асяроддзі.) Куды б ты пайшоў адразу з такім разбітым тварам? А ты не думаеш, што цяпер квартал можа блакіраваць паліцыя?

Ён пацінуў плячамі.

«Не так усё проста!» — з горыччу падумаў я.

— Будзеш тут, пакуль я атрымаю інструкцыі, як нам выйсці з гэтага становішча, — сказаў я. — Я зараз пайду і пашукаю сувязі!

Каб выглядаць больш «добранадзейным», апрануў цёмны гарнітур, нацягнуў гетры (на той час яны былі ў модзе), на нос пачапіў паўдыёптравыя з мінусам акуляры і ўзяў сваю дарожную доктарскую сумку. Асену даў ключ ад уваходных дзвярэй.

Я пайшоў з намерам знайсці Сашу. Сафія нагадвала франтавы горад: развернутыя будынкі, разбітыя па-

верхі, бетон, цагляны друз, перамяшаны з хатнімі рэчамі, кавалкі адарванай і павіслай бляхі... Не хадзілі ні трамваі, ні таксі, бясконцы гуж збянтэжаных, спалоханых і разгубленых людзей цягнуўся да вакзала. Адны — узяўшы на плечы, што маглі панесці, другія — пагрузіўшы рэчы на кволыя дзіцячыя санкі.

Сашу я не знайшоў. Будынак, дзе працавала ягоная Марына, быў напалову зруйнаваны. У кучах цэглы, бетонных абломкаў і распатрашаных хатніх рэчаў сямтам віднеліся і зялёныя адвакацкія папкі.

Падаўся я да Ізмірліева. Яго жонка эвакуіравалася ў Курыла і жыла разам з маёй у адной кватэры. Соніна бальніца перамясцілася туды. Праз два дамы ад Ізмірліевых бомба зрынула палову трохпавярховага будынка ў стылі барока. З разбітага трэцяга паверха, нібы траурны знак, звісала, зачапіўшыся за абломак арматуры, вячэрняя чорная сукенка.

Ізмірліева я заспеў, калі ён збіраўся выходзіць, адно не апрануў яшчэ паліта. Твар у яго быў стомлены, відаць, і ён не спаў у гэтую трывожную ноч. Упершыню гэты ветлівы і гасцінны чалавек не запрасіў мяне сесці. Я расказаў яму аб правале ў трэцяй роце, пра ўцёкі Асена і пра тое, як я ўладкаваў яго ў кабінеце і што не змог звязацца з Сашам.

— Я даведаўся аб правале ў трэцяй роце яшчэ ўчора пасля абеду, — пачаў ён, прагна смокчучы сваю цыгарэту. — Хацеў быў адразу папярэдзіць цябе, але папярэдзілі мяне, што ўжо два-тры дні ёсць падазрэнне, нібы за тваім кабінетам сочыць паліцыя. Думаў вычакаць яшчэ гэтую ноч і тады, але перашкодзіла бамбёжка. Што, многа дамоў разбіта?

— Ды нямала. Людзі ўцякаюць.

Ён памаўчаў, затушыў цыгарэту і паківаў галавой.

— А з гэтым хлопцам ты перасаліў сабе паліўку. Калі давядзецца сёрбаць яе, дык яна сто разоў табе адрыгнецца. І не толькі табе, але і многім, многім яшчэ! Бо калі вочка ў панчосе пабяжыць, ніхто не можа сказаць, што яно наробіць — можа стацца так, што прападзе ўся панчоха!

— Але што я мог зрабіць? Выгнаць чалавека?

— На тваім месцы я даў бы яму вопратку, абутак, крыху грошай, перавязаў бы яму твар. І параіў бы як мага хутчэй сесці на цягнік, ехаць у родныя мясціны і там наладзіць сувязь з партызанамі. Вось так. Калі

даводзіцца рызыкаваць, дык выбіраюць найменшую рызыку. Такі закон.

— А што рабіць цяпер? — спытаўся я.

— Дай мне ключ ад свайго кабінета!

Я даў яму ключ.

Ён апрануў паліто, зайшоў на хвіліну на кухню і вынес адтуль булку хлеба і дзве кансервы. Хлеб і кансервы аддаў мне, а сам узяў з кабінета невялікі зграбны чамаданік, які, відаць, падрыхтаваў загадзя.

— Пакідаю часова жытло сваё, сыходжу ў невядомасць, — усміхнуўся ён невясёлай усмешкай. — А цябе завяду ў кватэру да адных маіх сваякоў, якія даўно ўжо выехалі ў правінцыю. І будзеш там, пакуль я не прыйду па цябе.

— А як жа той чалавек? — усклікнуў я. — Што будзе з ім?

Твар ягоны зноў перасмыкнуўся кіслаю ўсмешкай.

— Ты, дарагі мой, нарадзіўся салдатам, змагацца ў адкрытым баі, як там, каля Сарагосы і Валядоліда. Але як канспіратар ты нікуды не варты, мяккае ў цябе сэрца.

— І ўсё-такі, — кажу, — што будзе з чалавекам?

— Пра гэтага чалавека паклапачуся я, ты больш пра яго не думай. Забудзься яго імя і як выглядае, і калі цябе нават разапнуць на крыжы, ты ўсё роўна павінен казаць адно — ты яго не бачыў і нават голасу яго не чуў. Гэта самае ты павінен гаварыць пра ўсіх другараў, з якімі меў справу, не выключаючы і маёй асобы: нікога не сустракаў, нікога не ведаю... А цяпер выходзь першы!

— Дзякуй за навуку! — сказаў я пакрыўджана, спыніўшыся перад дзвярамі. — Не забывайся, аднак, — працягваў я далей, адчуўшы, што гонар мой прышчэмлены, — што я з 23-га года ўдзельнік руху, быў членам і дзейнічаў у падпольных арганізацыях і што да гэтага часу, дзякуй богу, не зрабіў правалу і не выдаў нікога!

— Я табе, братка, веру! — па-сяброўску ўсміхнуўся ён, але сяброўская ўсмешка зусім не сведчыла, што ён адмаўляецца ад сказанага або шкадуе, што сказаў. — Мне і ў галаву не прыходзіла адмаўляць або сумнявацца, што ты — цудоўны чалавек! — працягваў ён, пасвойску паляпаўшы мне па плячы. — Ды вось, ці то ад гадоў, ці ад чаго, сэрца ў цябе абмякла, і ў які-небудзь крытычны момант, як гэтай ноччу, ты можаш павесці

сябе неразумна. А цяпер становішча такое, што нават нязначны неразумны ўчынак можа прывесці на вісельню масу людзей!

Я нічога яму не адказаў, але адчуў, як у маім «абмяклым» сэрцы збіраецца горыч.

Дом, у які завёў мяне Ізмірліеў, знаходзіўся на рагу вуліц Вяслецкай і Цара Сімяона. Тут паблізу бомбы не падалі, але асвятлення не было, як і ва ўсім горадзе. Дарогаю мы змяшаліся з тысячамі людзей, якія спяшаліся на вакзал, і гэтае шматлюддзе, як ні сумна такое ўсведамляць, прыкрывала нас ад паліцэйскага вока і памагала нашым уцёкам.

На развітанне Ізмірліеў паціснуў мне руку і параіў, а па сутнасці загадаў:

— Сядзі тут і не высоўвай носа! Замкніся з засцерагальнікам і нікому не адчыняй, акрамя як пачуеш і пазнаеш мой голас.

Я застаўся адзін. Так прабыў я ў гэтай невялікай, але дагледжанай кватэры тры дні. Мяне адразу ахапіла самота, якую, напэўна, адчуваюць караблекрушэнцы, выкінутыя на незнаёмы і бязлюдны востраў. А што асабліва вярэдзіла душу, дык гэта горыч ад слоў Ізмірліева. Калі наступае на мазоль блізкі чалавек, баліць удвая мацней. Сэрца, аказваецца, у мяне абмякла! «Ці то ад гадоў, ці ад чаго!» Ніколі яно ў мяне грубейшае не было, у ім узнікалі, узнікаюць і цяпер адны і тыя пачуцці. Ці, можа, сэрцы такога віду, як маё, цяпер выйшлі з моды?

Больш за месяц не бачыў Соні і малога Лукі. Асабліва ж засумаваў я па малым! Ён смешна размаўляе, а ведае многа слоў, і мы ўжо можам весці з ім «мужчынскую» размову. Нашы з Соняй справы ўвайшлі ў рэчышча — ні глыбокае, ні бурнае — і цякуць пакорліва. Мы прымірыліся, як людзі, што добраахвотна адмовіліся ад нечага такога, што абаім было вельмі дарага.

Я хутка зразумеў, што трапіў у сям'ю настаўніка. На невялікім пісьмовым стале ляжаў сшытак з настаўніцкімі запісамі і дзённік, на вокладцы якога быў надпіс: «Першая дзявочая гімназія. VII «б» падкласічны». Хацелася зазірнуць у дзённік, але мяне спыніла нейкае няяснае адчуванне няёмкасці. Усё-такі ў доме гэтым я быў няпрошаным госцем.

Але ў невялікай іх бібліятэцы пакорпаўся. Знайшоў «Лісты з майго млына» на французскай. Гэту цудоўную

кнігу я чытаў два разы, а тады пачаў чытаць і трэці раз. І ў нейкі момант, калі пра нешта задумаўся, раптам прыгадалася Арбанасі, роднае сяло блукальца Танаса, майго бацькі. Магчыма, гэты ўспамін пра Арбанасі выклікала ў мяне кніга Дадэ, хоць ад яе веяла духмяным і цёплым правансальскім паветрам, а ў Арбанасі было не горача нават улетку. Я там праводзіў свае апошнія школьныя канікулы, усцяж Янтры былі слівовыя сады, я ўладкоўваўся на сонцы пад якой-небудзь караджэйкай[1] і ўзвышана (пэўна, іншы раз і «завышана») чытаў. Пад той час прачытаў «Вікторыю» Гамсуна і «Моцнае каханне» Буніна. Абедзве кніжкі ўзрушылі мяне, кожная па-свойму, вядома. Не дачакаўшыся канца канікулаў, я датэрмінова вярнуўся ў Сафію — не выходзіла з галавы дзяўчына, з якой мяне звязвала «бесперспектыўнае» каханне.

На чацвёрты дзень майго зняволення, пад чатыры гадзіны пасля абеду прыйшоў Ізмірліеў. На гэты раз у яго быў зусім стомлены і знясілены выгляд, толькі знаёмыя жывыя і дружалюбныя святлінкі ў яго вачах сведчылі пра яго колішнюю жыццярадаснасць.

— Ну што, згаладаўся? — спытаў ён першым чынам. І, не дачакаўшыся адказу, загаварыў пра іншае: — Справы дрэнь, дарагі доктар. Асена арыштавалі ў той жа дзень, каля 11-ці. Замест таго каб адразу ісці на вакзал, дык ён, дурная галава, кінуўся па разбітай Сафіі шукаць знаёмых і трапіў да іх у лапы.

Нешта як укалола мяне ў сэрца, і я ціха ўздыхнуў.

— Але гэта не самае горшае, — паглядзеў незадаволена Ізмірліеў. — Арыштаваны яшчэ двое з групы, і гэта азначае, што адзін з іх правакатар.

— Кепска! — сціснуў я рукі і адчуў, што мяне прабіраюць дрыжыкі. У пакоі і без таго было холадна, тут ужо немаведама колькі часу не палілі.

— І ўсё-такі і гэта не самае горшае! — сказаў Ізмірліеў, і голас у яго як быццам зламаўся. — У гэты самы дзень на вакзале быў затрыманы Саша, які адпраўляў сваю Марыну.

Нейкі час мы абодва маўчалі. Ізмірліеў закурыў цыгарэту, а я натаптаў люльку.

— Абруч гэтак сціснуўся вакол цябе, прыяцелю, што я не бачу нават шчыліны, праз якую ты мог бы з яго

[1] Караджэйка — сорт сініх сліў.

выбрацца. А ты ведаеш многа, і, калі трапіш у іх лапы, панчоха абавязкова пачне распускацца.

Я хацеў быў запярэчыць, але ён рэзка махнуў рукой, каб я маўчаў.

— Ёсць толькі адно выйсце, і яно ў інтарэсах усіх нас. І справы ў першую чаргу, вядома! Табе трэба знікнуць, прычым сёння ж, нават зараз жа, у гэтую гадзіну.

— Добра, — пацісну я плячамі. — Куды я павінен знікнуць. Да партызан?

— Да партызан? Ну, перш за ўсё, да іх цяжка дабрацца. А калі і дабярэшся, небяспека зменшыцца толькі напалову. Я прыняў другое рашэнне, і яно самае разумнае.

— Цікава! — усміхнуўся я і зноў адчуў, нібыта мурашкі забегалі ў мяне па спіне.

— У мяне сувязі ў Міністэрства замежных спраў, з консульствам і пашпартным аддзелам, дык мне ўдалося аформіць табе замежны пашпарт і візу ў акупіраваную Францыю. Больш таго — скляпаў і камандзіровачнае пасведчанне ад Міністэрства аховы здароўя. Фальшывае, зразумела. Яно сведчыць, што ты камандзіраваны ў Парыж у Пастэраўскі інстытут за свой кошт.

Я слухаў, нібы ашаломлены. Спачатку мне нават падалося, што ён проста жартуе.

Я ачомаўся і зразумеў, што слухаю не дурныя жарты, толькі тады, калі ён дастаў замежны пашпарт і даў мне яго ў рукі. Разгарнуўшы пашпарт, убачыў там «камандзіроўку», візу і... нават білет, дапоўнены квітанцыяй за спальнае месца. Зірнуў на фотаздымак — такія фотаздымкі былі толькі ў маёй жонкі.

— Дзе ты ўзяў фотаздымак? — зацікавіла мяне. — У маёй жонкі?

— Не ўмешвай жонку ў гэтыя справы! — насупіўся Ізмірліеў. — Будзь мужчынам і не задавай лішніх пытанняў.

Я адчуў раптам слабасць. Адчуў сябе так, як той раз пад Вальядолідам, калі за два крокі ад майго акопа бухнуўся фугасны снарад.

— У гэтым прыгожым чамаданіку я падрыхтаваў табе харчоў на дарогу — што змог дастаць. Франкаў, братка, — аніяк! Як прыедзеш у Парыж, ідзі адразу да аднаго нашага чалавека, ён скажа, што рабіць. Вось

яго адрас, — ён падаў лісток, — запомні яго і парві гэту паперку.

І між намі ўсталявалася маўчанне, апісаць якое не знаходжу слоў. Колькі мы гэтак маўчалі — не ведаю.

Нарэшце ён паклаў руку мне на калена і сказаў:

— Мне трэба ісці. А па цябе прыедзе фаэтон роўна без чвэрці сем. Фурман свісне з вуліцы, і ты адразу выходзь. Вазьмі мой шалік, — ён зняў шалік з шыі. — Закрыеш ім знізу твар. А зверху твар схаваеш пад свой капялюш. І ў вагоне сядзі гэтак, пакуль рушыць цягнік.

Ён устаў.

— Я перадам ад цябе паклон Соні і хлопцу. Ведаеш, і Соні будзе спакайней, што ты ў надзейным месцы, далёка ад гэтага пажару. Ну... у добры час!.. Убачыцца б пасля перамогі!

Мы абняліся. Мімалётная расчуленасць перахапіла яму горла, ён некалькі разоў кашлянуў. Потым махнуў рукой, не гледзячы на мяне, і хутка выскачыў за дзверы.

Так 15 студзеня 1943 года я адправіўся ў Францыю.

Калі таможная праверка каля Драгамана скончылася і цягнік пайшоў на захад, я расцягнуўся на ложку ў сваім спальным купэ і заплюшчыў вочы. І быццам ва ўнісон з раўнамерным стукам колаў на стыках рэек у маёй свядомасці пачалі ўзнікаць некаторыя пасажы з апошняга раздзела старажытнага рукапісу, які перадаў мне дацэнт Уладзіміраў:

«Я прынёс табе святло. Адкрыў душу тваю для яго творца... З гэтага часу і надалей толькі ад цябе самога залежыць, па якіх законах ты будзеш жыць... Благаславіце і злітуйцеся!»

Якія былі тыя законы? Пра якія законы гаворыцца там?

Цягнік імкліва імчаў на захад.

«Благаславіце і злітуйцеся! Амін».

Лета 1258-е, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся над намі! Амін.

Ужо два тыдні я перакладаю з балгарскай мовы на лацінскую кнігі, якія прынёс мне Вучыцель Іосіф. Перакладаю ад усходу сонца да цёмнага. А калі находзіць цемра, запальваю лампаду і працягваю перакладаць, пакуль аж вочы не пачнуць моцна слязіцца.

Гарбатая Варвара кожны дзень варыць мне зёлкі. З адных я п'ю адвар, а другія чыча Нікола змешвае з цыбуляй і праванскім алеем і гэтую сумесь прыкладвае мне да пабітага цела. Раны мае хутка зажываюць, і ці то ад зёлак, ці ад слоў Вучыцеля і ад мудрасці кніг у душы маёй з кожным днём робіцца святлей. Яна не выгінаецца ўжо, нібыта вейка, туды і сюды, бездапаможная і сляпая. Цяпер яна моцна і непарушна стаіць на нагах, а калі пачынаюць спакушаць мяне ўспаміны з нядаўняга жыцця — Інэса, якую я абдымаў, смажаніна, якую глытаў, зброя, якою забаўляўся, — супраць іх я выстаўляю маю новую веру, і спакусы падаюць да маіх ног, нібы птушкі, якія ў лёце разбіваюць грудзі свае аб якую-небудзь скалу.

І дзіўлюся, як я мог столькі гадоў быць сляпым перад ісцінай! Як не мог зразумець такіх простых рэчаў, даступных розуму невукаў, розуму аўчара або свінара, а схаваных ад мяне, ад чалавека, які чытаў Арыстоцеля і вывучаў Пталамея.

Калі бог, найдабрэйшы і ўселітасцівы, стварыў бачны свет, навошта насяліў яго гэтулькімі недасканаласцямі і бедамі? Як можа бог стварыць і цярпець такія беды, як, напрыклад, землятрусы, войны, засухі, паводкі, марскія буры і лясныя пажары, вывяржэнне вулканаў? Хіба ён не бог, найдабрэйшы і ўселітасцівы? Хіба можа найдабрэйшае і ўселітасцівае боскае сэрца стварацъ і цярпець неміласэрныя і жорсткія да чалавека стыхіі?

Стыхіі і зло ўласцівыя бачнаму свету. Бачны свет недасканалы, іначай у ім не дзейнічалі б стыхіі і беды. Бог, які ўсемагутны, не можа быць стваральнікам недасканалага свету. Недасканалы свет, дзеці якога і людзі, не ёсць і не можа быць боскай справай. Бачны свет, несумненна, — справа Злой Волі, Злога пачатку, тае сілы, якая аддзялілася ад бога і супрацьпаставіла сваё Зло ягонаму Дабру.

Гэтыя думкі, у якіх найдакладней і праўдзівей глядзіцца ісціна Тварэння, выкладзены ў «Гутарцы Іаана з Хрыстом». Яна амаль цалкам адмаўляе Стары Запавет і па-свойму тлумачыць евангелле; вось чаму кніга забаронена, і таго, у каго яе знойдуць, абавязкова спаляць на кастры.

«У пачатку цараваў Бог. Ягонае царства было на сёмым небе. З правае рукі ў Бога сядзеў Ісус, які быў

Ягоным словам. Начальнік божых анёлаў, Сатанаіл, цараваў на шасці нябёсах, якія былі пад сёмым небам. Ён зайздросціў Богу і ягонаму царству, узбунтаваўся супраць яго і Ягоных наказаў, прывабіў да сябе траціну божых анёлаў і стварыў бачны свет, гэта значыць, Зямлю і ўсё, што ёсць на ёй і над ёй. Ён стварыў чалавека па сваім абліччы. Целы Адама і Евы ён вырабіў з гліны, але не мог іх ажывіць, таму што жыццё ёсць Дух, а тварэц нябачнага Духу ёсць Бог. Тады ён уставіў у целы Адама і Евы анёлаў з другога і трэцяга неба, якія хоць і аддзяліліся ад Бога, але былі створаны Богам. Каб не было цела чалавечае падпарадкавана Духу, ён прымусіў чалавека пакаштаваць плод з дрэва пазнання і такім спосабам усяліў у яго цела д'ябальскія страсці і грахоўныя жаданні. Д'ябальскія страсці паўсталі супраць Духа і пачалі яго падводзіць да грахоў. Яны спакушалі яго юрлівасцю, абжорствам, д'ябальскай насалодай ад насілля, багаццем і ўладаю. Так пачалася ў чалавека барацьба паміж дабром і злом. І зло пачало перамагаць. Сатанаіл паслаў да людзей сваіх служак, д'яблаў, Энаха ўзняў на неба і загадаў занесці Майсею, які быў яго верны слуга, свае законы. Гэта былі законы Д'ябла, і яны былі выкладзены і запісаны ў Старым запавеце.

Нарэшце Бог злітасціўся з чалавекаў і вырашыў павярнуць душы іхнія да сябе, да свайго Святла. Дзеля гэтага ён паслаў на зямлю Слова сваё — Ісуса, — якое навучала б людзей ісцінам Новага запавету. Каб перашкодзіць Ісусу, Сатанаіл паслаў на зямлю прарока Ілью, якога назваў Іаанам Хрысціцелем, і той пачаў хрысціць людзей у вадзе. А выратаванне магло прыйсці ад Ісуса, які хрысціў Духам святым.

Колькасць душ, якія пакаяліся, не перавысіла колькасці грэшных. Грэшных душ большала, таму што яны паддаваліся спакусам цела і тым спакусам, якія спараджаў грахоўны парадак свету. Да бога адыходзілі толькі самыя праведныя душы, тыя, што адмаўляліся ад жаданняў цела і не слугавалі парадкам у свеце. Каб вызваліць ад грахоў усе душы і ўвесці іх у сваё царства, Бог пашле на зямлю сваё Слова — Ісуса — і другі раз. І Ісус, прыняўшы чалавечае аблічча, не будзе распазнаны, як некалі, а закуе Сатану ў кайданы і адправіць яго на самае дно Пекла. І тады настане Страшны суд, Апакаліпсіс. Ісус падымецца да Бога разам з праведнікамі,

паселіць іх да анёлаў, а грэшнікаў адправіць у пекла, да Сатанаіла, гарэць у вечным агні. І на гэтым скончацца пакуты людскія. Над светам узыдзе святло ісціны, і яна ўсталюецца навек».

Калі б чалавечае цела стварaў бог, разважаў я, ён не ўкладваў бы ў яго такія дэманічныя жаданні, як абжорства, юрлівасць, інстынкт пралюбадзейства, стыхію прагнасці, дэманічную жадобу насілля. Калі бог стварыў чалавека па сваім вобразе і падабенстве, дык ці можам мы ўявіць бога, як гэта сцвярджае Стары запавет, абжорам, юрліўцам, пралюбадзеем, прагным да ўлады, багацця і насілля, добрым да аднаго народа. і жорсткім да другога? Такое ўяўленне не мае і не можа мець нічога агульнага з сапраўдным богам. Гэта ўвасабленне д'ябла, таму што гэта ён уклаў у чалавечае цела свае вобраз і падабенства, сваё паганства, свае дэманічныя рысы.

Бог не мае нічога агульнага з паганым целам чалавечым. якое выдумаў і стварыў д'ябал.

Бог — стваральнік нябачнага свету: Духа, духоўных насалодаў, духоўнага жыцця.

Цела — гэта турма, у якую д'ябал пасадзіў чалавечага Духа.

Цялесныя жаданні і парадкі ў бачным свеце — гэта спакусы, якім д'ябал падвяргае душу чалавечую.

Стары запавет — д'ябальская кніга, напісаная рукою Майсея.

Паміж Старым запаветам і Новым, паміж павучаннем Майсеевым і павучаннем Ісусавым, запісаным рукою евангелістаў і ў першую чаргу рукою Іаана, любімага Ісусавага вучня, — ляжыць прорва. Гэтыя павучанні адрозніваюцца, як цемра адрозніваецца ад святла.

А хто такі Майсей, калі папытацца? У кнізе Другой, Майсеевай, названай «Выйсце», Майсей сам малюе свой вобраз:

«Праз многа часу, калі Майсей вырас... ён убачыў, што егіпцянін б'е яўрэіна... Паглядзеўшы наўкола і пераканаўшыся, што ніхто не бачыць, ён забіў егіпцяніна і закапаў у пяску».

Гэты самы Майсей, верны служка д'яблу, у сваёй Другой кнізе Майсеевай кажа:

«Вока за вока, зуб за зуб, рука за руку, нага за нагу; спаленае за спаленае, рана за рану, пабоі за пабоі».

А Ісус, які ёсць Слова сапраўднага бога і ягоны сын, вучыць людзей:

«Шчаслівыя бедныя духам, бо царства ім будзе нябеснае.

Шчаслівыя ўсе, хто плача, таму што яны суцешацца.

Шчаслівыя пакорлівыя, бо ім будзе ў спадчыну ўся зямля.

Шчаслівыя галодныя і прагныя да праўды, бо яны яшчэ наталяцца.

Шчаслівыя літасцівыя, таму што і яны будуць памілаваны.

Шчаслівыя міратворцы, таму што яны будуць названы сынамі божымі.

Вы слухалі, што было сказана: «Вока за вока, зуб за зуб!»

Я ж кажу вам: не праціўцеся злу.

Вы слухалі, што было сказана: «Любі бліжняга свайго і ненавідзь ворага!»

Я ж кажу вам: «Любіце ворагаў сваіх!»

Ну вось, разважаў я, што можа быць агульнага ў Старога запавету з Новым і ў чыіх словах цепліцца боскае святло — у Майсеевых ці ў Ісусавых?

Ну, а калі боскім святлом свецяць словы Ісуса, дык чаму мы павінны цярпець парадкі ў свеце, узведзеныя д'яблам, і падпарадкавацца ім? Жывучы паводле гэтых парадкаў, мы аддаём душы свае д'яблу, і бог не прыме нас у сваё царства ні цяпер, ні ў дзень Страшнага суда!

Калі думкі гэтыя заселі ў свядомасці маёй, я пачаў адчуваць сябе так, нібыта ў мяне перад вачамі рушацца горы, нібыта мора выходзіць з берагоў і яго ўспененыя хвалі ўздымаюцца да самых аблокаў і гэтак моцна выюць у ерыхонскія свае трубы, што гукі іх ператвараюцца ў полымя, і полымя гэтае ахоплівае ўвесь свет.

«Божа мой, божа мой!» — стагнала душа мая, а я біўся над пытаннем — дзе маё месца? Таму што я ўжо ўбачыў Ісціну і цяпер думаў, як жыць далей, каб служыць Ісціне.

Тым часам я хутка папраўляўся, і, па меры таго як зажывалі раны, у мяне большала ахвота да ежы, я ўсё часцей успамінаў пра зброю, а ў сне іншы раз мне пачала з'яўляцца Інэса. Праз дзень-два да мяне пачаў наведвацца мой збаўца, марак Танас. Ён прыносіў з сабой пах салёных вятроў і карчмы. Гэта быў чалавек у самай

сіле, і ўражанне ад яго было такое, што гэты малойца з аднолькавай гатоўнасцю можа любога зарэзаць альбо кінуць у мора, каб потым, рызыкуючы жыццём, кінуцца яго ратаваць. Ягоны род паходзіў з нейкага сяла з-пад Тырнавагpада, і яму было вельмі смешна, калі я прызнаўся, что вырас сярод чаратоў пад Хебрасам. Адзін ягоны дзед быў у баярына сакольнікам, а другі дзед пусціў стралу ў гэтага самага баярына, таму ўвесь род як па бацькоўскай, так і па матчынай лініі рассыпаўся на свеце. Падчас таго здарэння сам ён шастаў з Калаянам і яго братвой недзе каля Кавалы. Дачуўшыся пра стралу, ён употай выбраўся са стана, выкарыстаўшы тое, што ў гэтую ноч стаяў туман і дажджыла. Бо Калаян за замах на баярына адсякаў галовы, хоць бы той баярын быў закляты вораг яго роду. За такія справы, як і наогул, ён не даваў спуску. У Кавале яго купіў за раба адзін багаты суднаўладальнік. А дачка таго суднаўладальніка закахалася ў яго і паклялася перад бацькам, што яна ўтопіцца, калі той не вызваліць яго ад рабства і не дазволіць выйсці за яго замуж. Дзяўчаткі-зялепухі здольныя на такія выбрыкі. Суднаўладальнік вымушаны быў напісаць вольную, але ў яго не вытрымала сэрца, ён злёг і не ўстаў. Танас сцягнуў ягонае золатка, пакуль у доме рыхтаваліся да пахавання і вяселля, ён уцёк і апынуўся ў Салуне. Тут ён купіў сабе паруснік, двухмачтавік, і рабіў на ім розную «работку» ў блізкіх і далёкіх водах. У многіх выпадках гэтая яго работка была не ў ладах з законам, але ўлады не надта прыдзіраліся — нездарма ён да каляд і вялікадня падкідваў ім, як сабакам костку, па якім-небудзь кавалку залатога мяска. Ён сумаваў па родных мясцінах, хацелася вярнуцца туды, але як вернешся — там, канечне, помнілі пра тую злашчасную стралу. Асабліва ж сэрца ягонае балела па родным сяле двойчы на год — падчас жніва, у канцы чэрвеня, і збору вінаграду, калі пачынаюць жаўцець дрэвы. У такія дні, калі балела душа, ён не вылазіў з карчмы, а калі здаралася выйсці па справе — прамаўляючы слова «па справе», ён шматзначна ўсміхаўся, — не разбіраў, каго гладзіў нажом па галаве — нікееyц гэта ці франк.

— Пра адно толькі прашу бога, каб пад гарачую руку не трапіўся мне свой брат, балгарын! — хрысціўся Танас.

— Не бойся! — суцяшаў я яго. — Бог не можа пад-

строіць такую пастку тваёй душы. Гэта можа зрабіць толькі д'ябал!

Ён доўга глядзеў на мяне і задумліва хітаў галавой.

— Ты не дазваляй, каб гэты «д'ябал» быў часта на вуснах тваіх, хлопча, таму што палічаць цябе ерэтыком і ў які-небудзь дзень ты ўспыхнеш полымем на кастры на іпадроме. Пакінь гэтыя справы рыбакам ды грузчыкам!

Я не хацеў спрачацца з ім, таму што па прыродзе сваёй, як называлі такіх людзей старыя грэкі, ён быў «геданістам», а геданіст ніколі не зразумее багаміла. Ды чамусьці ў яго прысутнасці жаданне спрачацца ў мяне наогул прападала, водар салёнага мора, які прыносіў ён, пахі карчмы і дзяўчат кружылі мне галаву, і мяне ахоплівала нейкая лёгкая туга, як быццам туман пачынаў запаўзаць мне ў душу. Воля мая слабела, і калі б ён у гэты час сказаў мне: «Хадзем са мной!» — я пайшоў бы за ім, не спытаўшыся куды.

Але гэта былі, вядома, кароткія хвіліны настрою; адным скачком я пераскочыў з сеньёрскага замка ў рыбацкую хаціну, са Старога запавету ў Новы, дык калі б я быў нават сабакам, то непазбежна адчуў бы ў душы сумятню.

І ўсё-такі свае адносіны да Танаса я зразумеў — ён быў блізкі той частцы маёй душы, ад якой я адмаўляўся і збіраўся адрэзаць у імя праведнага жыцця. А вось паводзіны Вучыцеля Іосіфа часта прыводзілі мяне ў неўразуменне. Ён даваў мне перакладаць багамільскія кнігі і быў задаволены тым, як пад уплывам тых кніг мяняюцца мае думкі і як маё сэрца хутка напаўняецца любоўю да багамільскай веры. Ён быў у захапленні ад таго, што я вырашыў жыць святым і чыстым жыццём, але калі я адмаўляўся ад мяса і іншых прысмакаў, якія прыносіў Танас, ён адразу пачынаў сварыцца: «Еш, еш! Усё еш, ні ад чога не адмаўляйся!» Іншы раз падахвочваў нават узяць глыток-другі віна.

Аднаго разу, гэта было ў ціхі надвячорак, такая дваістасць у яго паводзінах мяне ўзлавала, я ўскіпеў, ажно ў вачах пацямнела.

— Паслухай, Вучыцелю, — кажу я яму, — ці ты кпіш з мяне, ці што? Ты нібы толькі перакладчыка бачыш ува мне, а чалавека не заўважаеш! Як гэта так? Душа ў мяне адвярнулася ад усяго ранейшага, ад ранейшае веры, ад былых памылак, я хачу пайсці шляхам, якім

ішлі мае бацька і маці, а ты штурхаеш мяне да граху, прымушаеш дагаджаць страўніку, умацоўваць цела, якое ад д'ябла. Калі раней я аддаваў душу д'яблу, дык рабіў гэта толькі таму, што ісціна была схаваная ад маіх вачэй. Чаму ты хочаш, каб я цяпер прымаў грэх на душу, калі вочы мае адкрыліся? Ты альбо будзь са мною шчырым, альбо... не ведаю! Злы Майсееў бог падсоўвае мне галавешку ў руку, каб паліў... І ў вачах у мяне цямнее, як тады, калі я расквітаўся з рыцарам Гіёмам!

Гэтыя мае словы былі відавочным сведчаннем, што я на той час яшчэ не дарос да новае веры. Але я тады лічыў, што мая праўда, што Вучыцель не давярае мне і таму паводзіць сябе са мной ні так, ні гэтак. А ў Людовікавым замку мяне вучылі, што калі нехта выказвае табе недавер, крый божа, дык тым самым наносіць самую крыўдную абразу, і абразу гэту мажліва змыць толькі вострым мячом. Вядома, я ніколі не падняў бы руку на Вучыцеля не толькі з той прычыны, што ён дапамог мне збавіцца ад памылак, але і таму, што ён быў стары чалавек і нагадваў жывыя мошчы. Не, я ніколі не крануў бы гэтага чалавека.

Убачыўшы, што я такі расстроены і злосны, Вучыцель сам вельмі засмуціўся, і ледзь слёзы не закапалі з яго выцвілых вачэй. Ён апусціўся на лаўку і доўга моўчкі глядзеў на мора. Потым запрасіў мяне сесці да яго і папытаўся:

— Значыцца, ты хочаш перайсці ў нашу веру, стаць добрым хрысціянінам?

— Калі ў цябе няма даверу да мяне, — наракаў я, — навошта даеш мне перакладаць патаемныя багамільскія кнігі? Я ж магу цябе ўдаць, і ты ўспыхнеш полымем на салунскім іпадроме!

— Гэтага ты ніколі не зробіш, дзіця! — уздыхнуў Вучыцель.

Ён прамовіў гэтыя словы з такім перакананнем, што мне нават стала сорамна. Сорамна перад самім сабою.

— Я пажартаваў, — кажу. — Дурны жарт састроіў. Даруй мне, Вучыцелю!

— Табе пра хрышчэнне думаць рана, сынок, і з гэтым не спяшайся! Ты за кароткі час шмат награшыў, і збавіцца ад грахоў табе можна будзе праведным жыццём і самаадданым служэннем ісціннай веры Хрыстовай на працягу многіх гадоў.

— Як жа мне служыць ісціннай веры Хрыстовай, калі ты падбіваеш мяне есці скаромнае, а іншы раз нават піць віно?

— Мы не прымушаем, сыне, нават хрышчаных нашых пабрацімаў жыць у поўным посце. Суровы пост на ўсё жыццё прымаем толькі мы, выбраныя. Але ты не засмучайся. Я прыму твой грэх на сваю душу, і ў дзень тваёй смерці я засведчу перад богам, што сам навучаў цябе грашыць. І твой грэх бог прыпіша мне, і я буду адказваць за яго.

— І ўсё-такі я не разумею, — кажу, — чаму я павінен грашыць?

— Таму што мне патрэбна моцнае плячо, сыне, як тваё, на якое я мог бы абаперціся ў далёкім шляху, які мяне чакае.

І ён мне расказаў прытчу.

Адзін аўчар пасвіў вялікую чараду авечак. Па дарозе да кашары, калі ён гнаў авечак на начлег, узнялася завея, і на чараду напалі ваўкі. Яны маглі перадушыць усю чараду, але ён аддзяліў ім адну авечку, і ваўкі накінуліся на яе. Пакуль яны грызліся між сабой, і кожны стараўся ўрваць большы кавалак ад авечкі, аўчар загнаў чараду ў кашару і заваліў вароты. На другі дзень гаспадар чарады кажа аўчару: «За тое, што ты адлучыў адну авечку ад ста маіх авечак і кінуў яе воўчай гайні, каб яна разарвала яе, я цябе аштрафую на адну драхму. А за тое, што ты падмануў тую гайню гэтай авечкай і схаваў астатнія дзевяноста дзевяць авечак у кашару і такім спосабам захаваў іх жывымі, — я ўзнагароджу цябе дзевяноста дзевяццю драхмамі». І гаспадар ад сэрца даў тыя драхмы пастуху. А пастух радаваўся не драхмам, а авечкам, якіх ён выратаваў ад ваўчыных зубоў.

Мы доўга маўчалі, загледзеўшыся на мора.

Потым Вучыцель запытаўся ў мяне:

— Ці зразумеў ты прытчу, сыне?

— Пастух, Вучыцелю, гэта ты; адлучаная авечка — гэта я; а ваўкі — гэта д'яблы, якія губяць чалавечую душу. Я толькі аднаго не разумею, Вучыцелю: чаму трэба, каб маю душу кідалі д'яблам? Ты дапамог мне пранікнуць розумам у ісціну, і я стаў відушчы. Я хачу весці праведнае жыццё і годнымі богу справамі скупіць грахі свае ранейшыя. Я гатоў пачакаць з хрышчэннем. І буду чакаць цярпліва. Але чаму ты, пастыр, хочаш

адлучыць мяне ад авечак яшчэ да таго, як я далучыўся да чарады?

— Ты маеш права пытацца пра гэта, дзіця, і я разумею твой страх!

Калі Вучыцель намякнуў мне на мой страх, я ўвесь натапырыўся і, калі б не адчуваў пашаны да яго гадоў і ўдзячнасці за тое, што падаў мне руку і вывеў на святло, нават не ведаю, якіх слоў нагаварыў бы яму за гэта!

— Вучыцелю, — сказаў я, — ты доўга жывеш на свеце і, мабыць, ведаеш, што такое страх, а можа, нават спазнаў яго на сваёй скуры. Бо я чуў, што той, хто палохаецца, адчувае на сваёй скуры дрыжыкі. А ў мяне жыццё яшчэ кароткае, і я не меў часу зведаць гэтае пачуццё. Але хачу сказаць, Вучыцелю, што, калі нават я буду жыць сто гадоў, я не зведаю страху. Няхай бы вось перад намі адкрылася прорва глыбінёй як мора, і там, на самым дне, шугала пякельнае полымя. А ты б сказаў мне: «Лукане, спусціся ў гэтую апраметную, прабіся праз д'ябальскае зборышча і прынясі мне адтуль галавешку!» Клянуся табе, Вучыцелю, светлай памяццю маіх бацькі і маці, што сэрца маё не ўздрыгнула б нават! Я скочыў бы туды і прынёс табе галавешку з пекла. Так што, Вучыцелю, ты ўсё мне можаш казаць, і толькі аднаго я не хачу слухаць — быццам мяне можа ўзяць страх!

Вучыцель зразумеў, што я ўзлаваўся, таму памаўчаў, даючы мне час супакоіцца. Потым кажа:

— Спачатку Ісціна была адкрыта ў нашай краіне, у Балгарыі. І таго чалавека, які адкрыў яе, балгары назвалі «богуміл». Гэта быў наш Першы пастыр.

— І як у Хрыста калісьці, так і ў яго, вучня Хрыстовага, былі свае вучні. Адны яго вучні пасвілі статак Хрыстовы ў Балгарыі, распаўсюджвалі яго вучэнне і хрысцілі людзей Духам святым.

— Другія яго вучні па прыкладу апосталаў накіраваліся ў чужыя землі і там вучылі і хрысцілі людзей Духам святым. Яны неслі святло ў блізкія і далёкія краіны — у Сербію і Харватыю, у Італію, у краіну франкаў.

— У Балгарыі цяпер царуе Барыл, забойца Калаяна і чалавек з норавам звера. Нашых братоў ён падвяргае вялікаму ганенню. Але папа рымскі ўтрая пераўзышоў яго ў крыважэрнасці: на зямлі франкаў ноч светлая ад запаленых кастроў. У полымя там кідаюць сотнямі. І ў

гэты страшны для іх час нашы браты там маюць патрэбу ў Слове, каб умацаваць свой дух і не сагнуцца перад пякельнымі пакутамі.

— У цяжкі час пастыр павінен быць пры чарадзе. А які пастыр можа лепш за ўсё дапамагчы гэтай чарадзе? Зразумела, той, які прыйшоў з краіны, дзе Слова засвяцілася ўпершыню.

— Я павінен ісці ў тыя краіны. Але я стары і нядужы, і каб дабрацца туды, мне патрэбна моцнае плячо, на якое я мог бы абаперціся. А калі буду там, спатрэбіцца і моцная дзясніца, якая дапамагала б мне расчышчаць шлях.

— Але каб плячо ў цябе было моцнае, каб ты вярнуў сабе ранейшыя сілы, сынок, ты павінен есці добрую ежу. Якую ядуць багатыя. А як прыйдзем туды, калі ты пойдзеш са мной, давядзецца табе браць на душу і іншыя грахі. Шлях да статка, сынок, д'ябал перагарадзіў рознымі небяспекамі, і дзеля таго, каб расчысціць яго, табе давядзецца не выконваць некаторых Хрыстовых запаведзяў.

— Вось чаму пастыр хоча адлучыць цябе ад Ісціны і аддаць ваўкам, каб самому дайсці да статка. Ахвяраваць адной авечкай, каб выратаваць дзевяноста дзевяць.

— Дзеля гэтага я нядаўна расказаў табе прытчу.

— Душа пастыра, калі апынецца перад тварам бога, скажа: «Госпадзі, ён не вінаваты, я загадаў яму грашыць! Ягоная віна — мая віна, і за грахі ягоныя павінен плаціць я!»

— Гэтак пастыр скажа богу, калі апынецца перад тварам Яго.

— У прытчы гаспадар благаславіў пастыра. Але прытчы — справа чалавечая, а ўсё чалавечае мае адзнакі недасканалага. І ці бог благаславіць пастыра, а таго, хто зграшыў, адправіць у вечны агонь; ці зробіць наадварот: таго, хто зграшыў, благаславіць і адчыніць яму дзверы Раю, а пастыра адправіць у вечны агонь — гэтага ніхто не можа ні ведаць, ні прадказаць.

— Рызыка ў цябе вялікая, дзіця, і ты сам павінен вырашыць: ці прымае яе тваё сэрца, ці адкідае.

Пасля гэтых слоў Вучыцеля я адчуваў сябе так, як бы адчуваў на турнірным паядынку на кароткіх мячах, калі мой праціўнік раптам схапіў кап'ё і наставіў мне

яго ў сэрца, а ў мяне няма шчыта, каб засланіцца. Гэткая была для мяне нечаканасць.

Але чалавек памірае аднойчы, і са смерцю цела канчаюцца яго і пакуты. Потым душа адлятае, вызваленая з турмы сваёй, і калі яна жыла праведна, адыходзіць на вечныя часы да бога, а калі — у грахах, пойдзе на вечныя часы ў агонь.

Вучыцель збіраўся ісці да багамілаў, якія жывуць на італьянскай зямлі, і да багамілаў, якія насяляюць франкскую зямлю. Шлях да гэтых краін доўгі, і праходзіць ён праз свет, варожы Вучыцелю, ды варожы і ўсяму балгарскаму, таму што там, на захадзе, як мог я меркаваць па тым, што чуў у Людовікавым замку, да гэтага часу не могуць зміршцца з паражэннем імператара Балдуіна ад балгарскага войска. Каб ахоўваць Вучыцеля Іосіфа, праходзячы гэтым варожым светам, і захаваць яго жывым і здаровым, кіравацца давядзецца зусім не Ісусавым наказам: «Любіце ворагаў сваіх!», а Майсеевым: «Вока за вока, зуб за зуб!» Калі кіравацца Ісусавым наказам не праціўіцца злу, пакуль дабяромся да франкскай зямлі, ад Вучыцеля застанецца адно слова і тое не будзе чутно паміж беднымі на зямлі, а хіба толькі ў царстве нябесным.

Каб ахоўваць Вучыцеля і расчышчаць яму шлях у тым ашчэраным супраць Балгарыі папскім свеце, я павінен жыць па Майсею, а вядома ж, што той, хто жыве па Майсеевых законах, сам сябе аддае д'яблу і асуджае на ўсе пакуты ў пекле.

Спадзявацца на тое, што Вучыцель засведчыць перад богам, што грашыў я не па сваёй волі, а дзеля яго — справа ненадзейная, і не таму, што Вучыцель адмовіцца ад свайго слова, — ён проста можа забыцца. У такім узросце людзі, як кажуць, і імя сваё забываюць! Ды і няпэўна гэта — не, больш чым няпэўна! — нават калі ён будзе сведчыць за мяне, што бог возьме мяне ў рай, а яго, праведніка, пашле ў пекла. І гаворкі быць не можа! Ён багаміл-Абраннік, а я нават не хрышчаны...

— Калі табе цяжка адважыцца, — Вучыцель паклаў мне на плячо сваю сухенькую руку, — не спяшайся, дзіця. Супакой душу сваю, абдумай усё. Заўтра я зноў наведаюся! — Ён узняў руку для благаславення і ціха прамовіў: — Благаславіце нас, злітуйцеся над намі! Амін!

Ужо апускаўся ціхі вечар, і шчупленькая яго постаць патанула ў мяккім мораку.

Я спусціўся на бераг, узвёў вочы на ўсеянае зоркамі неба і ў думках памаліўся: «Божа, няхай абміне мяне горкая чаша. Але няхай будзе не мая воля, а Твая!»

Я прылёг на пясок, і пад ціхі пошум хваляў мяне адолела стома, бо цяжкаю была размова з Вучыцелем, і я хутка заснуў.

Праз дзень раніцай, калі я перакладаў «Бачанне Ісаева» і дайшоў да таго месца, дзе анёл паказвае Ісаю сцэну будучага Прышэсця, на мяне найшоў неспакой, я стаў рассеяны і, каб развеяцца, выйшаў на нейкі час на двор.

А як выйшаў ды паглядзеў на дарогу, што вядзе ў горад, адразу мне стала ясна, адкуль ідзе мой гэты неспакой. Па гэтай дарозе накіроўваліся ў мой бок Інэса і рамеец Ісак. У Інэсы на галаве была доўгая белая вуаль, яна, відаць, прыкрывала твар, а як толькі выйшла з горада, адкінула, і яе твар ззяў ад сонца. Ісак жа, наадварот, насунуў на галаву капюшон франкскага манаха, дык хіба толькі я, бачыўшы яго тысячы разоў, мог здагадацца, што гэта ён.

Калі я ўбачыў Інэсу, нібыта дзве сілы пачалі тузаць мяне. Адна сіла штурхала мяне да будыніны, каб я схаваўся там за козламі і бухтамі канатаў, а другая сіла цягнула наперад, прымушала кінуцца насустрач Інэсе, упасці перад ёю на калені, абхапіць яе ногі рукамі. І прытуліцца галавою, а там няхай усе нябёсы абрынуцца на мяне...

Ніводнай з гэтых сіл не ўдалося ўзяць верх, і я апусціўся на лаўку, няшчаснейшы за сабаку, які згубіў свайго гаспадара.

Калі яны падышлі зусім блізка, за некалькі крокаў ад мяне, Інэса ўсклікнула:

— Люкан, ці ты не бачыш мяне? — І падышла яшчэ бліжэй.

А я наставіў перад ёю руку, нібы не падпускаючы да сябе, і закрычаў:

— Ідзі прэч, нячыстая сіла!

На нейкі час Інэса анямела, потым павярнулася да Ісака:

— Ці не звар'яцеў ён?

— Моза, і звар'яцеў, — адказаў рамеец. — Трыццаць

палак — гэта нямала. А цяпер зыве ў гэтай сабацай будцы. Яго мозна зразумець. — Ён зайшоў наперад Інэсы і загаварыў да мяне: — Люкан, хлопца варварскі, ці ты не пазнаес свайго вуцыцеля?

— Ідзіце прэч адгэтуль! — грукнуў я па лаўцы кулаком. — Да д'ябла!

— Трэба ісці, — уздыхнуў Ісак. — З ім нешта нядобра!

— Гэта ж ён ненавідзіць нас, — сказала Інэса. — І, напэўна, мае на тое права. — Потым мякка загаварыла да мяне: — Люкан, мы зараз пойдзем. У нас такая там сумятня! Спяшаемся, пакуль генуэзцы не перакрылі нам шлях па моры! І ў гэтай мітусні. я ўсё-такі падумала пра цябе, мой безразважны хлопчык! — Яна дастала з-за пазухі пергамент і падкінула яго да маіх ног. — Я сама напісала гэта і тайком паставіла бацькаву пячатку — ён цяпер цэлымі днямі на прыстані, дык я і скарыстала яго адсутнасць. Гэты дакумент пацвярджае, што ты «кавалер», і дае табе права насіць меч.

Ісак дастаў з-пад плашча меч і таксама кінуў яго да маіх ног. Меч быў з крыжавінай і пазалочаным дзяржаннем.

— Інэса! — усклікнуў я, не стрымаўшыся, і ледзь не кінуўся, каб абняць яе. Але не скрануўся з месца, і гэта яе засмуціла — я заўважыў, што па твары ў яе прабег цень.

— Табе не здаецца, што ты паводзіш сябе як нявыхаваны? — з выклікам сказала Інэса. А як я маўчаў, яна дадала: — Буду чакаць цябе ў Нармандыі, там ты папросіш у мяне прабачэння!

— У барона Людовіка ў Нармандыі маёнтак, — пачаў тлумачыць Ісак. — З гэтым дакументам ты мозас падарозніцаць па ўсёй франкскай зямлі і прыехаць у Нармандыю, калі захоцас. Барон пра ўсё забыўся і будзе вельмі рады цябе бацыць.

— Асабліва калі не спознішся на маё вяселле! — падкінула Інэса.

Яна, пэўна, разлічвала, што яе словы крануць маё сэрца, але я застаўся да іх безуважны, маю душу не зварухнуў нават лёгкі ветрык. Яна не ведала, што таго «Люкана», ранейшага, ужо няма, што перад ёй зусім іншы чалавек, хоць і з ранейшым тварам. Акрамя ўсяго, яна пераела мне сэрца сваёю гульнёй у ката і мыш.

— Барон будзе рады цябе бацыць! — паўтарыў Ісак.

— Каб злупіць з маёй спіны яшчэ трыццаць скур! Гэтак жа? Не трэба мне ўжо ніякія бароны, — сказаў я рэзка. — А вы ідзіце сабе.

Інэса нахмурыла бровы, закрылася вуаллю і, не сказаўшы больш ні слова, пайшла той жа дарогай назад.

— Ты, хлопца, як быў варвар, так і застаўся! — паківаў мне пальцам Ісак. — Ну як ты мог?..

Ён не дагаварыў, а дастаў з-за пазухі аксамітную каліту і кінуў яе да маіх ног.

— Гэта ад Інэсы, на дарогу да Нармандыі! Хоць ты і не заслугоўваес, дрэнны хлопец!

Ён павярнуўся і пайшоў.

Я сядзеў і глядзеў ім услед. Потым адышоў са здранцвення, схапіў каліту і з усяе сілы шпурнуў услед ім.

Яны на момант азірнуліся, але не ўзялі каліты, а прыспешылі свае крокі, як быццам за імі нехта гнаўся.

І раптам аднекуль насустрач ім выскачыў марак Танас. Мне нават здалося, што ўсе трое пераглянуліся і Танас нібыта нават кіўнуў ім. А можа, мне гэта толькі здалося.

Танас нагнуўся, падняў з пяску каліту, абабіў ад пылу і падышоў да мяне.

— Усё на свеце ты можаш паслаць да д'ябла, — прамовіў ён, — толькі дзве рэчы нельга: жанчыну, якая цябе нарадзіла, і золата, якое табе дораць. Гэтыя рэчы святыя, і з імі так абыходзіцца нельга!

— Вярні ім гэту каліту, — ашчэрыўся я, — а не дык я заб'ю цябе! Заб'ю, хоць ты выратаваў мне жыццё, чуеш?

Мяне душыла злосць, і ў мяне ажно ўваччу пацямнела.

— Я звар'яцелых людзей не слухаю, — пахітаў галавой Танас. — А калі ты вырашыў падняць руку на свайго збаўцу, дык давай! — І ён пачаў закасваць рукавы.

Ён глядзеў мне проста ў вочы, смеючыся і разам з тым шкадуючы мяне. Вядома, я здужаў бы яго хутка, але ў душы ў мяне раптам успыхнуў сорам.

— Я не хачу іх золата! — кажу. — Не трэба мне баронскае золата! Аддай ім назад, я вельмі прашу!

Нешта сціснула мне горла, і з вачэй пасыпаліся слёзы. Я апусціўся на зямлю і абхапіў галаву рукамі.

— Біцца дык ты вялікі... Як змей! — паляпаў мяне

Танас па плячы і кульнуўся да мяне. — І сілы ў цябе, як у быка. Але сэрцам ты мяккі, а розум у цябе, даруй, хлопчык ты мой, розум у цябе яшчэ зялёны. Гэтае золата, — ён папляскаў па каліце, — хіба сам барон з зямлі выкапаў? Гэта ўсё падаткі, павіннасці, пот чалавечы, удовіныя слёзы, кроў. Барон паедзе ў Нармандыю і за яго купіць новыя землі, новых прыгонных, да старога замка пабудуе новы замак. А табе гэтае золата патрэбна на святую справу. Праз тыдзень я падыму ветразі на сваім караблі і павязу цябе і таго добрага старога, што клічуць Іосіфам, — абодвух вас павязу ў далёкія і чужыя краіны. Як вы, чужынцы, будзеце жыць там без драхмы за душой? Ну, грошы на дарогу той святы чалавек дасць мне, а потым? Што вы потым будзеце рабіць абодва? Там міласціны не даюць, як у нас!

Слухаючы яго, я не ведаў, што і думаць. Хіба я ўжо даў Вучыцелю сваю згоду?

А пакуль я ламаў галаву над гэтым пытаннем, нейкі ўнутраны голас шаптаў мне: «Чаго ты прыкідваешся, Лукане? Яшчэ ўчора вечарам ты даў згоду. У той час як Вучыцель гаварыў, ты і сказаў яму, што згодзен!»

Я лёг на пясок, заплюшчыў вочы, бо сонца смаліла проста ў твар, і спытаўся ў яго:

— Дык калі адплываем, братка Танас?

Зіма 1946 г., Сафія, мой доктарскі кабінет.

...У Парыж я прыехаў 20 студзеня 1943 г.

Цягнік надоўга затрымаўся ў Югаславіі — партызанскія акцыі зблыталі ўвесь чыгуначны расклад. Харч, якім Ізмірлieў забяспечыў мяне на дарогу, я даўно з'еў, хоць асаблівага апетыту і не было. Два дні цярпеў голад, які можна назваць сабачым, таму што ён падмацоўваўся халадэчай. Паравозу не ставала пары, вагоны не ацяпляліся, а кожны, хто ездзіў зімою ў неацепленых вагонах цягніка, ведае, што гэта значыць.

Над Паўночнай Італіяй сыпаў марозны снег, вокны ў вагоне пазамярзалі. У прадрапанай пазногцямі наледзі ў акне праплывалі станцыі, амаль бязлюдныя, панылыя, іншы раз там тоўпіліся згорбленыя постаці італьянскіх вайскоўцаў, або спяшаліся цывільныя, звычайна ўсмешлівыя, а цяпер з панурымі тварамі, усмешкі з якіх даўно, вельмі даўно пасціраліся.

Па цішыні, па бязлюддзі, па апушчаных плячах ін-

шым часам ганарлівых нацысцкіх афіцэраў адчувалася, што вайна зацягнулася і справы ідуць не зусім так, як было задумана. Катастрофа пад Сталінградам, узняўшыся над прыволжскімі стэпамі, дасягнула Альпаў і, нібы нейкі апакаліптычны цыклон, імчалася далей — да Атлантычнага акіяна.

Над акупіраванай нацыстамі Францыяй вісела алавянае, шэрае неба. Прывабна інтымны і велічна прыгожы Парыж сустрэў мяне дажджом і снегам; горад быў такі панылы і прыгнечаны, збяднелы і такі незвычайна прыціхлы, знерухомлены, якім я не бачыў яго нават у самыя душныя жнівеньскія дні. І ўспаміну не засталося ад суцэльных патокаў машын, ад марнатраўнага асвятлення на Шан-з-Элізе і Рывалі, ад галавакружнай вавілоніі рэкламы. За шырокімі вітрынамі славутых кафэ каля Оперы, Пале Раяль і Гандлёвае біржы сядзеў знаёмы, чарвівы грашыма, свет, якому было ўсё роўна — ці ў Ле Гатэль дэ віль будзе пазяхаць французскі мэр, ці будзе грукаць па стале кулаком нямецкі гаўляйтар. Але ў кавярнях па Буль-муш, Сен Жэрмен дэ прэ і Манмартры ўжо не было колішняй публікі — артыстычна вясёлай, своеасаблівай п а р ы ж с к а й, сярод якой заўсёды якая-небудзь бледная Альфансіна Плесі чакала свайго Дзюма... Цяпер за гэтымі вітрынамі можна было бачыць толькі шэрую — не па адзенні, а па настроі — публіку, якая глядзела на двор, на бульварнае жыццё, вачамі, звернутымі ў саміх сябе, з пагаслымі ўсмешкамі, паглядам, у якім праблісквалі іскры — іскры злосці і нянавісці, — толькі калі перад вітрынамі ўзнікалі шэрыя мундзіры «бошаў», гітлераўскіх афіцэраў, альбо праносіліся кудысьці закрытыя зялёныя фургоны гестапаўскай камендатуры.

Я быў без ломанага франка ў кішэні, з фальшывым камандзіровачным пасведчаннем і падстаўлены ў такую гульню, дзе ставілі на банк жыццё і смерць, а на дробную стаўку чалавек можа атрымаць кубачак прамытай кавы, падсаладжанай сахарынам, альбо ў лепшым выпадку — выспятка пад зад і вяртанне этапным парадкам туды, адкуль з’явіўся. Таму я адразу, узяўшы ў руку свой элегантны чамаданік і памахваючы знятай пальчаткай у другой, упэўненым крокам накіраваўся на вуліцу Ру дэ ля Пэ.

Вітрыны шыкоўных калісьці кандытарскіх цяпер нагадвалі футбольны матч без публікі. На велізарнай

прасторы сярод люстэркаў і крышталю там-сям мізарнеў які-небудзь кексік са сціплай глазурай, якая булачка, фарфоравага колеру грудка, палітая падфарбаваным крухмальным крэмам. Хіба такія былі вітрыны, што зачароўвалі фантазіяй кандытараў, што бесперастанку ўдасканальваліся ад часоў каралевы Марыі Антуанеты да рамантычнага часу Ля бель эпока і ад «Снедання» Манэ да ўпаковачнага дызайна фірмы «Нестле»? Гэта былі вартыя жалю рэшткі слаўнага мінулага, вітрыны зганьбаванай і абрабаванай велічы; гэта нібы элегантная наведвальніца гала-оперы, уся ў каштоўных камянях, апранула б цяпер сукенку з таннага паркалю, а на шыю замест брыльянтавага калье начапіла шкляныя маністы, ад якой пахла б не духамі «Пацi», а звычайным адэкалонам з цырульні. Так выглядала цяпер вуліца Ру дэ ля Пэ.

Пра многае магла мне нагадаць Ру дэ ля Пэ, але на той час мяне хвалявалі не «ўспаміны мілыя, далёкія», а клопат — ці знайду я доктара Бруя, у клініцы якога я працаваў каля двух тыдняў летам 39-га года, і калі нават заспею — ці возьме ён мяне на працу?

Было дзесяць гадзін раніцы. Я націснуў званок і з заміраннем сэрца пачаў прыслухоўвацца, ці ідзе хто адчыняць. Ішла вайна, была акупацыя, дзесяткі клінік не працавалі, дактары з іх сышлі ў свабодную частку краіны. Можа, доктар Бруя, гэты дабрак, таксама куды падаўся?

Адчыніла мне чароўнае дзяўчо з плацінавымі валасамі і ў форменным халаце міласэрнай сястры — такім белым, што я ажно заміргаў.

— А доктар Бруя? — спытаўся я і скінуў капялюш.

— Доктар Бруя прымае ў панядзелак, сераду і пятніцу з адзінаццаці гадзін! — І як я маўчаў, чакаючы, пакуль супакоіцца ў мяне сэрца, каб загаварыць зноў, яна з папрокам прамовіла: — А сёння, калі не забыліся, якраз панядзелак, ці не так?

— Прабачце, калі ласка, — усміхнуўся я, адчуваючы, што бянтэжуся. (А толькі бог ведае, чаго мне было бянтэжыцца!) — Я не прыйшоў на прыём, — кажу. — Я проста прыйшоў пабачыць майго прыяцеля доктара Бруя!

— У вас была дамоўленасць? — пацікавілася дзяўчо.

Я дастаў з бумажніка яго старую візітную картку.

— Мы з ім старыя прыяцелі! — кажу.

Дзяўчына бесцырымонна агледзела мяне з галавы да ног і ці то з-за элегантнага чамаданіка, які я трымаў у руцэ, і жоўтых скураных пальчатак, ці мо вочы мае свяціліся неяк асабліва, бо галодны быў, як воўк, — але яна схіліла сваю лялечную галоўку да левага плечыка і велікадушна прашчабятала:

— Ну добра! Калі ласка...

Я распрануўся, зайшоў у прыёмную і пачаў чакаць. У абсталяванні тут нічога не змянілася. Хіба што на рэчах ляжала адзнака стомы, але, напэўна, гэтае пачуццё адчуваў толькі я.

Нарэшце дзверы з кабінета адчыніліся і на парог выйшаў, апрануты ў белы доктарскі фартух, мой колішні работадавец. Ён папаўнеў, пастарэў, скроні і мапасанаўскія яго вусы пасівелі. Да той энергіі, якую выпраменьваў ягоны твар, цяпер дадавалася дабрадушная хітрынка, а за ёю ўгадвалася мяккая, нібы прыкрытая цюлем, туга.

— Вы, васпане, з'яўляецеся заўсёды нечакана, гэтаксама і знікаеце! — Ён падаў мне руку неяк вялавата, але ветліва запрасіў размясціцца ў самае глыбокае і масіўнае крэсла. — Напэўна, у нас зноў нейкая сентыментальная гісторыя, га? — Ён хітравата паглядзеў на мяне, недаверліва паківаў галавой, але сказаў: — У мой час мужчыны з-за кахання перасякалі Атлантыку, а тады нават паштовым рэйсам трэба было плысці пятнаццаць дзён.

— Amor omnia vincit![1] — падхапіў я.

— Я вам веру! — сказаў доктар, але насмешліва-недаверлівы выраз з яго твару не сышоў.

— Мяне паслала наша міністэрства пастажыравацца пры Пастэраўскім інстытуце, але за свой кошт...

— Кепскім часам вы прыехалі, дарагі мой прыяцель, — уздыхнуў ён. — Бачыце, што звалілася на Францыю і мой мілы родны Парыж! Бедны Парыж! Мяне звалі ў Манпелье, шаноўны, але я адмовіўся. Лёс Парыжа — мой лёс. Я тут нарадзіўся, маладосць мая прайшла на гэтых вуліцах, не магу без іх. Не магу без майго кафэ, без Сены, без Булонскага лесу, дзе ў маладыя гады я столькі кахаўся! Ну, але нічога, спадзяюся, што калі-небудзь усё паправіцца і бошаў не стане.

— Абавязкова не стане! — усклікнуў я.

---

[1] Каханне перамагае ўсё! *(лац.)*

Ён уважліва паглядзеў на мяне, але нічога не сказаў. Потым загаварыў пра іншае:

— Пастэраўскі інстытут цяпер не працуе. Адкладзіце сваю стажыроўку да лепшага часу. А цяпер, мсье, калі ў вас ёсць жаданне працаваць і калі маеце патрэбу ў грашах — мая клініка да вашых паслуг. Я помню вашы цудоўныя аперацыі! Далібог, вы проста факір. Але які тады быў час! Як вы помніце, у мяне было трое памочнікаў, а цяпер я адзін. А работы не паменела, наадварот!

— Гэта мне будзе вялікі гонар! — сказаў я.

— А як у вас з дакументамі — у парадку?

— Абсалютна! — кажу.

Ён паклікаў дзяўчыну з плацінавымі валасамі і загадаў ёй прынесці нам па чарцы каньяку. Калі дзяўчына падавала каньяк, ён жартоўна пагразіў ёй пальцам:

— Глядзі, Нана́, гэтыя з поўдня, — ён кіўнуў у мой бок, — небяспечныя мужчыны, не губляй розуму!

— Будзьце спакойныя! — адказала дзяўчына.

— Ужо два гады, як памерла мая жонка, — уздыхнуў доктар. — Цяпер я самотны, маркотны халасцяк.

Перад тым як развітацца, я зайшоў да рахункавода і атрымаў пяцьсот франкаў авансу. У бліжэйшай кандытарскай купіў дзве булачкі і, глытаючы іх на хаду папоўніцы, пакрочыў да авеню Рап. Там, у адным бістро, я павінен сустрэцца з чалавекам, да якога пасылаў мяне Ізмірліеў.

Авеню Рап, хоць яно праз мост Альма і авеню Мантэнё выходзіла на Шан-з-Элізэ, было параўнаўча ціхай і малалюднай вуліцай. Бістро ж знаходзілася на апошнім яе скрыжаванні перад мостам Альма. Чалавек, якога рэкамендаваў мне Ізмірліеў, быў прыкладна маіх гадоў, апрануты ў белы, ручной работы, пуловер і шэрае, шырокае ў плячах паліто. Пасля таго як мы абмяняліся ўмоўнымі паролямі, я пахваліўся, што, паспеўшы толькі прыехаць, я ўжо ўладкаваўся на працу ў клініку доктара Бруя. Мой суайчыннік, які прапанаваў мне называць яго Люсьенам, а мяне ён будзе зваць Мішэлем, адразу захацеў удакладніць, дзе знаходзіцца гэтая клініка. Калі я растлумачыў, што знаходзіцца яна па вул. Ру дэ ля Пэ, паміж Рывалі і Рышэлье, яго ахапіла вялікая радасць, ён нават пачаў марыць.

— Ты не можаш сабе ўявіць, — захоплена гаварыў ён, — якую паслугу ты можаш аказаць французскім таварышам, якіяназіраюць за германскімі ўстановамі ў цэнтры горада. А ў гэтым жа раёне знаходзяцца штаб акупацыйнай арміі, галоўнае інтэндантства і цэнтральная камендатура гестапа. Ты ўяўляеш, дарагі Мішэль? Клініка будзе яўкаю, а пры неабходнасці ты будзеш выконваць абавязкі кур'ера. Цябе ніхто не западозрыць, таму што ты персона грата, чалавек, камандзіраваны з саюзнай дзяржавы!

— Я думаў, што як былы інтэрбрыгаднік я буду дзейнічаць у якой-небудзь падпольнай групе балгарскіх эмігрантаў! — сказаў расчаравана я.

— А навошта мяняць каня на асла? — развёў рукамі Люсьен. А бачачы, што сапсаваў мне настрой, пачаў пераконваць: — У нашай справе мы не можам кіравацца сентыментальнымі пачуццямі, дарагі мой доктар! Кожны павінен працаваць там, дзе можа быць максімальна карысны справе.

Мы выпілі кавы з маленькай чарачкай каньяку, тады Люсьен сказаў:

— Заўтра ў клініцы цябе спытае чалавек па імені Марсель Арно. Запомні гэта імя. Марсель Арно. Давярай яму цалкам і ва ўсім падпарадкоўвайся. А пра мяне забудзься — быццам ніколі і не бачыў! — Ён усміхнуўся: — Да перамогі!

— Да перамогі! — я горача паціснуў яму руку.

Так я стаў гаспадаром явачнай кватэры і кур'ерам адной з груп Супраціўлення, якая дзейнічала ў Першым парыжскім раёне. Задачы, якія меў я выконваць, супадалі з маімі сафійскімі задачамі, што выконваў тыдзень таму назад, з той розніцай, што цяпер я павінен быў дзейнічаць на французскай зямлі...

## 17

«Да д'ябла! — вылаяўся я ў думках і звыкла працягнуў руку па люльку і тытунь. — Калі б я верыў у прымхі, дык можна было б падумаць, што гэта не проста супадзенне, а «наканаванне»! І ў Балгарыі фашызм і германскія войскі, і ў Францыі — амаль тое самае, акупацыя і гітлераўскія войскі. І тут — падпольная дзейнасць і супраціўленне, і там. Зрэшты, нічога дзіў-

нага, калі з'явы падобныя, дык могуць супадаць і формы!» Але працягваў шукаць люльку і тытунь, таму што быў сам не ў сабе, а калі ўжо мяне ахопіць гэтае пачуццё, мяне адразу цягне курыць. Мяне заўсёды азадачвалі розныя супадзенні ў жыцці — у большай ці ў меншай ступені, бо яшчэ ніколі не ўдавалася ўціснуць іх да канца ў сваю лагічную прамудрасць — заўсёды штосьці вытыркалася.

— Што за чорт! — паглядзеў я незадаволена на Юлю. — Дзе ты схавала люльку і тытунь?

— Табе нельга курыць! — паківала Юля галавой і бессаромна пагразіла пальцам. — Не-ельга! Пасля такога сардэчнага прыступу ты надоўга забудзься пра курэнне!

Малая яўна перабірала меру. Што яна сабе думае?

— Паслухай! — кажу. — Аддай мне люльку па-добраму і перастань іграць ролю апякункі!

— Ніякай ролі я не іграю.

— Іграеш, іграеш! Але я не такі далікатны, як мой бацька, глядзі!

— Калі б табе хоць крыху бацькавай далікатнасці, ты быў бы самым цудоўным чалавекам на свеце!

Я зразумеў, што люлькі яна не аддасць, і вырашыў крыху прыструніць яе.

— Дзякуй богу, што я не самы цудоўны чалавек на свеце, — кажу. — А то ты, чаго добрага, яшчэ закахалася б у мяне!

— Ну і што? — паглядзела на мяне яна нібыта спакойна, як мадонна, але не змагла схаваць чырвані, якая ўспыхнула на яе шчоках. — Што цябе гэтак напалохала б, калі б ты быў самы цудоўны чалавек і я закахалася ў цябе?

— Адкуль я ведаю? — сціснуў я вусны.

— Напэўна, думаеш, што пачала б рабіць захады, каб развесці цябе з жонкай?

— Ну, каб ты была настолькі дурной — не! — засмяяўся я.

— Божа мой, — ледзь чутна прастагнала яна. Шчокі ў яе пабялелі, а ў куточках вачэй нагарнуліся слёзы.

— Ну, не крыўдуй ужо гэтак! — сказаў я. — Але ці мала дактароў пакідала жонак дзеля розных сястрычак? Вы, сястрычкі, наогул спакуслівыя, і вам не так ужо цяжка задурыць галаву чалавеку!

Яна адвяла вочы ад майго твару, нейкую секунду-

другую як быццам не ведала, на чым затрымаць погляд. Потым утаропілася ў мой расклад, узяла паперыну ў рукі, стала ўважліва чытаць, хоць я быў перакананы, што яна ведала ўсё на памяць.

— Я павінна даць вам вячэрнюю дозу ізакету і ланітопу! — прамовіла яна, не ўзнімаючы галавы ад «раскладу».

— Вы так мяркуеце? — на «вы» я адказаў «вы».

Яна злёгку паківала галавой, паклала таблеткі на маленькі сподачак, падала:

— Прыміце таблеткі...

Я перасыпаў таблеткі ў жменю і кажу, падкідаючы іх на далоні:

— Калі ты будзеш здзекавацца з мяне гэтым «вы», то ўстану і насыплю табе гэтых таблетак за пазуху, так і ведай. Зразумела?

— Я ведаю, што вы грубы, што вы нястрымны, але вельмі вас прашу — не будзьце благі. Хоць у адносінах да самога сябе не будзьце благі! — Яна стаяла проста як статуя, і твар яе стаў халодны, нібы выраблены з мармуру. А голас, ласкавы, з ноткамі суму, як быццам быў не яе — нейкай іншай жанчыны.

Я адштурхнуў кубачак, які яна трымала, і праглынуў таблеткі без вады.

— Дзякуй вам! — нахіліў я галаву з падкрэсленай ветлівасцю.

— Калі ласка! — адказала яна. І спыталася, гледзячы паўзверх маёй галавы: — Праз паўгадзіны вы павінны прыняць таблетку валіуму. Не забудзьцеся, ці я павінна напомніць?

— Нянек мне не трэба! — адказаў я.

І мяне раптам ахапіла такая гаркота, што я ледзьве не ахнуў і не хапіўся за сэрца, як гэта робяць у такіх выпадках жанчыны. Я выцягнуўся на ложку, зрабіўшы выгляд, што мне ўсё абрыдла, і заплюшчыў вочы.

Яна папраўіла мне коўдру (ні разу нават не паглядзеўшы на мяне, нягодніца!), уключыла настольную лямпу, выключыла верхняе асвятленне. І замест таго каб заняць сваё звычайнае месца ў глыбокім і шырокім крэсле на колцах, якое ўвечары яна падцягвала да майго ўзгалоўя, яна пачціва сказала мне «дабранач» і пайшла ў спальню маёй жонкі.

«Але ж і асёл я! — вылаяўся я ў думках, стараючыся адагнаць горыч, якая ціснула на душу. — Не толькі

асёл — забіць мяне мала!» — працягваў я біць нагамі і грэбаць рукамі, каб выбрацца на паверхню вады.

І то выскокваў на паверхню, то зноўку тануў. Калі выбіраўся, рабіў глыбокі ўдых і думаў: «Ну, цудоўнenька, як гэтак будзе і далей, дык хутка разам ляжам спаць. Мара! А што потым — ці адчуваю я да яе якія-небудзь іншыя пачуцці, акрамя пажадлівасці, каб трымалася гэтая сувязь і надалей? Калі гэта толькі пажадлівасць, гісторыя ў які-небудзь вечар завершыцца, і пасля таго — бывай, мілая! Такіх, як ты, бадзяга Танас сустракаў на кожным беразе і ў кожным порце...»

Як толькі пачынаў думаць так, мяне зноў агортвала туга, і думкі ў мяне мяняліся: «Якая там пажадлівасць! Я гэтак прывык да яе, што калі яе няма — быццам няма часткі мяне самога! Варта ёй выйсці на кухню, каб прыгатаваць мне чай, я лічу хвіліны, пакуль яна вернецца, і тыя хвіліны здаюцца мне гадзінамі. А выйдзе з дому, і я ўвесь ператвараюся ў слых — каб пачуць яе крокі зноў, ператвараюся ў зрок — хутчэй пабачыць, як яна адчыніць дзверы ў пакой, а яе вочы ўсміхнуцца: «Ну вось і я! Як ты тут без мяне?»

Няхай мяне возьме чорт, калі гэта проста пажадлівасць! Гэта і штосьці і н ш а е. Прычым і н ш а е, здаецца, большае за пажадлівасць, і яно, гэтае і н ш а е, локцем адштурхоўвае пажадлівасць назад; як кажуць, «на другі план»...

Няхай не кладзецца са мной, каб яго чорт узяў, няхай толькі будзе, няхай пахаджвае тут, каб адчуваць яе праз паветра, каб у любы час знаходзіць, калі спінка крэсла або пісьмовы стол закрываюць частку яе, знаходзіць, як знаходзіць бадзяга запаветную зямлю, бачыць, як радуюцца яе вочы і лашчаць мяне, калі ачуньваю ад часовай страты прытомнасці...

Зноў ахоплівае мяне змрочнасць тугі, і я думаю: «Дык што тады, ліха на яго, гэта за пачуццё? Каханне?.. Ай-я-яй! Не смяшыце мяне, панове! А ці ведаеце вы, панове, што гэта такое — «каханне»?

Гэта неажыццёўленае жаданне майго бацькі да ягонай «бесперспектыўнай» Сняжаны.

Гэта, напэўна, наш першы пацалунак з сённяшняй намесніцай міністра — там, на лаўцы каля Возера з чырвонымі рыбкамі.

Магчыма, гэта і мой першы пагляд на Ану і яе першая ўсмешка?

Выплываю на паверхню, раблю глыбокі ўдых і ў думках кажу: «Дарагая Юля, я пакутую і чакаю цябе, калі цябе няма са мной, але ці сведчыць гэта пра каханне? Ты не Сняжана; ты не дзяўчына на лаўцы каля Возера з чырвонымі рыбкамі, ты і не Ана, якую я чакаю перад факультэтам аграбіялогіі, нецярпліва паглядваючы на гадзіннік. Дык хто ты? Вось, баліць у мяне сэрца, што нядаўна паводзіў сябе як ёлупень. Мяне грызе пакута, і я хачу сказаць табе ласкавае слова. Насуперак усяму хачу сказаць табе ласкавае, пяшчотнае слова!»

Я паціху ўстаў з пасцелі і асцярожна падышоў да спальні, нібы злодзей, што ўлез у чужую кватэру. А сэрца гэтак калацілася, каб яго чорт, калі націснуў на ручку дзвярэй!

Ручка не паддавалася, дзверы былі замкнёныя. Юля замкнулася ў спальні.

Мяне абліў халодны пот, паветра разрэдзілася, нешта сціснула ў грудзях. Боль працяў сэрца, ажно падагнуліся калені. Неяк дацягнуўся да пасцелі і лёг з пачуццём зларадпасці. «Нічога, малая, і без цябе ўпраўляюся!» Але гэтае пачуццё зларадпасці хутка аднесла ветрам, гэта была ўсяго мімалётная сутарга ўколатага самалюбства.

Але ў якога мужчыны не пацямнее ўваччу, калі замкнёныя дзверы нейкай спальні ўлепяць аплявуху годнасці ягонай?

Зноў на мяне пачала находзіць тая самая, ранейшая, туга, і каб не патануць у ёй, як у мутнай вадзе, а затрымацца на паверхні, я знарок вярнуўся ў думках у гады, калі з перапоўненым ад шчасця сэрцам хадзіў каля Возера з чырвонымі рыбкамі. Хадзіў, чакаючы сваёй Дульцынеі, цяперашняй намесніцы міністра. Ці ж мог я ведаць тады, што рука, якую так натхнёна цалаваў, калі-небудзь возьме зялёны фламастэр, каб у верхнім кутку белага ліста з прысудам мне напісаць сваё катэгарычнае «Ухваляю!». Ці мог ведаць мой дзед Танас з Арбанасі, што калі-небудзь пакіне свае косці пад змрочным ценем непрыступных Кардыльераў?

Напэўна, недзе крыху за поўнач я пачуў, што дзверы ў спальню ціхутка адчыняюцца, і Юля, босая, падыходзіць да майго ложка. Я сціснуў павекі і прыкінуўся, што моцна сплю. Яна спынілася ў мяне каля ног, нейкі час уважліва прыслухоўвалася да майго дыхання. Потым бясшумна, незаўважна, няўлоўнымі рухамі папра-

віла коўдру, якая з'ехала, і зноў гэтаксама, нібыта была бесцялесным ценем, вярнулася ў спальню і зачыніла за сабою дзверы. Пачулася, як у замку павярнуўся ключ.

Раніца была пахмурная, ішоў дождж.

Сказалі адно аднаму «добрай раніцы», выпілі чаю. Потым Юля зрабіла мне чарговы ўкол, і я ўпершыню ў сваім жыцці, агаляючы сцягно, адчуў няёмкасць. Што рабілася са мной, ці не пачынаў дзяцінець?

Потым яна ўзялася прыбіраць, навяла парадак у спальні, і калі ўсё было скончана, позіркі нашы сустрэліся, і кожны з нас нібыта пытаўся: «Ну, што цяпер?»

Я паказаў на стары рукапіс і кажу:

— Я адзначыў месца, дзе мы вечарам кончылі чытаць. Нават памятаю апошнюю фразу: «Задачы, якія належала мне выконваць, супадалі з маімі сафійскімі задачамі за тыдзень да гэтага, адно што дзейнічаць цяпер трэба на французскай зямлі».

— А я сказала, што калі б вы былі падобны да бацькі, то былі б самым цудоўным чалавекам на свеце!

— Не будзем пачынаць усё спачатку! — запярэчыў я. — Няма сэнсу.

— Няма сэнсу, — неяк вельмі дзелавіта згадзілася Юля.

— Асабліва пасля таго, як замыкаемся ў спальні, — са злосцю напомніў я.

— А як жа іначай? — адказала Юля, і на яе твары выпісалася здзіўленне Рафаэлевай мадонны.

— Іначай пачалося б такое, чаму канца не відаць! — з'едліва зазначыў я.

Яна безуважна сцепанула плечукамі і пачала:

...Праз дзень, роўна ў 10 г., прыйшоў нейкі дробны чалавек, апрануты комівояжорам — у гольфах, клятчастай кепцы і з завязаным левым вокам. Зайшоўшы ў кабінет, ён пачціва зняў кепку і запытаўся: «Вы доктар Мішэль?» Я пацвердзіў, і ён сказаў: «Я Марсель Арно».

Так пачалася мая работа ў Парыжы. Запіскі, якія прыносіў мне Марсель Арно, я перадаваў іншым людзям, папярэдне дамовіўшыся аб месцы сустрэчы, прыкметах, па якіх можна было пазнаць адзін аднаго, і, вядома, аб паролях. Праз дзесяць дзён, калі «хворае» вока Марселя Арно паправілася, замест яго з'явіўся другі чалавек, нейкі нібыта Альберт Абрахам. Гэты так-

сама пачаў пасылаць мяне туды і сюды, калі з запіскаю, калі з вуснымі даручэннямі, якія я мусіў паўтараць у галаве, каб не забыцца. Часцей за ўсё сустрэчы адбываліся альбо на Шан-з-Элізэ, альбо на плошчы перад кафедральным саборам Нотр-Дам, потым мы заварочвалі на якую-небудзь бакавую, дзе менш людзей, вуліцу, каб пераканацца, што не вядзём за сабою «хваста».

Да вясны мне давялося вылечыць некалькі такіх «хворых», як Марсель Арно і Альберт Абрахам. Тыя, з кім сустракаўся, часта пасылалі мяне да трэціх асоб. Так што я лятаў, нібы більярдны шар, і нечакана для самога сябе апынаўся ў самых розных кварталах — поле маёй гульні значна пашырылася. Нават у кур'ерскай маёй службе з'явілася пэўная разнастайнасць. Здаралася, што я нёс «адрасату» не звычайную запісачку, схаваную на самае дно цыгарэтнага пачка, а пакет значна цяжэйшы, які іншы раз ледзь месціўся ў мой элегантны чамаданік. Гэты пакет заўсёды быў загорнуты клапатліва, адмыслова, у добрую ўпаковачную паперу, і мой «хворы» кожны раз папярэджваў, каб абыходзіўся з ім, як з крохкім яйкам. Не ведаю, якая матэрыяльная таямніца была ў тых пакетах. Але аднае раніцы ад Нана́ я даведаўся, што на вакзале Сен Лазар, ці бачылі, у цэнтры Парыжа, уявіце сабе, выбухнула пякельная машына.

— Мон дзьё! — страшэнна здзівіўся я.

Нана, гэтая лялечка, выдатна ведала нямецкую і часта балакала з нашымі германскімі кліентамі — гандлярамі, якія курылі цыгары, іншымі панамі, якія прыкурвалі цыгарэты ад залатых запальнічак, іншы раз з якім-небудзь афіцэрам у высокай шэрай какардзе і, як правіла, — у акулярах з пазалочанай апраўаю. Нана была з усімі ветлівая і з усімі ажыўлена шчабятала. Магчыма, гэтак яна і даведвалася пра «страшэнныя» навіны, якія з раніцы, зашпільваючы на мне белы халат, яна шаптала мне на вуха. На бульв. «Лафает» застрэлілі палкоўніка гестапа, пад таварным цягніком, які ішоў на Ліль, на падыходзе да станцыі, выбухнула міна...

Аднае раніцы, гэта было ў пачатку мая, Нана, зашпільваючы на мне фартух, раптоўна ахапіла рукамі маю шыю, моцна прытулілася і імпэтна пацалавала. Я адказаў на пацалунак, потым асцярожна, нібы зды-

маючы катаракту з хворага вока, адхіліў яе — жанчыны такія адчувальныя, калі не адкажаш ім узаемнасцю! — пагладзіў па галоўцы і сказаў:

— Нана! Калі гэта як «добрай раніцы», я згодзен гэтак вітацца кожную раніцу. Вельмі прыемнае вітанне! Але далей не пойдзем, вельмі цябе прашу. Не хацелася б, каб шэф... сама разумееш! Вось скончыцца вайна, а ў мяне такое адчуванне, што яна хутка скончыцца, праўда ж?..

— Я хацела б, каб заўтра! — усклікнула Нана.

— Дык вось, як скончыцца вайна, я адкрыю сваю клініку і вазьму цябе да сябе!

— Вы вельмі мілы! — усміхнулася Нана, але не сказаць, каб надта весела. Потым раптоўна зайшлася гарэзлівым смехам: — Якія вы, з Блізкага Усходу, дзіўныя, божа мой!

Кожную раніцу мы цалаваліся за «добрую раніцу», і кожны раз я даведваўся ад яе якую-небудзь цікавую навіну.

— Мсье Луко! У гэтыя дні бошаў дубасяць пад Арлом! Вельмі моцна дубасяць!

— Мсье Луко! Жах... Учора каля Сен Лазара зноў быў вэрхал!

Высінілася неба, расцвілі клумбы цюльпанаў у Жардэн дэ Цюэльры, маладыя парыжанкі камплектавалі ансамблі вясновых убораў пад тры колеры нацыянальнага сцяга. Бошы лопаліся ад злосці, але ж не страляць за гэта, толькі час ад часу хапалі якую-небудзь маладую жанчыну і зацягвалі яе куды прыйдзецца.

Нана шаптала мне:

— Учора стукнулі жалязякай па галаве аднаму бошу, на вуліцы Важырар!

Зрэдку я наведваўся ў тое бістро на авеню Дзьё Рап, і здаралася, што вечарам бачыў там свайго суайчынніка «Люсьена». «Справы ідуць?» — цікавіўся ён па-французску, і я таксама на французскай мове адказваў: «О так, ідуць!» Калі-нікалі сядзелі за адным сталом, пілі піва, размаўлялі. Але гаварылі толькі пра надвор'е, пра цэны на сыр альбо пра жанчын. Аднаго разу ў такі вечар, гэта было ўжо ў чэрвені, ён перадаў мне ліст, які прыйшоў не па пошце. Вядома, я не пытаўся ў яго, як ліст да яго трапіў.

Ліст быў ад Соні, пазначаны датаю «20 мая». Ліст

невясёлы. Адразу пасля майго ад'езду паліцыя ў маім кабінеце рабіла вобыск, абшуквалі і наша жытло ў Лазянцы. Два разы да яе наведваўся Ізмірлieў — ноччу, тайком. Папярэдзіў, што ў канцы мая да яе завітае адзін гандляр, які паедзе ў Парыж, дык з ім можна паслаць мне ліст. Наказаў паведаміць мне ў лісце дзве непрыемныя навіны: што курсанта Асена схапілі, быў суд, і яго павесілі, і што Сашо загінуў у перастрэлцы з паліцыяй на сафійскім вакзале. Ад жонкі Ізмірліева яна даведалася, што яе мужа арыштавалі 7 мая. Яна не ведае, ні дзе ён, ні што з ім. З ёю, Соняй, усё добра. Але ў бальніцы яна ўжо не працуе, яе звольнілі праз месяц пасля майго ад'езду. Патроху падзарабляе прыватнай практыкай, пра яе і пра малога Луку каб не турбаваўся. Гэта шчасце, што вырваўся з гэтага пекла. Яна ўпэўнена, што і ў Парыжы я не буду сядзець склаўшы рукі, але ўсё-такі «Парыж, напэўна, не такі звярынец, як у нас». Просіць асцерагацца і каб ведаў, што кожнага вечара яны з Лукой кажуць: «Дабранач, татка!»

Я жыў у гатэлі на авеню Баске, непадалёк ад авеню Дзьё Рап. У бістро купіў бутэльку каньяку, замкнуўся ў нумары і ўпершыню, як прыехаў у Парыж, піў без меры.

Назаўтра раніцай пасля звычайнага пацалунку Нана спыталася:

— Мсье Луко, у вас стомлены выгляд. Ці не было ў вас свята з якой-небудзь «малышкай»?

— Любая Нана! — усміхнуўся я ёй. — Я ж табе абяцаў, што буду чакаць канца вайны і да таго часу буду табе верны.

У канцы верасня, быў чацвер, я атрымаў даручэнне перадаць запіску адной даме, якая будзе чакаць мяне на Плас Вандом у шэсць гадзін вечара, апранута будзе ў чорны гарнітур, і на маё пытанне: «Ці не жадаеце прагуляцца да «Бульвара Капуцынаў»?» — яна павінна адказаць: «Лічу за лепшае ру Раяль».

Самы цудоўны час у Парыжы — надвячоркі, а самыя цудоўныя надвячоркі — вераснёўскія, калі горад, асабліва паблізу Сены і Манмартра, прымушае ўспомніць пра Манэ і Рэнуара, і чалавек ані не здзівіўся б, калі б на Плас Вандом убачыў карэту, а з яе ў доўгай муслінавай сукенцы выходзіла б сама Альфансіна Плесі. Па-

рыжскія надвячоркі, асабліва ў раннюю восень, нібы вяртаюць мінулае, а з мінулага — і тыя рэпрадукцыі з альбомаў, якія ты глядзеў дзесяткі разоў, і тыя вобразы з кніг, якія запомніліся на ўсё жыццё.

Дык вось, акурат у шэсць гадзін я прыехаў на Плас Вандом — без ніякіх рамантычных пачуццяў у душы, не заўважаючы чароўнасці вераснёўскага надвячорка, без ніякай пашаны да Напалеонавай калоны і да таго месца, дзе калісьці ўзвышаўся дом Карнейля. Акупацыя, «бошы», кроў, якую штодня пралівала на парыжскіх вуліцах гестапа, — усё гэта і пачуццё нетрываласці, якое ні на хвіліну не пакідала мяне, рабілі і вечар, і плошчу, і неба над ёй у маіх вачах шэрымі, размаляванымі і насычанымі колерам волава. Убачыўшы жанчыну, яе чорны сілуэт у чорным, якая пахаджала вакол калоны, я адразу накіраваўся да яе.

І хутка парыжскі надвячорак імгненна скінуў з сябе ўсю шэрасць, а неба, якое пагасала з летуценнай усмешкай, нагадала пра Альфансіну Плесі, і быццам на плошчу выйшаў Сід, і Напалеон усміхнуўся яму са сваёй вышыні.

Перада мной была Мары. Мары з Плас Канкорд, з Рывалі, з мансарды ў шасціпавярховым доме каля вакзала Сен Лазар; Мары, якая не пакідала майго сэрца ўсе апошнія чатыры гады; Мары, пра якую я так часта ўспамінаў тут і, каб знайсці яе, баяўся і думаць. Мая Мары!

Мы кінуліся адно аднаму ў абдымкі, нібы ўсе гэтыя чатыры гады чакалі сустрэчы, вусны нашы зліліся, мы замерлі. Нейкі мажны нямецкі афіцэр, праходзячы каля нас, павучальна заўважыў:

— C'est mieux que faire boum-boum![1]

## 18

У гэты момант хтосьці таропка пастукаў, дзверы адчыніліся, і на парозе з'явілася Ана. Мая Ана. Таксама ў гарнітуры, толькі ў шэрым, блакітна-шэрым.

Яна стаяла на парозе як прыкаваная, і вочы яе — магу паклясціся памяццю бацькі — толькі на імгненне

---

[1] C'est mieux que faire boum-boum (*фр.*) — гэтак лепш, чым страляць.

спыніліся на маім твары, а потым з падкрэсленай настойлівасцю скіраваліся на Юлю.

Юля спакойна ўстала, абышла крэсла і сціпла, але з адчуваннем сваёй годнасці спынілася за яго спінкаю.

— Добрай раніцы, Ана! — парушыў маўчанне я і засмяяўся ці, хутчэй, ухмыльнуўся. Раптам успомнілася «добрая раніца» бацькі з той Нана, і атрымалася недарэчна, вядома. — Ана, заходзь! — кажу. — Не бойся заразіцца, я не інфекцыйны. Дык заходзь смела. А чаго ты стукаеш, каб папытацца?

— Я ўбачыла на вешалцы дамскае манто! — кісла ўсміхнулася Ана.

Яна зайшла, дробнымі крокамі наблізілася да майго ложка, нахілілася і ледзь чутна пацалавала мяне ў лоб. Потым прысела на табурэтку ў мяне ў нагах, не выпускаючы з рук сумачкі — як чалавек, які не думае доўга затрымлівацца.

— Манто, якое вы заўважылі на вешалцы, гэта маё! — сказала Юля. Голас яе быў роўны і спакойны.

— Ах, так! — кіўнула Ана, зноў агледзеўшы яе з галавы да ног. — Вы ці не сястра з бальніцы, з якой я размаўляла па тэлефоне нейкі час таму назад?

— Дзесяць дзён таму назад, — удакладніў я.

— Мне ваш голас знаёмы, — працягвала Ана.

— Але, я тая самая сястра! — кіўнула галавою Юля. — Прыйшла паглядзець, як тут маецца ваш муж.

— І з таго часу ў мяне такое адчуванне, — не сунімалася Ана, — што вы пастаянна знаходзіцеся пры ім.

— Дык жа нехта павінен клапаціцца пра яго! — адказала Юля.

— Ага, сапраўды, — рассеяна кіўнула Ана.

Юля сабралася ісці. Перад тым як зачыніць за сабою дзверы, яна павярнулася да мяне:

— Пасля абеду заскочу, зраблю вам укол лідакаіну. Вельмі вас прашу, каб ляжалі і не хадзілі па пакоі, таварыш прафесар!

— Не хвалюйся, Юля! — я махнуў ёй рукой. — Наўрад ці ўзнікне патрэба ўставаць мне наогул.

— Да пабачэння! — сказала Юля абаім нам.

— Да пабачэння, Юля! — адказаў толькі я.

Невядома чаму, Ана паціснула плячамі. Але нічога не сказала. Яна маўчала ў нейкай задумлівасці, а мяне ахапіў дзівосны спакой, нейкае «здранцвенне духу», як выказваюцца некаторыя. Усё-такі я загаварыў да яе:

— Ана, чаму ты не пакладзеш сваю сумку на стол? Ці ты вельмі спяшаешся?

— А ці ёсць сэнс не спяшацца? — адказала Ана. — Бачу, што ў цябе ўсё ў парадку. Ёсць каму пра цябе клапаціцца, ёсць з кім па-прыяцельску гаварыць. Навошта табе няверная жонка?

— Бадай, ты праўду кажаш...

Яна памаўчала, потым падсунулася бліжэй і ўзяла абедзвюма рукамі маю руку.

— Тое, што ты пра мяне думаеш, гэта такая крыўда, што толькі з-за гэтага варта падаць на развод, — пачала яна. — Да таго чалавека, пра якога ты думаеш, у мяне няма ніякіх жаночых пачуццяў. Ён мой супрацоўнік, і я люблю яго як супрацоўніка, але гэтая любоў не мае нічога агульнага з такімі рэчамі, як пацалункі і ўсё падобнае. Калі хочаш ведаць, у яго хутка вяселле, і яго будучая жонка — адна наша выдатная лабарантка з нашай лабараторыі ў Талбухіне.

— Я нічога не хачу ведаць! — кажу. — Любі таго чалавека, як знаеш, і глядзі сваю пшаніцу.

— Ты цалкам маеш рацыю наконт пшаніцы, Лука. Я люблю маю пшаніцу. Дакладней, люблю сваю работу над пшаніцамі. І павінна табе сказаць, што твая агідная рэўнасць прымушае думаць, што рабоце маёй пагражае небяспека, па сутнасці ж — **мне самой,** таму што па-за работай я не існую. Я не магу **раздвойвацца,** Лука, я не з тых жанчын, якіх прырода надзяліла здольнасцю раздвойвацца — пароўну дзяліць сваю любоў паміж **работай і мужам.** І вось настаў крытычны момант у маім жыцці, і я з болем зразумела, што работу люблю крышачку болей, чым люблю цябе. Можа, гэта гучыць груба, або кніжна, або эгаістычна, або яшчэ як ты гэта назавеш, але гэта **праўда.** Я нешта **шукаю,** нешта лаўлю, і ў гэтых пошуках, Лука, я адчуваю болей шчасця, мацнейшае шчасце за тое шчасце, калі я з табой ці калі жыву толькі дзеля цябе. Я цябе, Лука, люблю, я цябе паважаю, паважаю і люблю — нягледзячы на тое, што ты мяне падманваў і цяпер падманваеш, — і таму шчыра табе кажу: дзяліцца надвое я не магу.

— Ну і цудоўна, — кажу. — Не дзяліся!

— Але я і не з тых жанчын, Лука, якія могуць цярпець, калі іх крыўдзяць, раўнуюць, цярпець, калі на іх гавораць рознае паскудства. А ты — не з тых мужчын, якія, калі трэба, могуць стрымаць сябе, якія могуць усё

спакойна абдумаць, ты ва ўсё ўкладаеш занадта многа запалу і занадта многа самалюбства.

— Такі ўжо ўдаўся, — прызнаю я. — І запозна перайначвацца. Ды і не бачу ў тым сэнсу.

Яна пагладзіла маю руку, паднесла яе да сваіх вуснаў, прыціснула да шчакі, і ў вачах яе з'явіліся слёзы.

— Лука, мы працуем у розных месцах. У цябе работа ў горадзе, у мяне — на полі. Мала часу нам застаецца, каб быць разам. А калі мы не разам, дык заўсёды будуць здарацца такія рэчы: я мушу працаваць з іншымі мужчынамі, а ты будзеш раўнаваць; і, застаючыся адзін, будзеш заляцацца, хоць і не надаючы гэтаму вялікага значэння, заляцацца да іншых жанчын. Лука, дарагі, гэта не жыццё!

Яна асунулася на падлогу, абхапіла мае калені і горка заплакала.

«Эх, жонка, жонка, ці табе несці гэты крыж?» — падумаў я, адчуваючы, як штосьці зашчыпала ў горле, але нічога не сказаў.

Выплакаўшыся, Ана ўстала, адкрыла сумачку і дастала з яе кішэнны гадзіннік з сярэбраным вечкам.

— Адчыні вечка! — папрасіла яна з сарамлівай усмешкай.

Я націснуў на галоўку заводу, і вечка лёгка адскочыла. З унутранага боку на ім была па-майстэрску выраблена гравюра: цэлае мора пшаніцы, якое раскінулася ажно да гарызонту. На пярэднім плане, сярод пшаніцы — Ана, усмешлівая, з рассыпанымі валасамі.

— Ну дзякуй, — кажу. — Буду насіць гэты гадзіннік заўсёды з сабою. Ён мне будзе напамінаць, што жылі з табою разам дзесяць гадоў у згодзе і любові.

— Калі ў цябе будзе сын ад другой жонкі, падаруй яму яго! — сказала Ана.

— Абавязкова падарую, — адказаў я.

Нейкі час мы памаўчалі.

— На дом у мяне прэтэнзій няма, — сказала Ана. — А дробязі, якія належаць мне, няхай застануцца табе на ўспамін, калі яны табе патрэбны.

— Я ўсё захаваю, — паабяцаў я.

— Лука, Лука! — уздыхнула яна. Нагнулася, пацалавала мне рукі, потым у вусны.

І як пачало прыгнечваць мяне маўчанне, якое зноў запанавала між намі, я сказаў ёй:

— Мне хочацца спаць, Ана. Ідзі з богам... Астатняе афармяць адвакаты! — І заплюшчыў вочы.

Калі яна пайшла, я адчуў пад павекамі гарачыя вугалі, яны пяклі мне вочы, таму я вылаяўся: «Чорт ведае што! Дурань, бяры прыклад са свайго дзеда Танаса, з бадзягі Танаса. У кожным порце — новая жанчына, на кожным беразе — каханне!»

На мяне найшло нейкае замарачэнне. З туману быццам выплыў выбраннік Іосіф і ўзняў руку: «Благаславіце і злітуйцеся!» І як стаяў з узнятай рукой, апусціў яе мне на плячо і прашаптаў: «Шукай, і ты знойдзеш!» — «Дзякуй за ласку! — кажу яму. — Чалавеку даволі ўжо таго, што ён шукае. А ўсё астатняе — кішэнны гадзіннік з сярэбраным вечкам!»

Выбраннік Іосіф схіліў галаву. Згусціўся туман, схаваў яго ад мяне, і я так і не зразумеў — згадзіўся ён са мною ці не.

Нарэшце і сам я знік у тумане. Апошняе, што ўзнікла ў мяне перад вачамі, — тое пшанічнае поле шырокае і Ана ў пшаніцы, яна дзёрзка смяецца і ў той жа час плача, і нельга зразумець, чаго ў яе больш — смеху ці плачу.

А на дварэ дождж не сціхаў, наадварот, як быццам спарнеў. Вецер павярнуўся, па блясе падаконнікаў барабанілі дажджавыя кроплі, а драбнейшыя кропелькі ветрам заганяла ў самы пакой; у пакоі запахла вільгаццю, пахаладала.

Прыгадаліся некаторыя дэталі нядаўняй сцэны, і я падумаў: «Які ж я ідыёт! На дажджы яна намачыла ногі па самыя шчыкалаткі, а я не здагадаўся прапанаваць: «Ана, скінь мокрыя туфлі, у спальні стаяць твае тапкі, ёсць сухія шкарпэткі, пераабуйся!» Альбо мог проста сказаць: «Ана, скінь ты гэтыя мокрыя туфлі ды схавай ножкі ў мяне пад коўдру, пакуль сагрэешся!» Мог жа нават сказаць: «Дай сюды ногі, я сагрэю іх сваімі рукамі!»

«А яшчэ ж і такое магло быць, — разважаў я ў думках. — Вунь, на пасмах яе валасоў аселі дробныя кропелькі, кончыкі валасоў усе былі мокрыя, і я мог сказаць: «Ана, прытулі свае валасы да маёй шчакі, я табе іх высушу!» Можна было нагадаць ёй, — думаў я: — «Ана, памятаеш, як мы восенню вярталіся з лекцый, а я

браў у далоні твой тварык і дзьмухаў на валасы, сушыў іх?»

Вось пра такія дробязі думаў я цяпер, калі ўжо яна пайшла. Нарэшце сказаў сам сабе: «Усё гэта глупства! Няхай ідзе к чортавай матары! Што адбылося, павінна было адбыцца, і адкладаць не было чаго. Мы нашы адносіны апошнім часам падтрымлівалі такімі няшчаснымі медзякамі, што не магло не дайсці да банкруцтва. А былі ж у нас залатыя манеты — і ў цябе былі, і ў мяне, — але мы пусцілі іх на іншыя справы. Мы ўкладвалі нашы залатыя запасы ў рэчы, якія былі па-за нашымі адносінамі. Хто ў тым вінаваты і ці магло быць іначай? Ну што ж, шчаслівага, дарагая, падымай ветразі і ідзі сваім курсам, шукай сваё Эльдарада! Гэтаксама шукаў сваё Эльдарада і мой дзед Танас з сяла Арбанасі. Каб пакінуць свае косці, дзе гэта... у нетрах Андаў, сярод стромкіх скал, па якіх лазяць рухавыя, нібы тырнаўскія фарсухі, нейкія ламы.

Ну і ліха з ім!»

Пад самы абед прыйшла Юля. Убачыўшы адчыненыя вокны, праз якія вецер забіваў дажджавыя пырскі, адчуўшы ў пакоі сырасць і холад, яна змянілася з твару ад адчаю і абурэння. І тут жа забегала, пачала зачыняць вокны, выціраць анучкай падаконнікі, не зважаючы, ці жонка мая дома, а калі б і была дома — ці прыстойна падмяняць яе ў такіх справах.

«Акрамя ўсяго яна яшчэ і дзёрзкая!» — падумаў я.

Потым яна ўключыла ў разетку электрапечку «Прамень», і праз хвіліну-дзве ў пакоі стала ўтульна і цёпла.

Тады Юля села ў мяне ў нагах і пачала выказваць сваё абурэнне:

— Усё гэта магла зрабіць ваша жонка! Вы прабачце, але яна не павінна была пакідаць вас пры адчыненых вокнах. У вашым цяперашнім стане ды яшчэ прастудзіцца — могуць быць вялікія непрыемнасці, згадзіцеся!

— Я згаджаюся, Юля! — кажу. — Што ты яшчэ мне хочаш сказаць?

Яна паціснула плечукамі.

— Тады я табе нешта скажу: жонка мая пайшла ад мяне назаўсёды. Засталося аформіць развод, і гэта зробяць адвакаты.

Яна глядзела на мяне ўтароплена, і здавалася, што не верыць вушам сваім.

— Вось, пакінула на ўспамін гэты гадзіннік. — Я кіўнуў на гадзіннік, які ляжаў на століку і сярод бутэлечак з лякарствам, ампул і бліскучай скрынкі са шпрыцам быў зусім не да месца. — Гадзіннік добры, калі хочаш, паглядзі! — кажу.

Яна не ўдастоіла нават паглядам.

— Дык вы гаворыце сур'ёзна? — ціха спыталася яна, узіраючыся ў вочы, каб улавіць у іх пацверджанне дурнога жарту.

— Даражэнькая мая, няўжо ты лічыш, што я магу строіць жартачкі наконт такіх рэчаў? — звёў я бровы нават нечакана для самога сябе і ў гэтае імгненне, відаць, зрабіўся «страшны», бо яна адхіснулася інстынктыўна неяк убок. Бедненькая мая дурніца, яна мела падставы ўсё-такі баяцца мяне! — Так яно і ёсць, — кажу. — Можаш наконт гэтага не сумнявацца. Я не кветка, але і не такая жывёліна, каб прываблівадь цябе хлуснёй!

Яна то чырванела, то бялела, нібыта аднача сна ёй было і горача і холадна.

— Вы мне прабачце, — загаварыла яна, — умешвацца ў вашы ўзаемаадносіны я не хачу. Вы лепш ведаеце, як там у вас і што. Але ваша жонка магла і крыху пачакаць, я думаю, пабыць з вамі хоць дзесяць дзён, пакуль вы папраніцеся...

— Ну, скажам, у яе і быў такі добры намер, затрымацца тут на дзень-два, але... — Мне хацелася дадаць: «Але калі яна ўбачыла, што ты сядзіш у мяне на ложку, яе добры намер прапаў, і ўсё!» Ды махнуў рукой: — Давай лепш будзем гаварыць пра іншае, што-небудзь больш вясёлае. Цяпер ты ўжо можаш не саромецца, што спакушаеш «чужога» мужа. Ну што?

Юля была дзяўчына з характарам, яна лёгка не адступала.

— Усё-такі, калі яна адыходзіла, магла ж яна зачыніць вокны і не пакідаць вас на дажджы і холадзе!

Я сціснуў зубы і прамаўчаў. Ана сапраўды мяне пакінула на волю лёсу, але не хацелася, каб яе папракалі староннія. Ды і хто, акрамя мяне, мог ведаць, чаму яна так зрабіла! Бо толькі я разумеў, што яна пайшла ў роспачы, што ў тую хвіліну ёй было ні да якіх вокнаў і ні да якога дажджу...

З вачэй у Юлі пацяклі слёзы, мяне ўзяла злосць, бо ўсё гэта мне надакучыла, і я груба прапанаваў:

— Калі табе, дзяўчына мая, гэтак цяжка на душы, хадзі да мяне, і я цябе суцешу, ты не супраць?

Яна рэзка ўстала, і, перад тым як загаварыла, вусны яе некалькі разоў таргануліся.

— Вы, вядома, не кветка, — сказала яна, — але і не рабіцеся жывёлінай, я вас прашу!

Мне было не да смеху, ну зусім, але яе словы мяне ўзрадавалі, і я міжволі ўсміхнуўся. Атрымлівалася, што яна была «пародзістая» не толькі з фігуры, але і па душы.

Яна дастала са сваёй сціплай зялёнай сумачкі насоўку, выцерла слёзы, потым памыла спіртам рукі і занялася маім уколам. А я зноў адчуў тое дзяцінае пачуццё няёмкасці, нібыта быў дзяўчынай, якую раздзяваюць упершыню.

Пасля таго як мы перакусілі хлеба з маслам і варэннем, і стол быў прыбраны, і лякарствы я прыняў, яна пажадала мне прыемнага адпачынку і хацела ўжо ісці.

— Пэўна, на спатканне спяшаешся? — сказаў я, палохаючыся адзіноты.

— Для спаткання яшчэ зарана, што вы кажаце!

— Ну, пагуляй! Што за прыемнасць сядзець гадзінамі каля хворага і капрызнага дзядзькі, як я? Падыхай паветрам, пахадзі! А я буду думаць пра леташні снег, і час прабяжыць хутка.

— Трэба, каб вы паспалі! — сказала яна. — С ё н н я асабліва вам патрэбен сон!

— Якраз с ё н н я ён мяне і не возьме, — прызнаўся я шчыра. А пабачыўшы, што яна нерашуча пераступае з нагі на нагу, я падкінуў: — Ну чаго марудзіш, ліха матары! Ці ты думаеш, што я адзін тут без цябе прападу?

А яна хораша ўсміхнулася, прыклала пальчык да бародкі, быццам раптам нешта ўспомніўшы, і кажа:

— А што, калі я пачытаю вам новы раздзел з рукапісу, вам не будзе непрыемна? Ведаеце, мне здаецца, гэта было б няблага!

— Нічога лепшага нельга прыдумаць! — усміхнуўся і я ў адказ. — Толькі пакляніся, дарагая, што робіш гэта не ад шкадавання. Пры адной думцы, што мяне шкадуюць, ува мне ўсё бунтуе!

— Чэснае слова! — сказала яна і падала мне руку.

Я дакрануўся веснамі да яе ручкі, а адчуўшы, што

яна не спяшаецца аднімаць яе, я прытуліў яе да шчакі і гэтак нейкі час трымаў, адчуваючы сябе выгнаным сабакам, якога выпадковы чалавек пашкадаваў і прылашчыў. Потым спахапіўся, знарок адпусціў яе руку не надта далікатна і сказаў:

— Ведаеце, мадам, што ад рукі да пасцелі толькі адзін крок? І што, калі б любоўныя эмоцыі з-за гэтага інфаркту не былі мне забаронены, я папрасіў бы вас зрабіць гэты крок?

— А ведаеце, шаноўны прафесар, што ў такім выпадку, замест таго каб зрабіць гэты маленькі крок, я палічыла б за лепшае паказаць вам локаць?

Я паглядзеў ёй у вочы, і ў іх — хай мяне заб'е бог, як кажуць сербы, — у іх я не ўбачыў ніякага жадання паказваць локці. У іх ласкава свяцілі дзве добрыя зелянкавыя святлінкі, акружаныя залатымі іскаркамі.

— Благаславіце і злітуйцеся! — усклікнуў я.

Яна стрымана засмяялася, разгарнула рукапіс і пачала чытаць.

Лета 1258-е, Манфер'е, сярэдзіна восені. У доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся! Амін.

Дык вось, калі Інэса і рамеец Ісак пайшлі, я шпурнуў услед ім каліту з Інэсіным золатам, але аднекуль з'явіўся марак Танас, падняў каліту і вярнуў яе мне. Я гатоў быў прыбіць яго за гэты ўчынак, які немаведама як прыніжаў маю годнасць, але з яго слоў я даведаўся такое, што кінула мяне ў страшэннае замяшанне. Аказваецца, я даў Вучыцелю згоду суправаджаць яго ў далёкія землі, куды ён збіраецца, каб умацоўваць духам статак свой, а я павінен быць у яго кімсьці накшталт ахоўніка. Звечара ён намякаў мне пра гэта, але я пабаяўся за сваю душу і нічога яму не адказаў. Потым я пайшоў на бераг мора і памаліўся богу. «Божа, хай абміне мяне гэтая горкая чаша, але няхай будзе не па маёй волі, а па Тваёй!» Таму што ахоўнік, калі быць ім сапраўды, павінен дзейнічаць па Майсеевых законах: вока за вока, зуб за зуб, а не паводле Ісусавых законаў, якія прадпісваюць не супраціўляцца злу. Я ўжо ведаў, куды вядуць Майсеевы законы — проста ў пекла, і мне было страшна прадаць душу д'яблу на векі вечныя. Але як я сказаў ужо, я памаліўся

богу, каб ён сам вырашыў, ці піць мне гэтую горкую чашу. І вось, па словах гэтага клятага Танаса, выходзіла, што бог вырашыў, каб я выпіў гэтую чашу да дна. Адзін толькі ён мог унушыць Танасу, што я даў сваю згоду быць ахоўнікам Вучыцеля, бо нікому пра гэта я не вымавіў слова.

Прыніжэнне, у якое кінулі мяне Інэсіны грошы, і боль ад таго, што д'ябал завалодае маёю душой, сціснулі маё горла, і я ад гора заплакаў, але не ў голас, а ў душы, і ўсім выглядам сваім стараўся паказаць, што я мужчына, каб кляты Танас не падумаў, што я зроблены з цеста. І калі адчуў, што магу трымаць сябе ў руках, я звярнуўся да Танаса, які ляжаў побач са мной на пяску і жмурыўся ад сонца.

— Браце Танас, — кажу, — калі гэтае золата патрэбна на дарогу, каб Вучыцель дабраўся да статка свайго, я прыму яго. Але каб мне было ясней у вачах, я хацеў бы ведаць, хто такі Вучыцель. Я ведаю, што ён святы чалавек, у гэтым не сумняваюся, іначай я не згадзіўся б служыць яму! Але было б добра, калі б я ведаў пра яго больш.

— Хлопча! — адказаў Танас. — Я ў царкоўныя справы не ўмешваюся, і мяне мала хвалюе, хто больш мае рацыю, — багаміл, альбо той, хто хрысціцца і цалуе руку папу. Я грэшнік і ведаю, што на тым свеце буду гуляць у бабкі з д'яблам, у пекле буду. Але на гэтым свеце хачу быць з галавой на плячах і жыць так, як мне падабаецца. Таму надта не распытвай у мяне пра таго, каго ты называеш «Вучыцель». Ды і што я магу ведаць пра яго? Ведаю, што сноўдаецца сюды і туды. Быў ён багамільскім епіскапам у Балгарыі, але Барыл надумаў расквітацца з ім, і дзядок палічыў за лепшае ўцячы сюды, на гэтую зямлю. А хто кажа, што дзядок уцёк не ад страху за сваю скуру, бо, ведама ж, багамілы ні ў грош не цэняць сваё жыццё. А нібыта перабраўся сюды, каб адсюль морам перакінуцца на далёкую зямлю франкаў, дзе павінен сабрацца багамільскі сінод. Хто яго ведае, чаму верыць! Ведаю адно, што ён даў мне дзве каліты, як гэтая, і як земляку — я ж усё-такі балгарын, ліха матары! — я паабяцаў перакінуць яго морам на франкскую зямлю. Высаджу вас у Венецыі, а ўжо там абодва вы — хоць галавой налажыце. Вось што, хлопча, я ведаю і што магу сказаць. А ты наконт усяго гэтага трымай язык за зубамі, бо сам жа

бачыў, на якім агні смажаць багамілаў на салунскім іпадроме!

— Мне пляваць на той агонь! — сказаў я. — І ты, браце Танас, не спрабуй мяне палохаць. Калі ты бачыў мяне тады на іпадроме, як палілі багамілаў, то, напэўна, зразумеў, што я не з палахлівых.

— Ты не з палахлівых, ведаю, — наадварот! Але гарачышся ты надта, хлопча, і як розум твой яшчэ зялёны, ты можаш кінуць слова і зрабіць непапраўную бяду.

— Калі мне давядзецца дзейнічаць паводле законаў Майсея, я буду рабіць гэта, толькі як прыйдзецца абараняць святую справу майго Вучыцеля. А так бы, братка Танас, за гэтыя словы, што ты сказаў пра мяне, я ўзяў бы цябе за глотку адразу ж! Мой розум не зялёны, калі я дайшоў ім да божай ісціны. І калі ты гаворыш са мной, дык гавары з павагаю. А тое, што я гарачуся, бывае — не недахоп гэта, а дабрачыннасць. Тыя, што не гарачацца, служаць у барона конюхамі, і даглядаюць яго сабак, і цалуюць у папа руку.

— Добра, добра! — паляпаў мяне Танас па плячы. — Глядзі толькі, каб у агонь не пайшоў ні за што ні пра што. Я больш за цябе пабачыў свету, і больш гадоў маю за плячамі, і кажу гэта табе на дабро. А цяпер дастань адну манету з каліты і дай мне, я куплю табе адзенне, вартае вяльможнага пана. Бо тое, што на табе, парвалася на рызманы, яно выкліча падазрэнне ў любога паршывага стражніка на прыстані. Як я падумаў, дзядок няхай будзе твой раб, якому ты даў волю, і ты яго вядзеш на тую зямлю, каб ён мог пабачыць нейкіх сваякоў, узятых у палон франкамі. Гэта — адно. Другое — мы павінны падняць ветразі ў бліжэйшыя дні, каб апярэдзіць франкаў. Яны пакідаюць гэтую зямлю, бо іх прыціснулі рамейцы. Мне вельмі не хочацца, каб у моры дагналі нас іх караблі — ад такой сустрэчы, ты слухай, што я табе кажу, дабра не чакай... Таму давай залаты, хлопча, ды ідзі памаліся балгарскаму богу, каб даў спадарожны вецер!

Чыча Нікола працаваў на прыстані — тое, што франкі нахапалі ў час войнаў і нарабавалі, цяпер грузілі на свае караблі. Гарбатая збірала зёлкі і шастала недзе па той бок гарадскіх сцен. Я выйшаў на бераг мора, прылёг каля самай вады, каб хвалі, набягаючы, лаш-

чылі мае босыя ногі, і загледзеўся ў сінечу над сабой. І калі я глядзеў у тую бяздонную высь над сабой, мне прыгадалася «Бачанне Ісаева», прытча, якую нядаўна пераклаў на лацінскую, а ўчора на франкскую мову. І ўявіў сабе, як высока, высока ў гэтай высі недзе ёсць цвердзь нябесная, акурат як нашая зямля. І вось анёл боскі бярэ за руку Ісая і заводзіць яго на тую цвердзь. І Ісая бачыць, што там ўсё гэтаксама, як і ўнізе, на зямлі. Але на гэтым свеце Ісая бачыў толькі тое, што рабілася каля яго, як мог ахапіць вокам, і чуў толькі тое, што дасягала да вушэй ягоных. А ўзняты на цвердзь нябесную, ён бачыў усё, што рабілася на ёй і было зусім падобна на тое, што рабілася на зямлі. І бачыў Ісая войны, як б'юцца адны народы с другімі народамі, як у полымі згараюць залатыя нівы, вінаграднікі, сёлы і гарады і як рэкі цякуць, чырвоныя ад чалавечай крыві. Ён бачыў, як баярскія воіны бізунамі б'юць прыгонных сялян, бачыў удовіныя слёзы і чуў сірочы плач дзетак, і ўладароў, якія бясчынствуюць, і папоў, якія адбіраюць кавалак у бедных, бачыў цароў, якія балююць у сваіх замках і жывуць прыпяваючы за золата, якое распаўзаецца па зямлі. Ён бачыў усё, што робіцца на ўсёй зямлі, і анёл сказаў яму тады: «Гэта д'ябла́ва царства, і ўвесь гэты лад на зямлі, што ты бачыш, усталяваны д'яблам, і ўсё, што робіцца на зямлі, зыходзіць з ягоных законаў».

Пасля гэтага анёл узнёс Ісая на першае неба. Там свяціла лагоднае сонца, панаваў спакой, і безліч анёлаў — адны з правага боку ад галоўнага анёла, а другія з левага боку — спявалі салодкагалосыя гімны. Пачыналі спяваць анёлы справа, потым падхаплівалі анёлы злева.

Анёл узносіў Ісая з аднаго неба на другое, і святло на кожным вышэйшым небе было непараўнана прыгажэйшае за святло ніжэйшага неба. І песні анёльскія таксама харашэйшыя, больш мілагучныя, яны яшчэ больш зачароўвалі душу. Нарэшце анёл узнёс Ісая на сёмае неба. Там святло было самае цудоўнае, анёлы размясціліся з левага і з правага боку ад нябачанага бога, каля якога сядзеў Ісус. Усе анёлы заспявалі, і тады нябачны бог прыняў анёльскае аблічча. А каля яго і наўкруг анёлаў стаялі праведнікі. Анёл, які суправаджаў Ісая, сказаў: «Праведнікі сядуць на свае троны, і каляровыя вянкі ўвянчаюць іх галовы, калі збу-

дзецца тое, што ў волі боскай. І раз табе належыць вярнуцца на зямлю, бог зараз пакажа табе будучыню, каб ты мог паведаміць пра яе твайму цару, цару Эзекію». І бачыў Ісая, як Ісус, сын божы, сыходзіў з неба на неба, да самае зямлі. І ніхто яго не пазнаў ні на адным небе, ні на зямлі. На зямлі Ісус пачаў вучыць людзей жыць па божых законах, але мала хто паверыў яму. Падбухтораныя д'яблам, няверуючыя людзі, якіх было больш, распялі Хрыста на дрэве. І д'ябальскі парадак на зямлі не змяніўся. Але Хрыстос уваскрэс, узнёсся да Айца свайго. І па волі Айца ён зноў сышоў на грэшную зямлю, каб здзейсніць Страшны суд: д'ябла і грэшнікаў паслаць у вечны агонь, а праведнікаў вывесці на неба. Самых праведных з праведнікаў ён завёў на сёмае неба. Там ззяла самае цудоўнае з цудоўных на ўсіх сямі небах святло і гучалі самыя мілагучныя анёльскія песні...

Я ўявіў сабе ўсё гэта, і мяне ахапіла туга. Вочы мае ніколі не ўбачаць нябеснага святла, а будуць глядзець на дым і агонь у пекле. Мне выпала доля выпіць Горкую чашу...

## 19

— І мне таксама! — сказаў я і паклаў сваю руку на Юліну.

Яна рукі не адняла.

Мы маўчалі, і ў цішыні чулася, як дажджавыя кроплі барабаняць па шыбах у вокнах. Было ўжо прыцемна, і Юля націснула кнопку настольнай лямпы. У пакоі змяшаўся прыцемак з жоўтым святлом.

Юля паволі вызваліла сваю руку з маёй і загаварыла:

— Ну вось, таварыш прафесар, вы папраўляецеся. Сёння я вам зрабіла апошні ўкол. Таму я вам больш не патрэбна. Лякарствы можаце прымаць самі, расклад на стале.

— Сапраўды! — сказаў я. — Табе пара пакінуць мяне, заняцца сваімі справамі, ты іх і так запусціла занадта.

— Нічога, як-небудзь папраўлю, — адказала Юля.

— Выходзь ты замуж! — параіў я. — Здаравей будзе, чым бадзяцца непрыкаянай.

Яна не адказала.

Я хацеў зноў узяць яе за руку, але яна счапіла рукі і схавала іх між каленяў. Сядзела нахіленая і неяк скурчаная, быццам ёй раптоўна стала холадна.

— Эх, Юля, Юля! — загаварыў я. — І навошта ты ўзваліла на сябе гэты крыж? Жыла б сабе спакойна! Плечыкі твае слабенькія, каб насіць розныя крыжы. Час добрых самаранак мінуў, цяпер ёсць дзяржаўныя бальніцы, дзе працуюць штатныя медыцынскія сёстры.

— Усё гэта мне добра вядома, таварыш прафесар! — парыравала Юля.

— Ты была ў мяне як на пакаянні, — працягваў я. — Ці то замольвала грахі, ці то міласэрнасцю ачышчала душу — адзін бог ведае. Але малітоўны час мінуў, ты ўзяла прычасце, супакоіла, так сказаць, душу. Чаго ж яшчэ? Я вельмі ўдзячны табе, і калі б ты не тузалася, як дзікунка, я з глыбокай пашанай пацалаваў бы пальчыкі тваіх рук. І ножкі твае пацалаваў бы — не кранаючы, каб пацалунак мой быў варты тваёй добрапрыстойнасці.

Гаворачы ўсё гэта, я заўважыў, што плечы яе ўздрыгваюць, яна раптам заплюшчыла вочы і ціха ўсхліпнула. Каб яго чорт узяў, як быццам мае словы яе расстроілі? Здаецца ж, нічога благога я не сказаў.

— Ці не здаецца вам, што вы занадта многа займаецеся мною? — прамовіла Юля, выціраючы далонькай вочы. — Я не зрабіла для вас нічога асаблівага. А калі глядзела вас, дык гэтак глядзела б кожнага. Кожнага, хто аказаўся б у вашым становішчы! — удакладніла яна.

— Ну што ж, — кажу. — Дзякуй! Цяпер для мяне ўсё ясна. А калі чалавеку ўсё ясна, ён адчувае сябе лепш. Цяпер я адчуваю сябе вельмі добра. Дзякуй табе за спагаду.

— Няма за што, — адказала Юля.

— Але ў мяне пытанне. Можна?

— Якое?

— Мы былі пачалі гаварыць на «ты». Як гэта здарылася?

— Не ведаю, — ціха адказала Юля.

— А дакладней, гэта ты пачала гаварыць да мяне на «ты».

Юля паціснула плячамі.

— Калі я вас пакрыўдзіла, прашу мне прабачыць! — прашаптала яна.

— Табе прабачана ўжо! — кажу.

Зноў у пакоі стала ціха. Пракляты дождж пачаў так моцна барабаніць у шыбы, нібыта напамінаў некаму пра нешта такое важнае, пра што ніяк нельга забыцца.

— Шкадую аб тваім «ты»! — уздыхнуў я. — Ведаеш, як яго мне будзе не ставаць?

— Не ведаю, — адказала Юля.

— І добра, што не ведаеш! — засмяяўся я, але смех мой, каб яго чорт узяў, быў зусім не вясёлы.

Памаўчалі, потым Юля ўстала:

— Трэба ісці, пара ўжо!

— Але як ты пойдзеш гэткім дажджом? Пачакай!

— Пара, пара ісці! — паўтарыла Юля, але быццам сама сабе. А мне ўсміхнулася ласкава і з нейкім сумам, як ніколі не ўсміхалася дагэтуль. — А вы каб не выходзілі з дому яшчэ хоць колькі дзён! У мяне ёсць суседка, старая жанчына, я прышлю яе да вас, каб дастаўляла вам усё, што трэба. Я ведаю, што вы нецярплівы, але вельмі прашу — не выходзьце! Калі б я была не медыцынская сястра, а вы — не прафесар, я спыталася б у вас: абяцаеце?

— Не абяцаю! — адказаў я. — А старая жанчына няхай лепш ідзе к чорту, чым прыходзіць да мяне!

— Бывайце! — махнула Юля рукой ад дзвярэй.

— Няўжо мы не можам развітацца як людзі? — я прыўзняўся на локці і працягнуў руку.

— Не трэба! — адказала Юля.

Мне здалося, што я вось-вось зараву.

Я і сапраўды заплакаў, але ў «душы», як кажа мой пабрацім Лукан.

Я з нянавісцю паглядзеў на дзверы — яны ўжо другі раз за гэты дзень хаваюць ад вачэй маіх дарагога мне чалавека.

І зноў я ўзяў у рукі рукапіс. Магчыма, у ім я знайду адказ на пытанне, дзеля якога збіраўся схадзіць да прыяцеля-філосафа: чаму ў жыццё чалавека, нават у жыццё чалавека праведнага, прыходзяць кепскія часіны?..

Лета 1258-е, сярэдзіна восені, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаслаціце і злітуйцеся над намі! Амін.

Пасля доўгага і знясільнага падарожжа па моры, якое ледзь не даканала Вучыцеля, мы дабраліся да Венецыі. У параўнанні з Салунам, з яго іпадромам і замкамі, з яго вежамі і сценамі, з сонечнымі вуліцамі і плошчамі, Венецыя — гэта вялікае зборышча будынкаў, згрувжаных на некалькіх астравах. Калі не лічыць каналаў, якія раздзяляюць астравы, і некалькіх цэркваў і будынкаў з белага мармуру, усё астатняе тут — цясноцце, вільгаць, доўгія лодкі і стройныя жанчыны, апранутыя ў яркія сукенкі і з вуалямі на тварах. Начавалі ў адным заезным доме, прапахлым плесенню і віном, які знаходзіцца на параўнальна шырокай плошчы, названай Святы Марка. На гэтай плошчы, акрамя вялікай царквы, якая дабудоўвалася, так што не бачна было яе твару, паабапал стаялі вялікія дамы, усе яны дзяржаўныя, а службоўцы іх хадзілі ў чорных мантыях і выглядалі вельмі важнымі.

На гэтую плошчу прывёў нас Танас, а заезны дом, у якім мы начавалі, кішэў чужынцамі, і якой толькі мовы не чулася там! Танас паміж тымі чужынцамі быў як свой між сваімі і хутка знайшоў чалавека, які даў згоду вывесці нас на сушу, а потым на павозцы даставіць у Мілан. Гэта падарожжа да Мілана будзе каштаваць нам трэцяй часткі залатых, якія ў нас ёсць. (Інэсіных залатых, няхай бог падорыць ёй доўгія гады і даруе ўсе яе грахі!) Свае чырвонцы залатыя мы памянялі на тутэйшыя грошы — дукаты і развіталіся з Танасам.

— Няхай бог дасць, каб мы сустрэліся на роднай зямлі і каб я пачаставаў цябе арбанаскім віном! — сказаў Танас, абдымаючы мяне, і па смуглых яго шчоках пацяклі рэдкія, але гарачыя мужчынскія слёзы.

І вось што здарылася на той плошчы Святы Марка, калі Танас пакінуў нас. Але спачатку скажу два словы пра чалавека, які павязе нас у Мілан. Прайдзісвет і хітрун. І яшчэ адно слова — п'яніца. Росту невысокага, цемнатвары, скура на твары зморшчаная, як на сушанай сліве.

Дык вось што здарылася на плошчы Святы Марка. Толькі мы рушылі перайсці яе, як з двухпавярховага цяжкага будынка з каланадай на другім паверсе выходзіць маладая жанчына, плача і рве на сабе валасы, а ўслед за ёй ідзе мажны, валюхасты мужчына ў шэрай мантыі да пятаў і сцябае яе тонкай скураной плёткай. Жанчына крычыць, ірве валасы, а ён сцябае па плячах

і на ламанай франка-італьянскай мове паўтарае адно і тое: «Ідзі, сучка! Ідзі!»

Калі ўбачыў я, што б'юць жанчыну і ніхто са шматлікіх прахожых на плошчы не ўмешваецца, у вачах у мяне пачарнела. Я наблізіўся да таго тоўстага чалавека і спытаў:

— Сеньёр, чаму ты б'еш гэту жанчыну, нібы жывёліну, ды яшчэ называеш яе «сучка»?

Тоўсты чалавек паглядзеў на мяне непрыязна, а жанчына, якая была зусім маладая, амаль дзяўчынка, тут жа кінулася на зямлю, укленчыла і працягнула да мяне рукі:

— Злітуйцеся, сеньёр, выбаўце мяне!

Тоўсты чалавек перацягнуў яе плёткаю на плячах і, чырвоны ад злосці, загаварыў да мяне:

— Чаго вы лезеце не ў сваю справу, сеньёр? Яе бацька завінаваціўся мне дзесяць залатых дукатаў, і з той прычыны, што выплаціць не можа, Сенат вынес пастанову пасадзіць яго дачку ў турму даўжнікоў. Тады я прапанаваў Сенату ўзяць яе ў свой заезны дом, каб дарэмна не сядзела без справы ў турме. Я буду яе і карміць і апранаць, і заробіць у мяне два дукаты за год. Гэтак за пяць гадоў яна адробіць бацькаў доўг і не будзе абузай для рэспублікі. Сенат з задавальненнем згадзіўся. Цяпер я вяду яе да сябе, а яна ўпіраецца. За тое і б'ю!

— Сеньёр! — заплакала дзяўчына і яшчэ ўмольней пацягнулася рукамі да мяне. — Яго заезны дом — публічны дом для маракоў і чужынцаў. Ён хоча зрабіць мяне прастытуткай! Злітуйцеся, добры сеньёр, дапамажыце мне!

Вакол нас хутка збіраўся натоўп, некаторыя мужчыны гаварылі, што дзяўчына якраз падыходзіць на гэтую справу, другія ўсхвалялі Сенат за яго мудрую пастанову, кажучы, што толькі так і трэба кіраваць рэспублікай, якая хоча ўзяць у свае рукі сусветны гандаль.

Адзін з тых, хто надта рупіўся пра інтарэсы рэспублікі, гучна выкрыкнуў:

— Генуі трэба нарэшце паказаць фігу!

— Віва! — закрычалі ў натоўпе.

— Сеньёр, — сказаў я разбойніку, які хацеў зрабіць з дзяўчыны прастытутку, — хадзем са мной у Сенат, я заплачу табе грошы, якія бацька гэтай дзяўчыны табе вінен. А яе не чапай, няхай вяртаецца дадому.

— Ідзіце сваёй дарогай, сеньёр! — яшчэ больш пачырванеў ад злосці тоўсты чалавек. — Не совай нос у чужыя справы! Сенат не будзе яшчэ раз займацца гэтай нікчэмніцай з-за таго, што такому дурню, як вы, нешта стукнула ў галаву! Акрамя ўсяго, у яе няма маці, а бацька яе нядбайнік і п'яніца, збанкручаны гандляр. Куды яна пойдзе?

— Калі ты не згодзішся ўзяць у мяне гэтыя дзесяць дукатаў, сеньёр, я ўнясу іх на рахунак яе бацькі ў Сенат, і ты атрымаеш іх у чыноўніка, які займаецца даўгамі. Устань, дзяўчынка! — сказаў я і падаў руку, каб ёй лягчэй было ўстаць.

Тады той разбойнік замахнуўся плёткай і ўдарыў мне па руцэ. Удар прыйшоўся зверху па кісці, і мне моцна забалела. Як узяла ж мяне тут злосць! Ажно, здаецца, увесь Святы Марка ў мяне перад вачамі закруціўся! Хапіў я таго нягодніка, і хоць ён быў цяжкі, як вол, падняў яго над сабою, сабраўся з сілаю і гмякнуў аб зямлю. Правільней, гмякнуў на пліты, бо плошча там вымашчана прыгожымі белымі плітамі. Разбойнік і не войкнуў, і не зварухнуўся. Добра-такі я яго гмякнуў.

Пасля гэтага ўзяў дзяўчыну за руку, пайшлі мы з ёй у Сенат, і я заплаціў доўг яе бацькі.

Пакуль я хадзіў у Сенат і адлічваў дукаты, прыйшлі вайскоўцы, і іх начальнік захацеў даведацца, хто я такі, навошта грымнуў вобзем такога і такога вось сеньёра і якім правам нашу баронскі персцень. Урэшце начальніку давялося нехаця ўсміхнуцца і аддаць мне чэсць. Пакуль я плаціў і даказваў свае «высакародства», дзяўчына стаяла каля мяне і калацілася, нібы яе трэсла ліхаманка.

Калі мы выйшлі з Сената, над плошчаю свяціла цудоўнае, яснае сонца, і тады, пры сонейку, я заўважыў, што дзяўчына чароўная — белы тварык, на якім свяціліся вялікія і глыбокія чорныя вочы, а выгнутыя вусны былі колеру чырвоных ружаў, што цвілі, як помню, ускрай садоў каля Філіпапаліса.

Я спытаўся, як яе завуць.

— Марыя, — адказала яна.

Яна тут жа ўпала на калені і пачала цалаваць мне рукі, а мне гэтак стала сорамна, ажно кінула ў пот, і, каб не выдаць сябе, я груба сказаў:

— Ану ўставай і пакінь мяне ў спакоі, у мяне наперадзе яшчэ далёкая дарога!

— Вазьміце мяне з сабой, добры мой сеньёр! — заплакала дзяўчына. — Бацька мой вінен Чэзару Савелі яшчэ дзесяць дукатаў, тэрмін выплаты іх хутка, праз некалькі дзён. Ён зноў мяне забярэ. Вы не ведаеце, які гэта страшны чалавек! Змілуйцеся, сеньёр, вазьміце мяне з сабой! Кіньце мяне па дарозе, пакіньце ў якім-небудзь горадзе, толькі не пакідайце тут!

Я паслаў з ёй Марыо, нашага фурмана, каб забралі рэчы, і праз гадзіну мы селі ў павозку ўтраіх: Вучыцель спераду, на козлах, а мы з Марыяй — ззаду, на сене. Марыо, вядома, запатрабаваў на дукат больш, таму што будзе ехаць яшчэ адзін чалавек. Я з лёгкім сэрцам даў яму той дукат. У мяне было такое адчуванне, што зрабіў добрую справу і што бог задаволены мною.

У горад Венецыю мы прыбылі 19 красавіка 1209 года. На наступны дзень, 20 красавіка, на фурманцы Марыо адправіліся ў Мілан. У фурманку было запрэжана чацвёра добрых коней, а як багажу ў нас амаль не было — толькі Вучыцелевы кнігі, ды ў кожнага клунак з запаснай вопраткай, каб можна было пераапрануцца, — рухаліся мы даволі хутка і маглі заехаць у Мілан сама больш за два дні. Дарога была добрая, рымская, замошчаная вялікімі пляскімі камянямі — такі гладкі і чысты шлях бачыў я ўпершыню ў сваім жыцці. Так што ў Мілан мы маглі заехаць своечасова, калі б нягоднік Марыо не напіўся два разы — першы раз у Вероне і другі раз у Брэшы. Давялося начаваць і ў Вероне, і ў Брэшы. Вучыцель быў незадаволены, што бавімся, скардзіўся, што работы, якая яго чакала, вельмі многа, а дзён, што засталіся да канца жыцця, зусім мала, можа, як кінуць каменем. «Вучыцелю, — супакойваў яго я, — калі напружыцца ды кінуць камень велічынёй з мае прыгаршчы, ведаеш, куды ён даляціць? Доўга трэба будзе ісці да таго месца, дзе камень упадзе!» Ён на гэта лагодна ўсміхаўся, але нічога не казаў. Ён быў задумлівы, мабыць, шмат чаго было ў яго ў галаве, а сілы з-за доўгага падарожжа сапраўды засталося мала. У час прыпынкаў я ссаджваў яго з козлаў, і ў маіх руках ён важыў як сямі-васьмігадовы хлопчык. Калі я ссаджваў яго на зямлю, мяне ахоплівала непрыемнае пачуццё, ажно гадзіла.

А што да мяне — няхай даруе бог, — дык п'янства Марыо і затрымка зусім не хвалявалі. На плячы ў мяне ўсміхалася чароўная дзяўчына, свет мне здаваўся цу-

доўным, лепшага не трэба, я не хацеў спяшацца куды б там ні было, у фурманцы я адчуваў сябе найлепш. Мне было вельмі прыемна, калі якое-небудзь кола правальвалася паміж камянямі бруку і фурманка нахілялася — тады Марыя прыціскалася да маіх грудзей і з палахлівай усмешкай паглядвала на мяне, а я нібыта памагаў ёй сесці роўна, але з гэтым надта не спяшаўся. І ці, можа, таму, што ехалі мы раўнінаю, паўз зялёныя, прыбраныя ў квецень сады, і гэтыя краявіды нагадвалі мне родны край і абуджалі ў душы ўспаміны пра яго, ці што свежы ветрык прыносіў водар сагрэтай зямлі, сакавітых лугоў і духмяных траў; ці, можа, што да майго пляча даверліва хінулася Марыя і цёплым грудным голасам спявала мне гуллівыя венецыянскія песні — адзін бог ведае, але салодкімі мроямі ўпівалася душа мая, і я думаў у захапленні: «Божа, які цудоўны свет!»

У Верону прыехалі крыху за поўдзень — Марыо не шкадаваў коней і гнаў шалёна. Верона мне здалася куточкам раю — увесь гарадок патанаў у зеляніне, дамкі хаваліся ў расквітнелых садах; з даўніх часоў пакінутыя замкі — напэўна, яшчэ з рымскіх — сям-там выстаўлялі абураныя муры, прыхаваныя дзікім бэзам і плюшчом. І такая ціш панавала над гэтай мірнай зямлёй, што хацелася прыхінуць Марыю за плечы і сказаць: «Эх, дзяўчынка, хочаш, давай застанёмся тут на ўсё жыццё!»

Спыніліся мы ў заезным доме, які трапіўся па шляху, пры самым уездзе ў гарадок. Я выгаладаўся, як воўк, Марыя таксама не адмаўлялася ад яды — мы моўчкі накінуліся на смажаных куранят, якіх падаў карчмар, на свежую брынзу, на зялёную цыбульку, свежыя пёркі якой раставалі ў роце, як масла. Пад'еўшы, выпілі па кубку кіславатага леташняга віна, яно было моцнае, і Марыіны вочы засвяціліся, нібы гранатавыя каменьчыкі. Такімі каменьчыкамі была аздоблена брошка ў Людовікавай жонкі. Марыо еў толькі брынзу з цыбуляй і піў віно проста з вялікага збана. А Вучыцель, гэты святы чалавек, — перад ім стаяла талерачка з сухім вінаградам, і ён час ад часу браў у рот па зярняці.

Пакуль паабедалі, сонца ўжо пачало хіліцца на захад, і я прапанаваў Марыі пахадзіць, паглядзець горад. Не ведаю, што яна падумала, але адразу спахмурнела, нібы святлінкі, якія былі ў яе вачах, раптоўна пагаслі,

і яна пакорліва, нібы сабачка, пайшла за мной.

Мы прайшлі крокаў дваццаць ад гарадской брамы, тады яна неяк зачасціла, нібы ў яе самлелі ногі, і раптам спынілася. Твар у яе пабялеў, у цёмных вачах з'явілася вільгаць, вусны дрыжалі.

Яна паглядзела мне ў твар і ціха спыталася:

— Вы тут хочаце мяне пакінуць, сеньёр Люка?

Я спачатку зніякавеў, бо тое, што яна са мной, і што мы выйшлі ў горад прагуляцца, і што бесклапотна гутарым, як у свой час гутарылі з Інэсаю, было ў маёй душы як звычайная рэч. І раптам як ацверазеў, заслона, якая часова захінула ад мяне яе жыццё, у адно імгненне разарвалася, і ў разрывах яе мне ўбачылася невядомасць, у якой не праблісквала ні іскрынкі святла. Як я мог пакінуць гэту безабаронную і кволую істоту ў чужым горадзе, сярод незнаёмых людзей, без ніводнага блізкага чалавека, увесь скарб якой увязаны ў хусцінку? Але ж і з сабою браць яе не выпадала, я быў у падпарадкаванні ў Вучыцеля, а Вучыцель проста не хацеў яе заўважаць, для яго яна была нібы пустое месца. Яна не была мне ні жонка, ні сястра, дык якога д'ябла я цягнуў яе за сабой? Яна не была нават з н а ш ы х, бо за час, які мы ехалі, яна два разы перахрысцілася, але я тады быў разгублены і не звярнуў увагі на тое...

— Вы тут пакінеце мяне, сеньёр? — яшчэ цішэй паўтарыла яна.

— Ні ў якім разе! — усклікнуў я. — Як ты магла такое падумаць?

— Але ж, літасцівы сеньёр, вы ўсё роўна дзе-небудзь пакінеце мяне, так? Я ж вам ніхто і калі застануся пры вас, буду ганьбіць ваш гонар. Калі б я была вулічная, ніхто б вам слова не сказаў, кожны сеньёр можа мець пры сабе колькі хоча вулічных, але мяне жанчыны могуць дзе-небудзь прыбіць каменнем, дый вы можаце з-за мяне пацярпець. Ах, прасвятая матка боская, чаму ў мяне хоць мамачкі няма? — горка заплакала яна.

— Ды кінь ты думаць пра гэта! — пачаў я, адчуваючы сябе як на іголках. — Дарога далёкая, час ёсць, што-небудзь прыдумаем... Не плач!

Яна выцерла слёзы рукавом блузкі і ўсміхнулася.

— А ўсё-такі лепш было б не хадзіць вам са мной па горадзе!

— Марыя, — сказаў я на гэта, — няхай толькі хто

скажа на цябе благое слова, і яму будзе горш, чым таму нягодніку Чэзару Савелі!

Адзін гаспадар крамы, дабрадушны дзядзька, гаварыў:

— Маладая і прыгожая жоначка ваша, сеньёр! На старую каргу начапі золата і брыльянтаў, яна каргой і застанецца. А маладой шкляныя пацеркі надзень на шыйку — як сонейка засвеціцца! Хай ёй бог здароўечка дае, беражыце яе як фарфоравую лампадку!

Калі мы выйшлі за браму, Марыя са скрухай і сарамліва кажа:

— Ён падумаў, што я ваша жонка, сеньёр!

— Колькі табе гадоў, Марыя? — спытаўся я.

— Семнаццаты пайшоў, ужо два месяцы, сеньёр...

Я застаўся спаць на павозцы, Марыо і Вучыцель, як былі невялікія, размясціліся на лаўках у заезным доме, Марыя легла ў бакоўцы, а гаспадар падняўся ў пакойчык на другім паверсе.

Выцягнуўся я на сене, а сон не бярэ. Дзе мне ўладкаваць гэту дзяўчыну і што станецца з сіратой? Безліч зорак мігцела ў мяне над галавой, Вялікая Мядзведзіца апускалася на паўночны ўсход, Стажары падаваліся на захад. Застракаталі цыкады, у недалёкім кустоўі пачуўся салаўіны пошчак. І мне ўявілася, што я дома, у сваім сяле, ляжу на двары на кучы лісця, нарыхтаванага козам, і толькі не чутно, каб рыпнулі дзверы — чаму не выходзіць мама, як гэта яна звычайна робіць па два разы на ноч, каб праверыць, ці не раскрыўся я?

Але вось ледзьве чутна рыпнулі дзверы заезнага дома, і праз некалькі імгненняў на павозку ўскараскалася Марыя — усхваляваная, яна заікалася і ўсхліпвала: Марыо, п'яны, убурыўся ў бакоўку, ухапіў яе, і яна ледзь змагла вырвацца з ягоных рук.

Пайсці ды даць яму добра — не выпадала: хто тады нас завязе ў Мілан? Ды і не варта ўзнімаць шум. Вучыцель пасля ўсяго скажа: «Бачыш, Лукане, што выйшла, як ты паслухаў д'ябла? Чаму ў мяне не спытаўся, браць гэтую дзяўчыну з сабой ці не?»

— Не бойся, Марыя, — сказаў я. — Гэтая свіння Марыо сюды не пойдзе. А калі паспрабуе, я звяжу яго і кіну ў кусты, да жаб. Не бойся!

Але яна вельмі спалохалася і не пераставала дрыжаць, плакала, хавала галаву ў мяне на грудзях. Я захінуў яе палярынай, прыгарнуў. Яна таксама абняла

мяне і прыціснулася, як кацянё туліцца да сваёй маткі.

Так мы ў тую ноч і пажаніліся. Свечкамі нам былі зоркі, а салаўі спявалі шлюбную песню.

На досвітку я завёў яе спаць у бакоўку. На падлозе хроп як забіты Марыо. Вучыцель таксама спаў сном праведніка.

Але потым, запрагаючы коней, Марыо падміргнуў мне і кажа:

— Дасі паўдуката, дык нікому не скажу...

Я замахнуўся, хацеў даць яму па п'янай мордзе, але ў гэты момант з дзвярэй заезнага дома паказаўся Вучыцель, і я стрымаўся.

— Добра, дам, — паабяцаў. — Дам, як прыедзем у Мілан.

Я пачакаў Вучыцеля і спытаўся:

— Вучыцелю, можа, ты злуеш, што ў Венецыі я заступіўся за гэту дзяўчыну?

— Я не злую, дзіця. Тым, што збавіў яе ад ганьбы і не даў таму чалавеку зрабіць яе вулічнай, ты зрабіў добрую справу. Але што ўдарыў таго чалавека — саграшыў. Толькі бог мае права караць.

— Добра, — кажу. — Бяру той грэх на сваю душу. Але хачу табе сказаць, Вучыцелю, якое мае значэнне, колькі ў мяне будзе надалей грахоў? Калі ўжо я згадзіўся з мячом служыць табе, каб ахоўваць, пакуль ты дабярэшся да статка свайго, то тым самым зрабіў галоўны грэх — прадаў сваю душу д'яблу!

— За гэты твой галоўны грэх, дзіця, я заступлюся за цябе перад богам і буду прасіць, каб пакараў мяне, а не цябе. За астатнія свае грахі сам прасі бога, каб дараваў, і даραванне будзе табе, калі пакаешся ад душы і сэрца і ўсе наступныя дні будзеш весці праведнае жыццё. А гэтую дзяўчыну ты павінен пакінуць, пакуль д'ябал не спакусіў цябе саграшыць з ёй. Таму што якраз ты, хто быў да яе літасцівы, не павінен яе і пальцам крануць. Хто раздае міласць, не павінен патрабаваць і прымаць узнагароду за міласць сваю. Так казаў Ісус.

Я маўчаў, збянтэжаны ў душы, бо зразумеў, што Вучыцель кажа праўду.

Па дарозе ў Брэш я амаль увесь час маўчаў і стараўся не дакранацца да Марыі. А яна пазірала на мяне са здзіўленнем, і шчокі ў яе то рабіліся ружовыя, то бляднелі. Так было, ажно пакуль не прыехалі ў Брэш.

У Брэшы я прапанаваў Марыі прагуляцца і пагля-

дзець горад, і як толькі прайшлі гарадскую браму, яна зноў папыталася: «Ты тут пакінеш мяне, Люкан?» Яна ўжо не называла мяне сеньёрам, а казала «Люкан». Я нічога не сказаў ёй, а павёў на плошчу, завёў у крамку і там выбраў ёй бранзалет, таксама з пацерак, але на гэты раз пацеркі былі жоўтыя і ў пяць радоў. Гандляр казаў: «Ваша жонка, сеньёр, такая прыгажуня, што ёй усё да твару!» — і Марыя, пачуўшы гэта, пачырванела.

У тую ноч яна зноў прыйшла да мяне. Марыо п'янстваваў у горадзе і, вяртаючыся на досвітку, заўважыў, што Марыя бегла з павозкі ў заезны дом, дык зноў падміргнуў мне:

— Яшчэ паўдуката, сеньёр, каб маўчаў!

— Атрымаеш, Марыо! Як толькі прыедзем у Мілан.

У Мілан мы прыехалі пасля паўдня. Зноў спыніліся ў заезным доме, але на гэты раз не па-за гарадскімі варотамі, а ў цэнтры, непадалёк ад гарадскога рынку. Вучыцель паслаў служку з карчмы знайсці і прывесці чалавека, якога завуць Марка, а мяне папрасіў растлумачыць яму, што гэты Марка жыве там і там. Я растлумачыў служку, як знайсці памянёнага Марку, і той пайшоў яго шукаць.

— Гэты Марка, — пачаў расказваць мне Вучыцель, але шэптам, хоць ніхто з навакольных сталоў не разумеў па-балгарску, нават Марыя, якая сядзела з намі, — гэты Марка — наш, балгарын, ён родам з аднаго сяла непадалёк ад Велбажда, але пятнаццаць гадоў ужо, як жыве тут, у Ламбардыі. А прывёў яго на гэту зямлю Назарый, таксама балгарын, які пяць гадоў таму назад быў епіскапам багамільскім усёй Ламбардскай вобласці. Назарый родам з Тырнаўграда, і душа ягоная вызвалілася ад цела пяць гадоў назад. Ён аддаў богу душу, не паспеўшы благаславіць Марку на сваё месца. Цяпер гэту справу павінен здзейсніць я, дзіця маё. Я благаслаўлю яго пастырам ламбардскага статка.

— Няўжо сярод тутэйшых не было каму гэта зрабіць? — здзівіўся я. — У твае гады пускацца ў такую далёкую і цяжкую дарогу дзеля справы, якую мог бы хто-небудзь з тутэйшых зрабіць!

— Вучэнне папа Багаміла аб Стварэнні і аб Ісціне Ісусавай прапаведавалася на гэтай зямлі перш за ўсё балгарамі. Епіскап Назарый першы сабраў Хрыстовы

статак у недалёкім тут гарадку, які называецца Канкарэца. Ён першы прынёс сюды і пераклаў на лацінскую мову нашу Свяшчэнную кнігу. Па душы ён святы чалавек, і ў яго, і ў ісціны, якія ён прапаведаваў, паверылі многія. Сярод тых, хто паверыў, ёсць князі і іншыя вяльможы, і таму сапраўдную веру Хрыстову ў Ламбардыі не праследуюць гэтак, як у нашай краіне. Як пасвячу тут Марку ў пастыры ламбардскага статка, мы з табой спусцімся на поўдзень, на зямлю франкаў, названую Аксітаніяй. Там нашым братам выпала вялікае выпрабаванне, бо ілжэхрыстова царква і князі з поўначы павялі супраць іх смяротную барацьбу. Тое, што ў Балгарыі робіць Барыл, якое яно ні страшнае, але гэта дзіцячая гульня ў квача ў параўнанні з тым, што цяпер робіцца на зямлі франкаў... Вось чаму, дзіця, каб мне дайсці да іх і дапамагчы ўмацаваць ім дух, маё слабое цела мае патрэбу ў такой надзейнай апоры, як ты...

Пакуль Вучыцель гаварыў, Марыя задрамала, і я ахінуў яе сваёй палярынай. Тады ўсе, хто быў вакол нас, утаропілі на мяне вочы, бо я быў апрануты як вяльможа і на баку ў мяне вісеў меч.

Але вось нарэшце служка прывёў Марку, і Вучыцель устаў, каб даць яму месца за нашым сталом. Марка, чалавек гадоў пад пяцьдзесят, невысокі і рухавы, быў апрануты ў шэрую валасяніцу. Ён пачціва пацалаваў руку Вучыцелю, а Вучыцель пацалаваў яго ў лоб. Потым Марка сеў і не адкрыў рот, пакуль Вучыцель не расказаў яму, хто я, дзе вывучыў лацінскую мову і франкскую, і што ён прынёс яму Свяшчэнную кнігу і Бачанне Ісаева ў маім перакладзе. Калі Марка пачуў пра гэтыя кнігі, яго задуменны твар крыху ажывіўся, ён усміхнуўся мне і кажа:

— Аднае гэтае справы тваёй, сыне, дастаткова, каб бог добразычліва паглядзеў на твае сённяшнія і будучыя грахі.

Потым Вучыцель расказаў яму пра Марыю, якая ў гэты час соладка спала, апусціўшы галаву на стол.

— У Канкарэца ёсць добрыя людзі. Я ўладкую яе на работу да сеньёры, — загаварыў Марка. Ён памаўчаў, дастаў з кішэні сваёй расы жменю сушаных сліў, паклаў перад кожным з нас па некалькі слівін і заклапочана паківаў галавой. — Прыехалі вы ў нядобры час, брацці! Папа Інакенці Трэці агаліў меч і запаліў галавешку і

над Ламбардыяй! Міланскі дук[1] не саступаў яму і цяпер не саступае колькі змогі, але ў таго сына д'ябла многа сілы і многа грошай, і ён націскае. І наш дук пачаў патроху саступаць, каб выйграць час.

— Дык хіба дук міланскі — багаміл? — здзівіўся я немаведама як.

— Каб сказаць багаміл, дык не, сыне. Але наша царква не такая, як каталіцкая, што імкнецца зрабіць яго слугою папы, а папу ягоным гаспадаром. Наша царква вызваляе яго ад папскага верхаводства. А гэта азначае, што ён не плаціць папу дзесяціны з прыбыткаў сваіх, не пасылае войска, калі папа пажадае, і ў яго развязаныя рукі ў адносінах з суседзямі. У яго інтарэсах, сыне, каб царква ў Італіі, ды і паўсюдна, была багамільскай. Але я табе скажу, сыне, што дзякуючы руплівасці нашага Назарыя, душа якога ўжо ўпіваецца шчасцем каля боскіх ног, многія сеньёры душою прынялі нашу веру, а некаторыя нават і пахрысціліся ў Духа Святаго. Так, да прыкладу, канкарэцкі маркіз, Ларэнца Мацоні, — наш чалавек, хоць і не хрышчаны. Але жонка ягоная, маркіза, да якой я завяду гэту дзяўчынку, — ён кіўнуў на Марыю, якая спала, — пахрысцілася, ужо два гады мінула, у Духа Святаго. І яна добрая наша сястра і жыве па нашым звычаі. У Канкарэца большасць жыхароў — нашы веруючыя, католікаў зусім мала, але і яны не варагуюць з намі. А тут, у Мілане, справы кепскія.

Марка ўзняў вочы да закуранай столі і зашаптаў малітву «Ойча наш». Скончыўшы маліцца, ён пакланіўся нам усім, нават Марыі, якая бесклапотна спала, і працягваў расказваць:

— Час ад часу дук Мілана падкідвае таму дэману Інакенцію Трэцяму якую-небудзь ахвяру. Каб паказаць яму, што сам не з намі і што не стаіць ужо гэтак за нас. Вось, браце Іосіф, і ты, браце Лукан, калі ты прыняў душою ісцінную веру Хрыстову, — абодвум вам скажу, што сёння дух мой у вялікай журбе і што ўсё ўва мне дрыжыць ад гора. Сёння ўвечары на гарадскім базары будзе спалены на кастры адзін наш д а с к а н а л ы брат... Няхай бог прыме душу ягоную і аддзячыць за страшныя пакуты, якія чакаюць д'ябла!

Я, ашаломлены, маўчаў, а Вучыцель узняў вочы да

[1] Д у к — тытул знатнай асобы, ніжэйшы за «прынц»; герцаг.

столі і таксама шэптам прачытаў малітву «Ойча наш».

— Я завяду вас у Канкарэца, — сказаў Марка, — калі адбудзецца гэта экзекуцыя. Мой абавязак — стаяць перад пакутнікам, пакуль ён будзе гарэць у агні.

— Яна не павінна бачыць гэтае! — прашаптаў я, кіўнуўшы на Марыю, якая пачала варушыцца пад палярынай і прачыналася ўжо.

— Я прышлю адну нашу сястру, і яна завядзе вас абаіх да добрых людзей, — сказаў Марка.

— Я павінен быць там, дзе Вучыцель, — адказаў я. — А яна няхай ідзе да добрых людзей і там пачакае мяне.

— Куды мяне павядуць? — спыталася Марыя, спалохана ўзіраючыся мне ў твар.

— Не бойся! — супакоіў я яе. — Пад вечар цябе завядуць да добрых людзей. А калі зусім сцямнее, Вучыцель Марка завядзе нас з табой у недалёкі гарадок Канкарэца.

І каб не выклікаць падазрэння ў людзей, якія сядзелі за суседнімі сталамі і пачалі ўжо паглядваць на нас скоса, я гукнуў карчмару:

— Гэй, сеньёр! Прынясі нам збан віна і свежае брынзы і пачастуй усіх гэтых шаноўных людзей ад майго імя шклянкай самага вытрыманага віна, якое ў цябе ёсць!

Плошча гарадскога базару была забіта народам, але прыйшлі воіны і адцяснілі людзей далей ад кастра. А куча кастра была скідана з тоўстага і дробнага палення, сярод якога ў зямлю быў убіты кол з ланцугом. Я падвёў сваіх старых да начальніка воінаў і сказаў яму, што хачу зблізку глядзець на экзекуцыю, таму што сам павінен буду кіраваць такімі справамі ў маёй краіне, а гэтыя двое, — кіўнуў на старых, — манахі, і яны хочуць, благачынныя, усцешыць душы свае, гледзячы на пакуты гэтага ерэтыка.

— З якой краіны ваша высакароддзе? — пацікавіўся начальнік.

— З Нармандыі мы! — адказаў я.

— Тут няма надта на што любавацца, але калі ўжо так хочаце — глядзіце! — сказаў раздражнёна начальнік і пакінуў нас стаяць блізка ад кастра.

Неўзабаве каты прывялі асуджанага, узвялі яго па паленні на касцёр і ланцугом прывязалі да калка. Гэта быў чалавек сярэдняга ўзросту, у падзёртай чорнай

расе, сухі, як сцябліна, з жоўтым тварам і вялікімі змучанымі вачамі. Калі каты праводзілі яго каля нас, ён убачыў Марку, і на нейкае імгненне падумалася мне, што ён зараз спыніцца, але мне гэта толькі здалося, шлях свой да галгофы ён праходзіў спакойна, нібыта бачыў незнаёмага чалавека.

Прывязаўшы яго ланцугом да калка, каты набралі па бярэмю сухога галля з кучы, якая ляжала побач, і раскідалі яго на кастры. Гэтак зрабілі яны па некалькі разоў. Потым двое з іх запалілі паходні і ў суправаджэнні нейкага манаха ў бліскучай расе і з іконай у руцэ наблізіліся да кастра. Манах узняў ікону і спытаўся:

— Ці прызнаеш святую Багародзіцу?

— На гэтым свеце ніколі не было ніякіх багародзіц!— хрыпатым голасам, але гучна, каб маглі яго чуць і ў канцы плошчы, адказаў асуджаны.

— Ці адмаўляешся ад сваёй пякельнай ерасі, багазневажальнік?

— Мая вера — праўдзівая хрысціянская вера, а ваша, няшчасныя, — ерэтычная!

Нехта з натоўпу закрычаў:

— Трымайся, Луцый! Пакажы гэтым іншаверцам, як трэба паміраць за сапраўднага бога!

Туды, адкуль пачуўся голас, кінуліся воіны, а двое катаў пачалі падпальваць галлё. Пацягнула дымам, у розных месцах па сухім галлі заскакалі вогненныя языкі, полымя разгаралася, яго пасмы зрасталіся, рабіліся ўсё большыя, паступова лезлі ўгору, да вяршыні кастра.

Калі полымя ахапіла ўвесь касцёр, я не вытрымаў і заплюшчыў вочы. Вучыцель слабым голасам чытаў «Ойча наш», то паскараючы, то запавольваючы маўленне. А Марка, натужваючы голас, каб перакрыць гул вогнішча, спяваў «Veni Greator Spiritus».

Праз паўгадзіны натоўп пачаў разыходзіцца. Ужо згушчаўся змрок. На месцы, дзе быў касцёр, пасярод гарачага вугolля, віднеўся цёмны сілуэт, які месцамі то браўся агнём, то патухаў, асветлены жарам ды апошнімі іскрамі, якія вылятаюць з яго.

Гадзін у дзесяць мы прыбылі ў Канкарэца. Калі развіталіся з Марыяй, яна горка заплакала, а я адчуў, што ў сэрца нібыта ўелася страла.

— Не плач, Марыя! — спрабаваў я суцешыць яе. —

Заўтра прыйду, забяру цябе, і ўсе наступныя дні ты будзеш заўсёды са мной!

Калі яе і жанчыну, якая была з ёй, схавала цемра, я сказаў майму Вучыцелю і Вучыцелю Марку:

— Благачынныя пастыры статка Хрыстовага! Я грэшны чалавек і зноў саграшыў. Гэтая дзяўчына, пакуль мы дабіраліся да Мілана, стала маёю жонкай. За свой грэх я буду адказваць перад богам. Але калі я пакіну гэтую дзяўчыну пасля таго, як саграшыў з ёй, бог пакарае мяне яшчэ больш сурова. Калі пакіну яе, а яна ўжо носіць у сваім улонні майго сына або маю дачку, бог адверне свой твар ад мяне, таму што я буду несумленны чалавек. Калі я паслухаў д'ябла раз і саграшыў з ёй, дык не хачу слухаць д'ябла другі раз і пакідаць яе адну, каб яе бэсцілі людзі як маці незаконнага дзіцяці.

Я так сказаў ім, а яны абодва задумаліся і доўга маўчалі.

Потым яны разам прамовілі малітву «Ойча наш», і Вучыцель Марка загаварыў да мяне:

— Брат Іосіф вышэйшы пастыр за мяне, і ён разважыць, як быць з табой і з гэтай дзяўчынаю. Але я скажу, што думаю. Нявартай душой сваёй я чую, што дзіця, якое народзіцца ад вашае грахоўнае сувязі, у гэтым жорсткім свеце павінна насіць імя свайго бацькі. І што ты, калі пакінеш дзіця без бацькоўскага імені, толькі ўзрадуеш д'ябла.

— Эх, Лукане, Лукане, дзіця маё! — уздыхнуў Вучыцель Іосіф. — Ты саграшыў з гэтай дзяўчынай, але вінаваты ў тваім граху я сам, бо павёў цябе з сабою ілжывымі і каварнымі сцяжынамі гэтага д'ябальскага свету! У гэтую ноч я не буду спаць, а буду маліцца богу, каб пакараў мяне за твой грэх. Але і ты маліся богу і кожнае паўгадзіны кажы малітву «Ойча наш». Заўтра я вас благаслаўлю і вазьму на сябе ваш грэх перад богам. А вы з дзяўчынай павянчаецеся ў д'ябальскай царкве ў гэтым горадзе, каб улада лічыла вашу сувязь законнай і дзіця, якое народзіцца, — законнанароджаным. І каб дачасна не быў перапынены шлях маці яго да божай ісціны. Таму што і ў яе ёсць дні наперадзе, каб пакаяцца і выкупіць грэх!

Нейкі час я маліўся і мовіў «Ойча наш», а потым заснуў. Раніцай, яшчэ на золаку мяне разбудзіў Вучы-

цель Іосіф. Твар ягоны быў жоўты, вочы змучаныя і страшэнна стомленыя.

— Дзіця, дзіця! — уздыхнуў ён. — Я праз усю ноч распінаю душу сваю на крыжы дзеля цябе, а ты соладка спіш!

Вучыцель Марка завёў нас у прасторны будынак, дзе сабралася многа народу. Мае вочы адразу спыніліся на адной стройнай сеньёры. Сукенка на ёй была сціплая, але ў параўнанні з бядняцкім адзеннем на іншых жанчынах выглядала шыкоўна. Сама сеньёра была вельмі прывабная, з мілавідным тварам, і гадоў ёй было не больш за трыццаць.

— Гэта сеньёра Беатрычэ, жонка маркіза Ларэнца Мацоні, наша сястра ў веры Хрыстовай, — сказаў пра сеньёру Вучыцель Марка. — Яе добраму сэрцу мы даверылі тваю Марыю. — І, павярнуўшыся да маркізы, прамовіў: — А гэта юнак, які сёння стане яе мужам.

Я пацалаваў маркізе руку, яна падзякавала, але збянтэжылася.

— Тут я толькі сястра сярод братоў сваіх, сеньёр, — сказала яна мне. — Не прынята, каб брат цалаваў руку ў сястры.

Я пакланіўся.

— Прабачце! — папрасіў я прабачэння і зноў па звычцы памкнуўся пацалаваць яе руку, але яна далікатна адвяла яе і на гэты раз зусім пачырванела.

Потым Вучыцель Іосіф узвёў Вучыцеля Марку ў сан епіскапа.

Вучыцель Марка заслаў стол белым абрусам і паклаў на яго бохан хлеба. Затым тры разы пакланіўся Вучыцелю Іосіфу. Вучыцель Іосіф прамовіў: «Злітуйцеся і благаславіце!» І тры разы прачытаў малітву «Ойча наш». Усе, хто быў там, паўтаралі малітву разам з ім, і атрымлівалася штосьці падобнае на царкоўны хор.

Вучыцель Іосіф потым кажа:

— Балгарская царква — маці ламбардскай багамільскай царквы. Балгарскі багамільскі епіскап айцец Назарый быў першым яе ламбардскім епіскапам. Як прадстаўнік царквы-мацеры я ўзводжу айца Марку ў сан епіскапа.

Айцец Марка схіліў галаву, і Вучыцель Іосіф узвёў над ім абедзве рукі і зноў прамовіў малітву «Ойча наш». Яе хорам паўтарылі ўсе, хто прысутнічаў на гэтым абрадзе. Адзін я маўчаў. Я не быў пахрышчаны.

— Наш Гасподзь Ісус Хрыстос, — гаварыў далей Вучыцель Іосіф, — паводле евангелля святога Матвея, казаў сваім вучням: «Ідзіце і навучыце ўсе народы і пахрысціце іх у імя Айца і Сына і Святаго Духа. І навучыце іх берагчы ўсё, што я вам наказваў. І вось я з вамі да канца свету». І ў евангеллі святога Марка наш гасподзь бог Ісус Хрыстос кажа: «Ісціну, ісціну кажу вам, што ніводзін чалавек не ўвойдзе ў царства божае, калі не быў адроджаны вадой і Духам Святым». Іаан Хрысціцель таксама гаворыць пра гэта хрышчэнне, калі кажа: «Гэта праўда, што я хрышчу вадой, але Той, хто ідзе ўслед за мною, мацнейшы за мяне, і я не варты нават завязаць раменьчыкі на абутку Ягоным. Ён пахрысціць вас Духам Святым і агнём». Вось чаму я ўзводжу айца Марку ў сан багамільскага епіскапа Ламбардыі праз Духа Святаго.

А ты, айцец Марка, брат наш, павінен ведаць, што божай царкве дадзена ўлада звязваць і развязваць, адпускаць грахі і затрымліваць, як і Хрыстос кажа ў евангеллі святога Іаана: «Як Айцец мяне праводзіў, так і я вас праводжу. — І, сказаўшы гэта, дзьмухнуў і мовіць: — Прыміце Духа Святаго!»

Айцец Іосіф разламаў хлеб:

— Як хлеб дае жыццё целу, так і твае словы, у якіх гучыць Слова Ісусава, няхай даюць жыццё душы. Вучы словамі, якімі вучыць Ісус, каб людзі жылі па наказе Хрыстовым, а не па настаўленнях Майсеевых. І каб ведалі людзі, што ўвесь лад на зямлі ёсць лад д'ябальскі, і толькі той, хто супрацьпаставіць яму ісціны, увасобленыя ў евангеллі і перш за ўсё ў евангеллі Іаанавым, узыдзе да Айца нябеснага.

— Благаславіце і злітуйцеся над намі!

— Благаславіце і злітуйцеся над намі! — паўтарылі хорам усе прысутныя.

Гэтым абрад завяршыўся. Я паглядзеў на маркізу Беатрычэ Ларэнца — шчокі ў яе пабляднелі, а ў вачах стаялі слёзы.

Перад тым як выйсці з будынка, кожны адломваў па кавалачку ад хлеба, толькі я не дакрануўся да яго. Сярод усіх гэтых людзей толькі адзін я быў нявартым. Маркіза заўважыла, што я замаркоціўся, і, праходзячы каля мяне, прашаптала на вуха:

— Не засмучайцеся, сеньёр! Сёння вы будзеце маім

госцем, і я вас пачастую хлебам, бялейшым нават за шыйку вашае маладое жонкі!

— О, маркіза! — усклікнуў я. — Сёння я буду самым шчаслівым чалавекам на свеце.

Маркіза дала нам у карыстанне сваю брычку, каб мы маглі аб'ехаць і паглядзець маёмасць багамільскай абшчыны. Мы праязджалі ўскрай вінаграднікаў, паўз нівы і сады, і айцец Марка, новы епіскап ламбардскі, з натхненнем тлумачыў, які ўраджай збірае абшчына і паколькі чаго з агульнага выдзяляецца на сям'ю.

— Адпаведна колькасці душ у сям'і! — казаў айцец Марка. — Каб было занадта, дык не скажу, а пра пераяданне і гаворкі няма! Але ж ніхто не галадае, а гэта вельмі важна!

Вучыцель Іосіф слухаў і хмурыўся.

— Як мне здаецца, браце Марка, — паківаў ён пабялелай галавой, — вы, тутэйшыя браты і сёстры, перабіраеце меру з клопатамі аб цялесных патрэбах. Ды і дзяцей надта многа бегае на вуліцах!

— Я вучу ўстрымлівацца, браце Іосіф, але тутэйшыя людзі любяць дзяцей, што я магу зрабіць!

Праехалі мы і ўскрай угоддзяў маркіза Мацоні. Угоддзі багатыя, і ўсё на іх — узорнае. Нідзе ніякага занядбання, кожная пядзя зямлі старанна апрацаваная.

— Ці толькі маркізавы работнікі апрацоўваюць гэту зямлю? — спытаўся Вучыцель, прыкідваючыся вельмі здзіўленым.

— Памагаем і мы яму, браце Іосіф, — уздыхнуў айцец Марка.

— А ці не думаеце вы, што, памагаючы яму, вы падтрымліваеце і ўмацоўваеце жыццёвы парадак, усталяваны д'яблам?

— Эх, браце Іосіф! — зноў уздыхнуў айцец Марка. — Мы памагаем яму, але ж і ён засцерагае нас ад папскіх воінаў, не патрабуе ад нас дзесяціну на царкву, не гоніць нас, а, наадварот, дае магчымасць маліцца, трымаючыся нашых перакананняў, збірацца разам, жыць па-нашаму. Калі мы не будзем дапамагаць яму, ён не ўстоіць перад папскай сілай, а ты звечара сам бачыў, на што здатная ў Мілане гэтая сіла! Узгарацца кастры, пастануць шыбеніцы, нас будуць нішчыць, пакуль не вынішчаць усіх да аднаго!

— А чаго вы ўжо гэтак трымаецеся за зямное, грахоўнае жыццё! — угневаўся Вучыцель. — Зямное існа-

ванне — імгненне, а жыццё ў царстве нябесным — вечнасць!

Гэта была праўда, я згодзен быў з Вучыцелем, мэта зямнога існавання толькі адна — падрыхтаваць душу да вечнага жыцця! Розумам я быў цалкам на баку Вучыцеля, а сэрца маё — быў жа я тады малады! — падказвала штурхнуць айца Марку локцем і папярэдзіць: «Маўчы, айцец Марка! Чаго добрага, Вучыцелю яшчэ стукне ў галаву адабраць у цябе епіскапскі сан!»

Але айцец Марка і без мяне зразумеў гэта і замоўк.

Гэтак у маўчанні мы даехалі да замка маркіза Ларэнцы. На двары нас сустрэлі слугі, усе кінуліся цалаваць дзясніцы маім старым, а з мяне дзівіліся. Калі мы падышлі да галоўнай лесвіцы, на пляцоўку яе выйшла маркіза. Апранута яна была ў другую сукенку, таксама сціплую, але прыгажэйшую за тую, што была на ёй да гэтага. Я пацалаваў ёй руку, і яна не зрабіла мне заўвагі. Разам з маркізай я ўзышоў на вышэйшую пляцоўку, і ў мяне ажно закружылася галава — там нас чакала Марыя, але такая зыначаная, што я ледзь пазнаў яе. Яна свяцілася, як сонейка, міла ўсміхалася і ўсё хацела ўзяць мяне пад руку, але я адхіляўся, бо следам ішлі старыя, а мой стары вельмі не любіў такіх рэчаў.

У вялікай зале нас прыняў маркіз Ларэнца Мацоні. Гэта быў мажны, поўны чалавек з румяным тварам і хітрымі вачамі, якія ўсміхаліся мне адначасна паблажліва і насмешліва. Слугі паднеслі нам па невялікай чарцы віна, і маркіз сказаў здравіцу ў гонар айца Маркі, выказаўшы задавальненне, што такі разумны чалавек, як ён, уступіў у епіскапскі чын. Айцец Марка адказаў (не дакрануўшыся нават вуснамі да чаркі), што ў епіскапскі чын яго ўзвёў прадстаўнік балгарскай багамільскай царквы епіскап Іосіф, бо канкарэцкая царква — дачка балгарскай багамільскай царквы. І сказаў, што будзе вучыць статак свой, як вучыў да гэтага часу, і што будзе маліцца богу, каб у доме маркіза панаваў мір.

Пакуль мы размаўлялі, прыбегла дачушка Ларэнца і Беатрычэ, проста анёлак, узялася за Марыіну руку і не адступілася ад яе.

Хрысціянская канкарэцкая царква месцілася ў самым цэнтры горада. Цырымонію падрыхтавалі вельмі ўрачыстую — спяваў хор, гарэла ці не сотня свечак, а мы былі адны, з намі былі толькі ўпраўнік замка і ягоная

жонка, каб распісацца за сведкаў. Кюрэ доўга круціўся каля нас, усё мянціў па-лацінску, спяваў і часта даваў знак, каб мы хрысціліся, але крыж накладвала на сябе толькі Марыя, а я нават не падымаў рукі.

Застолле ў замку было святочнае. Падавалі смажаных куранят, дзічыну, ягнят, брынзу, мядовыя пернікі, піражныя, іскрылася ў чашах віно і цякла медавуха, нібы расплаўлены бурштын. Абодва айцы выбралі месца ў самым далёкім кутку, яны частаваліся слівамі, сушаным вінаградам і варанай цыбуляй. Маркіз зноў узняў здравіцу, на гэты раз за нас, маладых, а потым падышоў да Марыі, пацалаваў яе ў лоб і падараваў ёй невялікую, але прыгожую залатую грыўню. Я ў сваю чаргу ўзняў здравіцу за шчасце сям'і Мацоні, а потым дастаў з-за пазухі важкую каштоўную брошку Людовікавай жонкі і, папрасіўшы дазволу ў маркіза, паднёс яе сеньёры Беатрычэ. Мой падарунак прывёў усіх у захапленне, а калі я расказаў, як мне дасталася брошка ў адкрытым турнірным паядынку з графам Гіёмам дэ Борнам, за сталом настала вялікая весялосць.

Больш за ўсіх радаваўся маркіз. Ён сказаў:

— Гіём дэ Борн быў сабака з сабак. Гэта ж фаварыт Інакенція III. Добра, што Лучыяна (з Лукана ён перахрысціў мяне на Лучыяна) вызваліў свет ад таго звера, але асцерагайся цяпер папскае помсты! Ён і так раз'юшаны на балгараў за тое, што Балдуін пацярпеў ад іх паражэнне!

За сталом спявалі розныя песні, адпаведныя нагодзе. Я ўзяў з рук адной сеньёры гітару і, акампануючы сабе на ёй, праспяваў трубадурскую песню, якую вывучыў у Людовікавым замку. Песня пра тое, як на адным баляванні сустрэліся юнак і дзяўчына, дзеці двух баронаў, якія смяротна варагавалі між сабою. Калі баляванне было ў самым разгары, сын і дачка двух смяротных ворагаў непрыкметна вышмыгнулі з залы, пайшлі ў парк, там пачалі абдымацца і цалавацца. І ўсё жывое навокал абурылася іх учынкам — закрычала сава, завухкаў філін, забрахалі сабакі, а ваўкі ў полі, задраўшы пысы, завылі, нібы па нябожчыку. Толькі месячык на небе быў задаволены. Ён выплыў з-за воблака і ўсміхнуўся закаханым.

Мне доўга пляскалі. А калі воплескі сціхлі, на маё вялікае здзіўленне, слова ўзяў айцец Іосіф, Вучыцель мой.

— Матыў гэтай непрыстойнай песні ўзяты з біблейскай прытчы пра Эноха. Прытча гэта пра тое, як нейкі Энох нібыта вандраваў па небе, бачыў бога і перапісаў некаторыя з божых кніг, а потым вярнуўся на зямлю. Некаторыя багамільскія епіскапы вераць у гэтую прытчу. А я лічу яе ілжывай, як ілжывае ўсё біблейскае.

Ох, гэты мой Вучыцель! Ён і з кастра, калі яму давядзецца закончыць дні свае на агні, і з кастра будзе гаварыць супраць Майсея!

Гэтак потым і станецца, але раскажу пра гэта другім разам.

Нам з Марыяй выдзелілі адзін з пакояў у замку, і там мы правялі сем шчаслівых дзён. Айцец Марка і айцец Іосіф праз гэты час хадзілі па сёлах у наваколлі Канкарэца і хрысцілі людзей у імя Духа Святаго і выконвалі абрады.

На восьмы дзень мы з Вучыцелем зноў адправіліся ў дарогу.

Марыі ажно блага рабілася ад жалю і слёз, я і сам ледзь не расплакаўся. А Беатрычэ суцяшала мяне:

— Што б ні здарылася з табой, Лукіяна, я буду глядзець жонку тваю, як сваю дачку, а дзіця яе — як свайго ўнука.

Я ў хваляванні пацалаваў ёй абедзве рукі.

З Мілана дабраліся да Генуі без асаблівых прыгод. Перад уладамі ахоўвала нас рэкамендацыйнае пісьмо, выпрашанае Ларэнца Мацоні (ледзь не са слязамі прасіла Беатрычэ). Ад Мілана да Павіі, ад Павіі да Таронта фурманы навыперадкі прапаноўвалі нам свае паслугі, нахвальваючы сваіх коней і павозкі, а ў заезных дамах нас прымалі, як дарагіх гасцей. Але чым далей мы ад'язджалі на поўдзень і чым мацней грэла сонца, тым халадней ставіліся да нас улады, а простыя людзі альбо пазбягалі нас, альбо выказвалі сваю прыхільнасць толькі ўпотай. І рэкамендацыйнае пісьмо міланскага дука, замест таго каб палягчаць наша становішча, пачало ўскладняць наша падарожжа да Генуі. А прычыну гэтага павароту мы зразумелі вельмі хутка: папа Інакенцій III папярэдзіў міланскага дука, што адлучыць яго ад царквы і пашле супраць яго войска, калі ён будзе і далей апекавацца над ерэтыкамі, гэта значыць, багамілами, якіх у гэтых краях называлі «патарэны».

За паўдня дарогі, што заставалася да Генуі, уехаўшы

ў нейкае сяло, на невялікай плошчы мы ўбачылі тры шыбеніцы і на кожнай з іх — павешанага. Ад мора налятаў вецер, і целы няшчасных, неяк выцягнутыя, нібы жывыя, пагойдваліся ў петлях. Далей мы ўбачылі некалькі спаленых датла дамоў, а сяло было бязлюднае, нібы па ім прайшла чума, жывога чалавека не відно было на вуліцах, толькі зрэдку, падцяўшы хвасты, прабягалі сабакі. Нарэшце сустрэўся нам нейкі кюрэ, яшчэ здалёк ад яго патыхала віном, а па рыжай яго барадзе былі налеплены агідныя слінкі.

— Сеньёр, чаму ваша сяло так пацярпела? — спытаўся я ў гэтага брыдотніка.

— Яго пакараў гасподзь бог! — адказаў поп, адрыгнуўшы. — Мае парафіяне паслухалі тых ерэтыкоў, якіх вы бачылі на шыбеніцах, і адмовіліся аддаць генуэзскаму епіскапу дзесяціну з воўны, што настрыглі з авечак. Затое іх гасподзь і пакараў!

Ён зноў адрыгнуў, з рота ў яго пацяклі слінкі, асядаючы на барадзе, і я ад агіды крыкнуў што ёсць сілы фурману:

— Паганяй! Паганяй, ліха яго матары, пакуль у мяне не пачырванела ўваччу!

— Сеньёр, вы гэтак не крычыце, — спалохана прамовіў, хрысцячыся, фурман. — Калі хочаце, каб мы жывыя і цэлыя даехалі да Генуі, маўчыце і рабіце выгляд, што нічога не бачыце!

Перад самай Генуяй нас спынілі воіны, і начальнік іхні спытаўся, хто мы такія і што збіраемся рабіць у горадзе. Я не стаў паказваць яму рэкамендацыйнае пісьмо міланскага дука, а сунуў яму пад нос пасведчанне барона Людовіка.

— Мне даручана перадаць асабістае пасланне ад барона Людовіка яго правасхадзіцельству! — сказаў я.

Я не ведаў ні імя «яго правасхадзіцельства», як і таго, ці сапраўды такі тытул носіць галоўная асоба ў Генуэзскай рэспубліцы, але, мабыць, улучыў, бо начальнік памяркоўна кіўнуў і загадаў воінам прапусціць нас.

Праз увесь гэты час Вучыцель маўчаў, пагляд у яго быў рассеяны, а твар стаў шэра-попельнага колеру, нібы ў чалавека, які сабраўся на той свет.

Калі ўжо мы былі ў горадзе, я сказаў фурману:

— Завязі нас на прыстань, там я табе і заплачу!

Мы праязджалі вуліцай, якая была сама меней у дзесяць разоў прыгажэйшай за самую прыгожую са-

лунскую вуліцу, з такімі высокімі дамамі, якіх я дагэтуль не бачыў. А ля прыстані на якарах стаяла гэтулькі караблёў, колькі ў Салун не наведваецца іх і за год. Не сказаў бы, што іх тут больш, чым у Венецыі, але сабраліся яны разам у адным заліве, і гэта ўражвала.

Я пакінуў Вучыцеля сярод штабеляў скрынак і пайшоў па прычалах распытваць у маракоў, як морам можна дабрацца да Аксітаніі і да якой аксітанскай прыстані лепей плысці. Большасць маракоў адказвалі мне, што аксітанскі бераг вялікі, што ад Генуі да Марсіліі сама меней пяць-шэсць дзён ходу — пры ўмове, што бог спрыяе і ўвесь час ёсць спадарожны вецер. Але казалі яшчэ, што між Генуяй і Марсіліяй ёсць меншыя прыстані, адкуль таксама можна трапіць углыб краіны.

Я вярнуўся да Вучыцеля, каб папытацца, у які аксітанскі горад яму трэба трапіць. Вучыцель адказаў:

— Мне трэба пабыць у многіх гарадах, але ў першую чаргу трэба сустрэцца з пастырамі горада Нім.

Мы селі на нейкі двухмачтавы карабель, трум якога быў загружаны бочкамі і скрынкамі — масліны і сушаная рыба, — а палуба завалена цюкамі тканіны, закупленай у Візантыі. Мы ўладкаваліся між цюкамі, і наша падарожжа да Марсіліі прайшло ніштавата, калі не лічыць дзвюх непрыемнасцей: першае, што вельмі мы забавіліся ў прамежкавых прыстанях, дзе карабель разгружаўся і прымаў тавары, так што шлях наш падоўжыўся на дзесяць дзён, і ў Марсілію мы прыбылі толькі 1 чэрвеня 1209 года. А другая непрыемнасць была ў тым, што адзін марак хацеў сілком упхнуць у рот Вучыцелю кавалачак салёнага сала, а я мусіў выкінуць яго за борт. Дык давялося і самому кідацца ў ваду, ратаваць яго, каб не ўтапіўся, бо аказалася, што паршывец не ўмее плаваць.

У Марсіліі я купіў сабе каня, а Вучыцелю — мула. Яго і на муле хістала, але ён сяк-так трымаўся, і, бадай, больш духам, чым тым, што засталося ад яго цялеснай сілы.

Рака Рона ў той час паднялася і заліла мясціны, якімі пралягаў шлях на Арл, часта даводзілася прабірацца ўброд. Дзьмуў вільготны вецер, па небе на поўнач паўзлі клубістыя белыя воблакі. А там, дзе воблакі разрываліся, у прасвет выглядвала такое блакітнае неба, якога я ніколі не бачыў у жыцці. З раніцы блакіт неба быў празрысты і такі глыбокі, што, калі я ўзіраўся ў

яго, з'яўлялася такое адчуванне, нібыта мяне якаясьці сіла падымае ўгору. К полудню неба рабілася святлейшае, і ў яго сінечы было столькі сонца, што яно быццам бы смяялася. Як смяецца жанчына, але не мая Марыя, якая толькі-толькі расквітнела, а спелая прыгажуня, якімі былі, напрыклад, ва ўсёй сваёй красе Атала і Беатрычэ. Дык па абедзе паўднёвае неба Аксітаніі нечым нагадвала іх прыгажосць.

Калі я гавару аб прыгажосці гэтага краю, то, вядома, не забываюся пра людзей. У нас ніхто не пытаўся, хто мы такія, адкуль прыйшлі і якое мы веры. Нам усміхаліся, жадалі шчаслівай дарогі і ад усяго сэрца прапаноўвалі брынзу, раннія яблыкі і смоквы. Калі ж я пачынаў даставаць грошы, гэта іх крыўдзіла. Такія сардэчныя, шчырыя людзі!

Здарылася так, што я доўгія гады хадзіў па аксітанскай зямлі і сустракаўся з людзьмі Аксітаніі. І таму загадзя хачу выказаць сваё ўражанне і ад прыроды, і ад людзей. Чым далей на захад у напрамку Тулузы, і на поўдзень — да Пірэнеяў, і на паўднёвы ўсход — да мора — хараство прыроды было пышнейшае і весялейшае, нібы трыццацігадовая маладзіца пасля салодкага пасляабедзеннага сну. У цэнтры заставаліся Альбі і Каркасон, атуленыя вінаграднікамі — як акінуць вокам, а па ўзбярэжжы ўсюды стаяў водар апельсінавых садоў і радавала вока квецень смокваў, у якой ледзь улоўна адчувалася золата бурштыну.

У горадзе Нім мы прабылі два дні... Тут я ўпершыню адчуў подых буры, якая насоўвалася з поўначы.

Зіма 1946 года, Сафія, мой доктарскі кабінет.

...Дык вось, увосень 1943 года ў Парыжы мы зноў сустрэліся з Мары — на Вандомскай плошчы, пад калонай Напалеона, насупраць таго месца, дзе калісьці ўзвышаўся дом Карнейля. Ці верыць вачам сваім? — гэта доўжылася секунду-дзве, а потым мы кінуліся адно да аднаго ў абдымкі, як быццам усе чатыры гады, што мінулі пасля нашай апошняй сустрэчы, увесь час беспераппынна шукалі адно аднаго па ўсім свеце. Дзе толькі не былі, дзе толькі не блукалі, і вось раптоўна, нечакана сустрэліся.

— Божа мой! — шаптала яна.

— Мары, няўжо гэта ты? — гаварыў я, цалуючы яе.

І тады той гладкі нямецкі афіцэр, напэўна, з нейкай інтэнданцкай часці, праходзячы каля нас, павучальна кінуў з непрыемным нямецкім акцэнтам:

— C'est mieux que faire boum-boum!

Ад ягонага выгавару мы імгненна ацвеlразелі — нямецкі акцэнт няўмольна вяртаў нас да рэчаіснасці, і мы, узяўшыся пад руку, з нейкім адчуваннем віны, але з вялікім шчасцем у душы пайшлі ў бок Жардэн дэ Цюэльры.

Селі на лаўцы на галоўнай алеі, непадалёк ад увахода. Людзей паблізу не было. Ніхто не бачыў, як я перадаў ёй запіску. Хутка прачытаўшы, яна парвала яе на кавалачкі, скруціла іх пальцамі ў шарыкі і нядбайным рухам раскідала ў канаўку, у нанесенае ветрам апалае пажоўклае лісце. Нейкі час пасядзела ў задуменні, потым як бы спахапілася, паклала руку на маю руку і запыталася:

— Ты даўно тут?

— Са студзеня! — адказаў я. — Восем месяцаў ужо жывём пад адным дахам! «Sous le toits de Paris»[1].

— Так яно, — уздыхнула яна. — «Sous les toits de Paris». Ходзім па адных вуліцах, перасякаем адны і тыя плошчы і, напэўна, не раз разміналіся!

«Што злучае людзей? — падумаў я. — Што р а з л у ч а е іх, дык з гэтым ясней, але што злучае?»

— Ты замужам, Мары? — спытаўся я.

— Калі мы сустрэліся з табой у 39-м, я ўжо была шэсць месяцаў як разведзеная. Цяпер мне 34. Пара кахання яшчэ не прайшла, але цяпер я не думаю пра гэта. Цяпер у мяне іншыя **клопаты.**

— І ў мяне тыя самыя **клопаты,** Мары, але я часта ўспамінаю нашу першую сустрэчу на Плас Канкорд. Вось, — кажу, — Плас Канкорд перад намі. І сапраўды, ці не дзіўна, што праз чатыры гады мы зноў разам на гэтым самым месцы? Што нас звяло зноў?

— Дык тое самае, што і т а д ы! — усміхнулася Мары.

— Але тады я сустракаўся з многімі людзьмі, з тысячамі мужчын і жанчын, а цяпер сяджу во з табою!

— Ну, — прамовіла Мары, злёгку паціскаючы мне руку, — тады мы сталі прыяцелямі! — Яна крыху па-

---

[1] «Sous le toits de Paris» — «Пад дахамі Парыжа», французская папулярная песня.

маўчала, потым запыталася: — А як твая жонка? Ты не развёўся з ёй?

— Не.

— Тады ты казаў мне, што я падобная на яе. А цяпер ці падобная? Ці пастарэла?

— Ты такая, як я цябе помню! — сказаў я.

— Дзякуй! — кіўнула яна. — Ты вельмі добры. Ты і тады быў вельмі мілы са мной!

— Перавялічваеш, — пакруціў я галавой. — Нічога асаблівага я не зрабіў тады. Гэта здарылася «само па сабе».

— Выпадковае здарэнне?

— Але здарэнне, якое помніцца, дарагая! Здарэнне, што застаецца ў душы, нібы сонейка, якое ніколі не згасае.

— А калі гэта «сонейка» не адно, а свецяць і другія, дык у душы наогул робіцца светла, як калісьці, на Шан-з-Элізэ?

— Можа быць, — пацісну я плячамі.

— Але цяпер, мілы мой, на Шан-з-Элізэ сумна, — уздыхнула яна. — Ты не заўважаеш?

— Няхай і сумна! — махнуў я рукой. — А мне — не, таму што я знайшоў цябе! — Я нахіліўся і пацалаваў яе ў вусны. Яна мне не адказала. — Даруй! — вырвалася ў мяне нечакана.

— Ах, божа мой! — ціхенька выдыхнула яна. — Можа, лепш не будзем гаварыць пра гэта, мілы мой?

— Пра што, Мары?

— Пра тое, што мы сустракаліся, і ўсё астатняе.

— Як скажаш! — прамовіў я.

— Ведаеш, так будзе лепей! — рашуча сказала Мары.

Вечарэла. Наляцеў вецер, заварушылася і зашамацела сухое, сагнанае ў раўчук пажоўклае лісце. Засвяціліся рэдкія ліхтары, згушчаўся змрок, нібыта мы былі не ў цэнтры Парыжа, а ў Булонскім лесе.

— Трэба ісці! — сказала Мары. — Справы чакаюць.

— Ты ўсё там жывеш — каля вакзала Сен Лазар?

— Я рэдка бываю дома. А што?

— Ды нічога. Проста падумалася.

— Я рэдка бываю дома, — падкрэслена паўтарыла яна.

— Дакуль цябе правесці? — спытаўся я.

— Да выхаду. Потым ты пойдзеш у бок Рывалі, я — да Сены.

Сышлі па прыступках і падалі адно аднаму руку. Нават пацалаваліся, помню, яна першая падставіла вусны. Але гэта ўжо быў не той сардэчны пацалунак, калі мы сустрэліся пад калонаю Напалеона. Гэта быў як пацалунак добрых прыяцеляў, якія жадаюць адно аднаму «дабранач».

Праходзячы вуліцаю Ру дэ ля Пэ, сустрэў групу германскіх салдат, якія, выцягнуўшы галовы, узнёсла і бяздумна спявалі сваю любімую «Лілі Марлен».

У свой гатэль на вуліцы Баске я прыйшоў з агідным настроем. Папрасіў камердынера на паверсе прынесці мне бутэльку каньяку. Вырашыў быў піць, пакуль забудуся, у які месяц года ўступілі мы, якое сёння чысла, які дзень. Ніхто не будзе мяне бачыць, я быў а д з і н. Але выпіў адну чарачку і адставіў бутэльку. На стале ляжаў канверт ад Сонінага пісьма. Само пісьмо я спаліў.

Кінуўся на ложак і зноў падумаў: «Што людзей зводзіць і што іх р а з л у ч а е?» Адлегласць ад Вандомскае калоны да Цюэльры я прайшоў за паўгадзіны. Што адбылося за гэтае паўгадзіны ў сэрцы Мары?

І зноў пайшлі дзень за днём, як і да гэтага. Я перадаваў запіскі, пазнаючы адрасатаў па дамоўленасці і паролі. Здаралася, што адрасат перадаваў мною запіску другому адрасату. Прыходзіў такі адрасат (звычайна з завязаным вокам), гаварыў пароль, і я перадаваў яму запіску. Так і было дзень за днём. І Нана кожнае раніцы цалавала мяне з «добрай раніцай». Аднаго разу яна прашаптала мне на вуха:

— Chéri[1], вы чулі? Чырвоная Армія вызваліла Крым! І Керч, і Севастопаль!

Я пацалаваў яе ад душы.

Ішоў снег, перамяшаны з дажджом. Часам пачынаў ісці толькі снег, а як машын у горадзе стала менш і рух быў слабы, вуліцы рабіліся белыя — відовішча для Парыжа незвычайнае.

Але калі пачынаў сыпаць снег, мною авалодвала вострае, пакутлівае пачуццё настальгіі. Як быццам мне страшэнна хацелася піць, а не было чым наталіць смагу, хоць бы кропляю вады. Якія толькі мроі не ўзнікалі ў мяне перад вачамі! Мроі і ўспаміны — ад роднага сяла

[1] Chéri (*фр.*) — мілы, дарагі.

Арбанасі, затуленага, нібы ў кажух з белай аўчыны, снегам, да Барысавага парку ў Сафіі. Мне чулася «Les patineurs», нібыта я на возеры каля «Арыяны» і чакаю, пакуль мая Сняжанка здзене канькі і выйдзе з катка.

У снежні, у канцы месяца, мне выпалі дзве сустрэчы — адна на мосце Йена, а другі раз на мосце Аляксандр — з дамаю, «апранутай у чорнае паліто, з чорнай вуалеткай на твары». Я адразу здагадаўся, што гэта за «дама», і з захапленнем у сэрцы пайшоў да моста Йена. Мы паціснулі адно аднаму рукі, але не пацалаваліся, бо элегантная вуалетка прыкрывала яе твар, а адхінаць яе было проста няёмка.

Было холадна, ад Сены дзьмуў пранізлівы вецер, сыпаў густы, сухі снег. Мы ўзяліся пад руку, прыціснуліся адно да аднаго, каб было цяплей, і рушылі ў напрамку Тракадэра.

— Вось бачыш, і ў падполлі ёсць свае прыемныя моманты, — прашаптаў я на вуха Мары. — А то як бы я пабачыўся з колішняй сваёй прыяцелькай з Плас Канкорд?

— Чаму «колішняй»? — здзівілася Мары.

— Таму што яна не хоча быць «цяперашняй»! — засмяяўся я, мацней прыціскаючы яе да пляча.

— Эх, дружа, дружа, — уздыхнула Мары. — Ці ж мы не дамовіліся пра гэта не гаварыць?

— Ах, і праўда! — сказаў я. — Даруй, слабая ў мяне памяць!

У парку, калі мы пераканаліся, што наўкола няма жывой душы, я даў ёй запіску; яна прачытала і запыталася:

— У цябе запалкі ёсць?

Я падпаліў запіску агеньчыкам запальнічкі. Вецер знёс і развеяў попел.

— Тут непадалёк ёсць невялічкія кавярні, — нагадаў я. І прапанаваў: — Давай пасядзім у якой-небудзь з іх!

Мары доўга раздумвала, пераступала з нагі на нагу.

— О, божа мой, божа мой! — нарэшце ўсклікнула яна і неяк роспачна падхапіла мяне пад руку.

Насустрач нам дзьмуў вецер, снег сляпіў вочы. Мы зайшлі ў першае кафэ, якое здалося нам не надта шыкоўнае. Дзякаваць богу, у гэтым кафэ была галерэя, і мы адразу падняліся туды. Галерэя была слаба асветлена, нікога не было, сталы пуставалі. Мы нагледзелі

столік у самым зацішным кутку, дзе цямней, селі, і толькі тады Мары падняла сваю вуалетку. Яе сінія вочы ўсміхаліся мне ласкава і тужліва, як усміхаліся чатыры гады таму назад, тою раніцай, калі пасля кароткага кахання мы сказалі адно аднаму «бывай».

— Дзе ты будзеш сустракаць Новы год, Мары? — спытаўся я. — Хочаш, пойдзем з табой у той бар, над станцыяй Трынітэ, куды я завёў цябе пасля забаўнай гісторыі ў галантарэйным магазіне на Рывалі? Напэўна, там і цяпер іграюць «Les patineurs»! Там ігралі толькі класічныя вальсы — можа, і цяпер яны гучаць там?

— Не ведаю, — адказала Мары. — У тым бары я больш не была.

— Сабе я заказаў тады смоквавай ракіі, а табе прапанаваў віскі, помніш?

— О, помню, — паківала галавой Мары. — Мы закусвалі казінай брынзай, прыпраўленай чорным перцам. Такую брынзу я каштавала тады ўпершыню.

Калі яна нагадала пра казіную брынзу, невядома шляхамі якіх таямнічых асацыяцый у памяці маёй тут жа ўзнік вобраз Эдмонда. Эдмонда — механіка па веласіпедах, Луізінага мужа. Неўзабаве пасля прыезду ў Парыж я паспрабаваў быў знайсці яго, але ў яго майстэрні былі апушчаны жалюзі і замкнёны сакрэтным замком. Хто ведае, куды яго панесла! Можа, у Манфер'е? А прыгадаўшы Манфер'е, адразу ўявіў адрыну Бернаравых і Луізу — у белай кашулі, безрукаўцы і сіняй шырокай спадніцы ў чырвоныя кветачкі.

— Пра што задумаўся? — спыталася Мары, і ў яе сініх вачах узнікла трывожная аблачынка. Іх пяшчотная сінеча зрабілася глыбейшай, і недзе на самым дне нібы засвяціліся далёкія агеньчыкі.

— Думаю, як будзе хараша, калі на Новы год зноў пойдзем з табой у той бар! Як будзем танцаваць і марыць аб прыгожым!

Нам падалі каньяк і каву. Мары каву выпіла, а да каньяку не дакранулася.

— Дзеля самага прыгожага не мараць, а працуюць! — заўважыла яна. — Ты, напэўна, здагадваешся, што я маю на ўвазе.

Яна мела на ўвазе вызваленне ад фашызму, перамогу над фашысцкай чумой.

— Я гавару пра рэчы драбнейшыя! — засмяяўся я. —Я хачу, каб ты на Новы год выпіла віскі, я —

смоквавай ракіі, і каб на нашым стале была казінная брынза, прыпраўленая чорным перцам. Хачу танцаваць з табою танга. Хачу апоўначы пацалаваць цябе ў вусны і пажадаць табе шчасця.

— А потым? — спыталася Мары.

— Пра «потым» не хачу думаць. Давай пачакаем, каб гэтае «потым» само пастукалася ў нашы сэрцы і прад'явіла свае правы.

— Дарагі мой, ці ты забыўся, што мы далі слова не гаварыць пра гэта? — з папрокам паглядзела на мяне Мары.

Я адчуў, як у душы нарастае раздражненне, і запытаў:

— Мары, няўжо ты ўсур'ёз вырашыла паслаць да д'ябла ўсё, што было паміж намі?

— Мне хацелася б, каб ты не думаў, што паміж намі калі-небудзь нешта было, — адказала яна. — Пастарайся не думаць! Няўжо гэта так цяжка?

Я пацiснуў плячамі. Нейкі час памаўчаў і спытаўся:

— Як ты мяркуеш, Мары, ці будзе на Новы год снег?

— Не ведаю, — кінула Мары.

— І я не ведаю! — сказаў я.

І паклікаў афіцыянтку. За дзвярамі кафэ падаў руку Мары:

— Бывай! — засмяяўся праз сілу. — І лічы, што я ўжо нічога не помню з таго, што было!

З раніцы 30 снежня, толькі я пагаліўся, у дзверы нехта пастукаў. У пакоі ў мяне нічога небяспечнага не было, але ў сэрцы адчуў знаёмы балючы штуршок — я зведаў яго яшчэ ў Сафіі, прычым неаднойчы. Я адчыніў і стаў, як гаворыцца, нібы ўкапаны: перада мною стаяла... Нана!

— І што гэта прыйшло табе ў галаву, мая маленькая? — адступіў я ад дзвярэй, каб даць ёй прайсці. І хоць я стараўся гаварыць жартоўным тонам, у маім голасе міжвольна прагучалі ноткі строгасці. Было б і неразумна, і неэтычна ўблытвацца ў нейкую гісторыю з гэтым балбатлівым і агрэсіўным дзяўчом. Таму я нават не прапанаваў ёй скінуць паліто, а толькі галавою кіўнуў на адзінае крэсла, на якім былі звалены нейкія рэчы. — Сапраўды, Нана, што гэта табе прыйшло ў га-

лаву? — паўтарыў я. — Мы з табой, здаецца, дамовіліся, дык чаго спяшаешся?

На маё здзіўленне, Нана не пажадала нават прысесці.

— О, мсье! — выдыхнула яна.

— Але ж яшчэ ўчора я быў «chéri»? — усміхнуўся я, каб не засмучаць яе зусім.

— Chéri, справы не такія вясёлыя, як вы думаеце! — загаварыла Нана. Упершыню яе вочы глядзелі на мяне заклапочана і нават трывожна. — Вы не павінны больш прыходзіць у клініку! — заявіла важна яна.

— А што здарылася, Нана?

Яна азірнулася на дзверы, потым наблізілася да мяне і з апаскаю зашаптала:

— Учора, пасля таго, як вы пайшлі, да пана Бруя з'явіліся два нямецкія афіцэры з гестапа. Я палічыла сваім абавязкам паслухаць, пра што яны гавораць з маім шэфам. Размаўлялі яны ціха, мсье, але я два разы чула ваша прозвішча. А калі, васпане, гестапаўцы пачнуць скланяць нечае прозвішча, з гэтага нічога добрага не атрымаецца. Калі вас цікавіць мая думка, вы не павінны больш прыходзіць у клініку. І хоць гэта, можа, выглядае смешна, што я ўмешваюся ў вашы справы, мсье, я параіла б вам знікнуць зараз жа з гэтага гатэля!

Вось, значыцца, якая яна, гэтая Нана! Ды і сам я ў апошнія дзень-два адчуваў нейкую нябачную, але небяспечную прысутнасць каля сябе. Гэтак я адчуваў змей у каменні пад Грэнадай, калі мяне пасылалі ў разведку: гадзюкі не было відаць, але я адчуваў, што яна недзе блізка. І яна сапраўды хутка, нібы біялагічны магніт, прыцягвала мой погляд і выяўлялася.

— Ты цудоўная дзяўчына, Нана! — пахваліў я яе. — Пасля перамогі я абавязкова ажанюся з табой!

— Пакіньце свае жарты да пасля перамогі, мсье! — адказала Нана.

Мы паглядзелі адно аднаму ў вочы, як ніколі да гэтага не глядзелі, і, хто ведае, можа, паглядам выказалі нейкія словы, якія небяспечна было выказваць уголас.

Праз пяць хвілін я быў ужо гатовы. Укінуў у чамаданік-сумку некаторыя дробныя рэчы і прапанаваў:

— Нана, я з'еду грузавым ліфтам. А ты пасядзі тут яшчэ хвілін дзесяць, а выходзячы — урачыста прайдзі

праз цэнтральны ўваход. У горшым выпадку схлусіш, што была ў мяне па любоўных справах!

Я пацалаваў яе ў шчочкі і яшчэ бязлюдным службовым калідорам падаўся да грузавога ліфта.

Паблытаўшыся каля дзвюх гадзін па станцыях метро, каб адарвацца ад магчымых «хвастоў», я нарэшце заехаў у тое бістро на авеню Рап, дзе звычайна з раніцы бываў Люсьен. На гэты раз ён мяне апярэдзіў. Я сеў за яго столік спіною да вітрыны і бегла расказаў яму навіны, якія мне прынесла Нана.

— Вельмі магчыма, што ты трапіў у іх сетку, — паківаў галавой мой балгарскі пабрацім. — Ты сустракаўся з рознымі людзьмі, некаторыя з іх, магчыма, пад назіраннем... У клініку доктара Бруя і ў свой гатэль ты вяртацца не павінен, вядома... Гэтаксама як падтрымліваць са мною сувязь... Нават не жадаючы таго, ты можаш наклікаць на маю галаву вялікія непрыемнасці!.. Наогул, ні з кім з нашых балгараў ты не павінен сустракацца. Запомні адрас: Ке дэ ля рапе, рог з вуліцай Віліо, карчма «Льё Перакe». Там спытаеш П'ера Гашэ. І перадасі таму П'еру Гашэ вялікае прывітанне ад Люсьена, потым раскажаш усё, што расказаў мне... Толькі не забывайся, што ты «доктар Мішэль». Гэта цяпер тваё імя...

Перабраўшыся па мосце Альма на правы бераг Сены, я накіраваўся да карчмы «Льё Перакe». Было сыра і холадна, перыядычна пачынаў ісці дробны, ледзь бачны дождж.

Старая, змрочная карчма з дзесяткам столікаў і застаялым духам кіслага віна і тытуню «жытан» — усё гэта цяжка было суаднесці з такой цудоўнай птушкай, як папугай. Гэта ўсё роўна што звязваць такія паняцці, напрыклад, як брынза і тэарэма Піфагора. За абабітаю бляхай стойкай карчомкі быў чалавек сярэдняга ўзросту, гладкі, круглатвары і чырванашчокі, з вясёлымі светлымі вочкамі. На галаве ў яго сядзеў кухарскі каўпак, а распаўнелую паясніцу ахопліваў скураны фартух. Я пачціва здзеў капялюш і спытаўся, як мне пабачыць мсье П'ера Гашэ. Гэты дабрадушны чалавек ад нечаканасці разявіў рот і нейкі час глядзеў на мяне так, нібы я зваліўся з Марса.

— А хто пытае П'ера Гашэ? — сказаў нарэшце ён.

— Яго пытае доктар Мішэль па даручэнні пана Люсьена.

— Гм, бач ты! — Падобна было на тое, што ён не можа паверыць вачам сваім, і ўсё глядзеў, нібыта я сапраўды прыляцеў з Марса. — Кажаце, П'ера Гашэ пытае доктар Мішэль. Па даручэнні...

— Пана Люсьена! — паўтарыў я.

— Ну, добра, што вас паслаў Люсьен!.. Гм... Дык калі ласка! — Ён паказаў рукой, каб я абышоў стойку і ішоў наперадзе яго.

Я адчыніў перад сабой дзверы, увайшоў у цёмны калідор, адтуль мы спусціліся ў карчомны склеп, застаўлены бочкамі, да ачмурэння прапахлы він
ом і каньяком. Праз вузенькія дзверцы, прыхаваныя пустой бочкай, ён упусціў мяне ў прасторны пакой, і там нечакана дыхнула на мяне ўтульнасцю. Падлога ўслана правансальскімі дарожкамі, круглы столік, на ім ваза з вялікім букетам хрызантэм, два ложкі, засланыя чыстымі бэжавымі коўдрамі... Свяціла лямпа пад зялёным абажурам, з маленькага сутарэннага акенца скупа цадзілася мяккае дзённае святло. Перад вялікай, да столі, шафай з бранзаванымі дзверцамі, аздобленымі разьбой, стаяў стройны мужчына, маладзейшы за мяне, у скураной спартыўнай куртцы і аксамітавых штанах, з графітна-чорнымі вачамі і такімі ж валасамі, пышнымі і, вядома, кучаравымі — сапраўдны правансальскі тып!

— Мсье П'ер Гашэ, — звярнуўся да яго карчмар, — я прывёў да вас доктара Мішэля, па даручэнні мсье Люсьена!

П'ер Гашэ разглядваў мяне вельмі ўважліва, і было такое адчуванне, што мяне з верху да нізу абпальваюць чорныя агеньчыкі. Ён падаў мне руку, і на яго вуснах з'явілася мяккая, але стрыманая ўсмешка.

— Распранайцеся і сядайце, доктар Мішэль! — Ён адчыніў шафу і падаў мне вешалку. — Калі ласка, вось бачыце, мы гатовы прыняць элегантнага госця!

— Дзякуй! — усміхнуўся я ў адказ, хоць мне было не да смеху, і не без здзіўлення заўважыў, што ў шафе вісіць і жаночае адзенне. — Але ж гардэроб агульны. Каб мне сваёй прысутнасцю не нарабіць турбот якой-небудзь даме?

— Э, доктар! — махнуў рукой П'ер Гашэ. — Не хвалюйцеся ўжо гэтак. Калі ўвесь свет у турботах, нічога асаблівага, як і нейкая дама патурбуецца. Не зважайце, прашу вас!

Пакуль ён гаварыў і жартаваў, ягоныя вочы вывуча-

лі мяне спакойна і ўважліва, як быццам узважвалі мяне на бязмене. Я адчуў, нібыта ў душу мне ўліваецца лёгкі струменьчык непрыязнасці. Ён быў маладзейшы, і, напэўна, біяграфія яго не была багацейшая за маю. Прызнацца, не вельмі мне была па душы і яго правансальская самаўпэўненасць, я ніколі не быў у захапленні ад тарэадорскай фарсістасці.

Я сеў каля століка з хрызантэмамі, дастаў люльку і тытунь. Ён умасціўся на ложку каля аконца — так, каб глядзець мне ў твар.

— Хрызантэмы гэтыя, — заўважыў я, — так адпавядаюць нелегальнай кватэры, як ваш псеўданім — вашаму знешняму выгляду!

— Усе мужчыны нашага краю, а сам я з Поўдня, — прыгажуны! — засмяяўся ён. — Але павінен сказаць вам, што ў жанчын Поўдня мы не ў пашане. Нашы жанчыны аддаюць перавагу Поўначы! Што да майго псеўданіма, дык яго мне прыдумалі старэйшыя таварышы. Мне давялося нейкі час быць кіраўніком сярод людзей старэйшых за мяне, вучыць іх некаторым рэчам, і яны прыдумалі мне мянушку «татка». Татка Гашэ! А наконт хрызантэм вы, доктар, павінны здагадацца сам, калі ў шафе бачылі жаночае адзенне. Сапраўдныя парыжанкі, калі яны нават у падполлі, не могуць без кветак! Як сапраўдны паўднёвец не можа без гэтага! — Ён дастаў з-пад падушкі пляскатую бутэльку. — Смокваная ракійка! — Ён палашчыў паглядам пасудзіну і зноў схаваў яе пад падушку. — Аднак жа, доктар!.. Пакуль не прыйдзе Перамога, я ні сабе, ні каму б там ні было не дазволю пакаштаваць гэтага эліксіру! А вось калі мы зноў узнімем французскі сцяг над «Гатэль дэ віль», я высушу гэтую пляшку да кроплі!.. Між іншым, мы з вамі знаёмыя, толькі на адлегласці. Вось як скрыжоўваюцца людскія шляхі, доктар! Самым неверагодным чынам. Мы з вамі ўжо некалькі месяцаў вядзём перапіску, але, вядома, праз трэціх асоб. Дык значыць, дарагі доктар, цукерачка Нана сённяшняй раніцай паднесла вам у гатэлі сюрпрыз, га? Ха-ха! Але ўсё-такі гэтую кепскую навіну вы пачулі з прыгожанькіх вуснаў, так жа? Трэба яшчэ дзякаваць богу, бо здараецца, што пра пастку, у якую трапіў абедзвюма нагамі, чалавек даведваецца ўжо ад якога-небудзь гестапаўскага афіцэра!

— А я і не ведаў, што Нана ваш чалавек!

— Хочаце сказаць — «наш»?

— Няхай так!

— Я таксама нічога не ведаю пра Нана. Але чым менш ведаеш пра некаторыя рэчы ў наш час, тым лепш!

— Але ж вы даволі многа ведаеце пра мяне!

— Ведаю.

— А што вы ўласна ведаеце?

— Усё, што трэба! — Ён памаўчаў і ўсміхнуўся: — Я маю пра вас інфармацыю нават з такой крыніцы, пра якую вы ніколі не здагадаецеся! Праўда, праўда! Ведаеце, сённяшні дзень будзе для вас днём сюрпрызаў! Але цярпенне!..

— Не люблю загадак, — сказаў я. — І палічыў бы за лепшае гаварыць па-дзелавому.

— Ад вялікай дзелавітасці, доктар, іншы раз баліць галава. І так усё ясна: вы ў П'ера Гашэ і будзеце ў яго нейкі няпэўны час. І будзеце мець ласку не паказваць адсюль носа — па прычынах вам зразумелых. Прынамсі, столькі, колькі будзе трэба.

— Я не прывык сядзець без справы, — запярэчыў я.

— Калі ўзнікне патрэба рызыкаваць вамі, дамо вам такую магчымасць, доктар! Але ў такім выпадку вы не зможаце выйсці ў вашым элегантным паліто, вядома, і ў вашым яшчэ больш элегантным капелюшы, як вас ведаюць у гестапа. Мы паклапоцімся, каб на вас было што-небудзь прасцейшае.

— Як завуць нашага карчмара?

— Карчмара? Ну, завіце гэтага чалавека «браценік Марыс»!

— Я хачу папрасіць браценіка Марыса, каб схадзіў купіў мне ў якога-небудзь старызніка кепку і паношаны кажушок.

— Гэта яшчэ паспеецца, доктар, чаго спяшаецеся? У мяне тут ёсць тоўсты лыжны пуловер, як трэба будзе, дам. У ім вы можаце прагуляцца да браценіка Марыса і не кінуцца ў вочы публіцы. Скіньце свой бездакорны пінжак, тут п'юць віно стрэлачнікі з ліёнскага вакзала і грузчыкі з прыстані!

Гэтак падрабязна я апісваю сваю першую сустрэчу з П'ерам Гашэ не таму, што люблю падрабязнасці, а таму, што гэты чалавек, гаваркі як і большасць паўднёўцаў, выказаў адну думку, якая глыбока засела ў маёй душы. Ён сказаў, сам ні на імгненне не задумаўшыся над сваімі словамі: «Вось як скрыжоўваюцца людскія шляхі, доктар!» Так, нашы шляхі скрыжаваліся, і скрыжаванне,

ва ўсякім разе, што датычыць мяне, пакінула ў маёй душы глыбокі і незабыўны след.

Увечары да П'ера Гашэ прыйшла жанчына, адзенне якой я заўважыў у шафе. Прыйшла Мары. Убачыўшы мяне каля століка з хрызантэмамі, яна страшэнна пабляднела — так, што ледзь не самлела. Небарака, яе вусны ледзь змаглі прашаптаць: «О, гэта вы!» І я ўскочыў, каб саступіць ёй сваё месца на крэсле. А П'ер Гашэ засмяяўся:

— Я ж казаў вам, доктар, што сёння вас чакае яшчэ адзін сюрпрыз!

Мне здалося, што ў ягоным смеху прагучала нейкая нотка прыхаванай зласлівасці, але, можа, я памыліўся, я сам быў усхваляваны не менш за Мары. А ўсхваляванаму чалавеку многае чуецца перайначана, а калі і фальшыва.

— Ваша праўда, П'ер Гашэ! — адказаў я. — Не чакаў, вядома, што сустрэнемся з гэтай дамаю ў карчме браценіка Марыса! І ты, Мары, — я знарок звярнуўся да яе на «ты», — мабыць, не чакала, што ўбачымся тут?

— У нас сёння будзе яшчэ невялікая размова! — прамовіла Мары. Шчокі яе паволі пачалі набываць свой натуральны колер. — Чакаем яшчэ двух таварышаў.

— А я выпадкова даведаўся, што ты жывеш тут, — гаварыў я сваё, узяўшыся натоптваць люльку тытунём. — У шафе ўбачыў тваё чорнае манто. Ты ж у ім была, калі мы ўвосень сустрэліся з табой каля Вандомскае калоны?

— У ім, — сказала ні жывая ні мёртвая Мары.

— Яна ўжо даволі даўно не жыве ў сваёй кватэры, — кіўнуў на яе П'ер Гашэ. — Па тых жа прычынах, доктар, якія і вас прыспешылі ў карчму браценіка Марыса!

— Што рабіць! — паціснуў я плячамі.

Мары, пачырванелая, маўчала. Як загіпнатызаваная, яна глядзела на хрызантэмы. Шкада мне стала. Але ці то яе, ці самога сябе — я так і не зразумеў.

Прыйшлі яшчэ двое — докеры з порта. З выгляду яны былі акурат д о к е р ы — невысокія і плячыстыя, з тоўстымі, моцнымі шыямі. Адзін быў сінявокі і глядзеў дабрадушна, неяк па-дзіцячы; другі, з жаўтаватымі ка-

шэчымі вачамі, меў выгляд чалавека, якому гладка не праходзяць розныя «нумары».

Мары зірнула на гадзіннік, потым звярнулася да П'ера Гашэ:

— Мяркую, ужо можна і пачынаць? — Убачыўшы, што ён прыхільна кіўнуў, загаварыла да жаўтавокага: — Дык калі ласка, Луі, што новага даложыце пра «Жанціём»? Ці пацвярджаюцца чуткі?

— Пацвярджаюцца, мадам! — пахітаў галавой жаўтавокі.

— Якая мадам? — прамовіла з лагодным папрокам Мары. — Называйце мяне сяброўкай, сястрой, толькі не мадам!

— Пацвярджаюцца, сяброўка, — паправіўся жаўтавокі. — Чуткі праўдзівыя. Няхай скажа Гастон, што ён чуў ад суседзяў!

— Ад якіх суседзяў? — уздрыгнуў Гастон.

— Ад нашых людзей, што працуюць на Ке дэ Берсі!

— А, вунь што! — усміхнуўся Гастон. — Суседзі з поўнай верагоднасцю кажуць, што «Жанціёма» нанялі на навагоднюю ноч тры вышэйшыя гестапаўскія начальнікі. Двое з іх пойдуць ад Ке дэ Берсі пад адзінаццаць з паловай і пагрузяць на «Жанціём» навагоднюю жратву і пітво. А незадоўга да дванаццаці гадзін з луўрскага прычала возьмуць трэцяга са скрыняй ілюмінацый. Катаць іх на «Жанціёме» па Сене будзе нейкі обер-лейтэнанцік.

— Спецыяльна на гэтую ноч з Берліна ім прыслалі мадамаў, — азваўся жаўтавокі. — Пасля таго як адна наша атруціла памочніка каменданта, даверу нашым курвам няма. Выклікаюць сваіх, з Берліна.

— Маторную лодку я ўжо забяспечыла, — сказала Мары. — Калі «Жанціём» спыніцца каля луўрскага прычала, нехта з нас павінен на маторцы падысці да яго і падкінуць на палубу навагодні падарунак. Хто з вас шафёр?

І я, і П'ер Гашэ паднялі руку.

Упершыню за гэты вечар Мары адкрыта паглядзела на мяне, і погляды нашы сустрэліся. І мне здалося, што ў яе вачах хвалямі набягаюць, змяняючыся, два пакутлівыя пачуцці — бязмежнага замяшання і нейкай бязмежнай просьбы.

— Чаго вы тут дэманструеце, П'ер Гашэ? — з папрокам звярнулася яна да свайго прыяцеля. І шматзнач-

на замоўкла. У яе маўчанні мне чулася: «Ты прадстаўляеш Цэнтр, прыяцель, і добра ведаеш, што зусім недарэчы табе ўдзельнічаць у падобных акцыях. Дык навошта дэманстраваць?» — А вы, — яна крыху павярнулася да мяне, — вы ж чужынец!

— Яму можна! — сказаў П'ер Гашэ. — Яго можна лічыць нашым.

— Але ж ён усё-такі чужынец!

— Няма чаго таргавацца: «чужынец — нечужынец». Ён наш. І гэтага даволі.

— У такім разе з ім пайду і я! — цвёрда сказала Мары.

П'ер Гашэ глядзеў здзіўлена, збянтэжана, нібы не могучы паверыць вушам сваім. Потым у яго вачах, акурат па-тарэадорску, успыхнула шаленства. Але праз момант, мабыць, усвядоміўшы, што ён усё-такі **П'ер Гашэ,** ён авалодаў сабой.

— Як хочаш, гэта твая асабістая справа! — пагадзіўся ён.

Астатняе праз той вечар — дробязі. Прыгадаю іх у некалькіх словах. Калі надышоў час класціся спаць, П'ер Гашэ паказаў на ложак, які стаяў бліжэй да дзвярэй, і папярэдзіў, што на ім спіць Мары.

— А мы з табой будзем спаць на гэтым! — і ён кіўнуў на той, што стаяў каля акна.

Мы з ім былі абодва мужчыны дзябёлыя, і з першага позірку стала ясна, што ўдвух мы на ім не змесцімся ні ў якім выпадку. Тады П'ер Гашэ выгукнуў як паўднёвец: «Да д'ябла!.. Спіце вы тут удваіх! А я — на падстрэшак...» — і хутка выйшаў.

Мы засталіся з Мары адны. Яна, нібы надламаная, апусцілася на ложак, закрыла далонямі твар і замерла.

Я пасядзеў яшчэ нейкую хвіліну, другую, не прамовіўшы слова. Ды і што я мог ёй сказаць! Потым узяў у шафе паліто і пайшоў у карчму — скласці кампанію браценіку Марысу. Там за столікамі было яшчэ дватры кліенты, але і яны неўзабаве пайшлі. Брацінік Марыс замкнуўся, выставіў на стойку дзве пляшачкі каньяку і па-змоўніцку падміргнуў мне. Я адказаў яму тым самым. Мы гаварылі з ім да позняй ночы, потым ссунулі разам некалькі сталоў, і кожны накрыўся сваім паліто. Брацінік Марыс захроп амаль імгненна. А я да світання пра што толькі не перадумаў, удзячны ледзь не да слёз той пляшачцы, што паставіў ён. Яна дапа-

магла мне глядзець на некаторыя рэчы як яны ёсць і не ламаць галавы над клятымі пытаннямі.

31 снежня, 1943 год. Дзесяць гадзін вечара.

Над Сенай сабраўся лёгкі туман, зрэдку сыпаў рэдкі дробны сняжок. Перад мостам Талбіяк мяне сустрэў жаўтавокі докер Луі. Я быў у іспанскім берэце, у левай унутранай кішэні шафёрскага кажушка адчуваў трывожны і салідны цяжар 9-міліметровага браўнінга, якім узброіў мяне П'ер Гашэ.

— Туманок дарэчы, — заўважыў Луі, — але каб ён згусціўся, было б яшчэ лепш!

Моўчкі прайшлі мостам, і на другім яго канцы нас сустрэў невысокі ростам чыгуначнік, у фуражцы, без шыняля. Луі пажадаў мне поспеху, паціснуў руку, віншуючы з Новым годам, і пайшоў. Мы зрабілі дзесяць крокаў па прычале, супраць цячэння ракі, і з туману быццам выплыў сілуэт Мары. Я адразу пазнаў яе, хоць на ёй была фуражка і паліто служачага дзяржаўнай чыгункі. Мы моўчкі паціснулі адно аднаму руку.

Было ціха, як і павінна было быць позна вечарам на гэтым прычале. Перайшлі некалькі радоў чыгуначнага палатна, абышлі вагоны і зноў апынуліся перад мостам, каля нейкага адзінокага таварнага вагона.

— Заходзьце ў гэту будку, — прашаптаў чыгуначнік. — Акенца ў ёй з таго боку, якраз насупраць таго месца, дзе павінен швартавацца «Жанціём». Як убачыце яго агні, спускайцеся ўніз і сядайце ў маторку. Яна прывязана да першай апоры з правага боку Талбіяка. Матор-то з глушыцелем, але старайцеся надта не газаваць. І не забудзьцеся тузануць шнур на пакеце, перад тым як кідаць яго на «Жанціём». Ну... — Ён памаўчаў і працягнуў руку: — Добрай ночы і з Новым годам! Няхай ён прынясе перамогу і ачысціць нас ад бошаў!

Я пачакаў, пакуль ён знікне ў тумане, адчыніў дзверцы кабіны, зайшоў і падаў руку Мары. Мы прыселі на вузкую драўляную лаўку, і я адразу адчуў сябе, нібы ў нейкім батыскафе, на самым марскім дне — такой глухой і гнятлівай была цішыня. Адзіны шум, які ўспрымалі мае вушы, было дыханне Мары. Я паглядзеў у акенца — агні на тым баку ракі ў тумане зліваліся ў суцэльнае жаўтлявае выгінастае ззянне.

— Не хвалюйся, — загаварыў я да Мары, — мы

абавязкова разгледзім «Жанціём»! — А як яна маўчала, я працягваў далей: — Цяпер чвэрць адзінаццатай. Да чвэрці дванаццатай у нашым распараджэнні яшчэ цэлая гадзіна!

— Ага, — азвалася Мары.

Я адчуў, што яе калоціць, як у ліхаманцы. У нашай будцы быў сапраўдны халадзільнік.

— Табе вельмі холадна? — паспачуваў я.

— Якое гэта мае значэнне!

Я ўзяў яе за рукі, яны — нібы лёд. Пачаў расціраць іх, паднёс да вуснаў, пачаў хукаць, як хукаюць на рукі азяблага дзіцяці. Яна не пярэчыла.

— Спадзяюся, ты не падумаеш нічога дрэннага, калі я прыгарну цябе? — спытаўся я. — Табе будзе цяплей!

— Не, — прашаптала яна.

Я абняў яе за плечы, а рукі схаваў пад паліто.

Так мы і сядзелі ў цемры, быццам на самым дне мора, і маўчалі.

— Мары, — на секунду-дзве я дастаў яе рукі са схованкі і пацалаваў, — што табе пажадаць на Новы год?

— Пажадай, што думаеш! — сказала Мары.

— Перш за ўсё, — загаварыў я, — каб ты дачакалася перамогі.

— А потым?

— Потым, каб ты вельмі, вельмі была шчаслівая!

— А як гэта разумець?

— Каб ты працавала і не ведала нястачы, каб нішто цябе не прыгнятала; каб у цябе быў муж, які кахае цябе; каб заставаўся ў цябе час памарыць і ўспомніць без шкадавання мінулае. Што яшчэ? Ну, і дзяцей, вядома!

— Ты вельмі мілы! — прамовіла Мары.

— А ты мне ці хацела б што-небудзь пажадаць? — спытаўся я.

Мары памаўчала, потым кажа:

— Жадаю, каб у цябе ніколі-ніколі не ўзнікла патрэба падаваць руку дапамогі жанчыне, якую хапаюць паліцаі!

— А яшчэ?

— Каб быў шчаслівы!

— А як, напрыклад?

Я адчуў, што яна ўсміхаецца, тонкі лядок у нашых адносінах пачаў раставаць.

— Каб меў работу, каб у цябе была жонка — зрэш-

ты, яна ў цябе ёсць, даруй! І каб у цябе заставаўся час памарыць і ўспомніць — не злом, а дабром — сёе-тое з мінулага.

Я далікатна пацалаваў яе ў вусны. Яна ледзьве адказала мне, але адказала.

— Давай уявім, што надыходзячы Новы год мы зноў будзем разам. Як ты ўяўляеш сабе навагодні вечар?

Яна моцна прытулілася да мяне і ўздыхнула. Потым кажа:

— Вось як уяўляю. Мы з табою зноў у тым бары, каля станцыі Трынітэ. Аркестр іграе «Les patineurs». Ты запрашаеш мяне, і я апускаю руку на тваё плячо. Танцуем.

— А потым?

— Потым нічога. Мне гэтага дастаткова. Мы танцуем. Аркестр бясконца іграе «Les patineurs». І мы бясконца танцуем.

Я нахіліўся пацалаваць яе, але схамянуўся — мне здалося, што ў акенцы пасвятлела. Я ўстаў, пагледзеў — каля таго берага размыта свяціліся ў тумане агні «Жанцёма».

Вось як разгортваліся падзеі далей. Коратка.

Па разгрузачнай пляцоўцы мы перабеглі да месца, дзе стаяла маторка. Туман разрэдзіўся, затое з неба пасыпаў цудоўны снег. Бачнасць стала яшчэ горшая, нібыта год, які адыходзіў, вырашыў на развітанне зрабіць нам ласку.

Адвязаў лодку, сеў за рулём, Мары — побач са мной.

Я зрабіў шырокі разварот, каб выйсці «Жанцёму» з тылу, але як мага далей. Выключыў матор. Вада плюхалася каля бартоў, а снег сыпаў і хаваў нас у сваім сяйве.

Нарэшце «Жанцём» адплыў. Я пачакаў, пакуль ён набярэ хуткасць, завёў матор і ледзь-ледзь даў газу.

Так я і ішоў за ім воддаль, пакуль ён не падплыў да луўрскага прычала і прыстаў. Тады даў газ, а метраў за пяцьдзесят ад яго кармы скінуў. Нас панесла хуткае цячэнне, і праз хвіліны дзве мы параўняліся з яго правым бортам. Тады я ўзяў пакет, які ляжаў пад рулём, у мяне ў нагах, тузануў на ім шнурок і невялікім намаганнем перакінуў за фальшборт «Жанцёма».

— Хутка да прычала злева! — прашаптала з перахопленым дыханнем Мары.

Я даў рэзка газ, потым скінуў і, рызыкуючы перакуліць лодку, зрабіў рэзкі паварот. Вада шуганула нам пад ногі — зачэрпнуў-такі, — але ў апошняе імгненне маторка выраўнялася і плаўна прыстала да сценкі. Я выскачыў, падаў руку Мары і літаральна сцягнуў яе з сядзення. Было ціха, падаў густы снег і далікатна, ледзь чутна шапацеў у маіх вушах. І ў гэты момант на тым баку жахнула маланка і страшэнны выбух ускалыхнуў ноч.

Мы выскачылі на прычал «Вальтэр», а ў які бок цяпер бегчы, мне не прыходзіла і ў галаву. Як быццам нейкая цемра засланіла мне розум, відаць, вялікае напружанне дало аб сабе знаць.

Тады за руку мяне схапіла Мары, і мы кудысьці пабеглі. Прабеглі нейкай шырокай вуліцай, потым звярнулі налева... Мы беглі, а наўкола было ціха і пуста, як у пакінутым людзьмі горадзе.

Нарэшце пайшлі ступою, бо задыхаліся, не было ўжо чым дыхаць. І Мары ўсё трымала мяне за руку. Перад намі адкрылася скрыжаванне, і толькі мы наблізіліся да яго, ззаду пачуўся тупат ботаў і сіпаты голас крыкнуў па-нямецку: «Стой!»

Ад нечаканасці я замарудзіў крокі, і Мары адскочыла назад, пачала падштурхваць мяне ў плечы, закрычала: «Направа, направа!» Грымнуў стрэл, і ў тое ж імгненне я перастаў адчуваць яе руку. Мары ззаду ў мяне ўпала. Павяртаючыся, я выхапіў браўнінг і стрэліў у постаць, якая выплывала са снежнага сяйва. Гэта быў германскі салдат. Ён пахіснуўся і паляцеў тварам на брук.

Я ўкленчыў перад Мары. І яна ляжала на снезе, тварам уніз. Я дастаў з кажуха ліхтарык, пасвяціў — снег у яе пад галавой пачырванеў. Узяў яе за руку і не адчуў ніякага пульсу. Ці то ўсхліп у мяне вырваўся, ці крык, не ведаю. Потым выпрастаўся, утароплена пагледзеў у той бок, адкуль выскачыў немец, але перад сабой бачыў толькі снег. Вакол мяне быў толькі снег, пустка і цішыня.

Я засунуў браўнінг назад у кішэнь і звярнуў на вуліцу, якую мне паказала Мары.

Лета 1258-е, восень, Манфер'е, у доме Бернаравых.
Благаславіце і злітуйцеся над намі!

Ад Сен Барталемі насунуліся хмары, задажджыла, па Мансегюры паўзуць туманы... Надыходзіць канец восені, трэба выбірацца ў Мілан, таму што скурай сваёй адчуваю, як інквізітары з Фуа падпільноўваюць мяне і прагна паціраюць рукі. Згараюць ад жадання, тыя звяры, выправіць памылку Юга дэ з'Арсі, кàта мансегюрскага.

На другі дзень, як мы дабраліся да горада Нім, німскія багамілы, якія тут называюцца **катары** (багамілаў па ўсёй Аксітаніі называюць **катарамі**), склікалі ў зале абшчыны малы царкоўны сабор. Па сутнасці, яго склікаў Вучыцель Іосіф, якога і тут шанавалі як прадстаўніка балгарскай багамільскай царквы. А балгарская багамільская царква, як і ў Канкарэца, лічылася за **маці** ўсіх багамільскіх цэркваў.

У залу абшчыны, на якую сеньёр Німа даў дазвол асабіста, прыйшло чалавек дваццаць катарскіх першынцаў, якіх тут, таксама як у нас, называюць «дасканалымі». І яны, падобна да балгарскіх пабрацімаў, былі змізарнелыя целам людзі, хадзілі ў валасяніцах — хто ў белай, хто ў чорнай, — з пакорлівымі і лагоднымі тварамі святых, і толькі гарэлі ў іх вочы. І вочы майго барона Людовіка часам гарэлі, але іх агонь быў знішчальны, злосны, забойны, а ў гэтых людзей ён быў нібыта *святло*, якім бывае, напрыклад, святло сонца, калі яно засвеціць раптам пахмурным студзеньскім днём. Такі быў агонь у іхніх вачах.

А пра два колеры расаў, што насілі яны, белы і чорны, я даведаўся ў першы дзень сабору. Белыя валасяніцы насілі дасканалыя, якія ў веры сваёй нічым не адрозніваліся ад веры Вучыцеля Іосіфа. Дасканалыя, якія насілі чорныя расы, называлі сябе «драговішцы». У той дзень, калі я слухаў іх спрэчкі з Вучыцелем Іосіфам, я зразумеў, чым адрозніваецца іхняя вера ад нашае веры. Яны лічылі Сатанаіла роўным богу. Драговішцы кажуць: як Дабро вечнае, так і Зло вечнае. Бог Дабра — гэта наш бог і сын яго — Дух Ісус. Бог Зла — Сатанаіл. З самага пачатку часу Дабро і Зло варагуюць між сабой. Заўсёды былі і заўсёды будуць існаваць разам Дабро і Зло. Драговішцы кажуць: душы толькі тых людзей, якія жывуць строга па божых законах, выкладзеных Духам Ісусам, запісаных евангелістам Іаанам і часткова іншымі евангелістамі, толькі гэтыя душы

пойдуць у царства божае і будуць мець доступ да прастола Айца. А душы ўсіх астатніх, хто не жыве па божых законах, але жыве па законах Зла, альбо толькі часткова жыве па законах Зла, альбо толькі часткова па законах Дабра — усе яны асуджаныя быць Сатанаілавымі і будуць у царстве ягоным да канца бясконцага часу.

Паводле багамільства Вучыцеля Іосіфа, душы ўсіх паўправеднікаў і паўгрэшнікаў, якімі з'яўляецца большасць людзей, пабудуць на адным з ніжніх нябёсаў і там дачакаюцца Апакаліпсіса, гэта значыць, Страшнага суда. Калі ж для іх настане Страшны суд, Дух Ісус зрыне Сатанаіла на векі вечныя ў вогненнае яго царства, а паўправеднікі і паўгрэшнікі будуць выведзены з ніжніх нябёсаў і адпраўлены на Сёмае неба, дзе месціцца царства божае і дзе раскашуюцца душы праведнікаў, якія трапілі да Айца ў той самы дзень, калі грэшную іх плоць узяла Смерць.

На саборы ў Німе Вучыцель Іосіф казаў дасканалым, якія былі апрануты ў чорныя валасяніцы, — драговішцам:

— Пачатак жыцця — Дабро, і Дабро нарадзіла жыццё. Зло знішчае жыццё, а не стварае яго. Вось чаму ўпачатку было Дабро, а Дабро ёсць бог. Гэта адпавядае першым радкам Іаанавага запісу: «Упачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Бог быў Словам». Таму што Слова, як гэта разумеў Іаан, было Добры пачатак — Дабро, якое нараджае жыццё.

Вучыцель Іосіф яшчэ казаў драговішцам — катарам, якія хадзілі апранутыя ў чорныя валасяніцы:

— Вы адмаўляеце Страшны суд і тым самым дапускаеце ў бога прысутнасць злой волі. Таму што толькі бог са злой воляй можа адвярнуць твар ад паўгрэшнікаў і паўправеднікаў, якія пакаяліся, і адправіць іх на вечныя пакуты, у царства Сатанаіла. Але калі ў бога ёсць злая воля, ён ужо не Бог-Слова, гэта значыць, Бог-Дабро. У бога няма злой волі, і таму ён у дзень Страшнага суда выведзе ўсіх паўгрэшнікаў і паўправеднікаў, якія пакаяліся, у сваё царства, да святла. А Сатанаіла вытурыць у агонь, каб на свеце засталося толькі Дабро.

Вучыцель Іосіф казаў драговішцам:

— Навошта вы кідаеце ў роспач простых людзей, якія ў большасці сваёй паўправеднікі і паўгрэшнікі, навошта пазбаўляеце іх надзеі, што хоць калі-небудзь яны

ўзнясуцца да Айца? Калі чалавека ахоплівае адчай, дабро ў яго замірае, а адраджаецца зло. Вось чаму вы не павінны пазбаўляць людзей надзеі. Калі вы іх пазбаўляеце надзеі, то тым самым падрыхтоўваеце да зла...

Увечары таго ж дня сеньёр Німа запрасіў мяне ў замак. Ягоны замак не быў такі вялікі і шыкоўны, як замак міланскага дука, але быў гасцінны і неяк больш адкрыты сонцу, чым замак канкарэцкага маркіза. Сеньёр быў ужо ў гадах, хоць адкрыты твар, гучны смех і жаданне, з якім ён узнімаў чашу, уводзілі ў зман вочы. Ягоны сын, які прысутнічаў на вячэры, быў на чатыры гады старэйшы за мяне.

Я быў пад уражаннем слоў, пачутых удзень ад Вучыцеля, таму не адмовіўся ні ад аднае стравы, што падавалі нам, але ад кожнае браў патрошку. Не адмаўляўся і ад розных паўднёвых вінаў, якія налівалі за сталом, але ад кожнага віна адпіваў толькі па глытку-другім. Заўважыўшы, што я такі стрыманы, сеньёр засмяяўся і паківаў галавой:

— Бачу я, сеньёр, што вырашылі вы пайсці шляхам вашага катарскага епіскапа. Калі вы і далей будзеце гэтак, то праз год-два будзеце харчавацца траўкай і вадой!

— О, сеньёр! — прыклаў я руку да сэрца і пакланіўся яму. — Вы бачыце мяне ў занадта добрым святле. Я ўдзячны вам ад душы. Але скажу вам, сеньёр, што я не варты такой высокай ацэнкі. Я ніколі не змагу пайсці шляхам нашага балгарскага епіскапа. Бо ніколі не змагу ні быць такім чыстым душою, як ён, ні пагарджаць да такой ступені сваім целам, як ён пагарджае. Я, сеньёр, паўгрэшнік, паўправеднік, які не пазбягае спакус, але і не хоча паддацца ім цалкам. А катары, як і балгарскія багамілы, людзі чыстыя.

— Гэта праўда! — усклікнуў сеньёр і ў знак таго, што пагаджаецца са мной, узняў чашу і апаражніў яе да дна. — Святая праўда! — паўтарыў ён. — Сярод маіх катараў мне яшчэ не сустракаўся ніводзін разбойнік, злодзей або паклёпнік. Наогул яны добрыя людзі. Але калі вы ўжо нагадалі мне пра балгарскіх багамілаў, я вам паведамлю, сеньёр, што на поўначы царква і ўлады катараў называюць «бугры». Больш зняважлівага слова за гэтае няма, сеньёр! Аднак жа, калі я гляджу

на вас, і ведаючы, як балгары ўціхамірылі імператара Балдуіна, племя ваша не бачыцца мне такім ужо занядбаным! Ці не праўда, сеньёр?

— О, сеньёр, мы нечага вартыя! — сказаў я з гордасцю. І з тае прычыны, што заганарыўся, як мы «ўціхамірылі» імператара Балдуіна, дык забыўся і апрастаў палову сваёй чашы, а гэта ўжо было не палова граху, а поўны грэх. «Благаславіце і злітуйцеся над намі!» — хацеў быў узняць вочы на неба, але спахапіўся і ўстрымаўся ад гэтага.

Пасля вячэры сеньёр запрасіў мяне і свайго сына ў свой асабісты салон. Пасля таго як слугі падалі ласункі і салодкае віно, ён загадаў зачыніць дзверы і, сказаўшы нам, каб селі да яго бліжэй, даверліва загаварыў:

— Сеньёр, я паведамлю вам навіны, мала прыемныя і катарам, і мне самому, і ўсяму нашаму Лангдоку. Сёння раніцай да мяне з'явіўся Німскі ўладыка і ледзь не аддаў мяне анафеме за тое, што дазволіў катарам сабрацца ў абшчыннай зале. Чаго ён толькі мне не нагаварыў! Што я апякуюся над ерэтыкамі, што, замест таго. каб вылавіць іх важакоў ды аддаць пад суд, каб яны атрымалі сваё як ворагі царквы Хрыстовай, папы, караля і баронаў, сенешалаў[1], уладыкаў і набожных хрысціян, я пусціў іх у абшчыну, каб яны маглі развязаць языкі перад усім светам і бэсціць перад усім светам пакутніцкі крыж Хрыстовы! Здаецца, гатоў быў учапіцца мне ў бараду той хітры божы служка! А ці ж я не ведаю, які ён бабнік, думае, не ведаю, колькі і якіх маладзіц перамацаў ён на споведзі!

Пры гэтых словах сеньёраў сын кашлянуў, але сеньёр толькі паківаў галавой.

— Ды гэта ведаюць усе! Я табе скажу, сыне, што рука яго лазіла за пазуху не толькі простым жанчынам з народа, але аблапвала спакусы паняў, дам з сем'яў, якія маюць свой герб!

— Давай лепш не будзем гаварыць пра такія рэчы, татка, — папрасіў сын.

Сеньёр памаўчаў, потым пачаў зноў:

— Тыя разы ўладыка гаварыў са мной лагодна, ніколі не павышаў голасу з якой бы там ні было прычыны, а тым болей каб сварыцца і лаяцца... Але сёння ён

[1] Сенешал — судовы чыноўнік у Францыі пры феадалізме.

трымаўся непазнавальна. Непазнавальна, кажу, сеньёры! Ён дазволіў сабе, уявіце, палохаць мяне адлучэннем ад царквы і тым, што паскардзіцца — ведаеце каму? Каралю, сеньёры, самому каралю!.. Пачуўшы такое, я ўзлаваўся і сказаў, што мне ўсё роўна, каму ён будзе скардзіцца, і што мала мяне турбуе і сам кароль! Няхай кароль глядзіць сваю Поўнач, а ў нашы справы няхай не ўмешваецца! Так і сказаў яму. Ён толькі засоп і выскачыў, як падсмалены, а я зарагатаў яму ўслед колькі было моцы!

— Праўда, татка! — сказаў сын. — Чаго каралю ўмешвацца ў нашы справы?

— Так, сынок. Так, сеньёры. Сёння наш уладыка трымаўся са мной незвычайна. Але я не злапамятлівы і ўжо забыўся б на гэты выпадак, калі б праз гадзіну пасля яго не завітаў да мяне адзін віконт з Бургундыі — не буду называць яго імя. Ён ездзіў у Манпелье па сваіх справах і, як мы з ім добрыя прыяцелі яшчэ з маладых гадоў, захацеў пабачыцца са мной. І калі мы выпілі па чарцы, ведаеце, што ён мне сказаў? Сказаў, сеньёры, што папа Інакенцій нацкаваў баронаў і графаў Поўначы, і караля Філіпа таксама, каб яны сабраліся і ўдарылі па нас і расквіталіся з намі за тое, што падтрымліваем ерэтычную Тулузу і альбігойскіх ерэтыкоў, катараў. Інакенцій — гэта воўк, і я не дзіўлюся, што ён завыў на нас. Аднак жа нацкаваць Поўнач на Лангдок, на Аксітанію, якая нікому не робіць шкоды, а гадуе вінаград і жыве ў міры, гэтага я не мог уцяміць. Тады мой віконт кажа: «Прыяцель, улагоджвай уладыкаў, паднось падарункі іх цэрквам, таму што каля Ліёна ўжо збіраецца войска!» Так ён сказаў мне і пайшоў. І толькі тады я здагадаўся, чаму так нахабна паводзіў сябе німскі ўладыка. Уявіце, сеньёры: пад Ліёнам ужо збіраецца войска Поўначы! І гэты воўк, Сімон дэ Манфор, у якога даўно ўжо цякуць слінкі на Тулузу, збіраецца выступіць супраць нас! Ну, добра, добра, няхай прыходзяць!

Пірожных ніхто не еў. Я адмовіўся і ад цяжкага чырвонага віна, сеньёраў сын крыху адпіў, толькі сам сеньёр асушыў чашу. Ён выцер вусны, уздыхнуў і загаварыў да мяне:

— На ўсякі выпадак заўтра няхай катары не збіраюцца ў абшчыне. Скажыце вашаму ўладыку — няхай збярэ іх у якім-небудзь прыватным доме. Пакуль не раз-

бяромся, як справы, навошта тузаць д'ябла за хвост? Калі прыйдзецца ваяваць, мы павінны падрыхтавацца, пэўна ж, а каб добра падрыхтавацца, патрэбен час.

— Гэта праўда, татка! — пацвердзіў сын. — Лангдок не падрыхтаваны да вайны. У Поўначы болей войска!

— Можа, сабе і болей, сынок, але воіны ў іх не такія адважныя, як у нас!

Сын не адказаў. Сеньёр зноў загаварыў да мяне:

— Я хацеў прапанаваць вам пакінуць вашага ўладыку — няхай сам тут займаецца сваімі справамі, а вы, сеньёр, каб падскочылі ў Безье і расказалі Раймону Ражэ Трэнкавелу, вярхоўнаму суверэну Каркасона і Альбі, усё, што чулі ад мяне. Няхай ён праверыць, колькі праўды ў гэтай навіне. Я пачуў яе ад аднаго майго бургундскага прыяцеля, у сумленнасці якога я не маю падстаў сумнявацца. Калі вы згодны адправіцца заўтра ж, я даручу аднаму з маіх ад'ютантаў суправаджаць вас да Безье.

Я сказаў сеньёру, што не супраць адправіцца ў Безье нават сёння ўвечары, але спачатку хацеў бы пачуць, што скажа на гэты конт мой уладыка.

— Ну вядома! — развёў рукамі сеньёр. — Але я параіў бы вам не ехаць сёння, а пачакаць раніцы. І як толькі развіднее — паедзеце.

Спяшаўся німскі сеньёр, спяшаўся! Было відаць, што словы бургундскага віконта ўстрывожылі яго душу. І было чаго! Ці ж гэта жартачкі — вайна з Поўначчу, з дзесяткамі баронаў і графаў, ды і з самім французскім каралём!

Я расказаў пра гэта Вучыцелю Іосіфу. Ён доўга думаў, прамовіў малітву «Ойча наш» і нарэшце сказаў:

— Мы не баімся вайны, сыне, таму што вайна нясе смерць, а смерць для нас — вызваленне. Але тутэйшыя сеньёры прыхільныя да катараў, і калі яны пратрымаюцца даўжэй, мы даўжэйшы час будзем мець магчымасць прапаведаваць вучэнне Хрыстова і далучым да ісціны многа людзей. Вось чаму, сыне, ідзі да сеньёра Раймона Ражэ Трэнкавела і раскажы яму, што чуў. І застанься ў горадзе Безье. Я цябе там знайду.

У тую ноч я не мог заснуць. Больш за ўсё я дакараў сябе, што прылічыўся да паўправеднікаў, паўгрэшнікаў. Галоднай курыцы проса сніцца! Які там я «паў»! Ды я проста грэшнік! І жыццё маё ішло так, што да нарobленых грахоў мне давядзецца дабавіць яшчэ цэлую

гару смяротных грахоў! З такім грузам не тое што не прымуць ні на якае неба, а пашлюць адразу ў пекла. І сам сябе я такім зрабіў, ніхто ў тым не вінаваты.

Потым неяк раптоўна ўспомніў пра Марыю, і ў душу маю нахлынула туга. Марыя з'явілася ў мяне перад вачамі як прывід, і я ўкленчыў перад ёю і абняў яе калені. «Багародзічка мая, — шаптаў я, — ты носіш дзіця маё ва ўлонні сваім, даруй, што пакінуў цябе на чужых людзей!»

У той час, калі я нібыта туліўся тварам у яе прыпол, раптам адчуў сябе як вінаватым: словы, якія шаптаў, здаліся мне мацнейшымі за пачуцці мае. У маю душу прабраўся нехта строгі, падобны да Вучыцеля Іосіфа, і там узважваў на бязмене мае пачуцці і словы. «Словы, якія ты шэпчаш, цяжэйшыя за пачуцці, якія перажываеш. Таму і хаваеш свой твар у прыпол!» — дакараў мяне ён. Хацелася адказаць яму: «Хлусіш! Ты няправільна ўзважваеш!» — але я прамаўчаў.

А можа, у словах таго чалавека была ісціна? Я выпадкова сустрэў Марыю ў дарозе, і мы жылі з ёю разам усяго некалькі дзён. Колькі там было таго агульнага, што мы перажылі? Што было ўспомніць? Інэса, з якой мы два гады цалаваліся і столькі гаварылі; Інэса, з якою сварыўся і якую абдымаў, — яна наведвала душу маю, але ўжо стала ўспамінам, ад якога не ішло цяпло. А Марыя была імгненнем, зоркаю, якая пралятае, пакідаючы залатую рыску ў небе, а затым знікае ў цемры.

Туга, якая залівала мяне, як быццам зыходзіла ад маёй віны перад ёю; яна не ішла ад сэрца.

Ад'ютант быў мой равеснік, вясёлы і смелы чалавек. Звалі яго Дэзірэ, па прозвішчы Лавенале. Калі мы выехалі з Німа, сонца толькі-толькі ўзыходзіла, і ўсё, што было ў нас перад вачамі, — раўніна, далёкія пагоркі і яшчэ далейшыя горы на паўночным захадзе, — усё было заліта дзівосным ружовым святлом. Ці не магія гэтага далягляду натхніла Дэзірэ, і ён, патузваючы повад свайго каня, прыемным голасам заспяваў вясёлую песню, у якой славіцца каханне, з якім чалавек лёгка расстаецца. Ружовая раніца адагнала згрызоты, якія апаноўвалі мяне ўночы, і, мабыць, таму песня пра лёгкае расстанне мне вельмі спадабалася.

— Гэту песню склаў адзін наш трубадур, Пейра Кардынал завуць яго. Ён, небарака, закахаўся ў вікан-

тэсу Паліну дэ Бувуар, жонку нарбонскага віконта Дзюмезніла. А Паліна тым часам, нябога, была такая ўтрэсканая ў тулузскага конта Імберта дэ Раба, што нашаму Пейру не мела ласкі нават кіўнуць у знак «добры дзень». Ён зусім упаў у роспач і, каб выказаць пакуты душы; напісаў гэту песню пра каханне, з якім лёгка расстаецца. Гэта было ў Пуіверы мінулым летам. Вы, сеньёр, не былі ў Пуіверы і не ведаеце, як там цудоўна! У Пуіверы знаходзіцца летні палац сям'і Беранжэ, сеньёраў горада Без'е. Няшчасная Паліна, утрэсканая ў Імберта, нават не заўважала Пейры, дык ён аднойчы і праспяваў у яе пад акном песню пра лёгкую любоў. Потым я раскажу вам, што было далей...

У гэтым месцы свайго апавядання Дэзірэ раптам штосьці надта ўзгарэўся, прышпорыў каня і, усклікнуўшы: «О, божа!» — наўскач панёсся наперад. Што было рабіць, памчаўся і я за ім. А імчацца верхам такой залатой далінай раніцай, між вінаграднікаў, смоквавых гаёчкаў і апельсінавых садоў, калі насустрач табе свішча цёплы вецер, які дзьме з паўднёвага заходу, ад мора — гэта як моцнае віно: выпіў чашу, і душа твая пачынае спяваць. Я дагнаў Дэзірэ, і як мая кроў узгарэлася, я ўбіў шпоры каню ў бакі і перагнаў яго. Спыніўся пад раскідзістым арэхам. Дэзірэ пад'ехаў, кіўнуў мне, каб злазіў на зямлю, сам таксама саскочыў з каня.

— Я павінен пакараць вас, сеньёр, за тое, што вы абагналі мяне! — сказаў ён і ваяўніча ўзняў меч.

— Сеньёр, — папярэдзіў я, — не раю вам і жартам уступаць са мною ў бой, бо я магу незнарок і сапраўды забіць вас!

— Э, дык вы спалохаліся! — засмяяўся ён. — Што, баіцеся?

Я не люблю, калі мяне нават жартам называюць баязліўцам, таму выцягнуў меч, але застаўся стаяць на месцы... «Няхай ён нападае, — падумаў, — а я буду толькі абараняцца».

Ён сапраўды, жартуючы, падскочыў і замахнуўся. Я лёгка падставіў меч і адбіў удар. І так ён некалькі разоў наскокваў, пакуль нарэшце мне гэта не абрыдла. Я ступіў наперад, замахнуўся і выбіў у яго меч.

— Чаго займаецеся са мной? — сказаў я. — Я вам не па мерцы!

Я прайшоў, куды адляцеў ягоны меч, падняў і падаў яму.

— Дык гэта проста гульня! — кажа ён. — Але вы і сапраўды нават жартам можаце забіць. Я не бачыў мядзведзя, але калі гляджу на вас, мне здаецца, што ніякі мядзведзь не зраўняецца з вамі ў сіле!

Ён абняў мяне і па-прыяцельску паляпаў па спіне.

Пад'язджаючы да Манпелье, Дэзірэ папярэдзіў:

— Тут не надта паважаюць катараў. Мясцовы ўладыка — чалавек энергічны і моцна трымае ў сваіх руках горад!

У Манпелье мы толькі змянілі коней і зноў рушылі ў дарогу.

— Вы не даказалі гісторыі Паліны і трубадура Пейры, — напомніў я Дэзірэ. — Што было далей?

— Што было далей, дарагі сеньёр? Ды калі няшчасны Пейра заспяваў сваю песню пад акном нябогі Паліны, яе муж, нарбонскі віконт П'ер Дзюмезніл, якраз вяртаўся з любоўнага спаткання. І гэты строгі чалавек, бачачы, што спяваюць серэнады яго любімай жонцы, выйшаў з сябе, схапіў Пейраву гітару і разбіў яе аб камень. Пасля гэтага ўзяў за каршэнь самога Пейру і, напэўна, хацеў абысціся з ім, як з яго гітарай. Так і было б, калі б высакародная Паліна не выскачыла са спальні і не кінулася на шыю свайму раз'юшанаму мужу. Люты нарбонскі віконт апамятаўся, дараваў Пейру і абышоўся толькі тым, што даў яму выспятка і загадаў ісці да д'ябла. І толькі тады з жахам убачыў, што яго высакародная жонка выбегла ў начной кашулі. Ён хацеў быў ахінуць яе сваёй палярынай, але тут заўважыў цень, які, акрыўшыся з галавой палярынай, саскочыў з балкона сямейнае яго спальні і з хуткасцю аленя кінуўся бегчы ў непраглядную цемень парку.

— Гэты цень вельмі нагадвае мне клятага конта з Тулузы Імбера дэ Раба! — у шаленстве гыркнуў Дзюмезніл.

— О, П'ер! — абвіла рукі яму каля шыі высакародная Паліна. — Заўсёды, калі ты вяртаешся ад вікантэсы Эмілі Бертран, табе здаюцца нейкія цені. Якім вінам частуе цябе гэта сеньёра, што табе мрояцца розныя здані?

Раз'юшаны Дзюмезніл толькі скрыгатнуў зубамі і нічога не сказаў.

— А я, быўшы на яго месцы, — зазначыў я, — забіў бы абаіх. І таго Імбера, і тую курву Паліну!..

— Бог ты мой! — ледзь не валяцеў з каня Дэзірэ. — Калі ў такіх выпадках рабіць па-вашаму, сеньёр, дык за адно толькі лета цудоўны Пуівер ператворыцца ў магілкі! Ну, застанецца жыць некалькі бабулек, а за старых дзядоў не ручаюся!

У горад Без'е мы прыехалі пад вечар і ўжо ледзь трымаліся на нагах ад стомы. Горад выглядаў багатым, жыхары вясёлыя, проста на вуліцы прадавалі віно, налівалі з бачурак, якія стаялі на драўляных падпорках. Тут жа былі збітыя з дошак сталы, людзі пілі і вячэралі пад адкрытым небам. Паўсюдна чуўся смех, гучалі песні, а вокны ў дамах свяціліся, як на свята.

Мы пайшлі да замка, спыталі віконта, але нам сказалі, што ўжо два дні яго няма дома і што калі нам абавязкова трэба яго бачыць, дык трэба шукаць у Пуівеpы — да канца тыдня ён меўся быць там.

Нас пасялілі ў цудоўны пакой, накармілі багатай вячэрай.

Пасля вячэры Дэзірэ прапанаваў:

— Давай зваджу я цябе да дзяўчат, тут ёсць цудоўныя красуні!

Я і не супраць быў бы, але вырашыў пакінуць месца ў душы іншым, больш непазбежным грахам.

На другі дзень з самае раніцы адправіліся ў Пуівер.

Мы пакінулі замак Раймона Ражэ Трэнкавела і пайшлі ўздоўж паўднёвай гарадской сцяны, пакуль праз вароты Святога Жака не выйшлі на шырокі шлях, які адразу вывеў нас да старога рымскага моста. Па ім мы перайшлі раку Орб і ўзялі кірунак на горад Нарбон. Дарога, што вяла туды, як растлумачыў Дэзірэ, таксама была яшчэ рымская, пракладзеная пры імператары Даміцыяне.

Да Пуівера мы ішлі два дні. Спачатку праходзілі балоцістымі мясцінамі, але пасля горада Нарбона выйшлі на цудоўныя раўніны, укрытыя, як вокам сягнуць, вінаграднікамі і садамі. Па шляху нам сустракаліся багатыя гарадкі і сёлы, дзе людзі, наколькі можна было меркаваць па іх падворках, жылі някепска — скрозь чутно было рохканне свіней, кудахталі куры, бляялі авечкі. У кожным сяле была цэркаўка, а пры ёй адкормлены кюрэ. Як сказаў Дэзірэ, катараў у сёлах было мала — у адрозненне ад гарадоў. А ў гарадах, чым далей на поўдзень і паўднёвы захад, катараў больш і больш. Так, у горадзе Лезінян, які быў сама бліжэй ад Нарбона, іх

налічвалася трыццаць душ, і сярод іх быў адзін «дасканалы». А далей на поўдзень — Ляграс, Дзюфор, Арк, — асабліва ў Квілане катараў было сотні, і сярод іх шмат «дасканалых». Я спытаўся ў Дэзірэ, чаму такая розніца ў колькасці катараў, і ён растлумачыў. У гарадах больш беднякоў. А да катарства якраз у большасці і далучаюцца беднякі. Селянін гадуе курэй, свіней, трымае нейкую авечку, а бедны гараджанін мае толькі свае дзве рукі і мусіць прадаваць іх гаспадарам прадзільняў і ткацкіх майстэрань. У горадзе Без'е, у якім налічваецца 20 000 жыхароў, 200 дасканалых і каля 2000 катараў.

Каля Квілана перайшлі раку Од і накіраваліся да Пуівера. Мясцовасць была ўзгорыстая, а вінаграднікам і сакавітым лугам, на якіх пасвілася скаціна, не было канца. На паўднёвым захадзе ўзвышаліся вялікія горы.

Пераадолелі пагорак, прайшлі густы і змрочны лес, і перад вачамі нашымі адкрылася возера, прыгожае, яно зіхцела на сонцы, нібы пагляд аксітанскай дзяўчыны. Над возерам узвышаліся вежы прыгожага замка, а ўбаку, патанаючы ў пладовых дрэвах, стаялі хаты самога сяла Пуівер. Абходнай дарогай мы падняліся да замка, там я і быў прыняты ўладаром Каркасона і Без'е, палловы ўсёй аксітанскай зямлі, Раймонам Ражэ Трэнкавелам.

Гэты замак акружаны сцяной, якую ахоўваюць дзве квадратныя і дзве круглыя вежы. Калі па рухомым мосце перайсці роў, уваходзіш на шырокі двор, у глыбіні якога стаіць сам замак — цудоўная квадратная вежа, упрыгожаная каменнымі карнізамі і арачнымі вокнамі. Уздоўж сцен віднеліся меншыя будынкі, дзе размяшчаліся госці рода Беранжэ з горада Без'е. Вярхоўны ўладар Каркасона, Альбі і Без'е, віконт Раймон Ражэ Трэнкавел, часта прыязджаў і прыязджае на адпачынак у гэты чароўны куток.

Віконт прыняў мяне на трэці дзень пасля таго, як я выехаў з Німа. Прыняў ён мяне пасля абеду, так што з раніцы да абеду я меў магчымасць паслухаць гаваркога і сардэчнага Дэзірэ — у якіх пакоях размяшчаліся высакародная Паліна і люты віконт Дзюмезніл, кудою праходзіў прыгажун Імбер дэ Раба, каб прабрацца ў спальню да Паліны, і дзе бавіла час каханка грознага Дзюмезніла, вікантэса Эмілі Бертран.

Была сярэдзіна чэрвеня, у замак ужо з'ехалася парадкам гасцей, вяльмож з Без'е і іншых гарадоў, сярод

якіх пераважалі жанчыны. Дэзірэ паказаў сярод гасцей двух спевакоў — менестрэляў, як называюць іх у гэтым краі. Абодва былі маладыя, апранутыя фарсіста, яны спявалі песні, складзеныя трубадурамі, і акампанавалі сабе на гітарах. Яны занадта лезлі на вочы і таму не спадабаліся мне.

У замку было тры залы, размешчаныя адна над другой. Віконт прыняў мяне ў самай вышэйшай зале. Яна была прасторная, светлая, па два арачныя акны выходзілі на поўдзень і захад. І праз адны, і праз другія бачыліся даліны, пагоркі, праблісквалі рэкі, удалечыні праглядвалі высокія горы. Чулася, як у вастраверхім даху вежы гудзе вецер, нібы наўкола гуло безліч пчол. Падлога была заслана тоўстымі кілімамі; другія кілімы, на якіх бачыліся тканыя фігуры людзей і жывёл, віселі на сценах. У кутках вісела зброя, а насупраць вокнаў стаялі канапы, усланыя падушкамі з залатой і сярэбранай аздобай каніцеллю.

У цэнтры залы стаяў круглы стол, засланы атласным абрусам. На стале былі сярэбраны збан з віном і дзве цяжкія сярэбраныя чашы. Калі служка ўвёў мяне ў залу, віконт якраз наліваў у адну чашу віно. Убачыўшы мяне, ён усміхнуўся, паставіў збан і кіўнуў мне галавой, каб ■ наблізіўся.

— Постаццю вы падобны на аксітанца, сеньёр, хоць аксітанцаў такога росту, як вы, знойдзецца не многа. А тварам нагадваеце чалавека Усходу, толькі каб вы былі тварам цямнейшы, то можна было прыняць за маўра.

Віконту наўрад ці было больш за 30—32 гады, ён быў шчуплаваты, невысокі ростам, але твар у яго быў як выразаны з каменя, суровы, але разам з тым адухоўлены, і адухоўленасць гэту надавалі вочы — шэра-блакітныя, якія часта мянялі выраз свой. Яны былі то задуменныя, то вясёлыя, а часта рабіліся проста халодныя і злосныя.

— Сапраўды сеньёр, — адказаў я, — краіна мая ад вас далёка, называецца яна Балгарыя, і людзі яе знешне бываюць даволі падобныя на вашых людзей.

Ён папрасіў мяне сесці, наліў віна ў другую чашу і ледзь прыкметна кіўнуў мне, каб піў. Яму далажылі, што па рангу я нейкі там кавалер, — і не да твару было віконту, як ён, удастоіць мяне тостам.

— Я пачуў пра Балгарыю, калі разнеслася чутка пра гібель Балдуіна. На нашай Поўначы ваша краіна не

карыстаецца добрай славай — з-за Балдуіна і з-за ерасі, якую нашы катары пераянялі ад вашых ерэтыкоў. А вы сам часам не ерэтык?

— Не, я не ерэтык, — адказаў я. — Але не маю нічога супраць катараў, хоць і выхаваны пры двары аднаго з вашых баронаў з Нармандыі.

— Раскажыце коратка пра сваё жыццё! — папрасіў віконт, і вочы яго адразу сталі задуменныя. — Дзе вы так добра вывучылі франкскую мову і як трапілі да двара барона Людовіка?

Я расказаў коратка аб сваіх прыгодах і заўважыў, што спачатку ён слухаў няўважліва, а потым з усё большай цікаўнасцю. Калі я прыгадаў пра свой турнірны паядынак з Гіёмам дэ Борнам, ён паляпаў мяне па плячы, наліў віна — мне і сабе, сказаў, што вып'е за маё здароўе. Гэта быў вялікі жэст з яго боку, і я ўстаў і зрабіў яму лёгкі паклон.

Вядома, пра Вучыцеля Іосіфа многа не гаварыў. Сказаў, што гэта стары, які кожнага дня чакае сваёй смерці і прыехаў, каб пабачыцца са сваімі пабрацімамі па перакананні перад тым, як пайсці да бога. Пра канкарэцкага маркіза ўспомніў мімаходзь, а пра Марыю і слова не сказаў. Навошта займаць такога вялікага чалавека сваімі сямейнымі турботамі?

Нарэшце дайшоў да галоўнага — да сваёй гутаркі з нямецкім сеньёрам. Расказаў яму, што нямецкі сеньёр пачуў ад свайго бургундскага прыяцеля.

Ён нейкі час маўчаў, потым устаў са свайго месца і пачаў марудна хадзіць уперад і назад. Мімаходзь ён паглядваў у вокны і час ад часу ківаў галавой, нібы з таго боку, здаля, нехта махаў яму рукой на «дзень добры».

Калі ён падышоў да стала і сеў, вочы яго былі халодныя, іх шэры колер нагадваў даўно астылы попел. Але пагляд іх быў востры і цвёрды, як каваная сталь майго мяча.

— Вось што, сеньёр, — загаварыў ён, — перш за ўсё нікому не гаварыце ні слова пра тое, як вы расправіліся з Гіёмам дэ Борнам. Прымусіць, каб вы ўтойвалі, што родам з Балгарыі, што вы балгарын, было б з майго боку несумленна. Чалавек не павінен, нават калі яму пагражае небяспека, адмаўляцца ад сваёй роднай зямлі. Але пазбягайце пачынаць гаворку пра Балгарыю, асабліва перад заўзятымі прыхільнікамі папы і перад яго служ-

камі. Я залічу вас у сваю світу ад'ютантам і распараджуся, каб вам выплочвалі чвэрць ад прыбытку, які я маю ад адной маёй ткацкай майстэрні ў Каркасоне. На сённяшні дзень гэта не многа, але з часам справы ў гэтай майстэрні разгорнуцца, і вы будзеце атрымліваць больш. А наконт паведамлення, што Поўнач збірае войскі пад Ліёнам, — бургундскі прыяцель німскага сеньёра не хлусіць. Папа Інакенцій не раз угаворваў мяне, каб я перадаў каталіцкай царкве ерэтыкоў з Альбі, Каркасона і Без'е — судзіць і караць іх. А паколькі я адмовіў яму ў гэтым, таму што не ў традыцыі майго роду аддаваць сваіх людзей каму б там ні было — у традыцыях майго роду паважаць права людзей думаць, як яны жадаюць, і верыць, у што яны хочуць, — ён уз'еўся на мяне і падняў супраць мяне ўсю Поўнач. Ён аб'явіў супраць маёй зямлі крыжовы паход. А сеньёрам з Поўначы не так патрэбны ерэтыкі мае, як мой Поўдзень. У іх ажно слінкі цякуць на мой Поўдзень. Вось дзеля чаго яны збіраюць пад Ліёнам войскі. Яны спадзяюцца, што, калі зваляць мяне, ім лягчэй будзе пракаўтнуць Тулузу, дзе мой сваячок Раймон VI ад страху ўжо страціў розум. А такі драпежнік, як Сімон дэ Манфор, з якой пары ўжо марыць пра Каркасон!

Я не толькі ведаю, што рыхтуецца паход, а магу вам сказаць, сеньёр, якія гаспадары з Поўначы будуць удзельнічаць у ім са сваімі войскамі. Гэта бургундскі дук, гэта неверскі конт, гэта гаспадары Сен Поля, Жэневуа, гэта і сам кароль Францыі, Філіп Аўгуст, які таксама не супраць пакласці руку на мой Поўдзень і на Тулузу, хоць у самога складаныя адносіны з Фландрыяй, з Латарынгіяй і з англійскім каралём. У паходзе збіраюцца прыняць удзел яшчэ з дзесятак шакалаў з Поўначы, прагных да зямлі і грабежніцтва.

— Даруйце, сеньёр, але чаму вы не ўдарыце іх у Ліёне, пакуль гэтыя шакалы не аб'ядналіся ў зграю, не апярэдзіце іх, пакуль яны не напалі на вас?

— Гэта не ў традыцыі майго роду, сеньёр, — нападаць, пакуль на мяне не напалі. Акрамя таго, пакуль яны дабяруцца да Альбі, Без'е і Каркасона, то ў многіх месцах будуць крышыць свае зубы. Можаце быць упэўнены, сеньёр, што іх нідзе не будуць сустракаць як дарагіх гасцей. І ў Альбі, і ў Без'е, і ў Каркасоне ёсць моцныя сцены і мужныя абаронцы. Ды я і не чакаю іх пад Без'е раней як увосень.

Я пераказаў Дэзірэ сваю размову з віконтам пра войскі, якія Поўнач збірае каля Ліёна, і папрасіў яго перадаць гэту размову нямецкаму сеньёру, бо сам я застаюся ў Без'е — віконт прызначыў мяне сваім ад'ютантам. Пачуўшы гэту навіну, Дэзірэ прыйшоў у захапленне і горача пацалаваў мяне.

— А ведаеш, што расказваюць, як сустрэў папскіх легатаў твой віконт, калі яны з'явіліся ў Манпелье? Калі тыя злавесныя людзі пачалі націскаць, каб ён аддаў у іх рукі сваіх ерэтыкоў і схіліў галаву перад папам, ён сказаў: «Гэтага не будзе, сеньёры! Ніхто з роду Трэнкавелаў ніколі не выдаваў нікога з-за таго, што той думае па-свойму і па-свойму моліцца богу. І я, Раймон Ражэ Трэнкавел, не выдам вам ніводнага ерэтыка!» А як пачалі яму пагражаць вайной, гэты цудоўны чалавек сказаў тым нягоднікам: «Мой меч стане на абарону безабаронных людзей, якіх вы гоніце, мой дом будзе прытулкам бежанцам, жытло якіх вы спалілі, мой хлеб я раздам усім, каго вы асудзілі на голад!» Ну, што скажаце, сеньёр?

— Буду шчаслівы памерці за такога чалавека! — сказаў я.

Віконт заставаўся ў Пуіверы пяць дзён.

У той самы дзень, калі запрашаў мяне на размову і прызначыў сваім ад'ютантам, ён склікаў на вячэру гасцей. Вячэру давалі ў сярэдняй зале, якая не саступала сваім убраннем самай верхняй.

У час гэтае вячэры я пазнаёміўся з Эсклармонд.

Гасцямі віконта былі тры сеньёры з жонкамі, адна сеньёра з дачкою і два менестрэлі, пра якіх я ўспамінаў ужо. Адзінокая сеньёра была адзетая з галавы да ног у чорнае. Гэта была жанчына гадоў 32—33, прыгажуня і фігураю, і з твару, яна сядзела з правага боку ад віконта, а я сядзеў насупраць яе дачкі. Давяршалі застолле памянёныя ўжо менестрэлі. Адзін займаў месца поруч са мной, з правага боку ад мяне, а другі сядзеў насупраць, каля дачкі адзінокай сеньёры.

У зале гарэлі сама меней два тузіны лямпаў, так што за сталом было светла, быццам дзень яшчэ не канчаўся.

Апошняю на вячэру прыбыла сеньёра ў чорным. Я ўжо казаў, што яна вельмі прыгожая, але такіх прыгажунь у гадах бачыў я дастаткова. А дачка побач з ёй

выступала нібы нейкая фея — у адрозненне ад мацеры, яна была апранута ва ўсё белае, і хоць ёй было не больш за 13—14 гадоў, ростам была роўная з ёю, а прыгажосцю пераўзыходзіла яе не меней як у дзесяць разоў.

У кожнага свае меркі і свае вочы на жаночую прыгажосць, але калі я ўбачыў гэту дзяўчыну, у той жа момант падумаў, што прыгажэйшае дагэтуль не бачыў. Па жаноцкасці гэта дзяўчына саступала Інэсе, яшчэ больш Марыі, якая праз два-тры гады павінна расцвісці падобна ружы. Дзяўчынка была танюсенькая, грудкі ў яе ледзьве пазначыліся, плечыкі кволыя, і насуперак усяму гэтаму я не мог адвесці ад яе вачэй. Можа, мяне зачароўваў яе твар? Твар гэтай дзяўчынкі быў надзвычай пяшчотны і далікатны, у ім было штосьці анёльскае. Валасы ў яе былі светла-русыя, яны кучараваліся буйнымі хвалямі, вочы сінелі гэтак чыста, былі гэткія празрыста глыбокія, як чыстае і глыбокае было аксітанскае неба ў пагодлівы дзень. Твар гэтай дзяўчынкі сваёй пяшчотай і зграбнасцю цалкам адпавядаў яшчэ неразвітаму жаночаму целу, ад яго выпраменьвалася мяккае ззянне, якое нагадвала святло месяца, калі яго закрывае тонкае воблака. Такі быў у яе твар: увасабленне цнатлівасці, дасканалай прыгажосці, якая была нібыта незямной.

Яшчэ да таго, як сесці проці мяне на лаўцы, яна ўзяла ўжо маё сэрца. Яна яшчэ не была жанчынаю, а ўсе жанчыны, якіх я ведаў да таго моманту, як быццам не ішлі ў параўнанне з ёю.

Вікон у некалькіх словах адрэкамендаваў мяне гасцям і жартам папярэдзіў, каб я надта не заглядваўся на дзяўчыну, якая сядзіць проці мяне.

— Нават не жадаючы таго, сеньёр, — казаў ён, усміхаючыся, — вы можаце наклікаць на яе непрыемнасці. Яе маці, сеньёра Корба, жонка майго прыяцеля Раймонда дэ Перэя, — катарка, а вы ведаеце, нават лепей за мяне, што катары не любяць **некуртуазнага** кахання. Словам, пакланіцеся сеньёры дэ Перэй і паабяцайце ёй, што не будзеце глядзець на Эскмармонд, дачку яе, вачамі мужчыны!

Я ўстаў, пакланіўся сеньёры, але не вымавіў ні слова. Чаго б гэта я стаў даваць пустыя абяцанні? Гэта не адпавядала майму разуменню гонару.

— Дарэмна вы бянтэжыце хлопца, сеньёр! — сказа-

ла віконту маці Эсклармонд. — Ды мая дачка яшчэ зусім дзіця!

Не буду больш расказваць пра той вечар, таму што пра самае галоўнае ўжо расказаў. Вячэра прайшла весела. Абодва менестрэлі па чарзе праспявалі па песні, і, хто ведае чаму, напэўна, д'ябал пасяліўся ў маёй душы, я таксама ўзяў ды заспяваў — тую песню пра месячык. Песня тая, як для катарскіх вушэй, была проста непрыстойная, і нядобра было, што спяваў я перад сеньёрай Корба, але што рабіць — д'ябал распараджаўся мной у тую хвіліну!

Віконт выняў з манішкі шпільку — яна была залатая, а на верхнім яе канцы зіхцеў каштоўны каменьчык — і кажа:

— Я ўручу гэту шпільку таму са спевакоў, каго ўкажа маладая сеньёра дэ Перэй, лічачы, што спяваў сама лепш і што песня яго самая лепшая!

Без ніякіх ваганняў маладая сеньёра дэ Перэй паказала на мяне.

— Брава, дзяўчынка! — усклікнуў віконт. — Далучаюся да тваёй думкі! — і падазваў мяне жэстам, каб уручыць узнагароду.

Твар у сеньёры Корба адразу пацямнеў. Але яна пастаралася справіцца з ніякаватасцю і неяк па-пакутніцку ўсміхнулася.

Няхай усміхаецца як хоча і колькі хоча! Ужо нішто не магло адхіснуць мяне ад Эсклармонд!

## 20

Толькі так, мой далёкі пабрацім! Толькі так. Ні на што і ні на кога не зважай, калі наважыў дасягнуць высакароднай мэты!

Я паклаў рукапіс на стол. Тры дні я блукаў па Парыжы і разам з бацькам перажываў за Мары. Які ўсётакі рамантык быў мой бацька, проста жах! Той П'ер Гашэ пакінуў яго сам-насам з Мары, а ён замест таго, каб легчы да яе, ідзе зябнуць да карчмара. Паспрабуй зразумей тых рыцараў 30-х гадоў. Загадкавыя яны людзі!

Потым бадзяўся з далёкім пабрацімам па сонечнай Аксітаніі. Дзе той Пуівер, гэты рай галантнага кахання ў наш час? Паехаць бы ў Пуівер і застацца там, ды які

з мяне галантны кавалер! Хоць і «куртуазную» любоў шаную, як сваю шапку. Так або іначай, я — за Пуівер, аднак дзе ён?

Пакінуў рукапіс на стале. Надышоў час нарэшце заняцца сваімі ўласнымі справамі.

Працягнуў руку да гадзінніка, што падаравала Ана, паглядзець — колькі часу. На руцэ ў мяне японскі «сейка», электронны, але з тае пары, як Ана прывезла мне гэты сярэбраны гадзіннік з вечкам, я ўсё цягнуся да яго. Усё-такі як добра мець кішэнны гадзіннік. Асабліва ж — гадзіннік з вечкам! Старамодная рэч, але ж казыча неяк тваю чуллівасць — націснеш кнопку, спружынка — шчоўк! — і вечка адскоквае. Цуд тэхнікі. З ручным гадзіннікам гэтага няма. Таму і цягнецца рука да антыкварнай штучкі, якую вялікадушна падаравала былая жонка.

Яна глядзіць на мяне, задуменна стоячы ў пшаніцы. А можа, глядзіць зусім не на мяне, а на пшаніцу і прыкідвае, колькі кілаграмаў з дэкара дасць гэты сорт. Нездарма ж яна ўклала ў гэты цудадзейны сорт душу і ўсе свае мары! Скажам, тысяча кілаграмаў з дэкара — гэта можа лашчыць сэрца лепш за музыку. Няхай Моцарт і Шуберт пасвяцца на траве.

Але былі імгненні, калі я, дурны бот, уяўляў, што яна думае пра мяне!

Прызнацца, гэты гадзіннік мяне часам злуе, але не хапае рашучасці шпурнуць яго ў акно. Вось — націскаеш кнопку, спружынка шчоўкае і вечка адскоквае! Ці ж выкідаюць на сметнік такія рэчы?!

Мне здаецца, што з моманту, калі я з'явіўся на свет, мінула немаведама колькі часу. Пяць гадоў жыў я жыццём Лукана, сем гадоў — бацькавым жыццём. Значыць, ужо дванаццаць гадоў. І дзе толькі не блукаў у гэтыя дванаццаць гадоў! З Луканам — ад Плоўдзіва да Салуна, ад Салуна да Венецыі, Мілана, Канкарэца, Аксітаніі. З бацькам — ад Манфер'е да Парыжа, з Парыжа ў Сафію, з Сафіі — зноў у Парыж. Пражыў дванаццаць гадоў, дзе толькі не пабыў — і гэта за **адзінаццаць** дзён, не ўстаючы з ложка. За адзінаццаць дзён пражыў дванаццаць бурных гадоў.

За гэтыя дні ў мяне самога, у маім уласным жыцці адбываліся дзіўныя зігзагі — я пражыў усе нашы сумесныя гады з Анай, і тое, як мы ўрэшце дайшлі да разводу. За гэтыя самыя дні я адкрыў для сябе Юлю — як

кінуты ў роспач падарожнік раптам адкрывае казачную краіну.

Ды чаго там скардзіцца, каб яго чорт узяў! Няхай зайздросцяць мне Магелан і іспанскія канкістадоры!

Але ў рукапісе яшчэ застаюцца старонкі — мяне яшчэ чакае падарожжа. Ды і свой шлях я яшчэ не прайшоў да канца. Сёе-тое трэба прывесці ў парадак. Потым пабачым — ці згарнуць ветразі, ці адправіцца ў новае падарожжа, — будучыня пакажа. Як гэта гавораць: «Што наканаваў бог!»

А ўчора прыйшла Юліна суседка, жанчына сярэдніх гадоў, каб прыбраць у мяне ў хаце. Юля прыслала мне з ёю два гваздзікі і на сняданак — бутэльку малака і дзве булачкі. Гваздзікі я паставіў у самую прыгожую вазу, якую ўдалося знайсці, а немаладой жанчыне сказаў:

— Ты ідзі і больш не прыходзь. У мяне ёсць каму прыбіраць, адна жанчына ўжо дзесяць гадоў займаецца ў мяне гаспадаркай. Не з рукі мне адмаўляць той жанчыне. За тое, што прыйшла, я табе заплачу дзесяць леваў. Я табе дам яшчэ дваццаць леваў, каб ты зайшла ў які-небудзь кветкавы магазін і купіла на гэтыя грошы гваздзікоў. Папрасі прадаўшчыцу, каб склала добры букет з гваздзікоў. Букет гэты ад майго імя перадасі Юлі. І скажы ёй, каб не пасылала мне прадуктаў — праз каго б там ні было. Калі ж будзе пасылаць мне яду — я буду выкідаць яе ў смецце, так і скажы!

— Добра, доктар, я скажу ёй! — паабяцала жанчына. — Грэшна выкідаць яду!

Калі яна ўжо сабралася ісці, я падумаў раптам і спытаўся ў яе пра Юлін адрас.

— Вуліца Дунайская, 17, трэці паверх, аднапакаёўка злева, — адказала жанчына. — Я жыву напроці.

Па правілах я павінен быў «сцерагчы» пакой яшчэ сама меней тыдзень, а тады ўжо «расходжвацца», пачынаючы з дваццаці крокаў па двары ў першы дзень. А я на адзінаццаты дзень устаў, прыняў халодны душ, апрануў чорны гарнітур і завязаў светлы гальштук. Адшчыкнуў галоўку ў аднаго з Юліных гваздзікоў і ўставіў кветку ў кішэньку пінжака побач з белай хусцінкай. І выклікаў таксі.

Таксі завезла мяне ў бальніцу. Маё з'яўленне ў бальніцы выклікала такі эфект, нібыта зайшоў сюды не ча-

лавек, а слон. Пакуль я чакаў ліфта на другі паверх — трэба было ашчаджаць сілы, — з кабінетаў павыходзілі ўрачы і сёстры і з гэтакім здзіўленнем глядзелі на мяне, быццам я быў не просты чалавек, а нейкі «ўваскрэслы з мёртвых», як той Лазар, якога Хрыстос падняў з магілы.

Перад кабінетам галоўнага ўрача незнарок ледзь не стаптаў тую мініяцюрную істоту, сакратарку, з якой размаўляў па тэлефоне на другі дзень, як мяне пакаралі. Яна зачыняла дзверы кабінета за сабою і проста сама наляцела на мяне. Яна магла самлець, неспадзявана апынуўшыся ў маіх абдымках, нібы мышка ў лапах вялізнага ката. Я адхіснуўся, наколькі мог, і, узяўшы з кішэнькі пінжака Юлін гваздзік, галантна паднёс яго ёй:

— У знак пашаны да вас! — усміхнуўся ёй і яшчэ мілей, каб зусім супакоіць, сказаў: — Вы смелая дзяўчынка, ад такіх, як вы, я ў захапленні. Калі раптам вас вытураць адсюль, разлічвайце на мяне!

Яна пабляднела і, ні слова не сказаўшы, разгубленая, пайшла ў свой пакой.

Галоўурач не пабляднеў, толькі твар у яго перасмыкнуўся, быццам яго нешта ўкалола знутры.

— Толькі вас не чакаў! — ускрікнуў ён, і ў голасе яго сапраўды прагучала вялікае шкадаванне, нібы ў яго кабінет з'явіўся той вястун у чорнай накідцы, каб сказаць яму, што трэба рыхтавацца ў апошні шлях. Ён падаў мне руку, як нежывую, і я на яго поціск адказаў гэтаксама — як нежывой рукой. — Вы не павінны былі выходзіць. Вы робіце вялікую памылку!

— Не турбуйцеся за мяне! — адказаў я. — За свае памылкі сам буду расплачвацца, з-за мяне ў вас ніхто не запатрабуе нават лева!

Ён пацісную плячамі, і вочы ў яго пацямнелі.

— Я гэта кажу вам як калега, — кажа.

— Пакінем калегіяльныя размовы да лепшага часу! — сказаў я. — Сёння я прыйшоў да вас з-за той медыцынскай сястры, якую вы прагналі з бальніцы.

Твар у яго пачырванеў, а на вуснах з'явілася ўсмешка, якую некаторыя літаратары называюць «яхідная».

— Мне цяжка паверыць вушам сваім і вачам, паважаны калега! Каб такое свяціла, як вы, рызыкавалі жыццём дзеля нейкай капрызнай і недысцыплінаванай

работніцы. Вас павінны былі хваляваць сапраўды вялікія пачуцці, калі вы пайшлі на такую рызыку!

— З-за вялікага чалавека, як вы, калега, я ніколі не пайду на вялікую рызыку. За такога вялікага чалавека, напрыклад, як вы, я не заклаў бы нават гроша. Але медыцынская сястра Юля — маленькі чалавек, а маленькія людзі часам маюць патрэбу ў апецы. Вы абавязаны вярнуць Юлю на работу, з-за гэтага я і прыйшоў!

— Мне, калега, не падыходзіць цікавіцца пачуццямі, якія прывялі вас да мяне. Тым больш што справа, пра якую вы гаворыце, не вырашаецца пачуццямі, а паводле статуту, які іначай называецца «кодэкс». Медыцынская сястра Юлія Стаянава падала заяву на звальненне сама. Калі яна хоча зноў паступіць на работу ў нашу бальніцу, няхай асабіста падае заяву. А с а б і с т а! Такі парадак. А ці будзе яна зноў прынятая, гэта іншае пытанне.

З фармальнага пункту погляду гэты тып абсалютна меў рацыю. Яго фармалістычная душачка адразу намацала слабое месца ў маёй пазіцыі. Юля не была ні непаўналетняя, ні бяспамятная, каб нехта меў права выступаць ад яе імя. І паколькі быў упэўнены, што Юля ніколі не прынізіцца да таго, каб п р а с і ц ь міласці, ён націскаў на гэту педаль — каб «асабіста падала заяву»! Асабіста — добра ведаючы, што Юля не з тых, што а с а б і с т а падаюць на калені. Юля была жанчына з гонарам, я гэта адчуў сам на сабе.

— Значыць, адмаўляецеся вярнуць дзяўчыну? Я правільна вас разумею?

— Я не хачу размаўляць з вамі пра іншага чалавека!

— Хітра ў вас выходзіць, — заўважыў я.

— Кіравацца правіламі і законамі, калега, — гэта не хітрасць, а абавязак кіраўніка!

— А-га! — засмяяўся я. — Ну, добра!

Я адчуў, што мне не хапае паветра, на лбе ў мяне выступіў халодны пот. І адкінуўся галавою на спінку крэсла.

— Вам блага? — спытаўся прафесар Маркаў. — Можа, выклікаць дзяжурнага кардыёлага?

— Дзякуй, — адказаў я. — Кардыёлаг мне не трэба, а патрэбен чысты ліст. Дайце мне ліст паперы.

Ён падаў паперу, і я, прымасціўшыся да яго бюро, напісаў заяву на звальненне і падсунуў яму пад нос.

Ён прачытаў маю заяву, уздыхнуў і паківаў галавой.

— З вашым адыходам, калега, наша бальніца панясе незаменную страту. Але як вы такое свяціла ў медыцыне, мне проста няёмка было б супрацьстаяць вашай волі. Але я павінен, як гэта належыць, паслаць вашу заяву ў міністэрства.

— Вы мяне ведаеце! — папярэдзіў я. — Марна будзеце старацца! — І падаў яму руку.

— Прашу вас, пачакайце! — замітусіўся ён. — Зараз я загадаю, і вас завязуць дадому ў маёй машыне!

— Не, не трэба! — адказаў я. — Дзякуй. Даеду і на трамваі.

І павярнуўся да яго спіною.

Лета 1258-е, Манфер'е, позняя восень. У доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся!

У Пуіверы я правёў астатнія бясклапотныя дні свайго жыцця. І як дні гэтыя былі звязаны з маёй маладосцю, успамін пра іх застаўся ў памяці маёй жывы, час нібыта прайшоў міма яго, не зачапіўшы.

Віконт кожнага дня наладжваў гульні. Аднаго разу спаборнічалі ў танцах — два менестрэлі ігралі і спявалі, а мы танцавалі. Арбітрам у танцах была высакародная Паліна, якая прыбыла з мужам на другі дзень пасля нас. Высакародная Паліна сапраўды рабіла ўражанне, гэта была пышная паўднёвая ружа ў росквіце, эфектная жанчына пад 35—36 гадоў. Яе муж, конт Дзюмезніл, сухі, як жэрдка, чалавек, змрочны, з выгляду не скажаш, што каханак, але хто іх разбярэ, на што яны здатныя, гэтыя паўднёўцы!

Дык арбітрам у час танцаў была высакародная Паліна. І вянок пераможцы яна надзела на галаву Эсклармонд, абвясціўшы яе самай грацыёзнай і зграбнай танцоркай Пуівера. Як і належыць, усе выстраіліся павіншаваць дзяўчыну — мужчыны цалавалі ёй у руку, а жанчыны ў шчочку. Калі надышла мая чарга, я пераблытаў і пацалаваў яе ў шчаку, і гэта выклікала вялікі смех. Эсклармонд, небарачка, пачырванела, а яе маці, Корба, якая адна толькі не танцавала, паглядзела на мяне са шчырым неўразуменнем і нават з нейкай трывогай.

— Ён чужынец, дарагая прыяцелька! — звярнуўся

да яе віконт. — Ён проста не ведае нашых звычаяў, не злуйцеся на яго!

Корба пацiснула плячамі, зірнула яшчэ раз на мяне неўразумелымі вачамі і задумліва паківала галавой.

На другі дзень спаборнічалі ў стральбе з лука. Стралялі па жаночым капялюшыку з адлегласці ў пяцьдзесят крокаў. Дзюмезніл улучыў у капялюшык з краю, а я пранізаў яго акурат па цэнтры. Усе пачалі мяне віншаваць — жанчыны цалавалі мяне ў шчаку, а мужчыны паціскалі руку. Калі надышла чарга Эсклармонд, я зніякавеў, у мяне закружылася галава, і замест таго, каб падставіць шчаку, я падставіў ёй вусны. Мабыць, і яна была збянтэжаная, таму што не заўважыла маёй памылкі, і такім чынам нашы вусны сустрэліся. Зноў грымнуў вялікі смех, але добра, што не было Корбы. Я нават не ведаю, якое апраўданне знайшоў бы гэтаму віконт! На гэты раз усё пераблытала Эсклармонд, а яна ж зусім не была чужынкаю!

Сапраўды, гэта, напэўна, былі мае апошнія бесклапотныя дні.

У Без'е я застаў Вучыцеля Іосіфа. Ён прыбыў сюды за два дні да нас, яго пасялілі ў замку, і калі я ўбачыў яго, ён здаўся мне акрыялым, ягоныя вочы, выцвілыя ад гадоў, на гэты раз выпраменьвалі нейкае асаблівае святло. Ён распытваў мяне пра Пуівер, я расказваў падрабязна, за выключэннем таго, што ў нас адбылося з Эсклармонд. Вядома, ні слова не сказаў пра мае пачуцці да дзяўчыны — калі б я хоць словам намякнуў пра іх, гэта адразу ж выклікала б у яго пагарду да мяне.

Я сам усведамляў грахоўнасць сваіх пачуццяў. Нават у разуменні ашуканых д'яблам хрысціян яны былі грэшныя, а што гаварыць, калі паглядзець на іх вачамі ісцінных хрысціян. У вачах Вучыцеля яны выглядалі б жахліва грахоўнымі: поўная здрада ісціннай веры і поўны трыумф д'ябла. Таму што я забыўся пра сваю жонку, з якой павянчаўся толькі месяц назад, ад якой чакаў дзіцяці і якую пакінуў на чужых людзей. Хто з мужчын можа зрабіць так? Толькі акаянны чалавек, хто пусціў д'ябла ў душу і зрабіўся яго рабом.

Я разумеў, што пачуцці мае грахоўныя, але прагнаць іх з душы сваёй у мяне не было сілы. Таму я шчыра маліўся богу, просячы, каб Эсклармонд больш не сустракалася на маім шляху, а калі ўсё-такі выпадак звя-

дзе нас — каб яна да таго часу аддала сэрца другому і я для яе не існаваў як мужчына.

Але хоць я не выдаў Вучыцелю сваіх пачуццяў, ён не быў задаволены тым, як я пражыў гэтыя дні.

— Марна прайшоў у цябе час! — папракнуў мяне ён. — Марнае было тваё жыццё. Ты не зрабіў нічога пажаданага богу і супраціўнага д'яблу. Жыццё толькі тады мае апраўданне, сыне, калі дзень і ноч робіш намаганні быць з богам і адкрываць вочы ўведзеных у зман наконт Духа Святога. Калі хоць дзень ты не выканаў гэтых умоў, значыць, дзень гэты застаўся пусты, ты дарэмна жыў. Я трывожуся за цябе, сыне! Гэты горад, дзе мы спыніліся, поўны спакус. Д'ябал будзе спакушаць цябе на кожным кроку! Таму ты павінен узяць сябе ў рукі, дзіця. Пакуль я буду далучаць катараў да ісціны аб Стварэнні, каб усяліць ім мужнасць і веру і падрыхтаваць іх да выпрабаванняў, якія іх чакаюць — а выпрабаванні гэтыя жахлівыя, і яны ўжо стукаюцца ў дзверы, — ты павінен засесці за кнігі, якія мы прывезлі, і перакласці іх на мову, на якой размаўляюць простыя людзі — на звычайную, франкскую мову. Лацінскую мову разумеюць нямногія, толькі адукаваныя, народ не ведае гэтай мовы, і таму ісціны, якія заключаны ў нашых кнігах, не даходзяць да яго альбо даходзяць цяжка. Вось табе задача, якой ты ўсцешыш бога і засмуціш д'ябла!

Лёгка было вучыцелю гаварыць так— у яго кроў ужо астыла, а ў мяне яна кіпела. З другога боку, гэтае даручэнне было вельмі своечасовае, таму што ў хвіліны, калі нішто не адцягвала маёй увагі, мне ў сэрца кіпцюрамі ўядаўся боль, які кідаў мяне ледзь не ў роспач. Калі я нічым не займаўся, мяне адольвалі цяжкія сумненні: ці не перайшоў я ўжо тую мяжу, за якой было толькі пекла і ніякае надзеі нават на першае неба?

Я ўзяўся за кнігі, і справа з іх перакладам пайшла наперад, але мінула ўсяго некалькі дзён, як віконт зноў паклікаў мяне. На гэты раз наша сустрэча адбылася не ў замку, які месціўся на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, а там, дзе сыходзіліся яго ўсходняя сцяна з паўднёваю сцяною. Мы сустрэліся на тэрасе вялікае круглае вежы, названай Тур Вентуз. Гэтая вежа ўзвышалася на тым месцы, дзе крапасная сцяна рабіла залом, каб апускацца далей на пойдзень і паўднёвы захад. Злева віднелася царква Сен Назэр, узведзеная на скале за сто

крокаў за гарадскімі сценамі, а насупраць нас несла сваё ціхія воды вялікая і глыбокая рака Орб. Далей на поўдзень віднеўся стары рымскі мост, які выводзіў на шлях да горада Каркасона. Гэты мост злучаўся з паўднёвымі варотамі горада, названымі Сен Жак, шырокай крутой дарогай, вымашчанай плітамі.

Дык вось, сустрэча наша адбылася на тэрасе вежы Тур Вентуз. Сюды прыйшлі вышэйшыя афіцэры і вяльможы, чалавек дзесяць, каталіцкі ўладыка — у шыкоўнай зіхатлівай расе і сіняй накідцы, аздобленай залатой тасьмой, і з распяццем на грудзях — з чыстага золата, аздобленым каштоўнымі камянямі; крыху ў баку ад усіх стаяў чалавек у белай палатнянай валасяніцы, прыгорблены і прыгнечаны, які, відаць, адчуваў сябе ніякавата. Напэўна, гэта быў прадстаўнік катараў, якія трымаюцца балгарскага багамільства.

Віконт быў у плазаватай шапцы з дарагога футра, у чырвонай палярыне і чырвоных ботах. Мы былі высока, дзьмуў вецер, і віконт, як быў спешчаны і адчувальны да холаду, а можа, таму, што хваляваўся, увесь час уздрыгваў і захінаўся ў палярыну. Ён загадаў мне далучыцца да афіцэраў і загаварыў:

— Ваша святасць, сеньёры! Учора я атрымаў паведамленне, што апошнія атрады ОС-а[1] пакінулі наваколле Ліёна. Далінаю ракі Роны яны спускаюцца да нашага Поўдня. Зачэпка для гэтага крыжовага паходу супраць нас — катары, ці бугры, як пагардліва называюць іх на Поўначы, тое, што мы адмовіліся выдаць іх. На катараў прэтэндуе папа, а на землі Поўдня — пад выглядам, што хочуць вынішчыць буграў, — прэтэндуюць бароны Поўначы і кароль Францыі. Але як не выдалі катараў, так мы, зразумела, не ўступім і зямлі сваёй. Ваша святасць, вы падпарадкаваны царкве, якая пачала супраць нас крыжовы паход. Таму я прапаную пакінуць мой горад, не адкладваючы. Вам будзе не з рукі быць у горадзе, жыхары якога не на жыццё, а на смерць б'юцца з папскім войскам.

— Сеньёр, пакуль тут будзе хоць адзін хрысціянін, я не пакіну свой пастырскі пост! Я — пастыр і застануся пры статку сваім.

Мне стала смешна. Які ён пастыр, гэты бліскучы ўладыка!

[1] OS — папулярная ў свой час назва арміі крыжакоў.

Віконт звярнуўся да чалавека ў белай валасяніцы:

— Я не выдаў вашых людзей, сеньёр, але гэта не значыць, што вы павінны біцца з крыжакамі. Я ведаю, што вы людзі міралюбныя і не прымаеце вайны.

— Мы людзі міралюбныя, і вайна нам чужая, як святлу чужая цемра, сеньёр. Але ў гэтым выпадку вы абараняеце божую ісціну, а не справы д'ябла, таму мы падмацуем вас, чым можам і што будзе ў сілах нашых.

— Як вы палічыце за лепшае, сеньёр. Мы не адмовімся ні ад якай дапамогі, была б яна толькі дзейснай і шчырай.

Ён памаўчаў, загледзеўшыся на шэра-сінія воды Орба, потым кажа:

— Ваша святасць, і вы, сеньёр, — звярнуўся ён да прадстаўніка катараў, — вы можаце ісці, я паслухаў вас.

Уладыка ўзняў руку, благаславіў нас і з ганарліва задзёртай галавой першы пайшоў да лесвіцы. Ён нават не паглядзеў на чалавека ў валасяніцы — для яго ён быў вылюдкам д'ябальскім, ён баяўся спаганіць душу сваю, калі, не дай бог, пагляд ягоны выпадкова спыніцца на ім.

Калі нарэшце і катар, прамовіўшы сваё «благаславіце і злітуйцеся», скіраваўшы вочы да неба, пайшоў, віконт звярнуўся да сваёй світы:

— Сеньёры, крыжакі маюць сярод нас саюзніка, гэта наш уладыка. Трэба добра глядзець, каб у нейкі крытычны для нас момант ён не ператварыўся з саюзніка ў «памочніка» ОС-а! Вы, спадзяюся, разумееце, на што я намякаю? Што датычыць клятых крыжакоў, калі разбойнікі не сустрэнуць сур'ёзнага супраціўлення ад гарадоў паміж Німам і Без'е, яшчэ да канца месяца мы ўбачым, як яны набліжаюцца да нас тыберыйскім шляхам. Ну што ж, няхай ідуць! Няхай пакрышаць свае зубы аб нашы высокія і моцныя сцены, аб нашы вежы і нашы мячы! Да восені мы аблогу вытрымаем. А надыдзе восень і пальюць дажджы, і полчышчы іхнія пачнуць распадацца — тады нам на дапамогу прыйдзе наш прыяцель, арагонскі кароль! Так што ніякае маркоты і ніякіх лішніх страхаў, сеньёры!

— Наш Поўдзень баязліўцаў не нараджае, сеньёр! — азваўся з некаторай крыўдай конт гарадка Лаграс, які камандаваў каменекідальнымі машынамі. — Мы паб'ём іх, і яны, пасаромленыя, вернуцца на сваю Поўнач!

Усе згодна заківалі галовамі.

Віконт працягваў:

— Вярхоўны начальнік ОС-а — Арнольд Амары, папскі легат і абат манастыра Сіта. А военачальнік — вядомы ўсім нам Сімон дэ Манфор. З ім трэба ваяваць сур'ёзна.

— Што вы маеце на ўвазе, сеньёр? — насцярожыўся камандзір каменекідальных машын.

— Першае: забяспечыць горад прадуктамі на час працяглай аблогі. Другое: каменекідальныя машыны ўсе, якія ў нас ёсць, размясціць на паўднёвай сцяне і на паўднёва-заходняй — ад майго замка да гэтае вежы. Гэта трэба зрабіць, бо крыжакі будуць атакаваць горад з поўдня і больш за ўсё з паўднёвага захаду. І трэцяе: ніхто і ні ў якім выпадку не павінен выводзіць войскі за сцены горада, не ўступаць у адкрыты бой. Калі прыйдзе час, тады і пакажам ім, на што мы здольныя і што мы можам! Якія ў каго пытанні, сеньёры?

З таго дня я быў уключаны ў работы па абароне горада, так што на пераклад кніг часу ў мяне заставалася не шмат. А 15 ліпеня Вучыцель Іосіф вырашыў адправіць кнігі ў Каркасон.

Цяпер мне здаецца, што сам бог спаслаў яму гэтае рашэнне.

А вось што адбылося 22 ліпеня ў гэты самы няшчасны год:

21 ліпеня па абедзе ў горадзе настала вялікае ажыўленне. Пачатак гэтаму ажыўленню паклалі баявыя трубы, якія трубілі трывогу і заклікалі, каб воіны хутка займалі месцы на сценах.

Я перакладаў апошнюю старонку адзінай кнігі, якую Вучыцель Іосіф пакінуў мне, — гэта кніга, у якой выкладзена наша разуменне стварэння свету і Апакаліпсіса; але калі пачуў трубы, я кінуў пяро, выскачыў на двор і па першых прыступках, якія трапіліся, узляцеў на сцяну. Там я застаў віконта, камандзіра каменекідальных машын Марціна дэ Беранжэ і яшчэ двух-трох афіцэраў з яго світы. Усе засяроджана глядзелі на ўсход, у напрамку тыберыйскага шляху. Удалечыні клубілася велізарнае воблака пылу, у якім паблісквала мноства агеньчыкаў. Не патрэбна была вялікая кемлівасць, каб здагадацца, што гэта зброя, якая блішчыць на сонцы.

Па ўсёй сцяне, ажно да варот, у якія ўпіраўся шлях на Манпелье, панавала незвычайная цішыня. Каменекідальнікі і стральцы, звычайна вельмі гаваркія, раптам усе замоўклі, нібы па камандзе. Паглыбіўшыся ў роздум, усе глядзелі на агромністае воблака, што насоўвалася на горад,

Было над чым задумацца людзям! На іх ішла бура, якая праглынула ўсё на сваім шляху — усё, што супраціўлялася, і ўсё, што мела нейкі кошт. Які больш, які менш — дзесяткі гарадоў ужо разбураны імі: каторы супраціўляўся — яго зруйноўвалі, дзе адчынялі вароты ад страху — там разня была меншая, аднак усё роўна забівалі людзей і рабавалі іх маёмасць у пакаранне нібыта за тое, што горад ставіўся памяркоўна да буграў. Толькі Манпелье не кранулі, яго жыхары здаўна былі адданыя папу. А на ўсякі выпадак папа адправіў туды свайго легата, таму што горад багаты і мог спакусіць крыжакоў.

Пра колькасць гэтай арміі хадзілі самыя розныя чуткі. Некаторыя сцвярджалі, што абат Арнольд сабраў 500 000 душ, другія — 150 000. Віконт хацеў на свае вочы пабачыць гэтае войска, каб самому вызначыць як колькасць яго, так і яго сілу. Таму што гаварылі яшчэ, што на самай справе войска налічвала не больш як 20—30 000 душ, астатнія былі наёмнікі і «саракоўнікі» — цывільныя людзі, якім папа абяцаў індульгенцыю за грахі, калі 40 дзён будуць абслугоўваць армію.

Праз гадзіну першыя хвалі гэтага чалавечага мора, ці, хутчэй — гэтага мора з людзей-саранчы, дакаціліся да горада і пачалі паступова разлівацца па раўніне, якая распасціралася на поўдзень, а на захадзе абмяжоўвалася ракой Орб. Трымаючыся на адлегласці 200—300 крокаў ад сцен, першым прайшоў атрад, у якім было каля сотні коннікаў, і кожны коннік у левай руцэ трымаў папскі сцяг. Пасля гэтага атрада пацягнулася конніца, якая рухалася перад намі больш за гадзіну. Конніца была падзелена на калоны, у кожнай калоне неслі па некалькі сцягоў, гербаў і лікаў святых. Было наўздзіў страката, усё гэта наганяла страху, але разам з тым глядзець было цікава.

Услед за конніцай папаўзла пяхота, гуж якой змяёю выцягнуўся ажно да гарызонту. Пасля пяхоты прагрукацела каля сотні каменекідальных, стрэлакідальных і

штурмавых машын, якія цягнулі валы. За імі ішлі калоны наёмнікаў і полчышчы «саракоўнікаў».

Усё гэтае войска цягнулася ў нас перад вачамі каля пяці гадзін. Але яшчэ пакуль яно слаілася і рассцілалася па раўніне, ад яго тулава аддзяліліся некалькі атрадаў, якія разгарнуліся і занялі пазіцыю ўздоўж усёй усходняй сцяны. У той час, калі яны праводзілі гэты манеўр, віконт загадаў мне выйсці праз паўднёвыя вароты на чале сотні коннікаў і ахоўваць мост цераз Орб і шлях, пакуль ён пакіне горад.

Адрэзак шляху, які звязваў паўднёвыя вароты з мостам, меў даўжыню 300 крокаў, узвышаўся над раўнінай, таму ахоўваць яго было не цяжка. Я расставіў на ім 50 коннікаў, а з астатнімі заняў абодва падыходы да моста. Крыжакі альбо не заўважылі нас, занятыя расстаноўкай па раўніне, альбо не звярнулі на нас увагі, як нас была кропля ў параўнанні з іхнім морам. Ды ўжо і прыцемкі апускаліся, так што, можа, і не заўважылі, іх пярэднія вартавыя былі ад нас крокаў за тысячу.

Віконт выехаў, калі ўжо звечарэла, у суправаджэнні трох афіцэраў. Параўняўшыся са мной, ён спыніўся і заклапочана кіўнуў галавой на раўніну:

— У іх толькі рэгулярнага войска больш за 30—40 000 душ! — прашаптаў ён. — Наёмнікаў, гэтага самага небяспечнага і крыважэрнага зброду, не меней як 10 000. Сваімі сценабітнымі машынамі яны могуць рушыць нашы сцены праз кожныя сто крокаў. А ў нас усяго 2 000 душ, калі лічыць і катараў!

— Дык што ж у такім выпадку? — спытаўся я, адчуваючы, як стыне мая кроў. — Ці зможам мы пратрымацца да восені?

— Калі з Каркасона прывядзём тысячу воінаў — пратрымаемся! — Ён махнуў рукой і прышпорыў свайго каня.

Я завёў сваіх людзей назад у крэпасць.

Кіраваць абаронай віконт даручыў Марціну дэ Беранжэ.

Да позняе ночы назіраў я праз амбразуры вежы Тур Вентуз за неаглядным лагерам крыжакоў. Як быццам пекла вырвалася на паверхню зямлі: гарэла безліч агнёў, трывожна ржалі тысячы коней, безліч авечых тушак смажылася на ражнах, і паўднёвы ветрык заліваў горад пахам смажанага мяса.

Праз дзень Марцін дэ Беранжэ прызначыў мяне камандзірам спецыяльнага атрада для сувязі, які складаўся з пятнаццаці маладых воінаў, адчайных майстроў у валоданні мячом, у віне і ў мастацтве чапляцца да жанчын. Гэтыя жартаўнікі пісалі на пергаменце розныя дзёрзкія прызнанні, накручвалі пергамент на тонкае цела стралы, потым кідалі стрэлы ў бліжэйшыя двары, што межавалі са сценамі, — туды, дзе, як ведалі яны, круцяцца прыгожыя жанчыны.

Чалавек сто катараў цягалі на сцены каменныя ядры для кідальных машын, вялікія стрэлы для стрэлакідальных машын, зносілі да вежаў каменне, цэглу, вапну, каб можна было хутка замураваць прабоіны, якія маглі нарабіць крыжаносцы сваімі каменекідальнымі машынамі. На плошчы, насупраць віконтавага замка, Вучыцель Іосіф з дапамогай сваіх маладзейшых пабрацімаў збіў дваццаць драўляных ложаў, заслаў іх чыстымі пасцілкамі, у двух казанах нагрэў вады, а асобна на шырокім стале падрыхтаваў розных зёлак і матэрыялы для перавязкі — ужо клапаціўся пра тых, хто будзе паранены. У чаканні бітвы ён ласкавым голасам расказваў разявакам, што стаялі навакол, багамільскія прытчы аб стварэнні свету.

Пад дзесяць гадзін раніцы ўладыка, апрануты як для літургіі, на чале пяцідзесяці багамольцаў папрасіў у Марціна дэ Беранжэ дазволу, каб яму адчынілі вароты Сен Жак і ён мог адслужыць урачыстую месу ў царкве Сен Назер. Гэта царква знаходзілася за крапаснымі сценамі і стаяла на ўзвышшы не надта далёка ад варот Сен Жак. На маё вялікае здзіўленне, Марцін дэ Беранжэ гэта дазволіў, і багамольцы на чале са сваім уладыкам выйшлі з крэпасці і пачалі крутою сцежкай падымацца да царквы. «Сеньёр, ці не зрабілі мы памылкі, выпусціўшы гэтых людзей з крэпасці?» — не вытрымаў я і запытаў у намесніка віконта. Ён ганарліва паглядзеў на мяне і паціснуў плячамі: «Сеньёр, чаго вы ўмешваецеся не ў свае справы?» — але ўсё-такі адказаў:

— Сеньёр Лукіян, як мы дазваляем вашаму катарскаму епіскапу казаць пропаведзі на плошчы перад замкам, дык на той жа падставе я дазволіў католікам правесці сваю месу!

— Цудоўна! — кажу я. — Але дазвольце мне заўважыць, што катарскі епіскап прапаведуе ў горадзе, а ка-

таліцкі ўладыка вывеў сваіх людзей за сцены крэпасці, на адлегласці ад ворагаў, як кінуць каменем!

— Няхай робіць, што хоча! — раздражнёна адказаў мне Марцін дэ Беранжэ. — Я не маю права ўмешвацца ў справы каталіцкай царквы!

І павярнуўся да мяне спіною.

У той дзень стаяла моцная гарачыня, сонца гэтак смаліла, быццам хацела падпаліць і ахапіць полымем усю грэшную зямлю. На сценах мы паміралі ад спёкі, а крыжакі, каб пазлаваць нас, скідалі адзенне і плюхаліся ў прахалоднай вадзе Орбы.

Пад тры гадзіны пасля поўдня да крапасных сцен наблізілася група з трыццаці прыкладна крыжакоў — на такую адлегласць, каб не магло дастаць якое-небудзь ядро з нашай кідальнай машыны. Ад групы аддзяліўся важак і даволі безразважна выйшаў наперад. Падышоўшы да варот Сен Жак на лёт стралы, ён стаў, склаў далоні каля рота і колькі моцы закрычаў:

— Воіны! Выпраўце нам вашых катараў, каб мы зрабілі з іх попел, і воз золата ў кампенсацыю, што мы білі ногі сюды, і мы злітуемся над вамі! Іначай усім вам смерць!

Марцін дэ Беранжэ звярнуўся да мяне:

— Я чуў, што вы добры стралок. Ці маглі б вы збіць шапку ў таго нягодніка?

Пакуль я збіраўся адказаць яму, ён падаў мне цяжкі лук і доўгую стралу.

Я моцна нацягнуў цеціву, прыцэліўся, стаіў дых і пусціў стралу. Праз нейкае імгненне шапка ў нягодніка адляцела ў пыл. Ох, які смех выбухнуў на сцяне! Мае хлопцы ад захаплення скакалі, выкрыквалі непрыстойныя словы і махалі крыжакам кулакамі.

Але пакуль нашы весяліліся, крыжакі да групы, якая выйшла наперад, падцягнулі тры штурмавыя вежы, і гэтыя смельчакі хутка схаваліся за іх тоўстыя дошкі. Гэта нас здзівіла, бо ўвесь агромністы непрыяцельскі фронт захоўваў спакой і нішто не паказвала, што ён рыхтуецца да штурму. Толькі конны атрад чалавек з пяцідзесяці рушыў да рымскага моста — мабыць, камандаванне войска хацела даведацца, што ў нас робіцца ад ракі.

— Трэба загадаць каменекідальнікам, каб памалацілі тыя вежы, — сказаў Марцін дэ Беранжэ, але перадv-

маў. — А можа, пачакаем, пабачым, што яны надумалі, тыя нягоднікі?

Пакуль ён вагаўся, ад царквы Сен Назер пачалі спускацца нашы багамольцы на чале са сваім уладыкам. Яго пазалочанае ўбранне так іскрылася на сонцы, і крыж, які ён трымаў над галавой, гэтак зіхцеў, што кожны міжвольна бянтэжыўся і саступаў яму дарогу. Ахінуўшыся сваімі палярынамі, апусціўшы галовы, за ім сунуліся багамольцы.

Расслаблены ад бяздзейнасці і крыху разамлелы ад сонца і духаты, я прысеў за ўкрыцце і звёў вочы. І ці то я заснуў, ці толькі задрамаў, і колькі часу гэта доўжылася — калі расплюшчыў вочы, не меў пра гэта ўяўлення, бо мяне скаланулі невыказныя крыкі, страшэнны лямант, які ўзняўся каля варот Сен Жак, усё роўна як там правалілася зямля і з пекла выскачылі д'яблы, лупячы трызубцамі ў свае напаленыя шчыты і равучы на ўсё д'ябальскае горла. Я кінуў пагляд за сцены на раўніну — там усё нібыта прачнулася ад глыбокага сну, усё, як акінуць вокам, прыйшло ў рух, нібы дзесяць такіх рэк, як Орб, зліліся разам і хлынулі на нас.

А вось што адбылося праз тыя дзве-тры хвіліны, пакуль я драмаў.

Як толькі ўладыка, што вёў багамольцаў з царквы Сен Назер, наблізіўся да варот Сен Жак, воіны ў дзвюх вежах, якія фланкіравалі вароты, адразу пачалі круціць лябёдкі, каб развесці іх крылы і прапусціць людзей. Але багамольцы, замест таго каб ісці як ішлі дарогай праз вароты, раптам паскідалі свае палярыны, выхапілі мячы і імгненна ператварыліся ў крыжакоў, уварваліся ў вежы і шалёна пачалі секчы. Ашаломленыя вартавыя не паспелі ўзяцца за мячы, як былі пасечаны, і лябёдкі тут жа апынуліся ў руках прыхадняў.

Пакуль «багамольцы» распраўляліся з вартай на варотах, крыжакі, якія хаваліся за трыма штурмавымі вежамі, выскачылі з-за іх і былі ў варотах хутчэй, чым абаронцы крэпасці на сценах апамяталіся і напялі лукі. Тая калона коннікаў, што нібыта безуважна накіроўвалася да рымскага моста, адразу павярнула налева, на брукаваную дарогу, панеслася наўскач і за лічаныя імгненні праз шырока расчыненыя вароты нахлынула ў горад.

Так за дзве-тры хвіліны крыжакі авалодалі варотамі Сен Жак і занялі подступы да ўсходаў, якія вялі ад

бруствераў на сцены. Воіны, якія кінуліся выручаць сваіх пры варотах і ліквідаваць прарыў, былі пасечаны яшчэ на першых усходах, не ступіўшы на зямлю.

Шмат гадоў мінула ад тых жудасных падзей, ужо ніхто пра іх не гаворыць, нават не ўспамінае пра той злавесны дзень, калі Без'е ператварыўся ў попел. Аднак два моманты час не павінен аддаць забыццю. Такое трэба памятаць, пакуль людзі будуць жыць на зямлі і пакуль паняцце аб граху не ператварылася ў пусты гук. Першае — гэта гнюсная здрада, якую зрабіў уладыка Без'е. У ноч на 22 ліпеня пяцьдзесят адборных штурмавікоў-крыжакоў прабіраюцца ў царкву Сен Назер і сядзяць там, пакуль уладыка не прыводзіць туды сваіх пяцьдзесят шчырых багамольцаў. Калі настае ўмоўлены час, крыжакі скідваюць свае плашчы і прыкрываюцца палярынамі набожных католікаў, а потым на чале з уладыкам накіроўваюцца да варот Сен Жак. Багамольцы, замкнёныя ў царкве, чакаюць вяртання свайго пастыра. Але яны не дачакаліся. Ап'янелыя ад лёгкага поспеху, крыжакі, хлынуўшы на горад, падпальваюць царкву Сен Назер. Так гінуць у агні пяцьдзесят набожных хрысціян, асуджаных на пакутніцкую смерць уладыкам.

Другое, што людзі не павінны забываць, — гэта словы, сказаныя вярхоўным начальнікам арміі крыжакоў, абатам Арнольдам Амары. Гэтыя словы я, Лукан, сын Рэлё з Балгарыі, чуў на свае вушы. Вось як гэта атрымалася.

Калі я пачуў радасныя воклічы першых крыжакоў, якія ўварваліся ў горад, я і мае хлопцы кінуліся да сходаў лесвіцы, па якой воіны сыходзілі або ўздымаліся на сцяну. Але цесная лесвіца была запруджана мноствам воінаў, кожны, ахоплены дзікай панікай, страхам за сябе і сваіх блізкіх, стараўся апярэдзіць іншых. Так наша чарга падышла хвілін праз пятнаццаць пасля таго, як вароты Сен Жак апынуліся ў руках крыжакоў. Тыя разбойнікі пасталі пры ўваходзе на лесвіцу, і рэдка каму з нашых воінаў удавалася прабіцца праз іх крывавы абруч.

— Беражыце галовы! — крыкнуў я хлопцам, і, як у мяне пачырванела ўваччу, я так пачаў арудаваць мячом, што ў паветры засвістала і пачулася адразу: «Хрась!» — распалавініў я першага крыжака, які трапіўся мне на шляху. Даволі доўгі час у паветры чуўся свіст і гэтае

«хрась». Мы секлі, пакуль перад намі не засталося ніводнага крыжака. Тады я зноў крыкнуў хлопцам, якіх засталося на трох меней: «Скідайце свае накідкі і апранайце іхнія! Скідайце свае шапкі і насоўвайце іхнія!»

Пераапранутыя крыжакамі, мы спусціліся да варот Сен Жак. Якое сумнае відовішча паўстала перад нашымі вачамі! Густымі калонамі армія крыжакоў уваходзіла ў горад, і хоць бы хто пусціў насустрач ёй стралу! Куды знікла нашае войска, як яно прапала — я не мог дабраць розуму. Пакуль я разважаў, што рабіць — можа, выхапіць меч, кінуцца на іх ды хоць памерці годнай смерцю, — як убачыў, што насустрач мне на белым кані, з велізарным залатым крыжам на грудзях выязджае нейкая святасць. Ён рухаўся ў цэнтры чатырохкутніка з рыцараў, якія ўсе былі ў даспехах, у шлемах і з доўгімі коп'ямі ў руках.

«Ці не сам гэта абат Арнольд Амары?» — прамільгнула ў мяне ў галаве.

У гэты момант з глыбіні плошчы памчаў насустрач яму коннік. Ягоны конь быў чорны, нібы абгарэлая і даўно ачахлая галавешка, сам ён быў у чорнай мантыі, а чорнае арловае пяро ўпрыгожвала яго шлем. Гэта быў мажны мужчына, яго твар выпраменьваў гаспадарскую волю і суровасць.

— Ваша святасць! — звярнуўся ён да абата Арнольда Амары, асадзіўшы каня перад чатырохкутнікам рыцараў, тым самым прымусіўшы спыніцца і іх. — Ваша святасць! — паўтарыў ён. — Хрысціяне і катары так перамяшаліся, што цяжка ў гэтым натоўпе разабраць, хто з іх хрысціянін і хто ерэтык!

— Сеньёр Манфор! — адказаў абат Арнольд Амары, насупіўшы свае калматыя бровы. — Забівайце ўсіх падрад, госпадзь сваіх адбярэ!

Я скалануўся ад гэтых слоў, і здалося мне, што і Сімон дэ Манфор — бо гэты коннік быў не хто іншы, а ён, — здалося мне, што і ён не мог адразу праглынуць гэтыя словы, таму што нейкі час маўчаў і толькі потым сказаў:

— Добра!

Але гэтае «добра» вымавіў цвёрдым і ясным голасам.

Ён павярнуў каня і паскакаў угору па вуліцы.

У гэты час ад тулава арміі аддзяляліся невялікія ат-

рады і зварочвалі налева і направа, расцякаючыся ўздоўж сцен, каб узяць у абцугі ўвесь горад.

Я сказаў сваім хлопцам:

— Ратуйцеся, прыяцелі мае, хто як можа! Пастарайцеся дабрацца да паўночна-ўсходніх варот, адкуль пачынаецца дарога на Манпелье. Іншага выйсця не бачу!

Я махнуў ім рукой і спусціўся да плошчы, дзе Вучыцель Іосіф разгортваў свой адкрыты шпіталь. Але я спазніўся. На кастры са згруджаных і запаленых одраў, прывязаны дагары да нейкага бервяна, гарэў Вучыцель Іосіф. Полымя ўжо ахапіла яго ўсяго, я не мог паспець ўратаваць яго, ужо не было сэнсу спяшацца.

Тады я шмыгнуў у замак, каб вынесці са свайго пакоя кнігу аб Стварэнні. Па лесвіцах і калідорах гойсалі крыжакі-наёмнікі, і кожны нешта цягнуў — хто кілім, хто нейкую атласную занавеску, а нехта — сярэбраны посуд, аберуч прыціскаючы яго да сябе, нібы несучы дзіця сваё. Я знайшоў кнігу, засунуў яе сабе за пазуху і выйшаў.

Ужо не было войска, загадаў, якога б там ні было парадку. Былі тысячы ахопленых прагай крыві забойцаў, падпальшчыкаў і ненажэрных зладзеяў. Кожны з крыжакоў сек, хто б яму ні трапляўся на шляху: мужчын і жанчын, дзяцей, немаўлят. Яны лазілі па дамах, выцягвалі людзей са скляпоў і з падстрэшкаў і забівалі. Падпальвалі дом за домам. Клаліся на маладых жанчын, потым перараззалі ім горла і спакойна зашпільвалі штаны акрываўленымі рукамі.

Локцямі і кулакамі я прабіваў сабе шлях усё вышэй, да кафедральнага сабора Святой Магдалены. Адтуль я мог выбрацца праз адны з двух варот — што каля царквы Сен Афрадыз альбо праз усходнія — на шлях да Манпелье. У кафедральны сабор сагналі поўна людзей — забіваць іх па адным заняло б шмат часу. Таму замкнулі дзверы, выбілі вокны і пачалі кідаць усярэдзіну факелы, намочаныя ў дзёгці і смале. Пачалі гарэць людзі — 1500 душ.

Успыхнулі полымем іконы, алтар, полымя зашугала да неба. Страшэнна засмярдзела паленым мясам, смуродны дым, нібы чорны туман, зацягнуў плошчу.

На вуліцы, якая злучала кафедральны сабор з царквой Сен Афрадыз, я дагнаў нейкага франтаватага прыгажуна-афіцэра, які цягнуў за валасы маладую жанчы-

ну, мабыць, шукаючы прыдатнага месца, дзе можна было б згвалціць яе. Жанчына стагнала і тузалася, але вырвацца не магла, таму што нягоднік наматаў яе валасы на руку і трымаў моцна.

— Адпусці бабу, жывёліна! — крыкнуў я, даўшы яму пад зад.

Ён пахіснуўся, жанчына закрычала ад болю — красун не выпусціў яе касы. Азірнуўшыся на мяне, ён паглядзеў з невыказным здзіўленнем, змяшаным з невыказнай злосцю.

— Як ты смееш, сабака! — закрычаў ён, схапіўшыся за меч.

— Сам ты сабака, як хочаш згвалціць безабаронную жанчыну!

Тады ён адпусціў валасы жанчыны і прыняў стойку для дуэлі.

— Перад тым як засекчы цябе, — сказаў ён, — я хацеў бы дазнацца, у якой ты часці служыш і хто твой камандзір. Я і яго правучу, што не ўклаў розуму ў тваю галаву!

Я скінуў накідку і застаўся ў сваёй чырвонай афіцэрскай куртцы.

— Ідзі правучы Раймона Ражэ Трэнкавела! — засмяяўся я яму ў твар. — Я ягоны ад'ютант!

На твары гэтага чалавека, які быў прыкладна маім раўеснікам, злосць прапала, засталося толькі бязмежнае здзіўленне.

— Але як ты ацалеў у гэтай мясарубцы? — вымавіў ён.

— Не задавай пытанняў, а ўздымай меч у «гард», бо я не збіраюся з табою цырымоніцца! — адказаў я.

— Дагэтуль яшчэ ніводзін, хто сутыкаўся са мной, не заставаўся цэлы! — паківаў ён галавой, мераючы мяне паглядам. — Але калі ты адправішся ў пекла, каб ты ведаў, хто цябе туды адправіў, — я конт Юг дэ з'Арсі, сын Юга дэ з'Арсі старэйшага, які ўзначальвае каралеўскія войскі ў гэтым паходзе. Ну, запомніў, заступнік ерэтыкоў?

Вось як і пры якіх абставінах я сустрэўся з чалавекам, які праз 35 гадоў, будучы каралеўскім сенешалам Каркасона, будзе кіраваць асадай апошняй катарскай крэпасці — Мансегюра.

Пакуль мы так размаўлялі, мераючы адзін аднаго вачамі, маладая жанчына ачомалася і знікла, а каля

нас пачаў збірацца натоўп крыжакоў. Часу марнаваць не было як — я ўзняў меч і зрабіў выпад, але і ён ступіў насустрач, адбіў мой удар, і я адразу адчуў, што маю справу з сур'ёзным праціўнікам, сапраўдным воінам. Я адчуў гэта рукою — кісць у мяне ўздрыгнула. А дагэтуль яна натыкалася на такія ўдары толькі аднойчы — у турнірным паядынку з Гіёмам дэ Борнам.

Пралескатала з дзесятак удараў — маіх і ягоных. Ніхто з нас не мог атрымаць перавагі. Пры адным выпадзе ягоны меч зачапіў мне шчаку — зусім лёгка, але дастаткова, каб пайшла кроў.

— Будзе табе знак на ўсё жыццё! — гукнуў Юг дэ з'Арсі-сын, цяжка дыхаючы. — З такім знакам не выйграць табе бітвы за любоў!

Калі я пачуў гэта, у вачах у мяне пачырванела — сабраўшы сілу, я так махануў мячом, што паветра свістанула, а ягоны меч бразнуўся аб брук за пяць-шэсць крокаў ад нас. Сам жа ён пахіснуўся, упаў плячом, а я падскочыў, прыціснуў нагою і наставіў меч яму на горла.

— Не хачу паміраць, — выдыхнуў ён хрыпатым голасам.

Яго прыгожыя светлыя вочы глядзелі на мяне з болем і ўмольнасцю.

— А каму хочацца! — сказаў я. — Хоць смерць — гэта вызваленне ад грэшнай плоці! — успомніў я словы Вучыцеля Іосіфа.

Я прыняў нагу і падаў яму руку, каб уставаў. Ён сціснуў маю дзясніцу і доўга трос яе, не гаворачы ні слова.

А каля нас ужо сабралася каля сотні галаварэзаў, паглядвалі, прыкідваючы, як мяне лаўчэй узяць, здавалася, зараз у іх слінкі пацякуць. Я сам улез у пастку.

Малады Юг дэ з'Арсі паглядваў наўкола і, мабыць, зразумеў, якую долю рыхтавалі мне гэтыя тыпы. Ён усміхнуўся і паляпаў мяне па плячы.

— Ніхто не пасмее вас крануць! — запэўніў ён.

Потым дастаў з сумачкі, якая на раменьчыку вісела ў яго на поясе, сярэбраны аловак і кавалачак прасаванай скуры для пісання. На гэтай скуры ён напісаў некалькі слоў, пярсцёнкам сваім дакрануўся да маёй шчакі — гэта была яго пячаць — і маёй крывёю падпячатаў сваю запіску.

— Прачытайце, сеньёр, што я напісаў! — падаў ён мне сваю запіску.

«Чалавека гэтага не чапаць!» — прачытаў я. Пячатка — манаграма сям'і Юга дэ з'Арсі.

Злавіўшы пагляд аднаго з галаварэзаў, ён пазваў яго пальцам:

— Філіп, хадзі сюды!

Нягоднік стаў перад ім смірна.

— Знайдзі сеньёру каня і правядзі яго да якіх-небудзь гарадскіх варот. За жыццё яго адказваеш галавой, зразумеў?

На развітанне мы пацiснулі адзін аднаму руку, а я не стрымаўся і сказаў яму:

— Усё-такі пагана з вашага боку было з той жанчынай, сеньёр! Прызнайцеся!

— О, сеньёр! — засмяяўся ён і зноў паляпаў мяне па плячы. — Пагана, вядома! Але ж усе гэтак робяць. Зараза!..

Мы глядзелі адзін на аднаго, усміхаліся, разумелі адзін аднаго без слоў, а былі ж ворагамі не на жыццё, а на смерць. А якімі маглі б быць прыяцелямі, калі б па перакананні я не быў багаміл, а ён — католік!

На развітанне ён сказаў мне:

— Пры якіх абставінах ні звядзе нас жыццё, у маёй асобе вы будзеце мець шчырага прыяцеля. Ведайце, што я палюбіў вас!

— Я таксама, здаецца, палюбіў вас, каб яго чорт! — прызнаўся я.

Вечарэла. Я пераехаў рымскі мост і рушыў на Каркасон. Без'е за мною нагадваў пекла — ад пажараў, якія знішчалі яго, неба над ім было падобна на нагрэтую да чырвані бляху.

У горадзе Пуішэрык я змяніў каня, а на другі дзень каля горада Барбера сустрэў Раймона Ражэ Трэнкавеля. Ён вёў на абарону Без'е войска ў тысячу душ.

— Няма ўжо Без'е! — прамовіў я і, глытаючы слёзы, расказаў, што адбылося ў ягоным горадзе.

Ён не сказаў ні слова. Адышоўся ад мяне крокаў на дваццаць, сеў на зямлю і абхапіў рукамі галаву. Так і прасядзеў паўгадзіны. Потым распарадзіўся, каб атрад вяртаўся назад.

— У Каркасоне мы не дапусцім такой ганебнай памылкі, — прамовіў ён пагаслым голасам.

## ЭПІЛОГ ПЕРШЫ

Лета 1258-е, канец восені, Манфер'е, у доме Бернаравых.

Благаславіце і злітуйцеся над намі!

Дзень і ноч ідзе дождж. Ад Сен Барталемі спускаюцца туманы, воблакі закрылі палавіну гары Мансегюр. Дзесяць дзён засталося да лістапада. Зіма на поўдні мяккая, і, можа, пакуль у Ламбардыі выпадзе снег, я дабяруся да Марсіліі і Генуі. Але да Марсіліі шлях далёкі, а сілы ў мяне засталося нейкая жменька, нават меней.

Учора Жэральда-Бернара выклікалі ў горад Фуа.

Вярнуўся Бернар з горада Фуа збянтэжаны і прыгнечаны. Я здагадаўся, што яму нагаварылі дамініканцы, але ўсё-такі спытаўся:

— Браце Бернар, што табе казалі ў інквізіцыі?

— Казалі, браце Лукіян, што возьмуць цябе, калі праз два-тры дні не пакінеш Манфер'е.

Я пракаўтнуў крыўду і злосць, памаўчаў і кажу яму:

— Сёння серада. Пашукай на паслязаўтра, на пятніцу, мне чалавека з коньмі і фурманкай, каб вывез мяне з Манфер'е!

Добры Бернар уздыхнуў і, падняўшы вочы ад долу, з ужо супакоенай душой сказаў:

— Час цяпер цяжкі, але я пастараюся знайсці табе чалавека з коньмі і фурманкай!

Не варта злавацца на яго. Інквізіцыя ўжо кінула на яго вока і чакае толькі зачэпкі, каб прыцягнуць да свайго злавеснага трыбуналу. Нават калі пазбегне кастра, дык мусіць дажываць астатнія дні ў якім-небудзь сутарэнні, закаваны ў кайданы.

У мяне застаўся ўсяго адзін дзень, каб завяршыць свае ўспаміны — зноў перажыць пражытае, абагрэць свае старэчыя рукі над тым, што было хораша, і тым суцешуся.

Не буду падрабязна апісваць падзеі ў Каркасоне — і з-за недахопу часу, а і па той прычыне, што не хачу ператварацца ў летапісца альбігойскага паходу. Адзін трубадур ужо апісаў яго ў сваёй паэме — замазваючы праўду пра Без'е, хаваючы свае сімпатыі да катараў, нічога не гаворачы пра лютасць таго людаеда ў расе — абата Арнольда Амары. Трубадур баяўся за сваю скуру — калі б ён сказаў праўду, інквізіцыя і яго самога, і ягонае сачыненне ператварыла б у попел. Я ж калі апісваю паход, дык раблю гэта для сябе і ў той меры, як ён зрабіўся часткай майго лёсу, часткай шляху, які я прайшоў, каб наблізіцца да вялікай Ісціны Жыцця.

Крыжакі з'явіліся перад сценамі Каркасона 28 ліпеня. Да 1 жніўня яны шукалі ў крэпасці слабыя месцы і знайшлі іх — гэта былі два кварталы, забудаваныя з паўночнага ўсходу і з паўднёвага захаду ад галоўнай крэпасці. Паўночна-ўсходні квартал называўся Льё Бург, а паўднёва-заходні — Льё Кастэляр. Сцены, што акружалі Льё Бург, былі слабейшыя, каменекідальныя машыны крыжакоў прабілі іх у некалькіх месцах, і праз гэтыя прабоіны ўварваліся разбойнікі, як нахлынвае вада, калі рака прарывае запруду.

Але Каркасон быў не Без'е — калі ў Без'е, карыстаючыся здрадай уладыкі, яны ўвайшлі, як на шпацыры, дык тут, у Льё Бургу, яны вымушаны былі біцца за кожны дом, за кожную вуліцу. У баі ўдзельнічаў сам Раймон Ражэ Трэнкавел, і я павінен сказаць, што біўся ён цудоўна, паваротліва, нібы сапраўдная рысь, і сама меней дваццаць крыжакоў упала ад яго мяча. Толькі калі насустрач яму кінуўся Сімон дэ Манфор, чорны коннік, што кіраваў штурмам Льё Бурга, я зніякавеў — ён быў удвая большы за віконта. Дзе ён толькі паварочваўся, месца тое ператваралася ў бойню — я на свае вочы бачыў, як ён аднаго нашага рассек ад пляча да пояса. Убачыўшы віконта, ён так моцна прышпорыў каня, што жывёліна стала дыба, а потым шалёна кінулася да нас, топчучы і нашых, і сваіх. Тут Ражэ Трэнкавел і напаткаў бы сваю смерць — смерць у тысячу разоў больш вартую за тую, якая знойдзе яго ўсяго праз тры месяцы. І па сённяшні дзень я праклінаю сябе за тое, што ўмяшаўся і той раз выратаваў жыццё гэтаму высакароднаму чалавеку.

У сваю чаргу прышпорыўшы каня, я выскачыў перад віконтам якраз у той момант, калі меч Сімона дэ Ман-

фора гатоў быў абрынуцца яму на галаву. Меч Сімона дэ Манфора так моцна грымнуў па маім шчыце, што ўдар гэты прамусіў усіх, хто біўся навокал, прыпыніць сутычку і павярнуць галаву. Гэты ўдар мяне самога ледзь не выбіў з сядла, а віконта, пэўна ж, рассек бы напалам.

Мы абмяняліся дзесяткам удараў, і я ўвесь час адчуваў, што гэты чалавек бачыць ува мне перашкоду, якая стаіць на шляху да яго мэты. Нарэшце, не могучы мяне адолець, ён узняў меч у знак вітання, усміхнуўся і кінуўся туды, дзе яго людзі мелі патрэбу ў яго дапамозе.

Як ні ўпарта мы біліся, але не маглі адстаяць Льё Бург — нас было не болей за трыста душ, а крыжакоў было тысячы. Аднак мы далі магчымасць насельніцтву схавацца ў крэпасці.

Так крэпасць прыняла 5000 душ, для якіх не былі прадугледжаны ні вада, ні харчы.

На другі дзень каменекідальныя машыны крыжакоў засяродзілі ўдары на Льё Кастэляры. Гэты квартал быў умацаваны лепш і пратрымаўся два дні, за гэты час два разы пераходзячы з рук у рукі. Нарэшце мы адступілі ў крэпасць, куды адышло і насельніцтва гэтага квартала. Так крэпасць дала прытулак дзесяці тысячам мужчын, жанчын і дзяцей, для якіх не былі прадугледжаны ні вада, ні харч.

Калі б не было гэтых дзесяці тысяч звыш меры, крэпасць магла пратрымацца яшчэ некалькі месяцаў. Смага і голад зрабілі тое, што не здолелі зрабіць мячы і сценабітныя машыны крыжакоў. У крэпасці быў толькі адзін калодзеж, але і той ад гарачыні амаль перасох. За 500 крокаў ад сцен цякла рака Од, але прастору паміж яе вадой і сценамі займалі пазіцыі крыжакоў, дзесяткі каменекідальных і стрэлакідальных машын абстрэльвалі вольнае месца, так што не толькі чалавек, але котка жывою не магла перабегчы да вады. Жахліва было глядзець, як тысячы людзей тоўпяцца каля калодзежа, яшчэ страшней было слухаць плач дзяцей, пакуты якіх у тыя дні жнівеньскае сонца рабіла невыноснымі. Калі б віконт пакінуў жыхароў Льё Бурга і Льё Кастэляра, і не даў ім прытулку ў сваёй крэпасці, і не трэба было дзяліць з імі ваду і харчы, прызначаныя войску, ён змог бы вытрымаць асаду да восені. А за гэты час кароль Арагоніі сабраў бы войска, каб уда-

рыць з тылу па разбэшчанай арміі крыжакоў. І Аксітанія, напэўна, была б яшчэ доўгія гады свабоднай...

Не адсутнасць мужнасці і сілы загубіла ў тыя часы Аксітанію. Пагібель гэтай цудоўнай краіны паскорыла літасцівае сэрца віконта. Я думаю гэтак цяпер, але і ў той час, і цяпер я не асуджаю віконта. Права на суд мае толькі бог. Бог даў міласэрнасць чалавеку, каб ён пакутаваў, таму што толькі праз пакуты чалавек можа дайсці да Ісціны, а Ісціна — гэта сам бог. Шлях да бога праходзіць праз пакуты, а раскоша не прыводзіць нікуды. Задаволенаму чалавеку бог не патрэбен. Ён жыве ў раскошы, а раскоша не заахвочвае пошукі бога.

Я сам дайшоў да гэтых ісцін, а падзеі праз усё маё жыццё толькі пацвярджаюць, што я ішоў правільным шляхам. Прыгадаю некаторыя з іх.

У рэдкія гадзіны адпачынку ад баёў я адшукаў чалавека, якому Вучыцель Іосіф перадаў нашы кнігі. Разам з Кнігай ісціны я паклаў іх у скураную торбу. Гэтую торбу я перакінуў цераз плячо і не расставаўся з ёй ні ўдзень, ні ўночы, пакуль ішлі баі за каркасонскую крэпасць.

У тыя дні віконт пазнаёміў мяне з адным з самых сваіх прыбліжаных. Гэтым чалавекам быў конт Раймонд дэ Перэй, муж дасканалай катаркі Корбы і бацька Эсклармонд. Калі мы ўтрох былі разам у адной з залаў крэпасці, віконт загаварыў да мяне:

— Лукіян, прыяцелю мой, вельмі хутка нам давядзецца развітацца. А гэты чалавек, — ён кіўнуў на дэ Перэя, — будзе тваім заступнікам, і ягоны дом будзе тваім домам. Ягоны дом знаходзіцца на поўдні ў гарах, і я спадзяюся, што крыжакі датуль не дойдуць. А каб ты не адчуваў нястачы, я перадам у яго валоданне сяло Манфер'е, з адной умовай: каб прыбыткі, якія будзе прыносіць сяло, былі цалкам твае.

Я пацалаваў руку віконту, а з дэ Перэем мы абняліся. Ён быў крыху маладзейшы за сваю жонку, а норавам вясёлы і таварыскі чалавек.

Арагонскі кароль не быў гатовы да вайны, таму ён змог толькі выступіць пасрэднікам паміж віконтам і крыжакамі, каб заключыць ганаровае перамір'е. Але

абат Арнольд Амары прапанаваў умовы, ведаючы наперад, што для віконта яны непрымальныя, — каб ён пакінуў замак, узяўшы з сабой толькі адзінаццаць душ сваіх блізкіх, і з усяго багацця свайго — толькі тое, што можа панесці з сабой. Віконт засмяяўся: «Аддаць агню і мячу 15 000 душ, і толькі за тое, каб выратаваць сваю скуру і скуру адзінаццаці сваіх блізкіх? Ніколі!»

Баі аднавіліся, але адсутнасць вады і харчу далейшую абарону крэпасці рабілі бессэнсоўнай. Тады Раймон Ражэ Трэнкавел паклікаў мяне, і мы пайшлі ў лагер крыжакоў. У прасторнай палатцы нас прынялі Арнольд Амары, неверскі прынц, бургундскі граф і Сімон дэ Манфор. Віконт спытаўся, што трэба зрабіць, каб не былі знішчаны пятнаццаць тысяч чалавек, уключна і катары, што знаходзяцца ў крэпасці. «Табе застацца ў нас у палоне!» — суха адказаў Арнольд Амары. Віконт адперазаў меч і кінуў яго да ног неверскага прынца.

Перад тым як мне выйсці з палаткі, Сімон дэ Манфор прапанаваў мне перайсці на службу да яго. Пасля паходу ён гатоў быў даць мне вялікі маёнтак і зрабіць мяне сваім першым памочнікам.

Ведаючы, што ён да смерці ненавідзіць катараў, я сказаў яму:

— Ці ведаеце вы, каму робіце прапанову, сеньёр? Я па перакананні катар, інакш кажучы, бугр, як вы пагардліва называеце катараў. Больш таго, сеньёр! Па паходжанні я балгарын, у Балгарыі нарадзіўся. А балгарская багамільская царква ёсць маці вашае катарскае царквы, агонь, які гарыць у вас пад нагамі, сеньёр, прыйшоў з Балгарыі. А вы, напэўна, ведаеце, сеньёр, і тое, што балгары, інакш бугры, пяць гадоў таму назад пры Одрыне білі ваша рыцарскае войска і паланілі самога вашага імператара Балдуіна? Калі вы згодны ўзяць такога чалавека сабе за памочніка, сеньёр, дык калі ласка!

Халодныя светла-шэрыя вочы гэтага чалавека загарэліся агнём, твар у яго скрывіўся ад злосці, рука сціснула пазалочаную крыжападобную ручку мяча, рот яго некалькі разоў адкрыўся і закрыўся, пакуль ён загаварыў:

— Бугр! Калі б цябе не ахоўвала недатыкальнасць дэлегата, я закалоў бы цябе, як кураня, як змяю стаптаў бы нагамі!

— Я абыдуся з вамі акурат гэтаксама, сеньёр, калі

выпадак звядзе нас яшчэ раз! — я засмяяўся яму ў твар, ускочыў на каня і памчаў да крэпасці.

Крыжакі далі нам дзве гадзіны, каб мы пакінулі крэпасць — без рэчаў і зброі. Пасля таго як мінуць гэтыя дзве гадзіны, у іх будуць развязаны рукі, а я ўжо ад Без'е ведаў, што гэта азначае. Жыхары і войска кінуліся праз чатыры вароты ўцякаць, і ў штурханіне каля варот загінула больш людзей, чым у самых лютых сутычках з крыжакамі.

Я і Раймонд дэ Перэй схаваліся ў развалінах Льё Кастэлара. Там дачакаліся ночы. А як крыжакі ўдарыліся ў п'янства і ў іх не стала ніякае пільнасці, мы спусціліся ў адным месцы па зруйнаванай сцяне, выйшлі ў поле, пераплылі рукаў Ода, нарэшце дабраліся да левага берага ракі. Там адпачылі і яшчэ да світання падаліся супраць цячэння ракі, на поўдзень.

У гарадах і сёлах на поўдні вайны яшчэ не адчувалася, сеньёраў ніхто яшчэ з іх уладанняў не праганяў, жыццё ішло спакойна і ціха. У Лімуксе мы купілі коней і праз Квілан і Пуівер выехалі ў горы. На сёмы дзень прыбылі ў замак Раймонда дэ Перэя. Нас сустрэлі Корба, іх дарослая дачка Філіпа і Эсклармонд.

На другі ж дзень мы з Філіпай і Эсклармонд пайшлі ў горы збіраць ажыну. Калі Філіпа ўвіхалася каля якога-небудзь куста, мы з Эсклармонд пахопкам цалаваліся.

О, шчаслівыя дні!

Я зноў заняўся перакладам кніг. Тое, што я паспяваў перакласці, Корба перапісвала і ў сваю чаргу аддавала больш пісьменным катарам, каб яны перапісвалі і размнажалі. Іншы раз мы з Корбай спрачаліся аб Стварэнні. Яна верыла ў Вечнае Зло і даказвала, што толькі на шляху поўнага аскетызму можна дайсці да бога. Я ж трымаўся той думкі, што і паўправеднае, і паўгрэшнае жыццё можа вывесці чалавека да нябеснага Прастола. Філіпа не цікавілася нашымі спрэчкамі, але Эсклармонд і яе бацька заўсёды прымалі мой бок.

О, Эсклармонд, Эсклармонд! Мая душа і кожная часцінка цела імкнуліся да цябе, як матылькі і пчолы летняй парой імкнуцца да духмяных і яркіх кветак! Я з тугою ішоў спаць, бо не ўбачу цябе праз ноч, і з радасцю прачынаўся, што сустрэну цябе і буду бачыць, каб душа мая п'янела ад пагляду тваіх вачэй, ад тваёй

усмешкі, ад чыстай прыгажосці твайго анёльскага тварыку!

Эсклармонд, Эсклармонд...

У ліпені наступнага года катарскі епіскап Жыльбер дэ Кастр паведаміў нам, што крыжакі ўзнавілі свой паход і галоўную сілу скіроўваюць на гарадок Мінерв, які знаходзіўся на поўнач ад шляху Без'е — Каркасон. Гарадок Мінерв быў катарскай крэпасцю, у ім жыло больш за сто душ дасканалых багамілаў. Яго сеньёр, Гіём Мінервскі, быў да смерці аддадзены катарам, а па натуры — адмысловы воін, паляўнічы і весялун. Ці мог я сядзець склаўшы рукі? Ці мог упусціць выпадак зноў сустрэцца з Сімонам дэ Манфорам? Калі быў на свеце чалавек, якога я так моцна хацеў забіць, дык менавіта гэтага ваўка, Сімона дэ Манфора. Гэта ён пасадзіў Трэнкавела ў сутарэнне каркасонскага замка і трымаў там у цемры і смуродзе тры месяцы, пакуль у нечалавечых пакутах ён памёр. Цяпер гэты звер быў сеньёрам Альбі, Каркасона і Без'е. Дробны сеньёрык, які меў пад Парыжам лапік зямлі, цяпер быў гаспадаром паловы Аксітаніі!

Я сабраў дружыну з дваццаці душ рыцараў, заклятых ворагаў Поўначы і адданых сяброў катараў, і мы рушылі да Мінерва. Калі развітваліся з Эсклармонд, абое ледзь стрымалі слёзы. Эсклармонд, любая мая! Я кахаў цябе ўсёй душой, але мая нянавісць да крыжакоў і да забойцы Трэнкавела была, аказваецца, мацнейшае за каханне да цябе!

Мінерв быў добра ўмацаваны горад. Каб зламаць яго супраціўленне, крыжакі падцягнулі ўсе свае каменекідальныя і сценабітныя машыны. На невялікі гарадок абрынуўся град камянёў. Не засталося цэлага дома. Урэшце Мінерв капітуліраваў ганарова, і не таму, што крыжакам удалося прарвацца ў горад, а з-за смагі — паўтаралася гісторыя з Каркасонам. Сто дваццаць душ дасканалых катараў — пішу гэта словам, а не лічбай ад пашаны да памяці гэтых годных людзей, — сто дваццаць катараў палічылі за лепшае пайсці ў агонь, чым адмовіцца ад веры сваёй.

З Сімонам дэ Манфорам не ўдалося мне скрыжаваць мячы — гэты воўк вастрыў зубы на Тулузу, збіраў войскі ў паход на заходнюю сталіцу катараў.

Увесь наступны 1211 год я са сваімі людзьмі снаваў удоўж і ўпоперак па паўночнай Аксітаніі, памагаючы

абаронцам гарадоў, на якія напалі крыжакі, і ў горы Раймонда дэ Перэя не вярнуўся. Біліся мы пры Тэрме, Кабарэ, Лавуры. Нямала крыжакоў адправіў я ў пекла, да д'яблаў, але з Сімонам дэ Манфорам сустрэцца не давялося.

У канцы года вырашыў быў вярнуцца ў горы, але ці то ад стомы, ці ад частых сустрэч з катарскай ліхой доляй у душу маю нахлынуў смутак, азвалася і маё сумленне. Што я быў за чалавек? Захоплены баямі з крыжакамі, закаханы ў Эсклармонд, я зусім забыўся на тую няшчасную істоту, з якой звязаў мяне сляпы выпадак і якая стала мне жонкай. Як быццам і не было на свеце ніякае Марыі, а яна ж недзе была і, напэўна, дзень і ноч думала пра мяне і, можа, якраз цяпер паглядвала ў двор, з надзеяй у сэрцы — ці не вяртаюся я нарэшце з далёкай дарогі?

Мая сувязь з Марыяй была вынікам спагады і жадання плоці. Пра каханне тут і гаворкі быць не можа. Але яна была мая жонка, і я паводзіў сябе подла ў адносінах да Эсклармонд; я ашукваў яе, не задумваючыся, таму што пакуль была на свеце Марыя, яна не магла стаць мне жонкай.

Да Генуі я даплыў морам, а з Генуі да Канкарэца дабіраўся на конях. У Ламбардыі мяне заспела зіма, я прастудзіўся і два тыдні валяўся ў адным заезным доме, пакуль зноў не стаў на ногі. У Канкарэца прыехаў у пачатку лютага. Марыя, нарадзіўшы мне сына, памерла ад радзільнай гарачкі. Беатрычэ няньчыла і даглядала мне сына, як другая маці.

Я ўжо думаў не вяртацца ў Аксітанію і паступіў на службу афіцэрам у войска міланскага дука. Я быў побач з сынам, сэрца маё адтавала, калі я чуў, як ён лепеча: «Татка, татка!»

У сярэдзіне жніўня 1213 года ў Мілан даляцела чутка: арагонскі кароль аб'явіў вайну Сімону дэ Манфору! Аксітанія паўстала! Доўга не думаючы, я наняў коней і зноў памчаў знаёмымі мне шляхамі.

У пачатку верасня я дабраўся да лагера войск Тулузы, якія ўзначальваў сеньёр горада Раймонд VI. Я адразу знайшоў прыяцеляў па ўдзеле ў бітвах пад Каркасонам і Мінерве, якія мяне адрэкамендавалі віконту горада Фуа Раймонду Ражэ і яго сыну Бернару Ражэ. Абодва яны былі выдатныя рыцары, прыяцелі нябожчыка Трэнкавела і заклятыя ворагі крыжакоў і Сімона.

дэ Манфора. Левым крылом саюзніцкага войска камандаваў арагонскі кароль П'ер II, малады і смелы чалавек; пра яго расказвалі, што ён вельмі самаўпэўнены і безразважна харобры. Войска крыжакоў намнога саступала па колькасці саюзніцкаму войску, і яно, у чаканні падмацаванняў ад Сімона дэ Манфора, зачынілася ў горадзе Мюры.

Бітву пры Мюры мы прайгралі з-за глупства. Арагонскі кароль і ягоныя іспанцы прапаноўвалі ўдарыць па Мюры 11 верасня, пакуль не падаспела войска Манфора. А Раймонд VI гэты нерашучы чалавек, адмовіўся — настояў на сваім плане: вычакаць, пакуль крыжакі самі нападуць, а як нас больш — мы іх акружым і знішчым. Але ў ноч з 11 на 12 верасня крыжакі, адолеўшы балоты, што ўтварыліся ад разліваў рэк Гарона і Арыеж, неспадзявана напалі на іспанцаў, урэзаліся ў іх лагер і пачалі пагалоўную сечу. Кароль арагонскі быў забіты яшчэ ў пачатку бою. У той час, як крыжакі з Мюра збівалі іспанцаў, наш левы фланг акружылі войскі Манфора, якія раптам з'явіліся на полі бою. Раймонд VI, сеньёры з Фуа і я ледзьве змаглі вырвацца з акружэння і ўцячы шляхам на Тулузу. На раўніне пад Мюрам мы пакінулі 15 000 трупаў.

У Тулузе я заставаўся каля месяца, пакуль не падлячыў рану — пад правую лапатку мне трапіла страла. Калі я паправіўся, Раймонд VI падараваў мне цудоўнага каня, бліскучую зброю і каліту, поўную золата. Падумаў быў адмовіцца ад золата, але як ужо вырашыў ажаніцца з Эсклармонд, прыняў яго з удзячнасцю.

Я прыляцеў у замак дэ Перэя згараючы ад жадання бачыць Эсклармонд, абняць яе і назваць сваёю жонкаю. Але там мне як гром грымнуў з яснага неба: Эсклармонд з'явілася перада мной у шырокай белай валасяніцы, пабляднелая, маркотная, са спалоханымі і збянтэжанымі вачамі, у якіх была і бязмежная віна, і бязмежная просьба. Яна стаяла з апушчанымі рукамі, цяжка дыхала і не рашалася наблізіцца да мяне.

— Чаго вы здзіўляецеся, сеньёр! — строгім голасам у дакор мне сказала Корба. — Гэтага вы павінны былі чакаць і жадаць! Ці ж вы самі па душы не катар і не абяцалі богу служыць ісціннай веры? Павіншуйце Эсклармонд, ужо месяц, як яна пахрышчана катаркай!

Я прыклаў руку да сэрца і глыбока пакланіўся Эсклармонд, а на Корбу паглядзеў так, як глядзеў бы на

Сімона дэ Манфора, калі б ён раптам з'явіўся перада мною. Але і яе пагляд не быў анёльскі — у яе вачах чыталася зларадиасць і нейкая дзікунская радасць.

Раймонд дэ Перэй запрасіў мяне ў свой пакой, наліў у глыбокія чашы віна — мне і сабе. Моўчкі пілі нейкі час, потым Раймонд загаварыў да мяне:

— Я не быў з г э т ы м згодзен, сеньёр, але як ты запярэчыш Корбе? Вы ведаеце, сеньёр, якая ўладарная жанчына Корба. Два месяцы назад выдалі замуж Філіпу за П'ера Ражэ з Мірпуа. І Філіпа з мужам паехала ў Мірпуа. Ці то ад боязі, што і Эсклармонд вы слізне ў яе з рук, яна настояла, каб пахрысціць яе. А можа, яна зрабіла гэта, каб Эсклармонд жыла праведна, і тым самым забяспечыць яе душы месца ў раі?

— Катары ж маюць сем'і! — запярэчыў я. — Што перашкаджае нам з Эсклармонд павянчацца па-катарску?

— О, сеньёр! — адхіснуўся Раймонд дэ Перэй. — Выкіньце гэту думку з галавы, прынамсі, на год-два! Вы не ведаеце Корбы!

Я выпіў яшчэ адну чашу віна, потым выйшаў з замка, спыніўся на нейкай паляне, лёг на зямлю і заплакаў.

Быў канец восені. З хмарнага шэрага неба ціха закапаў дождж.

Недзе каля года я заставаўся ў замку. Гэта быў час невыносных пакут і для мяне, і для Эсклармонд. Нарэшце я не вытрымаў — выбраўся ў Генную.

У Мілане зноў паступіў на службу ў войска. Беатрычэ ахрысціла майго сына імем Марыо — імем яго няшчаснай маці.

А на ўсё маё астатняе жыццё лёг цень — воблака засланіла мне сонца, і ў душы маёй стала прыцемна, як у дні позняй восені.

У гэтых прыцемках жыву я па сённяшні дзень.

Калі ў 1218 годзе Тулуза зноў узняла сцяг свабоды і Сімон дэ Манфор рушыў на яе, я ўзяў водпуск і ў пачатку чэрвеня прыбыў у Тулузу. Раймонд VI сустрэў мяне сардэчна, як брата, даў мне атрад з ста душ смелых воінаў, у большасці з катараў, і даручыў ахоўваць усходнія вароты крэпасці — супраць гэтых варот Сімон дэ Манфор скіроўваў самыя жорсткія атакі. 25 чэрвеня, калі Манфор зноў пачаў штурм крэпасці, я вывеў сваіх людзей, пастроіў іх чатырохкутнікам і пайшоў яму на-

сустрач. Гэты ўладалюбівы і прагны чалавек адразу мяне заўважыў — прышпорыў каня і паляцеў мне насустрач. Кроў у мяне закіпела, свет пачырванеў у мяне ў вачах, я выхапіў меч і з крыкам: «Тулуза, Тулуза!» — таксама памчаў на яго. І ў той момант, калі нас раздзяляла нейкіх дваццаць крокаў, з каменекідальнай машыны, прыладжанай над варотамі, якую абслугоўвалі чатыры жанчыны, вылецеў камень — і гэты камень, прасвістаўшы ў паветры, гвазднуў яму ў жалезны шлем. Камень разбіў яму галаву, і ён імгненна асунуўся з каня.

Гэтак лёс пазбавіў мяне вялікага задавальнення. Калі б мне ўдалося ссекчы гэтага чалавека, цень, які ляжаў на маёй душы, магчыма, рассеяўся б, і я, можа, выйшаў бы на святло.

Вяртаючыся ў Ламбардыю, я заехаўся ў замак Раймонда дэ Перэя. Нейкая надзея цеплілася ў маім сэрцы, але калі я сустрэў Эсклармонд, яна пагасла, нібы на ветры свечка. На грудзях яе белай валасяніцы была вышыта зялёнымі ніткамі хваёвая галінка. Гэта галінка азначала, што Эсклармонд пахрысцілі ўжо ў д а с к а н а л ы я. На яе бледным твары тужліва гарэлі вялікія сінія вочы. Божа мой, цяпер я не мог ужо дакрануцца да яе рукою!

Я пабыў у замку яшчэ каля месяца. Кожны дзень хадзіў у горы збіраць суніцы і маліны. Эсклармонд цяпер ела толькі садавіну, гародніну, хлеб і пакрыху мёду. Час яна бавіла свой вяжучы дзецям бяднейшых катараў адзежкі альбо хадзіла ў бліжэйшыя сёлы прапаведаваць і спраўляць абрады. Мы пазбягалі заставацца адны, сам-насам. А калі такое здаралася, яна схіляла сваю анёльскую галоўку над вязаннем, хутка варушыла пруткамі і маўчала. А калі падыме раптам галаву, тады нашы вочы адразу сустракаюцца. Яе пагляд быў поўны ціхай тугі і ціхай любові, яе вочы прасілі, каб я не перажываў і не злаваўся. Але зрэдку ў іх глыбіні ўспыхвалі ранейшыя, знаёмыя мне агеньчыкі, і тады чырвань залівала ўвесь яе тварык, ажно да шыі.

Міналі гады. Калі Марыо споўнілася семнаццаць гадоў, Беатрычэ адправіла яго ў Балонью вывучаць лацінскую мову і юрыдычныя навукі. У Балоны незадоўга да таго якраз адкрылі першую студэнцкую школу ў Італіі. Я ў той час узначальваў у Мілане вялікую вайско-

вую часць, але кожны год летам наведваў Эсклармонд. Аднаго разу, на вялікае незадавальненне сваёй маці, на развітанне яна падаравала мне шарсцяную блузу, якую ўпотай звязала з сіняй пражы. Колерам тая блуза нагадвала колер яе вачэй. Я глядзеў на яе, як глядзяць на святыню. Кладучыся спаць, браў да сябе на падушку, прытульваўся шчакой да мяккай тканіны і заплюшчваў вочы. Успаміны адносілі мяне ў Пуівер, у той час, калі наўкола нас з ёю гучалі песні і смех.

Гады ішлі. Марыо закончыў Балонскі універсітэт, і дук Мілана прызначыў яго сваім саветнікам. За год да сваёй смерці маркіз Канкарэца адпісаў яму ў спадчыну свой маёнтак. Бэатрычэ, як большасць катарак у Ламбардыі, не была аскетычнай, яна трымалася вальней за сваіх аксітанскіх сясцёр, таму я, самотнік, знаходзіў у яе разуменне і ў даверлівай размове з ёю праводзіў доўгія гадзіны.

У красавіку 1242 года Раймонд VII, сын майго прыяцеля, нябожчыка Раймонда VI, паўстаў супраць каралеўскай улады і ўвайшоў у Тулузу як вызваліцель. Узнялася ўся Аксітанія. Муж Філіпы, П'ер Ражэ з Мірпуа, пакарыстаўшыся смутным часам, з групай абеззямеленых рыцараў прыходзіць у горад Авіньянет напярэдадні вялікага працэсу супраць катараў і забівае галоўнага інквізітара Гіёма Арно. Людовік IX выкарыстоўвае гэта забойства як падставу для таго, каб раз і назаўсёды расправіцца з аксітанскімі бунтаўнікамі і прыхільнікамі Раймонда VII. Начальнікам карнага войска ён прызначае каркасонскага сенешала Юга дэ з'Арсі. І ў пачатку чэрвеня 1244 года дзесяцітысячная армія адпраўляецца да гары Мансегюр. На непрыступных скалах гэтай гары Раймонд дэ Перэй узвёў моцную крэпасць, дзе знайшлі прытулак 209 катараў, у тым ліку Корба, Эсклармонд і катарскі епіскам Бертран Мартэн. Сюды прыйшлі і П'ер Ражэ з Мірпуа, яго жонка Філіпа і некалькі іншых вяльможаў, а таксама каля сотні паўстаўшых супраць караля беззямельных рыцараў.

У канцы чэрвеня, апярэдзіўшы каралеўскае войска ўсяго на некалькі дзён, прыбыў сюды і я.

Не буду апісваць дзесяцімесячнай асады Мансегюра, таму што гэта звыш маіх сіл, сэрца маё яшчэ крывавіць. Дзесяць месяцаў сто смелых мужчын адбівалі атакі каралеўскага войска. Магчыма, мы маглі б вытрымаць яшчэ некалькі месяцаў, калі б нарбонскі ўладыка П'ер

Аміель не выставіў супраць нас гіганцкай каменекідальнай машыны, якая дзень і ноч біла паўднёва-ўсходні вугал крапасных сцен і сеяла смерць у самой крэпасці. У лютым група іспанскіх альпіністаў, выкліканых Югам дэ з'Арсі, авалодала паўднёвым аванпостам нашай абароны. Мы аказаліся адрэзанымі з усіх бакоў, каралеўскія воіны дабраліся да самых варот крэпасці. Супраціўленне ўжо не мела сэнсу, з яе абаронцаў засталося ледзьве сорак чалавек. Юг дэ з'Арсі прапанаваў ганаровую капітуляцыю, і Раймонд дэ Перэй паслаў свайго зяця П'ера Ражэ з Мірпуа на перагаворы. Умовы былі тыя самыя, што я памятаў з часоў асады Мінерва: вяльможы і рыцары могуць свабодна пакінуць крэпасць; катары, якія не адмовяцца ад сваёй веры і не падпішуць дэкларацыі, будуць спалены на кастры. Юг дэ з'Арсі шчодра даў нам на роздум пятнаццаць дзён.

На трэці дзень пасля падпісання ганаровай капітуляцыі я папрасіў Эскламонд, каб яна пашыла тры скураныя торбы. Атрымаўшы торбы, я паклаў у іх нашы свяшчэнныя кнігі, выбраў трох маладзейшых і крапчэйшых катараў і ўночы патаемна спусціў іх са скалы ўніз. Кнігі, якія заключалі ў сабе наша святло, трэба было выратаваць ад агню, каб маглі яны раздаваць святло жывым і паказваць ім шлях да бога.

Чатырнаццаць сутак, дзень і ноч, дасканалыя маліліся богу. На пачатку пятнаццатага дня Бертран Мартэн сказаў ім:

— Ніхто з вас не абавязаны ісці ў агонь. Кожны з вас можа адмовіцца ад веры і такім чынам пазбегнуць пакутаў смерці. Але тыя, хто пойдзе ў агонь, каб ведалі, што іх пакуты ў агні будуць доўжыцца імгненні, а потым душы іх узнясуцца да Айца!

І астатнюю ноч амаль без перапынку дасканалыя маліліся богу.

Незадоўга да апоўначы Эскламонд дакранулася да мяне рукою і кіўком паказала выйсці за ёю на двор. Была ціхая, халодная ноч, дзьмуў сцюдзёны вецер, а на небе залатым бляскам гарэла безліч зорак.

— Нам трэба расстацца! — прашаптала Эскламонд. — Заўтра я пайду на касцёр, а ты ідзі ў Ламбардыю. Жадаю табе шчасця, дарагі Лукіян! І хоць успомні пра мяне калі-небудзь!

— О, Эскламонд! — адказаў я. — Няўжо ты дапускаеш думку, што я не хачу выратаваць сваю грэш-

ную душу? Няўжо думаеш, што я прапушчу выпадак, каб полымем ачысціць сваю душу ад грахоў?

— Лукіян, Лукіян, не гавары так! — са слязамі сказала Эсклармонд. — Ты не павінен ісці ў агонь! Ты павінен жыць! Падумай пра сына, пра Беатрычэ, якая выгадавала яго, а цяпер адна-адзінюткая на гэтым свеце! Ты павінен жыць, Лукіян! Я не хачу, каб ты паміраў, каб гарэў у агні!

Яна апусцілася мне ў ногі, абняла іх і горка заплакала.

Я падняў яе, і толькі адзін бог ведае, як стрымаўся, каб не абняць яе і не зліць свае вусны з ейнымі, увабраць у сябе яе пах — тое, пра што марыў усё жыццё. Але ж яна была дасканалая, і я не пасмеў апаганіць чысціню яе душы ўсяго за некалькі гадзін да таго, як яна з'явіцца перад нябесным Прастолам!

— Эсклармонд, — кажу, — як ты думаеш пра ўратаванне душы сваёй, так і я пра ўратаванне сваёй. Акрамя таго, як бы я жыў далей без цябе? Хіба я дараваў бы сабе ганьбу, што ты пайшла ў агонь адна, без мяне?

Яна памаўчала, і я адчуў, што ў гэтыя імгненні і ў яе з'явілася неадольнае жаданне прыгарнуцца да мяне, што нядаўна перажыў я сам. Але яна авалодала сабой, праглынула слёзы і паківала галавой.

— Ты не прыняў хрышчэння ў Святога Духа! — сказала яна. — І месца тваё не сярод нас!

Яна павярнулася і пайшла.

На світанні крапасныя вароты расчыніліся і праз іх выйшлі рыцары Раймонд дэ Перэй, П'ер Ражэ з Мірпуа з жонкай Філіпай. Выйшлі і астатнія вяльможы. Засталіся 209 душ дасканалых, разам з імі Корба і яе дачка Эсклармонд. Застаўся і я.

Бертран Мартэн выйшаў наперад і павёў нас.

Я ішоў поруч з Эсклармонд. Яна ўжо не ўгаворвала мяне заставацца жыць, яе вочы глядзелі на мяне са шчаслівай усмешкай, яе твар свяціўся добрым і чыстым святлом.

Пакуль мы спускаліся крутым схілам, я падтрымліваў яе, трымаў за руку. Гэта было не ў звычаі, але яна не пярэчыла, абапіралася на маю руку, і калі нашы погляды сустракаліся, яе вочы ўсміхаліся мне гэтаксама, як многа, многа часу таму назад у Пуіверы.

Воіны караля падрыхтавалі ўжо велізарны касцёр. Спакойна, без вагання ўсе нашы занялі месца на пад-

раўняным галлі і ламаччы. Мы з Эсклармонд сталі ў першым шэрагу, з левага краю.

Каты, якіх было дзесяць душ, запалілі прасмоленыя факелы, наблізіліся да кастра і пасталі, гатовыя паднесці агонь да куч сухога галля, наскіданых каля кастра.

У гэту хвіліну з шэрагаў войска, выстраенага насупраць нас, выехаў вярхом на белым кані Юг дэ з'Арсі. Ён пачаў аб'язджаць касцёр справа налева і з насупленым тварам аглядваў асуджаных. Калі яго вочы спыніліся на мне, ён уздрыгнуў і, здаецца, адхіснуўся ў сядле назад, быццам хто штурхнуў яго ў грудзі. Нейкі час ён глядзеў на мяне ўтароплена, а я паціснуў плячамі і ўсміхнуўся.

Юг дэ з'Арсі павярнуў каня, прышпорыў яго і паскакаў да войска. Каты паднеслі факелы да сухой падпалкі. Узвіліся языкі полымя, а ўсе, хто быў на кастры, урачыста заспявалі Veni creator Spiritus!

Гарачы дух і едкі дым сцялі нам дыханне. Я сціснуў руку Эсклармонд і нахіліўся да вуха — хацеў сказаць: «Я кахаю цябе, Эсклармонд!»—але ў гэтае імгненне падскочылі два каты, схапілі мяне пад рукі і некуды пацягнулі. Я паспрабаваў вырвацца з іх рук, але адзін з іх ударыў мяне па галаве, і я страціў прытомнасць.

Калі я апрытомнеў, то ўбачыў, што ляжу на нейкай паляне. Вартавалі мяне два воіны. За лесам да неба ўздымаліся густыя клубы дыму.

Адзін з воінаў наблізіўся да мяне і сказаў:

— Сенешал загадаў вымятацца адсюль неадкладна, і каб праз два дні не было вас у Аксітаніі!

І падаўся я ў Манфер'е. Калі падыходзіў да сяла, мне стала блага, я сеў каля дарогі адпачыць. Праязджаў чалавек на фурманцы, змілаваўся і падвёз. Гэта быў Жэральд-Бернар.

У Ламбардыі пражыў я чатырнаццаць гадоў. Беатрычэ памерла, уся маёмасць маркіза перайшла ў спадчыну да Марыо. У душы Марыо заўзяты багаміл. Але багаміл ён не такі, як я, як усе мы былі з Мансегюра. Ён багаміл асаблівы. Смеючыся і паляпваючы ласкава мяне па плячы, ён часта казаў:

— Ваша багамільства, татка, адыходзіць, канае яно. Каралеўскую армію і царкву нельга перамагчы пакор-

лівасцю і самаадмаўленнем ад даброт жыцця. Мы пераможам царкву, толькі ачалавечыўшы яе, зрабіўшы яе прыяцелькай для людзей. А калі яна стане людзям прыяцелькай, яны знойдуць спосаб, як яе пераўтварыць!

У гэтыя словы я не верыў, не веру і цяпер. Але як яны закінулі мне ў душу нейкае сумненне, я рушыў у дарогу, каб зноў пабачыць Мансегюр.

Заканчваю. Гэты рукапіс пакіну ў Бернаравых, каб калі-небудзь людзі даведаліся, як мы жылі, якія ў нас былі мары і да якіх сумненняў дайшлі ў сваім жыцці. Людзі заўсёды будуць шукаць ісціну, але ці зразумеюць яны калі, што самім гэтым пошукам яны зносяцца з богам?

Дажджыць, дажджыць. Хмары закрылі Мансегюр. Бывай, Эсклармонд!

## ЭПІЛОГ ДРУГІ

Сафія, напярэдадні 1961 года. У нашым старым доме ў Лазянцы.

...У тую навагоднюю ноч, калі Мары загінула, ратуючы мяне ад гестапаўскай кулі, я пад дзень ужо дабраўся да П'ера Гашэ. Ён не клаўся, сядзеў на сваім ложку апрануты, пакой патанаў у шызым тытунёвым дыме.

Я знясілена апусціўся на ложак Мары, я не меў сілы нават выняць сваю люльку. І ці то ад едкага дыму з цыгарэт, якіх П'ер Гашэ выкурыў мез меры, ці то ад гора, якое выядала маё сэрца, у вачах у мяне зашчыпала, і я закрыў іх рукамі.

Так мы сядзелі і маўчалі некаторы час абодва.

Потым П'ер Гашэ ціха спытаўся:

— Дзе Мары?

— Няма больш Мары, — адказаў я. — Яе забілі напроці луўрскага прычала.

П'ер Гашэ выпрастаўся, не, ён амаль падскочыў, быццам хацеў кінуцца на мяне.

— Ты ўпэўнены? А можа, яна толькі цяжка паранена?

— Куля прабіла ёй галаву з патыліцы, — сказаў я. — Я пакінуў яе без пульсу.

П'ер Гашэ як падкошаны паваліўся на ложак, абхапіў галаву рукамі і захліпаў:

— Божа мой, божа мой!

— Гэта здарылася праз дзесяць хвілін, як мы ўзнялі «Жанціёма» ў паветра, — сказаў я.

— Сто «Жанціёмаў» не варты яе! — ударыў кулаком па стале П'ер Гашэ. — Ці ведаеце вы, якая Мары была жанчына? Яна была святая!

Потым ён дастаў з-пад падушкі пляскатую бутэльку са смокваваі ракіяй, зліў некалькі кропель на падлогу, шэпчучы: «Хай будзе табе вечная памяць, мілая Мары!» — і адпіў некалькі вялікіх глыткоў.

Гэта самае зрабіў і я, толькі рука мая дрыжала, і на падлогу вылілася многа кропель.

— Хай будзе табе вечная памяць, дарагая Мары! — прамовіў я. І зноў у вачах у мяне зашчыпала.

У П'ера Гашэ я жыў да жніўня. Разам з французскімі таварышамі прымаў удзел у небяспечных акцыях, забіў двух гестапаўскіх афіцэраў, узняў у паветра на станцыі Сен Лазар цягнік. Я знарок правакаваў смерць, але яна толькі праходзіла побач і не кранала мяне.

Неўзабаве пасля вызвалення Парыжа мяне знайшоў Люсьен і паведаміў пра антыфашысцкае паўстанне ў Балгарыі, пра ўступленне Чырвонай Арміі і пра тое, што ўладу ўзяў Айчынны фронт. І параіў неадкладна вярнуцца на радзіму.

Ніхто не ведаў, дзе Мары пахавана, я не меў магчымасці развітацца з ёй, таму перад ад'ездам пайшоў у Жардэн Цюэльры і пасядзеў на лаўцы каля возера, дзе мы летась сядзелі з ёй разам, пасля нашай сустрэчы пад калонаю Вандом. Быў ласкавы вераснёўскі вечар, у павялай і пажоўклай лістоце дрэў ціха шапацеў вецер, ад луўрскага прычала часам далятаді сіплыя сігналы караблікаў, якія плылі па Сене.

Потым адправіўся да станцыі Трынітэ і пасля нядоўгага блукання знайшоў тую самую ўстанову, дзе ў жніўні 39-га года мы з Мары правялі цудоўную і незабыўную гадзіну. Спусціўся ў бар; на маё шчасце, столік, які даў тады нам прытулак, не быў заняты. Нішто не змянілася ў тым бары! Тыя ж разнаколерныя кітайскія ліхтарыкі, той жа струнны аркестр, толькі, напэўна, людзі былі іншыя. І тое ж папярэджанне над танцпляцоўкай: да адзінаццаці гадзін аркестр іграе толькі класічныя вальсы!

Заказаў смоквавай ракіі, кілішак віскі і дзве порцыі закускі. Віскі і адну закуску паставіў насупроць сябе, дзе сядзела Мары.

— Будзь здарова, мілая! — пажадаў я Мары і глынуў ракіі.

Мары міла ўсміхнулася і паднесла кілішак з віскі да вуснаў. Яе носік смешна зморшчыўся — да таго яна віскі ніколі не піла.

— За перамогу, дарагая! — падбадзёрыў я яе.

І дапіў сваю ракію. Заказаў яшчэ чарку ракіі, усунуў кельнеру ў руку грошы, каб ён папрасіў дырыжора сыграць вальс «Les patineurs» Эміля Вальдтойфеля.

Дырыжор усміхнуўся мне па-прыяцельску і з разуменнем — як могуць усміхацца толькі французскія артысты. І лёгка ўзняў дырыжорскі пруток.

— Прашу, мілая! — пакланіўся я Мары.

Мы выйшлі на танцпляцоўку. Я паклаў руку на талію Мары, і нас панеслі хвалі вальса — панеслі ў нейкае бязмежжа з сіняга святла.

— Ці шчаслівая ты? — спытаўся я ў Мары.

Яна ўсміхнулася, але я заўважыў, што ўсмешка яе тужлівая.

— Ці ты не марыла, каб мы з табой танцавалі бясконца?

— Бясконца! — адказала яна і схіліла галаву мне на плячо. — Без канца! — прашаптала яна.

Так я развітаўся з Парыжам, які святкаваў перамогу. І з Мары.

У Сафію я прыехаў у канцы верасня. Соня доўга плакала ў мяне на грудзях, а васемнаццацігадовы ўжо Лука глядзеў на мяне дзёрзка і, немаведама чаму, з нейкай крыўдай у вачах. Можа, што не прывёз яму падарунка. Ён вельмі выцягнуўся і выглядаў старэйшым за свае гады. Потым Соня раптам успомніла, што ёй трэба на сход, таропка апранулася і пайшла.

Вечарам Луку мы адправілі спаць у кабінет, а самі леглі ў спальні. Гэта была наша апошняя ўзаемная ноч. Абое мы незваротна аддаліліся адно ад аднаго.

Пасля таго вечара я ўжо заўсёды клаўся спаць у кабінеце, а Лука спаў у пакоі мацеры. А калі ён падрос яшчэ, мы пасялілі яго ў мансардным пакоі. І ўжо ні я не заходзіў у Соніну спальню — некалі нашу агуль-

ную, — ні яна каб калі адчыніла дзверы майго кабінета. Так і пайшло наша жыццё.

Потым я быў на фронце.

Калі скончылася вайна, я ўладкаваўся на працу ў Аляксандраўскую бальніцу, якая пазней стала бальніцай пры Медыцынскай акадэміі. Мяне прызначылі загадчыкам кабінета па вочнай хірургіі. Рэвалюцыя віравала ва ўсіх куточках жыцця, я не заўважаў, як ляціць час.

Восенню 46-га года хтосьці пацікавіўся маёй асабістай партыйнай справай. Мяне выклікалі ў гарадскі камітэт, каб даведацца, як і чаму ў пачатку 1943 года я выехаў у Францыю. Я растлумачыў, што выехаў паводле ўказання адваката Ізмірліева і што не хто іншы, як ён, арганізаваў мой ад'езд. «Але адвакат Ізмірлieў мёртвы! — адказалі мне. — Яго забілі фашысты! Ён не можа засведчыць. Назавіце другога чалавека!» — «З Ваенным аддзелам я трымаў сувязь праз Ізмірліева, — сказаў я. — Больш ні з кім я справы не меў!» Успомніў быў пра Сашо, але ж і яго застрэлілі. «Больш ні з кім справы не меў!» — паўтарыў. «Ну, добра, дапусцім, што вы спалохаліся правалу ў трэцяй роце і таму выехалі ў Францыю. Але што вы там рабілі да верасня 1944 года?» — «Удзельнічаў у французскім Супраціўленні, — адказаў я. — Быў актыўным членам дыверсійнай групы!» — «Цудоўна, але хто пацвердзіць гэта? Ці ёсць у вас сведкі?» Я паціснуў плячамі. «Быў там адзін Люсьен, — кажу. — Балгарын. Ён і звязаў мяне з французскімі таварышамі». — «Мы не ведаем ніякага Люсьена. Нашы таварышы, якія вярнуліся з Парыжа, вас не ведаюць, не сустракалі вас там і нават не чулі. Што скажаце?» — «Нічога не магу сказаць!» — уздыхнуў я. «Ну, добра, — усміхнуліся мне і паківалі галовамі. — Мы ведаем, што вы былі добрым інтэрбрыгаднікам, таму не будзем капацца ў правале ў трэцяй роце, не будзем ставіць пытання ні пра тое, як папаўся фельдфебель-курсант Асен, ні пра смерць Сашо. Калі б мы пачалі раскопваць усё гэта, то, чаго добрага, давялося б вас аддаваць пад суд. Таму абмяжуемся толькі пытаннем аб Францыі. Пакуль не дакажаце, што вас пасылалі туды па партыйнай лініі і што вы ўдзельнічалі ў французскім Супраціўленні, згадзіцеся, вам няма месца ў партыі! Дэзерцірам у партыі месца няма. Калі дакажа-

це, што вы не дэзерцір, мы з дарагой душой адновім ваша членства ў партыі!»

Даведаўшыся, што мяне выключылі, Соня заплакала, і яе слёзы вельмі кранулі мяне.

— Я пайду скажу ім, — казала, усхліпваючы, яна, — што Ізмірліеў папрасіў у мяне тваю фотакартку і што гэта было ў першай палове студзеня 43-га года! Фотакартка патрэбна была яму, каб зрабіць табе пашпарт!

Соня не спала са мной, але засталася мне сяброўкай. Я пацалаваў ёй руку і пагладзіў па валасах.

— Няма сэнсу, — сказаў я. — Яны скажуць, што ён папрасіў фотаздымак для свайго альбома. Як ты пераканаеш іх, што здымак быў патрэбен менавіта для пашпарта?

Так у маім жыцці настала глыбокая восень, якая доўжылася дзесяць гадоў. Уцякаючы ад самога сябе, я напісаў кнігу па вочнай хірургіі, абараніў дысертацыю і стаў дацэнтам. Чытаў студэнтам лекцыі, вучыў іх хірургічнаму майстэрству. Публікаваў артыкулы ў часопісах, якія выдаюцца за мяжой, напісаў яшчэ адну кнігу і ў 56-м годзе стаў прафесарам. Лука ўжо другі год вывучаў медыцыну, і калі я глядзеў, як ён крочыць у навукі, душа ў мяне поўнілася задавальненнем — ён павінен пайсці намнога далей за мяне.

А ў маім жыцці, хоць я меў немалыя поспехі, не было сонца. Я радаваўся пераменам, прагрэсу, які заўважаўся ў грамадскіх справах, вітаў новыя пакаленні людзей, але гэтая радасць не грэла сэрца — там сядзела вострая стрэмка, і рана балела. У 55-м годзе яно забалела і фізічна — я перанёс інфаркт.

За гэтыя гады ў мяне змяніліся многія звычкі — увосень жа чалавек не такі, як улетку, напрыклад, ці тым больш вясной. Вясной, калі цвітуць сады, ён трымаецца так, і зусім інакш — калі з набрынялага вадой неба лье халодны дождж і паветра ў парку патыхае гніллю. Позняй восенню кожны чалавек скурчваецца, пачынае абмяжоўваць свае прагулкі, болей ці меней замыкаецца ў сабе, памяншае кола людзей, з якімі знаецца. Гэта здарылася і са мной. З дому я ішоў ва універсітэт, з універсітэта — у бальніцу, з бальніцы — дадому. Альбо наадварот. І так кожнага дня. У хаце — некалькі ветлівых слоў да Соні, кароткая размова з Лукой па якім-небудзь пытанні медыцыны, а потым — у кабінеце з кнігамі, адзін, да поўначы.

У тыя гады, як гэта ні выглядае неверагодна, у парк я хадзіў усяго некалькі разоў і заўсёды вяртаўся адтуль расстроены. А калі клаўся спаць — заплюшчваў вочы і не дапускаў у душу ніякіх успамінаў: ні з маладосці, ні з Іспаніі, ні з Парыжа.

Але аднаго разу маем 1957 года, я быў якраз ва універсітэце, у дзверы маёй канцылярыі пастукаліся, і не паспеў я адказаць «калі ласка», як дзверы адчыніліся і перада мной паўстаў... Люсьен.

Цяпер настаў іншы час, красавіцкі вецер[1] сагнаў з твараў людзей недавер'е, развеяў падазронасць у вачах, нікому і ў голаў не прыходзіць патрабаваць з мяне адказнасці за правал у трэцяй роце альбо за смерць Сашо. Усе ў гарадскім камітэце з самай жывой цікавасцю выслухалі расказ Люсьена, а потым першы сакратар закашляўся, праслязіўся і, каб прыкрыць сваю збянтэжанасць, выправіў адну з інструктарак купіць каньяку. О, часіна! Ён разліў каньяк у кафейныя кубачкі, таму што гарком на той час яшчэ не забяспечыў сябе адпаведным посудам, прыгарнуў мяне і папрасіў забыцца, калі магу, на памылку тых хлопцаў, якія перастараліся. А потым запрасіў зайсці ў камітэт у які-небудзь з наступных дзён, каб атрымаць назад свой партбілет. Усе мяне абдымалі, а я Люсьена пацалаваў.

Соня зноў паплакала, на гэты раз ад шчасця, а Лука сказаў, што тыя тыпы, якія ў свой час займаліся мною, заслугоўваюць кулака ў морду, і калі каторы сустрэнецца яму, ён так і зробіць. У Лукі быў сардэчны нораў, але як фізічна развіўся гігантам, ён саромеўся сваёй сардэчнасці і стараўся прыхаваць яе за маскай грубасці і цынізму. Гэтая маска трывожыла мяне — калі яе насіць бесперастанку, яна можа ўрасці ў характар і стаць яго най сталай рысай.

І ўсё ў маім жыцці ўладзілася б, як гэта звычайна бывае ў банальных раманах, калі б не здарыліся са мной дзве непрыемныя рэчы — пачало здаваць сэрца, а ў душы, як нязваная і ўпартая госця, пасялілася невытлумачальная туга. Я маркоціўся несупынна, а з якой прычыны — не мог і зразумець. Ніхто мяне не крыўдзіў,

---

[1] Маецца на ўвазе красавіцкі (1956) Пленум ЦК БКП, які прыняў важныя рашэнні і захады для пераадолення культаўскіх з'яў у грамадска-палітычным жыцці краіны.

наадварот, я быў акружаны ўвагай, пашанай, удастоены ганаровага звання і ордэнаў, а туга, нібы густы туман, усё больш зацягвала мне душу. Я пачаў жыць успамінамі, а ад сучаснага, як бы яно мяне ні цешыла, — стаў адчужацца, адыходзіць, як ад берага аддаляецца карабель, які выходзіць у адкрытае мора.

Вось так, марнеючы душой і рознымі лякарствамі падтрымліваючы расхлябанае сэрца, я дачакаўся зімы 1960 года.

Перад Новым годам я вырашыў паўтарыць звычайную прагулку, якую рабіў заўсёды ў маладзейшыя гады. Надзеў свой зімовы палітон, узяў кульбаку — анахранізм, якога саромеўся, але без якога ўжо не мог, — і паклыпаў Рускім бульварам у парк Свабоды.

Падаў, нібыта ў гонар мяне, густы і прыгожы снег. Весела свяцілі электрычныя сонейкі, па-святочнаму ззялі вітрыны, вясёлыя людзі кампаніямі спяшаліся ў вялікія рэстараны, гучаў смех, чуліся бесклапотныя маладыя галасы. А я, быццам прышлы з іншага часу, абапіраючыся на кульбу, паціху клыпаў да парку Свабоды.

Нарэшце прыйшоў. Не было ўжо таго павільёнчыка пры ўваходзе ў парк, куды мы заглядвалі са Сняжанкай — выпіць гарачае кавы, скурыць духмяную цыгарэту перад тым, як пайсці да Возера з чырвонымі рыбкамі. Але па-святочнаму зіхацела Арыяна, з гучнагаварыцеляў выляталі рытмы танцавальнай музыкі, да якой маё сэрца заставалася глухім, на лёдзе колішняга возера з лебедзямі імкліва каталася на каньках і танцавала бесклапотная моладзь.

Паціху сунучыся заснежаным паркам, дайшоў нарэшце да майго возера — да Возера з чырвонымі рыбкамі. Прысеў на тую лаўку, на якой мы сядзелі калісьці са Сняжанай. Наўкола нікога, ціха было, як у сне, толькі ледзьве чутна ў голых галінках бяроз шапацеў вецер.

І раптам у гэтай цішыні мне здалося, што я ў кабінцы вагона, маленькае аконца якой звернута да затуманеных агнёў Ке дэ ля Рапэ на тым баку Сены. І побач са мной сядзіць Мары.

Я далікатна пацалаваў яе ў вусны. Яна ледзьве адказала мне, але адказала.

— Давай уявім, што ў надыходзячы Новы год мы зноў будзем разам. Як ты ўяўляеш наш навагодні вечар?

Яна моцна прытулілася да мяне і ўздыхнула. Потым кажа:

— Вось як уяўляю. Мы з табой удваіх, у тым бары каля станцыі Трынітэ. Аркестр іграе «Les patineurs». Ты запрашаеш мяне на танец, і я кладу руку на тваё плячо. І мы танцуем.

— А потым?

— Потым нічога. Гэтага мне даволі. Мы танцуем. Аркестр бясконца іграе «Les patineurs». І мы бясконца танцуем...

Я нахіляюся пацалаваць яе, але спахопліваюся — мне здалося, што ў аконцы пасвятлела. Выглядаю — на тым баку каля берага расплывіста свецяць у тумане агні «Жанціёма»...

Скрозь нябачную снежную заслону свяцілі перадсвяточныя агні Сафіі. Паглядзеў на гадзіннік — праседзеў я на лаўцы больш за гадзіну.

Сняжана ўстала і няспешна пайшла да шашы. Знікла за снежнай заслонай. Acta est fabula![1] — сказаў я ў думках сам сабе.

Дадому я вярнуўся гадзін у дзесяць. Соня пайшла на навагодні баль. Лука сустракаў Новы год са студэнтамі, прыяцелямі.

А мне балела сэрца. Мяне праймалі дрыжыкі. Я выпіў чарку каньяку і сеў за стол, каб апісаць у дзённіку гэты цудоўны перадавагодні вечар. Хіба ён не быў цудоўны? Я сустрэўся са Сняжанай, з Мары. Бачыў «Жанціём» — вясёлую шкарлупіну, якую я прадзіравіў каля луўрскага прычала... Чаго больш?

## ЭПІЛОГ ТРЭЦІ

Усяго праз тыдзень, зрабіўшы ў сваім дзённіку гэты апошні запіс, бацька памёр — яго даканаў другі інфаркт. Я тады вучыўся на другім курсе медінстытута. Цяпер, праз дваццаць гадоў, калі сам ачуньваю пасля інфаркту, я вельмі шкадую, што дакрануўся да гэтых нататак. Праз два гады пасля майго «цара» памерла і маці — яе адправіў на той свет нейкі нікчэмны грып.

Чаму шкадую, што прачытаў гэтыя нататкі? Мне цяжка выказаць гэта словамі, проста такое пачуццё. Я адчуваю, што Лукан і мой бацька быццам распачалі

[1] Acta est fabula (*лац.*) — відовішча закончана.

гульню, у якую аказаўся ўцягнуты і я. У гэтай гульні свае выйгрышы, але непазбежныя і страты, а мне ўжо гэтыя страты сядзяць у пячонцы. Нават сярэбраны гадзіннік з вечкам, які я атрымаў ад былой жонкі, калі паглядзець строга, таксама сведчанне майго пройгрышу.

Сёння 7 чэрвеня, у мяне чамаданны настрой. Заўтра, 8 чэрвеня, я з групай урачоў адпраўляюся ў Нікарагуа. Будзем лячыць братоў-нікарагуанцаў, бо браты-нікарагуанцы не маюць дастаткова дактароў. Я ім наладжу аддзяленне нейрахірургіі і правяду перад іхнімі ўрачамі некалькі аперацый — каб і сябе паказаць, як умею хадзіць з лязом «брытвы» каля валасінкі жыцця, ды і павучыць майстэрству, таму што ў нашым рамястве месца чаляднікам няма. Але ж не выключана небяспека, што ЦРУ нацкуе якіх-небудзь гандураскіх і гватэмальскіх галаварэзаў на братоў-нікарагуанцаў — што ж, няхай, чаму б мне не схапіцца за праўду з якімі-небудзь гандурасцамі ды гватэмальцамі! Буду, калі спатрэбіцца, скальпелем пераразаць іх гарлякі, чорт бы іх узяў, і ў гэтай высакароднай дзейнасці не зганьбую свайго пабраціма Лукана.

З раніцы напісаў ліст у Парыж майму калегу д-ру Бернару, сыну прыяцеля бацькавага з Манфер'е. Напісаў, што гэту аперацыю — выдаленне пухліны з мазгавой упадзіны — я буду дэманстраваць толькі праз два гады, пасля вяртання з Манагуа. Яшчэ напісаў, што прачытаў старажытны рукапіс і што, калі прыеду ў Францыю, буду прасіць яго, каб звазіў мяне на поўдзень — пабачыць гарады Без'е і Каркасон і пакланіцца гары Мансегюр.

У адзінаццаць гадзін мы, «нікарагуанцы», будзем мець сустрэчу з міністрам аховы здароўя. Каб хоць не сутыкнуцца там з намесніцай міністра, маёй любоўю студэнцкіх гадоў, якая ў канцы красавіка гэтак рашуча падвяла пада мной рысу зялёным чарнілам. Хоць яна ўжо цётка ў гадах, але не буду я Лукой, калі не ўшчыкну яе за мяккае месца!

А цяпер трэба на хуткую руку напісаць Юлі. Вечарам, вярнуўшыся дадому, знайшоў пісьмо ад яе. Яна ўладкавалася на працу ў акруговай бальніцы ў Кырджалі. Мне да гэтага часу не пісала па той прычыне, што не мела пастаяннага жытла. З учарашняга дня ў яе ўжо кватэра пастаянная, і вось яна адразу села пі-

саць. Як у мяне са здароўем, ці акуратна прымаю лекі для поўнага выздараўлення; каб схаваў люльку, і ніякага курэння! І каб не перагружаўся работай, хоць яшчэ з месяц. Прырода ў наваколлі Кырджалі цудоўная, для адпачынку вельмі падыходзіць, і калі я знайду вольны час — каб прыехаў у госці, можна будзе цудоўна адпачыць дзянёк-другі. Подпіс: «Твая (сядзелка) Юля».

Чаго яе занесла, дурніцу, ажно ў Кырджалі, калі ў большасці бальніц і клінік у Сафіі патрабуюцца медыцынскія сёстры? І чаму пасля «твая» яна паставіла ў дужках гэтае «сядзелка»? Каб абмежаваць тэрыторыю слова «твая», напэўна. Эх, наіўненькая ты мая, я і сядзелак хрумстаю, не былі б яны толькі жылістыя і цвёрдыя.

Сядаю і пішу:

«Юля, дарагая мая дурніца!

Заўтра я вылятаю ў Нікарагуа. Калі я цябе зноў убачу праз два гады, то перш за ўсё нацягаю табе вушы, потым адлупцую па дзявочым задку і нарэшце з'ем твае вусны, як той колішні канібал са старых прыгодніцкіх раманаў.

Я шукаю цябе тут цэлы месяц, а ты, нават не пазваніўшы мне, употай паехала ў Кырджалі! Я чытаў тваё пісьмо з Кырджалі і ўжо так лаяў цябе, так лаяў, і добра, што цябе не было пад рукой!

Два гады, дарагая мая, не так ужо і шмат для чалавека, які ўмее чакаць. Калі ты належыш да гэтай катэгорыі людзей, то блузку сваю зашпільвай на самы верхні гузік, а ў сясцёрскі халат, як у ім такога гузіка няма, ты павінна ўшыць. І прывыкні глядзець сабе пад ногі, каб не чытаць у вачах розных нягоднікаў жаданні, якія могуць цябе збянтэжыць і паставіць перад выпрабаваннем тваю добрую і шчодрую душу.

А я тым часам буду лячыць нікарагуанскіх братоў, і ў вольны час, калі не буду капацца ў чужых мазгах, буду капацца ў сваіх, каб было там пастаяннае і ганаровае месца, вартае твайго велікадушнага сэрца.

Цалую твае вочы, вусны, рукі твае — ты дапамагла мне не толькі ажыць, але і павандраваць у сабе і адкрыць — уяві! — новыя і цудоўныя землі! Дык вось — гузічак! І май у галаве адно».

Падпісваюся: «Твой Лука» — банальна, але тое, што трэба, іншага прыдумаць не магу. Я нейрахірург, не лі-

таратар, каб даставаць з-пад шапкі самыя дакладныя і самыя прыгожыя словы.

Націскаю кнопку сярэбранага гадзінніка з вечкам — гэты цуд тэхнікі. Пара ісці.

Бывайце, дзівосныя светы! Бадзяга зноў адпраўляецца ў дарогу.

*Сафія — Сопат*
*1980—1981 гг.*

**Гуляшкі А.**

Г94 Вандроўнік блукае па свеце: Раман/ Пер. з балг. У. Анісковіча. — Мн.: Маст. літ., 1989. — 359 с.

ISBN 5-340-00165-2 (беларус.)

Гуляшки. А. Бродяга скитается по миру: Роман.

Перыпетыі чалавечых лёсаў вядуць чытача гэтага вострасюжэтнага рамана сучаснага балгарскага пісьменніка на пярэдні край барацьбы з фашызмам і рэакцыяй у гады вайны, пераносяць у далёкія гістарычныя падзеі, раскрываюць сэнс ідэалагічнай і класавай барацьбы ў свеце.

Г $\frac{4703000000-154}{М\ 302(03)-88}$ 159—88 **ББК 84.4Бл**

*Литературно-художественное издание*

**Гуляшки Андрей**

**БРОДЯГА СКИТАЕТСЯ ПО МИРУ**

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Гуляшкі Андрэй**

**ВАНДРОЎНІК БЛУКАЕ ПА СВЕЦЕ**

Раман

Рэдактар *Л. І. Кайрус.* Мастак *Б. Г. Лалыка.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна.* Карэктар *І. М. Паланейчык.*

ІБ № 2606

Здадзена ў набор 14.03.88. Падп. да друку 23.09.88. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,90. Ум. фарб.-адб. 19,11. Ул.-выд. арк. 20,21. Тыраж 16 700 экз. Зак. 446.

Цана 2 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.